## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Хлопчык бег на ўсю моц. Немцы былі зусім недалёка, за маладым густым ельнікам, праз які толькі што прабіўся Ціток. Узахлёб стракаталі аўтаматы. Чулася шалёнае галёканне, крыкі. Ворагі адчувалі блізкую перамогу і лезлі напралом. Сяды-тады гупалі выбухі гранат. Але яны чуліся далекавата адсюль.

Партызаны, ведаў Ціток, усяляк імкнуцца прытрымаць фашыстаў. Гэта яны кідаюць гранаты. А вось тут, на лясной дзялянцы, больш няма каму стаць са зброяй у руках, каб запыніць ворагаў, не даць ім пранікнуць у глыб балотнай глухмені, якую здаўна людзі назвалі Камар-мох.

Балота гэта велізарнае. Вакол яго стальным ланцугом замкнулася кальцо блакады. Паводле загаду Гітлера сюды з фронту перакінута адборная фашысцкая дывізія, з артылерыяй і нават з самалётамі. Больш дзесяці дзён ідуць бязлітасныя баі.

Партызаны наносяць адчувальныя ўдары па ворагах. Кожны крок у глыб лесу фашыстам каштуе дорага. Партызаны б'юцца люта, адчайна. Яны разумеюць, што спадзявацца няма на каго, што абстаноўка склалася надзвычай небяспечная. Калі не ўдасца прарваць кальцо блакады, загінуць не толькі партызанскія брыгады, але і вялікая колькасць цывільнага насельніцтва. Немцы-карнікі, якіх кінулі ў гэты раён, на сваім шляху спустошалі, як варвары, усю мясцовасць. Гарэлі вёскі, уздымаліся вісельні, раслі на палях курганы — брацкія магілы расстраляных мірных людзей. З вёсак усе кінуліся ў лясы, да партызан, туды ішлі і малыя і старыя, вялі з сабой кароў, гналі статкі свіней і гусей. Людзі думалі ў лясах перачакаць навалу, выратавацца самім і ўратаваць сякую-такую жыўнасць з гаспадаркі. Але ворагі не задавальваліся знішчэн-

нем вёсак, яны палезлі ў лес, яны ахапілі яго кальцом салдат. І вось ідуць напралом, ідуць, несучы смерць і руйнаванне. Самалёты штодня кідаюць бомбы, у лясных нетрах, у балотнай твані рвуцца артылерыйскія снарады. Немцы метадычныя ў сваім націску. Яны хочуць дабіцца свайго, хочуць, каб палкоўнік Фрыдрых Носке, іх камандзір, змог далажыць Гітлеру аб паспяховым заканчэнні карнай аперацыі. Пасля гэтага многім салдатам абяцаны адпачынак, а некаторым нават паездка на радзіму, у сваю фатэрлянд.

Каб хутчэй скарыць партызан, штаб палкоўніка Фрыдрыха Носке не забывае ўжываць і іншыя метады барацьбы.

Па ўсім лесе раскідваюцца лістоўкі, дзе дабрадзейны палкоўнік распінаецца ў сваёй гуманнасці — абяцае ўсім, хто здасца ў палон, жыццё і поўную грамадзянскую недатыкальнасць. Але людзі не вераць на словы фашыстам. Яны ўведалі пра іх «гуманнасць».

Сам Цітох Каляда з вёскі Сыры Бор. Два дні назад ён ледзь там не загінуў. Відаць, ён адзіны з усіх жыхароў, каму пашчасціла яшчэ дыхаць паветрам, бачыць сонца, таптаць нагамі прахалодную жвірыстую зямлю. А ўсё адбылося праз добрую старую Ганулю, якую вельмі паважалі ў вёсцы.

Сыраборцы, як толькі пачулі пра карнікаў, кінуліся ратавацца. Вёска за адну ноч апусцела. Людзі адбегліся кіламетраў за дзесяць у лес, сталі табарам. Стаўлялі будану, рабілі кашары для кароў і авечак. Дыміліся кастры, ля якіх бегалі дзеці, тут жа смачна патыхала цёплай стравай і добрым духам чалавечага жытла. Мужчыны, сабраўшыся ў купкі, аб нечым важна і заклапочана гаманілі, жанчыны займаліся гаспадаркай — даілі кароў, таркавалі бульбу на аладкі, мылі бялізну, латалі з іголкай у руках старэнькае нетрывалае адзенне. І Цітох быў у тым гурце разам з бацькамі і сястрычкай Анютай.

І вось цётка Ганулі, перабіраючы ў вузлах хатні скарб, заўважыла, што няма белай шарсцяной хусткі. Той вязанай хусткі, якую сын, што жыў у Мінску, два гады назад, прыехаўшы ў госці, прывёз і ўскінуў на яе шыракаватыя старыя плечы. Устурбавалася кабета. Недагледзела, пакінула недзе ў хаце. Ледзь не заплакала ад прыкрасці і роспачы. Нікому нічога не кажучы, надвячоркам яна пакінула стаянку і пашыбавала з лесу ў вёску.

Там, у роднай хаце, яе захапілі фашысты. Можа, усё абышлося б і добра, ды яна, каб лепш абшукваць хатнія

закуткі, запаліла лучыніну. Хустку, вядома, знайшла, яна завалілася за куфар, але тут жа ў хату на агеньчык уварваліся два фашысты.

— Хэндэ хох! *

Цётка Гануля плакала, кідалася ў ногі гітлераўцам, прасіла, каб адпусцілі. Праз паўгадзіны яна стаяла перад афіцэрам, маладым, прыгожым, у новенькай зіхоткай форме. Як ён спадабаўся, гэты афіцэрык, цётцы Ганулі! Сустрэў яе зусім нязлосна. А даведаўшыся, як яна трапіла ў рукі салдатам, стаў лаяць іх, абражаць.

— Мы ваюй не з фраў і кіндэр! — крычаў ён. Потым затупаў нагамі і выгнаў салдат з пакоя.

— Вы вольны, як птушка,— абвясціў цётцы Ганулі.

Узрадавалася цётка, пакланілася нізка і — да парога. Афіцэр рэзка адвярнуўся і кінуў услед:

— Куды пойдзеш, фраў?

— Як куды? — здзівілася жанчына.

— У лес?

— У лес...— і спалохалася, што адкрылася, што так проста і шчыра загаманіла з немцам. Думала, пасля такога прызнання ён затрымае яе і тады чорт ведае што можа быць. Але ён не затрымаў, а толькі сказаў:

— У лес? Навошта ў лес? Ідзі ў свой гаус ** і жыві. Цябе ніхто і пальцам не кране. Слова гонару нямецкага афіцэра. Ніхто не кране ні цябе, ні тваіх аднавяскоўцаў. Дзе яны? Спалохаліся нас, у лесе? Ідзі скажы ім — гэта партызаны падбухторваюць хавацца. Гэта ім на руку. Наш загад: каго спаймайт у лесе, расстрэльвайт. Няхай вяртаюцца ў вёску, займаюць свае дамы, гадуюць дзяцей. Нямецкая армія возьмайт іх пад сваю абарону. Зразумела? Ну, шнэлер, ідзі! — і махнуў рукой, і нават як бы хораша, зычліва ўсміхнуўся.

Цётка Гануля ляцела па вёсцы як на крылах. Яе нідзе не затрымлівалі. А салдат у вёсцы было нямала. Яны занялі клуб і дзве самыя вялікія хаты. Хадзілі па вуліцах, узброеныя і так, без нічога ў руках, гарлапанілі песні, танцавалі, пастаўшы ў кружок каля веселуна з губным гармонікам у руках. Нават не паквапіліся на яе дыхтоўную хусціну, якою яна накрыла сваю сівую галаву, не адабралі.

---

* — Рукі ўгору!

** Дом.

Інакшымі вачыма яна глянула на чужых салдат. «От гэта прыйшлі,— разважала яна,— нейкія зусім іншыя, добрыя ды спагадлівыя...»

Як прыбегла ў лес, паклікала старэйшых ды мудрэйшых. Расказала ўсё, як было, і заявіла: «Вы сабе як хочаце, а я нацярпелася, нахварэлася, седзячы тут у гэтым камарыным пекле. Пайду назад у родную хату. Смерць, калі прызначана, знойдзе і тут. А там, у вёсцы, будзе спакайней. Нямецкі афіцэр абяцаў...»

Яе ўгаворвалі, палохалі, але яна стаяла на сваім. Узяла дваіх малых унукаў, залыгала кароўку і — гайда з лесу. Убачыўшы такую справу, і другія жанкі паднялі гвалт і лямант. Маўляў, Ганулі не дурная, калі кажа, значыць, цвёрда ведае. Немцы замкнулі ўсю мясцовасць блакадай. Яны прыйдуць і сюды. Як тады ратавацца, дзе? І памаленьку за дзяцей ды за каровак-карміцелек ды на шлях, услед за Гануляй.

Мужчынам і дзядам давялося скарыцца. Пасунуліся і яны, бедалагі, назад пад родныя стрэхі. Хоць трывожыліся: небяспечна верыць на словы чужынцам.

Цiток з Анютай ехалі на возе, маці і суседка Параска ішлі ўзбоч, гаманілі аб сваім, строілі планы... Блакада! Гэта страшна падумаць. Жыць пад адкрытым небам, пад вятрамі і дажджом. Душыцца бульбай і спечанымі на агні дзерунамі. Хавацца ў балотах, зашывацца ў карчы. Ворагі ўсхадзіліся не на жарты. Ланцугамі прачэсваюць лес, сыплюць бомбы, кідаюць міны і снарады. Жудасна, страшна. А можа, і правільна яны робяць, што вяртаюцца назад? Бач, Ганулі была ў іх, і нічога з ёй не зрабілі, пусцілі назад, хоць і ведалі, куды яна ідзе — да партызан, у лес.

Усё было добра на першым часе. Зайшлі людзі ў свае хаціны, пачалі ладавацца, каб жыць адкрыта і мірна. Старыя кінуліся на калені перад абразамі, маліліся, дзякавалі богу, што пачуў іх гора, узяў пад сваю абарону.

На другі дзень прачнуліся людзі пад салдацкія крыкі і лаянку.

Што такое? Нешта здарылася? Можа, злавілі нейкага партызана? Аказалася, салдаты грукалі ў дзверы і вароты, патрабуючы, каб на вуліцу выходзілі малыя і старыя. Нямецкі афіцэр, маўляў, хоча пагаварыць з людам, праверыць, ці ўсе жыхары вёскі павярталіся з лесу. Ціткова маці, як пачула пра гэта, спалатнела як смерць і хуцень-

ка вярнулася ў хату. Разбудзіла сына і дачку, трывожна зашаптала:

— Бяры, сынок, сястрычку і хутчэй за гароды. Уцякайце ў лес. Паб'юць нас усіх, паб'юць...

Спужаўся Цiток, нацягнуў сяк-так штаны, шапку — на галаву, торбачку з хлебам і салам за плечы і з Анютай — борздзенька на прыгуменныя сцежкі. Не так лёгка было прарвацца ў лес. За прыгуменнем, па ўсіх дарогах і сцежках, ужо шпацыравалі фашысты. Як толькі яны зглелзелі Цітка і Анюту, зразумелі: гэта — уцекачы, і давай па іх садзіць з аўтаматаў.

Анюта заплакала, упала, а потым падхапілася, павярнулася, і не паспеў Цiток нават крыкнуць, як яна схавалася за хлявом. Цiток не рашыўся падстаўляць галаву пад кулі. А яны, ашалелыя, як восы несліся па-над бульбяным полем. Скаціўся хлопец у разору і, не зважаючы на страх, які сціснуў сэрца і грудзі, пашыўся праз гушчэчу бульбяніку ў напрамку да лесу. І прабіўся праз ланцуг ворагаў.

Толькі там, на лясным узбярэжжы, падняўшыся на ногі, агледзеўся і пашкадаваў — дарэмна не вярнуў сястрычку. Яна сама нізавошта не прабярэцца праз поле ў лес. Там, відаць, у вёсцы, нервуецца маці і кляне яго — кінуў дзяўчынку, кінуў!

Хацеў быў вярнуцца назад, але раптам усчалася страляніна. Сумны і гаротны, пабрыў хлопец у лес.

А вечарам над вёскай узняўся велізарны слуп дыму. Пасля Цiток даведаўся, што немцы сагналі ўсіх жыхароў вёскі ў калгасны хлеў, падвезлі бочкі з бензінам, вылілі іх на сцены і падпалілі.

Так закончылася гэтая дзікая і неверагодная гісторыя. Не ведае Цiток, што сталася з маці і сястрычкай Анютай. Але, відаць, загінулі яны, як і ўсе жыхары вёскі.

Пяты дзень хлопец у лесе. Немцы нападаюць на партызан, цісну́ць, адкідаюць іх усё далей і далей у глыб балота Камар-мох. Разам з партызанамі адыходзяць усе вяскоўцы. Цiток ведае, як цяжка людзям. У час адыходу пагубляны і каровы, і коні, і іншая хатняя сялянская жыўнасць. Голад ужо хапае кожнага за горла. Асабліва цяжка тым, хто з дзецьмі. Няма малака, хлеба, няма нават звычайнай бульбы. Сяк-так выручае крыху лес. Кабеты збіраюць грыбы і запозненыя чарніцы і гэтым лясным едзівам падтрымліваюць і сябе і дзяцей. Цiток ужо даўно не

каштаваў гарачай стравы. Каб спячы хаця ў зыркім прыску некалькі бульбін! Але гэта хіба можа толькі прысніцца ў сне. Навокал ужо нідзе няма палёў. Куды ні глянь — купняк, вада, лаза, асіннік. Рэдка пракідваюцца сухія астраўкі, на якіх паважна і задумна гамоняць векавыя сосны.

Вось ён і бяжыць з такога астраўка, дзе была партызанская пазіцыя. Пяцёра партызан сядзелі ў падрыхтаваным акопе, і як толькі наблізіліся фашысты, пачаўся няроўны паядынак. Цiток быў увесь час з партызанамі, у акопе. А потым, калі над галавой заціўкалі кулі, хлопцы загадалі Цітку адысці ў ельнік, у больш бяспечнае месца. Амаль гадзіну ішоў бой. Партызаны не адступалі, відаць, цвёрда рашылі, што гэта іх апошні смяротны рубеж.

Цiток ляжаў за вываратнем і сачыў за палянай з пясчаным купалам — там былі яны, лясныя салдаты. Добра яны адгарадзіліся ад куль — высакаватым бруствeрам. Не проста было дабрацца, падысці да іх. Так здавалася на пачатку бою.

Немцы заляглі, не адважваліся на адкрыты штурм. Але і партызанам не давалі магчымасці падняць галаву, каб агледзецца. Сыпалі і сыпалі кулі. Чаго-чаго, а патронаў немцы не шкадавалі. Было бачна, яны нечага чакаюць. Ці падмацаванняў, ці танкетак, якія былі недзе паблізу на дарогах і тарахцелі маторамі.

У самы разгар страляніны раптам нешта цяўкнула, і каля партызанскага акопа ўзвіхрыўся слупок пяску. Цiток не адразу зразумеў, што такое адбываецца. У той жа момант да слыху данёсся прарэзлівы посвіст, і хлопец удалечыні перад сабой убачыў, як шугануў у неба нейкі камень і, зрабіўшы крутую дугу, пайшоў уніз. «Міны! — мільганула здагадка.— Яны закідваюць партызан мінамі».

Зноў на пагорку ўспыхнула пясчанае воблака і глуха прастагнала зямля. Пасля трэцяй міны настала цішыня. Партызанскі акоп маўчаў. Прымоўклі і немцы. Так доўжылася не больш некалькі хвілін. Цiток спадзяваўся, што гэты перапынак бою скарыстаюць партызаны, выскачаць з акопа і паўзком ці нагінкам пачнуць адыход у лес, на новыя пазіцыі.

Але ніхто не паказваўся на вочы: ні чарнявы Сямён, трактарыст з іх суседняй вёскі, ні Пятро Гарашчэня, камлюкаваты дзяцюк, які, як мядзведзь, вельмі любіў лазіць па дрэвах, ні Антон Булка — сярэдніх год дзядзька, па-

жарнік, з якім пасябраваў Цiток і лічыў яго за роднага бацьку.

У сэрца ўдарыла болем здагадка: яны загінулі! Хацелася закрычаць ад крыўды і роспачы і кінуцца да іх, дарагіх і родных. Але разважнасць узяла верх над мімалётным жаданнем.

У той жа момант лес загуў прарэзлівымі галасамі. Немцы, ап'янелыя ад радасці, падхапіліся і доўгім ланцугом кінуліся да партызанскага акопа. Адтуль не пачулася ніводнага стрэлу. Цітка ахапіў страх.

Ён адзін у лесе сярод ворагаў, адзін! Азірнуўся ваўкавата, падхапіўся і пабег. Яго, відаць, заўважылі, бо раптам густа затрашчалі выстралы і па баках задзынкалі кулі.

Ельнік застаўся ззаду. Наперадзе рэдкае кустоўе і балотны купняк. Добра, што балота тут сухое,— можна бегчы, не баючыся праваліцца па калені ці па самы пояс у зыбкую багну. На плячы Цітка матляецца амаль пустая торбачка, з адзіным сухаром. Гэта ўвесь партызанскі запас ежы, які яны павінны былі падзяліць яшчэ днём на шасцярых. Але партызаны ад абеду адмовіліся, сказалі Цітку, што яны сытыя і ён адзін можа спажыць гэты зачарсцвелы акраец. Хлопец адмяніў абед і для сябе. Рашыў трымацца, як дарослыя. Адшукаў купіну шчаўя, абарваў яе і трохі заглушыў нудны боль голаду ў страўніку.

Хлопец бег, як казуля, лёгка і разгоніста. Ззаду калацілася і шапялявіла ад раз'ятраных галасоў рэха. Ворагі прарваліся. Яны пойдуць далей: ужо ў самае балота, у твань, куды страх і голад загнаў змардаваных людзей.

«Дзе партызанскія атрады,— думае Цiток,— батальёны, роты? Неадкладна трэба зрабіць тут заслону — інакш будзе бяда».

Побач — возера. Яно ўжо віднеецца праз маладыя лясныя зараслі. А каля яго, правей, змрочная прагаліна дрыгвяністага, зарослага асакой і каравымі сасонкамі балота. Гэта ўжо і ёсць тое самае балота, якое людзі назвалі так трапна Камар-мох. Тут ужо ні дарог няма, ні сцежак. Тут цяжка нават знайсці які грудок, каб запыніцца, прысесці адпачыць.

Вось як сціснулася кальцо блакады. Партызаны і мясцовы люд загнаны ў самае сутарэнне лясного закутка. Вядома, ворагам не так лёгка будзе прабіцца праз твань, яны

не звычныя хадзіць па пояс у вадзе. Але могуць даставаць партызан і людзей мінамі, снарадамі, бомбамі.

Чакай! Што гэта гудзе — рэха? Гул нарастае, узмацняецца. І зарадзіўся ён не на зямлі, а ў небе. Самалёты! Яны не проста ляцяць, яны скідваюць бомбы. Во, страсянулася зямля, аж захадзіла, бы зыбкі памост, пад нагамі. Адзін выбух, другі, трэці. І зусім недалёка. Можа, і тут праляцяць, над гэтай дзялянкай, па якой бяжыць Цітох? Ды на каго кідаць бомбы, на каго? Партызанская пазіцыя знішчана — навокал адкрыты абсяг, па якім бесперашкодна могуць ісці ворагі. А можа, недзе яшчэ ёсць апорныя партызанскія пункты? Партызаны, з якімі быў Цітох, загінулі. Няхай бы і яму далі вінтоўку, не бег бы ён так, як бяжыць цяпер. Залёг бы за першы пянчук ці камень і пачаў бы смаліць па ворагах.

Якія яны ненавісныя, лютыя гады! Колькі прынеслі гора і няшчасця. Нічога не шкадуюць: у паселішча ўляцяць — паляць, людзей зловяць — расстрэльваюць. А што зрабілі з яго роднаю вёскай — ён бачыў яе гібель здаля — велізарны слуп дыму, у якім плылі ў неба хаты, гумны, паветкі. Там жа, у агні і дыме, пакутна курчыліся людзі.

Гудзе неба, уздрыгвае пад бомбамі зямля. Куды гэта ляціць Цітох? Насустрач грымотным выбухам? Чакай, як жа так? Трэба супыніцца, агледзецца. Трэба на ўсякі выпадак схавацца, а раптам проста на галаву зляціць бомба. Што ад яго астанецца? Людзі нават не будуць ведаць, што з ім здарылася, куды падзеўся.

Цітох павярнуў у бок возера. І тут, убаку, непадалёку заўважыў чалавека. Ён таксама бег, той чалавек. Але не шпарка, не на ўвесь дух, а трушком. У цывільным адзенні, з вінтоўкай, заціснутай у правай руцэ. «Партызан!» — вочы ў хлопца загарэліся радасцю.

Ён бяжыць, кіруецца таксама на возера. Адкуль бяжыць? Ён адзін ці, можа, яшчэ хто бяжыць поблізу?

Цітох запыняецца, пераводзіць дыханне, аглядваецца. Ззаду, там, дзе з мінамётамі ідуць фашысты, пакуль не бачна нікога.

— Эгей! — крыкнуў Цітох.

Чалавек спыніўся, азірнуўся. Яшчэ раз крыкнуў Цітох, і тады партызан заўважыў хлопца. Яны рушылі насустрач адзін аднаму, як даўнія знаёмыя, што чакалі спаткання.

— Ты адкуль, хлопча? — спытаў партызан нервова ўзбуджаным голасам.

— Ды вось з Усмолля, з той паляны, што за ельнікам. Нашых фашысты пабілі. Мінамі,— гаротна прамовіў Ціток, і на яго вачах заблішчалі слёзы.

— Мы таксама хацелі прарвацца, нас было дзесяць. Пайшлі ўрукапашную — не прабіліся. Дзе ты бачыў: патронаў няма, гранат. Двух фрыцаў штыком прыкончыў. Думаў, зрабілі прадушыну, выберамся на волю. Аказваецца, за першым ланцугом ішоў другі ланцуг немцаў. Ну, мы і павярнулі. Нас толькі двaіх засталося — Дзімка Лявонны ды я. Дзімка пабег да балота. А я сюды павярнуў, да возера. Ты не плач, хлопча. Не плач. Немцы ідуць і сюды. Трэба хавацца.

— Можа, у мох зашыцца? — прапанаваў Ціток і стаў выціраць слёзы.

— Я падумаў, хлопча, і пра гэта. Але немцы не дурныя. Яны ідуць з аўчаркамі. Сабака знойдзе, і тады нам канцы. Трэба да вады бліжэй. Можа, каля берага знойдзем якую схованку. Пад карчом, ці што...

— Напэўна, ля возера будзе лепш,— згадзіўся Ціток.

Партызан і Ціток, падмінаючы нагамі вільготны мох, прадзіраючыся праз высокую крапіву і маліннік, подбегам кінуліся да возера. Яно было ўжо недалёка, свяцілася яркатой заходняга неба, якое ляжала распластаванае на воднай паверхні з хмарамі, з нязыркім сонцам і было бясконца прыгожае і ласкавае.

Недзе цяжка вухкала зямля. Недзе ламаліся дрэвы, цякла чалавечая кроў. Гітлераўцы ашалела рваліся наперад. Іх падганяў палкоўнік Фрыдрых Носке. Роўна праз чатыры дні ён павінен асабіста далажыць Гітлеру, што вялікая партызанская армія, якая дзейнічае ў раёне Буянвозера, знішчана.

Ціток толькі цяпер адчуў стому і ледзьве паспяваў за партызанам. Твар яго быў бледны, хваравіты. Ногі падгіналіся ў каленях. Калі б давялося бегчы яшчэ некалькі кіламетраў, наўрад ці змог бы хлопец вытрымаць такую напружанасць.

Яны запыніліся каля тванiстага зыбучага берага. Уперадзе пад ціхім ветрыкам шамацелі высокі лазняк і густая, з плямамі ржаўчыны асака. Лазняк стаяў у вадзе — была яна заплясенелая, з жабурнікам. Звыкла, быццам у

свеце нічога не здарылася, крумкалі жабы. За лазняком і асакой віднелася чыстая паласа вады.

А далей, як бы прылеплены выпадкова да гэтай несамавітай мясціны, стаяў чаротавы гай, прадаўгаваты, густы. Там, уперамешку з дробнымі бярозкамі, высіліся алешынкі. Адчувалася, што гэта таксама зыбун, але трывалы, надзейны.

— Давай перабяромся туды,— паказаў Цітох на гай.— Тут, відаць, не дужа глыбока.

— І я так мяркую,— згадзіўся партызан, яшчэ раз азірнуўся, ацэньваючы мясцовасць і прыкідваючы, ці ёсць у іх нейкія шанцы на выратаванне.

З твару партызана сышла клопатнасць, ён у адчаі махнуў рукой і сказаў:

— Ах, было не было! — і першы пашыўся ў лазняк. За ім палыгаў і Цітох. Прыбярэжны зыбун вагаўся пад нагамі, пагражаючы парвацца і праглынуць смельчакоў. Дапамагла ім кладачка, якая была пасцелена з падгнілых жэрдак. Яна і прывяла партызана і Цітка да азёрнай пратокі.

Тут ужо, калі задумалі перабрацца на астравок з чароту, даводзілася памераць яе глыбіню. Яшчэ раз азірнуліся, агледзеліся.

Шаравата-сіняя смуга вечара запаўняла далячынь. У небе зноў пагрозліва зараўлі самалёты. Кладка пад Цітком завагалася, вылузалася з-пад ног, і ён адчайна кінуўся ў масляна-бліскучую ваду. Кінуўся і паплыў. Партызан абапёрся на вінтоўку і з асцярогай апусціўся з зыбуна ў пратоку. Вада яму была пад самыя пахі.

Праз колькі хвілін яны былі на беразе гаю. Усхапіліся на ногі і кінуліся ў гушчэчу. Зусім блізка ўсчалася страляніна, і пачуўся ярасны сабачы брэх.

— Хаця б не заўважылі! — трывожна шаптаў партызан.— А то нам не ўцячы.

Раз за разам прастору скаланулі выбухі. Бомбы... Самалёты насіліся над самым лесам, як каршуны.

— Сабакі нас не дастануць, а вось бомбай можа накрыць,— разважаў уголас Цітох.

І толькі ён гэта сказаў, як раптам з-за вастразубых верхавін лесу вынырнуў чорны як смерць фашысцкі сцярвятнік.

Не паспелі хлопцы знайсці больш-менш прыстойную схованку, як ударыў адзін выбух, магутны і аглушальны,

потым другі, амаль перад самымі вачыма, за сцяной густога асінніку.

Гарачая хваля паветра кінула на зямлю Цітка, а разам з ім і партызана. У вушах загуло, бліснула зіхоткае полымя,— і хлопца пацягло ў прорву невядомасці.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Першым абудзіўся партызан. Ён убачыў перад сабой глыбокае неба, зацярушанае драбнатой зор. Была ноч. Бясхмарная, ціхая, амаль урачыстая. На фоне неба пахістваліся даўгалістыя чарацінкі. Побач у голлі нізенькай алешынкі выцінала песеньку нейкая птушачка.

Птушачка ціліўкала доўга, без пярэдыху, як той званочак.

Спачатку партызан не разумеў, дзе ён і што з ім. Потым варухнуў рукамі і жахнуўся: дзе ж вінтоўка? Ён добра помніць, што выйшаў з апошняга бою цэлы, жывы і, хоць не было ніводнага патрона, вінтоўку нёс з сабой.

Трывога пра вінтоўку вярнула ў звыклы свет рэчаіснасці. Ён прыўзняў галаву і памкнуўся ўстаць. Нешта душыла на грудзі, не хапала паветра. Лэпнуў рукой і ўхапіўся за шчэць шорсткай асакі. На грудзях ляжаў кавалак твані. Партызан спіхнуў яго ўбок і сеў. Абмацаў твар. З яго пасыпалася засохлая, прыкарэлая за ноч гразь.

І толькі цяпер дайшло да свядомасці: яго зваліў выбух бомбы. Ён знепрытомнеў і, бач, праспаў амаль цэлую ноч. Што ўжо бралася на ранак, сведчыла не толькі песенька старацелькі-птушкі, але і лімонна-малінавы небасхіл, што відпеўся па правы бок.

Партызан азірнуўся. Ён жа з хлапчуком, яны разам прабіраліся ў гэты чарот. Дзе ж ён, што з ім?

Змрок быў не надта густы, але бачылася наўкруга не так ужо і далёка. Працёр вочы, прыгладзіў валасы, у якія набіліся таксама і трава, і мох, і гразь.

Устаў, старанна абмацаў сябе. Балела ў правым баку, але раны не знайшоў. Партызан павесялеў.

Дзе, аднак, хлопец? Можа, з перапуду даў, як кажуць, лататы і цяпер яны больш ніколі не стрэнуцца? А можа, здарылася горшае — шалёны асколак ад бомбы скасіў яго насмерць?

Партызан зрабіў круг вакол мясціны, на якой толькі што ляжаў. Знайшоў вінтоўку. Яна стаяла ля алешынкі, наўскоса ўваткнутая штыком у дол. Перакінуў з рукі на руку, абцёр ад гразі, павесіў на плячо.

Зрабіў яшчэ больш шырэйшы круг-абход. Наткнуўся на вялізны пласт зыбуна, з грывай чароту, убачыў абсечаную сасновую галіну.

Позірк спыніўся на чорнай калодцы ў зараслях прымятай асакі. А ці калодка гэта? Ёкнула сэрца ад здагадкі. Так і ёсць — хлапчына, юны партызан.

Мёртвы? Не! Чутно, як натужна пасапвае, як паволі ходзяць ягоныя грудзі. Спіць.

Партызан з палёгкай уздыхнуў і ўстаў. Значыць, усё абышлося шчасліва. Уратаваліся яны ад немцаў. Ворагі праз затоку не прабраліся. Каму дзякаваць? Хіба што самім сабе — разважліва яны абралі сабе схованку.

Што, аднак, пакажа новы дзень? Якая небяспека будзе ім пагражаць — цяжка пакуль уцяміць. Але што небяспека будзе, у гэтым няма сумнення. Калі гітлераўцы прарваліся праз загараджальныя партызанскія пасты, яны падыдуць і да возера і, магчыма, зацікавяцца гайком. Значыць, пакуль не позна, пад прыкрыццём шэрага змроку трэба кіравацца да сваіх, да галоўных сіл, якія мясціліся недзе ў самым цэнтры балота Камар-мох. Ох, гэтае балота, каб яно спрахла, каб полымем узялося! За свой век яно нямала ўцягнула, засмактала неасцярожных людзей. А цяпер могуць загінуць у ім тысячы. Толькі, праўда, не ад затхлай багны, якая хлюпае, як цеста, а ад голаду і варожых куль.

Ноч радзела, ветразь світанку заняў ужо ладны абсяг неба і плыў далей, пад самы яго пук. Да птушкі-званочка далучыліся іншыя — але іх галасы не перашкаджалі адзін аднаму, а нейк хораша спляталіся, і ў выніку высноўвалася звонкая стройная песня.

Вось бы так стаяць, слухаць гэтую песню. Але няма калі.

Ямчэй пачапіўшы на плячо вінтоўку, партызан вярнуўся назад да свайго напарніка. Нагнуўся, крануў за плячо.

— Уставай, братка. Уставай!

Хлопец гучна храпнуў, павярнуўся і расплюшчыў вочы. Тут жа зажмурыўся, нездаволена буркнуў:

— Хачу спаць.

— Ого, які ты пан! Братка, не дурыся, уставай, а то

прыйдуць фашысты, возьмуць за ногі, тады хутка падхопішся...

— Якія фашысты? — раптам спуджана прамармытаў хлопец, падхапіўся на каленкі. Глянуў туды-сюды, уставіўся позіркам на партызана.

— Не пазнаеш?

Хлопец нешта прыгадваў, але ноч гасіла яго няясныя ўспаміны.

— Не пазнаю. Дзе я? Чаму спаў у гэтай траве?

— А бомба...— нагадаў партызан.— Помніш, не паспелі мы забегчы сюды, у гай, як бомба...

— А-а,— працягнуў хлопец,— помню, помню... Мяне кінула, аглушыла. Вас не зачапіла?

— Як бачыш, стаю на нагах. Праўда, на грудзях ляжаў вось гэтакі ашмётак плывуна,— і паказаў рукамі.— Значыць, мы з табой у сарочках нарадзіліся.

— Есці хочацца,— сказаў хлопец,— і піць.

Міжвольным рухам рукі ён шмаргануў за почапку, што ляжала на плячы, і перакінуў наперад зрэбную торбачку.

— У мяне ёсць сухарык. Хацелі ўчора хлопцы-партызаны з'есці, ды аддалі мне. Давай яго з'ямо.

— У цябе ёсць сухарык?

— Адзін-адзіненькі. Чуеце, як ён хораша пахне, цёплай печкай, кляновым лістам. Мая маці заўсёды саджала боханы на кляновыя лісты,— адзначыў хлопец, і ціхая задуменнасць лягла на яго твары.

— Ну, пакажы мне,— сказаў партызан і працягнуў руку да сухарыка, які ляжаў на хлапечай далоні.

— Чур, толькі не есці. А то я ведаю...

— Не бойся.

Партызан узяў сухарык, паважкаў у руцэ, паднёс да носа.

— Духавіты. І праўда, чуюцца лісты, прыпаленыя на скарынцы.— Павярнуў так і гэтак, зноў паважкаў: — З паўкілаграма будзе...

— Даўжмены сухарык...

— Дык от што, хлопча, на, пакладзі назад у торбу. Сняданак адмяняецца.

— Чаму? — нездаволена спытаў хлопец.— Я хачу есці. У жываце ўжо кішкі да спіны прысохлі. Учора амаль увесь дзень не еў. Не, давайце з'ямо: вам палавіна і мне. А там, як кажуць, бог-бацька...

— От які ты нецярплівы. Трапіў пад маю каманду, дык

слухайся. Дарэчы, мы нават не пазнаёміліся. Зышліся, збегліся і ні імя, ні якога мы роду-племені, як кажуць, не ведаем.

— Я з Сырога Бору. Зваць Цітком,— паслухмяна назваўся хлапчына.

— З Сырога Бору? Блізка мы жылі,— усклікнуў партызан.— А я з Крыжоўкі, настаўнік. Вадзім Мікалаевіч. Па прозвішчу Мурашка. Такіх, як ты, у мяне было тры дзесяткі. І хлопчыкі і дзяўчынкі. Вучыў. А цяпер, бачыш, ваюю...

— Бачу,— і ўздыхнуў самотна, з цяжкасцю.— Дык, кажаце,— і паказаў на сухарык,— схаваць?

— Абавязкова! Мы яшчэ не ведаем, што нас чакае. Калі праясніцца абстаноўка...

— Ой, калі яна праясніцца...— было бачна, голад даймаў хлопца, і ў яго голасе гучала скруха.

— Падымайся, і пойдзем. Глядзі, світае. Нам трэба выгадаць час.

— Куды пойдзем? Да сваіх? — і ён паказаў у бок балота.— Ці праз кальцо?

— Чакай, Цітох. Тут, як кажуць, трэба памазгаваць. Я быў надумаўся прабірацца да сваіх. А калі паспрабаваць і праз кальцо? Нас жа толькі двое. Можа, праб'ёмся? Ты хлопец юркі, ды і я не цяльпух. А-а?..

— Добра было б праз кальцо,— з летуценнай тужлівасцю прамовіў Ціток.— Паглядзеў бы на сваю вёску. Можа, хто з маіх ўратаваўся. Ведаеце, Вадзім Мікалаевіч, вёску нашу фашысты спалілі і людзей усіх...— хлапечы голас задрыжаў ад слёз.

— Вось як! — усклікнуў настаўнік.— Пра тваё гора я не ведаў. Спалілі, кажаш? Відаць, знянацку наляцелі.

— Якое там знянацку,— у злосці махнуў рукой Ціток.— Цётка адна падвяла... Развесіла вушы, наслухалася, што ёй фашысты напелі. Але аб гэтым іншым разам,— раптам абарваў ён свой расказ.

Яны ішлі к той затоцы, праз якую ўчора перабраліся ўброд. Пад нагамі валялася абсечанае вецце, жмуты чароту, асакі і аеру. Чарот радзеў. Нарэшце вось ён, бераг. Пачулася плюхаценне вады. Вадзім Мікалаевіч схапіў Цітка за плячо.

— Мы ж не туды выйшлі! Вакол вада. А бераг вунь дзе,— у голасе яго было здзіўленне і расчараванне.

— Як не туды? Здаецца, мы ж во тут вылазілі ў чарот. Во як ён прымяты.

— Здаецца... Дрэнна, што нам усё здаецца. Давай хутчэй назад. Ноч тае, а мы... Эх, недарэкі!

Вадзім Мікалаевіч і Ціток павярнулі назад.

— Глядзіце, колькі твані вывернула бомба. І лазу закідала граззю, і чарот паламала,— паказваў на хаду рукой хлопец.— У мяне і зараз гудзе ў галаве.

Настаўнік маўчаў. Ён крочыў размашыста, на ўсю ступню. Штых вінтоўкі, што тырчэў над яго шыракаватым плячом, зачэпліваў лісткі чароту, чыркаў па іх, а некаторыя адсякаў. Адзін з лісцікаў падхапіў Ціток, нёс у руках і разглядаў. Восень зрабіла яго шорсткім і ломкім. Чарот, чым далей ішлі, гусцеў. Пад нагамі, аднак, не адчувалася моцнага грунту. Дол зыбаўся, сям-там прарываўся, і адразу ў след налівалася вада.

Вада была мутная, халодная, і босым нагам было зябка. Ціток зайздросціў настаўніку: ён у ботах, простых, зграбных, ішоў, не зважаючы ні на што.

Настаўнік спыніўся, і так нечакана, нібы наткнуўся на сцяну.

— Што за ліха? Зноў вада, зноў возера...— ціха, пошапкам, нібы не верачы сваім вачам, прамовіў Вадзім Мікалаевіч.

— Дзе затока? Дзе балота? — спытаў і Ціток.

— Забі мяне гром, нічога не разумею. Глядзі, Ціток, вакол вада. Мы ж былі ў чароце, каля берага...

— Былі,— пацвердзіў хлопец.

— Што ж здарылася?

— Можа, у возеры паднялася вада, і бераг адступіўся...

— Не кажы. Ноччу ж дажджу не было?..

— Не было,— пацвердзіў Ціток.

— Тады выходзіць...

— Мы на востраве! — падхапіў Ціток.

— Магчыма, і на востраве,— паўтарыў настаўнік і змоўк. Пасля невялікай паўзы ўсклікнуў: — Чорт пабяры, няўжо на востраве? Як жа атрымалася?

— Бомба ўсё нарабіла. Ірванула — і адсекла наш зыбун ад сушы.

— Здагадлівы ты хлапчына. Які клас закончыў?

— Шосты, Вадзім Мікалаевіч! Калі б не вайна, ужо ў восьмы хадзіў бы.

Яны стаялі і глядзелі на шырокую азёрную роўнядзь,

якая справа фасфарычна цьмела, а злева налівалася ярка-той надыходзячага ранку. У паветры насіліся кнігаўкі і чайкі, яны будзілі прастору прарэзлівымі галасамі. За высокімі купінамі, якімі заканчваўся бераг, плёскалі хвалі. Паволі ўздымаўся вецер.

— Мы ж плывём, Вадзім Мікалаевіч! — крыкнуў хлопец і ўскінуў угору замурзаную, з перацёртым казырком кепку.— А гэта значыць — мы вырваліся з блакады! Мы будзем жыць, Вадзім Мікалаевіч.

— Вырваліся. Аднак...

— Па нас ужо не будуць страляць з аўтаматаў, не будуць гнацца з аўчаркамі. Мы выбавіліся на волю. З блакады. Я думаў, што загіну... Давайце, Вадзім Мікалаевіч, адзначым нашу перамогу.

— Адзначыць перамогу? Чым? Як? — неяк вяла адгукнуўся настаўнік.

— Як? Ды во з'ямо сухарык. Ён чакаў і дачакаўся...— Ціток перакінуў наперад торбачку і запусціў у яе руку.

— Ты зноў хапаешся за сухарык,— няўхвальна закруціў галавой Вадзім Мікалаевіч.— Ану, не руш! Ты кажаш — перамога! Якая ж гэта перамога. Нас вынесла ў возера, вакол — вада. Не памерлі пад кулямі фашыстаў, дык, глядзі, памром тут. Берагі вунь як далёка.

— І праўда...— з роспаччу працягнуў хлопец.— Але ж есці хочацца, есці!

— Ну, добра, з'ямо твой сухарык. А ён выратуе нас? — разважліва пачаў настаўнік.— Давай будзем прывучацца да дысцыпліны.

— Прывучацца галадаць? — ускінуў запытальны позірк Ціток.

Настаўнік нібы не чуў гэтага пытання. Ён глядзеў то ў адзін бок возера, то ў другі, потым падышоў да лазовага карча, прыставіў да яго вінтоўку і зняможана сеў на купіну.

— **Мы і тут** партызаны, Цiток. Зразумей — партызаны...

— Партызаны, якія адваяваліся...

— Ой, не тое ты гаворыш, хлопча. Не тое...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

І Цiток прыладзіўся на траве, каля карча. Так яны сядзелі ў задумнасці, у маўчанні, тварам па ўсход, адкуль на зямлю ўзыходзіў імпэтны, ходкі на нагу дзень. Там жа,

на небакраі, ляжалі невялікія, дробныя хмаркі, былі яны такія зваблівыя і зіхотныя.

Ні Вадзім Мікалаевіч, ні Цітак не надта радаваліся ўрачыстасці новага дня. Так, яны не чуюць шалёнай страляніны, не бачаць ворагаў, што перабягаюць ад дрэва да дрэва, прабіраюцца ў глыб лесу. Але яны па-ранейшаму ў небяспецы. Во сядзяць змардаваныя і галодныя. Цалкам адрэзаныя ад зямлі. Каб уплаў дабрацца да берага, не можа быць і гаворкі. А калі іх астравок прыстане да сушы, невядома.

І вось усё возера запалілася зіхотным бляскам.

— Узышло сонца,— сказаў Цітак.— Тут і над балотам Камар-мох. Чуеце, ужо недзе гупнула. Пачынаецца...

— Чую,— пацвердзіў Вадзім Мікалаевіч, нервова кусаючы ссохлую былінку.

— Што будзем рабіць? Можа, паснедаем? — хлопцу карцела пасмакаваць сухарык, які ляжаў у торбачцы, вярэдзіў у жываце пакутную рану голаду.

— Давай,— выдыхнуў рашуча настаўнік.— Што будзе, дык будзе!

Цітак выцягнуў з торбачкі сухарык.

— Пахне полем і хатай,— летуценна зазначыў настаўнік.— Каб нам хоць адзін бохан, га? Былі б мы, Цітак, зусім шчаслівыя.

— Дык папалам?

— Ні ў якім выпадку! Па строга адмеранай порцыі.— Вадзім Мікалаевіч асцярожна адламаў ад сухарыка два невялікія кавалачкі.— Бяры! Не еш, а смакчы.

— Як цукерку,— крыва ўсміхнуўся Цітак.— Во дажылі...

— Эксперыментацыя доцэт.

— Што гэта такое?

— Па-латыні азначае: вопыт вучыць. Ведаю нямецкую і латынь. Нямецкую мову выкладаў у школе.

Як ні беражліва Цітак смактаў свой кавалачак, той растаў у роце імгненна. Хлопец прыцэльваўся вачыма, каб яшчэ такую порцыю атрымаць. Настаўнік зразумеў яго намер.

— Больш ні ў якім выпадку. Схавай сухарык. І менш думай пра яго.

— Ладна,— пакорліва схіліў галаў хлопец,— няхай ляжыць у торбачцы, можа, падрасце. Што будзем рабіць?

— Па-мойму, пачнём з абследавання вострава. Па-першае, трэба ўведаць, плывём мы ці стаім.

— Здаецца, плывём. Бачыце, калыхае хвалямі...

— А калі зачапіліся і стаім?

— Трэба палку ўваткнуць, і ўсё стане ясным.

Цiток падхапіўся на ногі, агледзеў наваколле. Кінуўся ў адзін бок, у другі і неўзабаве прыцягнуў лахматую сасновую галіну.

— Бомба падкінула нам,— паведаміў ён, абламваючы цяжкія хвойныя лапкі.

Настаўнік без асаблівага энтузіязму сачыў за стараннем хлапца.

— Тут глыбока.

Так яно і было на самай справе. Дна не дасталі.

— Калі глыбока, значыць, плывём. Нас нясе ветрам вунь у той бок,— і хлопец паказаў рукой.

— К Лахавічам,— удакладніў настаўнік.

— А да Лахавіч кіламетраў, кіламетраў...

— Лічы, усе дваццаць.

— Калі ў суткі па кіламетру...

— Праз дваццаць сутак...

— Дык мы ж загінем, Вадзім Мікалаевіч.

— А мы паспрабуем супраціўляцца...

— У нас жа адзін сухарык. І халады будуць даймаць. Бачыце, як золка сёння. Мяне ўсяго працінае. Давайце зробім буданчык.

— Буданчык? Над гэтым трэба падумаць.

— А што думаць. Наламаем лазовых галінак, паставім пірамідкай, абкладзём чаротам — во і хаціна.

— Уга, які ты спрытны. Трэба, хлопча, прыкінуць, каб дэмаскіроўкі не было. Раптам глянуць фашысты ў біноклі. Пабачаць — хатка... Прыляцяць на катэры ці на лодцы. Будзе нам з табой тады...

— Правільна, Вадзім Мікалаевіч, небяспечна будавацца. А я, як на тое ліха, так дрэнна апрануты: кепка, кашуля ды штаны.

— А мы ўсё ж плывём, Цiток,— сказаў спакойна настаўнік.— Я сачу за тым берагам, за жоўтым пагоркам. Ён адсоўваецца ўбок.

— Там, за пагоркам, наша вёска Сыры Бор,— ціха паведаміў Цiток.

— Раскажы пра яе,— папрасіў настаўнік.

— Я не ўмею расказваць, Вадзім Мікалаевіч,— зава-

гаўся хлопец. Аднак тут жа зноў загаварыў: — Як я ненавіджу фашыстаў. О-о, праклятыя! — Ён сціснуў кулакі, смыкнуў тонкімі сухімі губамі і сеў на купіну.— Чуеце стрэлы? Гэта яны...

— Яны. Але ты не зважай...

З расказу Цітка перад настаўнікам узніклі малюнкі і падзеі, звязаныя з дзяцінствам хлопца.

Вёска Сыры Бор — немаленькая. Калі пачнеш ісці з аднаго канца, дык дасягнеш другога праз добрыя паўгадзіны. Выцягнулася яна абапал бойкага тракта, які вёў у раённы цэнтр. Таму праз вёску здаўна наладзіліся шыбаваць машыны — і грузавыя і легкавыя. І стала звычайным тут чуць гул матораў і прарэзлівыя гудкі клаксонаў. Некалі за кожнай машынай бегалі дзецюкі, чапляліся за барты, а смялейшыя нават залазілі ў кузаў. Шафёры не любілі гэтага, прыпыняліся, лаяліся, гразілі паймаць «шыбенікаў», напячы крапівой. Але тыя гады даўно мінуліся. Машына для людзей гэтай мясцовасці стала звычайнай з'явай.

Вёска ўсё больш і больш прызвычайвалася да новага. Людзі сталі жыць калгасам, аб жыцці кожнага пачалі клапаціцца ўсёй грамадой, дапамагаць адзін аднаму. У вёсцы адкрыўся клуб, у якім грала радыё, быў пабудаваны сельсавецкі будынак, адчынілася крама. І яшчэ незвычайная для палешукоў з'явілася будыніна — лазня. Кожную суботу на выспачку, да сажалкі, дзе красавалася чырвоным чарапічным дахам лазня, ішлі мужчыны і жанчыны з бярозавымі венікамі, з тазікамі і мачалкамі, вялі з сабой шумлівую дзятву.

А яшчэ адно было вясёлае месца ў вёсцы — школа. Там, пасля світанку, на роўным мурожным двары, застаўленым старымі ліпамі, прарэзліва, поклічна звінеў званок і чуліся ўзбуджаныя зухаватыя дзіцячыя галасы.

Усё перамянілася, калі пачалася вайна і ў Сыры Бор прыйшлі ворагі. Калгаса не стала, вялізныя калгасныя хлявы і аборы пуставалі. Зноў упаасобку пачалі гнуць спіны людзі, старацца агараць кавалак хлеба. Панурасць прыйшла ў вёску, трывога і адчай. Як жыць? Што будзе далей? Калі канец вайне? Няўжо ворагі ўзялі верх — і нашы, савецкія, больш не вернуцца. Так думаў кожны, пазіраючы на новыя парадкі, што ўстанаўліваліся чужынцамі.

У вёсцы размясцілася камендатура. Фашысты аблюбавалі сабе школьны будынак, занялі яго. У двары паставілі

паходную кухню на тоўстых гумавых колах — і зажылі панамі. Кожным ранкам на вёску адпраўляўся нарад з трох фашыстаў. Узброеныя аўтаматамі і мяшком, які нёс заўсёды рыжабровы паўнатвары немец, яны ўвальваліся ў першы нагледжаны двор і пачыналі сваю «баявую» аперацыю. Доўга не цырымоніліся — няхай сабе з хаты выбягала гаспадыня, прасіла, патрабавала, кляла, яны і брывом не вялі — ускідвалі аўтаматы і давай малаціць па дваровых птахах. Наложаць з дзесятак курэй ці гусей, напакуюць імі мех, рыжабровы яго — за плячо, і пацягліся назад, рагочучы і пацяшаючыся.

Людзі бяднелі, невялікія набыткі раставалі, як вясною снег. Вядома, фашыстаў пачалі ненавідзець яшчэ з большай лютасцю. Даравяць ім нахабны разбой? Як можна! Ды тут не ўтрывала б і каменнае сэрца. А гітлераўцы ўслед за курамі пачалі рэквізаваць для сваіх патрэб і авечак, і парасят, і нават кароў.

Аднойчы замест трох фашыстаў чамусьці ў паход па сялянскую жыўнасць адправіўся толькі адзін з іх, той рыжабровы, якога людзі называлі «мяшэчнікам». Быў ён з аўтаматам, нават у жалезнай касцы. Зайшоў у двор Ціткавых бацькоў. Гэта ўжо быў другі заход. Ад першага засталося толькі дзве курыцы і цыбаты фарсісты певень, які ўратаваўся ў той раз дзякуючы сваім моцным крылам. Як пачуў, што пад нагамі ў пяску ўзарваліся кулі, як закрычаў ды залапатаў — і ў паветра, і праз загарадзь на агарод. А там зашыўся ў буракове бацвінне і сядзеў аж да ночы ні жывы ні мёртвы.

Гэтым ранкам певень корпаўся ў смецці і не падазраваў, што над яго галавой збіраецца новая бяда. Ціткоў бацька якраз быў у хляве — пакуль жонка падрыхтуе сняданак, ён рашыў тым часам умацаваць слупок у загарадзі для авечак, што падгніў, расхістаўся і пагражаў зусім вывернуцца. Цюкаў сякерай, падчэсваў дрэвіну. І раптам пачуў, як рыпнулі веснічкі... Ён — да прычыненых дзвярэй. Глянуў — гітлераўскі салдат з мяшком.

Гаспадар адклаў сякеру, непрыкметна зачыніў дзверы. Неспакой ухапіў за душу — добра, калі салдат пагоніцца за курамі, няхай жаруць і гэтых апошніх, акаянныя, а калі раптам палезе ў хлеў, як гэта рабілі ў другіх, ды выцягне авечку...

Немец угледзеў сакатух, кінуў пад ногі мяшок, запы-

ніўся. Але аўтамата з шыі не зняў. Ці то перадумаў, ці то пачуў мэканне авечкі і рашыў змяніць свой план.

Пылячы цяжкімі ботамі па пясчанай сцежцы двара, падаўся проста да хлява. Падышоў, бачыць, вароты не зачынены. Грымнуў нагой у дашчаны шчыт, маўляў, хто там — адчыніце!

Ціткоў бацька быў намераны на самае рашучае ў жыцці. Спадзяваўся, што фашыст увапрэцца ў цёмны хлеў, ну ён яго і прыстукне, сякера сама так і прыліпла да рук.

Але фашыст трапіўся асцярожны. Разумеў — ён адзін, разумеў, на кожным кроку тут, у гэтай краіне, яго падпільноўвае небяспека. Бацька не варушыўся, не адгукваўся, чакаў. Фашыст зноў стукнуў нагой і, увапхнуўшы рулю аўтамата паміж шулам і дзвярыма, прачыніў іх.

— Кто тут есть? Хозяін, хозяйка? — спытаў ён і прасунуў у шчыліну галаву.

— Ах ты, сабака, што табе трэба? — закалаціўся ў лютай злосці гаспадар, аднак адступіўся і апусціў уніз занесеную для ўдару сякеру.

— Ты мне хотель зрабіць капут? Так? — запытаўся немец, прыжмурваючы маленькія хітраватыя вочы.— О, мяне не обманіш. Вы не любіце нас. Знаю. Але я, рускі камарад, не фашыст.

— А хто ж ты? Вы ўсе з аднаго балота. Чаго прыйшлі да нас? Што вам у нас трэба? Ану паварочвайся і чашы да сваіх гансаў, пакуль цэлы.

— О-о, ты грозішся. Ты некарошы рускі хозяін. Гавары ціха, а то нас пачуюць.

— Хай чуюць. Я нічога ні ў кога не ўкраў.

— Правільна, ты ест карошы рускі чалавек.

— Ты мне зубы не загаварвай. Чаго прыйшоў — курэй пахапаў, цяпер авечку ў мяшок хочаш укінуць? І думаеш, мы будзем маўчаць? Просіш, каб цішэй гаварыў. Ды тут трэба на ўвесь свет крычаць.

— Ну, крычы! А я пасяджу каля цябе,— ён крануў рукой падпраўлены слупок, сеў на загарадзь, папярэдне агледзеўшы авечы закутак.

— Ты што, назнарок? Здзекавацца? Бяры ўсё, што хочаш, толькі не чапай маю душу,— гаспадар плюнуў пад ногі, запхнуў за пояс невялікую сякеру і хацеў быў выйсці з хлява.

— Чакай, камарад. Ты не ест камуніст?

— Ну смала смалой, во прычапіўся... Цьфу!

— Рот фронт! — выгукнуў раптам немец.— Рускі, ты понімайт — рот фронт?

Гаспадар, пачуўшы знаёмыя словы, якіх на момант прыглушыла вайна і якія як бы ўжо забываліся, устрапянуўся і недаверлівым позіркам акінуў постаць чужаземца.

— Гукаеш «рот фронт», а начапіў на грудзі аўтамат. Падманшчыкі вы ўсе. Вам бы нажэрціся ды паспаць. Вось вам і ўвесь «рот фронт».

— Ты не верыш, рускі камарад? Я прыйшоў к табе з дабром.

— Прыйшоў, дык гавары,— не верыў ён немцу, але прамовіў досыць змірліва.

— Я долго шукаль сустрэчы з вашымі людзьмі,— пачаў немец, намагаючыся гаварыць па-руску.— Не спаль начамі, мучался. Думаль, каму расказаць пра сябе, дзе знайсці друга? Ты меня хацель забіць? — Ён зрабіў вялікія вочы і адмоўна закруціў галавой.— Не мяне надо забівайт. Не мяне. Тых, кто со мной ходзіль,— фашыстаў. А я чэстны немец. Мой друг — Тэльман. Я хачу, штоб і ты был мой друг... Ты понімайт меня, понімайт?

— Панімаю, як жа,— адгукнуўся Пракоп.— Абадраў як ліпку. А цяпер — друг, друг... Ну што ты хочаш сказаць? Калі такі ўжо друг, дык вот аддай мне гэтую цацку.

— Аўтамат? О, найн, найн...

Пракоп кпліва ўсміхнуўся.

— Канчай, братка, сваю песню, не гарадзі пусты гарод.

— Слюшай, камарад, што скажу. Я прынёс адна весть. Некарошая весть.

З выглядам таямнічасці немец пачаў даводзіць, што сюды, у камендатуру, ходзіць нейкі чалавек з вёскі Лахавічы. Нават намаляваў ягоны партрэт: у высокіх ботах, твар шырокі, нос плюскаты.

— Ну і што? Чаго ён панадзіўся? — ажывіўся Пракоп Каляда.

Зноў забубніў немец, цяжка варочаючы чужымі словамі. Сяк-так Пракоп уразумеў, што той чалавек як бы прыносіць паперы, у якіх пералічаны камуністы і камсамольцы. Немец не ўтрымаўся, каб не выказаць і свайго абурэння. Маўляў, такому чалавеку трэба даць па руках.

— Яму трэба галаву адарваць...— паправіў немца Пракоп, зусім ацверазеўшы ад страху, які калаціў некалькі хвілін усё яго цела.

Немец з увагай углядаўся ў Пракопаў твар. Крыху па-

маўчаўшы, ён зноў загаварыў, параіў Пракопу сёння ж прыйсці да школы к дзевяці гадзінам вечара. У гэты час павінен з'явіцца той чалавек. І наказаў Пракопу строга: маўчаць, каб ніхто ні-ні...

Немец павярнуўся, паправіў каску, потым каля дзвярэй запыніўся.

— Мы ещё встретімся. Рот фронт! — ён ускінуў угару сціснуты кулак і выйшаў.

Пракоп недаўменна паціснуў плячыма. Падазронасць і асцярожлівасць не пакідалі яго. Ён прыпаў да дзвярной шчыліны і з хлява назіраў за немцам. Той прайшоў няспешным крокам увесь двор, падхапіў свой мяшок, што валяўся на зямлі, і, не глянуўшы нават у бок сакатух, якія корпаліся на сметніку, выйшаў на вуліцу.

Пракоп з палёгкай уздыхнуў. Глядзі, якая сустрэча. Вось табе і рыжабровы мурлаты немец. Вось табе і мяшэчнік. У яго, аказваецца, ёсць душа, ёсць спагадлівасць. Ходзіць разам з фашыстамі, разам з імі песні гарлапаніць і не вытрымаў, бач, пацягнула ад сваіх убок, шукае сувязі. Друг Тэльмана. Неяк не стасавалася ўся яго постаць да сэнсу гэтых простых і добрых слоў. Аднак тое, што ён паведаміў, было незвычайным і ўражвала душу. Усё было падобным на праўду. Заставалася толькі праверыць.

Сёння ўвечары... Хто ж ходзіць з Лахавіч у камендатуру? Што за прадажная шкура? Немец яго прозвішча не назваў, бо, відаць, не ведае.

Увесь дзень Пракоп хадзіў як сам не свой. Нават жонка заўважыла такі яго стан, зацікавілася:

— Ці не захварэў ты часам?

Ён буркнуў нешта, узяў рыдлёўку і пачаў папраўляць і перакопваць прыствольныя кругі ў садзе. Цітку не было свайго занятку, ён таксама выцяг з сенцаў рыдлёўку і стаў дапамагаць бацьку.

У паветры плыў верасень, настоены на антонаўках, на грыбной прэлі, пераплецены белым лёгкім павуціннем. У душы ў Пракопа была неразбярыха. Думалася і так і гэтак. Ён, Пракоп, не хаваецца, быў у яго моцны намер — здзяжыць немца па кумпалу. Ішоў знарок, свядома, на рызыку, на вялікую для сябе і сям'і непрыемнасць.

Аж, бач, як яно павярнулася! Трэба апазнаць таго чалавека-прадажніка.

Днём, калі прыйшлі каровы з пашы, вуліца застагнала ад галашэння. Аказалася, білася ў горы Марына, сястра

Пракопа. Яе сына, Аркадзя, камсамольца, схапілі фашысты, кінулі ў чорную буду машыны і павезлі ў райцэнтр, у Міткавічы. Аркадзь хлопец ласкавы, рупны ў справе, шчыры. Марына прыбегла да Пракопа.

— Ой, брацiку, ой, родненькі, выручай! — абліваючыся слязьмі, заламала яна ад гора рукі.— Заб'юць сынка фашысты. І за што, за якое? Нічога ж ён не зрабіў, нікому дрэннага слова не сказаў...

Яе сяк-так заспакоілі, суцешылі, маўляў, калі за хлопцам нічога асаблівага не лічыцца, выпусцяць. От, нагаварыў нехта...

Нагаварыў! Гэта чорнае слова страсянула ўсю істоту Пракопа.

Во адкуль крадзецца гора да людзей — ад прадажнікаў! Ну то трымайся, бандыт-бадзяга. Ці не ад цябе галосіць Марына?

Калі сястра, угнуўшы плечы, выйшла з двара, Пракоп марудліва ўстаў з парога, дзе яны сядзелі ўсёй сям'ёй, разам гаварылі аб Аркадзю, кіўнуў коратка Цітку. Хлопец, зразумеўшы, што бацька хоча нешта сказаць, борздзенька рушыў за ім.

Па садзе хадзіў асцярожны ветрык, матляў сюды-туды цяжкія абвіслыя галіны: паўдзённае сонца грэла пяшчотна, роўна. На зжатым полі пасвіліся чароды шпакоў. Далячынь напоўнена сіняватай смугой, яна міжвольна нараджала тужлівасць па адыходзячаму лету. Бацька ўвайшоў у сад, прабраўся да густалістай старой бэры, апусціўся ў дол і паказаў рукой месца сыну.

— Бачыш, сынок, што робіцца ў свеце,— сказаў бацька, абводзячы ваколле невясёлымі вачыма.

— Аркадзя заб'юць,— сказаў Цiток.

Бацька ўстрапянуўся:

— Адкуль ведаеш?

— Ён хадзіў у лес,— і растлумачыў: — Пазнаёміўся з акружэнцамі, капаў ім зямлянку.

— Няўжо? Во яно што... І маці нічога не ведала?

— Не ведала і не ведае.

— А як ты дазнаўся? Ён табе хіба адкрыўся? Ці, можа, і ты быў з ім разам?

— Не, тато, Аркадзь не такі, каб прызнавацца. Ён мне нічога не гаварыў. Але я рашыў аднойчы высачыць, куды гэта ён ходзіць. І ранічкай, гэта было тыдні два назад, я за ім следам, следам... У лесе ўсё і ўбачыў...

— Ну, калі ты ўбачыў, значыць, бачыў і нехта іншы. Э-э,— працягнуў самотна бацька.— Тады Аркадзевы справы — дрэнь. Могуць хлопца расстраляць. А калі ён часам не вытрымае ды адкрыецца, схопяць і тых, што ў лесе,— акружэнцаў...

— Могуць...— сказаў Цiток.

— Тады трэба... папярэдзіць,— падхапіў бацька.— Ты ведаеш іх зямлянку, ты гэта зробіш. Толькі глядзі, каб вушкі на макушцы...

— Разумею.

— Гэта адно, а другое...— бацька ўздыхнуў. З блізкага дрэва гупнуў на дол цяжкі, наліты сокам яблык. Дзесьці ў канцы вёскі хрыпотна, з лютай ярасцю брахаў сабака.— От, сынок...

— Што, тато? — лагодна, з чаканнем прамовіў хлопец.

— Яшчэ для адной справы трэба добрыя вочы і спрыт.

— Ну, то кажы. Што такое?

— Бачыш, сынок,— і бацька, разглядаючы свае цяжкія шурпатыя рукі, растлумачыў: — Справа для сапраўднага разведчыка.

— Зраблю, тато,— загарэўся Цiток.

— Які ты скоры,— як бы нездаволена буркнуў бацька.— Запомні, не трэба губляць галаву. Тут трэба ўдумліва, ціхенька...

— Будзе ўсё ціхенька. Пабачыш...

Цiток астатак дня правёў на лужку, за вёскай. Выгнаў туды пярэстую, як зебра, свінню, лёг пад купчастай вярбой, разглядаў здаля школу, што стаяла на пагорку, назіраў, як ідуць і ідуць па дарозе і немцы, і вяскоўцы, і чужы незнаёмы люд.

Над вёскай праляцелі два самалёты — бамбардзіроўшчыкі. Цiток ведаў іх, гэта былі «юнкерсы». Ён сачыў за імі, маўкліва загадваў, каб яны раптам разламаліся, рухнулі на зямлю. Але ў яго думках-загадах не было чароўнай сілы, і самалёты, пагрозліва равучы, прапалі ў сiняватай смузе неба.

Некалькі разоў падбягаў хлопец да агароджы з калючага дроту, сядаў побач, рабіў выгляд нібы рве шчаўе, каб паласавацца, а тым часам вывучаў размяшчэнне нямецкай камендатуры. Ён бачыў палявую кухню, з яе валіў густаваты шэры дым, бачыў повара, які, стоячы на падстаўцы, тоўсты, у белым каўпаку, адкрываў кацёл і мяшаў у ім страву. Нейкі незнаёмы дзядок уводдалі ад кухні цюпаў

сякерай, калоў дровы. А з хлеўчука, дзе вадзіліся школьныя трусы, данасілася скавытанне сабак. Немцы прывезлі іх з сабой. Вядома, для чаго: каб лаўчэй і хутчэй лавіць тых, хто будзе супраціўляцца іх уладзе.

Былі на двары і вартавыя. Адзін стаяў пры варотах — гэта там, на супрацьлеглым баку агароджы, а другі слаяўся па ўсёй астатняй плошчы двара, пільнуючы, каб хто не прабраўся праз дрот.

Ціток так загледзеўся на камендатуру, што не заўважыў, як вынырнулі аднекуль два фрыцы, зарыпалі побач ботамі. Хлопец палахліва азірнуўся, устаў на ногі.

— Малчык. Ты карошы малчык,— пачаў цыбаты, з даўгаватым носам немец, узяўшы Цітка за шыварат.— Пошоль к нам. На кухня. Надо картофель вот так,— і ён паказаў, што трэба яе абіраць.

— Я не магу. Я пастух,— пачаў выкручвацца Ціток.— Свіння зойдзе ў шкоду.

— Свіння? А где твой свіння? А, гут. Карошы свіння,— угледзелі яе нарэшце ў калюжыне, дзе, лычастая, разморaная, яна ляжала і здаволена-сыта рохкала.

У планах Цітка не было выстаўляцца на вочы немцам. Але, бач, як усё нечакана паварочваецца. Ён даводзіў салдатам і тое, і гэта, нават спрабаваў заплакаць. Але яны моцна прычапіліся да хлопца, абяцалі яго добра пакарміць, паказаць яму сабак-ваўкадаваў.

— А свіння... Я іду на село. Где твой гаус? Скажу отец і маць — яны прыйдуць забраць свіння. Карашо будет. А ты ў нас в камендатура. Пошоль!

Што зробіш, хлопец пайшоў з салдатамі. Яго прывёў да кухні цыбаты немец. Повар лагодна ўсміхнуўся, хацеў наліць хлопцу варыва, але салдат папераджальна замахаў рукамі, і Ціток зразумеў іх гаворку — абед яму трэба зарабіць.

Яго завялі ў бакавы пакой, што быў пры будынку школы, пасадзілі да вялізнай скрыні з бульбай. Зашкрабаў у руках хлопца ножык. «Во якія яны, фашысты,— думаў хлопец,— бяруць усё сілай. Паспрабуй запярэчыць, паказаць непакору. Расправа ў іх нядоўгая — прыставяць да сцяны. Во і з Аркадзем атрымалася... Схапілі хлопца. Няўжо з ім не давядзецца сустракацца на вуліцы, бачыць яго ўсмешку, чуць ягоны голас? Любіў Аркадзь гаварыць востра, смела, а іншы раз з несхаванай падначкай. А гармонік

возьме ў рукі — і ў гэтай справе хлопец быў зух. Гармонік у яго як жывы: і пяе, і смяецца».

Праз акно пакоя Ціток бачыць частку школьнага двара. Каля доўгага стала, збітага з дошак, стаяць два салдаты, паўраздзетыя, у майках, разбіраюць аўтаматы, чысцяць шампаламі ствалы. Аб нечым перамаўляюцца.

Загурчала цяжкая машына, спынілася непадалёку ад варот, стукнулі дзверцы, пачулася лаянка. «Некага прывезлі,— здагадваецца Ціток.— Ці не Аркадзя?» Яму карціць паглядзець, ён кідае назад у скрыню недачышчаную бульбіну і выглядае з пакойчыка. Нейкі дзядзька, дзябёлы, без кепкі, з аблыселай галавой. Рукі закручаны назад і звязаны. «Не, не Аркадзя,— уздыхае хлопец.— Няхай бы прывезлі сюды, у камендатуру. І людзі побач свае, і маці. Можа, нешта прыдумалі б і вызвалілі хлопца».

Салдаты, што ішлі ззаду, загупалі прыкладамі дзядзьку ў спіну. Дзядзька ўпаў і, скурчыўшыся, застагнаў. У Цітка міжвольна сціснуліся кулакі.

Вярнуўся назад да скрыні дужа ўсхваляваны. Не працавалася. Праз некалькі хвілін да хлопца заглянуў той цыбаты, што прывёў яго да кухні. Убачыў, што мала зроблена, пагразіў пальцам:

— Мы не любіт, кто лотыр. Надо скорее. Жыва! Понімайт?

— Панімайт, пан, панімайт,— адказаў хуценька хлопец і больш старанна стаў шкрабаць нажыкам. Салдат стаяў пры Цітку хвілін пяць, назіраў, цяжка сапучы. Потым, відаць, застаўся задаволены, што тэмп працы ўзяты хлопцам правільны, выйшаў.

Ціток баяўся, што, заняты кухоннай справай, ён не ўбачыць таго чалавека, які павінен наведаць камендатуру,— і бацькава заданне не будзе выканана.

Непрыкметна нахапіўся вечар. Прыйшоў повар, прыняў працу.

— О гут, гут! — задаволена паляпаў ён хлопца па плячы. Забраў кацёл з бульбай, кіўнуў Цітку, каб ішоў следам.

Двор роднай школы нельга было пазнаць. Фізкультурнай пляцоўкі не было. Крыжасты клён, што шумеў лісцем і птушыным крыкам, быў спілаваны. Ад яго тырчаў высакаваты пень, на якім сушыліся салдацкія анучы. То там, то тут валяліся абломкі парт — немцы іх выкінулі з класаў, папалілі. Панурасцю і пусташэннем веяла адусюль.

Асабліва нязвычна было бачыць з калючага дроту загарадзь.

Ціток самотна ўздыхнуў.

Перад вайной... Колькі было тут сонца, прасторы, радасці. Смех каціўся наўкола звонкім разгоністым абручом, яму не хапала двара.

— Junge, komm hier! * — клікаў повар хлопца. Ён стаяў пры кухні і наліваў у алюмініевы кацялок тлусты суп. Цітку не хацелася есці, але кацялок узяў, была прычына затрымацца ў двары. Адышоўся ўбок, сеў на нейкі цурбан і стаў сёрбаць лыжкай страву. Суп быў наварысты, на кураціне.

— Усё наша, сялянскае,— адзначыў Ціток.— Каб вы падавіліся...

Па двары прамаршыраваў строй салдат. Яны вярнуліся аднекуль запыленыя, прытомленыя. Афіцэр спыніў іх, нешта з хвіліну крычаў, потым узмахнуў рукой — і строй рассыпаўся.

Праз вароты тым часам прайшлі тры паліцаі, адзін стараваты, з вусамі, два маладыя,— яны абмацалі Цітка ўчэпістымі позіркамі. Хлопец хацеў выставіць ім дулю, але стрымаўся. Ён ведаў гэтых праклятых людзей, былога кулака і яго пляменнікаў,— яны нямала ўжо нарабілі па вёсках бяды, і ўсе людзі іх абміналі, як халерных.

Паліцаі ўвайшлі ў канцылярыю камендатуры. Туды быў асобны ход, з боку дарогі. Мінаў час, але нешта не было цывільнага чалавека, высокага, з качыным носам. Суп у кацялку паспеў астыць, яго яшчэ трохі заставалася на самым донцы. Але хлопец шкрабаў лыжкай, рабіў выгляд, што ён дужа заняты ядой. Цені ад будынкаў і тэлеграфных слупоў, што стаялі пры дарозе, выцягнуліся. Сонца сядала, залаціла на небасхіле груды вялізных хмар, якія ляжалі над далёкім лесам.

Усё добра пакуль ішло ў Цітка, быццам па плану. Ён меркаваў сачыць за камендатурай з глыбокай канавы праз агароджу, а выйшла іначай. Трапіў у самы стан ворагаў, у іх звярынае логава. І во сядзіць сабе на цурбане — побач салдаты ходзяць, балабоняць нешта па-свойму, па-замежнаму, рагочуць, дурэюць, хапаючы адзін аднаго за грудзі,— а ён як бы не заўважае іх.

Трэба падцікаваць і апазнаць чалавека з Лахавіч. На-

* — Хлопчык, падыдзі сюды!

вошта, з якой мэтай, бацька так і не расказаў. Але Цітон разумее: калі гэты чалавек звязаны з камендатурай, з немцамі, значыць, ён нехарошы і займаецца нядобрымі справамі.

Мала каго ведае хлопец з той вёскі, бываў там рэдка. А бываць даводзілася найбольш у час святаў. Там жыве матчын брат — Макар Цапок. Ён рабіў у сельскай краме, жыў добра, багата. Праўда, людзі скардзіліся: не чысты быў на руку. Самавольна завышаў цэны на тавары, недаліваў газы, недаважваў. Наязджалі рэвізоры, але ўсякі раз зазначалі, што растраты ў яго няма, што дакументы вядуцца правільна. Праўда, тыя рэвізоры везлі сёе-тое сабе дамоў: ці то свіны сцягняк, ці то кругі кілбасы, паперчанай і падсушанай на скразняку-ветрыку.

Калі паяўляўся Цітон у хаце крамшчыка з маткай ці бацькам, той на стол ставіў поўную місу цукерак-падушачак. Хлопец накідваўся на іх, браў у рот па некалькі адразу і так наядаўся, што потым аж моташна рабілася.

— Добра ты жывеш, Макарачка, добра! — гаварыла маці, узіраючыся ў патлусцелы братаў твар.

— Трэба ўмець,— зазначыў Макар з хітрай лісінай усмешачкай.— Ты ж ведаеш, заробак у мяне — кот наплакаў... Але во выкручваюся. Не горай за іншых...

— Ох, каб усе жылі так, як ты, Макарачка,— лагодна сакатала маці і глядзела ў бок Цітка. І тут жа дадавала: — У майго хлопца і насіць няма чаго: ні чаравік людскіх, ні штаноў. Ніяк не агораем, капейчыны лішняй няма.

— Ці я не разумею. Яно, вядома, цяжка...— уздыхаў Макар.

Маці, бачыў Цітон, далікатна даводзіла, што пры такім шыкоўным жыцці, якое адкрылася Макару, можна паспагадаць і роднай сястры, падкінуць ёй што-небудзь ці падарыць. Але Макар такую размову ўсякі раз пераводзіў на пустыя смешачкі. Гасцяванне заканчвалася, і маці, сумнаватая, вярталася дамоў. Але ніколі Цітон не чуў, каб яна асуджала брата. Лічыла, відаць, што так яно ўсё і павінна быць.

Яшчэ запомніўся Цітку з той вёскі адзін дзед. Касматы, з рыжай акладзістай барадой, ён першы паяўляўся на гукі гармоніка. І калі збярэцца моладзь, зробіць цесны кружок, у сярэдзіну кружка выхопліваецца дзядуля і пачынае так выбрыкваць-вытанцоўваць — ну як маладзенькі козлік. Хлопцы і дзяўчаты рагочуць, пацяшаюцца...

Нарэшце суп з'едзены. Пачынае сутоніцца. Паветра халоднае, як бы набрыньвае вільгаццю. Пара ісці дадому. Повар махае рукой, кліча, маўляў, здавай посуд ды выкатвайся прэч.

А таго чалавека няма... Можа, і не прыйдзе? Ціток аддаў повару кацялок. Немец нагадаў хлопцу, што і заўтра ён чакае яго, свайго памочніка... Пакуль яны перакідваліся словамі, не згледзеў хлопец, як у варотах паявіўся незнаёмец. Ціток намерыўся ісці, павярнуўся і толькі цяпер заўважыў на ганку камендатуры постаць чалавека ў цывільным. Гэта той чалавек ці не той?

У варотах немец-вартаўнік абмацаў хлопца, каб упэўніцца, што ён не нясе ўкрадзенага, салдацкага. Цітку было брыдка бачыць блізка схілены твар фашыста, адчуваць дотык яго валасатых рук. Аднак змірліва перанёс гэткую экзекуцыю. Хай сабе... Затое салдаты прызвычаяцца бачыць яго тут і ў далейшым будуць больш даверлівыя.

Адышоўся крыху ў бок ад дарогі, сеў на пянёк і стаў як бы пераабувацца.

Доўга не было таго, цывільнага.

Нарэшце ён паказаўся за варотамі і, замест таго каб ісці па дарозе, павярнуў на глухаватую бакавую сцежку.

Чалавек быў высокі, плячысты, у сялянскай пацёртай аблавушцы. Крыху сутульваецца, крок дробны, нервова-паспешлівы. Ціток не мог разгледзець твару — але нешта знаёмае, бачанае прыгадалася ў гэтым чалавеку.

Хто ж такі? Забегчы наперад? Навокал нязручная мясцовасць, з агародамі, якія абнесены загараддзю жэрдак,— пачнеш пераскокваць, натрапіш на вочы незнаёмцу.

Ціток пайшоў услед за чалавекам, назіркам. Ён зманеўрыруе пасля, там, недзе ў лесе. Зробіць засаду пры дарозе, угледзіцца ў твар. А калі не пазнае? Тады давядзецца ісці праз лес у самыя Лахавічы. Вядома, нядобра кіравацца ў такі шлях на ноч гледзячы. Страшна і не толькі з той прычыны, што навокала будзе лес і цёмная ноч, але і таму, што астанецца адзін на адзін з чалавекам, які звязаўся з немцамі, камендатурай. Калі незнарок заўважыць, што за ім нехта цікуе, вядома, пастараецца злавіць смельчака.

Цітка ахапіла нервова-трывожнае хваляванне, у нагах адчулася кволасць.

Гароды канчаліся. Чалавек у аблавушцы некалькі разоў аглядаўся. Тады запыняўся і Ціток, падаў у траву ці

паспяваў юркнуць за бліжэйшую будыніну. Калі кончыліся сядзібы вёскі і пачаліся палі, кіравацца следам за незнаёмцам стала лягчэй.

Каля нізіны, зарослай алешнікам і дробным асіннікам, чалавек нечакана звярнуў з дарогі і падыбаў у гушчар.

Ціток з хвіліну стаяў як аслупянелы, вагаўся, не ведаючы, што рабіць. Ды сэрцам раптам адчуў, што, калі ўпусціць гэты момант, ён многа чаго згубіць. Кінуўся бегчы, аж паветра загуло каля вушэй.

Каля гушчару запыніўся і, насцярожаны, стаіўшы дыханне, каб лепш чуць кожны гук, пачаў прабірацца праз вузкія пакручастыя сцяжынкі. Убаку хруснула галінка. Пачулася, як чалавек прыцішана кашлянуў. Кірунак вядомы, адлегласць таксама, а гэта — галоўнае. Ціток нырае глыбей у алешнік, выбягае на прагалінку і тут жа хуценька адскоквае назад у кусты, у змрок. На прагалінцы, побач з высокімі спарахнелымі пнямі, стаяў той чалавек. Добра, што ён стаяў да хлапца плячыма, а то позіркі іх сустрэліся б. Ціток ляжаў у траве ні жывы ні мёртвы. Напружана тахкала сэрца.

Што робіць тут гэты нядобры чалавек?

Во ён нешта дастаў з-пад пня. Марудліва распрамляецца, і хлопец бачыць у яго руках рэвальвер. Вочы ў Цітка заблішчэлі: «Адна тайна вядома. Ты, аказваецца, маеш зброю. І табе боязна ісці праз лес? Аднак чаго ты баішся, каго? Людзей, іх кары? Значыць, ты ад іх адрынуў, здрадзіў, падаўся служыць чужынцам?»

Чалавек запіхнуў рэвальвер у кішэню, павярнуўся, чуйна паслухаў наваколле. І Ціток ледзь не ўскрыкнуў, ледзь не выдаў сябе. Ён пазнаў гэтага чалавека. Скуласты твар, тоўсты качыны нос, доўгія замашыстыя рукі. Ды гэта ж Макар Цапок! Ягоны дзядзька! Во якую нацягнуў на сябе апранаху, здаля і не пазнаеш — аблавушка на галаве, кашуля доўгая, пад вузкім раменьчыкам, шырокія штаны над чаравікі. А хадзіў жа раней чыста, амаль фасоніста. Іншы раз нават і капялюш нахлабучваў — маўляў, знай нашых...

То як жа атрымалася, дзядзька Цапок? З'явілася жаданне выскачыць на прагаліну, адкрыцца, папярэдзіць дзядзьку, маўляў, адумайся, што робіш. Але розум падказаў — хай будзе так, як ёсць, хай той нічога не ведае...

Дзядзька Макар тым часам неяк пязвыкла шаргануў

плячом, быццам скідваючы зябкасць ночы, і марудліва пасунуўся назад, на дарогу.

Цітоk яшчэ доўга ляжаў у гайку, хлапца абняло нязвыклае трапятанне, што абрынулася на яго ад вялікай нечаканасці.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

Сонца ўзбіралася вышэй у неба, быццам таяла ад лішку праменняў і цеплыні. Усхадзіўся паўднёвы вецер, на возеры ўздыбіліся, загаманілі хвалі, і лёгкая падушка плывуна, створаная за дзесяткі, а можа, і сотні гадоў з лістоты, траў і сухога карэння, зазыбалася. Вадзім Мікалаевіч і Цітоk адчулі пад нагамі пругкія штуршкі. На закраіны плывуна набягалі хвалі, тапілі іх шыпучым малаком пены. Было бачна, як пахістваецца на сярэдзіне рэдкаваты лазняк. У блакадным раёне гула ўжо на ўсю моц страляніна. Забумкалі гарматы. У лесе нешта гарэла, угару выкіроўваўся сіза-чорны дым, падобны на калматую конскую грыву.

— Як там нашы? — трывожнасць легла на твары Вадзіма Мікалаевіча. Ён устаў, падняў вінтоўку, нібы збіраючыся ісці да свайго партызанскага стану. Цітоk заўважыў, як распраміліся плечы партызана, як ярка, утрапёна бліснулі яго вочы. Ён хацеў быць там, быць патрэбным людзям.

— То давайце абмераем і абследуем наш плывун,— нагадаў Цітоk.— Тут цяпер усё наша: і лазняк, і птушкі, і чарот з аерам.

— Эх, і трапілі ж у гісторыю. А там будуць лічыць, што нас пабіла альбо што нас захапілі ў палон. А мы во загараем...

— Нас прыб'е да берага ці да вострава, што на возеры. Гэта ясна.

— Да вострава не пажадана,— сказаў Вадзім Мікалаевіч.— Там мы нічога добрага не знойдзем. Ён жа пусты, без людзей.

Адсюль востраў выглядаў прыгожа, цалкам запалонены магутнымі векавымі дрэвамі. Гэта была цудоўная мясціна тамашняга краю. На востраў Буян-возера імкнуліся тра-

піць, азнаёміцца з ім усе госці, што прыязджалі ў мястэчка Міткавічы. Меў ён загадкавую назву — Чорны Дуб.

— Канешне, добра было б абмінуць востраў.

— Мы цалкам аддадзены ўладзе стыхіі.

— А мы давайце ўладу возьмем у свае рукі.

— Напрыклад?

— Зробім плыт і паплывём куды трэба.

— Плыт — гэта ідэя. Але з чаго яго зрабіць? Хіба з пальцаў нашых рук,— нявесела пажартаваў Вадзім Мікалаевіч.

— Чаму з пальцаў, а не з чароту, не з лазняку. Бачыце, колькі тут гэтага дабра.

— Чарот падыдзе, а лазняк — танкаваты і сыры. Ды і зрэзаць яго трэба. А чым? Во, брат, і праблема. Так што, як ні круціся, мы тут ва ўладзе стыхіі.

— Давайце я памераю плывун удоўж і ўпоперак.

— А што гэта дасць?

— Будзем ведаць, Вадзім Мікалаевіч, які маем пад нагамі кавалачак свету.

— Калі табе цікава — памерай.

Хлопец падняўся з грудка-купіны і скіраваўся ў чарот, разграбаючы яго ў бакі рукамі.

Настаўнік падышоў да самага берага плывуна, распрануўся па пояс, апаласнуў азёрнай вадой твар і грудзі. Адразу адчуў, што дыхаць стала лягчэй, што нават шчымлівая самота як бы паменшала. Глянуў услед Цітку. Неблагі, здаецца, хлопец. Бач, колькі ён у жыцці чаго зведаў, колькі хлябнуў гора. Выпрабаванні, між тым, для яго не прыпыніліся. Як закончацца іх прыгоды тут, на зыбкім плывуне, яшчэ невядома.

Пачаўся першы дзень незвычайнай вандроўкі. Вінтоўку Вадзім Мікалаевіч прыхінуў да алешынкі,— і гэтае дрэўца прыжылося неяк тут, на плывуне. Добрая вінтоўка ў настаўніка. Фашыстаў пяць-шэсць паклаў навечна ў вільготны мох, а двух прыкончыў штыхом, калі схапіліся ўрукапашную.

Вадзім Мікалаевіч праз момант пачуў шапаценне чароту, які расхінаўся пад напорам бегу. Ён насцярожыўся, дзівячыся, што магло здарыцца. З-за лазовага куста выхапілася постаць Цітка. Так, ён бег, спяшаўся, і ў гэтым бегу была нейкая трывога.

— Вадзім Мікалаевіч! Там... Разумееце, там...— і, павярнуўшыся, паказваў рукою.

Настаўнік зрабіў рывок насустрач.

— На гадзюку напароўся? Укусіла? — і глянуў на хлапечыя ногі.

— Ды не, якая там гадзюка,— адмоўна хіснуў галавой хлопец.— Там... Я нават спалохаўся... Там нейкі дзіўны голас. Як бы закугыкала, застагнала птушка. Але гэта не птушка...

— То што ж такое?

— Не ведаю, Вадзім Мікалаевіч. Я прамерваў плывун, зашамацеў асакой — і раптам... Хадземце паглядзім...

— Можа, табе падалося? Мяне напалохаў. Я падумаў, нейкая з табою бяда.

— Падалося... Добра падалося... Кажу ж, нешта ў карчы заварушылася, застагнала.

— Нават заварушылася? — перапытаў Вадзім Мікалаевіч, і ягоная цікавасць узмацнела.— Тады, брат, хадзем.

Першым ішоў Ціток, за ім шыракаватымі крокамі сігаў настаўнік. Ціток рассоўваў чарот, аглядаўся па баках. І раптам да слыху даляцелі нейкія незвычайныя гукі. Здавалася, нехта плакаў... Настаўнік і Ціток спыніліся.

— Чуеце?

Вадзім Мікалаевіч аж змяніўся з твару.

— Нехта плача.

— А вы казалі — падалося...

— Цішэй, Ціток,— настаўнік прыклаў палец да вуснаў.— Ты пачакай, а я прайду сам.

Але ці мог утрываць хлопец? Дапытлівасць расла з кожнай хвілінай. Было падобна на тое, што на іх маленькім плывуне яшчэ ёсць людзі. Хто яны? Ці многа? Настаўнік выбраўся наперад і пакіраваўся акурат на голас, які то ўзмацняўся, то заціхаў. Следам за ім цішком, амаль на цыпках, рухаўся Ціток.

Яны мінулі імшыстую купіну. Недалёка ўжо быў і бераг. Праз чарот бачылася сінява возера. І тут той невядомы голас стаў зусім выразны — плача, стогне дзіця.

Яшчэ некалькі крокаў. І вось — стоп! Каля лазовага старога карча ляжала, раскінуўшы рукі, тварам угору, маладая жанчына ў шэрай сукенцы, у пярэстай з чырвонымі кветкамі хустцы. Каля яе, схіліўшы галоўку, сядзела дзяўчынка, тузала маленькімі ручкамі за апратку маці, сілячыся яе разбудзіць.

— Мама, тань! Мама, тань! — хліпала і стагнала яна.

— Маё ты дзіцятка! — прашаптаў Вадзім Мікалаевіч,

нахіліўся і падхапіў дзяўчынку на рукі. Дзяўчынка спалохалася незнаёмых, пачала тузацца, вырывацца, плакаць яшчэ мацней. Ціток стаў побач з настаўнікам, уважліва разглядваў жанчыну.

— Яна мёртвая. Пасінелыя рукі і твар. Няўжо гэта бомбай? — і дапытліва зірнуў на Вадзіма Мікалаевіча.

— Якая несправядлівасць! — стрымана-самотна ўсклікнуў настаўнік.— Няхай бы мяне забіла, а не яе, гэтую маці.

— Што вы гаворыце, Вадзім Мікалаевіч! — Ціток незадаволена зірнуў на старэйшага друга.— Мы павінны жыць. Смерць хай душыць ворагаў...

— Правільна, Ціток. Правільна!

Дзяўчынка тым часам нізашто не жадала сядзець на руках настаўніка. Была яна яшчэ маленькая, мела не болей паўтара года. Апранута па-сялянску ў доўгую, да пят, палатняную сукенку, моцна замурзаную наперадзе ад ежы. Галоўка рыжаватая, нічым непакрытая. На нагах — ніякай абуўкі. Шчокі мурзатыя ад размазаных слёз. Настаўнік стаў гушкаць яе на руках, імкнучыся заспакоіць. Дзяўчынка ад доўгага надрыўнага плачу пачала ікаць, захлынацца.

— Мілая, родная, перастань плакаць,— прасіў Вадзім Мікалаевіч і ўсё гладзіў даланёю па мяккіх рыжанькіх валасках.

— Ма... мама... Тань! — крычала і прасіла дзяўчынка і ручкамі цягнулася ўніз, да маці.

— Дзяўчынка перапалохалася,— сказаў Вадзім Мікалаевіч.— Бач, як дрыжыць. На, патрымай, Ціток.

Вадзім Мікалаевіч, перадаўшы дзяўчынку, дакрануўся рукой да лба кабеты.

— Халодны і мокры. Мурашкі поўзаюць па руках. Адкуль яна і хто? Нічога не мае пры сабе. Ага, во пад бокам нейкая дзяружка і бутэлечка. Гэта маёмасць дзяўчынкі. Гэта нам спатрэбіцца...— і адлажыў убок.— Забітая,— працягваў настаўнік.— Асколкам бомбы. Патыліца ў крыві... Маладая... Пакінула на свеце сірацінку. Эх!..

У Цітка нагарнуліся на вочы слёзы. Ён шмаргануў носам, адвярнуўся.

— Ты ідзі адсюль, Ціток, туды, на прагаліну, па сонейка. А я прыхаваю кабету. Каб нішто не трывожыла яе вечны сон.

Хлопец на момант апусціў дзяўчынку на траўку, узяў

дзяружку, абкруціў ёю дзіця, бутэлечку запіхнуў у кішэню штаноў, і не зважаючы на плач сіраціны, панёс яе праз зараснікі да абжытай прагаліны. Плакаў разам з дзяўчынкай і Ціток.

Дзень разгараўся. Над плывуном гуляў вецер, шматаў чубаты чарот, трос кволыя галінкі лазняку. Каля берагоў шумела ўскаламучанае хвалямі возера. А ўдалечыні, на поўначы, гула на розныя галасы блакада. Там таксама некага хавалі, аплаквалі, там таксама хадзіла яна, кастлявая пачвара-смерць. Каля высакаватага грудка Ціток запыніўся.

— Вось мы і прыйшлі, дзіцятка. Ну сціхні, ну супакойся,— прасіў хлопец і заглядваў у бледны тварык.— Мы з табой пагуляем. Ну, стань на ножкі. Умееш хадзіць сама, умееш?

Дзяўчынка, апынуўшыся ў доле, пахіснулася і села. Ціток паказаў ёй на жоўтыя апалыя лісты.

— Бач, як у нас хораша. Хочаш, спаймаю птушачку.

З гушчару чароту вынырнуў Вадзім Мікалаевіч.

— Глядзіце, прывыкае. Я ўжо крышку пагаварыў з ёю,— пахваліўся хлопец.

— Яна ўмее хадзіць, ставіў на ножкі? — пацікавіўся настаўнік. Твар яго быў журботны, у вачах, аднак, свяцілася ажыўленасць.

— Ставіў. Як жа. Ды яна адразу села. Ану, маленькая, устань,— падхапіў Ціток дзяўчынку пад рукі.— Топай ножкамі, топай,— і адбегся ўбок. Дзяўчынка скіравала позірк сваіх сініх-сініх, як пагодлівае неба, вачанят на хлопца, стаяла на месцы.

— Дода,— сказала яна і тут жа настойліва паўтарыла: — Дода!

— Што такое Дода? — здзівіўся хлопец, павярнуўшыся да настаўніка.

— Гэтак яна называе цябе.

— От прыдумала,— усміхнуўся хлопец.— Я не Дода, а Ціток. Разумееш, Ціток.

— Дода! — настойвала дзяўчынка на сваім.

— Перахрысціла,— уздыхнуў хлопец.— Ну што ты будзеш рабіць — перахрысціла... А як цябе завуць?

Дзяўчынка не разумела, ці што, пазірала з ранейшай цікаўнасцю на Цітка і забаўна міргала круглымі сінімі вачанятамі.

— Ты скажаш, як цябе завуць? — і тыцнуў пальцам у

яе грудзі. Яна хацела ўхапіцца за Ціткову руку, калыхнулася і пайшла. І добра пайшла, тапочучы маленькімі ножкамі.

— Мая ты родная,— зарадаваўся настаўнік і клопатна ўзяў яе за руку.— Ты мяне не баішся? То хадзем к возеру. Я табе шчочкі памыю... А то яны ў цябе закарэлі. Пойдзеш?

Дзяўчынка ўскінула ўгару галоўку з густымі пакамечанымі валасамі і як бы рашуча сказала:

— Тата!

Вадзім Мікалаевіч шчасліва ўсміхнуўся.

— Ну во, бач, пазнала. Мілая ты мая крошачка. Так, я твой буду тата. А вунь,— паказаў на Цітка,— твой Дода.

— Дода! — паўтарыла ўслед дзяўчынка.

— Ну цяпер паспрабуй адмовіцца ад гэтага імя! — бліснуў вясёлымі вачыма ў бок хлопца настаўнік.— Яна добра ведае сваю справу. Усіх назвала, асабліва цябе запрыкмеціла.

— А як яе імя, не хоча сказаць,— заўважыў Ціток.— От хітрая.

— Скажы: няхай сабе і хітрая. Ну, дзетка,— зухавата падміргнуў Вадзім Мікалаевіч і зазірнуў у паспакайнелы тварык дзяўчынкі,— пайшлі к возеру. Пайшлі!

— Па-ашлі! — паўтарыла малышка крышку на свой лад.

І вось яны ўтраіх, дружнай сямейкай, падаліся к берагу. Рухаліся памалу, няспешліва. Справа ад дзяўчынкі быў Вадзім Мікалаевіч, злева — Ціток. Яны ўважліва сачылі за дзіцем.

Досыць складаныя абставіны, у якія трапілі Вадзім Мікалаевіч і Ціток, цяпер яшчэ больш ускладняліся. На плечы лёг новы клопат, узніклі новыя праблемы.

Дзяўчынка, ступаючы на калючую траву, моршчылася, скардзілася:

— Вава!

— Баліць? — усцешліва перапытваў Ціток.— Прывыкай, прывыкай. Гэта невялікая бяда.

Убачыўшы азёрныя хвалі, дзіця палахліва заміргала вачаняткамі, павярнулася, паведаміла:

— Тата, шу-шу-шу.

— Ты не ведаеш, што гэта такое? Возера, дзетка, вада. Во пастой, мы цябе крыху абмыем, абпалошчам. І ножкі твае, і шчочкі. І ты будзеш прыгожая, як лялька.

— Лялька,— паўтарыла дзяўчынка і хораша, забаўна заўсміхалася.

Настаўнік зняў з Цітковай галавы кепку, зачарпнуў ёю вады, паднёс да дзяўчынкі. Ад халоднай вады яна пацепвала плечыкамі, хацела ўцякаць. Але яе прытрымліваў за сукенку Цiток.

— Не хочаш быць прыгожанькай? Ага, якая ты пястуня!

— Тата, Дода...— скардзілася Вадзіму Мікалаевічу дзяўчынка.

— Нехарошы твой Дода, нехарошы. Мы яго наб'ём. Добра?

Нарэшце дзіця дагледзелі. Вадзім Мікалаевіч і Цiток пераглянуліся: а што ж далей рабіць? Але дзяўчынка сама нагадвала:

— Тата, дай-дай,— і запіхнула ў рот пальцы, пачала смактаць.

— Бачыш, што ёй трэба — есці,— заклапочана прамовіў Вадзім Мікалаевіч, уздыхнуў і ўжо весялей дадаў: — Як жа, дзіцятка, мы цябе накормім. Ану, Цiток, цягні з торбы сухарык.

Як убачыла хлеб дзяўчынка, пацягнулася да яго вачыма і рукамі, адчайна залапатала:

— Ам, ам, ам!

— Галодная,— сказаў Цiток і аддаў сухарык Вадзіму Мікалаевічу.

Настаўнік зрабіў суслу, мяркуючы, што дзяўчынка даўжэй з ім будзе забаўляцца, дый не так востра стане данімаць яе голад.

Тым часам Вадзім Мікалаевіч дастаў з кішэні згорнутую ў некалькі столак просценькую жоўтую хусцінку, накінуў яе на галоўку дзяўчынкі і, дбала павязаўшы, сказаў:

— Мама табе перадала. Прасіла, каб ты расла вялікаявялікая.

— Лікая,— паўтарыла малышка і задаволена заўсміхалася. Яна сапла, смокчучы суслу.

Вадзім Мікалаевіч паважкаў у руцэ акраец-сухарык, які за гэтую раніцу прыкметна паменшаў, і разважна сказаў:

— Мы, Цiток, цяпер на яго не маем ніякага права.

— Вядома,— адгукнуўся хлопец.— Хіба я не разумею.

— Але насіць яго будзеш ты. У сваёй торбе. Карміць дзяўчынку будзем строга тры разы ў дзень.

— А самі? — ускінуў вочы на Вадзіма Мікалаевіча Ціток.— Чым жа мы самі будзем карміцца?

— Чым? Вось давай, хлопча, падумаем.

— Давайце,— згадзіўся Ціток, прыладжваючыся ямчэй на невялікай купіне.

У дол апусціўся і Вадзім Мікалаевіч. Ён прыгарнуў да сябе дзяўчынку, пацалаваў яе ў галоўку і некалькі хвілін пазіраў на шырокую разлегласць возера, на паўночны ў сіняватай асенняй смузе бераг.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

— Цяпер нас трое на плывуне,— пачаў настаўнік.— Бачыш, Ціток, як абыходзіцца з людзьмі лёс. Мы пахавалі невядомую кабету. Роўна паўсутак назад яна была жывая, здаровая. Пакінула нам дзіця, дзяўчынку. Што цяпер чакае ўсіх нас? Увесь раён балота Камар-мох, у тым ліку і возера, на якім мы так нечакана-негадана апынуліся, у блакадзе. Нават і сюды, на плывун, могуць заглянуць ворагі.

— Няўжо? — ускінуў трывожны позірк Ціток.— Тады як мы? У нас жа нічога няма...

— Бачыш, як сур'ёзна ўсё. Адзіная надзея на штых маёй вінтоўкі,— сказаў настаўнік і працягваў далей: — Паўтараю — існуе вялікая небяспека. Таму рашаем так: на беразе плывуна ва ўвесь рост не вытыркацца. Не пускаць блізка к берагу і дзяўчынку. Які-небудзь гітлеравец — можа, нават выпадкова — навядзе на плывун бінокль, і, калі ласка,— мы на мушцы...

— І праўда,— згадзіўся хлапчына, самотна разглядаючы ледзь бачную зямлю.— Убачаць... і ў нас мінамі, снарадамі. Тады капцы. Не ўратуемся. Не выратуем і дзяўчынку. Яна ж павінна жыць.

— Абавязкова павінна,— пацвердзіў настаўнік.— Трэба нейк пераправіць яе на бераг.— Ён мацней прытуліў дзяўчынку да сябе. Яна раз-пораз шморгала носікам і смактала, смактала, як самую салодкую цукерку, суслу.

— Фашысты могуць зрабіць высадку на плывуне. Тады...

— Я буду змагацца да канца,— заявіў харобра Ціток.

— Назіраць трэба за немцамі і за малою. Ты думаеш, мала дасць яна нам клопату. Калі ўжо бегае, хіба ўседзіць на месцы? Не паспееш азірнуцца, яна к берагу і — бултых у ваду!

— Дода,— сказала дзяўчынка, відаць, зразумеўшы, што гавораць пра яе, і ўважліва паглядзела на Вадзіма Мікалаевіча.

— Вось табе будзе і Дода. Так што ты,— паказаў на яе пальцам настаўнік,— будзь добрай дзяўчынкай, паслухмянай. Мы табе зробім буданчык, каб ты ў ім спала, хавалася ад дажджу.

— Зробім? Вы ж казалі раней, што нельга на плывуне ставіць хатак.

— Гэта было, братка, раней. А цяпер — зусім іншае. Во дзеля каго будзем старацца,— кіўнуў галавой на дзяўчынку.— А то яна можа застудзіцца.

— Буданчык! Ты будзеш сядзець у буданчыку,— весела загаманіў Цiток.— Зробім во такі вялізны...

— Трэба ж сёння яго і пачаць! Праўда, складана ўсё гэта. У нас ні сякеры, ні нажа.

— А штых? Ён жа востры,— сказаў Цiток.

— Бачыш, колькі клопату набіраецца. Цэлая куча. А гэта ж яшчэ не ўсё. Праблема нумар адзін — харч. Каб не завыць ваўкамі ад голаду, трэба праявіць вынаходлівасць. Па-мойму, трэба налаўчыцца лавіць рыбу. Яе ж у возеры шмат. А рыба — гэта не карэнні нейкіх траў.

— Добра было б, каб птушак неяк прымусіць несціся...

— Ты гэта ўжо фантазіруеш. Я магу пажадаць, каб манка пасыпалася з неба. Але ж яна не пасыплецца. Так і з птушкамі. Яны аднесліся. Зараз восень. Назад прыроду не павернеш.

— А можа, якія нясуцца і восенню.

— Такіх, браце, я не ведаю. Наогул яно было б няблага назбіраць яек і пачаставаць імі нашу маленькую красуню. Ты любіш кока? — па-бацькоўску ласкава звярнуўся настаўнік да дзіцяці, папраўляючы на яе галоўцы хусціну.

— Кока? Дай-дай...— загаманіла раптам дзяўчынка і затрапяталася, як птушка, на руках настаўніка. Яна патрабавальна глядзела ў вочы Вадзіму Мікалаевічу, потым павярнулася ў бок Цітка.

— Дай, дай,— працягвала тонкія худзенькія рукі, прасіла.

— Няма кока, няма,— разгарнуў і паказаў на пустыя далоні Ціток.— Мы пашукаем. Можа, дзе завалялася. Можа, дзе птушачка згубіла.

— Дай, дай кока,— з адчаем закрычала дзяўчынка і заплакала. Сусла вывалілася з рота, упала на калені Вадзіму Мікалаевічу. Ён падняў яго, падправіў і зноў хацеў даць дзяўчынцы. Але яна адбівалася рукамі, не хацела.

— Глядзі ты...— разгублена азірнуўся настаўнік.— Ухапілася за слова. Дай, і ўсё тут.

— Пайду ў лазняк, Вадзім Мікалаевіч, гляну туды-сюды. Можа, што і адшукаю...

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Цэлы дзень для Вадзіма Мікалаевіча і Цітка сцягнуўся ў добры год. Яны не маглі заняцца патрэбнай справай, адно ўвесь час важдаліся з дзяўчынкай. Яна аказалася на дзіва неспакойнай. Здаецца, сцішыцца, нечым зацікавіцца, а потым як пачне плакаць. І тады да яе цяжка падступіцца. Яна тузаецца, захлынаецца слязьмі, б'е ножкамі і ручкамі і ўсё гукае: «Мама!» Ціток лашчыў яе па галоўцы, цалаваў залацістыя кудзеркі, але і такая пяшчота мала дапамагала. Ён спрабаваў расказаць дзяўчынцы казкі. Спачатку пра курачку-рабку, потым пра пыха, што завёўся на агародзе ў бабкі, а потым успомніў «Рэпку». І казкі бракавала дзяўчынка, не слухала.

— Можа, ёй нешта баліць? — выказаў думку настаўнік.— Не можа быць, каб дзіця так душылася плачам.

— Ой, бедненькая...

Яны рашылі праверыць дзіця. Скінулі з яго сарафанчык. На ножках былі сінякі.

— Сінякі не могуць моцна балець,— сказаў Вадзім Мікалаевіч, апранаючы дзяўчынку.

— Можа, галоўка? Ад бомбы, ад выбуху?

— Яна б хапалася ручкамі...

— Тады жывоцік... Ад нашага сусла.

Яны распытвалі, што яе непакоіць, дзе баліць. Але яна ўжо нават забылася пра сваё мілае «Дода», нічога не хацела слухаць. Крычала, ікала ад глыбокага рыдання і паўтарала адно: «Мама». Вадзім Мікалаевіч не на жарт расхваляваўся. Няўжо дзіця захварэла? Значыць, яму цяпер можа дапамагчы толькі хіба доктар. Але дзе ж яны возь-

муць таго доктара? Глядзі, зойдзецца дзіця ад плачу і бо-лю і памрэ. Няўжо можа здарыцца такое? Вадзім Мікалаевіч ужо шкадаваў, што прапанаваў учора Цітку схавацца ад варожай пагоні ў чаротавым гаі. Няхай бы знайшлі нейкую іншую хованку. Пазбеглі б і праклятай бомбы і пакут, што зваліліся нечакана на іх галаву.

Але праз момант думкі гэтыя адкідваў прэч. «Ты ж салдат, партызан. Дзе твая вытрымка, цярплівасць? Ты павінен пагарджаць усім у імя жыцця і перамогі. Трэба ратаваць дзяўчынку... Трэба цвяроза і смела глядзець на ўсе стасункі, што складваюцца. Плача дзяўчынка. Ну і няхай. Па ўсім жа бачна, у яе няма жару. Шчочкі прыхарошаны румянцам, дзяўчынка не дрыжыць. У яе, відаць, нешта часовае і выпадковае».

Дзяўчынку гушкалі, насілі на руках, спявалі ёй песні. Калі яе насілі па плывуне і побач шамацеў чарот, яна на нейкі час супакойвалася. За гэта і ўхапіліся Цiток і настаўнік. Яны па чарзе бралі дзіця на рукі і сноўдаліся па глухіх зарасніках гаю. К вечару так нахадзіліся, што не чулі пад сабой ног.

Калі пачало змяркацца, дзяўчынка раптам заснула. Вадзім Мікалаевіч прынёс яе, прыціхлую, спыніўся каля грудка на паляне і за ўвесь дзень першы раз хораша ўсміхнуўся.

Цiток падскочыў да настаўніка. Яму нават не верылася, што дзіця маўчыць. Дзяўчынка цмокала ў сне ружовымі мяккімі губкамі і роўна спала.

— І яна стамілася,— сказаў са спачуваннем Цiток.— І адкуль у яе браліся слёзы? Цэлы дзень цяклі. Беднень-кая, нешта яе турбавала... Я дужа перапалохаўся. Думаў, хворасць прыкінулася, не ўратуем.

— Вядома, нешта ў яе ўсё-ткі балела...

— Паспіць ноч, і боль, глядзі, мінецца.

— Каб жа было так,— сказаў Вадзім Мікалаевіч.— А то, бачыш, як яна нам звязала рукі. Увесь дзень мы патрацілі на дзяўчынку. Нас жа чакаюць справы...

— Спаць хачу. Есці хачу. З гэтага праклятага плывуна ўцячы хачу,— з балючай прыкрасцю прызнаўся хлопец.

— Многа ты, хлопча, захацеў. Атрымаць жа можаш толькі адно — сон. Выбірай сабе месца і кладзіся. А я ўжо буду з дзяўчынкай. Хаця б яна не прачнулася, хаця б не крычала...

* * *

Заснуў Вадзім Мікалаевіч недзе ў глыбокую поўнач. Каля бока ў яго ціхенька пасапвала дзяўчынка. Яна добра прыгрэлася, нават абхапіла ручкамі яго шыю. Відаць, так яна прывыкла спаць з маці. Настаўнік як упаў у сон, дык ужо нічога не чуў: і як хроп паблізу Цітoк, і як варушылася ў яго пад пінжаком дзяўчынка.

Цiток прахапіўся першым. Сонца ўжо адбеглася ад небасхілу на круцізну неба і лавай святла затапляла зямлю. Спачатку хлопцу не хацелася варушыцца ад млявасці і адчування разбітасці ў целе. Моцна хацелася есці і піць. Гэтае пачуццё адразу падняло яго на ногі.

На пагорку, на чаротавай пасцелі, моцна спаў настаўнік. Дзяўчынка праз сон нешта мармытала, з роціка па шчацэ цякла слінка. Каля яе твару кружылася некалькі мух.

Цiток успомніў мінулы дзень, які добра даўся яму з Вадзімам Мікалаевічам у знакі. Ён глядзеў на дзяўчынку, стаіўшы дыханне. Баяўся, каб яна не прачнулася. Па-першае, было яшчэ рана. Па-другое, каб не пачала зноў, як учора, крый божа, плакаць. Асцярожна, на дыбках, хлопец адышоўся ад палянкі. Павярнуўся на поўдзень і аж ахнуў ад здзіўлення. Побач, за сцяной чароту, стаяў густы цёмны лес. Бераг, суша? У душы выбухнула радасць. Трэба хутчэй будзіць Вадзіма Мікалаевіча.

Але калі хлопец пільней прыгледзеўся да дрэў, што паўсталі перад ім, дык убачыў, што ў сярэдзіне іх узвышаецца векавы дуб са зламанай верхавінай. І адразу ўсё стала зразумелым. Яны, аказваецца, прысталі не да берага, а да вострава Чорны Дуб. Гэта самая што ні ёсць сярэдзіна Буян-возера.

Цітку нечаканае адкрыццё надало жвавасці і сілы. Ён, як той Калумб, пажадаў быць першым, каб агледзець сушу, што паслана ім спагадлівым лёсам. Крута павярнуўся і, не адрываючы позірку ад сцяны лесу, пашыбаваў па плывуне. Калі нарэшце развінуў рукамі апошнія зараслі чароту, убачыў чорную ваду, якая невялікай паласой адзяляла плывун і лясісты востраў. Закасаўшы штаны, хлопец скокнуў з плывуна, пабрыў па вадзе. Спачатку пад нагамі была ілістая глеба, а потым адчуўся пясчаны грунт.

І вось Цiток на востраве. Тут зусім па-іншаму пахла

паветра. Яно было насычана духам смалы і прэлага лісця. І чуўся працяглы, мілы сэрцу гул, які нараджаўся недзе ў дрэвах, паміж іх пругкімі вяршынямі. Ціток застыў ад утрапення. Стаяў некалькі хвілін не варушачыся. Векавы лес. Нейкія ранішнія зыкі ў ім. Ён нават не прыкідваў у думках — гэта добра, што іх плывун прыбіла да вострава, ці дрэнна. Ён радаваўся, шчыра і хораша, як добрай сустрэчы з нейкім прыемным госцем.

Вядома, хлопец не мог адолець спакусы прайсці па востраве, пабачыць, чым ён іх сустракае.

Ціток крочыў ціха. Пільна аглядаў кожную лапінку вострава, нават не мінаў крапіўнага зарасніку, абследаваў яго. Пахла грыбамі. Але дзе яны? Сустрэліся некалькі ядавітых мухамораў — ён прытаптаў іх. А вось зусім нібыта белы грыб, гэтакі крапак, з карычневай шапачкай, але, на жаль, таксама ядавіты, сатанінскі. Няхай бы хоць дзе сыраежачкі прабіліся. Не цярпелася ўбачыць іх, і вочы ліхаманкава скакалі па баках сасновага гаю. Стоп! Во рабіна ўбаку, стаіць сярод дубкоў нібы тая царыца. Голле аж згінаецца ад шчодрага ўраджаю. Ціток падскочыў, сагнуў ніжэйшую галіну, сарваў цяжкую гронку. Паднёс да носа, панюхаў. І, вядома, не ўтрываў, адшчыкнуў некалькі ягадзінак, кінуў у рот. Жмакануў зубамі і, шчаслівы, аж усміхнуўся. Эге! Дык яны цяпер не прападуць. Ягады гэтыя можна смела спажываць. Дзяўчынцы, як і вырашана, застаецца ўвесь акраец-сухарык. Ціток абмацаў торбу, правяраючы, ці ляжыць ён на месцы, ці не згублены. Тут жа ў торбу ўкінуў некалькі важкіх рабінавых гронак. Гэта — Вадзіму Мікалаевічу. Хай і ён паспытае, ацэніць дар вострава. Можна было павярнуць назад, вярнуцца на плывун. Але нешта прытрымлівала тут пабыць, на востраве, штурхала яго наперад. Хацелася глянуць на вунь тую паляну, што выразна бачылася праз частакол дрэў, хацелася праведаць і дробны асіннік, што стаяў уздоўж левага берага вострава. Маглі быць, ён адчуваў душой, знаходкі, разгаданы нейкія таямніцы.

Хлопец старанна ўбіраў у памяць кожны лапік вострава. Во пенчукі з даўнімі пацямнелымі зрэзамі, во каля расахатай хвойкі насыпана цэлая горка сасновых шышак. «Які майстар гэты дзяцел,— падумаў хлопец,— прыстасаваў расколіну ў ствале, і, калі ласка, гатовая сталоўка. Дзе ён зараз? Тут, на востраве, ці паляцеў на сушу, у бор?» Ціток падняў шышку, агледзеў яе. Яна была растапыраная,

сухая, лёгкая. Размахнуўся, шпурнуў паўз верх нізкаватых ялінак.

І раптам там, за ялінкамі, на дубках нешта — шусь — і паляцела. Ні то птушка, ні то штосьці іншае. Вочы схапілі мільгатлю жаўцізны. Хлопец кінуўся праз гушчар да палянкі. Наперадзе прагаліна, высокае, з кучаравымі воблакамі неба. Запыніўся. Насцярожыўся. Нідзе — нічога. І раптам на самай верхавіне хвойкі ўбачыў...

На дрэве, забаўна паблісківаючы вочкамі, сядзела вавёрачка. Хлапчына зарадаваўся такой нечаканай сустрэчы. Значыць, і звяркі ёсць на востраве.

Цiток падняў з долу сук, махнуў ім, і вавёрка спуджана, у адно імгненне, як маланка пераляцела на бліжэйшае дрэва, схавалася ў зялёным шатры. Калі тут вавёрка, значыць, яна мае свой дом-дупло. Яны яго павінны адшукаць, праверыць. Блізка зіма, і гаспадарлівы звярок, вядома, зрабіў сабе запасы: нацягаў у дупло і грыбоў і арэхаў. Сёетое з гэтых запасаў можна будзе ў яе, як кажуць, пазычыць. Не пашкадуе ж вавёрка свайго дабра галоднай дзяўчынцы. Падзеліцца!

Цiток вільнуў у адзін бок, у другі, стаў прыглядацца да дрэваў. І раптам пераскочыў цераз гнілую калоду і кінуўся, як бура, праз усю паляну. Там, наперадзе, тырчэў шырокі раскідзісты куст арэшніку. Нават здаля бачыліся гранёныя катахі лясных пладоў. Цiток падбег і, не ведаючы, што рабіць, упаў у траву. Над ім, блізенька над галавой, арэшына памахвала пругкімі галінкамі. Вунь арэх, вунь цэлы катах, вунь яшчэ парачка. А вышэй, угары... Куст зусім нечапаны. «Дзякуй табе, вавёрачка,— уголас падумаў Цiток.— Цяпер з голаду не памром». Хлопец устаў і ўжо зусім паважна і па-гаспадарску абышоў куст наўкола. Потым пачаў латашыць арэхі. Напакаваў іх амаль паўторбы. Вядома, не ўцярпеў, кідаў у рот, трушчыў, вылузваў зярняткі. Смаката! Цiток зусім быў шчаслівы. Хацелася яшчэ і яшчэ лушчыць, есці. Але стрымаўся. Там жа, на плывуне, Вадзім Мікалаевіч і дзяўчынка. І ім трэба. Яны галодныя, галодныя...

Побач нешта ціхенька затрашчала, зашчоўкала. Глянуў убок. Ага, гэта ж знаёмка. Назірае за ім, дзівіцца, што ён робіць каля арэшыны.

— Ну чаго табе? — звярнуўся да вавёркі Цiток.— Шкада арэхаў?

Вавёрка зляцела ўніз, у траву, і наўскасы прабегла паляну.

— Ты гарэзнічаеш, забаўляешся? Ану, хадзем да нашай дзяўчынкі, пацешыш яе. Дзяўчынка ў нас прыгожанькая, добрая, яна цябе не пакрыўдзіць. Будзеце разам есці арэшкі...

Вавёрка шмыгнула між ствалоў хвоек і зноў недзе стаілася, прапала.

Цімох адчуваў сябе як на свята. Што ні кажы, сустрэча з вострававам Чорны Дуб адбылася проста-такі ўрачыстая.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Першай угледзела Цітка малая. Яна рванулася з рук Вадзіма Мікалаевіча, які, відаць, толькі што прачнуўся, закрычала:

— Дода! Дода!

Настаўнік з цікаўнасцю сачыў, як кіравалася насустрач хлопцу дзяўчынка, няўпэўнена ступаючы па няроўнаму долу.

— Бач, засумавала без цябе,— настаўнік ляжаў, загароджаны з усіх бакоў зараснікам чароту, і аглядаў хлапечую постаць.— Адкуль ты? Мы, бач, заспаліся.

— Вы нічога не ведаеце?

— Нічога. А што такое? — здзіўлена сказаў настаўнік і ўстурбавана сеў, ладзячыся абуць боты.

— Мы, бачыце, больш не рухаемся. Стаім на моцным прыколе.

— Як стаім? На якім прыколе? — Вадзім Мікалаевіч падняўся з месца. Азірнуўся. Прама перад сабой убачыў непадалёку лясны гушчар.

— Ага, востраў! Матухны, зямля. Якая нечаканасць. Во гэта навіна!

— Навіна першага класа,— пацвердзіў паважна Цімох.

— Ты там ужо быў?

— Канешне.

— Ну і што?

— Востраў як востраў. Вядома, не раўня гэтаму балотнаму плывуну. Па крайняй меры, зямля, паветра і прастора. Нават сцежкі ёсць.

— Значыць, аб'яўляецца перасадка на востраў Чорны Дуб. Цікава, вельмі цікава. Я не думаў, што за паўтара

сутак мы праплывём столькі кіламетраў. І пацэлілі якраз на яго,— настаўнік зноў сеў у дол, хапатліва пачаў абувацца.

Дзяўчынка тым часам забаўлялася, поўзала побач, хадзіла, нешта бубніла сабе пад нос, радуючыся сонцу, цёплай прыгожай раніцы.

— Ну падыдзі бліжэй, пераступі купіну, пераступі,— паклікаў да сябе Ціток дзяўчынку. Яна, аднак, не адважылася ісці, упала, перапаўзла перашкоду і зноў усхапілася на ногі.

— Дода! — тыцнула рукой у бок Цітку.

— Які я табе Дода? Я — Ціток. Гэта ж лёгка прамовіць — Ціток! Ну паўтары, я дам табе нешта прыгожае-прыгожае.

— Дода! — зноў гукнула малая. Яна нават заўсміхалася, як бы пацвярджаючы сваю ўпартасць і настойлівасць. З гэтай жа шчырай прамяністай усмешкай павярнулася да настаўніка, пачуўшы яго здаволены смяшок.

— Ты яе нічым не купіш,— заўважыў Вадзім Мікалаевіч.— Перахрысціла дык перахрысціла!

— Як нічым? А вось куплю,— сказаў гулліва Ціток і шмаргануў за почапку торбы.— Цяпер ты скажаш — Ціток і атрымаеш з гэтай торбы-корбы...

— Ты нешта прынёс, Ціток? — зацікавіўся настаўнік.— Хваліся. Грыбкоў?

— Не,— адмоўна закруціў галавой хлопец.— Шукаў, але грыбоў, здаецца, на востраве няма.

— Гэта, браце, кепска...

— Кепска, ды не зусім. Затое мы маем...— Ціток запіхнуў руку ў торбу, выцягнуў рабінавую гронку і паказаў дзяўчынцы,— залатыя ягадкі. На, бяры, патрымай! І яшчэ...— Ціток павярнуўся да настаўніка: — Вадзім Мікалаевіч, заплюшчыце, калі ласка, вочы.

— Ну, паказвай, паказвай! — замахаў той рукамі.

— Ага, не хочаце плюшчыцца, думаеце, я забаўляюся, жартую, пакажу нейкую драбязу. Паглядзіце, якая драбяза. Во! — І раскрыў сціснутую далонь. На ёй ляжалі арэхі.

— Дзе ты іх знайшоў? На востраве ёсць арэшнік?

— Ёсць. Знайшоў адзін куст і, бачыце, колькі нарваў.

Хлопец зухавата раскалоў арэх, вылушчыў зярнятка, перадаў дзяўчынцы:

— Еш, малая. Перахрысціла мяне, але я не крыўдую. Еш...

— У нас і насельніцтва прыбаўляецца,— самавіта, нібы між іншым, паведаміў хлопец.

— Ты што? — аж аслупянеў настаўнік.— Якое насельніцтва?

— Вавёрка! — выгукнуў хлопец.— Іду і раптам бачу: мільг, як бы нешта жоўценькае...

Настаўнік з пільнай увагай слухаў хлопца. Спрытны які, глядзі, усё паспеў разведаць, дагледзець, адшукаць.

Настаўнік начапіў на плячо вінтоўку, падабраў з долу дзяружку, падаў Цітку.

— Гэта табе. А я несці буду дзяўчынку.

Невялікай, але дружнай сям'ёй яны пабрылі праз чарот плывуна да вострава. Першы ішоў Цітох, паказваў дарогу.

Раніца ў самым разгары. Вецер па-ранейшаму паўночны, свежы, весела гуляе, забаўляецца возерам, хмаркамі ў небе.

Цітох задзірае галаву, аглядае вышыню неба, здаволена ўсміхаецца сваім думкам, пачуццю.

Пратоку паміж плывуном і востравам прайшлі ўброд. Настаўнік нават не скідваў ботаў. Праўда, зрабіў ён гэта дарэмна. У пратоцы абрынуў у яміну, і вада налілася ў правы бот.

Во і бераг, адхонны, з нізінкай перад лесам. Як толькі ступіў на яго Вадзім Мікалаевіч, спыніўся, зняў шапку і, зачараваным позіркам углядаючыся ў лясное сутарэнне вострава, стрымана-ўсхвалявана сказаў:

— Дзень добры! Прымай нечаканых гасцей-падарожнікаў.

І Цітох сказаў «дзень добры», і дзяўчынка нешта мармытала, дзівуючыся сустрэчы з лесам, лужком, сапраўднай зямлёй.

— Во, глядзіце, Вадзім Мікалаевіч, стаіць, бы на выстаўцы.— Цітох прывёў адразу сваіх сяброў да арэшыны.— А катахі, катахі! Па чатыры-пяць арэхаў у кожным. Вы бачылі такое багацце?

— Не, Цітох, не бачыў,— зусім сур'ёзна адказаў настаўнік.— Глядзі, вісіць увесь ураджай. Як бы нас чакаў,— дадаў ён урачыста.— Калі так, мы яго ўвесь рэквізуем. Ану, абступай куст, Цітох, будзем латашыць...— і хвацка, задорна ўхапіўся за нізкую галіну.

Дзяўчынка сядзела ў траве, у прыполе яе ляжала кучка сарваных арэхаў, яна іх перабірала, забаўлялася. Каб

дастаць арэхі з самых высокіх галін, на арэшыну пакараскаўся Ціток.

— Глянь, братка,— нагадаў настаўнік,— як там на возеры? Спакойна?

Ціток ускінуў галаву, паправіў кепку, якая ледзь трымалася на макушцы, на нейкі момант застыг. Потым, як сапраўдны дазорца, пачаў дакладваць:

— Па гэты, правы, бок,— і паказаў рукой,— чыста аж да самага берага. Бачу наш плывун. У астатнія бакі прастора, самі ведаеце, не праглядваецца.

— Ну, калі ўсё спакойна, то і добра. Можам працаваць. Вунь той катах дастань! — паказаў настаўнік.— З-за лісця ты яго не заўважаеш...

Хлопец хвацка цягнуўся рукамі, ірваў арэхі і запіхваў іх, шаматлівыя, у жорсткай кажуры, за пазуху.

Памалу і неахвотна злез з арэшыны Ціток. У доле ён высыпаў з-за пазухі дарагі лясны скарб. Арэхі палузалі, пачысцілі, потым ссыпалі ў торбачку. Падарожнікі маглі быць больш-менш здаволены: лёс іх яшчэ пакуль песціў.

— А цяпер куды? — спытаў Ціток, паважна закідваючы торбачку за плячо.

— Куды? — бровы на пераноссі настаўніка сышліся.— Трэба вось гэтай прыгажуні ставіць хатку.

— Абавязкова,— згадзіўся хлопец.— Дзяружка дзяружкай, а хатку нічым не заменіш.

Тут жа, на паляне, пачалі раіцца, дзе пачынаць будоўлю. Вядома, лепш за ўсё буданчык паставіць на прагаліне, на зялёным роўным лужку, каб дзяўчынка мела прастору для гульняў і забаў. Але ваенная небяспека... Іменна яна, гэтая небяспека, вымусіла шукаць зусім іншы куточак. І яны ўтраіх рушылі ў глыб вострава, пад шаты дрэў. Сцяжына вяла праз гушчэчу ажынніку, у якім тырчэлі купчастыя нізенькія ялінкі. Тут ад дзікага зарасніку не бачна было нават зямлі. Нарэшце ажыннік скончыўся, пайшла роўная, з рэдкімі дрэвамі мясцовасць, зарослая рыжым папаратнікам.

Праз прасветы дрэў бачылася возера, яго сіняватая далячынь. Вадзім Мікалаевіч спыніўся, агледзеўся, апусціў на ногі дзяўчынку.

— Па-мойму, удалае месца. Тут будзе наша стаянка. І вада блізка, і будаўнічы матэрыял пад рукой. Ну як, Ціток, згода? Тады забівай калок — будавацца будзем іменна тут.

Хлопец старанна, са строгай урачыстасцю выканаў сімвалічны рытуал заснавання стаянкі.

— Калок на месцы,— разагнуўся Цітон і сцёр з твару пот. Невялікая работа, а даецца ў знакі.— А што далей?

— Ты хочаш ведаць праект будана?

— І праект, і тое, чым і з чаго будзем яго рабіць.

— Дык вось задача наша такая: буданчык не павінен выпіраць на вочы. Значыць, будзе маленькі, паставім невялікі каркас з палак, потым на іх накладзём ажынніку з аднаго і другога боку, прыціснем яго тонкім дзёрнам, а зверху зноў навалім ажынніку і папаратніку. І атрымаецца ён як цыганская буда.

— І будзем во так залазіць,— паказаў Цітон,— упаўзаць на жываце, як яшчаркі.

— Разумею, нязручна,— заўважыў Вадзім Мікалаевіч,— але палац будаваць нам нельга.

— Ну, не палац, а можна было б трошкі вышэй. Дзяўчынка ж... Для яе будуем...

— Яна прыладкуецца і ў гэткай. Галоўнае, каб у ёй трымалася цяпло, каб была сякая-такая хованка ад ветру і дажджу. У мяне ўсё. Што хочаш дадаць, гавары.

— Хай усё будзе так, Вадзім Мікалаевіч,— згадзіўся Цітон. Яму не цярпелася. У ім угадваўся сялянскі працаўнік. І сапраўды, калі пачалі абазначаць пляцоўку пад буду і расчышчаць яе, хлопец падаў нямала карысных парад. Увішна і хвацка рабіў ён справу.

Які будзе каркас, Вадзім Мікалаевіч паказаў, уваткнуўшы ў зямлю некалькі палак. Буда атрымлівалася не такая ўжо і нізкая, у ёй можна было свабодна сядзець.

— Глянь, малышка,— наблізіўся Цітон да дзіцяці, паказаў ёй рукой,— якая ў цябе будзе хатка. Тут будзем казкі табе расказваць...

— Дода! — любімым словам выказала яна сваю радасць.

Зноў Дода. Хлопец нездаволена пакруціў галавой, потым сеў каля дзяўчынкі і, пазіраючы ёй у вочы, спытаў:

— А як цябе зваць? Алеся?

— Ала,— крута вымавіла малая.

— Як, як? Ала? — устрапянуўся хлопец і ў радасці павярнуўся да настаўніка.— Чуеце, што яна кажа? Яна назвалася. Яна — Ала.

— Алачка! — усклікнуў Вадзім Мікалаевіч.— Хадзі да мяне, хадзі, маленькая,— і паманіў рукамі.

Дзяўчынка ажывілася, усміхнулася сінімі вачаняткамі, намерылася ісці. Грудзьмі нечакана натыкнулася на лапіну елкі, абкалолася, зморшчылася і ўпала. Аднак не заплакала.

Ціток падбег, падхапіў дзяўчынку на рукі, вынес у бок ад будаўнічай пляцоўкі, на прагаліну. Сабраў шышак, а ў дадатак — жаўтлявых свежых апалых лісткоў ад вяза, паклаў ёй у прыпол, маўляў, сядзі, забаўляйся.

Тым часам Вадзім Мікалаевіч і Ціток узяліся за працу. Вадзім Мікалаевіч адамкнуў ад вінтоўкі штых, адышоўся ў густаваты асіннік і пачаў нарыхтоўваць драўніну. Ціток на бліжэйшым лужку каля берага возера аддзіраў пласты дзёрну.

Сонца паднялося ўжо ў купал неба. Было цёпла, але не горача. Над возерам крычалі беспerастанку чайкі. Дзесьці высока ўгары праляцелі кані. Яны выцінали тужлівы крык, які нагадваў нешта падобнае на слова «пі-і-ць, пі-і-ць». У народзе існуе прыкмета: калі крычаць гэтыя птушкі, чакай дажджу, яны абавязкова напросяць яго.

Цёмных хмар на небе не было, але ці доўга ім з'явіцца. Вылезуць з-за небасхілу, раскінуць па баках важкаватыя крылы, і праз нейкія гадзіны ўсё стане інакшым у вышыні і на зямлі.

І Ціток быў здаволены, што яны пачалі рабіць сабе сякое-такое жытло.

Стараўся хлопец з усіх сіл, аж у пот кінула. Дзёран аддзіраўся з цяжкасцю, пад ім былі вузлы карэння, мурашыныя гнёзды і норкі. Трапляліся дажджавыя чарвякі. Эх, не было ніякай драціны. Начапілі б на яе, закінулі б каля берага, і, глядзіш, паквапіўся б ёрш ці акунь. Ціток лічыўся ў вёсцы неблагім рыбаловам. А во тут не было як паказаць сваю хватку.

Але клопат аб рыбе — на пасля. Напластаваўшы цэлую горку дзёрну, Ціток пачаў яго пераносіць.

Вадзім Мікалаевіч ужо ўбіваў у грунт калкі, рабіў каркас буды. Убачыўшы хлопца з цяжкай ношай, ускінуў галаву і сказаў:

— Мы пра адну справу забыліся. Не здагадваешся?

Хлопец паклаў травяністыя пліты пад ногі, абабіў з рук гразь, прыгледзеўся да будоўлі. І тут жа, усміхнуўшыся, сказаў:

— Няма чым завязаць калкі! Ну то я хутка. Лыка тут хапае.

— Во-во, брат, лыка патрэбна пазарэз,— пацвердзіў галоўны будаўнік.

Ціток абцёр узмакрэлы лоб, павярнуўся, прыкідваючы, дзе лепшы, маладзейшы лазняк. Потым узяў штых, што тырчэў, уваткнуты ў бярэзіну, і пасігаў праз зараснік у паўночны бок вострава.

Вадзіму Мікалаевічу ўсё больш і больш падабаўся няспешлівы і малагаваркі напарнік. Галоўнае, не ўпадае ў адчай, не раскісае. Іншыя на яго месцы маглі б і разгубіцца. А ён усё — і гора, і цяжкасці — пераносіць стрымана, сурова, быццам гэта так і трэба.

Праз паўгадзіны Ціток вярнуўся назад — на плячы яго віселі доўгія дзягі. І праца на пляцоўцы закіпела. Вядома, каб былі цвікі ці дрот, усё б рабілася больш надзейна і трывала.

Неўзабаве каркас быў гатовы. Цяпер у якасці будаўнічага матэрыялу пайшлі і сцябліны ажынніку, і елачны лапняк, і дзёран, і папаратнік. Буда набывала абрысы. Вызначыўся круглы, як у пячору, уваход. Ціток некалькі разоў прымерваўся, ці зручна ў яго лазіць. Потым прынёс дзяўчынку.

— Ну, Алачка, глянь у хатку. Падабаецца табе? — І пусціў яе ў цяністы праём. Яна смела ўвайшла, азірнулася.

— Дода! — сказала Алачка і заміргала вачаняткамі. Разам яны забраліся ў паўзмрочную, з шаматлівым лісцяным долам буду. Вадзім Мікалаевіч стаяў убаку, любаваўся.

Яны пачынаюць абжываць востраў.

Работы хапіла аж да самага вечара. Для буды выбрана такое месца, што толькі пільнае вока магло яе заўважыць.

У будзе сабраліся разам, слухалі, як шуміць лес, як непадалёку плюскоча хвалямі возера — было тут утульна і хораша.

Рашылі адзначыць заканчэнне работ багатай вячэрай. Алачка атрымала досыць ладны кавалачак сухарыка, яго размачвалі ў берасцянай конаўцы, якую змайстраваў Вадзім Мікалаевіч. Пасля першай стравы падалі другую — арэхавыя зярняты. Яна так іх смакавала, аж заплюшчыла вочы. Дазволілі сабе паесці і настаўнік і Ціток.

Ад працы чулася знямога, гулі ногі, але настрой будаўнікоў быў някепскі. Яны нават рагаталі. Алачка, заглушыўшы голад, стала жвавай, неўтрапёнай, кулялася на доле, клапатліва гаварыла нейкія прыдуманыя ёю словы.

Перад самым захадам сонца разам пайшлі да Чорнага дуба.

Гэта быў сапраўдны лясны велікан. Ствол шурпаты, закарэлы, у некалькі абхватаў, стаіць прама і горда, абкружаны цяжкімі вузлаватымі галінамі. Паміж лісця бачна шмат даспелых жалудоў. Верхавіна дуба зламалася. Ці гэта некалі громам ударыла, ці то бура зламала. З усходняга боку камель велікана з чорнай ямай-адмецінай. Некалі каля яго раскладалі вогнішча і во апяклі яго на ўсё жыццё.

— Ну і волат! — усклікнуў Цiток, пазіраючы ўгору.— Аж шапка спадае.

— Ніколі не бачыў?

— Ніколі.

— Я таксама першы раз на востраве. А дуб, скажу,— цуд! Цяжкавата ўскараскацца на яго, але палезу, пагляджу.

— І я з вамі,— папрасіў Цiток.

— Нельга, пасля! Алачка будзе плакаць.

Прыстроіўся Вадзім Мікалаевіч да ствала, ухапіўся за выступы кары і палез. Калі дасягнуў верхавіны, сеў на галіну, павярнуўся тварам на ўсход. Возера прыцішэла, беглі хвалі, але плёхаліся не так рэзка і зласліва, як удзень. На ўсім яго прасцягу, што адкрываўся перад позіркам, не было прыкметна ніводнай кропкі ці рыскі, якія б сведчылі, што па ім рухаецца нешта жывое.

Калі настаўнік павярнуўся ў бок поўначы, твар яго адразу спахмурнеў. Адначасна ў вачах успыхнулі агеньчыкі трывогі. Яна была зразумелай. Вадзім Мікалаевіч бачыў, як над абшарам балота то тут, то там віліся дымы. Чуў, як адтуль даносіліся трывожныя выбухі,— усё гэта пацвярджала — партызаны змагаюцца, яны не скарыліся перад ворагамі.

На поўдні, з-за небасхілу, вылазіла чорным клінам хмара. Яна ішла насупраць ветру. На хмары ўжо коратка жыгалі маланкі. «Ну вось і напрасілі кані піць,— падумаў настаўнік.— Ідзе навальніца. Хай. Яны яе сустракаюць як належыць — у цёплай утульнай будзе».

Вядома, калі настаўнік спусціўся на зямлю, на дуб палез Цiток. Ён сядзеў на дрэве доўга, разглядаў наваколле, дакладваў аб усім убачаным уніз.

— А востраў наш і не такі вялікі — у даўжыню метраў трыста — чатырыста, ушыркі метраў дзвесце. І паля-

ны ёсць — вунь адна, другая. А паўднёвы бераг амаль без лесу, адны кусты.

Вярталіся ад дуба здаволеныя. Вядома, неслі некалькі жменяў жалудоў. Для Алачкі.

Вадзім Мікалаевіч паклаў дзяўчынку спаць. Ледзьве ўгаманілі яе. Аднак калі прыкрылі дзяружкай і пачалі расказваць пра курку-рабку, яна сцішылася, засапла роўна і спакойна. Хутка яе змарыў сон.

Ціток і настаўнік ляжалі па баках ад дзяўчынкі, пазіралі ў адтуліну буды, што паволі засланялася змрокам, думалі аб адгарэўшым дні, аб пражытым. Нарэшце Вадзім Мікалаевіч неспакойна варухнуўся, сказаў:

— Ціток, што ж было з тваім дзядзькам? І з тым немцам-антыфашыстам?

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

Што з тым дзядзькам? Эх, дзядзька, дзядзька! Дайсці да такога жыцця. Няхай ты гандляваў у краме хамутамі, селядцамі, халвой, добра ці дрэнна выходзіла,— не так і важна, аднак цябе лічылі за чалавека. А зараз? Да чаго дайшоў, да чаго дакаціўся — прадаваць людзей. І ты многа хацеў зарабіць на іх — не толькі ўласны спакой, а і павагу хцівых прышэльцаў. Але...

...Вяртаўся Ціток дамоў ужо ноччу. Бацька стаяў пры варотах, чакаў сына. І як толькі на вуліцы мільганула хлапечая постаць, ён загадзя расчыніў яму веснічкі.

— Ну і кляў я сам сябе,— сказаў ён, глушачы ў душы трывогу.— Думаў, немаведама што здарылася. Ноч, а цябе няма і няма...

Яны адзін за адным увайшлі ў сенцы і тут жа запыніліся. Пры сцяне стаяў тапчан з накіданымі лахманамі. Ціток сеў на яго край, уздыхнуў, пасля матлянуў угору рыжы віхор, які збіўся на лоб, і сказаў:

— Няхай бы не мне хадзіць на гэта заданне.

— Чаму, сынок? — азадачана ўсклікнуў бацька.— Няўжо на непрыемнасць напароўся? Мне перадалі, што немцы цябе прымусілі працаваць на кухні. Я нават узрадаваўся: зручней будзе.

— «Зручней, зручней»,— паўтарыў нездаволены хлопец. Замаўчаў, клопатна заматляў абвіслымі нагамі.

— Дык ты высачыў таго нягодніка? Ці ўпустую ўбіў час?

— Дзядзьку сустрэў, Макара Цапка,— выдыхнуў ціха хлопец. Бацька не зразумеў і аж узлаваўся:

— Што ты чаўпеш пра дзядзьку. Жыве, чэрці яго не ўхапілі. Ты вось мне пра даносчыка раскажы. Бачыў? Прыходзіў?

— Даносчык — дзядзька... Дзядзька Макар.

— Ну ты! — хоць у сенцах было цёмна, Ціток не бачыў, і хутчэй уявіў, як папераджальна, нібы каб пагасіць нядобры злы нагавор, узляцела ўгару бацькава рука.— Ты асцярожней з такімі жартамі...

— Гэта не жарты, тато. Гэта — праўда. Ён прыходзіў у камендатуру ў поцемках, калі звечарэла, ён...

— Не можа быць! — тузануўся бацька. Потым, паспакайнеўшы, упалым голасам зазначыў: — А бацюхны... Ну раскажы, раскажы. Можа, нейкая памылка, непаразуменне.

Ціток па парадку пра ўсё расказаў. У хляве, чутно было, тупала карова. Недзе ў кутку сенцаў шкрабалася мыш. Доўга сядзелі бацька і сын, маўчалі нібы скамянелыя. Праз прачыненыя дзверы цадзіўся ветрык-скразнячок.

— І праўда, сынок, няхай бы ты не хадзіў на такое заданне,— самотны, прыгнечаны нядобрай навіной, уздыхнуў бацька.— Макар! От звярына! І рэвальвер, кажаш, мае? Ну то як жа цяпер нам быць? Жончын брат, швагер. І кім стаў? Шпіёнам, даносчыкам!..

— У камендатуру, тато, прывезлі нейкіх людзей. Я бачыў, як іх вялі па двары, білі прыкладамі,— у дадатак паведаміў Ціток.

— Добра, сынку. Пра тое, што ты ведаеш,— нікому. Ні-ні. Не дай бог...

— Разумею, тато.

— Нічога не павінна ведаць і маці.

— Таксама разумею.

Яны яшчэ сядзелі мо з паўгадзіны, уздыхалі, нудзіліся ад трывогі і самоты. Бацька быў у глыбокім роздуме.

Пасля пра Макара-дзядзьку больш не ўспаміналі, не гаварылі. Але Цітку закарцела выкрасці нагледжаны дзядзькаў рэвальвер. Яму нават не спалася праз гэта. Хацеў быў параіцца з бацькам, як гэта найлепш зрабіць, але, бачачы, як ён балюча ўспрыняў непрыемную вестку аб сваяку, не рашыўся.

Нізіна з альховым густым гаем была з наступнага вечара ўзята пад пагляд. Хлопец, як толькі змяркалася, кідаў усе дамашнія справы і, пераскочыўшы цераз жардзяную загарадзь двара, выходзіў на загуменныя сцежкі. А па іх ходка і ціха дабіраўся на ўскрай нізіны.

Два вечары ўзапар патраціў хлопец. На трэці ісці расхацелася, імжэў дождж, усхадзіўся халодны вецер. Хлопец меркаваў, што і дзядзька такой парой наўрад ці вылезе са сваёй хаты.

Але нейкі ўнутраны голас падказваў: ідзі.

Накінуўшы на плечы старэнькую світку, хлопец ціхутка прычыніў за сабой дзверы. Усё неба было абложана хмарамі. Дождж ледзь-ледзь сіпеў, але ўжо на сцежках і дарогах былі лужыны. Цiток напрасткі, праз бульбяное поле, палыгаў да альховага ляска. Вядома, абрасіўся ад бульбоўніку па самы пояс. Крочыў і шкадаваў, што адважыўся ісці, будзе толькі дарэмна патрачаны час.

Але дзядзька Макар, аказваецца, сапраўды гасцяваў у камендатуры. Як толькі Ціток запусціў руку ў дупло дрэва, адчуў халадок жалеза. Ён хапатліва сціснуў пальцы, ушчапёрыўся за ствол рэвальвера. Ага, дзядзька Макар! Цяпер ты абяззброены.

Супакоіўся хлопец толькі ў полі, на момант прыпыніўся. Паглядзеў на рэвальвер. Руля з мушкай на канцы, барабан з канаўкамі, з выразамі на баках. У барабане ледзь угадваліся патроны.

Нават не верылася хлопцу, што ён стаіць са зброяй. Дзядзька недзе раздабыў рэвальвер. Насіў для храбрасці, на ўсякі выпадак.

Вярнуўшыся дамоў, Ціток схаваў рэвальвер на вышках, у саламянай страсе хлява. Збіраўся неяк выбрацца ў лес, каб прылаўчыцца трапна страляць.

Убачыўшы, што з дупла дрэва знік рэвальвер, Макар Цапок там жа, у альховым гаі, ледзь не ўзвыў, як схоплены пасткай воўк. Кідаўся то ў адзін бок нізіны, то ў другі, думаў угледзець і затрымаць віноўніка, што хадзіў па яго следзе. Але было позна. Ціток тым часам ужо сядзеў на вышках у сухім сене і важкаў у руках зброю.

Зразумеў Макар, што прапажа рэвальвера — не самая горшая з непрыемнасцей. Трэба чакаць іншую, больш грозную. Бо той, хто ўпільнаваў рэвальвер, уведаў, вядома, і аб ягоных частых наведваннях камендатуры. А гэта

ўжо страшна. Могуць у яго адабраць не толькі рэвальвер, але і душу.

Спужаўся Макар, сціснуўся ўвесь ад прадчування небяспекі. І першай справай кінуўся на дапамогу да немцаў. «Так і так, маўляў, вазьміце пад ахову. Служыў вам верна і буду служыць». Камендант выслухаў Макара, пераканаў, што нічога з ім кепскага не здарыцца, жандармерыя будзе напагатове.

Цітковага бацьку ў апошнія дні таксама тачыла трывога. Гэта ж падштурхнуў нейкі д'ябал сваяка-швагера пад рабрыну, палез, як тая муха, у смалу. І бяды не чуе. І рашыў Пракоп тайны перад людзьмі не раскрываць, пайсці да Макара, у яго дом, і там па-сваяцку, проста, шчыра яны аб усім пагамоняць.

Выбраў вольны дзень — якраз была субота — і пасля паўдня падаўся ў Лахавічы. Цітка, калі адыходзіў бацька да сваяка, дома не было, па бабоўнік на балота пайшоў. Прыцёг на плячах бабоўніку добрую вязанку. Спытаў у маці, дзе бацька. Яна сказала. Хлопец не на жарт устурбаваўся. Разумеў: з дзядзькам у бацькі будзе крутая размова. Хуценька пераадзеўшыся ў больш чыстую вопратку, прыхапіў у кішэню рэвальвер і бегма выскачыў на дарогу, што вяла ў Лахавічы. Але хлопец спазніўся. Там ужо ўзвіхурыліся такія падзеі, што аж зямля пад нагамі захадзіла...

Ціткоў бацька ўгледзеў швагра на двары. Той ачэсваў вялізную калоду, відаць, меўся мяняць у хаце падваліну. Падышоў, павітаўся.

Макар глянуў на госця, адказаў на прывітанне, потым адклаў убок сякеру, сеў на калоду і прапанаваў закурыць. У закрутку яму сыпануў Макар дробнае адборнае махоркі.

— Яшчэ наша, савецкая? — пацікавіўся Пракоп, Ціткоў бацька.

— Канчаецца,— не падымаючы вачэй, буркнуў Макар.— Што тады ў капшук насыпаць? Чорт мацер яго ведае. Хоць сушы альховае лісце...

— Ат, не прыбядняйся, швагра,— кінуў проста Пракоп.— Заўсёды ты ныеш. Усё табе мала...

Макар з нядобрай падазронасцю зірнуў сваяку ў твар. Чмыхнуў у вусы, нецярпліва сказаў:

— Што-што, а мяне ты не вучы. Не пад'ялдыківай.

— А вось, швагруха, і павучу. Толькі ты не крыўдуй,

што скажу. Так нельга жыць, як ты жывеш,— цвёрда адрэзаў Пракоп.

— Што? — вызверыўся Макар. Рукі яго затрэсліся, табака высыпалася з паперкі.— Ага, ты за мной цікуеш? А цяпер прыйшоў? Гад ты няшчасны, гад падкалодны! Што табе тут трэба? Ану, выматвай з майго двара,— падхапіўся ды за сякеру.

Пракоп не спадзяваўся, што так узарвецца, раз'ятрыцца сваяк. Не паспеў ён адскочыць ад швагра некалькі кроцаў, як сякера кульнулася паміж яго ног і лязом чыркаў па абцасе чобата. Каб крыху вышэй — тут і сеў бы ў нула, пясок, акрываўлены. Уцякаць, як хлапчук, ад бандыта Пракоп не пасмеў.

Яны наляцелі адзін на аднаго, схапіліся загрудкі. Ну і пайшла валтузня.

З Макаравай хаты выбеглі сыны, двое падлеткаў. Яны кінуліся на дапамогу бацьку, які ляжаў унізе, роў, як вол, і імкнуўся вылузацца. Адзін з падлеткаў схапіў Пракопа за ногі, другі стаў біць па галаве. Ціткоў бацька неўзабаве апынуўся ўнізе.

— Біце, сынкі, акаяннага! Насмерць біце. Цяпер наша сіла, наша права. Здохне — так яму і трэба. Указчык знайшоўся...

У рот Пракопу набіўся пясок, ён хацеў папрасіць літасці, спагады, але з рота вылятала нешта непаразумелае.

Наўзабаве ў двор нахапіліся паліцаі. Пракопа арыштавалі. Звязалі яму рукі і павялі па вёсцы.

Цiток ужо быў у Лахавічах, бег запрыгуменнем і чуў узбуджаную гаману на вуліцы. Ад нядобрага прадчування ёкнула сэрца. Кінуўся праз нечы двор, каб зірнуць на сярэдзіну вёскі. Напаказ не вытыркаўся, ведаў: небяспечна. Прытаіўся ў кутку каля плота, лёг у траву і стаў сачыць за вуліцай праз шчыліны частакола. З левага ад ракі канца вёскі з'явілася купка людзей. Цiток адразу пазнаў паліцыянтаў па карабінах і павязках на рукавах. На галавах у іх былі пілоткі.

Уперадзе блытаным, зняможаным крокам ішоў бацька, натужна кашляў. Галава нізка апушчана, твар у брудзе і крыві, на грудзях у шматкі парваная новая сацінавая кашуля, якую нядаўна пашыла сваімі рукамі маці. Слёзы пасыпаліся з вачэй Цітка.

«Што я нарабіў? Гэта ж праз мяне ўсё. Навошта ўзяў рэвальвер, навошта?» Тахкала ў грудзях сэрца, аж гулі

скроні. Сам сабе не знаходзіў месца, некалькі разоў, каб ніхто не бачыў, плакаў.

Толькі ўвечары вярнуўся хлопец дамоў. Маці пра вялікую бяду нічога не сказаў. Думаў: хай пасля, можа, што зменіцца, можа, бацька ўцячэ альбо яго адпусцяць.

Назаўтра ўжо ўвесь Сыры Бор гудзеў навіной: Пракоп Каляда арыштаваны. Ніхто асаблівых падрабязнасцей не ведаў. Расказалі толькі, быццам віна яго невялікая — пабіўся са шваграм. За гэта немцы, маўляў, не павінны моцна пакараць. Патрымаюць дзень-два ў астрозе і выпусцяць.

Ціток ведаў, бацьку не пашкадаваў Макар, не пашкадуюць і немцы.

На трэці дзень Ціткова маці сабралася і панесла мужу ў Міткавічы перадачу. Паўдня стаяла пры астрозе, на праміл бог прасіла вартаўнікоў узяць сабраны сякі-такі харч. Перадачу ў яе ўзялі, а праз паўгадзіны паведамілі, што Пракопа ў астрозе няма.

— Як няма? — здзівілася маці.— То яго хіба выпусцілі?

— Кажам — няма, значыць — няма...— развёў рукамі паліцай, што стаяў у прахадной.

Маці была ўзрадавалася, ці не дома ён ужо. Пабіўся са шваграм. Чаго не бывае? Але нейкі мужчына, што быў у натоўпе такіх, як і яна, шапнуў: «Гора ў вас, жанчына, гора. Пракопа Каляду сёння ноччу расстралялі».

Так Ціток згубіў бацьку. Ураз, нечакана згубіў. Хлопцу ўсё не верылася, што мог загінуць такі дужы, такі дбайны і працавіты татуля. Чакаў: вось-вось прыйдзе, вось-вось з'явіцца на шляху, заверне на загуменныя сцежкі, якімі ён любіў хадзіць. Няўцешна, горка плакаў Ціток. Потым як бы агледзеўся. У навакольных вёсках таксама хапалі людзей, вешалі і расстрэльвалі. Сцяў зубы хлопец. Прымусіў сябе быць стрыманым, мужным. Тут не ён вінаваты, не рэвальвер, на які, можа, неразумна пакваліўся, вінаваты немцы, фашысты — яны прынеслі на родную зямлю смерць і руйнаванне, вар'яцкія парадкі. Ім трэба помсціць, іх трэба бязлітасна і адчайна, днём і ноччу біць і знішчаць. А Макар? Няўжо ён будзе жыць на свеце пасля такога ўчынку? Здраднік, зверына, чорны чалавек?

Ціток Каляда быў намерыўся на самае страшнае. Калі так, пойдзеш і ты ў магілу! Рыхтаваўся, распрацоўваў план, дзе і як падцікаваць, калі Макар будзе адзін.

Але Цітка апярэдзілі добрыя людзі. Аднойчы раніцай прыбегла ў хату Цапка суседка, успляснула рукамі: «Ах кума, Волечка, то ты нічога не ведаеш. Няма ж твайго Макара. Ноччу на вуліцы яго застрэлілі...»

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

Ноччу прыйшла навальніца. Тузалася і грымела неба. Яркі фасфарычны бляскат распорваў ноч, потым кідаў яе са змрокам назад, на зямлю, яшчэ больш чорную і непраглядную. З груvasткіх launched патокі.

Вадзім Мікалаевіч прахапіўся і ўстрывожыўся: хаця б не размыла іх збудаванне. У адным месцы ў будзе закапала. Ціток і Ала нічога не чулі. Сон іх быў моцны.

Вадзім Мікалаевіч выйшаў пад лівень і, пракапаўшы перад уваходам раўчук, адводзіў дажджавую ваду ў бок возера. Потым стаяў расправены, у адной майцы, і любаваўся гэтай, відаць, апошняй за лета цёплай і ўрачыстасвяточнай навальніцай. Яна была шырокая, на ўсё неба, і зіхотная, як казка. Яна нагадвала сабой штосьці вялікае і значнае, штосьці жаданае і патрэбнае. Вось каб усё перайначылася за такую ноч і прыйшла Перамога. Яна ж павінна прыйсці. Абавязкова. На велізарным фронце ад Мурманска да Чорнага мора ідзе змаганне савецкіх салдат з фашысцкімі ордамі. Фашысты адсоўваюцца назад, скончыўся іх славуты бліцкрыг. Каля Волгі ў Сталінградзе іх прыціснулі нашы так, што, кажуць, плакаў Гітлер. А пад Курскам якая бітва адбылася. І там грымнула спружына фронту — і проста па зубах таго ж самага Гітлера. Ведай, сусветны бандыт, па чым фунт ліха, ведай, як змагаецца савецкі народ за сваю Радзіму, за сваю незалежнасць. Значыць, яна, перамога, ідзе, набліжаецца.

Якой жа парой чакаць яе — вясной ці ўвосень? Калі прыйдзе яна, загрукоча ўрачыстымі залпамі гармат, зазвініць ад краю ў край маршамі і песнямі. Няўжо і ён будзе бачыць яе, Перамогу, чуць яе шчаслівую хаду? Няўжо рассунецца чорная ноч і выблісне сонца, каб даваць усяму жыццё, уцеху, буяную сілу квітнення і лікавання?

Дзе ты, навальніца перамогі? На якіх вятрах ляціш, на якіх дарогах і шляхах трапечуць твае суровыя сцягі?

Прарвіся сёння праз ноч, стань над Буян-возерам, над балотам Камар-мох, дапамажы партызанам. Яны твае

дзеці, твае байцы. Чуеш, як цяжка ім, бясконца цяжка. Яны змагаюцца — б'юцца з чужакамі, заціснутыя блакадай, галодныя, змардаваныя, знясіленыя, не маючы ў дастатку ні патронаў, ні гранат. Там не толькі партызаны, там іх жонкі, сёстры, дзеці, старыя бацькі. Тысячы людзей, тысячы чалавечых душ, у якія нацэлены кулі, гарматы, якіх душыць кастлявая рука голаду.

Вадзім Мікалаевіч глядзеў туды, на балота і лес, і выразна ўяўляў, як там няўтульна ім, яго пабрацімам. У іх няма ні буданоў, ні зямлянак. З раскрытага неба на іх льецца гэтая неўтаймаваная водная стыхія, хлешча па тварах, па спінах, па руках.

А найбольш цяжка, вядома, дзядзьку Андрэю, камандзіру,— ён першы там, галоўны, ён у адказе за лёс партызан і за іх сем'і. Ён сядзіць над картай, можа, нават зараз, у гэты час, і вышуквае, дзе, па якім месцы ўдарыць, каб зрабіць прарыў у блакадзе, вывесці ўвесь люд з-пад агню, з-пад няшчасця.

Вядома, наносіліся ўдары і раней. Але яны, на жаль, не прынеслі поспеху, хоць партызаны мужна змагаліся. Немцы лёгка манеўравалі сіламі і паспявалі ў час залатаць «дзіркі» ў сваёй абароне.

І партызаны адыходзілі назад, і ўсё тужэй і тужэй зацягвалася стальная пятля блакады. Цяпер народныя мсціўцы кантралююць толькі абшары зыбкага куп'істага балота. Там, вядома, немцам цяжэй дастаць іх. І на дапамогу пяхоце яны падцягнулі артылерыю і мінамёты. «Дзядзька Андрэй,— звяртаецца ў думках Вадзім Мікалаевіч,— можа, зараз, карыстаючыся навальніцай, ты падняў бы сваіх сокалаў-партызан. Мажліва, вы прарвецеся... Падумай, дзядзька Андрэй!»

Калі скончыўся лівень, Вадзім Мікалаевіч залез назад у буду. Асвежаны цёплым дажджом, задаволены, што ў думках перагаварыў са сваім любімым камандзірам, ад чаго на душы стала лягчэй, ён змружыў павекі, заснуў.

Абудзіўся на золку, зірнуў па баках — дзяўчынка спіць побач, прыкрытая да самага падбародка дзяружкай, а Цітка няма. Пазяхнуў, пацепаў плячыма ад зябкасці, выбраўся надвор. Раніца толькі нараджалася. Наўкол вісеў густы, бы малако, туман. Спрабавалі свае галасы птушкі. Недзе капала з лістоты на дол. Цітох стаяў убаку каля возера, заклаўшы назад рукі. Пачуўшы крокі, павярнуўся.

— Добрай раніцы,— павітаўся Вадзім Мікалаевіч, здзіўлены, дадаў: — У-у, свету белага не відно.

Хлопец адказаў на прывітанне, потым запытаў:

— Здаецца, дождж ішоў, вы раўчук капалі?

— Лівень быў,— адказаў настаўнік.— Навальніца смаліла такая, што аж куды. Ты нічога не чуў?

— Спаў як забіты. Алачка не прачыналася?

— Не. Навальніца прайшла амаль без ветру. Добра, што ўзабраліся на сапраўдны востраў. А так — заліло б нас па самую макаўку. А з Алкай што было б...

— Возера ціхае-ціхае. Ніводнай хвалі... І ўсё спіць. Нават там,— паказаў Ціток рукой на поўнач, у бок балота Камар-мох.

— Ты так думаеш? Калі не выкарыстаць гэты туман, дык я не ведаю, на што яны будуць яшчэ спадзявацца.

— Сапраўдная дымавая заслона,— зразумеўшы ход думак Вадзіма Мікалаевіча, разважліва дадаў хлопец.— Зараз толькі і праслізнуць праз абарону. Глядзіце, пяць крокаў — і белая сцяна. Нашага дуба-маяка не бачу.

— Хай бы, Ціток, усміхнулася ім шчасце. За нас я асабліва не турбуюся. Як кажуць, з божай дапамогай...

— Хай бы ўсміхнулася,— паўтарыў Ціток пажаданне.

У гэты час там, на прасторах балота Камар-мох, нечакана ўсчалася моцная страляніна. Сярод трэску вінтовак і аўтаматаў вызначалася тарахценне буйнакаліберных кулямётаў. Чутнасць была такая выразная, быццам лютая бойка ўсхапілася зусім побач, літаральна на возеры.

— Ого! — насцярожыўся настаўнік.— Пачалося! — і замаўчаў, услухоўваючыся. Страляніна не сціхала, а шырылася і мацнела. Можна было досыць выразна ўявіць, што там адбывалася.

Людзі рабілі адчайны крок уперад, на блакаднае кальцо. Падняліся ўсе і, мажліва, як здані, не бачачы адзін аднаго, пайшлі, падрыхтаваўшы к бою хто вінтоўку, хто гранату, а хто звычайны нож. Нехта натыкнуўся на немцаў, і тыя, каб загарадзіць гэта шэсце, адкрылі страляніну з усіх бакоў.

Туман наўкола — гэта, вядома, добра. Ён у нейкай ступені асляпіў ворага. Але агонь кулямётаў можа нарабіць бяды. Ворагі б'юць па раней прыстраляных пазіцыях. І адбудзецца неразбярыха, хаатычная бегатня. А гэта можа прывесці да зрыву ўсёй аперацыі.

Думка малявала горшае з таго, што можа здарыцца.

Вядома, Вадзім Мікалаевіч прагнуў усёй душой, каб была змята абарона немцаў і партызанскія брыгады вырваліся з душнага мяшка. Але што будзе на самой справе?

Яны стаялі доўга, настаўнік і Ціток, прыкаваўшы і думкі і позіркі да той пакутнай берагавой паласы, за якой цягнулася дрыгвяністае балота. Недзе ўзышло сонца, але і яно заблудзілася ў тумане. На возеры паравала вада. Неба было захінута белай кудзеляй, яго, здавалася, зусім не існавала.

Тузалася, раўла даль ад страляніны.

— Прарвуцца. Дальбог, прарвуцца! — шаптаў разгарачанымі вуснамі Вадзім Мікалаевіч.

— Могуць прарвацца,— пагаджаўся Ціток.— Туман як па заказу.

Неўзабаве прачнулася дзяўчынка. Яна выкулілася з буды, пачула галасы на беразе і хутчэй да Вадзіма Мікалаевіча і Цітка.

— Тата! Дода! — вочкі яе глядзелі хораша і шчасна. Дзяўчынка ўхапілася за руку настаўніка, разглядала возера, туман, блізкія дрэўцы. Вадзім Мікалаевіч падняў яе на рукі.

— Ну, як спалася, Алачка? Чуеш там — бум-бум...

Дзяўчынка прыслухалася да страляніны і шчыльней прытулілася да настаўніка. Яна разумела гэтыя вар'яцкія зыкі вайны. Яна чула і бачыла вайну зусім блізка-блізка.

— Там фашысты, Алачка,— тлумачыў настаўнік.— Яны хочуць усіх нас пастраляць. Яны забілі тваю маму.

— Мама,— паўтарыла тужліва дзяўчынка і азірнулася.— Мама...— Ёй захацелася заплакаць, але настаўнік пацалаваў яе ў шчочкі, палашчыў рукой па рыжаватых кудзерках, і да дзіцяці вярнулася заспакоенасць.

— Мы паб'ём усіх фашыстаў,— наблізіўся Ціток і зазірнуў у чысты бясхмарны дзіцячы тварык.— Ты будзеш маёй сястрычкай. Мы збудуем табе вялізны-вялізны дом. Купім чысценькую лёгкую сукенку, абуем табе на ножкі сандалікі. А ў валаскі ўпляцём прыгожы-прыгожы банцік. І ты будзеш...

— Скажы, Ала: «Не мані, Ціток. Не расказвай казкі. Лепш дай што-небудзь паесці». Ты хочаш есці, малютка?

— Дай, дай,— папрасіла дзяўчынка і зажмакала маленькім роцікам.

Ціток увішна крутнуўся і — да буды. Там, у закутку,

намацаў торбу з небагатымі прыпасамі, выпаўз на волю.

— Бачыш, якая ў мяне ў руках сталоўка. Зараз усіх накармлю.

Хлапчына адклаў убок торбу, зняў з сучка асінкі бярозавы карэц, зачарпнуў у возеры вады і паставіў яго побач, каля Вадзіма Мікалаевіча.

— Здаецца, усё? — і, здаволены, пацёр рукі.

Яны пачалі снедаць. Алачка ласавалася размочаным сухарыкам, потым смакавала расцёртыя арэхі. Мужчыны, пакуль не накармілі дзяўчынку, самі не елі, хоць трывожнае пачуццё голаду абодвум вярэдзіла нутро.

Алачка, пад'еўшы, саскочыла з каленяў Вадзіма Мікалаевіча, пачала збіраць на беразе каменьчыкі, ракавінкі, клала іх у прыпол сукенкі.

Тым часам сонца памалу ў небе пачало руйнаваць туман. У наваколлі цяплела. З бялесай дымкі пачалі вынырваць на вочы аддаленыя дрэвы і кусты, шырэла люстраная гладзь возера.

— Што будзем сёння рабіць? — спытаў Ціток, устаючы з каменя-кругляша, што ляжаў на пяску пры беразе.

— Падавай прапанову. Ты ж хлопец хуткі на думку.

— Прапанову? — ускінуў зухавата галаву хлапчына.— Я яшчэ пашукаў бы арэшніку. Але спадзяванка на гэта невялікая. Зусім магчыма, што гэты куст, на які я наткнуўся, адзіны на востраве.

— Будзем, хлапчына, плесці кош,— сказаў цвёрда настаўнік.— Ідзі цягні ракітнік, можа, к вечару паспрабуем рыбкі налавіць.

— Нам хоць бы дзесятак ёршыкаў ці акунёў...— летуценна прамовіў Ціток.— Во, агню ў нас няма. Пяклі б у прыску, загарнуўшы ў лісце. Пяць хвілін і — гатова. Я часта пёк у прыску. Бывала, пасу цялят каля рэчкі, налаўлю пад карчом ментузоў — і да кастра. Вы разумееце, як гэта смачна. Мы не можам здабыць агню, Вадзім Мікалаевіч?

Настаўнік, было бачна, не пачуў запытання, не чуў ён і салодка-рамантычных хлапчуковых разваг. Увесь ён быў нацэлены кудысь убок, тварам, паставай, слыхам. І Ціток зразумеў: Вадзім Мікалаевіч сачыў за лёсам сваіх лясных сяброў, гаротных вясковых людзей, якія ішлі гэтым часам недзе там, у сутарэннях балота Камар-мох, на прарыў блакады. Ішлі каторы раз, а цяпер, можа, апошні. Страляніна ў тым баку то сціхала, пераключалася на бязладную рэд-

кую траскатню, то вірліва закіпала зноў. І цяжка было зразумець — там нешта адбываецца сур'ёзнае ці немцы дзеля ўласнай бяспекі сыплюць кулі, каб прадухіліць неспадзяваны на іх напад.

Прыслухаўся да той трывожнай страляніны і Цітох. І нечакана вочы яго ўспыхнулі, загарэліся. Ён аж скалануўся ад унутранага ўтрапення. Хлопец пачуў выразны і знаёмы рып весла. Спачатку падумалася: можа, гэта нейкія выпадковыя гукі. Аднак тут жа імпэтна павярнуўся да Вадзіма Мікалаевіча. Той таксама ўлавіў размераны рытм нейкага блізкага руху.

— Чуеце?

— Чую,— адказаў настаўнік, насцярожана слухаючы далячынь.

— Лодка! — прыцішана ўсклікнуў Цітох.— Нейкі рыбак, каля нас блізка. Можа, гукнём, Вадзім Мікалаевіч, га?

— А не рызыкоўна? Можа, фашысты? Тады...

— Фашысты — у туман на лодках? Яны не адважацца на гэта,— запярэчыў Цітох і шчыра папрасіў: — Я гукну, Вадзім Мікалаевіч. Надакучыла сядзець тут. Мы ж галодныя як цюцькі. А праз дзень-два і ног не пацягнем.

Настаўнік махнуў рукой на хлопца, каб той прыціх, і яшчэ з хвіліну прыслухоўваўся. Потым ускінуў руку, паказаў:

— Лодка плыве паралельна востраву. Да яе не больш як чатырыста метраў. Рыбалоў! Цяпер ведаю — рыбалоў, бо шкрабе адным вяслом. Гукні,— дазволіў ён Цітку.— А потым я. Можа, пачуе.

Хлопец прыклаў да рота рупарам далоні і, выцягнуўшы з плеч шыю, моцна, поклічна закрычаў:

— Э-э, гэй! Сюды! Рыбак! Сюды!

Запыніўся, хапіў на ўсё горла чыстага паветра, і яны ўдвух прыслухаліся. Рыбалоў шкроб і шкроб вяслом.

— Не чуе,— з роспаччу сказаў настаўнік.— Глядзі, праскочыць. Ага-га-га-а-а-а,— раўнуў ён на ўсю моц сваіх дужых грудзей. Густы бас пакаціўся далёка-далёка.

Зноў услухоўваліся яны ў туманную імглу. А чалавек там, на лодцы, не зважаў на іх крыкі і воклічы. Гэтак жа, як і раней, шоргала весла аб борт пасудзіны. Вадзім Мікалаевіч і Цітох здагадаліся: чалавек некуды вельмі спяшаецца.

— Гэта не рыбалоў,— абвергнуў сваё нядаўняе меркаванне настаўнік і растлумачыў: — Ляціць як апантаны.

— Няўжо нас не пачуў? Яшчэ гукніце, Вадзім Мікалаевіч. Хай заверне да нас. Ён вось-вось знікне. Чуеце, дзе ўжо стукат?

Зноў паляцеў вокліч удалячынь, у нетры вялізнага туманнага воблака. Стараліся па чарзе — то Вадзім Мікалаевіч, то Ціток.

Раптам настала цішыня. Чалавек, відаць, пачуў іх.

— Ён паверне да нас, ён здыме нас адсюль, здыме! — Ціток як не ашалеў ад радасці. Хапіў на ўсе грудзі паветра і загукаў: — Гэй, там, на лодцы. Сюды, к востраву. Здыміце-е-е!

— Эгей! — нарэшце адгукнуўся звонкі малады голас.— Заеду. Па-сля-я. Чакайце...— і вясло зноў зашкрабала, загрукала аб борт.

Ціток падхапіў на рукі Алачку, падкінуў угару:

— Малышка! Ты чула — малышка! Там — дзядзя. Там — лодка. Мы сядзем, паедзем, і будзе ў нас усё — і хлеб, і воля, і зямля.

— Дзядзя! — усміхнулася дзяўчынка, даючы зразумець, што да яе дайшоў сэнс іх узбуджана-радаснае гамонкі.— Ляля.

— Не ляля, а зямля...— папраўіў хлопец.— Ну паўтары правільна, хараша: зям-ля!

— Дода! — выпаліла Алачка і пакорна глянула Цітку ў вочы.

Вадзім Мікалаевіч здаволена зарагатаў.

— Бачыш, не падначальваецца...

— Ну тады я пакіну цябе тут, на востраве.

Алачка адмоўна закруціла галавой.

— Ага, не хочаш? Тады слухайся мяне. Будзеш слухацца?

Лодка аддалялася. Усё цішэй і цішэй пастуквала вясло аб звонкі борт.

— І куды ён паехаў, чаго?

— Кажа — чакайце... Відаць, спяшаецца. Нейкая патрэба ў чалавека,— прамовіў настаўнік. Потым стаў разважаць: — Кіруецца туды, на поўнач,— і паказаў рукой.— Да партызан. Чуеш, Ціток, да партызан.

— Во, гэта смяльчак! — паважна ўсклікнуў хлопец.— Нехта ж яго паслаў. Не сам...

Туман радзеў, раздзімаўся ветрыкам, які праляцеў спачатку над самай вадой, а потым узабраўся вышэй і зашамацеў верхавіннем дрэў на востраве.

— Э-э,— занепакоіўся Вадзім Мікалаевіч.— Вунь ужо і сонца вытыркаецца. А чалавеку яшчэ далёка ехаць.

Ціток зразумеў заклапочанасць і непакой настаўніка і таксама ■ сумам пазіраў, як дзіравілася туманнае воблака, як пашыраліся азёрныя прасцягі, як неспадзявана ўгары бліснуў сінявой купал неба.

Вадзім Мікалаевіч і Ціток добра разумелі, што цяпер ім трэба не аб сабе клапаціцца. Яны здагадваліся пра рызыкоўны намер смельчака і ў думках зычылі яму ўдачы. Ён пачуў іх, абяцаў заехаць. Калі? Не днём, вядома, а ноччу. Значыць, гэтай ноччу ім трэба чакаць госця.

— Толькі б усё добра было...— уздыхнуў Вадзім Мікалаевіч.

Алачка прасілася з рук. Як толькі настаўнік яе апусціў на дол, яна, абмінуўшы чорнае бервяно, дробненька патупала да возера. На бераг ужо ўскідваліся невялікія хвалі.

— Не падыходзь блізка, не падыходзь! — папярэдзіў Ціток.— Бухнеш. Там вада, малышка.

— Вада,— паўтарыла Алачка сур'ёзна і ў насцярозе спынілася.

Тым часам туман ужо не рассейваўся, а ляцеў дробнымі лахманамі ўгару. Прабіліся промні і ласкава затрапяталі перад вачыма.

Цішэў, адыходзіў у глыб прасторы грукат вясла.

І раптам...

— Зіў-у! Зіў-у!

Зусім побач, угары, прапелі кулі. Ціток спуджана сутуліўся і ўпаў пад лазовы корч. Вадзім Мікалаевіч кінуўся да дзяўчынкі.

— Алачка, дзетка, страляюць,— трывожна закрычаў ён, ухапіў дзіця і кінуўся з ім у гушчар.

Дзяўчынка заплакала. Зноў над галавой забзынкалі кулі... Нагінкам, перабягаючы ад куста да куста, уляцеў у гусцечу гаю і Ціток.

Твар яго быў збялелы.

— Во, бачыце, мы накрыліся. Нас пачулі! — паныла, амаль са стогнам выдыхнуў хлопец.

— Так ужо і пачулі,— не верыў настаўнік.— Відаць, гэта па тым смельчаку б'юць, а далятае і да нас.

На нейкі момант абстрэл спыніўся. Потым зноў пагрозліва і страшна прайшліся над востравам свінцовыя чэргі. Угары туману ўжо не было. Неба было сіняе і чыстае, як

вымытая шыбіна. Пахла начным дажджом, верасамі. Ляжалі ўтраіх за вываратнем, дзівячыся, як усё нечакана павярнулася. Спадзяваліся, разлічвалі. Хацелі выратавацца, а, глядзі, атрымаецца наадварот. Выходзіць, іх пачулі ворагі. Як не пачуць — так крычалі, на ўсё горла.

— Я ж казаў,— журботна прамовіў Вадзім Мікалаевіч,— няхай бы сядзелі цішком, як зайцы.

— Што ж рабіць? — Цiток быў у трывозе і непаразумеласці.

— Што? — настаўнік задумаўся і, перш чым даць адказ, стаў улагоджваць дзяўчынку: — Спалохалася, Алачка? Не плач, мілая, не плач і не падымайся. А то кулі — ціў-ціў і ўкусяць. Яны не любяць тых, хто плача...

— Дзядзя! — усхліпнула Алачка, нешта прыгадваючы.

— Гэта не дзядзя страляе, а фашысты. Такія — у касках, пры аўтаматах. У-у, брыдкія!.. І страшныя...—тлумачыў настаўнік.

— Лашныя,— паўтарыла Алачка і зажмурылася і прыхіліла долу галоўку.

— Што ж рабіць? — нагадаў пра самае галоўнае хлопец.

— Што? — Вадзім Мікалаевіч павярнуўся ў бок возера.— Падпаўзі да берага, паназірай, што там ды як.

«Ціў! Ціў!» — шуганула чарада новых куль да вострава. Уніз з дрэвін ляцела абсечанае галлё. Гэта было сур'ёзна. Усё было падобна на тое, што па востраве вядзецца прыцэльны агонь. Вадзім Мікалаевіч лаяў сябе ў душы, што паслухаўся Цітка, дазволіў падаць аб сабе сігнал.

— Ах, ёлкі-маталкі,— прамовіў і ўздыхнуў настаўнік.— Не шанцуе...

Абстрэл яны переажывуць так-сяк, а вось калі ўварвецца сюды зграя чужакоў? Куды дзецца, што рабіць? Ад думак зрабілася горача. Хваля млявасці разышлася, расслабіла рукі і ногі. «Ад слабасці гэта,— прыйшло ў галаву.— Калі нават прыйдзецца пайсці ўрукапашную, яго адразу самнуць».

Тым часам Цiток, утачыўшы галаву ў ракітавы куст, разглядаў ранішняе, абуджанае стралянінай возера. Туману ўжо не было. Сям-там над вадой кудзелілася лёгкая пара. Удалечыні, у паўночным баку, віднелася лодка. На ёй, здавалася, нікога не было. Лодка марудна паварочвалася пад ветрам. Яе гнала хвалямі к востраву. «Няўжо смельчака забілі? — балюча ёкнула Ціткова сэрца, і слёзы навяр-

нуліся на вочы.— Позна, бядак, выехаў. Не паспеў. Не праскочыў...— і тут жа само сабой узнікла пытанне: — Чаго ён ірваўся туды, у зону блакады? Хто яго паслаў?»

Страляніна спынілася. Але Ціток прымусіў сябе ляжаць. Зацяты і маўклівы, ён яшчэ некалькі хвілін разглядаў возера і лодку.

Што азначае гэта цішыня? Няўжо тое, што немцы ўзялі верх і там, на балоце, і тут? Але ў гэта не хацелася верыць. Так, яны, фашысты, дасталі кулямі чалавека на лодцы. Але там, на балоце Камар-мох, тысячы людзей. Там цяжэй ворагам. Адным махам нічога ім не зрабіць.

Няўжо забіты чалавек у лодцы? А можа, ён стаіўся, прыкінуўся забітым, бачыць: няма далей яму дарогі. Даверыўся хвалям, хай нясуць лодку, толькі б падалей ад берага.

Мінула яшчэ напружаная хвіліна. Лодку падкідваюць, гушкаюць хвалі, яна развярнулася, стала да ветру бортам. Смяльчак не падымае галавы, не бярэцца за вясло. І ворагі маўчаць. Маўчаць, але, відаць, назіраюць за лодкай. Яны ж таксама не дурні. Яны не ўпускаюць з-пад увагі яе: што, калі чалавек схітрыў.

І Цітку, як назіральніку-дазорцу, трэба быць пільным, не выдаць сваёй прысутнасці. Сюды, цяпер стала зразумела, заляталі кулі выпадкова, бо лодка была на прамой лініі абстрэлу. А калі ўбачаць, уведаюць? Аб гэтым страшна падумаць.

Аднак трэба далажыць Вадзіму Мікалаевічу пра абстаноўку. Невясёлую ён скажа навіну. Праўда, настаўнік і сам аб усім здагадваецца. Гэты нечаканы перапынак у страляніне! Хлопец ціхутка адпускае верхавінкі ракіт, яны замыкаюць перад вачыма прастору. Ціток адпаўзае назад.

Праз некалькі хвілін Ціток і Вадзім Мікалаевіч разам на самым краі вострава сочаць, што будзе далей. Логіка падказвае: фашысты вышлюць каго-небудзь наўздагон лодцы. Хлопцы чакалі. Але на варожым беразе не было відно ніякіх падрыхтаванняў.

А лодку смельчака ўсё бліжэй і бліжэй падганяла да вострава. Ціток уголас гатоў парадавацца. Але стрымліваецца — дачасна.

Ззаду чутно, як звініць галасок Алачкі. Знайшла нейкую забаўку і не зважае, што навокал лес і што адсутнічаюць яе дарослыя сябры.

Лодку гоніць к востраву. Гэта добра. Яны пасадзяць Алачку і разам скіруюцца да сушы, да берага. Там столькі дарог, столькі людзей і хат. А ежы! Хай не будзе хлеба, дастануць бульбы, наварацць цэлы чыгун, вывернуць яе на стол, распараную, сопкую, белую, будуць браць яе ў рукі і есці. Думка аб уратаванні была зусім рэальнай, блізкай.

Маўчала далячынь. Сонца, выбавіўшыся з лахманоў туману, падымалася ў паднябессе.

І раптам... Сэрца ў Цітка асунулася аж у пяткі. Ён заплюшчыў вочы, кінуўся тварам у дол.

— С-с-віў! С-віў-у! — працяжна і жудасна запела паветра. Каля лодкі ў вадзе плёхнуліся адна за адной тры міны. Дакладнага пападання не было, але ад выбухаў вадзяны вір перакуліў лодку.

— Божухны! — усклікнуў настаўнік.— Няма лодкі...

— Праклятыя! Што вы нарабілі, праклятыя-я-я!

— Вось што, хлопча, хай гэта будзе нам навукай,— прамовіў стрымана Вадзім Мікалаевіч.— Ні пры якіх выпадках на бераг не вытыркацца. Яны зробяць з нашым вострам тое ж, што і з лодкай. Закідаюць мінамі.

— Разумею,— прашаптаў Ціток і задам-задам падаўся далей ад карча. Калі кусты вострава загарадзілі іх, яны дазволілі сабе падняцца.

Непадалёку шчабятала занятая сама сабой дзяўчынка. Яны ішлі на яе галасок стрыманыя, панурыя, быццам пасля пахавання. Яно на самой справе так і было. На іх вачах загінуў смяльчак — а ён праз возера кіраваўся не так сабе! Значыць, разам з ім загінула і нейкая тайна. Хто гэты чалавек, хто яго паслаў да партызан, што ён меўся перадаць ім, пакутнікам блакады?..

Адкрыецца калі-небудзь заслона гэтай тайны ці не?.. А можа, дарэмна стараўся смяльчак? Можа, у раёне балота Камар-мох няма ўжо ніводнай душы — іх паратаўклі, перадушылі за ноч нямецкія кулямёты?..

Цішыня. Нядобрая цішыня запанавала на шырокіх каляазёрных плёсах.

Ціток не заўважыў, як зачапіўся за ламачыну і ўпаў.

— Што з табой, хлопча? — устурбаваўся настаўнік.— Не падай!

Ціток моцна вытнуўся каленам, устаў і доўга расціраў яго рукамі. Раптам Вадзім Мікалаевіч пацікавіўся:

— Чакай? Дзе твая торбачка?

Хлопец лэпнуў рукамі, не знайшоў почапкі, але не ўстурбаваўся, досыць спакойна сказаў:

— Яна там, каля буды. Пасля сняданка на сук павесіў.

— Ану бяжы, забяры.

— Калена ные. Але я хутка...

Цiток распрастаўся і, чыкільгаючы, паклыпаў у гушчар. Настаўнік завярнуў да прагаліны з замшэлым сасновым пнём. Там з-за вецця дрэў віднелася калматая галоўка Алачкі. Не паспеў настаўнік падысці да дзяўчынкі, як пачуў ззаду трэск і шоргат хмызняку. Навідавоку выскачыў Цiток. Цыбаты, няспешлівы, цяпер ён быў чымсьці ўзрушаны. Вадзім Мікалаевіч запыніўся.

— Што з табой?

— Паглядзіце! — Ён здаля прыўзняў торбачку, якая мясцілася ў адным яго кулаку. Запыханы, атарапелы, ён угнявана пазіраў па баках: — Вавёркі акаянныя, вавёркі!

— Што такое?

— Пакралі арэхі. Глядзіце, дзірку прарвалі,— хлопец стаў, разгарнуў торбачку.

— Гэтага яшчэ не хапала,— прамовіў настаўнік.— Пакінуў торбачку на суку. Эх...

— Не злуйцеся, Вадзім Мікалаевіч,— папрасіў хлопец.— Я вярну ўсе нашы арэхі. Пабачыце, Вадзім Мікалаевіч,— вярну. Падгледжу, дзе вавёркі склад свой зрабілі...

— Так ужо і падгледзіш. Мы зноў з кавалачкам сухарыка.

— Ён для Алачкі,— завязваючы торбу, цвёрда зазначыў Цiток.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

Вялікі клопатны дзень адшумеў. Радасці ён прынёс мала, найбольш бяды і няшчасцяў. Вадзім Мікалаевіч глядзеў у цёмную столь буды, амаль не варушыўся. Смактала пад лыжачкай. Душу брала нейкая неадступная трывога. Калі Алачку ўдалося сяк-так накарміць, дык яны з Цітком леглі не паеўшы. Праўда, хадзілі да рабіны, сарвалі па гронцы ягад. Моршчачыся, яны жавалі горкія ягады. Сок іх быў такі рэзкі, амаль атрутлівы, што тузалася ад яго ўсё нутро.

Аднак у першыя хвіліны голад удалося прыглушыць.

Цяпер жа ён зноў абвяшчаў аб сабе. Страўнік сцінаўся ад балючых спазмаў. Цiток усё гэта перанёс непрыкметна — ён спіць. А вось яму, Вадзіму Мікалаевічу, даводзіцца цяжка. Не спіцца. Побач пасталі голад і бяда, і паспрабуй іх адсунуць убок, адкаснуцца ад іх.

Цiток пасля таго, як наламаў ракітніку, гадзіны са дзве ганяўся па гаі за вавёркамі, хацеў уведаць, падпільнаваць іх кладоўку. Яны, шустрыя, доўга вадзілі хлопца за нос, так і не паказаўшы свайго патайнога месцейка. Хлопец бегаў за імі, і яны радаваліся, нават хітранька паглядвалі ў яго бок, чапляліся за сукі, зухавата барабанілі лапкамі па ствалах. Ганялася за вавёрачкамі і Алачка. У яе быў іншы намер — злавіць іх.

Ох і пранырлівыя звяркі. Не пашкадавалі дзяўчынку, пахапалі яе харчовы рацыён. Чым карміць Алачку? Пасля паўдня Цiток засеў за кош-кломлю і амаль скончыў яе. На заўтра заставалася работы няшмат. Уся цяпер спадзяванка на рыбу. Калі нешта зловяць, гэта будзе ўзнагарода за працу, а калі не, Алачка ім не даруе.

Ох, дзіцятка! Вадзім Мікалаевіч так ужо прывык да яе, што лічыў за родную дачку. Яму было прыемна насіць яе на руках, песціць, выціраць з яе шчок слёзы, гушкаць, падкідваючы ў паветра, вадзіць па сцежцы, трымаючы яе за ўчэпістую ручку. Яна ўсміхалася цёпла, то аднымі вачанятамі, то ўсім тварам, і цяжка было ўтрымацца, каб не адказаць усмешкай на яе ўсмешку.

Нічога яна не ведае, нічога не разумее, хоць бачыла ўжо жудасць. У яе патрабаванне ад гэтага свету адно: дай, дай! Дай хлебца, дай вады, дай сонца, дай волю. Заўтра яны яшчэ сяк-так абыдуцца. А што даць дзяўчынцы паслязаўтра? Узнікае адначасова сумненне, ці дажывуць яны наогул да паслязаўтра. Глядзі, за адзін дзень што нарабілася.

Вакол ворагі. Ці доўга ім прабрацца на востраў? А могуць і прасцей усё зрабіць — закідаюць яго мінамі. Куды тады дзецца? Да такой бяды яны не падрыхтаваны. «Трэба,— рашае ў думках Вадзім Мікалаевіч,— неадкладна трэба, як і прапанаваў Цiток, з чароту нарабіць снапкоў». Каб яны былі заўсёды пад рукамі і ў нядобрую гадзіну маглі ім паслужыць. Дастаткова прывязаць такія два снапкі да Алачкі. Яна не патоне, будзе трымацца на вадзе... Значыць, будуць пэўныя шанцы выратаваць дзіця.

«Шкада і Цітка,— паўстаў у думках настаўніка хло-

пец,— адданы і сумленны. Трымаецца, як дарослы. Умее разважаць, нават заглядваць уперад. Адну неабачанасць зрабіў— правароніў арэхі. Аднак не кідаецца ў роспач хлопец, спадзяецца на лепшае.

За плячыма ў яго ўжо ёсць нешта пройдзенае, перажытае. Хлябнуў няшчасця, ды такога, што ай-яй...

Хлопец абяцае яшчэ нешта расказаць. Зноў жа, відаць, пра цяжкае і пакутнае. От якое яму прыпала дзяцінства. Можна сказаць, з адных няшчасцяў. Ці давядзецца калі хлапчыне ўбачыць нешта лепшае. Хай бы лёс усміхнуўся яму. У яго ж таксама нікога няма, як у дзяўчынкі. Сірата...»

Спіць хлопец, нават пахрапвае. «Заўтра ў нас, Ціток, многа працы,— думае настаўнік.— Адпачывай, набірайся сілы...»

Ноч. Пад ветрам шуміць лес, бесперапынку плюхаецца непадалёку возера. Зусім звычайная ноч. Але яна, як зараджаная бомба, можа ў любы час узарвацца.

Снуюцца думкі далей, наплываюць успаміны, памалу разгортваюцца малюнкі перажытага.

Ціток дапытваецца, як ён, Вадзім Мікалаевіч, жыў у апошнія гады. Як жыў? Расказваць і ўспамінаць пра гэта цяжка. Аж сэрца баліць, калі прыгадваецца спазнанае.

Аксана! У Міткавічах на фізкультурных спаборніцтвах яны пазнаёміліся. Дзесяцікласнікі Вадзіма Мікалаевіча выступалі па валейболу, сустрэліся з яе класам. Гульня была зацятая і доўгая. Местачкоўцы не хацелі паддавацца — яны нават былі ўпэўнены, што пераможуць лахаўчан. Але вясковыя хлопцы неяк арганізаваліся лепш, узмацнілі націск, і на іх карысць быў зафіксаваны пераможны лік.

Колькі было тады радасці! Хлопцы Вадзіма Мікалаевіча крычалі «ўра», абдымаліся. Потым, загарэлыя, дужыя, са шчаслівымі ўсмешкамі, акружылі свайго настаўніка, падхапілі на рукі. Ён ледзь адбараніўся ад іх. Вядома, яны хацелі аддзячыць яму за тое, што настаўнік не пашкадаваў часу і добра падрыхтаваў іх да спаборніцтваў.

Калі мінуліся першыя хвіліны юнацкага ўтрапення, да Вадзіма Мікалаевіча падышла класны кіраўнік хлопцаў-местачкоўцаў Аксана Рудкоўская, стрымана працягнула руку.

— Віншую вас, калега,— прамовіла яна і хораша ўсміхнулася.— Перамога, прызнаюся, перакапаўчая. Мае добра пачалі, але...

— Не хапіла запалу,— падхапіў Вадзім Мікалаевіч.— Хай улічаць: у раёне існуюць сур'ёзныя праціўнікі.

— Хто б мог ведаць, што ў нейкіх Лахавічах знаходзяцца яны,— жартаўліва дадала Рудкоўская. Вадзім Мікалаевіч горача пацiснуў яе руку і затрымаў у сваёй даўжэй, чым трэба.

Твар дзяўчыны быў круглявы, белы, на шчоках — ямачкі. Носік зграбны, ледзь-ледзь прыўзняты. Позірк цёмна-карых вачэй прамяністы, зыркі. Валасы цемнаватыя, густыя, шаўковым вадаспадам ападаюць на плечы. Статная, высакаватая. Апранута была яна проста, але з густам — аранжавая з сінімі кветкамі сукенка, на шыі гальштучкам павязана хусцінка, на нагах высакаватыя туфелькі.

— Пусціце, калі ласка,— выдыхнула яна ціха, збянтэжылася і зачырванелася.

Потым яны пайшлі разам у сталоўку, на абед. Пазнаёміліся бліжэй. Аказалася, што Аксана выкладае ў старэйшых класах нямецкую мову. У іх знайшлося многа агульных тэм, якія пачалі шчыра і радасна абмяркоўваць.

Так яны пасябравалі, падружыліся. Аксана некалькі разоў запрашала Вадзіма Мікалаевіча да сябе дамоў, пазнаёміла з бацькамі. Дзяўчына падабалася хлопцу. Была ў ёй і харошая стрыманасць, і разважнасць, і ласкавасць. На жыццёвыя сітуацыі глядзела па-свойму. Дакопвалася да глыбінь кожнай падзеі. З ёю цікава было пагаварыць пра новы прачытаны твор і кінафільм. Бывала, разгараліся такія спрэчкі, што куды там. Вадзім не вытрымліваў напору яе перакананняў і вымушаны быў здаваць пазіцыі, пагаджацца з ёю.

Яны чакалі лета. Дамовіліся ўзяць пуцёўкі і паехаць на Каўказ. Гэты далёкі ад Беларусі куток савецкай зямлі прываблiваў іх не толькі тым, што там можна было добра адпачыць на выдатных курортах. Ад Каўказа веяла на маладых людзей рамантыкай слаўнай мінуўшчыны. Там былі Пушкін і Лермантаў, там быў Талстой. Яны, вялікія людзі, блукалі пакручастымі горнымі сцежкамі і дарогамі, уздымаліся на стромкія скалы, зазіралі ў глыбокія калідоры-шчыліны, назіралі, як грымяць, бунтуюць, крышачы каменне, вадаспады, як высока, каля аснежаных вяршынь і пікаў, кружаць арлы. Там, на Каўказе, жылі горцы, з гарачымі натурамі, там абвясціў аб сваёй славе Хаджы-Му-

рат. А мора! Яно — сіняе, бязмежнае — плёскаецца каля Каўказа, гэтай велізарнай каменнай сцяны.

Яны пабачаць мора, будуць лавіць рукамі яго хвалі, будуць цешыцца імі... Ужо былі адкладзены грошы на падарожжа, падрыхтаваны дарожныя касцюмы.

Вадзім Мікалаевіч вяртаўся з выпускнога вечара на самым ранку. Ішоў разам з рабятамі не дамоў, а к возеру ( у Лахавічах таксама ёсць возера, завецца — Вечар), дзе спецыяльна затрымаліся на паўгадзіны — так было дамоўлена,— каб сустрэць узыход сонца. Гэтая стрэча ў такі час набывала сімвалічнае значэнне. Выпускнікі школы як бы віталі прыход свайго шчасця, свайго свядомага жыцця.

Сонца выкацілася з-за лесу разгоністае, вялізарнае. Загучалі апладысменты, урачыстыя воклічы. А нехта ў запале прадэкламаваў: «Да здравствует солнце, да скроется тьма!»

Не ведалі яны тады, што з захаду адначасна выплыла чорная пякельная хмара. Яна дыхнула грымотамі і смерчам. Вайна!.. Праз месяц фашысты былі ў глыбіні Палесся.

Акупацыя! Нязвыклае аб'явілася слова. Па дарогах, па вуліцах сёл маршыравалі гітлераўцы, грукаталі танкі.

Людзі стаіліся ў трывозе і чаканні. Можа, усё гэта выпадковае, часовае — на тыдзень, на месяц? Але вайна разгаралася не на жарты.

Мінуў год, другі. Вадзім пайшоў у партызаны. Думаў павесці ў лясы і Аксану. Але яна распарадзілася сабой інакшай. Неяк на першым годзе акупацыі яны сустрэліся ў Міткавічах, на цэнтральнай плошчы. Міма тупалі ў шэразялёных мундзірах салдаты, сквапна паглядвалі на маладую прыгожую паненку. Яна, як бы знарок, каб пацвяліць іх, стаяла прыгожа апранутая і зычліва ўсміхалася.

— Ты іх не баішся? — кіўнуў Вадзім Мікалаевіч.

— Няхай яны мяне баяцца.

— Яны ж такія нахабныя. Няўжо не бачыш?

— Супраць нахабства ёсць таксама зброя...— неазначальна кінула яна.

— Ты не думаеш, што нам трэба часцей сустракацца,— сказаў Вадзім Мікалаевіч.— А то міне яшчэ год, сустрэнемся во так і адзін аднаго не прызнаем.

Аксана рэагавала на такую заўвагу досыць спакойна. У вачах яе была як бы нейкая гуллівасць, абыякавасць. Здавалася, яна мала зважала на тыя абставіны, якія скла-

ліся ў свеце. Дзіўным здавалася толькі адно: чаго спынілася, загаварыла з ім. Ён быў апрануты проста, можа, нават крыху неахайна: у старых ботах, у пакамечаным пінжаку, у кепцы, якая была вялікаватая і асунулася на самыя вушы. Магчыма, пачуццё даўняга сяброўства не выветрылася з душы, ці то была простая дзявочая дапытлівасць. Вадзім стаяў перад ёю і зразумеў: яны цяпер розныя. Зыркатá яе ўбрання сляпіла вочы. У Аксаны стала ўсё чужым, ненатуральным: і манікюр на руках, і таўставатыя губы пад фарбай, і чорныя лакіраваныя туфлі, якія пакідалі прыгожы слядок на сцяжынцы плошчы.

— Чым ты цяпер заняты? — пацікавілася раптам яна, перакідваючы фасоністую сумку з рукі на руку.

— Школа закрыта. Ты гэта ведаеш. З бацькам зямлю аром, сеем, косім. Але жыцця няма.

— Хай бы ты пайшоў у паліцыю.

— А што там рабіць?

— Форму атрымаў бы, правы нейкія. Ты ж адукаваны чалавек. Няўжо табе трэба падказваць?

— Аксана,— ледзь не ўсклікнуў Вадзім,— ты здзекуешся з мяне? Вось дык парада...

— А што? — падфарбаваныя яе бровы падхапіліся ўгору.— Баішся формы?

— Я ўжо бачу, куды вядзе гэтая форма...

Аксана з ног да галавы акінула яго позіркам.

— Дзівак ты, дзівак! Трэба ж прыстасоўвацца...

— Ага, прыстасоўвацца!..

Вадзіму брыдкай стала і гэта размова, і гэта сустрэча.

— Мы не разумеем адно аднаго! — тут жа сказаў Вадзім. Аднак, перш чым развітацца, пацікавіўся: — Адкуль у цябе гэтакае багацце?

— Адтуль,— кіўнула яна ў бок захаду русявай, у кудзерках, галавой.— Немцы ўмеюць жыць і любяць жыць. Я была ў Берліне.

— У Берліне?..— аж скалануўся хлопец у здзіўленні.— Хто ж цябе пусціў туды...

— Я ж перакладчыца. Справа была адна...

— Няўжо гэта праўда, Аксана?

— Вадзімка, хлапчук мой наіўны. Азірніся, падумай... А то будзе позна.

— Ты брыдкая прыстасаванка! — задыхнуўшыся ад гневу, выпаліў Вадзім. Плюнуў ёй пад ногі і пайшоў сваёй дарогай.

Так нечакана вайна развяла іх у розныя бакі. Ужо, лічы, не сябры яны, а ворагі.

Праз некалькі дзён, раздабыўшы вінтоўку, Вадзім пайшоў у партызаны. Яго, маладога, імпэтнага, лясныя мсціўцы прынялі з радасцю. Даручылі ўзначальваць дыверсійную групу. Першы паход ён зрабіў на міткавіцкую станцыю. Узрыўчаткі не было, дык хлопцы аблілі газай некалькі танкаў, што стаялі на платформах доўгага саставу, і падпалілі іх. Аперацыя была рызыкоўная. Ворагі, як толькі ўспыхнула полымя, ачапілі ўвесь падазроны раён і сталі яго прачэсваць.

Ледзьве вынеслі ногі партызаны. Дапамагло тое, што Вадзім добра ведаў мястэчка, станцыю, бліжэйшыя двары.

Другім разам пайшлі з мінамі на чыгунку. Там хлопцы такога нарабілі руйнавання, што дарога Міткавічы — Калінкавічы аж два тыдні бяздзейнічала.

Вадзім ваяваў апантана, можа, нават залішне адчайна. Не шкадаваў сябе, і няцяжка было здагадацца чаму. Вельмі ж глыбокую рану нанесла яму Аксана. Хлопец кахаў дзяўчыну, спадзяваўся на яе. Думаў разам наладзіць сям'ю, жыццё. А яна... Адкуль вывернулася ў яе напаверх гэтае брыдкае і неразумнае, гэты хіжы інстынкт прыстасаванасці. Часта ноччу, лежачы ў партызанскім будане, успамінаў тое, што паміж імі было: і першую сустрэчу на фізкультурных спаборніцтвах, там, у двары беларускай сярэдняй школы, і дыспут на лузе, каля вадзянога млына, па кнізе Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь», і прыступкі яе ганка, на якіх часта сядзелі, вяртаючыся позна з кіно. Перабіраў кожную яе фразу, прыгадваў нават міміку твару, яе рэзкія жэсты. Нешта знаходзілася то капрызнае, то бяздумна-задзірыстае, але гэта ўсё ж такі здавалася толькі чымсьці мімалётным, не характэрным.

І на́ табе! Адзін год вайны — і Аксану як бы падмянілі. Яна захацела спакойнага жыцця. Яна нават бравіравала новым сваім становішчам. Перакладчыца! Пайшла на службу да немцаў. Яны, вядома, прыкмецілі яе старанасць, яны не замарудзілі пакарыстацца яе даверлівасцю. Вазілі, прызналася, у Берлін. Адурманілі дзяўчыну, зусім адурманілі.

Вадзім ад лютасці аж скрыгатаў зубамі, абхопліваў галаву вузлаватымі моцнымі рукамі і ледзь не плакаў. Дзе іх каханне?

Аксана ходзіць сярод фашыстаў, усміхаецца ім. Жахліва аб гэтым падумаць, жахліва нават уявіць.

Пакута нараджала неспакой. Думалася і думалася. Аксана не адыходзіла ад яго, стаяла перад вачыма, вядома, не тая, якую ён бачыў на міткавіцкай плошчы, а ранейшая: у просценькім лёгкім сарафанчыку, што шчыльна абцінаў яе малую постаць і рабіў яе сонечна прыгожай.

Як яе адлучыць ад ворагаў, як пераканаць, што павярнула не туды, куды трэба. Хіба яшчэ раз сустрэцца? Але як гэта зрабіць? Прарвацца ў Міткавічы днём немагчыма — няма дакументаў, аўсвайса. Ці напісаць пісьмо? Уздзейнічаць на яе пагрозай?

Вадзім прыкідваў так і гэтак, строіў планы, намерваўся іх здзейсніць. У партызанскім будане на мулкай падсцілцы з яловага лапніку думалася і ўяўлялася ўсё проста і звычна. А калі наступаў дзень, калі святло рэальнасці зазірала ў вочы, раптам усё тое, што было надумана ноччу, рабілася блазненскім, несур'ёзным. Ніякіх пісьмаў ён Аксане, вядома, не напісаў, на сустрэчу не хадзіў. А зрабіў усё трохі іначай.

Атрымаўшы чарговае заданне выйсці на «жалезку» (чыгунку), Вадзім самавольна змяніў і план і маршрут паходу. Частку сваіх хлопцаў паслаў на перагон паміж станцыямі Бялёва і Старушкі, а сам з лепшым сябрам Іванам, нагрузіўшыся толам, рашыў дабрацца да Міткавіч.

Нямецкая камендатура займала ў мястэчку мураваны аднапавярховы будынак. Там, пры камендатуры, працавала Аксана. Хлопец рашыў, што найлепшым чынам ён дакажа сваю прававу і сілу перад неразумнай дзяўчынай, калі развaліць гэтую ненавісную, пад фашысцкім флагам, будыніну. Хай зразумее, што хісткае, ненадзейнае становішча не толькі ў яе, але і апекуноў. План выконвалі ноччу. Камендатура ахоўвалася вартавым немцам з параднага ўвахода ад вуліцы. Вадзім ужо аднойчы быў тут і старанна вывучыў усе вартыя ўвагі падыходы.

Прабраліся праз двары і агароды. За высокім дашчаным парканам, за кронамі садовых дрэў віднеўся прыземісты белы мур. Імкнучыся ступаць асцярожна і ціха, каб пад нагамі не трэснула ніводная сухая галінка, Вадзім і напарнікам Іванам нарэшце апынуліся пад сценамі камендатуры. Узрыўчатку заклалі пад вугал, прымацавалі даўгаваты бікфордаў шнур, падпалілі, а самі — назад, у цемру, у ноч, на патайныя сцежкі.

Якраз была поўнач. І раптам — бум! — ды так гулка і страшна — на ўсё наваколле.

Дыверсія ўдалася. На чыгунцы, аднак, хлопцаў з Вадзімавай групы сустрэла няўдача. Дабрацца да рэек ім не ўдалося, натрапілі на фашысцкі дазор, былі акружаны і ледзь не загінулі. Двое з групы былі паранены. Партызаны вярнуліся ў атрад змардаваныя, злыя. Камандаванне імкнулася даведацца, чаму правалілася аперацыя, але ўсе хлопцы трымаліся дружна, гаварылі ў адно слова і не выдалі свайго камандзіра.

Аднычасова ў атрад прыйшла вестка аб падрыве будынка камендатуры. Партызаны дзівеваліся — дзе той смяльчак, што рызыкнуў на такі дзёрзкі крок. Хто ён такі? Звязваліся нават з падпольшчыкамі. Тыя нічога канкрэтна не маглі адказаць.

Ну і ўсхадзіліся немцы ў мястэчку. Выбухам так труханула будыніну, што яна амаль уся развалілася.

Ён уяўляў, як раніцой пасля той ночы прыйшла на працу Аксана. Бачыў яе трывогу, смутак, збянтэжанасць, яе не магло, вядома, не ўразіць відовішча, што адкрылася вачам. Цікава толькі, што яна думала ў гэты час, што гаварыла? Вадзім ведаў, выбух абавязкова нешта зрушыў у яе душы і, магчыма, прымусіў глянуць на рэчаіснасць больш цвяроза і проста.

Цікава, дзе яна зараз, вось у гэтую хвіліну, у гэтую ноч, калі ён, не змружваючы вачэй, ляжыць у будзе і думае-думае. Можа, і яна не спіць. Можа, і ёй не соладка на свеце. Трапіла куды — у асяроддзе фашыстаў. Цяпер яна бачыць іх кожны дзень, сутыкаецца на кожным кроку, павінна ўведаць іх намеры, і іх нораў, і іхнюю бесчалавечнасць.

Але яшчэ трымаецца каля іх, працуе. Немцы перавялі камендатуру ў другі будынак, што на краі Пралетарскай вуліцы. Цяпер яны зрабіліся мудрэйшымі, абнеслі ўвесь двор калючым дротам, пабудавалі бункеры з шырокімі амбразурамі, на вышках паставілі вартавых. Зноў кожнай раніцы на працу спяшаецца Аксана... Туды, за калючы дрот, к фашыстам!

«Ах, Аксана, Аксана»,— уздыхае Вадзім. Прыжмурвае вочы, але гэта яму мала памагае. Хлопец бачыць дзяўчыну блізка-блізка, вось яна ўжо зусім рэальная, высакаватая, увішная, у белай просценькай сукенцы, набліжаецца да яго, сядае побач і нешта шэпча-шэпча. Няўжо гэта яе го-

лас? Ён не забыўся, які ён у яе — гэтакі ціхі, мяккі і просты. А можа, шэпча не Аксана, а возера. Возера, якое паланіла яго. Раптам усё знікае — і шэпты, і шолахі, і ўяўленні. Ноч. Сон.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

— Вадзім Мікалаевіч! Уставайце! — пачулася аднекуль блізкае і трывожнае. Хацелася спаць, дагледзець сон, які быў на дзіва цікавы, у якім ляцелі нейкія коні, храплі пужліва і неслі наперад як бы дзіця-седака. Аж то было не дзіця, а як бы Аксана. Яна, яна — ён дакладна пазнаў, апранутая, аднак, зусім па-асабліваму, у шапцы, простай ягонай шапцы, у фуфайцы і ботах. Ён хацеў штосьці крыкнуць ёй, запыніць імпэтных коней. Ах, гэты голас! Навошта непакоіць, навошта адрывае ад любімай, якая рагоча проста яму ў твар і кідае кветкі. А коні ляцяць, ляцяць!

— Ух! — ачомваецца настаўнік, чуючы дотык Цітковай рукі, і прыўзнімае галаву.— Яшчэ ж ноч,— незадаволена кажа ён, бачачы праз уваход у буду шэрую цень ранку.— Не трывож, я пасплю. І Алачку не чапай...

— Уставайце,— настойліва тузае хлопец за рукаў.— Паглядзіце, нешта там, на возеры, плыве... Як бы калодка...

Вадзім Мікалаевіч прачынаецца.

Раніца яшчэ толькі абвясціла аб сабе. На травах стылыя ядраныя росы. Бадзёры халадок казытнуў цёплае, угрэтае ў ліснапай пасцелі цела. Возера ўжо працуе хвалямі, шуміць, разгайданае ўсходнім ветрам. Цітон падводзіць настаўніка к самаму берагу. Яны запыняюцца перад альховым кусцікам. Хлопец, нецярплівы і напружаны, ускідвае ўперад руку.

— Вунь, бачыце...

Настаўнік доўга прыглядаецца да азёрнай прасторы, паварочваецца да хлопца.

— Не абыходзіў бераг?

— Як жа, абыходзіў,— адгукаецца Цітон.— Але нічога-нічагусенькі... Я спадзяваўся, што лодку ўбачу. Няма...

— Ага, то і гэты прадмет не з лодкі, а выпадковы...— вырашае Вадзім Мікалаевіч.— Так што ты дарэмна...

— А калі паглядзець? Дазвольце,— умольна зірнуў настаўніку ў твар хлопец.

— Вада халодная. Не забаішся?

— От яшчэ што,— атрымаўшы не адкрыта выказаны дазвол, Цiток пачаў хуценька скідваць з сябе вопратку.

— Толькі асцярожна плыві, каб ціха...

— Ведаю,— махнуў рукой хлопец, кінуў на купіну вопратку і стаў асцярожна ўваходзіць у ваду.

І вось, пераразаючы хвалі, Цiток паплыў. Праз ваду прасвечвалася яго імклівае цела. На возеры, зусім блізка, размерана пагойдвалася ні то дошчачка, ні то калодка.

Настаўнік пазяхнуў, глянуў на ўсход, вызначаючы, ці хутка ўзыдзе сонца. Неба было чыстае, і зараніца трымцела недзе ў глыбінях вышыняў, дачасна не паказваючы сваіх багатых фарбаў.

У настаўніка разгаралася цікавасць да Цітковага клопату. Магчыма, ім трапіць у рукі нешта значнае. Вецер узмацняўся, і хвалі ўсё больш рашуча пакацілі на бераг.

Тым часам Цiток вяртаўся назад. Яго з раскудлачанымі валасамі галава ўстойліва тырчэла паміж хваль. Усё бліжэй і бліжэй хлопец. Ён плыве ціха, як рыбіна. Нешта падганяе наперадзе рукамі. Відаць, абломак з разбітай лодкі. Што абломак — няхай бы той смяльчак выплыў, жывы ды здаровы. Было б цяпер іх больш на востраве, селі б гуртам, старанна памеркавалі б аб усім.

Сям-там над возерам плыве туманная дымка. Каго ён бачыў у сне? Ох і сон, цуд-сон. Аксана! Ляцела, імклівая і задорная, некуды ўдаль на шпаркім скакуне. Няхай бы выскачыла сюды, у рэчаіснасць. Хіба не быў бы ён, Вадзім, рады?

Цiток — непадалёку. Хвалі накатваюцца яму на плечы, мякка шалясцяць. Намацаўшы грунт, Цiток выхопліваецца з вады.

— Во,— кажа хлопец.— Вясло. Цэленькае. Нам яно можа спатрэбіцца.

Вадзім Мікалаевіч бярэ ў рукі знаходку. Нейкую хвіліну разглядае хвацкае, з караткаватым дзяржальнам вясло. З яго на дол сцякаюць кроплі вады. Вадзім Мікалаевіч паварочвае вясло так і гэтак.

— Звычайнае. Кляновае,— зазначае ён і праз момант дадае: — Мне думалася: з возера вывудзім нешта значнае. Загінуў чалавек. І хто гэта быў?

— Прабіваўся праз туман на поўнач,— усцягваючы на плечы кашулю, услых разважаў Цiток.— Значыць, да партызан.

— Вядома, да партызан...

— Тады з ім загінула і нейкая тайна.

— Так трэба думаць, Ціток,— з сумам прамовіў Вадзім Мікалаевіч.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

Аксана глядзелася ў люстэрка, папраўляла кудзеркі валасоў. Яна падабалася сама сабе. Трымаецца строга, бойкая на язык, афіцэры яе паважаюць і нават шануюць.

Работы ў камендатуры нямала. А ў апошнія дні прыбавілася яшчэ больш. У сувязі, вядома, з блакадай. Немцы захопліваюць у палон партызан, некаторых, з ліку камандзіраў, узмоцнена катуюць, цягаюць на допыты. Вільгельм Цымлер, камендант гарнізона, яе шэф, адчуў у сваёй дзейнасці сапраўдную асалоду. Ох, і любіць жа здзекавацца з людзей. Ён перад ёю як бы знарок дэманструе свае здольнасці, паказвае, які ён верны служка Гітлеру і фатэрлянду. Аксане бывае цяжка стрымліваць сябе, цяжка назіраць, што дзеецца наўкола.

Сёння яна меркавала не выйсці на работу, хацела прыкінуцца хворай. Але да яе ўранку заехаў сам пан Вільгельм.

— Фройляйн Аксана, учора захапілі разведчыка,— паведаміў ён энергічна, па-нямецку.— Трэба яго добра распытаць.

— Дзе захапілі? У лесе?

— У мястэчку. Прашыўся, бандзюга, праз усе нашы пасты.

— Можа, гэта зусім і не разведчык. Звычайны чалавек.

— Калі б ён быў звычайны, не блытаўся б па мястэчковых агародах на самым світанні.

— Што-небудзь у яго знайшлі?

— Нічога.

— Без зброі і — разведчык?

— Фройляйн Аксана, не мне вас вучыць. Гэтыя рускія, кожны як умее, прыкідваюцца невінаватымі. На самой справе яны хітрыя, як тыгры. Ім трэба адсякаць галовы.

— Гер Вільгельм, занадта вы жорсткі. Гэта не ўпрыгожвае вас.

— Калі не быць жорсткім, мы прайграем вайну. Мой Гітлер вучыць адкінуць прэч хімеру чалавецтва — шкада-

ванне. Каб панаваць над светам,— а нам богам дадзена такое права,— трэба бязбоязна ісці па трупах, па крыві.

— Фу, гер Вільгельм. Не выказвайце такіх жахлівых думак. Мне робіцца страшна. Ісці па крыві... Б-р-р...— і Аксана сцепанула плячыма.

— Прадоўжым нашу размову ў аўтамабілі,— сказаў суха камендант, запрашаючы Аксану ў чорны «опель».

Камендатура цяпер мясцілася ў драўляным доме па Пралетарскай вуліцы, які раней быў дзіцячым садам. Машына скрыпнула тармазамі. Вільгельм паважна расчыніў дзверцы кабіны.

Аксана не магла адкрыта глядзець у твар каменданту, ён адразу стаў ёй брыдкім, невыносным. Маўкліва выбегла наперад, абмінула маладзенькага вартавога з аўтаматам на грудзях, застукала туфлямі па прыступках высакаватага ганка.

Калі апынулася ў пакоі, адчула трывогу ў душы. Грудзі абдало жарам. Што з ёю робіцца? Няўжо ўсё гэта ідзе ад непрыемнай размовы з шэфам? Ён раней уяўляўся ёй трохі інакшым, больш стрыманым.

Аксана сядзела за асобным столікам разам з Лідай, сакратаркай Вільгельма. Ліда ўжо дзелавіта нешта выстуквала на машынцы. Рукі ў яе беленькія, пухленькія, твар з вогненным румянцам, які ёй надае пекнату, прыгажосць. Нямецкія афіцэры наперабой запрашаюць яе на вечарынкі. Але Аксана ведае, Лідачка сур'ёзная дзяўчына, не губляе галавы. Чым больш прыглядваецца да яе, тым больш заўважае ў яе паводзінах добрыя якасці.

На сцяне гадзіннік адбіў дзевяць гадзін. Адразу расчыніліся абабітыя чорным дэрмацінам дзверы кабінета каменданта. Жандар у чорным кіцелі падаў Аксане знак рукой, маўляў — да шэфа.

Аксана не спяшалася. Засунула ў скрынку стала сумачку, паправіла светленькую кофтачку і зірнула ў акно. На двары разгаралася ва ўсю моц раніца. У невялікім гародчыку стаялі некалькі старых яблынь, яны пахістваліся пад ветрам, на некаторых галінах сям-там пракідваліся буйныя сакавітыя яблыкі.

Аксане дужа захацелася апынуцца ў агародчыку, пастаяць, паслухаць цішыню. Даўно яна не чула сапраўднай мірнай цішыні. Шмат яна перадумала, асабліва пасля падрыву партызанамі камендатуры. Магло ж стацца, што і яна б загінула пад руінамі будынка. Вільгельм нярэдка

выклікае яе па начныя дзяжурствы. Добра, што ў тую ноч не было допытаў.

Што яе чакае ў будучым? Партызаны могуць падаслаць чалавека, які падцікуе яе і... Страшна падумаць аб гэтым. «Але ж,— яна аж уздрыганулася ад узнікшай здагадкі.— Можа, разведчык, што захоплены немцамі, якраз і ёсць той чалавек, якому было прызначана яе забіць. Яна пайшла служыць да немцаў, калі прызнацца, не з простай цікаўнасці ці з нейкай выгодай. Яна павінна была ўвайсці ў іх давер, а потым...»

Здаецца, у такі давер яна ўвайшла. А вось гэтага «потым» — нешта няма і неяк не адчуваецца, што будзе. У чым справа, што здарылася?

Яна прыжмурвае вочы і прыгадвае першыя дні вайны. Міткавічы гарэлі. Многія спяшаліся эвакуіравацца, са сваім небагатым скарбам прабіраліся да станцыі, каб патрапіць на эшалон, што фарміраваўся для бежанцаў. Да эшалона прычапілі паравоз, ён пыхкае парай, чакае сігналу для адыходу. Зусім непадалёку ад мястэчка бухаюць бомбы. Гэта, відаць, на рэчцы Пцічы, на пераправе.

Аксана Рудкоўская таксама рашыла ўцякаць ад ворагаў. Яна тут, каля напакаваных да адказу людзьмі вагонаў. За плячыма дарожны мяшок на лямках, у ім вопратка. У руках — кашолка з сякімі-такімі прыпасамі прадуктаў.

Яна ідзе па пероне, выглядае, дзе вагон больш-менш свабодны. Састаў з цяплушак. Усе яны расхлістаныя насцеж. А людзей у кожным — яблыку недзе ўпасці. Але ў вагоны лезуць, пнуцца, праціскаюцца. Чутно, як прарэзлівымі галасамі плачуць дзеці. Аксана запыняецца на ўскраі платформы.

— Таварыш Рудкоўская!

Дзяўчына павярнулася на голас і ўбачыла Рубіса, сакратара райкома партыі. Яна добра яго ведала, ён быў сакратаром па прапагандзе.

— Іван Іванавіч, добры дзень. І вы тут?

— Як бачыш. Сям'ю адпраўляю. Чаго марудзяць? — і глянуў у бок станцыйнага будынка.— Дачакаюцца, што наляцяць самалёты.

— Не кажыце так. Вось і мне трэба...— нагадала аб сваім клопаце Аксана.— Толькі гляджу — усюды поўна. У які б гэта вагон?..

Рубіс яшчэ маладога веку чалавек, гадоў пад трыццаць

пяць, хударлявы, з крыху выпуклымі вачыма, якія свецяцца нават у такі трывожны час спакоем, раўнавагай. На ім паўвайсковая кашуля, перахопленая рэменем, брыджы і хромавыя боты. На чарнявай галаве цёмная кепка.

— Я цябе, таварыш Рудкоўская, прызнацца, шукаў. Праз райком камсамола. Але цябе не знайшлі.

— Шукалі? Навошта?

— Ёсць вялікая патрэба,— ён узяў Аксану за локаць, павёў у бок ад натоўпу.

У гэты момант прарэзліва на ўсё наваколле гукнуў паравоз.

— Іван Іванавіч — эшалон...

— Хай ідзе!

— Дык мне ж трэба...

— Што табе трэба, давай падумаем разам. Эвакуацыя твая адмяняецца.

— Ды што вы?!

— Такі загад, таварыш Рудкоўская. Мой і партыі нашай загад.

— Нічога не разумею,— паціснула плячыма Аксана.— Нечакана-негадана...

Яны стаялі на платформе, праводзілі эшалон. Вагоны тузаліся, стукацелі буферамі. Сумная і балючая была гэта карціна. Людзі плакалі і тут, на платформе, і ў вагонах, узрушана махалі рукамі, нешта крычалі адзін аднаму.

Рубіс пабег за вагонам, у якім была яго сям'я — жонка і два сыны. І таксама развітваўся — сам не ведаў: надоўга ці, можа, нават назаўсёды. Калі перад вачыма закалыхаўся апошні вагон, Рубіс яшчэ доўга глядзеў цягніку ўслед. Потым, цяжка ўздыхнуўшы, з павільгатнелымі вачыма пашыбаваў да багажнага доміка, каля якога стаяла Рудкоўская.

— Толькі б усё добра было. Каб хаця не перахапілі эшалон сцярвятнікі,— непакоіўся Рубіс.

— Хутка звечарэе. А ноччу яны, відаць, не лятаюць.

— Ім не загадаеш,— з сумам адзначыў Рубіс і канчаткова супакоіўся.— Дык во, бачыш, таварыш Аксана,— патрапіў ён у рэчышча перапыненай гаворкі.— Якія ў нас казыры. Пакуль кепскія. Але ўсё залежыць ад нас. Толькі ад нас.

— Вядома, Іван Іванавіч, толькі ад нас,— пацвердзіла Рудкоўская, папраўляючы заплечны мяшок. Гэты рух заўважыў сакратар райкома і даверліва спытаў:

— Куды збіралася ехаць?

— Эшалон ішоў на Гомель. Значыць, і я туды. А там было б бачна.

— Добра, што я цябе перахапіў. Нам якраз патрэбны такія людзі, як ты. З ліку моладзі,— падкрэсліў Рубіс.

— Я слухаю вас, Іван Іванавіч.

— Дай мне твой мяшок. Пойдзем разам. А то нагрузілася...— Сакратар з добрым клопатам вызваліў плечы дзяўчыны ад лямак, узяў мяшок у левую руку.— Але чакай, замест гэтага грузу дадзім другі.

Аксана на жарт адказала стрыманай усмешкай.

— Ой, нешта ж вы прыдумалі цяжкае, Іван Іванавіч. А раптам — не пацягну.

— Гэта якраз па тваіх сілах і здольнасцях. Дык во, таварыш Аксана, слухай. Справа, можна лічыць, больш як сур'ёзная.

Кіламетра шляху, што вызначыў адлегласць ад станцыі да дома Рудкоўскіх, хапіла, каб паведаміць дзяўчыне, што ад яе патрабуецца ў гэты трывожны і суровы для краіны час.

Рудкоўская павінна была моцна замацавацца ў тыле ворага, увайсці ў давер фашыстам, улезці ў іх асяроддзе. Было абумоўлена строгае патрабаванне: рашуча парваць з блізкімі знаёмымі, каб яе супрацоўніцтва з немцамі выглядала натуральным, лагічным.

— Прыйдзе час, і мы звернемся да цябе.

— Вы таксама тут застаецеся,— узрадавана прамовіла Аксана.

— Канешне, застаюся. Але жыць буду, вядома, не ў Міткавічах, а недзе ў іншым месцы. Дзе, не пытайся, не скажу. А чалавек, што з'явіцца ад нас, будзе з паролем. Ты яго цвёрда запомні: «Дзяўчына, прывітанне ад дзядзькі Селівона». У адказ: «Нешта ён не паказваецца ў нас. Можа, хварэе?» — «Ён дужы, як дуб». Бачыш, механіка не складаная. Запомніла?

— Дайце я паўтару,— і Аксана спакваля шэптам пераказала няхітры тэкст.

Іван Іванавіч у знак задавальнення паклаў на яе плячо сваю руку.

— Як ты павінна тут жыць і дзейнічаць, думай і выбірай сама. Вось і ўсё. Цяпер, выбачай, нам трэба развітацца. У мяне яшчэ спраў, спраў! Шчасліва, таварыш Аксана,— Іван Іванавіч апусціў на дашчаны тратуарчык

мяшок з дзяўчыніным скарбам, абхапіў абедзвюма рукамі руку Аксаны, моцна і горача пацісвуў.

Шмат пралілося людской крыві. Мінула больш як два гады. Але становішча цяпер не такое, якім яно было ў чэрвеньскія дні сорак першага года. Фашыстаў б'юць. На фронце — савецкія воіны, у тыле, на акупіраваных землях,— партызаны. Савецкія самалёты бамбяць Берлін. Сам Вільгельм расказваў аб гэтым.

Аксана ўжо стамілася чакаць весткі ад Рубіса, сакратара райкома. Дзе ён падзеўся? Чаму не адгукваецца? Усё больш і больш яна не бачыць сэнсу ў сваёй працы. Каму яна патрэбна, гэта праца? Людзі нічога не ведаюць, глядзяць на яе з пагардай і нянавісцю.

Далей яе служба ў фашыстаў, яна адчувала, магла скончыцца непапраўнай бядой...

— Фройляйн Аксана, сядайце,— пачула яна ціхі, паважны голас каменданта.— Вось перад вамі той бандыт, аб якім я вам расказваў. Займіцеся ім. Мне здаецца, гэта цікавы тып...

— Бум... Бум...— узарвалася цішыня ад далёкіх выбухаў. У акне аж затрымцелі шыбіны. Вільгельм шырока, задаволена ўсміхнуўся. Закінуў нагу на нагу.

— Палкоўнік Фрыдрых Носке гаворыць,— мнагазначна кіўнуў у бок акна гітлеравец.— Чуеце, фройляйн? Запытайцеся ў гэтага бандыта, ці ведае ён палкоўніка Носке?

Аксана глянула на арыштаванага. У баку каля сцяны стаяў, схіліўшы галаў, невысокі чалавек. Твар яго быў змрочны, засяроджаны, з ледзь прыкметнымі маршчынкамі каля рота. Чалавек раптам рэзка ўзняў галаву, як бы абудзіўся, і доўгім позіркам праняў Аксану. Яна не вытрымала гэтага позірку, ён быў апальваючым, патрабавальна рашучым, і адвяла вочы ўбок.

«Гэта ж бацька Сярожы Гадуна! Быў міліцыянерам. Як жа ён сюды трапіў?» Вільгельм, стрымана ўзмахваючы рукой, пачаў задаваць пытанні. Простыя, звычайныя, што сталі трафарэтам у яго практыцы. Аксана старанна перакладала, хоць ёй было вельмі няёмка паказваць местачкоўцу сваю паслужлівасць перад немцам.

Фёдар Гадун даводзіў, што ён не разведчык і не бандыт, як яго называе пан камендант, што ён пэўны час жыў у маці ў вёсцы Ліпкі, а як пачалася блакада, разам з усімі бежанцамі схаваўся ў лесе. Зараз у бежанцаў няма ніякіх прадуктаў. Вось ён і рашыў прыйсці ў мястэчка,

каб папрасіць у знаёмых крыху бульбы ці хлеба, каб выратаваць сям'ю.

— Фройляйн Аксана,— шчэрачы ва ўсмешцы зубы, сказаў камендант.— Паслухаць яго — анёл з анёлаў. Які ён няшчасны, які бездапаможны. А хто нашу камендатуру ўзарваў? Хто? Адказвай, ты ведаеш, шалёны сабака! — не стрымаўся і загрымеў басам Вільгельм.— І яшчэ скажы, колькі бандытаў сядзіць у балоце? Нам трэба ведаць дакладна. Гэтага патрабуе палкоўнік Фрыдрых Носке. А Носке жартаваць не ўмее і не любіць. І Вільгельм Цымлер, яго стары добры друг, таксама чалавек рашучы. Не адкажаш — пачнём з табой забаўляцца, як кошка з мышкай. Ха-ха-ха, ты зразумеў, лясны бандыт?

Фёдар Гадун не чакаў, што так хутка ўзарвецца гітлеравец, напоўніцца гневам і лютасцю. Вельмі балюча было ўсведамляць, што заданне камандавання Фёдар не выканаў. А так спадзяваўся, калі ішоў на аперацыю. Здавалася, усё ішло як мае быць: добра прадуманы і маршрут, і час, і легенда аб самім сабе. Магчыма, трэба было ўзяць з сабой пісталет. Калі яго акружалі там, на гародзе, ён паспрабаваў бы адстрэльвацца. Аднак замест пісталета далі ў рукі маленькую запіску, сказалі — жывым ці мёртвым даставіць яе Аксане Рудкоўскай. Запіскі той цяпер няма.

Калі на яго нахапіліся гітлераўцы, ён паспеў яе ўвапхнуць у рот і пракаўтнуць. Ён бачыць Аксану, былую настаўніцу, ведае змест запіскі. Цяпер паспрабуй перадаць ёй напісанае. Яна ж не дома, а ў кабінеце каменданта. І няхай толькі ён, Фёдар, заікнецца аб загадзе дзядзькі Андрэя, Вільгельм Цымлер тут жа на месцы расстраляе яго.

Фёдар не губляў надзею, што нейк усё абыдзецца, ён выратуецца. Супраць яго не аказалася пакуль што важкіх абвінаваўчых фактаў і дакументаў.

Што ж рабіць? Вадзіць за нос каменданта няхітрымі праставатымі адказамі? Маўляў, нічога не ведаю, ніякі я не партызан, прычапіліся немаведама чаго...

Можа, ёсць нейкія шанцы на ўцёкі? Хай бы было расчынена акно, ён паспрабаваў бы... Сіла ў яго яшчэ ёсць, спрыту таксама хапае. Шугануў бы ў акно.

Але такі план, разумее Фёдар, несур'ёзны. Камендатура моцна ахоўваецца, Вільгельм таксама ўзброены, вунь які важкі звісае пісталет на яго жываце злева. Каля дзвярэй набычана застыг тоўсты, з мурлатым тварам, гітлеравец. Аўтамат трымае напагатове.

Дык што, канец? Прымірыцца з лёсам, чакаць смерці? Яго праклянуць там, у лесе. На яго, Фёдара, было вялікае спадзяванне. І вось застаюцца лічаныя гадзіны... Да тысяч людзей, што трапілі ў кальцо блакады, набліжаецца катастрофа. Фашысты нікога не пашкадуюць. Будуць вешаць, расстрэльваць, скідваць жыўцом у ямы, умінаць трактарамі, танкамі, каб больш памясцілася туды ахвяр. Уявіў такую карціну Фёдар і жахнуўся.

Дзейнічаць! Трэба нешта тэрмінова знайсці, прыдумаць і дзейнічаць. Вільгельму не церпіцца паздзекавацца з яго, закіпае злосцю. Што ж, няхай.

Фёдар тым часам глядзіць прагна і патрабавальна на Аксану. «У мяне ёсць да цябе пісьмо. Ад дзядзькі Андрэя. Праўда, я яго праглынуў. Але ведаю на памяць. Дапамажы выбавіцца ад гэтых пачвар. Мы пагаворым. Пасланы адказны загад. Ты павінна аб ім ведаць. Не будзь халоднай і раўнадушнай. Зірні мне ў вочы. Адчуй маю трывогу...»

— Аксана,— раптам вырвалася ў Фёдара.— Ён загадаў... Сама ведаеш хто. Пісьмо ў мяне да цябе...

— Ад каго? — устрапянулася дзяўчына. Але тут жа сумелася і, каб замаскіраваць свой далейшы дыялог з арыштаваным, напусціла на сябе выгляд разгневанай асобы.— Так, я вучыла вашага сына, добра з вамі знаёма. Але, калі ласка, трымайце сябе прыстойна. Не абражайце. За вашу нялюдскую лаянку вы адкажаце.

Прыкмеціўшы, што Вільгельма зацікавіла яе ўзбуджанасць і доўгая слоўная тырада, яна павярнулася да яго і, як магла, ветліва растлумачыла:

— Гер Вільгельм, ён нагадаў мне, што я вучыла ў школе яго сына, што я павінна паспачуваць яму, папрасіць літасці ў гера каменданта.

— Фройляйн Аксана, вы прапануеце спыніць допыт. Не, не! — ён рашуча захітаў галавой.— Я вам сказаў, гэта цікавы тып. Адчуваю, у яго ёсць пра што распытаць. Бачыце, якія ў яго вочы? Як у тыгра. Працягнем допыт.

Вільгельм задаў адразу аж два пытанні. Яму не цярпелася выцягнуць з арыштаванага хоць пару карысных вестак. Тады ён адразу пазвоніць палкоўніку Носке.

Яны сёння дамовіліся спаткацца ўвечары ў рэстаранчыку, дзе будзе радыёла і танцы. Носке вельмі любіць танцаваць з Аксанай. Вільгельму, вядома, непрыемна такая ўвага да перакладчыцы. Ды што зробіш? Носке ёсць Носке — камандзір карнай дывізіі. Ён, трэба помніць, на

добрым рахунку ў самога фюрэра. Так што замінаць яму проста неразумна. Носке будзе тут нядоўга. Аперацыя па разгрому партызан у раёне Буян-возера заканчваецца. У сувязі з перамогай чакаюцца ўзнагароды і павышэнні ў чынах. Носке, калі лічыць па-справядліваму, павінен і яго, Вільгельма, не абысці. І тады Вільгельм Цымлер прыладзіць да мундзіра пагоны маёра. А там недалёка і чын палкоўніка...

Усё гэта, вядома, летуценні. Але якія яны прыемныя і зваблівыя. Будучы ў чыне палкоўніка ён, Цымлер, можа быць прызначаны нават камендантам буйнога горада, скажам, Гомеля ці Мінска. Там іншыя маштабы дзейнасці. Там у яго будзе ўсё асабістае. Яго будзе суправаджаць эскорт матацыклістаў, ён будзе правяраць і інспекціраваць воінскія часці, выступаць з прамовамі перад афіцэрамі. Ён будзе адчуваць сябе няхай маленькім, але фюрэрам.

Але Носке!.. Ён не з такіх, каб дзяліцца славай, каб падстаўляць плячо іншаму. Хіба не бачна...

Вільгельм як бы абудзіўся, адагнаў прэч надакучлівыя мроі аб будучым.

Фёдар на новыя запытанні каменданта марудзіў з адказам. Ён чуў, што Аксана нешта тлумачыла немцу пра ягонага сына. Абуралася. Па твары дзяўчыны цяжка было ўведаць яе сапраўдны настрой. Але партызан падбадзёрыўся, атрымаўшы адказ на свае першыя намёкі аб тым, што ён пасланы іменна да яе. Бач, загаварыла пра абразу, пра лаянку. Не так сабе гэта. Яна дае яму зразумець, што хоча ўведаць усё да канца. А каб натуральней зрабіць іх гаворку, дзяўчына знарок падае выгляд, што арыштаваны кідае па яе адрасу непрыстойнасці. Што ж, ён павінен паказаць, што закіпае злосцю.

Фёдар нацэліў свае чорныя вочы на Аксану і коратка, захлынаючыся ад ліхаманкавай узбуджанасці, пачаў гаварыць, як бы адказваць на пытанні каменданта:

— Яшчэ раз паўтараю, я не партызан...— І тут жа сыпаў словы, прызначаныя дзяўчыне: — Табе загадана дастаць план блакады. Ты гэта зможаш...— І далей для перакладу: — Я звычайны чалавек. У мяне няма ніякай зброі. Я нікога не забіў і не заб'ю. Пра падрыў камендатуры першы раз чую.— І зноў неўпрыкмет перайшоў на сваё, самае важнае: — План не пазней як праз суткі пашлі нам... Праз майго сына... Алёшу будуць чакаць за

возерам, у раёне Лазовай хаткі. Гэта — загад. Прымі і выконвай. У цябе верaць. Калі загад не выканаеш... Аб гэтым таксама ведай. Я ўсё зрабіў, што мог. Перадай фашысту, што яму нічога не скажу, бо нічога не ведаю.

Аксана са спакойнай раўнавагай выслухала партызанскага разведчыка. У канцы лёгенька, ледзь прыкметна кіўнула. Што азначаў гэты жэст? Аднак на душы Фёдара палягчэла.

Ці будзе карысць ад ягонага прызнання? Фёдар пайшоў, вядома, на вялікую рызыку. Ублытаў ва ўсю справу нават сына Алёшу. Калі Аксана акажацца недалёкай, не ўразумее ўсёй значнасці перададзенай весткі і раскажа аб партызанскім загадзе Вільгельму, Алёша будзе неадкладна арыштаваны. Яго кінуць, як і Фёдара, у каменны склеп камендатуры, будуць у жывога выдзіраць жылы, каб дамагчыся патрэбных дазнанняў.

«Алёшка, сынок мой, дзе ты цяпер? Ты не ведаеш, які твой адчайны бацька. Цяпер твой лёс, зразумей, у яе руках. Я хачу верыць, што Аксана з добрым сэрцам. Што яно адгукнецца на нашу бяду, на наша гора. Вось чаму я пайшоў на такі крок. Іншага шляху ў мяне не было, не бачылася. Не ведаю, можа, я зрабіў няправільна. Тады даруйце мне, дзядзька Андрэй, наш слаўны камандзір, браткі-партызаны і мой дарагі сынок Алёша».

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

Доўга яшчэ стаялі на беразе Вадзім Мікалаевіч і Ціток. Як бы чакалі кагосьці. Цітку здавалася, што той чалавек, які плыў у лодцы, не загінуў, што ён вось-вось пакажацца з вады і выйдзе да іх на востраў. Во была б сустрэча. Ён бы расказаў, чаму пайшоў на такую вялікую рызыку. У журботным маўчанні міналі хвіліна за хвілінай.

Марудна з-за небасхілу выплывала сонца. Яго ўзыход як бы даў трывожны сігнал. Там, на поўначы, тумкнуў грымотны выбух. Ад яго нават скалануўся востраў. Праз нейкі момант затузалася ад гудзення вышыня. Яны пачалі аглядаць неба. З боку Міткавіч каля самага небасхілу прабіраўся к балоту Камар-мох самалёт.

— Фашысты...— сказаў Вадзім Мікалаевіч.— Не спіцца ім, не сядзіцца.

— Бамбавоз гэта ці разведчык?

— Зараз пабачым, што будзе рабіць...

Самалёт ужо быў над балотам. Ён ляцеў высакавата і быў падобны на вялізнага каршуна. Прастора поўнілася ягоным гулам.

— Няхай бы нашы ўдарылі па ім,— нецярпліва сказаў Цітон.— Невялікая вышыня. Можна і з вінтоўкі.

— Відаць, партызаны шкадуюць патронаў. Ды з вінтоўкі яго, бадай, не саб'еш. Яны ж, Цітон, гэтыя «юнкерсы», браніраваныя.

— А каб у трос папасці, які кіруе хвастом? Адразу б кульнуўся носам.

— Вядома, кульнуўся бы. Можна тысячу разоў цэліцца, а пападання ніводнага не будзе. Не так усё, як бачыш, проста.

— Эх, каб я быў там, на балоце, і меў вінтоўку! Прыладзіўся — ды па ім.

— Эх, мары-летуценні...— уздыхнуў Вадзім Мікалаевіч.— Нам многа чаго хочацца, Цітон. Досыць стаяць,— нагадаў ён.— Давай будзем варушыцца, нейк ратавацца. З голаду, глядзі, папухнем. У мяне сохне ў роце...

— А ў мяне жывот зусім к спіне падцягнула. Бачыце, магу пераціснуць дзвюма рукамі,— і хлопец абхапіў сябе ў поясе, паказаў, які ён тоненькі.

— Кош плесці закончыў? Нам рыба патрэбна, хлопча. Хоць сырую, а будзем есці.

— Пайду дапляту,— паспешліва адказаў Цітон, адрываючыся позіркам ад самалёта.— Бомбаў не кідае. Значыць, шпіёніць, выведвае.

— Фашысты, відаць, рыхтуюцца нанесці рашучы ўдар. Хочуць ведаць, дзе нашы галоўныя сілы.

— Слухайце, можа, ужо нашы вырваліся? Сёння ноччу...

— Калі б вырваліся, не пасылалі б ворагі самалёта.

— І партызанам цяжка, і нам не лягчэй. Э-эх! — махнуў у скрусе рукой хлопец і пашыбаваў да Чорнага дуба.

Вадзім Мікалаевіч яшчэ нейкі час назіраў за самалётам, які хадзіў над балотам шырокімі кругамі. Здавалася, ён шукаў месца для пасадкі і не знаходзіў яго.

Настаўніку тут жа міжволі прыгадаўся сон. З якой нагоды прыснілася яму Аксана? Паміж імі ўсё, можна сказаць, скончана. Іх дружба, што так добра і лёгка нарадзілася, не вытрымала выпрабаванняў. Калі цвяроза

разважыць, думаць пра дзяўчыну было нават брыдка. А вось не загадаеш сэрцу — думалася...

Вадзімаў позірк каўзануў па вясле, што стаяла, прыткнутае да ствала бярозы. Зноў настаўнік агледзеў возера. Асабліва доўга ён узіраўся ў тое месца, дзе загінула лодка. Вадзяная прастора маршчынілася дробнымі іскрыстымі хвалямі. Было ўражанне, як бы нічога страшнага тут ніколі не здаралася. А загінуў жа чалавек... Хто ён такі? Той чалавек пачуў іх крыкі на востраве. Няхай бы паслухаўся, завярнуў. Ягоная спешка выклікала ў настаўніка ўсё большую і большую зацікаўленасць.

Яшчэ раз агледзеў Вадзім Мікалаевіч вясло, замашыстае, з шыракаватай лапаткай. Яно ўжо амаль абсохла і стала бялёса-шэрым. Настаўнік узяў, перакінуў яго з рук у рукі. Была б лодка ці хаця кавалак сухога бервяна, і тады стала б усё прасцей простага. Вечаркам пад сховай змроку можна было б пачаць пераправу на бліжэйшы бераг. Хіба яшчэ пахадзіць па востраве, пашукаць трухлявую калоду. На добры лад не блага, калі б трапіўся пад рукі вываратнень ці корч. З вяслом і яны набываюць сэнс — становяцца маленькім плытом.

Абапіраючыся на вясло, Вадзім Мікалаевіч падаўся ў глыб вострава. Аднастайна пад лёгкім ранішнім ветрам шамацелі дрэвы. З-пад ног выскачыла зеленаватая жабка і ў жаху кінулася ўбок. «Няма агню,— пашкадаваў настаўнік,— можна было б злавіць і засмажыць. А што, французы рыхтуюць з жабак далікатэсы, што пальчыкі абліжаш. І мы з Цітком паспрабавалі б».

Непадалёку, над гушчаром ельніку, вытыркалася мажная постаць Чорнага дуба. Калі настаўнік выпнуўся на сухую, усцеленую ігліцай палянку, ён пачуў, як зашамацелі кусты. Праз момант над маладым падлескам прасунуўся пірамідальны кош. Вадзім Мікалаевіч узрадаваўся: ішоў Цітох.

На паляну паспешліва выйшаў хлопец. Кош ён трымаў над галавой, быў падобны на хвацкага рыбалова. Цераз плячо вісела торба, але яна была нечым абцяжарана. Вадзім Мікалаевіч адразу звярнуў на гэта ўвагу.

— У цябе сухарык вырас, ці што? — пацікавіўся ён.

Цітох паставіў на дол кош, узяўся за вочапку торбы.

— Вадзім Мікалаевіч,— знаходка,— ён запусціў руку ў торбу, дастаў лязо лапаты. Яно было рыжае ад старой заскарузлай іржы.

— Дзе раздабыў?

— Ля Чорнага дуба, у пяску. Выцягнуў сасновы корань, каб даплесці кош, ён падвёў мяне пад самы ствол дуба. Калі пацягнуў, разам з дзярнінай вывернулася лапата. Я абчысціў, думаю, спатрэбіцца.

— Нямоцная,— памацаў рукамі Вадзім Мікалаевіч лапату,— але прыпас, як кажуць, ніколі не шкодзіць. Пакладзём яе тут, на палянцы,— і ён кінуў лапату пад сасновы пень. Хацеў прыткнуць да пня і вясло, але Цітох нагадаў:

— А чым ганяць будзем рыбу? Бярыце з сабой.

У паветры зрэдку глуха працягвалі бумкаць выбухі. І Вадзім Мікалаевіч і Цітох кожны раз прыслухоўваліся да іх, насцярожана паварочвалі галовы да балота Камармох, але маўчалі, не выказвалі сваіх думак. Разумелі, там становішча ўсё пагаршалася, але яны, на жаль, нічым не могуць сваім сябрам-таварышам дапамагчы.

Убаку, за высакаватым, жаўтлява-фіялетавым ракітнікам, сінела вада. Там была затока, да яе і павярнулі рыбаловы. Ціхенька выйшлі на бераг. З гэтага, наветранага, боку возера было спакойным, роўным, быццам адпрасаванае палатно.

Вадзім Мікалаевіч агледзеў далячынь у надзеі, што, можа, дзе з'явіцца нейкая выпадковая лодка. Прастора возера зіхатліва іскрылася пад сонцам, была як пустыня. Цітох прасачыў за позіркам вачэй настаўніка і, зразумеўшы яго думкі, сказаў:

— Нікога, як бы ўсё вымерла. Што ні кажы, блакада ёсць блакада.

— Цішэй гавары, Цітох,— папярэдзіў настаўнік,— а то спудзім рыбу. Тут, у гэтым закутку, павінны стаяць акуні. Ціхенька заходзь збоку, пастаў кош у вусці затокі, а я тым часам паганю.

Хлапец сцягнуў з сябе штаны і, трымаючы кош напагатове, асцярожнымі крокамі пабрыў па вадзе ў канец затокі. Ля берага ўспучыліся гарбінкі вады, нейкія рыбкі, пачуўшы шум, пачалі ратавацца. Вадзім Мікалаевіч аж пашкадаваў — уцякае здабыча! Ужо ў самым вусці Цітох зрабіў некалькі шумных быстрых крокаў, кінуў кош у ваду, прыладзіў яго да дна, крыкнуў:

— Ганіце!

Настаўнік з вяслом скіраваўся да вады. З-пад травы, у купняку, што стаяў у вадзе, сыпанулі рыбы. У той жа

момант каля шэрай асакі вырасла крутая гарбіна вады. «Вялікая рыбіна»,— падумаў настаўнік.

— Ціток! Да цябе шуснула рыбіна. Во такая! — ён хацеў паказаць рукамі, але ў гэты міг затока завірыла. Рыбіна, напуджаная плёскатам і крыкамі Цітка, павярнула назад. З разгону яна кінулася пад ногі настаўніка. Той адразу пазнаў госця затокі. Гэта быў сом, цельпукаваты, з прыплюснутай шырокай галавой, дужы як чорт. Матлянуўшы хвастом, ён хацеў развярнуцца, ізноў кінуцца да Цітка, да вусця, але не разлічыў і выкінуўся на бераг.

— Лаві! — крыкнуў Ціток, кінуў кош, рынуўся на дапамогу настаўніку. Вадзім Мікалаевіч замахнуўся вяслом, хацеў ударыць па рыбіне, але ад слабасці яго моцна хіснула ўбок, ён не ўтрымаўся, зваліўся ў ваду.

Тым часам Ціток ужо быў каля берага, упаў на сома, імкнучыся прыціснуць яго, каб не даць скаціцца назад у ваду. Сом затрапятаўся, затузаўся і вывернуўся з-пад Цітковага жывата.

— Ай, халера! — крыкнуў у скрусе хлопец.

— Лаві, трымай! — Вадзім Мікалаевіч ужо быў на нагах і спяшаўся на дапамогу. Ціток хацеў схапіць сома за жабры, але той ужо быў напалавіну ў вадзе і, чуючы родную стыхію, пляснуў хвастом, ды так, што перакуліўся і нырнуў у глыбіню затокі.

— Разява! — крыкнуў Вадзім Мікалаевіч, бегучы наперарэз рыбе. Але сом, як тарпеда, узвірыў ваду ды, бліснуўшы чорнай, з жаўтаватымі разводамі, спіной, пакідаў затоку.

Хлопцы паднялі з вады пусты кош.

— Такая была здабыча! Праваронілі,— уздыхнуў са шкадаваннем Вадзім Мікалаевіч.

— Я вінаваты,— сказаў Ціток.— Быў у мяне пад жыватом, і ўпусціў. Эх!

— Зяўнулі мы, браток, удвух. Я не паспеў, пляснуўся ў ваду. Калі б не гэта... Трэба было, Ціток, за жабры хапаць. За жабры!

— Я ж хапаў. Хіба не ведаю, як рыбіну ўтрымаць. Але дужы, халера, на добрых паўпуда. Во адкарміўся...

— У затоку зайшоў. Грэўся, відаць, на сонцы. От выпадак. Скажы, не пашчасціла. Ну і саміна. Скажу табе, Ціток, такога ў жыцці першы раз бачу.

Ціток паказаў рукой на пусты кош.

— Ніводнай. Цяпер зноў трэба чакаць.

Хлопцы выбраліся на бераг. Вадзім Мікалаевіч быў амаль увесь мокры. Ён скінуў штаны, кашулю, выкруціў іх. Хацеў вопратку павесіць на кустах, каб крыху прасохла на сонцы, але з глыбіні вострава пачуліся нейкія гукі.

— Як бы кугыча сава,— сказаў Ціток.

— Якая сава. Гэта ж наша Алачка. Чуеш, хныкае, плача. Ану бяжы, прывядзі сюды. Будзем карміць дзяўчынку,— і тут жа стаў паспешліва ўсцягваць на сябе штаны, а потым пацямнелую ад вады сацінавую кашулю.

Востраў памалу напаўняўся зыкамі жыцця. Недзе, усеўшыся на ствале сасны, стукацеў дзяцел. Шамацелі веццем кусты, цягуча ўдалечыні шумелі верхавіны высокіх таполяў. Пад ногі, кружачыся ў паветры, ападалі першыя пажоўклыя лісткі.

Алачку Ціток нёс на руках, яна плакала, размазвала па шчоках слёзы.

— Дай, дай! — прасіла яна ў Цітка, трымаючыся за яго шыю.

— Ты пачакай, Алачка. От прыстала. Во сядзем, я торбу адшукаю. І накармлю цябе, накармлю. Эх, не бачыла, што тут у гэтай затоцы рабілася. Мы хацелі табе, Алачка, спаймаць вялікую рыбіну. Во такую! — ён нават паказаў рукамі.

— Лыбіну! — паўтарыла Алачка.— Дай-дай лыбіну...— і заплакала яшчэ горай. Яе пачаў суцяшаць Вадзім Мікалаевіч.

— Ну, прачнулася, маленькая. Шчочкі гараць, як сонейка. Ты не плач, Алачка, не плач. А то сом тут вусаты наведваўся, па беразе хвастом пляскатым біў, шукаў дзяцей, якія плачуць, з сабой хацеў забраць. Ціток, падай сухарык, пакарміць трэба Алачку.

Хлопец пасадзіў узбоч на траве дзяўчынку, расхінуў торбу. Пашарыў у ёй рукою.

— Во, усё, што ў нас ёсць.— На разгорнутай далоні ляжала некалькі арэхаў і сточаны з усіх бакоў сухарык.— Як будзем дзяліць?

— Усё Алачцы,— ласкава ўсміхнуўшыся, сказаў Вадзім Мікалаевіч.

— А нам?

— Наша снеданне, Ціток,— жартаўліва адказаў настаўнік,— у возеры. Зловім — будзе наша, не зловім — і так абыдземся. Бяры, Алачка,— і ён запхнуў ёй у рот ка-

валачак сухарыка. Яна сквапна зачмокала губамі, пачала яго абсмоктваць, як цукерку. Забавілася пачастункам і ўраз пакінула плакаць.

Вадзім Мікалаевіч і Ціток не без пакуты глядзелі, як знікаў іх апошні харчовы прыпас. Што будзе заўтра, паслязаўтра? Чым яны будуць карміць дзяўчынку? Было спадзяванне на рыбалку. Але першая спроба закончылася няўдала. Праўда, сом быў амаль у іх руках. Ах, каб пайжалі! Нічога, што няма агню. На сонцы падсушылі б, на ветрыку падвялілі б парэзаныя лустачкі рыбы. Харч быў бы цудоўны... «Ну і лапатун!» — у вачах Вадзіма Мікалаевіча паўстаў ва ўсёй яркаце нядаўні малюнак палявання на азёрнага разбойніка.

Ціток убачыў, што Ала скаўтнула перацёрты ў роце сухарык, працягнуў ёй апошні раструшчаны кавалачак.

— На, бяры. Усё! — сказаў хлопец, ссыпаючы да апошняй крошкі рэшткі хлеба.— Няма. Бачыш, няма.

— Няма,— паўтарыла дзяўчынка і ўмільна прыплюшчыла вочы.— Дода!

— Вось табе і Дода! — адказаў хлопец.— Канец нашаму багаццю і раскошы. Во, бачыш, наш склад пусты,— і ён патрусіў пустую торбачку.

— Во разумніца, супакоілася, угаманілася. Ціток,— звярнуўся ён да хлопца,— вось каб зноў сом забраўся ў затоку. Думаю, цяпер ён не мінуў бы палону...

Вадзім Мікалаевіч сцягнуў з сябе штаны, узяў кош і крадком стаў прабірацца па затоцы да яе вусця. Гэта атрымлівалася ў яго добра, бясшумна. Праз хвіліну Ціток закалаціў па вадзе нагамі і вяслом. Па баках каша настаўнік таксама ўздымаў плёскат, каб рыба кіравалася проста ў лазовую пастку. Буйной рыбы ў затоцы не заўважалася. Калі паднялі з вады кош, у ім трапяталі некалькі дробных плотачак. На твары Вадзіма Мікалаевіча бліснула расчараванне.

— Ну і здабыча! Толькі на пачастунак кату.

— Будзе добрая і нам,— радаваўся Ціток.— Алачка,— гукнуў ён да дзяўчынкі,— я нешта табе пакажу. Цікавае-цікавае...

— Дода! Дода! — пацягнулася ручкамі Алачка і дробненька пакрочыла да берага.

— Не падыходзь,— папярэдзіў настаўнік малую.— Бухнеш у ваду.

Яны выйшлі на бераг, на вільготны пясок высыпалі

з каша тры плотачкі. Яны заскакалі, забіліся, шмакаючы маленькімі роцікамі. Алачка пачала лавіць рыбінак. Але гэта ёй не ўдавалася. Як толькі хапала рукою, плотачка тут жа выкоўзвалася.

— Дода! — паскардзілася дзяўчынка Цітку і ледзь не заплакала.

— Вось так іх трэба лавіць,— паказаў Цітох і ўхапіў рыбінку за галаву.— Бачыш, якая прыгожая! З чырвоненькімі плаўнічкамі, з чырвоным хвосцікам. Гэта табе — цаца. Забаўляйся, але ў ваду не пускай.

Вадзім Мікалаевіч распароў вострым сучком брушка дзвюх астатніх плотачак, выкінуў вантробы, садраў луску і паклаў рыбінак на пянёк, на сонца.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Допыт Фёдара Гадуна вёўся больш як гадзіну. Аксане было цяжка назіраць, як камендант дамагаўся ад партызана прызнання. Ён усяляк падступаўся да яго — то з ласкай, то з лаянкай, нават некалькі разоў ударыў па твары.

— Ты ў мяне загаворыш! Прызнавайся, партызанская свіння, бо будзе позна. Зубы павыбіваем, вушы адрэжам, вочы павыкалваем. Вось што цябе чакае,— гразіўся гітлеравец.

Але Гадун моўчкі сядзеў на табурэтцы. Нават ад удару па шчацэ не зварухнуўся. На твары ў яго застыла рашучасць. Партызана ўвесь час цікавіла Аксана, ён прыглядаўся да яе, услухоўваўся да яе гаворкі. Дзяўчына, як ён зразумеў, не расказала каменданту аб партызанскім загадзе. А гэта ўжо абяцала нешта. Яна, відаць, абдумвае сітуацыю. Але ж які зробіць вывад? Ці захоча ўблытвацца ў небяспечную справу? Ніводным сваім рухам, ніводным словам не перадала Фёдару свайго рашэння. Ён, вядома, непакоіўся. «Правал... Недарэчны правал,— прыйшла раптам трывога.— Што ж рабіць? Як дапамагчы сваім? Яны нічога не ведаюць аба мне. Спадзяюцца, што вось-вось вярнуся і аб усім раскажу. Цяпер аб звароце не можа быць і гаворкі. Аксана, хоць і добрая знаёмая, можа аказацца бяссільнай, каб памагчы...»

Допыт, відаць, яшчэ б цягнуўся, але раптам затуркацеў палявы тэлефон, які стаяў на краі камендантавага стала. Вільгельм падняў трубку. Па голасу пазнаў — звоніць Фрыдрых Носке.

— Слухаю, мой палкоўнік,— лісліва адгукнуўся камендант. У трубцы зацурчэў напружаны быстры голас. Вільгельм счакаў хвіліну, коратка адказаў «слухаюся» і палажыў трубку.

Тут жа выцягнуў з кішэні хусцінку, выцер потны лоб, шыю і, звераватым позіркам праця́ўшы партызана, кінуў словамі, якія ведаў.

— Рускі свіння... Бандзіт... Узяць яго! — раўнуў ён ва ўсю моц голасу.

Жандар у той жа міг ухапіў Фёдара за каўнер, рэзка шматануў да дзвярэй.

— Пашёль!

Вільгельм нейкі момант маўчаў, відаць, каб супакоіцца. Потым уважліва зірнуў на Аксану.

— Вас тэрмінова просіць да сябе палкоўнік. Каля камендатуры стаіць яго машына. Добрага вам настрою, фройляйн.

— Дзякую, капітан,— стрымана адказала Аксана і паспешліва пакінула кабінет.

* * *

Палкоўнік сустрэў Аксану на вуліцы. Калі пад'ехалі да штабной будыніны, нават расчыніў дзверцы «опеля», дапамог ёй выйсці.

— О, пан палкоўнік, навошта непакоіцца. Я сама,— збянтэжана загаварыла дзяўчына, спрытна выхопліваючыся з машыны.

— Я ўмею цаніць, дарагая фройляйн, харошых людзей. Вы нам вельмі патрэбны чалавек,— тараторыў ён па-нямецку, паважна трымаючы галаву, на якой, распісаная пазументамі, ладна сядзела высокая фуражка.— Вас не забудзе Германія. Расія рана ці позна знікне. Камуністы супраціўляюцца. Але наш фюрэр усё бачыць, як бог. Мы крыху адступілі, але гэта часова, фройляйн, паверце, часова. Там, у нашай фатэрлянд, скажу па сакрэту, рыхтуецца адна цікавая штучка. Бачыце, фройляйн, я выдаю ваенны сакрэт, бо хачу быць перад вамі шчырым.

Ён быў у вясёлым настроі, гаварыў мякка, жартаваў, сыпаў кампліменты. Аксана навастрылася, слухала, спешаная, балбатню палкоўніка, чакаючы, што ён скажа нешта важнае, каштоўнае. Ён гаварыў пра Берлін, пра Гітлера,

хваліўся, што яму, палкоўніку, у бліжэйшы час прадстаіць паездка ў стаўку [redacted] асобым дакладам. Яна разумела намёк палкоўніка. Ён быў, як кажуць, на ўсе сто працэнтаў упэўнены ў паспяховым заканчэнні карнай экспедыцыі па знішчэнню партызан.

У думках дзяўчыны тым часам адразу ўзнік Фёдар Гадун. З абветраным моцным тварам, шыракаплечы, бы выліты з бронзы. Загучалі яго адчайныя словы: «Наш табе загадаў дастаць план блакады. Ты гэта можаш...» Яна не магла забыць гэтыя словы, пакінуць іх без увагі. Па гучанню Фёдаравага голасу разумела, у якое трагічнае становішча трапілі партызаны і сагнаныя з розных вёсак мірныя людзі. Усе яны былі як бы ў жалезнай пастцы. Яе трэба нейк адамкнуць. Але як? Аксана, на жаль, не ведае падрабязнага плана блакады. Не ведае нават, дзе яго знайсці, як ім авалодаць, каб потым пераправіць партызанам. Скажы, як разгаманіўся даўгавязы палкоўнік. Нешта выкладае пра ваенны сакрэт, які трымае ў сваіх руках Гітлер. Вядома, цікава ўведаць падрабязнасці і аб такім сакрэце. Але лепш было б, каб палкоўнік расказаў, як ідзе справа па ліквідацыі партызанскага злучэння.

Яна даверліва ўзяла палкоўніка пад руку, зазірнула яму ў вочы.

— Пан палкоўнік,— пачала дзяўчына як бы між іншым,— як я разумею, добрыя справы не толькі ў Берліне, але і тут, у раёне Буян-возера.

— О, вядома,— яшчэ больш ажвавеў Фрыдрых Носке,— не ўтаю, мая дывізія сціснула партызан у кулак. Мёртвай хваткай,— удакладніў ён.— Праз некалькі дзён на гэтай вось плошчы,— і ён кіўнуў галавой убок,— будзем вешаць галоўнага партызанскага бандыта — дзядзьку Андрэя, вы ведаеце яго?

— На жаль, не,— сказала перакладчыца.

— Тым лепш для вас,— усміхнуўся палкоўнік.— Разумею, жанчыны жаласлівыя. Могуць слязу пусціць.

— Я цвёрдая,— пахвалілася Аксана.— Пераношу любыя жахі. Між іншым, пан палкоўнік, цярплівасці такой навучылі мяне вы, немцы.

— Вы не робіце адкрыцця, фройляйн. Мы вучым увесь свет... Як трэба жыць, як будаваць будучыню.

— Будуеце мячом і бомбамі,— падкавырнула Аксана гітлераўца.

— Мы не грэбуем у дасягненні сваёй мэты ніякімі

сродкамі, мілая фройляйн. Запомніце гэта. Гітлер — наш бог. Мы пройдзем разам з ім па ўсёй планеце. Хайль!

— Праўда, крышку гэтаму перашкаджаюць партызаны.

— О, вы ўмееце жартаваць. Цаню такую якасць у людзей, а ў вас асабліва, фройляйн Аксана. Але чаго варты ваш жарт, вы зараз пераканаецеся. Я экстрана выклікаў вас, каб атрымаць самыя свежыя і самыя поўныя звесткі аб становішчы ў бандыцкім логаве.

— Праз мяне? Божа барані, я нічога не ведаю,— гуллі-ва зазначыла дзяўчына.

— Справа ў тым,— тлумачыў палкоўнік,— з'явіўся наш агент. Папрысутнічайце, калі ласка, пры нашай размове. На жаль, ён не размаўляе па-нямецку. Вось вы нам дапаможаце.

— Заўсёды рада, пан палкоўнік.

Яны ўвайшлі ў прасторны кабінет з высокімі прадаўгаватымі вокнамі, у якія свяціла яркае паўдзённае сонца. Каля вокнаў стаяў стол, прыкрыты шклом. На ім знаходзіліся тэлефоны, пісьмовыя прылады. На правым баку стала ўзвышалася шэрая скрынка рацыі. Справа, у кутку, быў яшчэ адзін столік, на ім знаходзіліся ваза з кветкамі, вялізная міса, даверху напоўненая яблыкамі. Тут жа стаялі тры бутэлькі з шампанскім і каньяком. «Добра ўладкаваўся Фрыдрых Носке.— Аксана ацэньваючым позіркам акідвала кабінет.— Адчувае сваю сілу і ўладу. Як бы няма для яго ніякай вайны».

Палкоўнік запрасіў Аксану сесці ў скуранае добротнае крэсла, прыстаўленае да яго стала. Сам сеў насупраць, спінай да акна, забарабаніў па стале доўгімі нервовымі пальцамі.

— Ну як, фройляйн Аксана, падабаецца вам тут? Разумееце, я люблю камфорт, парадак.

Дзяўчына звярнула ўвагу на вялізную, утыканую сцяжкамі карту. Яна вісела каля высокай шафы на сцяне.

— Хочаце ведаць становішча на фронце? — перахапіў яе позірк Носке.— Яно, слава богу, стабілізавана. Мая дывізія стаяла пад Бранскам. Там мы стварылі надзейны абарончы вал. Рускія, калі паспрабуюць яго браць, расколюць сабе лбы.

«Ну і выхваляка! — падумала дзяўчына.— Але ты мне не пра тое гаворыш. Пра партызан раскажы, пра свае планы...»

— О, я забыў,— раптам спахапіўся Носке,— пачаставаць вас яблыкамі. Бярыце,— і ён працягнуў ёй важкую, з пладамі місу.— Гэта белы наліў. Цудоўны гатунак. У нас, у Германіі, такія не растуць. Землі ў вас, рускіх, дабротныя. Сокамі багатыя...

— Дзякую, пан палкоўнік,— ветліва адмовілася Аксана і тут жа нагадала: — Нам, як я разумею, прадстаіць важная работа. Я да вашых паслуг, пан палкоўнік.

— Хвалю, хвалю,— скасавурыўшы дапытлівы позірк на дзяўчыну, працягнуў Фрыдрых Носке.— Вы правы. У нас усё яшчэ наперадзе: і частаванне, і падарункі.

Ён непрыкметным рухам націснуў пад сталом кнопку. Наліў у шклянку вады, адпіў. Выцер хусцінкай рот. У гэты момант дзверы адчыніліся, і ў кабінет ціхенька ўкаціўся кругленькі, як бочачка, чалавек. Гадоў яму было трыццаць пяць, можа, нават менш. Апрануты ва ўсё новенькае, дакладна прыгнанае да фігуры. Ён зняў шэрую кепку, нізка пакланіўся. Валасы на галаве былі рыжыя, рассыпчатыя. А бровы чарнаватыя, густыя.

— Вось што,— адразу пачаў палкоўнік.— Давайце разбяромся ў абстаноўцы. Бандыты яшчэ не падохлі? — і ён саркастычна ўсміхнуўся.

— Пан палкоўнік, яшчэ не падохлі,— ціха, старанна адказаў той.— Але ўжо цалкам з'елі і кароў і коней. Бачыў пры адным атрадзе сабак. Іх навучылі кідацца пад танкі. Калі дабіраўся сюды, зноў быў у гэтым атрадзе. Але сабак не пачуў. Відаць, іх засмажылі...

— Ха-ха...— рагатнуў задаволена палкоўнік.— Хутка яны самі сябе будуць смажыць... Скажы...— ён запнуўся, прыгадваючы імя агента.

— Рыгор Клімчук,— падказаў той.

— О, так, Клімчук. Прыгожае ў цябе імя. Пан Клімчук,— паўтарыў Носке.— Як я разумею, у партызан падцягнула жываты. Мы раскідалі лістоўкі, прапанавалі ўсім здацца. Абяцаем жыццё, вяртанне на месца жыхарства. Як глядзяць партызаны на наш заклік?

— Яны аб ім нават не думаюць, пан палкоўнік,— адразу адгукнуўся агент.— Я шантажыраваў некаторых, падбіваў, каб кідалі зброю, ішлі назад. Але ніводзін не згадзіўся. Нават старыя гарбатыя дзяды і бабулі. Камунізм, як чума, пан палкоўнік. З ім цяжка змагацца.

— Навошта так сур'ёзна, пан Клімчук,— незадаволе-

на чмыхнуў палкоўнік.— Мы іх усіх зломім. Нам ніколі не можа быць цяжка, бо з намі Гітлер.

— З вамі згодзен, пан палкоўнік.

— Вы кажаце, есці ў іх няма чаго. Як жа думаюць жыць? На што спадзяюцца? На бога, на чорта?

— Яны будуюць грэблю, пан палкоўнік. У раёне Гнілога броду,— удакладніў агент.— Відаць, па ёй думаюць выбрацца з балота і схавацца ў Клімаўскай пушчы.

— Гнілое балота? — перапытаў Носке, адразу пасур'ёзнеўшы.— Гэта новае для нас. Дзе яно, як удакладніць? Мы пашлём самалёты. Мы ўдарым артылерыяй. Бач, які ў іх план? Яны шукаюць паратунак... Хм-м,— ён дастаў з шуфляды стала карту, разгарнуў яе, узяў з падстаўкі сіні аловак.— Пан Клімчук, пакажыце мне дакладна.

Агент хуценька падкаціўся да стала, упіўся позіркам у карту. Аксана таксама пацягнулася вачыма да карты, нават хацела прыўзняцца з крэсла, каб лепш бачыць.

Але такую яе цікаўнасць мог адразу заўважыць Фрыдрых Носке і нядобра вытлумачыць. Пасля ён замкнуўся б і не бравіраваў перад Аксанай сваёй адкрытасцю. Такая сітуацыя была б нежаданай. Носке павінен верыць ёй, павінен не баяцца яе.

— Гнілы брод вось тут, пан палкоўнік,— тыцнуў куртатым пальцам у карту агент.— На паўночным баку балота Камар-мох. За ім ідуць астравы, па якіх няцяжка, вядома, пехатой прабрацца да невялікіх хутароў Шэршні і Дуплянкі. А далей за імі — глухая Клімавіцкая пушча. Вось сюды партызаны і хочуць прашыцца. Тады тут іх нічым не дастанеш.

— Хутары Шэршні і Дуплянка? Ад грунтавой дарогі яны ў дваццаці кіламетрах,— адразу падлічыў палкоўнік.— Тут у нас амаль ніякага прыкрыцця. Усё цяпер ясна, пан Клімчук. Мы пастараемся залатаць прарэху. Яны не ведаюць, што заварваюць кашу, якую ім не расхлябаць. Ха-ха,— зусім падабрэў Фрыдрых Носке. Ускінуўшы вочы на Клімчука, спытаў: — Колькі ж у балоце сядзіць бандытаў? Мы іх таўчом, таўчом і бомбамі і снарадамі, а яны, ты кажаш, яшчэ жывыя, нават будуюць грэблю.

— Многа іх, пан палкоўнік. Па маіх падліках, не менш пяці тысяч. З узбраення маюць каля дзесятка мінамётаў, чатыры гарматы, супрацьтанкавыя саракапяткі, ну і, вядома, вінтоўкі і аўтаматы. З боепрыпасамі ў іх цяжка.

— І бежанцы там жа з імі ў балоце? Колькі іх?

— Сказаць дакладна не магу, пан палкоўнік,— няўпэўнена сказаў агент.— Але тысяч сем набярэцца.

— Значыць, у балоце Камар-мох дванаццаць тысяч партызан. Лічба салідная. Жалеза на іх давядзецца патраціць нямала. Так, Клімавіцкая пушча... Грэбля...

— Вось і ўвесь мой даклад, пан палкоўнік,— угодліва ўсміхнуўся Рыгор Клімчук, прыняўшы напружаную, нерухомую паставу.

— Звесткі для нас своечасовыя, карысныя. Хайль Гітлер!

— Хайль! — імпэтна ўсклікнуў агент. І праз хвіліну запытаўся: — У вас няма ніякіх указанняў? Я магу пайсці, пан палкоўнік?

— Вядома,— ён згодна кіўнуў галавой.

Але як толькі агент павярнуўся і зрабіў некалькі крокаў да дзвярэй, Фрыдрых Носке, як бы спахапіўшыся, сказаў:

— Ёсць указанні. Пачакайце!

— Слухаю, пан палкоўнік,— зноў вярнуўся агент на сваё месца, навастрыў увагу.

— Мы будзем сціскаць наш сталёвы кулак,— і Фрыдрых Носке паказаў, як ён будзе гэта рабіць.— На вас жа ўскладаецца задача. Я думаю, вы паспяхова справіцеся з ёю,— ён устаў з-за стала, падышоў да агента і проста паляпаў яго па плячы.— Прынясі мне, пан Клімчук, галаву. Гэтага, разумееш, фюрэра бандытаў. Дзядзькі Андрэя... Мы надзенем яе на кол тут, на плошчы. Разумееш, як гэта будзе сімвалічна!

— Пан палкоўнік, мне, аднаму?

— Не будзем жа выпісваць з Берліна для такой аперацыі Ота Скарцэні.

— А хто ён, гэты Ота? —залыпаўшы маленькімі вочкамі, пацікавіўся Рыгор Клімчук.

— Вы не ведаеце? — здзіўлена варухнуў бровамі Носке.— Дарэмна. Калі б быў блізка наш Ота Скарцэні, ён з удзячнасцю ўзяў бы на сябе гэты маленькі клопат. Скарцэні, мой дарагі, словам, у нашай фатэрлянд выконвае ролю агента нумар адзін. Гэта любімец Гітлера...

— Дзядзька Андрэй, як вядома вам, пан палкоўнік, моцна ахоўваецца,— аж затрапятаў ад разгубленасці здраднік.

— Зразумейце, мой дарагі,— Носке адразу пастражэў, нахмурыўся.— Я не цярплю лішніх размоў. Даю вам тэр-

мін — тры дні. 12 верасня ў 12.00 вас чакаю з трафеем. Можаце ісці, пан Клімчук. Хайль Гітлер!

— Хайль! — ускінуў уверх руку агент і тут жа пахіснуўся і ледзь не ўпаў.

Фрыдрых Носке, калі дзверы кабінета зачыніліся, зарагатаў. Ён быў здаволены, што так ашаламіў агента. Тут жа пераможна зірнуў на Аксану.

— Бачыце, фройляйн, як цяжка даводзіцца на вайне,— сказаў ён.— Трэба думаць і думаць. Складаць планы і тут жа перакрэсліваць іх. Трэба бязбоязна пасылаць людзей на смерць. Як вы думаеце, ён прынясе галаву бандыта Андрэя?

— Мне здаецца, прынясе,— каб дагадзіць палкоўніку, сказала Аксана.

У душы тым часам нарастала трывожнае трапятанне. Агульную абстаноўку, якая склалася ў раёне блакады, яна цяпер добра ўяўляла. Але як уведаць дакладны план палкоўніка па ліквідацыі партызан? Карта, дзе ўсё як след распісана і паказана, ляжыць непадалёку, на стале. Вось бы яе скапіраваць ці выкрасці? Але ж змянілася абстаноўка. Палкоўнік будзе на карце ўсё мяняць...

У галаве тлуміліся думкі, нараджаўся балючы звон. Аксана спахмурнела.

Фрыдрыха Носке тым часам распірала радасць. Твар яго аж засвяціўся ад задаволенасці. Што ні кажы, атрыманы важныя весткі. І, галоўнае, у час. Не прарвацца, не выскачыць бандытам з кальца блакады. Яны альбо перадохнуць ад галадухі, або здадуцца ў палон. І камандзір банды будзе ў яго руках. Жывы ці мёртвы, аднак — будзе, будзе!

Палкоўнік ад узрушэння аж зачырванеўся. У мроях паўстаў як жывы Гітлер. Фюрэр паціскае яму руку, уручае Рыцарскі крыж... Самую высокую воінскую ўзнагароду.

Няўжо гэта не здзейсніцца? Чаму? Трэба пастарацца. Трэба каваць жалеза, пакуль яно, як гавораць рускія, гарачае.

Аксана разумела настрой палкоўніка, яго спадзяванні. Ад гэтага ёй зрабілася кепска. Нешта сціскала грудзі, у галаву як бы наплываў туман. Думкі былі ў нейкім бязладдзі. Падумаць, дванаццаць тысяч людзей у пастцы. Іх трэба ратаваць. Карта, карта... Ці нельга абысціся без

яе? Напісаць, скажам, запіску. Расказаць, што Носке ведае пра грэблю.

— Фройляйн Аксана,— пачула яна як праз сон. Да яе звяртаўся палкоўнік.— Мы добра з вамі папрацавалі... Бог да нас, як бачыце, літасцівы. Як і дамовіліся, сёння вы дорыце свой вечар мне. У дваццаць гадзін чакайце, заеду. Хайль Гітлер! — Носке нават ускінуў уверх руку, чаго, вядома, пры даме не трэба было рабіць. Аксана паволі ўстала з крэсла.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

У пяць гадзін вечара Рудкоўская была дома. За дзень яна так змарылася, што хацела кінуцца на ложак і хоць крыху адпачыць. Дамок іх стаяў ад цэнтра гарадка далекавата, на рагу дзвюх прыгожых вуліц, абсаджаных ліпамі і клёнамі. Амаль на кожнай сядзібе былі сады, і гэты куток гарадка нагадваў вёску. Тут, як і ў вёсцы, было мала гарадскога тлуму. Зрэдку, бывае, пройдзе машына альбо затраскоча матацыкл — потым зноў надоўга ўсталёўваецца цішыня.

Цяпер увечары па вуліцы хадзіць забаронена. Загад строгі — расстрэл. Маладыя хлопцы і дзяўчаты томяцца ў закутках, многія раз'ехаліся па вёсках, некаторыя падаліся ў лас да партызан. У яе былі сяброўкі Наташка і Галка. Жывуць недалёка, на гэтай жа Усходняй вуліцы. Ніякай цяпер дружбы ў іх, вядома, няма. Дзяўчаты не хочуць сустракацца з Аксанай. Лічаць здрадніцай...

Аксана падышла да акна. Расчыніла яго. Узлягла грудзьмі на падаконнік, стала разглядаць агародчык. Ёй успомніўся пачатак дня, напружаны, трывожны. Што з ёю сталася? Яна як бы на ўсё забылася. Быў жа допыт Гадуна, ёй перададзены партызанскі загад, бачыла гітлераўскага агента Рыгора Клімчука. Увесь дзень яна таілася ў пакуце, у пошуках нейкіх планаў, думак, здагадак. Гарэла запалам барацьбы, моцна думала пра свой лёс, пра сваю жыццёвую дарогу. Так, яна сустрэнецца ўвечары з Фрыдрыхам Носке, з камендантам Вільгельмам. Яна, як і рашыла, паспрабуе свае дзявочыя чары. Магчыма, нешта атрымаецца. А калі — не? Прападуць цэлыя суткі. Ах, гэты загад! Карта, карта! Лёгка сказаць — раздабудзь! Як? Калі не выканае загаду, яе напаткае бяда.

Ёй пагражаюць... «Чакай, а калі перадаць...— думка яркая, як маланка, бліснула ў галаве.— Не трэба карта. Можна абысціся без яе...»

Вочы Аксаны свяціліся захапленнем, моцна і горача затахкала сэрца. Яна хуценька выбегла на вуліцу.

— Валодзька! — паклікала хлопчыка.

Ён каціў свой абруч, босымі нагамі густа дыміў вулічным пылам. Аксана выйшла яму наперарэз. Хлопчык спыніўся, падняў на дзяўчыну вочы.

— Валодзька! Ну і харошы ў цябе веласіпед. Ляціць, як вецер,— прыглядаючыся да абруча, які зваліўся ў пыл, пахваліла дзяўчына. Вочы ў хлопчыка ўсміхнуліся шчыра, задаволена.

— Канешне, харошы,— згадзіўся хлопчык.— А звініць як тоненька...

— Валодзька!

— Ну што? — хлопчык глядзеў на Аксану з чаканнем.

— Ты ведаеш, дзе жывуць Гадуны? У іх хлопец Алёша, у сёмым класе вучыўся?

— Худы і высокі і на твары вяснушкі?

— Ну але ж — ён. Дык ведаеш?

— Ведаю...

— Ты на веласіпедзе. Табе гэта — раз-два — і гатова. Ляці да яго, скажы, каб хуценька выйшаў да Салаўінага яра, да дзікай яблыні. Я там буду яго чакаць. Добра?

Валодзька зухавата ўзмахнуў бялявай чупрынай, падчапіў на дроціну абруч і пабег па вуліцы.

Калі праз паўгадзіны вузенькай сцяжынкай, якая вілася між вербалозаў, Аксана, апусцілася ў глыбокі, зарослы травой лог, адразу каля яблыні ўбачыла Алёшу. Яна нават здзівілася, што ўсё так хутка атрымалася. Хлопчык сядзеў, прысланіўшыся спінай да ствала дрэва. Убачыўшы настаўніцу, падхапіўся на ногі, агледзеўся. Відаць, ён адчуваў, што сустрэча невыпадковая. Нават нейкая патайная.

— Добры дзень, Алёшачка! — сказала Аксана, беручы яго за абедзве рукі.

— Ой, а вы дужая,— заўважыў Алёша, зазіраючы ў яе твар, і тут жа спытаў: — Калі вайна скончыцца, Аксана Пракопаўна?

— Нядобра ў вайну?

— Ой, як нядобра. Ні школы няма, ні гулянкі. Фашысты гэтыя...

— Алёшачка,— ціхім панылым голасам сказала Аксана.— Я сёння бачыла твайго бацьку, доўга размаўляла з ім.

— Бачылі? Дзе? — спахапіўся хлопец, і твар яго ўспыхнуў радасцю.

— Ён арыштаваны,— журботным тонам паведаміла Аксана,— сёння яго дапытвалі.

Хлопчыка гэтыя словы сцебанулі, як бізуном. Ён стуліў худзенькія плечы, апусціў у глыбокай скрусе галаву.

— Арыштаваны... Калі і як, Аксана Пракопаўна? Яго расстраляюць?

— Могуць расстраляць. Ён партызанскі разведчык.

Алёша застыў у жаху. Вочы немігатліва глядзелі ў адну кропку, некуды ўдалячынь. Аксана зразумела, што сказала лішняе, і кінулася супакойваць яго:

— Ты, Алёшачка, не хвалюйся. Я ведаю аднаго чалавека, які хоча заступіцца за твайго бацьку. Можа, як і выручыць з бяды.

«Татачка,— прашаптаў хлопец.— Як жа ты?»

— А ён забіў хоць аднаго фашыста? — раптам спытаў хлопец.

— Калі яго бралі фашысты, ён быў без зброі. Не адбылося ніякай страляніны.

— Я ж яму такі пісталет перадаў. Браўнінг. У абойме — сем патронаў. Аж семярых можна было забіць...

— Алёшачка, можа, гэта к лепшаму. Не забіў, дык яшчэ заб'е. Прыйдзе час...

— А я б на яго месцы страляў,— сказаў цвёрда хлопец.— І не было б ніякай турмы.

— А ты, я гляджу, ваяўнічы.

— Я таксама пайду ў партызаны. Бацька з сабой не ўзяў. Дык сам пайду. У мяне нават кулямёт ёсць,— пахваліўся хлопец.

— Навошта ты гэта гаворыш? А я перадам немцам. І цябе арыштуюць.

— Не перадасцё. Хіба я не бачу: вы добрая, не такая, як пра вас гавораць.

— Хіба кепска пра мяне гавораць?

— Кепска, Аксана Пракопаўна.

Алёша ўскінуў блакітныя быстрыя вочы і з любасцю глядзеў у твар настаўніцы.

— Вы ж таксама пойдзеце ў партызаны,— сказаў ён праз хвіліну.— Хіба я не бачу. Пойдзеце?

— Алёша,— сур'ёзна пачала Аксана,— лічы, што ты з гэтай хвіліны — партызан.

Хлопец, відаць, такіх слоў не чакаў і скептычна ўсміхнуўся.

— Паслухай далей, што скажу. Калі ўжо ты партызан, даю табе тэрміновае і адказнае заданне.

— Якое? — шчыра здзівіўся хлопец.— У мяне кулямёт. Я зраблю на дарозе засаду. Пабачыце, колькі заб'ю фашыстаў...

— Кулямёт, Алёша, пусцім у ход пасля,— прытушыла хлопцаў імпэт дзяўчына.— Табе трэба зрабіць іншае. Сёння ноччу ці раненька трэба праз возера прабрацца да балота Камар-мох. Лодка ў цябе ёсць?

— Нямашака.

— Знайдзі. Адчапі з прыкола любую. Вось табе запіска. Яе трэба ўручыць партызанам. Заданне тэрміновае, Алёшачка. Згодзен? Выканаеш?

— Выканаю, Аксана Пракопаўна. Толькі вось лодку...

— Гэтым цяпер і займіся. Каб да вечара быў гатовы... Ну, партызан, дай руку...

Алёша працягнуў сваю, доўгую, сухаватую, руку, і Аксана па-мужчынску моцна яе паціснула.

— Глядзі, не пападзіся. Калі што — знішчы запіску.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Пасля рыбалкі Ціток і Вадзім Мікалаевіч выбралі паміж кустоў сонечную мясцінку, ляглі на мурог, адпачывалі і грэліся. Побач гуляла Алачка. Яна поўзала па траве, спрабавала злавіць хоць аднаго коніка, якіх тут было мноства. Яны пырхалі, паблісваючы каляровымі крыльцамі, стракацелі. Іншы раз каля Алачкі праляталі матылькі. Тады яна кідалася лавіць іх. Але матылькі тут жа зніклі з вачэй. Тады дзяўчынка скардзілася сваім апекунам:

— Дода! Дода!

Яна шчасліва заўсміхалася толькі тады, калі Ціток паймаў ёй вялізную, з празрыстымі крыльцамі стракозу. Села дзяўчынка каля пянёчка, стала стракозу падкідваць, потым паклала яе ў прыпол і пачала гушкаць, ціхенька напяваць.

Вадзім Мікалаевіч ляжаў, падклаўшы пад галаву руку, назіраў за дзяўчынкай. Ён не ведаў чаму, але ў душы расла нейкая трывожнасць. Гэтая трывожнасць была на мяжы з адчаем. Ён чуў буханне гармат, бачыў над далёкім берагам густыя дымныя аблокі — ведаў, гэта гарэлі вёскі,— і дужа шкадаваў, што вымушаны бяздзейнічаць, нічым не можа дапамагчы сваім баявым сябрам.

Адначасова ён прадумваў план пераправы з вострава. У іх нават вясло ёсць. Цяпер трэба пад ногі хаця б невялікі плыт. Калод і асобных паленняў на востраве не было — гэта яны з Цітком добра праверылі. На ўсякі выпадак ужо наламалі некалькі кулёў чароту, ён ляжыць на ўсходнім адкрытым беразе вострава, падсыхае. Калі чарот перавязаць з сухім ламаччам, мусіць, атрымаецца ўстойлівы, на аднаго чалавека плыток. Трэба дабрацца хаця б аднаму з іх да берага. А там пры любых абставінах знойдзецца лодка.

Каб выканаць гэты план, неабходна, па крайняй меры, не менш трох сутак. За гэты час, ведаў Вадзім Мікалаевіч, можа на востраве многа што здарыцца і перамяніцца. Напрыклад, уздумаюць немцы і пачнуць кідаць сюды міны. Альбо сядуць на лодкі, прыедуць, каб агледзець востраў і выкарыстаць яго для сваіх нейкіх патрэб. Ну, хаця б звозіць сюды на першым часе палонных партызан. Тут жа можна пасадзіць добрую тысячу чалавек.

Наогул, ці мала яшчэ пра што думалася. Адно патрабавалася: трэба быць нагатове апярэдзіць любую небяспеку. З галавы не выходзіць той чалавек, на чоўне. Ці ён уцякаў ад ворагаў, што так спяшаўся, ці ў яго было нейкае неадкладнае заданне. І, бач, загінуў, і смерць аказалася нечаканая. Цела загінуўшага патанула, але яно павінна выплысці напаверх. Можа нават здарыцца, што чалавека хвалямі прыб'е да іхняга вострава. Значыць, варта час ад часу аглядаць берагі, шукаць тапельца. Гэтая думка так прывязалася да яго, што Вадзім Мікалаевіч вымушаны быў з ёй лічыцца. Настаўнік агледзеў прастору неба, павалі ўстаў, накінуў на плечы пінжак.

— Вы куды? — пацікавіўся Цітoк.

— Наглядай за Алачкай, не вытыркайся на бераг. Помні, могуць заўважыць у бінокль. Тады нам з табой — амба! Труба. Я адлучуся на паўгадзінкі. Мне здаецца, труп чалавека павінна прыгнаць да вострава. Хочацца пабачыць яго, пазнаць. Мо што знойдзецца пры ім...

— Добра, ідзіце,— згадзіўся хлопец. Разморапага сонцам, яго цягнула на сон.

Вадзім Мікалаевіч на гэты раз абследаваў берагі асабліва пільна. Трывога і неспакой у душы не меншалі. Ён як бы адчуваў, што набліжаюцца нейкія значныя падзеі. Усходні бераг вострава быў высакаваты і добра быў бачны. Вадзім Мікалаевіч з сабой у дарогу прыхапіў вінтоўку і быў падобны на дазорцу. Зробіць крокаў дваццаць уперад, уціснецца ў кусты альбо стане паміж ствяламі дрэў, слухае далячынь, разглядае мясцовасць.

Ужо абследаваў як мае быць досыць вялізны абсяг берагавой лініі, але нічога не прыкмеціў. Бераг быў то роўны, як бы адрэзаны пад шнур, то зубчасты з невялікімі затокамі.

Прыбягаючы на пясок, шалясцелі мяккія няспешныя хвалі. Ад берага, пачуўшы крокі, адскоквалі рыбы, хаваліся ў азёрную глыбіню.

На паўночным баку вострава ісці было цяжэй, тут даводзілася прабірацца праз густы шэры лазняк. З гэтага лазняку настаўнік выгнаў доўгага тоўстага вужа.

Адсюль, з паўночнага берага, зручна назіраць за балотам Камар-мох. Удалечыні, пад сінім небасхілам, няроўнай пілой вытыркаліся лясы. Там жа нізка паўзлі шлейфы дыму. Амаль праз кожную хвіліну цяжка скаланалася зямля: фашысты па-ранейшаму закідвалі партызан снарадамі.

Прыгадаўся Вадзіму дзядзька Андрэй. Ведаў, разумеў: яму так цяжка. Ад яго, камандзіра, чакаюць рашэння, дзеяння, спадзяюцца, што ён нешта прыдумае незвычайнае. Няўжо нельга сапраўды штосьці прыдумаць, прарваць блакаду? Недзе ж, у нейкім месцы, фашысты не асабліва моцныя. Можа, ёсць і агаленыя ўчасткі, без войск. Вось бы і ўдарыць туды. І ўтварылася б аддушына, гарлавіна. Праз яе і вядзі партызан на волю, на прастор.

Раптоўна загудзела неба, і Вадзім Мікалаевіч убачыў самалёт. Ён ляцеў, як і ўчора, удалечыні, над самым гарызонтам. «З бранябойнага б ружжа яго, як міленькі зваліўся б»,— падумаў настаўнік. Але ён не ведаў, ці ёсць у партызан бранябойныя ружжы.

Вельмі хацелася, каб тут жа з'явіліся нашы савецкія самалёты, магутныя, цяжкія. І сыпанулі ўніз на балота Камар-мох парашутыстаў. Так густа, як ён бачыў на здымках і ў кіно ў час вайсковых манеўраў. Няўжо гэта

цяжка, немагчыма? У партызан павінна быць сувязь з Масквой, яны ж, відаць, паведамілі, што трапілі ў акружэнне. Трэба ж іх выручыць. Трэба!

Прадраўшыся праз лазняк уперад, настаўнік выйшаў к самаму берагу. І тут убачыў, як хвалі гайдаюць чорную дошку. Ён яе дастаў, выцягнуў на пясок і стаў разглядаць. Не было сумнення: перад ім ляжаў кавалак ад борта загінуўшай лодкі. Разломы дошкі былі яшчэ зусім свежыя. «Вось куды прыбіла,— падумаў настаўнік.— Значыць, сюды можа прыгнаць і труп». На ўскрайку дошкі быў надпіс К. Т. С. Гэта, відаць, былі ініцыялы ўладальніка лодкі. Аж уздыхнуў у скрусе Вадзім Мікалаевіч. З лодкай звязана нейкая тайна, гэта ён адчуваў зусім пэўна. Але яна, глядзі, не давалася ў рукі.

Вадзім Мікалаевіч узяў дошку пад паху ды рушыў далей. Бераг крута паварочваў на поўдзень. Удалечыні да яго быў прыткнуты плывун, на якім Вадзім Мікалаевіч і Ціток прыдрэйфавалі на азёрны востраў. Часцей пачалі трапляцца нізіны і балацінкі з іржавай пачарнелай вадой. Ісці было цяжка. Але Вадзім Мікалаевіч быў цвёрды ў сваім намеры. Ён павінен грунтоўна абследаваць берагі. У адным месцы бераг быў моцна прытаптаны. У возеры, насупраць, тырчэлі тры рагатыя палкі. Не было сумнення, на гэтым месцы часта сядзелі з вудачкамі рыбаловы. Вунь збоку, каля густой елачкі, і чорная пляміна на зямлі — след ад кастра. Вадзім Мікалаевіч уявіў начлег рыбаловаў... Запахла кастром, густой рыбнай юшкай... У адказ на гэтае ўяўленне жывот схапіла балючая спазма. Давялося застыць на месцы. Боязна было зварухнуцца. Праз нейкую хвіліну боль адступіўся.

У кустах настаўнік знайшоў бляшаначку. «Добрая пасудзіна, прыгадзіцца»,— і прыхапіў з сабой.

Далейшы яго шлях быў мала цікавы. Больш знаходак не трапілася.

Вадзім Мікалаевіч падыходзіў да Чорнага дуба. За невялікім гайком — паляна, там іх стаянка. Сонца перайшло ўжо мяжу поўдня і капілася ў кудлатых прыбеленых хмарках на захад. Вецер памацнеў, шамацеў зелянінай, гуў сасновымі высокімі вяршынямі.

Над возерам, на паўднёвым баку, кружыў бусел. Ён уздымаўся ўсё вышэй і вышэй. Ляцеў як бы сам па сабе, толькі зрэдку памахваючы крыллем. Раптам да слыху данеслася:

— Ау! Ау-у-у!

Аж устрапянуўся Вадзім Мікалаевіч. Голас быццам быў Ціткоў. Каго ён кліча? Можа, якая бяда? Подбегам кінуўся настаўнік да палянкі. Запыханы, усхваляваны, як толькі выбег на яе край, запыніўся. Палянка была пустая. Вось тая бярозка, каля якой ён ляжаў, той пагорачак, на якім бегала дзяўчынка, ловячы конікаў і матылькоў. Палянка — пустая! Нікога.

Ізноў даляцеў, узмоцнены рэхам, голас:

— Ау! Ау! Алачка!

— Яшчэ не хапала бяды. Згубілася дзяўчынка.

Вадзім Мікалаевіч прыставіў да бярозкі вінтоўку, кінуў пад ногі абломак ад лодкі і пацямнелую бляшанку. І тут жа падаў свой голас. Хлопец яго пачуў. Стрэліся на сцежцы. Ціткоў твар быў збялелы, разгублены.

— Што тут адбылося?

Ціток вінавата заморгаў павекамі.

— Вадзім Мікалаевіч, разумееце — заснуў. Прачнуўся, глянуў — няма Алачкі. Як праз зямлю праваліласся. Ужо хвілін дзесяць гукаю — не адгукваецца. Можа, нехта тут быў, забраў яе. Га? — Ціток застыў у чаканні.

— Усё можа быць,— ціха адказаў Вадзім Мікалаевіч.— Але я абышоў увесь востраў, нікога нідзе не сустрэў. І возера, як акінуць вокам, пустое. Калі тут хто быў, трэба пашукаць сляды. На ўсякі выпадак,— дадаў ён.

Ціток згодна кіўнуў галавой:

— Трэба шукаць...

На агляд прылеглай да палянкі мясцовасці было патрачана каля паўгадзіны. У адным месцы Ціток у напружанні застыў.

— Вадзім Мікалаевіч,— ціха ўсклікнуў ён,— след.

Настаўнік выйшаў з-за купкі кустоў, прысеў ля пясчанай дарожкі.

— Здаецца, не ваша нага тут ступала. Бачыце, след карацейшы, абутак без абцаса,— паказаў Ціток на адбітак.

— Твая праўда,— згадзіўся Вадзім Мікалаевіч.— Але адзін след яшчэ ні аб чым не гаворыць. Трэба, каб ён паўтарыўся. Тады мы будзем добра ведаць, што тут на востраве нехта старонні, чужы.

Яны — Вадзім Мікалаевіч і Ціток — разышліся ў розныя бакі. Зноў затупалі каля сцежак і палянак. Ціток на-

ват аглядаў высокія дрэвы. У яго было адчуванне, што нехта апрача іх на востраве ёсць і пільна сочыць за імі.

Калі выйшлі на сярэдзіну вострава, Цітох убачыў перад сабой невялікую пясчаную выспачку. Адразу падаўся да яе. І як толькі зірнуў, у збянтэжанасці паціснуў плячыма. Ён убачыў новы след...

— Вадзім Мікалаевіч,— гукнуў ён.— Падыдзіце...

Настаўнік зашамацеў па верасе ботамі. Наблізіўся, дыхнуў хлопцу ў патыліцу.

— Бачыце,— паказаў пальцам Цітох,— след... Ад капытка... Свежы-свежы, толькі што адціснуты. І не адзін. Во, яшчэ парачка.

У Вадзіма Мікалаевіча міжвольна вырвалася:

— Няйначай, свінячы,— і запытальна зірнуў на Цітка.— Слухай, а можа, тут дзік? — і жах перакасіў яго твар.— Тады...

— Што тады? — перапытаў хлопец.

— Які ты нездагадлівы,— аж абурыўся Вадзім Мікалаевіч і ў скрусе махнуў рукой.— Алачка! — загукаў ён.— Алачка! Ау, дзетка. Ау!

Толькі цяпер зразумеў Цітох вялікую трывогу і разгубленасць свайго старэйшага сябра. Не дай бог, калі сапраўды на востраве аказаўся дзік, які прыбрыў сюды зімой праз возера і, адрэзаны вадой, застаўся на ўсё лета, тады бяды не мінаваць. Дзік мог, калі Цітох спаў, сустрэць дзяўчынку і разарваць яе.

Уявіў гэты малюнак хлопец, і яго закалаціла ліхаманка жаху.

— Алачка! — на ўсе грудзі загукаў Цітох. Лясное рэха падхоплівала ягоны голас, паўтарыла. Гукаў на ўвесь голас і настаўнік.

Адказу, як ні прыслухоўваліся, не было.

— Уладзілі дзяўчынку! Уладзілі! — Вадзім Мікалаевіч не мог дараваць сваёй вялікай прамашкі: адлучыўся, пакінуў на доўгі час адных дзяцей.

Вадзім Мікалаевіч і Цітох зноў падбеглі да выспачкі, схіліліся над долам, зноў разглядалі слядок. Яны і зараз выразна бачылі адбіткі капыткоў. Глыбокія, ясныя, як напаказ.

— Што рабіць? — Дзе дзіця? Твар у настаўніка быў спалатнелы, у вачах — глыбокі адчай.— Цітох, ты бяжы туды. А я ў гэты бок,— і паказаў рукой.— Хутчэй!

Справа набывала сур'ёзны паварот. Вось табе і пар-

тызаны. Ратаваліся ад голаду, чакалі небяспеку з боку фашыстаў. А бяда нахапілася зусім нечакана. На востраве жыве дзік! Можна зразумець, што ён зрабіў, сустрэўшы на сваім шляху безабароннае дзіця.

— Ау! Ау! — крычалі Вадзім Мікалаевіч, Ціток.

Гулі пад ветрам верхавіны дрэў, парыпвалі недзе пераплеценыя галіны, сяды-тады падавалі свае галасы птахі. Ціток ужо не хадзіў, а бегаў. Кінецца на адну палянку, на другую, заглядвае пад елачкі, разгортвае густы асіннік — няма Алачкі. Дабег да Чорнага дуба, каля яго шукаў. Убаку стаяла густая чарада елачак, прашыўся праз іх з заплюшчанымі вачыма, бо балюча калоліся лапкі. Калі расплюшчыў вочы, убачыў палянку з высокім пагоркам.

На ёй у самым цэнтры як бы нехта ляжаў. Позірку кінулася барадатая чорная галава. Побач ляжала, падкурчыўшы ножкі, Алачка. Дык вось дзе яна! Хлопец спудзіўся, яго ўзяў отарап. На востраве — чалавек!

Ціток, вядома, не адважыўся паказвацца незнаёмцу. Ён нырнуў назад у ельнік і кінуўся з усіх ног да настаўніка. Той па-ранейшаму пагукваў, шнырыў па кустарніку.

— Вадзім Мікалаевіч,— падляцеў з усяго разгону хлопец,— Алачка знайшлася!

— Дзе? Як? О, гара з плеч...

— Вадзім Мікалаевіч, яна там з нейкім цыганом.

— Што, што? — не зразумеў настаўнік.

— Там нейкі стары, барадаты,— растлумачыў хлопец.

— Што ты вярзеш?.. Табе прыснілася...

— Не верыце? Хадземце. Вінтоўку вазьміце...

Вадзім Мікалаевіч мітусліва закруціўся на месцы, як бы вагаючыся, што рабіць. Усяго мог ён чакаць, толькі не такой неспадзяванкі. Аказваецца, яны не адны тут з Цітком, яшчэ ёсць людзі. Чаго забраўся сюды гэты чалавек? Ад фашыстаў ратуецца, ці што?

— Пачакай,— сказаў Вадзім Мікалаевіч, прыходзячы да раўнавагі.— Праўду кажаш. Вінтоўка не пашкодзіць...

Праз хвіліну хлопцы шыбавалі да Чорнага дуба. Калі падышлі да ельніку, Ціток паказаў рукой: «Вось сюды» — і прапусціў настаўніка ўперад.

Прабіраліся праз зараснікі, захоўваючы цішыню. Палянка адкрылася адразу. Круглая, густа пакрытая сіўцом. Сонца было за хмарамі, і тут панавала шэрая змрочнасць.

— Ён там, за каменем, на грудку,— усхвалявана побач дыхаў Ціток.

Настаўнік прыўзняў з зарасніку галаву. Алачку адразу ўбачыў. Так, гэта была яна, рыжагаловая, у зрэбнай зашмальцаванай кашулі. Яго апанавала вялікая радасць. Алачка жывая. Ох, і вандроўніца, бач, куды забрыла. Сапраўды, нехта з ёю побач ляжаў. Праўда, постаць незнаёмца была прыхавана вялізным валуном. Бачылася толькі ягоная галава. Прыгледзеўся Вадзім Мікалаевіч пільней ды як зарагоча.

— Вы чаго? — не зразумеў выбуху весялосці Ціток.

— «Чаго, чаго»? — шчыры, добры смех калаціў усю яго постаць.— Прачніся, Ціток,— і тузануў хлопца за рукаў.— Ну і наманіў. Ну і разведчык! Паглядзі, хіба гэта цыган!

Хлопец, стаўшы на цыпачкі, углядаўся наперад.

— Ну, разабраўся?

— Каза!

— Ну, але ж! — пацвердзіў Вадзім Мікалаевіч і рушыў на палянку.

Каза заўважыла людзей, падхапілася на ногі, уставілася на іх добрымі сумнымі вачыма.

— Бэ-э,— як бы прывіталася яна.

— Ну, здароў, здароў! — жартаўліва адказаў настаўнік.— Дык гэта ты так нас напалохала? Алачку нашу забрала? Адкуль ты, чыя?

— Бэ-э,— каза пільна разглядала незнаёмцаў. Настаўнік падышоў да яе збоку, паказаў рукою пад казіны жывот.

— Бачыш, Ціток?

У казы адвісала набрынялае вымя з двума саскамі. З іх капала малако.

Хлопец здагадаўся, што меў на ўвазе Вадзім Мікалаевіч.

— Бачу,— весела адказаў хлопец і дадаў:— К нам прыбыло малако. Трэба будзіць Алачку, карміць.

Алачку затармасілі, яна прачнулася, заплакала. Каза не адыходзіла ад людзей, прызнаўшы ў іх сваіх новых гаспадароў.

Вадзім Мікалаевіч схапіў дзяўчынку на рукі, пачаў гушкаць, ускідваць угару.

— Ага, знайшлі ўцякачку, знайшлі! — радасна гаварыў ён.— А мы думалі — тут дзік страшны... Шукалі цябе, крычалі. А ты спіш сабе з козачкай. Прыгрэлася каля яе бока. А ў яе — малако.

— Мако,— падхапіла Алачка і, зразумеўшы сэнс гэтых слоў, зацмокала пухленькімі губкамі.— Дай-дай мако!

Калі Вадзім Мікалаевіч апусціў Алачку на дол, яна пацягнулася ручкамі да казы.

— Ого, ты казы не баішся? Ну, вазьмі яе за поўсць. Патрымайся!

Каза сама наблізілася да дзяўчынкі, прысланілася да яе галавой.

— Ну вось мы і сабраліся ўсе разам,— з нейкай урачыстасцю сказаў Вадзім Мікалаевіч.— Хадзем на нашу палянку.

Настаўнік перадаў Цітку вінтоўку, а сам узяў Алачку на рукі. На палянцы пачалі гаспадарыць. Вадзім Мікалаевіч паказаў Цітку на бляшанку, загадаў апусціцца к возеру, вымыць яе. Хлопец рабіў усё спрытна і лёгка. Праз некалькі хвілін бляшанка, дбала начышчаная пяском, блішчэла ў руках Вадзіма Мікалаевіча. Цяпер яму трэба заняцца справай, якой ніколі ў жыцці не займаўся.

— Ну, блаславі божа,— жартаўліва сказаў ён і стаў прыстройвацца, каб падаіць казу. Цiток стаяў убаку, трымаючы Алачку за руку, шчасліва ўсміхаўся.

Застукалі ў бляшанку першыя струмені малака.

— Ніякай няма мудрасці, Цiток,— абвясціў урачыста настаўнік.— Во, ужо паўбляшанкі. Во, прыдбалі гаспадарку! Цяпер не прападзём, Алачка. Будзем піць, будзем есці, за бараду казу трэсці.

Калі пасудзіна стала амаль поўная, Вадзім Мікалаевіч падняўся, падышоў да дзяўчынкі.

— Мако,— падказаў Цiток.

— Дай! Дай! — прагна залапатала дзяўчынка.— Дода, дай!

Гэта былі ўрачыстыя хвіліны. Алачка аберуч схапіла бляшанку і пачала прагна піць. Вадзім Мікалаевіч і Цiток зухавата падміргнулі адзін аднаму, маўляў, справа ідзе на лад, жывём.

— Як яна трапіла сюды? — пацікавіўся Цiток, ласкаючы рукой па спіне казу.

— Як ні трапіла, а, бачыш, зусім дарэчы.— Памаўчаў, зірнуў некуды ўдаль і тут жа дадаў:— Ад фашыстаў людзі ратуюцца. Вось нехта сюды і прывёз.

Алачка, не адрываючыся, каўтала малако, не ўсё яно трапляла ў рот і маленькімі струменьчыкамі цякло на грудзі.

— Ты асцярожней пі, не разлівай,— пачаў ушчуваць дзяўчынку Цíток.

— Дода! Мако,— бліснула радасна вачыма дзяўчынка і адняла ад губ бляшанку. Потым зноў прыпала да яе і апаражніла пасудзіну.— Ма,— пахвалілася Алачка і заўсміхалася румянымі шчочкамі.

— Малайчына! — пахваліў яе Вадзім Мікалаевіч.— Расці вялікая-вялікая...

— Лікая, лікая,— падхапіла Алачка. Было бачна, яна зразумела пажаданне настаўніка.

— А цяпер яшчэ каму малака?

— Мне! — тыцнуў у грудзі пальцам Цíток.— Я адшукаў след. Я заслужыў.

— Вядома, заслужыў,— згадзіўся настаўнік.— Толькі табе даіць не буду. Сам паспрабуй.

— Ой, я не ўмею,— аж разгубіўся хлапец.

— Не дурыся. Трэба ўмець.

Давялося хлопцу ўзяць бляшанку і сесці каля казы. Жывёліна была рахманая. Стаяла смірна, толькі пакручвала ў бакі галавой ды зіркала на людзей удзячнымі добрымі вачыма.

Пасля сытнага абеду гуртам адпачывалі. Вадзім Мікалаевіч ляжаў на жываце, падпёршы кулакамі галаву. Поруч з ім з аднаго боку сядзела на траўцы Алачка, з другога, крыху воддаль, Цíток. Маўчалі, думалі, нешта згадвалі. Алачка штосьці пад нос мурлыкала і перабірала ў прыполе каменьчыкі.

Каза была тут жа, прыладкавалася каля цяністай елачкі, жавала жуйку. Над востравам стаяла густая цішыня. Зрэдку яна парушалася шчабятаннем птушак ды цяжкаватым вухканнем далёкіх гармат. Па небе ціха плылі высокія купчастыя воблакі, яны раз за разам засланялі сонца, і паляна то ўспыхвала святлом, то засланялася дрыготкімі ценямі. Недалёка, за кустамі, быў бераг: чулася, як гудзелі хвалі.

Першым парушыў маўчанне Цíток. Ён нейкі час глядзеў у бок казы, сачыў, як яна рытмічна варушыць сківіцамі. Твар хлопца раптам ажывіўся.

— Вадзім Мікалаевіч. Каза без імя. Трэба яе нейк назваць. А то атрымліваецца не па-гаспадарску.

— Вось і назаві,— адгукнуўся настаўнік, заняты сваімі думкамі.

— Цыганка,— прапанаваў хлопец.— Як лічыце, добра гучыць?
Вадзім Мікалаевіч толькі цяпер зразумеў, чаго хоча хлопец.
— Як назваць казу, пытаешся? Цыганкай? Не падыходзіць,— і адмоўна крутнуў галавой.
— Чаму?
— Цяжка для вымаўлення,— і каб растлумачыць, дадаў: — Вядома, цяжка для Алачкі. Трэба нешта карацейшае.
— Манька!
— Гэта лепш, але мы назавём яе больш ласкава — Цёцяй.
— А што, добра, каза Цёця. Гэй, Цёця, ляжыш? Табе падабаецца тут? — звярнуўся гулліва хлопец да жывёліны. Потым павярнуўся да дзяўчынкі, папрасіў: — Алачка! Скажы — цёця!
— Дода! — у момант выпаліла, усміхаючыся, дзяўчынка і запытальна глядзела ў Цітковы вочы.
— Не дода, а цё-ця! — па складах падказваў ён.
— Цё-ця,— амаль чыста вымавіла дзіця.
— Атрымалася! — запляскаў у далоні Цітож.— Ну і малайчына, Алачка. Ну яшчэ раз — цё-ця!
— Дода.
— Цё-ця.
— Дода. Цёця,— Алачка ва ўпор глядзела на хлопца, маўляў, чаго ты хочаш — вось жа сказала...
— Дык вось,— закончыў свой нямудры ўрок хлапец.— Знайшлася і цёця, якая будзе цябе карміць. І ты будзеш расці-расці і пакінеш плакаць.
— Пакаць,— пацвердзіла дзяўчынка і схіліла ўбок галоўку.
— Нам палягчэла,— уступіў у размову Вадзім Мікалаевіч.— Цяпер мы маем малако, рыбу...
— І цэлую рабіну ягад,— падказаў Цітож.
— Пры нашым становішчы гэта сапраўднае багацце. Такім чынам пытанне з харчам вырашана. Застаецца...— Ён змоўк, як бы нешта прыгадваючы.
— Пабудаваць плыт,— зноў падказаў Цітож і з энтузіязмам дадаў: — Мы станем Калумбамі. Мы паплывём шукаць зямлю...
— Паплывём ваяваць з фашыстамі, Цітож.

— А хіба я не знаю? Канешне, ваяваць. А як жа з Алачкай і казой? Таксама туды ж — у балота Камар-мох?

— Не,— адмоўна пакруціў галавой Вадзім Мікалаевіч.— Іх высадзім на бераг. Аддадзім людзям. Прымаецца такі план?

— Прымаецца!

— Плыт пачнём будаваць зараз жа. Аднак мы забыліся з табой, што існуе небяспека. Трэба сачыць за возерам. Ану, Ціток, бяжы на назіральны пункт.

Узбірацца на Чорны дуб было вялікім задавальненнем для хлопца. Ён падхапіўся і, падскокваючы, пакінуў палянку.

— І нам пара, Алачка, на работу,— сказаў Вадзім Мікалаевіч, устаючы з долу.— Ты сядзі, гуляй, а я буду шукаць...

— Сюкаць,— падхапіла дзяўчынка і працяглым позіркам сачыла, куды гэта збіраецца яе тата. Калі ён пачаў збіраць сукі, абламаныя ветрам галіны, зносіць на палянку ў адно месца, яна заспакоілася і зноў пачала забаўляцца каменьчыкамі. Малавата было на востраве ламачча, настаўнік падбіраў нават усялякую драбнату... Ведаў, што, калі ўсё гэта добра ўвязаць з чаротам, плыт набудзе лёгкасць, добра будзе трымацца на вадзе.

Адсюль, з паляны, бачылася верхавіна Чорнага дуба. Неўзабаве на ёй заварушылася постаць Цітка. Хлапец сядзеў на суку, шчыльна прыхінуўшыся да ствала дрэва.

Праз паўгадзіны ён вярнуўся на паляну. Стаў перад Вадзімам Мікалаевічам і па-вайсковаму далажыў:

— На возеры цішыня і спакой. Ніхто нам пакуль не пагражае. Над балотам Камар-мох стаіць дымная смуга. Артылерыі не чуваць, самалёты не лятаюць.

— Добра, Ціток,— здаволена сказаў Вадзім Мікалаевіч,— нам трэба ведаць абстаноўку праз кожную гадзіну. Цяпер табе задача: надраць лыка. Увечары будзем вязаць плыт.

— Ёсць надраць лыка! — сказаў хлопец, казырнуў і зухавата ўсміхнуўся.

Усё наладжвалася к лепшаму. Не мінуць і суткі, як будуць на свабодзе. Вадзім Мікалаевіч ужо прыкідваў, да якой прыазёрнай вёскі трэба гнаць плыт, каб там і немцаў не было і можна было знайсці лодку.

За глыбокім раўчуком, уоддалі ад паляны, Вадзім Мікалаевіч натрапіў на невялікі сасновы выварацень. Па-

важдаўшыся каля яго, адлучыў ад зямлі і, ухапіўшы ў рукі, панёс. Гэта была добрая знаходка. Хоць цяжка было несці, але настаўнік не шкадаваў сіл. Вядома, калі б не падсілкаваўся малаком, наўрад ці мог бы ён справіцца з такой ношай. Выйшаўшы на паляну, ён запыніўся. Каза па-ранейшаму ляжала мірна і ціха. Ёй было добра каля людзей.

Вадзім Мікалаевіч расшчапіў заклякшыя ад утомы рукі, і вываранень грымнуўся аб зямлю. Ён, цяжкі, падобны на страшыдла, крутануўся ўбок і збіў вясло, якое было прыстаўлена да беленькага ствала бярозкі. Вясло ўдарылася аб камень, што ляжаў тут жа, напалавіну ўрослы ў зямлю. Яно дзынкнула, і звон падаўся Вадзіму Мікалаевічу ненатуральным. Спачатку ён гэта не ўзяў сабе ў галаву. І, абабіўшы ад пылу і пяску рукі, рушыў па новую ношку ламачча. Але на краі паляны спыніўся, крута павярнуў назад. Нешта падказвала яму, што вясло трэба праверыць. Яно ж не простае, а з лодкі, якую патапілі фашысты!

Настаўнік падняў вясло, сеў на камень і першай справай стаў аглядаць дзяржальна, бо ўдар прыйшоўся па ім. Дзяржальна аказалася цэлым, непаколатым. Зірнуў Вадзім Мікалаевіч на тарэц яе, і вочы бліснулі ад здзіўлення. Гадавыя кольцы на дрэвіне як бы парушаны. У цэнтры бачыўся ні то стрыжань, ні то як бы нейкая затычка. Цікаўнасць настаўніка павялічылася. Калі затычка, навошта яна тут?

Ён хуценька ўстаў, адамкнуў ад вінтоўкі штых, прымасціўся на камень і пачаў калупаць дзяржальна. Вадзім Мікалаевіч не памыліўся — тут была затычка. Калупнуў штыхом яшчэ — затычка вывернулася і ўпала пад ногі.

Проста перад вачыма ззяла адтуліна, пракручаная свердзелам. Настаўнік нейкі момант разглядваў яе, потым павярнуў вясло бокам, к сонцу. У адтуліне тырчэла нейкая паперка. Бровы ў настаўніка падскочылі ўгору. Часта і гулка затахкала сэрца. Яго ўдары пачуліся аж у скронях. Што гэта значыць? Новая знаходка? Аб чым яна раскажа? У боязі, што за ім сочаць, ён азірнуўся.

Наўкол панавала цішыня.

Яшчэ раз калупнуў Вадзім Мікалаевіч вастрыём штыха і выцягнуў паперыну. Акуратна, асцярожна яе разгарнуў. Яна была вільготная, з аднаго боку нават падмочаная. З паперы ў вочы стральнулі два кароткія, як тэлеграма, радкі:

«Рыгор Клімчук здраднік. Ён ведае план блакады». Успышка вострага пачуцця азарыла яго твар. Ён, Вадзім Мікалаевіч, трымае ў сваіх руках незвычайную дэпешу. Цяпер было зразумела, куды і чаго спяшаўся на лодцы той увішны чалавек. Ён загінуў. Дэпеша аказалася не дастаўленай да месца прызначэння.

Настаўнік аж скалануўся ад адчаю. Ён разумеў: гэтыя два радкі вырашаюць лёс некалькіх тысяч людзей. Затрымка іх хоць на адну хвіліну была злачынствам. Дэпеша і так затрымана больш як на суткі. Яна адрасавана дзядзьку Андрэю...

Рыгор Клімчук? Хто такі? Нешта ён яго не ведае, не прыгадвае. Цікава дазнацца, хто паслаў запіску, хто яе вёз у лодцы. Здорава прыдумана — захаваць у вясло... Але фашысты перагарадзілі шлях дэпешы.

Вадзім Мікалаевіч далоняй адкінуў назад валасы на галаве і тут жа схаваў запіску ў дзяржальне вясла. Глянуў на сонца. Яно, зморанае, пачырванелае, вісела над самым небасхілам.

— Цітох! — гукнуў настаўнік.— Хутчэй сюды-ы-ы!

Вецер паменшаў. Хлопец пачуў вокліч і праз некалькі хвілін прыбег на паляну. Цераз плячо яго звісалі доўгія шэрыя лазіны.

— Што такое?

— Аб'яўляецца аўрал. Вясло, якое ты дастаў з возера, з сакрэтам. У ім я знайшоў запіску да партызан. Разумееш, запіску! Яе трэба тэрмінова ўручыць дзядзьку Андрэю. Інакш фашысты задушаць партызан. Ты разумееш, Цітох?

— Разумею,— адказаў хлопец.— Трэба будаваць плыт.

— Лазы ты, аднак, надраў малавата. Пакінь, што ёсць, і бягом за новым прыпасам.

Зваліў хлопец з пляча пад ногі Вадзіму Мікалаевічу жмут лазін і, як бура, рынуўся праз кусты ў глыб вострава.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

Гэта была шалёная работа. Вадзім Мікалаевіч, каб паспець, усё рабіў хутка, не шкадуючы сіл. Бегма падносіў ахапкі ламачча к берагу, тут жа сартаваў яго па таўшчыні і даўжыні, спрытна рассцілаў на вадзе снапы чароту,

накладаў наверх сушняк, увязваў і пераплятаў усё гэта лазінамі.

Цітон таксама стараўся як мог. Драць лазу ў гушчэчы, дзе тхне балотам і таўчэцца надакучлівая машкара, не так проста. Ён быў увесь запырсканы ў твань, а твар моцна падрапаны. Напружаны тэмп адбіраў апошнія сілы. Праз нейкую гадзіну і Вадзім Мікалаевіч і Цітон так змарыліся, што ледзь не падалі. Але работы не спынялі. Разумелі, калі згубяць марна хоць адну хвіліну, можа здарыцца непапраўная бяда. Яны перасільвалі стому, здрадніцкае трымценне ў нагах. Вядома, можна было на час спыніць работу, падсілкавацца малачком ці рыбай, якая ўжо крыху прывялілася на сонцы і ветры, вярнуць целу дужасць.

Але аб ядзе яны не ўспаміналі. Іх падганяла запіска і тая небяспека, якая вісела над буйным партызанскім злучэннем.

Цэлыя суткі прапалі дарэмна. Калі б туман не растаў над возерам, запіска была б у руках партызан. Яны б ужо дзейнічалі. Яны б паймалі гэтага пранырy-душагуба Клімчука, прымусілі загаварыць.

Сонца апускаецца ніжэй і ніжэй. Над балотам Камармох успыхнула моцная страляніна. Вадзім Мікалаевіч спрытна арудуе рукамі, звяно да звяна мацуе плыт. Побач каля яго ўвіхаецца і Цітон. Ён цяжка сапе, увесь у поце.

— Алачка плача. Пара карміць...

— Паплача і перастане,— не ўздымаючы галавы, кажа настаўнік. І тут жа ў нецярплівасці дадае:— Хутчэй, Цітон, хутчэй, мілы. Да змяркання плыт каб быў гатовы.

— Будзе гатовы,— аглядаючы работу, адказвае хлопец.— Добра, што чарот падрыхтавалі.

— Добра, што ты вясло дастаў,— хваліць у сваю чаргу настаўнік Цітка.

У такой даверлівай гамане і работа спорылася. Нават самі не згледзелі, як пры беразе на дробнай хвалі загушкаўся плыт, падобны на пантон.

Вадзім Мікалаевіч зірнуў на Цітка, спытаў:

— Трымацьме?

— Павінен трымаць. Зроблена як мае быць.

— Вось мы і праверым,— ён, абапёршыся на вясло, скокнуў на плыт. Край плыта нырнуў у ваду, але, калі настаўнік стаў пасярэдзіне яго, ён тут жа вытыркнуўся напаверх.

— Трымае! — у радасным парыванні сказаў Ціток.— Дык і мы сядзем з Алачкай,— папрасіўся ён.— Паплывём разам.

— Рызыкаваць не будзем,— сухавата адказаў настаўнік.— Тады, Ціток, да пабачэння. Я адпраўляюся. Чакай мяне заўтра ноччу. Даглядай за Алачкай. Глядзі, каб не ўцякла каза.

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

Аксана амаль бегла па сцежцы, падымалася з глыбакаватага яра. Паглядвала на ручны гадзіннік і бачыла, што яна спазняецца. Было ўжо без пяці хвілін дваццаць. Дзяўчына непакоілася. Палкоўнік Носке, як і ўсе немцы, педантычны, строгі. Відаць, каля іхняга дамка ўжо стаіць чорны лакіраваны «опель». Ад'ютант палкоўніка і вадзіцель будуць нямала здзіўлены: яе не знойдуць дома. Аксана папракнула сябе. Не папярэдзіла маці, што можа затрымацца, што адлучылася ненадоўга. Гітлераўцы занепакояцца. Аднак, ведала, будуць чакаць. Прадстаіць вечарынка ў рэстаранчыку каля вакзала, двухпавярховым, з шырокімі вокнамі, занавешанымі дарагім цюлем.

Яна там была неаднойчы. Танцавала з Вільгельмам Цымлерам. Аксана даўно прыкмеціла: ён упадабаў яе, імкнуўся паказаць сябе перад ёю з найлепшага боку. Таму і стараўся, дагаджаў, дамоў праз свайго шафёра часценька прысылаў ёй кветкі і дарагія падарункі. Ён намякаў, што ў яго ёсць і нешта лепшае — браслет, коштам недзе за 50 тысяч марак, ён ім парадуе самую прыгожую фройляйн, калі тая згодзіцца аддаць яму сваё сэрца.

Які памаўзлівы! Як хітра паддобрываецца. Аксана ведала, што ён звязаны тут, у мястэчку, з адной дзяўчынай, якая працавала санітаркай у раённай бальніцы. Зіначка Доўнар мела на Вільгельма вялікія разлікі. Была яна статная, прыгожая, старанна глядзела за сабой, і, вядома, кідкая яе пастава адразу прыцягнула ўвагу гітлераўца.

Але захапленню Вільгельма, відаць, прыйшоў канец. Зіначка надта ўжо несамавітая асоба. Па-першае, балбатлівая, як сарока, гаворыць-гаворыць, супынку няма. І каб аб нечым сур'ёзным і важным, а то аб пустых дробязях, не вартых ніякай увагі. Па-другое, раўнівая, не можа дара-

ваць Вільгельму ніводнага ўважлівага позірку на іншых жанчын, у выніку гэтага неаднойчы гітлераўцу ўстройвала істэрыку.

Калі разважыць, Аксана трапляла ў складаную сітуацыю. Дзяўчына нават узрадавалася, што надараецца вечарынка, інтымная размова з важным нямецкім чынам. Ён ужо сёння днём дазволіў сабе гаварыць з Аксанай папростаму, шчыра. Зусім магчыма, што ён здольны на большую адкрытасць.

Для Аксаны наступалі тыя дні, якіх яна так доўга чакала. Партызаны просяць яе дапамогі. І пры такіх складаных абставінах. Няхай бы яны хоць крыху раней адгукнуліся, каб яна паспела азірнуцца, падрыхтавацца, наструнінь сваё сэрца на новы рытм жыцця. Каб вось не трапятала, як сёння, не хвалявалася, не кідалася ў роспач. Сённяшні вечар нібы экзамен. І яна яго павінна вытрымаць.

Увесь раён цяпер жыве страхам за лёс партызан. Яны заблакіраваны ў балоце Камар-мох. Падзеі разгортваюцца не ў іх карысць. У лапы фашыстаў трапіў партызанскі разведчык Фёдар Гадун. Дзядзьку Андрэю пагражае смерць. Назад у балота Камар-мох адпраўлены шпіён і правакатар Клімчук. Ён лічыцца партызанам, жыве там, у лесе, з народнымі мсціўцамі. Можа, нават у адным атрадзе з Вадзімам. «Вадзім, дарагі! Ты, відаць, забыў пра мяне. А я не забыла. Дарэмна ты тады на мястэчковай плошчы так дрэнна падумаў пра мяне. Не ведала, што ў цябе такі круты, ваяўнічы характар. Зразумей, я іншая, іншая... Вось пасылаю да вас Алёшку Гадуна. Хлопец недзе ўжо рыхтуецца да рызыкоўнага плавання праз возера».

Аксана ўзбегла на высокі бераг яра, прыпынілася, павярнулася назад. Далёка ўнізе стаіць разгалістая ліпа, каля яе невысокая капа скошанай травы. Не бачна хлапца. Ён дзесьці ўжо каля возера. Яму трэба дастаць лодку. Дванаццаць кіламетраў па вадзе — гэта, як яна разумее, на чатыры-пяць гадзін работы. Вядома, выедзе ён пазнавата, недзе пад сярэдзіну ночы, каб яго не пачулі і не перапынілі...

Каля плота сялібы Рудкоўскіх пад старой вярбой стаяў «опель». Каля яго радыятара, расставіўшы ногі і закінуўшы назад рукі, стаяў ад'ютант палкоўніка. Ён нервова пакусваў губы. Пільна агледзеўшы Аксану, спытаў парускү:

— Где биваль, фройляйн? Вы опаздываете.

— Так, спазняюся. Да хворай сяброўкі забягала. Я хуценька.

Аксана пераапранулася. Сукенку надзела лёгкую, просценькую, паверх яе — зялёную кофту. Вечары выдаваліся ўжо халаднаватыя.

...Калі яна зайшла разам з ад'ютантам у рэстаран, палкоўнік стаяў каля акна спінай да дзвярэй. Ён адчуў, што Аксана з'явілася, рэзка павярнуўся і, запаліўшы зычлівую ўсмешку, рушыў насустрач. На ім усё блішчэла. Боты былі зіхатлівыя як люстра. На грудзях у палкоўніка начэплена безліч узнагарод.

— О-о, фройляйн,— соладка запеў палкоўнік,— вы ўмееце прымушаць чакаць.

— Дзякую за камплімент, мой палкоўнік,— пастаралася быць ветлівай і простай Аксана.— Я магла зусім не прыехаць.

— А што такое?

— Пагана адчуваю... Галава баліць.

— Галава? Хм... Дарагая фройляйн, мы пастараемся яе падлячыць. Обер-лейтэнант,— звярнуўся ён да ад'ютанта,— вы выдатна справіліся са сваёй місіяй. Вы — свабодны.

Ад'ютант стаў навыцяжку, ускінуў руку:

— Хайль Гітлер!

— Хайль! — ціха адказаў палкоўнік, узяў Аксану пад руку і падвёў да століка.

Яна з выглядам знямажанасці апусцілася ў крэсла. Стол быў падрыхтаваны як мае быць. На халодную закусь у пазалочаных талерках былі пададзены чорная і чырвоная ікра, балыкі, натуральны ласось, смажаная курацiна, нават устрыцы. З він у вочы кінулася савецкае шампанскае. Дзве яго бутэлькі ўзвышаліся ў цэнтры стала. Шчыльным кружком вакол іх стаялі ў яркіх наклейках віны Югаславіі, Францыі, Італіі, Аўстрыі, Бельгіі.

— Вы недзе рэквізавалі вінны пограб,— усміхнулася Аксана.

— Магчыма,— задаволена адказаў палкоўнік.— Дзеля вас я на ўсё гатовы.

— А гэта мы яшчэ пабачым,— не прамінула выкарыстаць зычлівую прыхільнасць да сябе Аксана.— Аднак,— і яна кіўнула на савецкае шампанскае,— наша савецкае віно, так сказаць, у цэнтры ўвагі...

— О-о,— працягнуў задаволена палкоўнік, бліснуўшы двума залатымі зубамі, якія былі пад верхняй губой.— Гэта, фройляйн Аксана, калі хочаце ведаць, пэўная сімволіка.

— Якая ж? Нешта да мяне не даходзіць.

— Я вам, мілая фройляйн, ахвотна расталкую.

— Цікава...

Палкоўнік раскрыў партсігар, дастаў беленькую тонкую цыгарэту, уладкаваў яе ў бурштынровы муштук, прыпаліў з дапамогай запальнічкі. Пускаючы пахучы дымок, некалькі хвілін як бы ўпіваўся курывам, маўчаў, поўны паважнай урачыстасці. Потым утаропіў позірк на Аксану, сказаў:

— Сімволіка простая, фройляйн. Бачыце, савецкія бутэлькі заціснуты з усіх бакоў. Так сказаць, яны ў кальцы. Блакада!..

— Значыць, мы будзем сёння граміць партызан? — як бы між іншым зазначыла дзяўчына і скасіла вочы на палкоўніка.

— Мы сёння,— адказаў палкоўнік,— а мае салдаты праз пару дзён...

— Як я ведаю, вы іх граміце штодня.

— Гэта так. Але рашаючая бітва паслязаўтра.

— Вы ўжо аддалі загад?

— Усё напагатове...

— Я зычу вам поспеху, палкоўнік,— стрымана сказала Аксана і тут жа, каб выглядаць больш шчырай, дадала:— Поўнай перамогі.

— З намі Гітлер! — з удзячнасцю хіснуў галавой палкоўнік.— З вашага пажадання і пачнём нашу атаку,— ён узяў бутэльку з шампанскім, тонкімі пальцамі ададраў на рыльцы серабрыстую фальгу, расслабіў драцінкі. Бутэлька выстраліла. Корак чмякнуўся ў столь, з рыльца шуганула пеніста-шыпучае віно. Паважна, акуратна Носке напоўніў бакалы.

— Ну, п'ём,— сказаў ён, заглядаючы ў Аксаніны вочы.— За вас, фройляйн. Як мне расказваў Вільгельм, вы наш чалавек. Вы служыце нашай вялікай фатэрлянд.

— Выбачайце, гер палкоўнік, яна пачала, мне здаецца, меншаць,— і тут жа растлумачыла:— Пасля Сталінграда...

— Фройляйн Аксана, хай вас гэта не турбуе. Сталінград... Гэта карысная для нас навука. Там не было стратэгіі і... як вам сказаць,— стратэга...

5*

— А фон Паўлюс? Яго Гітлер лічыў першакласным стратэгам.

— Не ўсё, што лічаць, выходзіць такім, якое яно ёсць. Фон Паўлюс аказаўся не на вышыні. Сталін яго абвёў вакол пальца.

— Трэба было яму памагчы...

— Там не было мяне, фройляйн,— звёў усё на жарт палкоўнік,— і маёй дывізіі.

— Затое вы тут зробіце Сталінград.

— Вядома! Мой Гітлер пабачыць, на што я здольны. Лясныя бандыты ў мяшку, у пастцы. Вось гэта і ёсць, фройляйн, сапраўдная стратэгія.

Яны выпілі. Палкоўнік з невялікім перадыхам асушыў увесь бакал. Аксана адпіла толькі некалькі глыткоў. Іх гутарка працягвалася. У рэстаран пакрысе заходзілі афіцэры з жанчынамі, рабілася шумна. Змерклася, і ў зале запаліліся агні. У цэнтры, пад столлю, дробячы святло, вісела невялікая, але багатая люстра. Афіцыянтка, нізенькая, увішная дзяўчына, у строгім цёмным плацці пры белым фартушку, падышла да радыёлы, паставіла пласцінку. Палілася танцавальная музыка.

— Факстрот...— кіўнуў галавой палкоўнік.— Патанцуем?

— Крыху пазней...— стрымана сказала Аксана.

— Малавата выпілі, фройляйн. Некалькі глыткоў. Вядома, не будзе настрою. А вы піце, як я,— ён зноў узяў бутэльку і артыстычным рухам пачаў наліваць шампанскае. Пры святле люстры яно ў бакале гуляла, як выхапленае з печы іскрыстае полымя.— Даліваю і вам. Толькі просьба, фройляйн, выпіць да канца.

— Да дна? Ого, гэта немагчыма. Я звалюся...

— А я вас падыму,— усміхнуўся палкоўнік.

— Вось гэтага я не магу дапусціць.

Размова вялася пуставатая, пабудаваная на жартах, на ігры слоў. Аксана трымалася строга і сціпла, яна ведала, што інакш гэты нахабны палкоўнік можа, як кажуць, распаясацца. Трэба неяк пагаварыць пра Фёдара Гадуна, Алёшавага бацьку. Вядома, яе заступніцтва можа быць расцэнена непажаданым чынам. Могуць узнікнуць падазрэнні. Аднак праявіць раўнадушнасць да лёсу гэтага чалавека таксама нельга. А можа, усё ўдасца? Для яе гэта многае значыла. Палкоўнік ахмелены адчуваннем перамо-

гі над партызанамі. Трымае сябе развязна, настроены гулліва.

— Гер палкоўнік,— варухнула чарнявым брывом Аксана.— Не палічыце гэта за скаргу...

— У вас нават ёсць скарга? На каго? Ці не на Вільгельма Цымлера?

— Наогул, атрымалася неразбярыха...— працягвала далей Аксана задумліва-строгім тонам.— Бачыце, гер палкоўнік, арыштаваны адзін чалавек...

— О-о, гэта, фройляйн, не мая кампетэнцыя,— адмахнуўся адразу палкоўнік.— Вам трэба звярнуцца...

— Да Вільгельма Цымлера,— падхапіла Аксана і з несхаваным папрокам дадала:— Я чакала ад вас большай увагі.

— Што за чалавек? За што арыштаваны? — У вачах палкоўніка ўзнікла цярплівая засяроджанасць.

— Звычайны чалавек, з мястэчка. Парушыў камендацкую гадзіну.

— Ага, парушыў... Пры вобыску нічога не знайшлі?

— Нічога.

— А куды ён ішоў, што яму было трэба ў забаронены час?

— Казаў, хацеў забегчы да аптэкара, узяць у яго парашкі для хворай жонкі.

— А Вільгельм?

— Што Вільгельм! Ён дзейнічае, як заведзеная машына: зняў допыт, кінуў у турму. І бедалага-чалавек ні за што ні пра што пакутуе.

— А чаму вы за яго, фройляйн, хвалюецеся? Ён вам блізкі?

— Ды як вам сказаць... Разумееце, я вучыла яго сына Алёшку. Прыгожы і здольны хлопец. Алёшка прыбягаў, прасіў, плакаў. Кажа: «Вы можаце — дапамажыце!» Я тлумачыла, што гэта не ў маіх сілах. А ён прыліп як смала, зарадзіў сваё: «Вы можаце!» І не выходзіў з хаты. Я, вядома, паабяцала. І толькі таму, што адразу прыгадала вас і вашу дабрату.

— Не трэба было прыгадваць, фройляйн.

— Чаму?

— Няма ў мяне дабраты. Я — жорсткі!

— Жартуеце! Нагаворваеце на сябе. Ці ж я не бачу? — і гарэзліва памахала пальцам палкоўніку.

— Я жорсткі... але не ў адносінах да жанчын,— усміх-

нуўся ціха Фрыдрых Носке.— У гэтым, аднак, вы не памыліліся... А наконт арыштаванага... Я ж кажу: не мая кампетэнцыя. Хай Вільгельм... Яго справа арыштоўваць, яму ва ўсім і разбірацца...

— Не ўмее ён разбірацца і не хоча. Рашэнне ў яго адно — куля... Ці ж я не наглядзелася? І Алёшкавага бацьку пад расстрэл пусціць. Напалохалі яго партызаны... У кожным ён бачыць ляснога бандыта...

Палкоўнік перавёў позірк на залу. На танцавальным пятачку, каля кухні, у крузе хадзіла некалькі пар. Яны шчыра, з віхурнай рэзвасцю адбівалі танец. Палкоўніку захацелася ў круг, хацелася паказаць сваю яшчэ маладую зухаватасць. Аднак гэтая нечаканая размова! Як яе абарваць?

— Фройляйн,— ласкава прамовіў Фрыдрых,— давайце гэту размову перанясём на пасля.

— Можа, і нашу сустрэчу таксама перанясём? — бязбоязна паглядзела палкоўніку ў твар Аксана.

— Вы мне прад'яўляеце ўмовы! — выгукнуў Носке.— Ці не занадта, фройляйн! Я тут начальнік гарнізона і ўлады не аддам. Хадзем танцаваць. Хадзем,— ён узяў яе за руку і пацягнуў з-за стала.— Няўжо вы не бачыце, фройляйн, мы многае губляем...

Палкоўнік быў грузнаваты, не надта спрытны. Некалькі разоў ён наступіў на нагу Аксане. Ад гэтага ён нікольκі не збянтэжыўся, хоць папрасіў прабачэння.

— Гэта нічога,— адказала Аксана.— Здараецца...

Палкоўнік быў крыху вышэйшы, і дзяўчына старалася не пазіраць яму ў твар, які ёй стаў проста агідным.

— Вы цудоўна танцуеце, лёгка,— шаптаў Носке,— мне здаецца, мы плывём...

— Не к таму берагу...— перахапіла думку палкоўніка Аксана.

— О-о, вы дасціпная на жарты. Дражніце мяне, як хлопчыка. Але я, фройляйн, не хлопчык. Бераг, да якога мы прыстанем, запаветны, наш! Я тут начальнік гарнізона і ўлады сваёй нікому не аддам.

— Значыць, у вас улада не толькі нада мной, але і... над Вільгельмам. Значыць, маю просьбу вы можаце выканаць, але не хочаце?

— Чакайце, фройляйн,— на міг прыпыніўся палкоўнік і пільна зірнуў у Аксаніны вочы.— Дзе вы праходзілі навуку так напорыста наступаць?

Аксана не разгубілася. Яна як бы звычліва ўсміхнулася, варухнула чорнымі вейкамі, мякка адказала:

— Вунь за тым столікам.

— Ну і свавольніца! Вы ўмееце выкручвацца. Я гляджу на вас і, шчыра прызнаюся, баюся, каб гэтая Аксана, што танцуе са мной, не аказалася савецкай разведчыцай.

— Аднак высока вы мяне ўзнялі: савецкая разведчыца! — рассмяялася дзяўчына.— Я ўсяго-наўсяго разведчыца вашых, гер палкоўнік, талентаў. Вам не падабаецца, што я такая назола. Зразумейце, дапытлівасць — адна з праяў жаночай храбрасці.

— Ого, калі так, прымаю вашу дапытлівасць...

— Без агаворак?

— Вядома... Вы загадкавае для мяне стварэнне. Вы не толькі зачароўваеце, вы прыцягваеце да сябе сваім розумам, дасціпнасцю. Я вітаю вас у той акалічнасці, у якой самі назваліся. Але не дай божа...

— Што вы, што вы...— захістала галавой Аксана.— Няўжо мне жыць надакучыла? Ваша фатэрлянд, гер палкоўнік, лічыце, мая фатэрлянд. І я малюся за яе шчасце. І я малюся за пакутнікаў... Такіх, як Фёдар Гадун. Дык вы мне нічога, гер палкоўнік, канкрэтнага не сказалі. Між тым марудзіць нельга. Праз суткі-другія ўсё можа быць скончана. Гер палкоўнік, вы як бы заснулі...

— Які прыгожы танец,— ляніва абазваўся Носке.— І як не хочацца чуць аб нечым трагічным.

— Жыццё ідзе на кантрастах, будуецца на іх, гер палкоўнік,— Аксана гэта сказала памяркоўна, разважліва.— Аднак людзі не павінны быць жорсткімі. Яны павінны любіць адзін аднаго — гэта наказ нашага бога. Гэта будзе памагаць нам наблізіцца да бога...

— Вы апрача ўсяго — і веруючая?

— У бога і ў вас, гер палкоўнік,— не баючыся паказацца ліслівай, кінула камплімент Аксана.

Танец нарэшце скончыўся. Афіцыянтка хуценька кіравалася да радыёлы, каб памяняць пласцінку. Палкоўнік запыніўся, але трымаў Аксану за талію, мяркуючы прадоўжыць танец.

— Хопіць, гер палкоўнік,— папрасіла дзяўчына.

Ён не настойваў. Яны сышлі з танцавальнага круга, селі за столік.

— Многа ж, аднак, у рэстаран ходзіць вашых афіцэраў,— кіўнула на залу Аксана.— І ўсе з жанчынамі.

Палкоўнік аглядзеў наведвальнікаў рэстарана, прыжмурыўся, сустрэўся з нечым позіркам, ветліва кіўнуў і тут жа сказаў:

— Каб добра ваяваць, фройляйн, трэба ап'яніць сэрца. Няважна чым — любоўю, віном ці нечым іншым, але трэба ап'яніць. Я гэта даўно зразумеў...

— У гэтым ваша стратэгія?..

— Частка, можаце лічыць, стратэгіі.

— Значыць,— падхапіла Аксана выказванне гітлераўца,— у нейкай ступені і я вам дапамагу добра ваяваць. А вы, аднак, ведаючы ўсё гэта, не можаце выканаць маёй маленькай просьбы.

— Фройляйн, вы — невыносная жанчына. Вы патрабуеце занадта многа...

— Занадта мала,— паправіла Аксана.— Усяго-наўсяго сказаць два словы: «Вызваліць Гадуна!»

— Вы ўсё ўяўляеце ў прымітыўнай схеме. Тут трэба правесці цэлыя перагаворы.

— Для начальніка гарнізона не можа быць ніякіх перагавораў. Для Вільгельма ваш загад — закон.

— Пачакайце, пачакайце, фройляйн. Мне сёння хацелася больш гаварыць аб лясных бандытах. Я хацеў пачуць ад вас, хто такі дзядзька Андрэй, чаму яго слухаюцца, як ён мог арганізаваць сваю банду. А вы аб нейкім местачкоўцу Гадуну... Бадай, я вас не разумею, мілая фройляйн.

— Партызаны мяне не цікавяць. Аб іх добра можа расказаць Вільгельм. А вось Гадун — божы чалавек, несправядліва пакутуе. Я малюся за яго.

— Ну, добра, падумаем,— палкоўнік адвёў позірк ад Аксаны, пацягнуўся да бутэлькі, каб наліць віна.— У нас, фройляйн, атрымліваецца не вечарынка, а перагаворы палітычнага характару. Мяне гэта бянтэжыць. Калі б я не ведаў са слоў Вільгельма, хто вы такая, можна было залічыць вашу гаворку, мякка кажучы... хм,— гітлеравец запнуўся і падбіраў патрэбнае слова.

— Ну, ну! — нядобра нахмурылася Аксана.— Гаварыце, не бойцеся. Я ўсё вытрымаю, любы ўдар.

Гітлеравец адразу прытушыў у сабе агонь нядобрага ўзбуджэння. Ён марудліва аглядзеў залу, зноў прыветліва камусьці хіснуў галавой і спыніўся позіркам на Аксаніным твары.

— Добра, мая дзяўчынка,— сказаў ён ласкава, змірлі-

ва.— Абяцаю пагаварыць з Вільгельмам. Для вас я іду на гэты крок.

— Брава, гэр палкоўнік! Я меркавала, толькі фон Паўлюс змог капітуліраваць.

— Яго капітуляцыя — ганебная. А мая... Я спадзяюся, мая радасная, вядзе да перамогі.

Забулькала ў бакалы віно. Палкоўнік азартна перакуліў свой бакал і стаў закусваць. Гутарка працягвалася. Але яна ўжо не была напружанай і вострай. Носке скіроўваў увагу то на Аксану, то на знаёмых афіцэраў, то на іх партнёрш.

Аксана не піла, толькі для прыліку прыгублівала бакал. Яна адчувала і радасць і адначасова трывожнасць. Гэтыя змешаныя пачуцці дапамагалі ёй трымацца горда і незалежна.

Дзяўчына была задаволена вынікам слоўнай дуэлі з палкоўнікам, хаця, магчыма, у нечым вяла сябе досыць неасцярожна. Барацьба за Фёдара Гадуна ёй можа, вядома, пашкодзіць. Але наўкол разгортваліся вострыя драматычныя падзеі, і яна не магла быць ад іх убаку...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Калі звечарэла, толькі тады Клімчук, які амаль увесь дзень прасядзеў у чымсьці хлеўчуку на ўскраіне мястэчка, адважыўся падацца к лесу. Настрой яго быў, як кажуць, нікчэмны. Іначай ён уяўляў сваю службу. Меркаваў, што, прынёсшы палкоўніку Носке вестку — аб будаўніцтве партызанамі грэблі праз балота, ён будзе ўзнагароджаны і абласканы ўвагай. Меркаваў, што дадуць яму хоць некалькі спакойных дзён для перадыху, для адпачынку.

Але ўсё павярнулася іначай. Праўда, ён атрымаў узнагароду. Калі выходзіў з кабінета Носке, яго пераняў нейкі штабны чын і правёў у асобны пакой з закратаванымі вокнамі. Зацістуты ў шэра-зялёны фрэнч, ён, не кажучы ні слова, паклаў на стол перад Рыгорам паперку і папрасіў распісацца.

— Навошта? — спытаў Клімчук у нядобрым утрапенні. Яму вельмі не хацелася пакідаць на паперы свой след. Гэтак жа ў поўным маўчанні штабіст заляскаў зам-

камі сейфа, што стаяў за драўляным бар'ерам, выцягнуў адтуль жалезную скарбонку і перакуліў яе на стол, на паперыну. Перад Клімчуком са звонам рассыпаліся залатыя манеты. Іх было нешта каля дваццаці ці нават болей. Клімчук ад неспадзяванасці аж устрапянуўся. Ён удзячна бліснуў вачыма, борздзенька згроб манеты ў шыракалапую далонь і кінуў іх у кішэнь штаноў. На паперцы ўбачыў не сваё прозвішча, а шпіёнскую клічку — Крывароты,— і распісаўся. Пасля гэтага стукнуў абцасамі, выпраміўся і пакланіўся гітлераўцу. Вядома, на яго вуснах сама сабой успыхнула ўсмешка радасці і ўдзячнасці.

Там, у хлеўчуку, на сенавале, ён пералічыў манеты, іх аказалася 23 штукі. Не благі, на першы погляд, заробак. Але калі ўдумацца, як след разважыць, палкоўнік мог быць больш шчодрым. Цяпер партызаны канчаткова асуджаны на смерць. А калі б не яго данос, яны лёгка, амаль без бою, выйшлі б з акружэння і зніклі ў Клімавіцкай векавечнай пушчы. «Але няхай,— у скрусе махнуў рукой Крывароты,— як заплацілі, так і добра. Цяпер я пры грашах».

Ішоў ён па местачкоўскіх загараддзях, сцяжынкай, якую добра ведаў. Цяпер яго займаў іншы клопат: як выканаць новае заданне палкоўніка. Лёгка сказаць,— падай на стол галаву бандыцкага атамана Андрэя. Гэта складаная аперацыя, у якой варта, каб прынялі ўдзел некалькі чалавек. Трэба ж неяк наблізіцца да дзядзькі Андрэя, падпільнаваць момант, калі ён застанецца адзін, забіць яго, адрэзаць галаву, схаваць у мяшок і з гэтай, досыць прыкметнай ношай, прайсці праз некалькі партызанскіх пастоў, выбіцца да пазіцый немцаў. Неверагодна складанае заданне!

Крывароты кляў самымі апошнімі словамі Фрыдрыха Носке. Ён неаднойчы чуў пахвальбу палкоўніка, што з партызанамі ён, Носке, расправіцца, як слон з чарапахаю. Нахабны, самаўпэўнены чалавек! Два тыдні Носке трымае іх у блакадзе, і калі б не ён, яго агент, яшчэ, як кажуць, невядома, чый быў бы верх. Вось цяпер палкоўнік сапраўды можа выстаўляцца, ганарыцца. Цяпер партызанам — капцы, лёс іх прадвырашаны. «Малавата, скупярдзяй, заплаціў,— зноў пашкадаваў Крывароты.— Усяго два дзесяткі манет». Некалі ў яго былі амаль такія ж грошы. Ён іх атрымаў ад бацькі там, на Салаўках, куды іх саслалі як кулакоў. Усе залатыя манеты былі ашчадна схаваны пад

падкладку ў ватоўку. Нават пры старанным абмацванні цяжка было іх заўважыць. Накінуў бацька зашмальцаваную ватоўку Рыгору на плечы і сказаў:

— Уцякай адсюль, сынку. А то загінеш. Уцякай у Польшчу. Там з такімі грашыма будзеш добра жыць.

Рыгор доўга прабіраўся да польскай граніцы. Аднойчы на ранку, галодны і моцна змораны, ён прыбіўся ў мястэчка, зайшоў у крайнюю хату, папрасіў напіцца. Гаспадыня была гаваркая зычлівая жанчына, убачыла, што хлопца гоніць па свеце нейкая бяда, пасадзіла за стол, накарміла, а потым параіла адпачыць. Завяла ў камору, у халадок, і там ён праспаў цэлыя суткі. Абудзіўся ад адчування, што за ім нехта сочыць. Расплюшчыўшы вочы, убачыў каля ложка на табурэтцы дзяўчыну год дзевятнаццаці, яна зашывала яго парваную кашулю.

— Навошта ты? — здзівіўся ўцякач.

— А не, табе лепей хадзіць абарванцам! На якіх, скажы, суках вісеў? Па жывому парвана.

— Дзе вісеў, там вісеў...

Далей гэтай хаты, аднак, ён не пайшоў. Марылька, так звалі дзяўчыну, зачаравала яго...

Так ён стаў жыхаром мястэчка, уладкаваўся працаваць на млын, і там у клопатах беглі яго гады. Рыгорам Клімчуком, вядома, цікавіліся ўлады, нехта падказаў, што ён кулацкі сын. Але за свае ўцёкі з Салаўкоў ніякага пакарання не панёс. Тады ў ход была пушчана добрая прымаўка, якая няблага паслужыла не толькі яму аднаму: «Сын за бацьку не адказвае».

А калі прыйшлі гітлераўцы, яны вельмі хуценька ўведалі аб біяграфіі млынара Клімчука, загадалі яму з'явіцца ў камендатуру. Адтуль ён выйшаў, ззяючы ад шчасця. Спачатку быў простым даносчыкам, рыхтаваў спісы камуністаў, яўрэяў, потым яму наказалі прабрацца ў партызаны. Цішкам-нішкам ён там і служыў. Вядома, як і ўсе, хадзіў на заданні. Вядома, калі адпрошваўся, яго адпускалі, і ён прабіраўся ў мястэчка, каб наведаць сям'ю, а за адным разам перадаць каштоўныя звесткі аб дзейнасці партызан.

У марах строіліся прыгожыя планы аб жыцці пасля перамогі Гітлера. Што фюрэр пераможа, спачатку ў яго не было ніякага сумнення. «Такую сілішчу кінуў на Расію, такім грымнуў па ёй браніраваным кулаком». Зараз, праўда, Клімчук не вельмі перакананы ў ваенным поспе-

ху фашыстаў. Абстаноўка для іх нечакана-негадана ўскладнілася. І ўсё пачалося ад партызан ды ад Сталінграда. Немцы адсоўваюцца назад, і ён добра бачыць, што яны не на жарт устрывожаны сваімі няўдачамі. Вядома, не асабліва весела стала і Клімчуку. Але што цяпер зробіш. Трапіў у воўчую зграю і вый па-воўчы... Як бы цяпер ні хацеў, а звароту назад да сваіх няма. Няхай яны толькі даведаюцца, што ён за птушка, яго чакае бясслаўная смерць. Ён не раз бачыў, як партызаны судзілі здраднікаў...

Аж мароз прабег па целе Крываротага ад такіх думак, і ён сцепануў плячыма. Загад Носке... І к чаму ён? Усё роўна партызанам пагібель, дык не — прынясі галаву дзядзькі Андрэя. Смутак і скруха агарнулі сэрца. Заданне такое, што і сам, глядзі, уліпнеш, уласнай галавы не ўбеража.

Ён не заўважыў, калі па разоры бульбянога поля падышоў да каравага густога хвойніку. Моцна запахла грыбамі і пажухлай адсырэлай травой. Ён спыніўся, агледзеўся. Злева, у цемрадзі, быў клін поля, ля якога ішла дарога ў лес да вёскі Весніно. Там, ад гэтай вёскі, пачынаюцца пазіцыі немцаў. Яго, вядома, будуць затрымліваць, правяраць, хто такі. Могуць прычапіцца і абшукаць. Тады залатоўкі паплывуць з яго кішэні. Іх трэба недзе прыхаваць. У цемрадзі ў лесе нялёгка знайсці зручнае патайное месца. Яму ўспомнілася дуплаватая сасна каля Весніно. Ішоў туды ўзбоч дарогі асцярожна, ціха, як рысь. Вочы яшчэ меў добрыя, і яны яму някепска памагалі.

Адшукаў сасну, аднак, адразу. Яна стаяла пры паляне крыжастая, з кучаравай шапкай старых галін. Дупло знаходзілася высакавата, трэба было караскацца па ствале. «Дрэва прыкметнае, пацікавіцца нехта дуплом, і тады...» Аднак новай, іншай ованкі не стаў шукаць. Разважыў так: скарб яго праляжыць не болей двух-трох дзён. Крывароты разгарнуў анучку, у якой былі грошы, дастаў з яе адну залатоўку. Пакідаў сабе на ўсякі выпадак. «А раптам пападуся. Авось паспрабую адкупіцца». Ён зняў пінжак, абмацаў шарсцяную падкладку на плячы, зубамі перакусіў нітку на шве і, спрытна маніпуліруючы рукамі, засунуў туды манету. «Хай паможа бог»,— прашаптаў ён пажаданне на ўдачу. Каб ускараскацца на дрэва, запхнуць у дупло скрутак з грашыма, прайшло некалькі хвілін.

Цяпер можна выходзіць на дарогу. Пароль ён ведаў,

а гэта было галоўнае. Вядома, без асаблівых прыгод прайшоў некалькі нямецкіх пастоў. У Весніно стаяў штаб карнага палка. Крывароты там заначаваў. Раніцай, не ўмываючыся, не прыгледзеўшы сябе, адразу падаўся далей к балотцу Камар-мох. Ён быў у самаволцы больш за суткі. Там, у атрадзе, маглі спахапіцца, дзе ён, куды знік. Рыгор Клімчук быў пасланы як дужы і спрытны мужчына пракладваць грэблю. Адтуль ён і змыўся, каб далажыць Носке аб намеры і планах партызанскага камандавання. Цяпер, ідучы па дарозе, ён імкнуўся прыдумаць перакаsuccessive нальную легенду. Можна спаслацца, скажам, на тое, што галадуха настолькі прыціснула яго, што ён змушаны быў, рызыкуючы жыццём, падацца праз нямецкія пазіцыі, каб дасягнуць першага бульбянога поля. Што ж, легенда досыць рэальная. Прымаецца. Значыць трэба звярнуць на поле і накапаць з паўмяшка бульбы. З такім дарункам яго прымуць у атрадзе з распасцёртымі рукамі. Нават пахваляць, пазайздросцяць, што ўдачлівы, што прашыўся праз пазіцыі фашыстаў.

Значыць, так трэба і дзейнічаць. Клімчук-Крывароты пачаў пільна аглядаць палі, паляны. Большасць палёў пустыя, жаўцелі шчаціннем іржышча, на адной з палян яшчэ стаяла фіялетава-бардовая грэчка. І толькі каля лесніччоўкі, ля невялікай рэчкі, яго позірк учапіўся ў кучаравую зеляніну бульбяных загонаў. На сядзібе лесніка гаспадарылі гітлераўцы. Крывароты бязбоязна завярнуў да іх. Немцы, вядома, здзівіліся, устрывожыліся, і з аўтаматамі — да яго.

— Патысан! — закрычаў адзін ваяка, падбег і грымнуў яму прыкладам карабіна ў спіну. Крывароты пагрозліва затупаў нагамі, стаў лаяцца. І тут жа спешна паклíканаму афіцэру сказаў пароль. Гэта яго і ўратавала ад расправы.

На лесніковым селішчы ў закутку гумна знайшоў мяшок і гадзіны паўтары капошкаўся з рыдлёўкай на полі. Бульба ўрадзілася амаль уся дробная.

І вось на яго плячах цяжкаватая ношка. Каля ганка хаты ён мяшок зваліў на зямлю, зайшоў да афіцэра і ад імя палкоўніка Носке запатрабаваў, каб яго на чым-небудзь падкінулі да пярэдняга краю абароны партызан.

Ехаў ён на танку, прыткнуўшыся да шурпатай у плямах камуфляжа вежы. Адной рукой трымаўся за нейкую жалязяку, другой — ашчаперыў мяшок з бульбай. Хоць

Крываротага моцна біла і трэсла на брані, ён быў здаволены, што афіцэр прадаставіў яму такі важнецкі транспарт. За нейкую гадзіну ён быў на месцы, а пры іншых стасунках давялося б добра намяць сабе горб цяжкім мехам.

І вось ён адзін стаіць у ляску з маладых і старых дрэў. Тут, на пясчанай выспе, пад вываратнем, яго партызанская апратка: цёмны дыяганалевы касцюм, моцныя вайсковыя кірзачы і кубанка з чырвоным бантам.

На пераапрананне пайшло некалькі хвілін. З лаўжа ламачча выцягнуў карабін і падсумак, у якім была толькі адна абойма з патронамі. Дбайна падрыхтаваўшыся ў дарогу, прысеў на верасовую купіну і рашыў падсілкавацца. У яго ў прыпасе быў ладнаваты кус сала, акраец хлеба. Апетыт за дзень нагуляўся, аж смактала пад лыжачкай. Клімчук-Крывароты шкадаваў, што там, у лесніччоўцы, не паеў гарачай стравы. А можна ж было: нямецкая кухня стаяла на самым двары, паравала смачным супам. Цяпер на некалькі дзён трэба завязаць страўнік. Хіба перападзе яму нейкая бульбіна з меха, што ён цягне на сабе.

Сальца мяккае і сакавітае, прыпраўленае кменам, аж растае ў роце. Крывароты есць яго з прагнасцю. А тым часам пільна слухае і разглядае наваколле. Высокія, прамыя, як свечкі, стаяць сосны. Верхавіны іх пад самымі хмарамі гудуць, пагойдваюцца. Плыве аднастайны мяккі шум. Цішыня, сатканая з гэтага шуму, нейкая на дзіва гаючая, супакойваючая.

Раптам неба ў прагале сосен затрымцела металічным звонам. Крывароты ведаў: ляціць самалёт. Але ён не стаў вышукваць яго вачыма. Разумеў: гэта па загаду Носке на чарговую бамбёжку ляцяць фашысты. Размерана, механічна хадзілі сківіцы, у целе ўзнікла ленаватая млявасць. Крывароты адчуваў, што яго абдымае дрымота і ён вось-вось засне. А чаму б і не паспаць? Меркаваў: цяпер спяшацца няма куды. Калі і засне, дык гэта лепш, адновіць свае сілы. І толькі ён заплюшчыў вочы, толькі нешта прыемнае і харошае пачало сніцца, як раптам паблізу пачуўся рэзкі трэск і абвальнае цяжкае шамаценне.

Крывароты прахапіўся, спрытна ўскочыў на ногі. Ужо вечарэла. Трэск і шум зніклі, быццам іх і не было. Ён зноў хацеў апусціцца на прыгрэтую купіну, як убачыў у прагаліне паміж дрэў яркую белізну. Што такое? Крывароты падхапіў карабін і, з асцярогай аглядаючыся, пабрыў па верасе да белай гурбіны.

«Парашут,— зразумеў ён.— Вось табе і праляцеў самалёт... Значыць, некага выкінулі? Значыць, тут чалавек? Хто ён — немец ці рускі?»

Клімчук-Крывароты запыніўся, каб разважыць, што рабіць. Ісці да парашута ці махнуць на яго рукой і працягваць свой шлях? «Бывае, звяжашся, а потым не будзеш і рады...» Дапытлівасць у душы, аднак, расла, і Крывароты не мог яе асіліць, перамагчы.

Ён клацнуў затворам, зарадзіў карабін і ўжо з большай упэўненасцю рушыў наперад. Пад ботамі пахруствалі сухія галінкі, ламаўся, шапацеў прымяты верас. Купал парашута зачапіўся на гонкай маладой бярозе, што стаяла наводшыбе ў лесе. У некалькіх метрах ад ствала дрэва на зблытаных стропах нешта хісталася: ні то фігура парашутыста, ні то звычайны мяшок. Крывароты прыгледзеўся. Парашут аказаўся савецкім, на ім скінуты груз. Ён абмацаў мяшок, распароў яго. «Боепрыпасы... Патроны тут, гранаты...» Ух, як гэта здорава! Якраз на руку яму, Крываротаму. Да партызан ён прыйдзе з незвычайным савецкім падарункам, і ўсялякае падазрэнне, такім чынам, аб яго адсутнасці будзе знята.

Здраднік дастаў з кішэні нож-складанчык, абрэзаў стропы. Мех асунуўся ўніз. Зноў, як злодзей, агледзеўся Крывароты. Сонца села, і поцемкі запаўнялі лес. Варта было знішчыць парашут, каб нікому не назаляў, але сцягнуць яго з бярозы не ўдалося. Крывароты ўскінуў мех на плечы і, сутулячыся ад цяжару, пакрочыў у гушчар.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

Вільгельм Цымлер прачнуўся рана. Толькі развіднела. Праз акно, што было насупраць ложка, бачылася спакойнае чыстае неба. Значыць, дзень будзе цёплы, сонечны. Гэта імпанавала агульнаму настрою каменданта. Прырода як бы падавалася па заказу.

Ён чуў, што не часта ў гэтых мясцінах Беларутэніі * стаяў такі прыгожы сухі верасень. Добра спалася каменданту, сон нічым не перапыняўся — ні стралянінай, ні чалавечым гвалтам. І разумеў, што такая абстаноўка скла-

* Так называлі нямецка-фашысцкія акупанты Беларусь.

лася пасля прыходу ў мястэчка карнай дывізіі палкоўніка Носке.

Вільгельм спрытна, па-салдацку, падхапіўся з пасцелі, стаў апранацца. Правёў рукой па шчацэ і зразумеў, што трэба пагаліцца. Адчыніў дзверы ў другі пакой. На крэсле, каля акна, сядзеў яго дзяншчык, гатовы атрымаць любы загад.

— Курт, развядзі мыла. Падрыхтуй брытву.

— Слухаюся, гер капітан.

Пасля стараннага туалету быў сняданак. Кухарка, немка Эльза, якую ён спецыяльна выпісваў з роднай фатэрлянд, умела дагаджаць густу каменданта — адменна гатавала гопель-попель, дасціпную нямецкую страву, штэк па-берлінскі са свінога мяса, прыпраўленага салодкай падсмажанай цыбуляй, разнастайныя супы і баршчы.

У хуткім часе да асабняка каменданта — драўлянай новай будынiны з шырокімі вокнамі і чырвоным чарапічным дахам — падкаціў аўтамабіль.

— Куды? — калі ўсеўся Вільгельм і паважна закурыў, спытаў шафёр, маладзенькі салдат, на якога толькі сёлета нацягнулі форму.— У камендатуру?

Вільгельм густа пыхнуў цыгарэтай. Вядома, трэба было адразу заглянуць у камендатуру, пабачыць, што там робіцца, ці не папоўнілася за ноч турма якімі-небудзь важнымі тыпамі, як ідзе служба следчых, вартавых, пасыльных, ці на месцы перакладчыца.

Можа стацца, што пасля сустрэчы з палкоўнікам Аксана, з яго асабістага дазволу, не выйдзе на працу, і Вільгельм разумее, што без яе ён будзе адчуваць увесь дзень не ў сваёй талерцы.

Але камендатура потым. У яго ёсць неадкладная справа, якую ён можа вырашыць толькі з палкоўнікам Носке.

— У штаб гарнізона,— рашуча кіўнуў галавой камендант.

Каля штаба стаяла цэлая чарада вайсковых машын, былі тут нават бронетранспарцёры. А ззаду, далёка за будынінай, маячыў нават танк, высокі, з доўгай гарматай, якая тырчэла з яго вежы, як непрыпаленая цыгара.

«Нешта мнагавата транспарту. Ці не нарада ў палкоўніка»,— падумаў Вільгельм і пашкадаваў, што загадзя, яшчэ ўчора, не папярэдзіў Носке аб сваёй патрэбе ў сустрэчы. Хацеў быў даць загад шафёру павярнуць назад, але дапытлівасць перамагла. «Ну і што, калі нарада,—

разважаў ён.— Пасяджу з афіцэрамі, пачую, аб чым ідзе гаворка, якая аператыўная зводка з раёна ваенных дзеянняў у зоне Буян-возера».

Палкоўнік Носке быў у сваім кабінеце. Вільгельм папрасіў афіцэра-штабіста далажыць начальніку гарнізона аб сабе. Праз некалькі хвілін афіцэр вярнуўся, шырока расчыніў абабітыя жоўтай скурай дзверы.

— Біттэ!

Палкоўнік быў не адзін. Каля яго стала навыцяжку стаялі два афіцэры, адзін у чыне обер-лейтэнанта, другі — капітан.

— Капітан,— голас Носке быў цвёрды, патрабавальны.— Яшчэ раз праверце гатоўнасць артылерыйскага дывізіёна. Каб за трыццаць хвілін бою выкінуць на галаву лясным бандытам дзве тысячы тон снарадаў. Разумееце?

— Усё будзе зроблена, гер палкоўнік,— адказаў афіцэр, яшчэ больш выструньваючыся.

— І не забудзьце на прыцэльнасць. Каб партызаны не скардзіліся, што мала паслалі падарункаў,— не ўтрымаўся ад жарту палкоўнік.

Вільгельм аж усміхнуўся. Ён зразумеў, што Носке ў гуморы, а гэта абяцала шчырую з ім размову.

— І прыцэльнасць будзе, гер палкоўнік,— паабяцаў артылерыйскі афіцэр.

— Калі так, прашу дзейнічаць. Хайль Гітлер!

— Хайль! — гаркнулі дружна афіцэры і пакінулі кабінет.

Палкоўнік паказаў Вільгельму на крэсла:

— Біттэ!

— Данке, гер палкоўнік. Я меркаваў, у вас — нарада, ваенны савет...

— Савет ваенны быў, закончыўся. Мы, няхай не думаюць рускія свінні, не спім, як яны кажуць, у галёшу.

— У шапку.

— Так, так, у шапку,— паправіўся Носке.— Мы цвяроза ўзважваем, ацэньваем, прыкідваем. Чулі, колькі жалеза нарыхтавана на бандытаў. Дзве тысячы тон. Іх сэрцы палопаюцца ад аднаго гулу гармат. Балота Камар-мох стане не балотам, а грандыёзнымі могілкамі. Мо-гіл-ка-мі...

— Брава, гер палкоўнік,— расцвіў Вільгельм.— У вас таленту не менш, чым у нашага фюрэра.

— Аднаго таленту мала,— з прыемнасцю прымаючы высокую ацэнку сваёй стратэгіі, працягваў палкоўнік.—

Трэба мецъ у душы наступальны дух і перадаць яго цалкам да апошняй ёты свайму войску. Палкаводзец і войска — сплаў розуму і сілы.

— Такой мудрасці, гер палкоўнік, як я добра ведаю, не гаварыў і Клаўзевіц.

— Зусім магчыма. Вучні заўсёды ідуць далей свайго настаўніка. Гэта таксама прашу ўлічыць, мой сябар Вільгельм. Я вельмі задаволены, што вы будзеце сведкай унікальнай ваеннай аперацыі. Што вы зараджаны з ног да галавы аптымізмам нашай арыйскай расы.

— Яшчэ як зараджаны! — паспяшыў пацвердзіць думку палкоўніка Вільгельм. І тут жа пацікавіўся: — Я спадзяюся, што ўчарашняя вечарынка з'явіцца своеасаблівым трамплінам да ваеннай перамогі.

— Фройляйн Аксана вяла сябе так, як быццам не я тут начальнік гарнізона, а яна.

— Не можа гэтага быць, гер палкоўнік. У такім выпадку я кіну яе ў турму. Дзёрзкая, няўдзячная дзяўчынка! — Вільгельм абурыўся і павысіў голас.

Палкоўнік запаліў на вуснах лагодную ўсмешку.

— Я пажартаваў, Вільгельм. Вядома, яна пасады начальніка гарнізона не адабрала. Але прэтэнзіі ў яе замашыстыя.

— Напрыклад?

— Яна патрабуе выпусціць на волю Фёдара Гадуна.

— Вы паабяцалі?

— О не, Вільгельм. Такія тыпы, як гэты арыштант,— сугуба твая кампетэнцыя. Яна нешта тлумачыла, што Гад... ага, Гадун. Хто ён такі, Вільгельм?

— Высветліць не ўдалося. Ён затрыманы ў час камендантскай гадзіны. Мы падазравалі, што ён адтуль, ад бандытаў. Але гэта версія, гер палкоўнік, нічым не пацверджана.

— Ну і выдатна! Давайце будзем мужчынамі і задаволім маленькі капрыз беларутэнаўкі!

— Гер палкоўнік,— кашлянуў у кулак Вільгельм.— Я гатоў прыняць вашы рэкамендацыі, але вызваленне арыштаванага патрабуе, кхм, некаторых фармальнасцей.

— Я разумею, ён сам у дадзены момант не ў форме?

— Так, гер палкоўнік. Учора вечарам мае ніжэйшыя чыны перастараліся.

— Зрабіце заключны допыт. Калі ён не адкрыецца, адпусціце і вазьміце яго пад спецыяльны нагляд. Яму ска-

жыце, хай дзякуе Аксане. Такім чынам мы зловім, як кажуць, двух зайцоў. Улагодзім беларутэначку і, сочачы за паводзінамі Гад... Гадуна, можам натрапіць на след, які дасць больш карысці, чым традыцыйны допыт.

— Вельмі разумна, гер палкоўнік,— жвава прамовіў Вільгельм, спагадліва пазіраючы ў вочы начальніку гарнізона.— І ў гэтай справе ў вас святлейшы розум. Так, сляды нам патрэбны. Расія — праклятая краіна. Столькі дала нам загадак і клопату.

— Загадкі трэба адгадваць,— сілячыся сказаць зноў нешта мудрае, прамовіў Носке.— А клопат аддаваць богу.

— Якія ў вас планы на сённяшні дзень? Можа, патрэбна вам мая дапамога?

— Планы? Хм, план ёсць. І сапраўды патрэбна дапамога. Як вы ўмееце адгадваць мае думкі і жаданні. Вы самі бачыце, гадзіннік адлічвае час да хуткай незвычайнай падзеі. Я стаміўся ад напружання, ад тлуму ваенных падрыхтаванняў.

— Вам патрэбен адпачынак.

— Падкажы мне добрую мясціну. Лона прыроды. Каб было зацішна, утульна і бяспечна.

— Навакольныя лясы, хм, як вам сказаць, тояць сякую-такую пагрозу. Я не маю права рызыкаваць вашай асобай. Але ёсць мясціна, ёсць! — усклікнуў азартна Вільгельм.— Яна ва ўсіх адносінах падыходзіць да мэты вашых жаданняў. Не мясціна, а цуд! Жамчужына!

— Нават жамчужына?

— Яна тут недалёка. Можна сказаць — пад рукою. Востраў Чорны Дуб на Буян-возеры.

— Бачыў, бачыў гэты востраў. Праўда, з берага праз бінокль.

— Астравок невялікі, але што трэба. Там можна не толькі добра адпачыць з харошай кампаньёнкай, але і наладзіць паляванне. Вы любіце паляваць на дзічыну, гер палкоўнік?

— О-о, яшчэ пытаешся? Мой бацька кожны год выязджаў у Афрыку, у джунглі. Такія прывозіў трафеі — увесь горад зайздросціў. А горад мой родны — Кёльн. Я табе аб гэтым гаварыў, здаецца. Ад бацькі і ў мяне паляўнічы сверб. Праўда, яго трохі прыглушыла вайна. Так што...

— Вось і выдатна, гер палкоўнік. Я ўжо вам арганізую. Усё будзе на вышэйшым узроўні. Люкс.

— Вільгельм, а што за дзічына на востраве? Зайцы, лісіцы?

— Калі б толькі зайцы і лісіцы — што б гэта было за паляванне. Там на востраве можна ўпаляваць і казулю. Во гэта звер! Засмажыць яе на ражне — такой стравы і бацька ваш у Афрыцы, бадай, не каштаваў. Смаката, пахуча — пальчыкі абліжаш.

— Ведаю, ведаю, Вільгельм, казуля карыстаецца попытам у нашых нямецкіх гурманаў.

— Дык як? Згодны, гер палкоўнік?

Фрыдрых Носке прайшоўся па кабінеце ўзад і ўперад. Ад яго постаці, мажнай, добра складзенай, патыхала здароўем, сілай. Ён нешта затумкаў пад нос, вясёлае, трывіяльнае. Потым вярнуўся да стала, разгарнуў палявую карту. Некалькі хвілін напружана яе вывучаў.

— І на карце ёсць гэты востраў,— прамовіў ён.— Цікава, а чаму ў яго назва Чорны Дуб?

— Тут, гер палкоўнік, існуе цэлая легенда. Але я, на жаль, яе добра не ведаю. Будзе каму расказаць вам аб ёй,— намякнуў на Аксану камендант.— Наперад скажу: легенда рамантычная.

— Звязана з каханнем?

— Так, гер палкоўнік. Бачыце, усё будзе стасавацца адно да аднаго. Дапамагаць вашаму адпачынку, упрыгожваць яго.

— Ты мяне пераканаў, Вільгельм,— зычліва ўсміхнуўся Носке.— Давай не будзем губляць час. Калі востраў, значыць, востраў! Адна ўмова: старанна яго праверыць. Каб...

— Не турбуйцеся, гер палкоўнік. Востраў бязлюдны. Вы ж ведаеце, што і на берагах возера папалены вёскі і людзі ў іх практычна адсутнічаюць. Мёртвая зона.

— Аднак праверка неабходна. Яна ўскладаецца цалкам на вас. Апрача ўсяго,— працягваў Фрыдрых Носке,— трэба зрабіць неабходныя падрыхтаванні. А якія, давай дамовімся.

...Хаця Вільгельм Цымлер стараўся ўсяляк дагадзіць палкоўніку, камандзіру карнай дывізіі, але рабіў гэта не зусім шчыра. Справа ў тым, што Вільгельм, бачачы поспехі Носке, лічыў сябе як бы абыдзеным, несправядліва забытым. Носке аж на тры гады маладзейшы, а вунь куды яго ўзнесла фартуна.

Ён з'явіўся тут і паводзіць сябе ні больш ні менш як

сам Напалеон. Усё прыбраў да сваіх рук, прытым прыбраў з адкрытай нахабнасцю — і ўладу, і ўсе яе магчымасці па кантролю над людзьмі. Вільгельм у яго руках усё роўна як тая пешка. Вось і балюча было яму гэта адчуваць.

«Няўжо нідзе не спатыкнецца Фрыдрых? — думаў неаднойчы капітан Цымлер.— Няўжо не зломіць галавы?»

Шчасліўчык! Хай на яго халера, захапіў усе лаўры. Носке браў Гомель, Бранск, удзельнічаў у акружэнні савецкіх войск пад Харкавам... І вось тут, у Беларутэніі, справы яго ідуць таксама найлепшым чынам.

Ведае Вільгельм і пра загад Носке атрымаць ад агента Крываротага галаву дзядзькі Андрэя, галоўнага партызанскага бандыта. Няўжо і такая аперацыя ўдасца Фрыдрыху? Калі глыбока разважыць, ён поўнасцю гэтай удачай прынізіць яго, Вільгельма. І, вядома, у стаўцы Гітлера можа сказаць: «Сядзеў там, каля Буян-возера, недацёпа капітан Цымлер, партызаны на яго вачах хадзілі на галаве...»

Можа сказаць, можа! Ох, гэты Носке!..

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Вядома, на ноч гледзячы Клімчук-Крывароты не рашыўся дабірацца ў партызанскую зону. Для гэтага трэба было б з добры кіламетр прайсці па зыбучым, з застаялай вадой балоце. Нават днём цяжка адшукваць тыя купіны паміж дрыгвы, якія могуць нейкую секунду трымаць чалавека, але з дапамогай якіх можна мала-памалу перасоўвацца наперад.

Ён адышоўся на ладную адлегласць ад парашута і на пагорку, які клінам упінаўся ў балота, заначаваў. Тут ён яшчэ больш старанна агледзеў «нябесны» падарунак, але распорваць мех, каб нешта ўзяць сабе, не стаў. «Могуць прычапіцца...» — папярэджваў ён сябе ад неасцярожнага кроку.

Сядзеў на гэты раз пад пірамідальнай елкай, якая абвіслымі лапінамі краналася зямлі. У чаканні сну мроілася, лезла ў галаву ўсялякая лухта. То яму раптам хацелася распароць мяшок, раз яму трапіўся ў рукі, набраць гранат і рушыць у партызанскую зону, неўпрыкмет падкрасціся да штаба партызанскага злучэння і тады... Аднак та-

рарам, які ён учыніць, нічога, вядома, не дасць. Кажуць, адзін у полі не воін. Не здолее ён у дадзеным выпадку прыхапіць з сабой галавы дзядзькі Андрэя, нават і сам ці ўратуецца.

То ўзнікала жаданне вярнуцца назад у распалажэнне войск Фрыдрыха Носке, перадаць у рукі немцам лясную знаходку. Пакуль ён будзе цягацца з мяшком, пакуль ён раскажа, дзе на яго натрапіў, пакуль пакажа месца падзеі, многа вады ўцячэ і шмат што пераменіцца. Немцы вось-вось пойдуць у наступ на партызан, і дзядзька Андрэй можа быць палонены ці забіты. Тады яго заданне акажацца не выкананым па ўважлівай прычыне, а самому яму не трэба будзе рызыкаваць. Значыць, ён выйграе, захавае сваё жыццё.

Але тут жа Крывароты адхіляў свае такія суцяшальныя мроі. Наступ немцаў... А што ён дасць? Партызаны, ён ведаў, дужа спрытныя. Могуць прайсці, прарвацца, калі не па грэблі, дык у нейкім іншым месцы, і партызанскага атамана яму не здабыць.

Такім чынам, трэба было дзякаваць богу, што той падкінуў яму мяшок, які можа саслужыць добрую службу ў выкананні задання палкоўніка. Пакуль у Крыватага не было дакладнага плана дзеяння. Ён меркаваў, што лёс у яго досыць удачлівы і што надалей ён будзе складвацца прыстойным чынам.

Наступіла цёмная асенняя ноч. Крывароты нагроб на выспе моху, зрабіў сабе пасцель і заснуў.

Прахапіўся Крывароты вельмі рана. Толькі днела. З крэктам і натугай узваліў на сябе брызентавы мех, валюхаў па балоце. Крыху нязручна было: па правым баку, начэплены на плячо, біў карабін.

Пакуль пад нагамі слалася цубкая глеба, ішлося няблага. А вось ужо і сапраўднае балота. Пад ботамі зачаўкала гразь і твань, ногі засмоктвала. Адразу адчулася стома, а на лбе і твары выступіў пот, пачасцілася дыханне. Крывароты, узбегшы на круглы з купняку астравок, вырашыў перадыхнуць, скінуў на дол мех і сам зваліўся на яго. Млявым рухам рукі садраў з галавы кубанку, стаў выціраць пот. Крывароты падумаў, ці не кінуць гэтую валынку з мехам, ён жа забярэ ў яго амаль усе сілы. Рука міжвольна пачала абмацваць туга напяты брызент: «Нясу «падмацаванне» партызанам. Каб убачыў Носке, вядома, не пахваліў бы. Ну то як падступіцца да гэтага дзядзь-

кі Андрэя? Яго ж не купіш за кукіш...» І выходзіла, што рашэнне ён прыняў правільнае, мех ні ў якім выпадку кідаць нельга.

Аддыхаўшыся і астудзіўшыся, Крывароты паклыпаў далей. Як толькі сышоў з астраўка, адчуў, што пачаўся самы небяспечны ўчастак балота. Тут ужо адных ног не хапала, і ён стаў абапірацца на карабін. Спачатку такі метад паскорыў рух. І Крывароты зарадаваўся: вось-вось ён перасягне балота.

Убачыўшы ўперадзе сцяну лазняку, Крывароты палічыў, што там будзе лепшая апора пад нагамі, і скіраваўся туды. Каля крываватай бярозкі хацеў пераскочыць дрыгвяністае «акно», запоўненае чорнай вадой і лапушыстым бабоўнікам, з разгону сігануў уперад. Яму не хапіла, відаць, спрыту, ці ён проста не прыкмеціў, што «акно» дужа шырокае, і адразу плёхнуўся ў твань. Кінуўшы і мяшок і вінтоўку, Крывароты распасцёр у бакі рукі, замалаціў імі па вадзе. Дрыгва адразу засмактала яго пад самыя пахі. Калі ён падаў, брудныя пырскі ўдарылі яму ў твар, асляпілі вочы. «Усё! — жахнуўся Крывароты, валтузячыся ў «чортавым акне».— Не ўратуюся. І як я недагледзеў? Яшчэ б крокаў пяцьдзесят, пачнецца лазняк, і там пад нагамі сапраўдная глеба». У галаве зашумела, гулка застукала ў скронях кроў. «Рыгор, не пужайся, Рыгорка, вазьмі сябе ў рукі,— загадаў сам сабе Клімчук-Крывароты.— Можа, што прыдумаеш, можа, пашанцуе. Галоўнае, трымайся!» А за што трымацца? Па баках не было аніякай апоры. Стаяла бярозка, у метрах пяці бачыліся невялічкія купінкі, але і да іх ніяк не дацягнуцца. Твань ахапіла ўжо і плечы, зацякала за каўнер, біла ў нос вострым смярдзючым пахам. Крывароты, шукаючы паратунку, стаў тузацца. Але і гэта не дапамагала. «Што рабіць? Што рабіць? — ахапіла Крываротага трывога.— Ах, гэты пракляты парашут, ах, гэты мех! І трэба ж было падгадаць і апынуцца ў тым д'ябальскім ляску. Усё так добра ішло. Хаця... Калі б не было боепрыпасаў, ён цягнуў бы мех з бульбаю. Праўда, той мех не такі цяжкі...»

Зноў перад вачыма ўзнік Носке, яго твар, яго хітрая крывадушная ўсмешка. Ён ведаў, што пасылае на смерць, ведаў і не пашкадаваў. Так ужо і абавязкова мець мёртвую галаву партызанскага атамана? Галоўнае — разбіць і паланіць яго хеўру. «А гэта ты, гер палкоўнік, павінен зрабіць сваім войскам».

Брыдка вылаяўся Крывароты. І тут жа схамянуўся. Можа, ёсць паблізу людзі? Агледзеўся. Балотная прастора ў шэра-жоўтым купняку цягнулася наўсцяж як ахапіць вокам. Ззаду і ўперадзе, пачынаючыся драбналессем, стаяў пануры цёмны гушчар.

— Гэй! Гэ-эй! — закрычаў на ўсё горла Крывароты.— Ратуйце! Людзі! Ратуйце!

Усходзіла сонца, удалечыні кудзеліліся пасмачкі туману. Над галавой Крываротага, робячы шырокі круг, праляцелі тры качкі. Яны селі непадалёк у балоце, відаць, там было прынаднае для іх азярко.

Пасля крыку Крываротага зноў апала на навакольную прастору цішыня. Ён прыслухаўся. Нідзе ніводнага абнадзейваючага гуку. Толькі чутно было, як недзе далёка паскрыпвала ды шалясцела пад ветрам схіленая над багнай крывулька бярозка.

Набраўшы поўныя лёгкія паветра, Крывароты зноў кінуў кліч аб дапамозе. Ён круціў галавой то туды, то сюды, ліхаманкава, у прадчуванні блізкай гібелі бегалі пад навіслым ілбом яго пранырлівыя вочы.

— Гэ-эй, гэ-эй! Памажыце!..— стагнала балотная далячынь.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

Ад'ютант дзядзькі Андрэя Мішка Русак атрымаў заданне аб'ехаць паўднёвы бок партызанскага вострава, праверыць, паглядзець абстаноўку, што склалася там у апошнія дні. Вядома, чакалася размова з байцамі баявых груп і падраздзяленняў. На поўдні подступаў да вострава было тры. Усе іх ахоўвалі партызаны з атрада Валодзі Калеснікава, масквіча, які апынуўся тут, на Палессі, пасля выхаду з нямецкага акружэння. Камандзір быў строгі, дзелавіты, рабіў смелыя, рызыкоўныя баявыя аперацыі. У гэтым атрадзе ваяваў і Вадзім Мікалаевіч Мурашка. За два апошнія тыдні атрад Калеснікава, ведаў Мішка, панёс прыкметныя страты. Нават камандзір быў паранены, куля сур'ёзна зачапіла плячо, і яно марудна загойвалася.

Мішку трэба было пабыць і на стаянках бежанцаў, пабачыць іх жыццё, пагаварыць, уцешыць, перадаць ім наказ дзядзькі Андрэя не дапускаць панікі, не кідацца ў

адчай, трымаць строгую дысцыпліну. І вядома — выяўляць балбатуноў, няверцаў...

Учора адбылася сустрэча з партызанскай групай, што сахоўвала дарогу на старой гаці каля Жоўтага Лаўжа. Сабраліся хлопцы каля кастра, прыціхлыя, засяроджаныя. Твары ва ўсіх спакутаваныя, худыя. Найперш Мішка запытаў, як у іх з харчам.

— А вы зазірніце ў наш кацёл,— параіў камандзір групы, вусаты дзядзька з апалымі шчокамі.

Мішка падышоў да вогнішча. У катле, што быў пачэплены на дзве тоўстыя рагаціны, булькатала і вірыла пеная страва. Ён здагадваўся, што гэта за варыва. Ад катла тхнула нядобрым пахам сапсутага мяса. Узяў драўляную, з доўгай ручкай лыжку, апусціў у кацёл. Калі крутануў ёю, убачыў, што пасудзіна поўна касцей, але яны былі голыя, без мяса.

— Падбіраеце па лесе? — спытаў Русак.

— Кожная костка на вагу золата,— адказаў вусаты партызан.— Мы іх абварваем, разбіваем малатком, дастаём сякі-такі наедак. Поліўку засыпаем крапівой. Пачакайце, мы і вас пачастуем, пабачыце...

— Я і так бачу,— Русак самотна правёў позіркам па тварах партызан, якія сядзелі паўкругам каля вогнішча,— ад яды такой жыў будзеш, а пацягнуць ног не здолееш.

— Але нічога, глядзі, усе сядзяць і пільнуюць, баяцца, каб, крый божа, кацёл не ўцёк...

— Ну, гэта ўжо няпраўда,— адказаў бледнаваты з маленькімі вочкамі юнак і скаўтнуў сліну.— Гавары, Антонавіч, ды не загаварвайся.

— Дзе ты зараз, адкажы мне, павінен быць?

— «Дзе, дзе»? У барадзе...— разгублена прамармытаў юнак.

— Во, бачыш, як пачуў варыва, не вытрымаў, з паста прыбег.

— Там жа мой напарнік Васька. Ды і адсюль бачна: на нашым участку фашысты сябе вядуць спакойна. Нават мін не кідаюць. Пазаўчора, праўда, было... Хай на іх ліха, так ужо абстрэльвалі... Адна міна мне чуць не на галаву ўпала.

— Ну і што, калі б упала,— ленаватым голасам са змірлівай абыякавасцю адказаў другі партызан у шапцы-аблавушцы і ў фуфайцы, падпяразаны шырокім салдацкім рэменем.— Упала б і адскочыла...

— Ты хіба па сабе мераеш, па сваёй галаве? — агрызнуўся юнак.

— Ну, хлопцы, зноў счапіліся? — зіркнуў на партызан старшы групы.— Хопіць. Лепш ідзіце, пахадзіце па лесе, можа, якіх маслякоў назбіраеце. У кацёл кінем, прыварак нейкі будзе.

— Назбіраем,— адказаў партызан ленаватым голасам.— Іх ужо на дасвецці з зямлі павыдзіралі.

— Грыбкі тут для людзей — цукеркі,— як бы растлумачыў старшы.— Нават порхаўкі ў ход ідуць.

— Сырымі ядуць ці адварваюць?

— Адварваюць. Я іх таксама каштаваў. Здаецца, нягеглы грыб. Але малады, беленькі, калі паварыцца, як баравік, смачны.

— Яшчэ ў нас бяда, таварыш Русак,— прамовіў старшы групы.— Солі няма шака. Учора апошнюю вытрусілі ў кацёл. А без солі...

— Антонавіч, мілы,— ласкава пазіраючы ў вочы вусатаму, адказаў Русак.— І ў начальства яе чорт мае. Але хутка, сябры, здабудзем. Галоўнае — лепш думайце пра сённяшні дзень, пра заўтрашні.

— І манка нябесная пасыплецца з неба...— укінуў сваё слова ленаваты партызан.— Засталося адно — жыць святым духам...

— Таварыш Русак,— сказаў юнак са змізарнелым белым тварам.— Нешта я не магу зразумець. Мы трапілі ў кальцо, мы гінем...

— Сядзіш каля поўнага катла і кажаш: гінем...

— Я лічу, ты проста правакатар,— зноў чапіўся да хлопца партызан у шапцы-аблавушцы.

Хлапец азадачана чмыхнуў, махнуў рукой, маўляў, адстань, і працягваў:

— Няўжо нам нельга памагчы? Няўжо пра нас Масква не ведае?

— Чаму не ведае? — ціха адказаў Русак, папраўляючы пілотку.— Туды пайшла тэлеграма.

— І ні слуху ні духу? Маўчыць?

— Дакладна не ведаю, сябры. Пра адказ нічога не чуў. А калі б і чуў,— тут жа дадаў Мішка,— не сказаў бы: ваенная тайна.

— Разумеем,— разважна прамовіў Антонавіч.— Але калі б ведалі, што, скажам, пасылаюцца самалёты з харчам і патронамі, уга, як народ падбадзёрыўся б.

— У мяне ёсць і не ваенная тайна,— пасля хвіліннага маўчання сказаў Русак.

Але байцы групы амаль ніяк не зрэагавалі на гэтыя словы.

— Пасля бітвы на Курскай дузе наступленне нашых працягваецца. Дзесяць дзён назад вызвалены Харкаў.

— Ого, ужо Харкаў! — усцешана ўсклікнуў камандзір групы.— Чуеце, хлопцы? І Масква салютавала?

— А як жа! І загад Сталіна быў. Моцна пахваліў ён і пехацінцаў, і артылерыстаў, і танкістаў. Наогул, братва, цяпер не за гарамі той дзень, калі мы падыдзем і да Берліна.

— Вельмі ты хуткі, таварыш Русак,— усміхнуўся Антонавіч, але тут жа дадаў: — Аднак і такое будзе. Толькі ці дажывём мы да таго дня?

— Дажывём, Антонавіч! — пазіраючы на Русака захапленымі вачыма, усклікнуў партызан у шапцы-аблавушцы.— Дажывём!..

Гутарка доўжылася да самай ночы. Мішка Русак рабіў аб'езд пастоў і бежанскіх стойбішчаў на кані. Калі сядзеў каля вогнішча з партызанамі, тым часам яго жарабок Байкал пасвіўся на ўзбалотку. Яго добра было бачна, як скубе траву, як матляе галавой, як, стрыножаны, пераступае нагамі. Русак заўважыў, што каля каня круціліся два падлеткі гадоў па пятнаццаць, хацелі, няйначай, украсці. Ён вымушаны быў на хвіліну пакінуць партызан і насварыцца на хлопцаў. Нават схапіў з пляча аўтамат, прыгразіў ім. Хлопцы адразу ж зніклі і з таго часу не паказваліся. Нанач Русак падвёў каня к вогнішчу, прывязаў да карча-вываратня і загадаў вартавому сачыць за ім.

За ноч нічога асаблівага не здарылася. Калі Русак расплюшчыў вочы, убачыў, што старшы групы Антонавіч закладвае ў кацёл памытыя ў вадзе сухія косці. Каля вогнішча, якое ледзь тлела вуголлем, пры камлі сасны ляжала жменька ваўнянак. «Ну вось і грыбкоў раздабылі,— задаволена падумаў Русак.— Малавата для васьмярых мужчын. Але і гэта яда...»

Пачуўшы, што прабудзіўся гаспадар, гучна храпнуў Байкал, зазвінеў вуздэчкаю. Конь за ноч прагаладаўся. Трэба было яго і напасвіць і напаіць. Перадаўшы ўсе ўказанні камандзіра партызанскага злучэння Антонавічу і яго баявым сябрам, Русак з імі хораша, па-сяброўску развітаўся і паехаў.

Раніца была лагодная, з цёплым паўднёвым ветрам. Мішка думаў аб хлопцах-партызанах, з якімі пазнаёміўся, і шкадаваў, што нічым не мог памагчы ім. «Солі няма — сур'ёзная бяда... Трэба далажыць дзядзьку Андрэю»,— разважаў амаль не ўслых Мішка.

Конь ішоў марудна, неахвотна. Мішка адчуваў, як яго наскрозь праціпае голад, як у жываце раптам усчаліся колікі, быццам білі туды нейкія нябачныя электрычныя токі. Ён курчыўся, хапаўся за луку сядла, каб не зваліцца на зямлю.

Можна было прычакаць сняданак, які гатаваў Антонавіч, але Мішка ведаў, што тое варыва яго страўнік, хоць і пусты, не прыняў бы. Міжвольна паляпаў па кішэнях, правяраючы, можа, дзе захаваўся хоць адзін сухар. Але кішэні былі пустыя. Байкал на хаду выхопліваў з-пад ног шматкі травы, гучна хрупаў зубамі.

Каня, вядома, трэба папасвіць. Русак ехаў і выглядаў добрую траву. За бярозавым гаем, які стаяў упрытык да яловага лесу, адкрыўся невялікі роўненькі, як стол, лужок. Туды і павярнуў Байкала. Конь зразумеў намер гаспадара, весела ўскінуў галаву і зычна храпнуў.

Мішка нацягнуў повад, саскочыў з каня, няспешліва стрыножыў. А сам павярнуў у чысценькі сухі беразняк, спадзеючыся сабраць грыбоў ці паласавацца заечай капустай.

Раптам да слыху Мішкі Русака данеслася: «Ра-туйце-е!» Русак хапатліва павярнуўся ў той бок, адкуль даляцеў крык. Неўзабаве крык паўтарыўся. Русак, не марудзячы, схапіў з пляча аўтамат, кінуўся бегчы да балота.

Калі пад ботамі зачвякала твань, перайшоў на крок. Голас далятаў ад сцяны лазняку, якая напалам перараззала балота. Хлопец ужо некалькі разоў увальваўся ў багну, адзін раз яго засмактала вышэй каленяў, і ён пасля гэтага стаў больш асцярожным. Людзей на балоце не відаць. Значыць, тут нейкі чалавек-адзіночка. Што з ім? Няўжо сядзіць у багне? Хто ён — бежанец, партызан?

Ад купіны да купіны клаў свой шлях Мішка Русак. Ён парадкам ужо прытаміўся, на твары выступіў пот, грудзі калаціліся ад напружанага біцця сэрца.

Запыніўся, зачапіўшыся за высахлы корч, што ляжаў на маленькім, з пажухлай травой грудку.

Голас зусім блізка. Мішка адгукнуўся і захлюпаў па твані напрасткі. У галаве шумела, у целе разлівалася

млоснасць. Хлопец адчуваў, што ў змаганні з балотам патрачана багата сіл, якія трэба было берагчы, якімі трэба ашчадна распараджацца. Але гэтыя крыкі... Ён не мог безуважна паставіцца да іх. Гінуў чалавек...

Русак, зняможана хістаючыся, падышоў да трыснягу, што рос з вады, шамацеў пад ветрам.

— А-а, бацюхны! І як цябе? — Ён бачыў толькі патыліцу чалавека і рыжую чупрыну на адкрытай галаве.

— Братка, ратуй! Братачка...— Крывароты стагнаў і душыўся вадой, якая ўжо набягала ў рот.

— Ого! І праўда, ты трапіў у нерат: ні ўзад ні ўперад,— спачувальна сказаў Русак.

Ён, асцярожна правяраючы пад нагамі грунт, пасоўваўся да небаракі. І раптам каўзануўся з купіны і па самыя пахі ўграз у багну. Добра, што купіна была моцная, а багна не дужа вязкая, ён паднатужыўся і, напінаючыся на рукі, выхапіўся напаверх.

— Братачка! Захлінаюся... Сіл няма...— маліў Крывароты хутчэйшага выбаўлення з дрыгвянога палону.

— Пачакай. Ну, пачакай крышачку. Хіба не бачыш, і я ледзь не ўліп. Фу-ты ну-ты, дугі гнуты! — Русак стаў абтрасаць з сябе смярдзючую гразюку.— Д'ябал цябе занёс сюды? За табой гналіся ці ў цябе галавы няма?

— Братачка... Братачка...

— Вось табе і «братачка»! Не прыспешвай, трэба мазгамі пакруціць, пакумекаць. Во, не прыхапіў ні кійка, ні жардзіны — адразу падняў бы цябе. З голымі рукамі стаю.

Мішка круціўся каля «чортавага акна», прыкідваў так і гэтак. Блізка падысці да чалавека не было як. Калі за жардзінай збегаць, разумеў, не паспее, чалавек тоне, захлынаецца. Твар, бач, ужо ссінелы, губы трасуцца, галава закінута ўверх, падбародак у вадзе... І рук не бачна — патанулі... Як жа яму даць рады?

Выхапіўся Мішка на грудок, дзе шамацела густым лісцем крывуля бярозка, прыкінуў ад яе адлегласць да чалавека. І адразу ўзнік план. Прыставіў да бярозы аўтамат, адперазаў са штаноў папругу.

— Пачакай трохі, ну пачакай. Фу-ты ну-ты...— Русак зашморгнуў пятлю, зробленую з папружкі, на камель бярозкі, вольны канец папружкі прывязаў да аўтамата — нешта выходзіла накшталт ланцуга. Нарэшце, ухапіўшыся за прыклад аўтамата, лёг і пачаў пасоўвацца да чала-

века. Калі цалкам выпрастаўся, ботамі дастаў да галавы тапельца.

— Хапайся рукамі! — гукнуў Русак, радуючыся, што прыдумка аказалася ўдалай. Чалавек забулькаў ротам... Аднак у той жа міг яго рукі выхапіліся з багны, і ён імі прагна ашчаперыў бот выратоўніка.

— А цяпер памаленьку паехалі,— самавіта сказаў Русак.— Фу-ты ну-ты... Надалей будзеш ведаць, як хадзіць па балоце... Пераканаўся! Ну-ну, яшчэ трохі...

Калі Крывароты падпоўз да астраўка, Мішка Русак павярнуўся, схапіў яго за плечы і выцяг з багны.

— Жывы? Трохі нахапаўся вады? Гэта нічога. Кладзіся ўніз грудзьмі, я ў момант... У мяне помпа ёсць. Фу-ты ну-ты... Дык пачалі!

Мішка ўхапіў чалавека за пояс, падсунуў пад яго жывот сваё калена і ціскануў незнаёмца некалькі разоў. З рота яго пырснула чорная вада.

— Паўбалота выпіў і, бач, малайчына, вытрымаў. А цяпер уставай. Пакажыся, хто ты ды што ты? Партызан?

Клімчук-Крывароты сядзеў на купіне, адплёўваўся, стагнаў.

— Дзе твая зброя? Што тут рабіў?

— Там,— паказаў рукой на дрыгву.— Карабін у мяне быў.

— Ага, быў ды сплыў,— адзначыў Мішка Русак.— Ну, аддыхвайся, ды пойдзем.

— Трэба дастаць,— прашаптаў Крывароты...

— Не будзем,— адразу рашуча адсёк ад'ютант.— Добра, што хоць жывы застаўся. Усё роўна не знойдзем...

— Там,— працягнуў руку Крывароты да «чортавага акна»,— мяшок.

— Фу-ты ну-ты... Хочаш, каб і я туды? Лічы, што прапалі і карабін і мяшок... А што ў мяшку? — пацікавіўся Русак.

— Патроны...

— Якія патроны?

Крывароты павярнуўся да Мішкі і, выціраючы губы ад гразі, пачаў няскладна тлумачыць, што за мех ён валок на сабе.

Доўга важдаўся з мехам Мішка Русак, ды ўсё ж неяк вывудзіў з гразюкі і выцягнуў яго на купняк.

— Фу-ты ну-ты...— уздыхнуў Мішка і задаволена па-

глядзеў на чалавека.— Маладзец. Скажу дзядзьку Андрэю, каб прадставіў цябе да ўзнагароды. З якога атрада?

— Змітрака Дукоры.

— Як завуць?

— Рыгор Клімчук.

— Гучнае прозвішча,— адзначыў Русак.— Хм-м, Клімчук... Мне здаецца, таварыш Клімчук, ты заслужыў медаль.

— А ты хто такі, што так лёгка медалямі распараджаешся?

— Хто? — ганарліва ўскінуў бялявыя бровы Мішка.— Начальства. Няўжо ні разу не бачыў?

— Ну, так ужо і начальства,— не паверыў Клімчук.

— На кані езджу. Не тое што ты пехам па зямлі смаліш. Я — Міхась Русак, ад'ютант дзядзькі Андрэя. Можаш лічыць, яго правая рука. Калі я яму што падказваю, ён, зразумей, галава, слухаецца. Так што наматай на вус: сказаў, што медаль будзе, значыць, будзе!

Крывароты паблажліва ўсміхнуўся.

— Не трэба мне ніякага медаля. Дзякую за тое, што ўратаваў. А начальству, ведама, раскажы. Хацелася б і дзядзьку Андрэя пабачыць. Як ён, не паранены, жывы-здаровы?

— Моцны ён чалавек. Крапак,— з гонарам за свайго камандзіра адказаў Русак.— А кулі яго, як кажуць, дзякуй богу, абмінаюць. Фу-ты ну-ты...— спахапіўся ад'ютант.— Доўга ж мы, аднак, з табой павалтузіліся. Сонца вунь куды падскочыла.

— Карабіна няма...— нагадаў Клімчук-Крывароты.— Непрыгожа прыйсці ў атрад без зброі.

— Бяда невялікая. Я твайму Змітраку расталкую. Ну, падстаўляй плечы,— кіўнуў ён на мех.

— Мішка, Мішка, ты што, бога не баішся? Цяпер я сам не пацягну...

За мяшок яны ўзяліся абодва і паволі паклыпалі па хлюпкім, разлезлым, як кісель, балоце. Праз нейкі момант адчулі, што ісці нязручна, атрымлівалася бязладнасць — то не патраплялі ў нагу, і мяшок замінаў ісці, то вылузваўся з рук, падаў у твань. Мішка раззлаваўся, спыніўся і ў адчаі крыкнуў:

— Ану, закінь мне на загрывак. А то вытузае ўсе нервы.

Клімчук з палёгкай уздыхнуў: «Хай нясе». Ён ішоў

следам, аддыхваўся і ўсё яшчэ адплёўваў балотную твань.

Сонца бегла праз напластаванне шэрых хмар. Узмацнялася страляніна. Ваколле будзілі ўжо не адзіночныя выстралы, а цэлыя залпы. Недзе ўбаку трашчаў лес ад мін. Здавалася, там лютавала бура.

Крываротага, вядома, гэта цешыла. Палкоўнік Фрыдрых Носке не дае паблажкі сваім салдатам. Трымае іх у напружанай гатоўнасці, рыхтуе на штурм. Цяпер войскі яго перакідваюцца ў раён грэблі, дзе партызаны мяркуюць выкаўзнуць з блакады. Ну і накрышыць, нашматуе ён іх там. І ў палон набярэ. Партызанам няма чым ваяваць, яны без боепрыпасаў. Праўда, вось мяшок з патронамі. Але гэта, калі разважыць, для цэлага злучэння кропля ў моры. Мішка радуецца... Дзівак, нічога не ведае. Не ведае, што яму і дзядзьку Андрэю засталося жыць некалькі дзён.

— Рыгор! — раптам у нейкай трывозе крыкнуў Мішка Русак.— К д'яблу твой гэты праклятьі мех. Ты глянь на край балота, на бярэзнік, каня не бачыш?

Клімчук ад нечаканага крыку аж уздрыгнуў. Яму ўявілася, што ўзнікла нейкая небяспека. Атарапелы, напружаны, ён палахліва зіміргаў вачыма. Калі ж даведаўся, што ўвесь непакой Мішкі толькі праз нейкага каня, застыг на месцы і стаў разглядаць узлессе.

— Каня не бачу,— прамовіў Клімчук.— А які ён?

— «Які, які»! — вызверыўся Русак і з месца кінуўся бегчы ў напрамку да бярозавага гаю.— Байкал...— пачуўся яго роспачна-пакутны ўздых.— Байкал!..

Клімчук некалькі хвілін пазіраў услед ад'ютанту. Вусны яго варушыліся ад усмешкі. Ён ведаў, што трывога і непакой Мішкі сур'ёзныя. Калі конь застаўся каля лесу без нагляду, справа скончылася толькі адным варыянтам: яго ўкралі.

«Вось і ў ад'ютанчыка непрыемнасць. У яго няма каня, у мяне — карабіна».

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

Толькі ў другой палавіне дня Вільгельм Цымлер прыехаў у камендатуру. Быў ён змораны, заклапочаны, але без суровасці на твары, якая вельмі палохала служачых

камендатуры. Як толькі зайшоў у свой кабінет, адразу выклікаў турэмнага наглядальніка.

— Што новага, Курт?

Каля дзвярэй стаяў рослы дзяцюк з моцнымі замашыстымі рукамі.

— Сёння раніцай, згодна з вашым загадам, у сектары зоны «А» расстраляна 147 чалавек з ліку тых, што захоплены ў лясах. Ідзе новае папаўненне. Але арыштаваных небагата, нешта дванаццаць чалавек.

— Чаму так слаба, Курт?

— Усё, гер камендант, залежыць цяпер ад салдат палкоўніка Носке. Мы мелі большыя на іх спадзяванні...

— Ты не ў курсе спраў, Курт. Палкоўнік Носке паблажлівасці не любіць. Ён паліць вёскі і разам з імі ўсіх жыхароў. Так што ён падчышчае ўсё, як мятла. А як з гэтым арыштаваным Га-ду-ном?

— Мы хацелі вывезці яго ў сектар, ён ляжаў у камеры, як труп. Але на насілках ажыў, заварушыўся, і мы вярнулі яго назад. Аднак устаць, падняцца на ногі не можа.

— Ён усё яшчэ непрытомны? — зразумеў турэмнага наглядальніка Цымлер.

— Так, гер камендант.

— Далейшыя катаванні над Гадуном спыніць,— распарадзіўся Вільгельм.— Гэтая птушка нам спатрэбіцца. Адлівайце вадой, рабіце прымочкі і пакарміце.

— Зразумеў, гер камендант.

Пасля адыходу турэмнага наглядальніка Вільгельм расклаў на стале паперы, праверыў, ці замкнуты шуфляды стала. Потым падышоў да высокага, пафарбаванага ў зялёны колер сейфа і, зрабіўшы маніпуляцыі ключамі і рукаяткамі, расчыніў яго. У верхнім аддзяленні сейфа ляжалі запасныя пісталеты і абоймы з патронамі да іх. У сярэднім — сакрэтныя паперы аб агентах гестапа, а ў ніжнім стаяла прыгожа інкруставаная шкатулка з карэльскай бярозы.

Вільгельм схіліўся і беражліва ўзяў яе ў рукі. Паставіў на стол, расчыніў. З-пад вечка пырснула яркае і вострае свячэнне дарагога каляровага металу і дыяментаў. Вось ягоны скарб, прыдбаны ў Расіі за час акупацыі. Не сказаць, каб вялікі ён, але хоціць Вільгельму, каб з асалодай правесці сваё жыццё з дарагой Грэтхен і трыма сынамі, калі скончыцца вайна.

«А можа, што-небудзь з гэтай шкатулкі даць Аксане? — раптам варухнулася думка.— Перакладчыца стараецца. Дапамагае яму. Не варта,— прыйшло адразу рашэнне.— Хай ёй дорыць бранзалеты і пярсцёнкі Фрыдрых. Ах, Фрыдрых! Мне даводзіцца, бадай, зайздросціць табе...»

Думкі пра Фрыдрыха вярнулі яго ў рэчышча жыцця сённяшняга дня. Пасля размовы з Носке ён, захапіўшы некалькі салдат, паехаў з імі ў Старасельскае лясніцтва. Там, у спецыяльнай вальеры, гадавалася некалькі казуль. Дзве казулі былі злоўлены, акуратна звязаны і пагружаны ў машыну. Гэта для Фрыдрыха Носке. Хай пакажа свой паляўнічы дар, хай запомніць, што ён быў госцем на тэрыторыі, падуладнай Вільгельму.

Прагулка на востраў, разумеў камендант, запомніцца назаўсёды. Яшчэ б! Прыстрэлены звер там будзе асвежаваны, парэзаны на кавалкі. Кухар пасмажыць з рознымі спецыямі мяса на кастры пад адкрытым небам, пад свежым ветрыкам. Смаката — і ў сне Фрыдрых такога не сасніць.

Казулі ўжо выпушчаны на волю на востраў. Як і загадана, востраў абышлі жандары і старанна яго праверылі.

Цяпер справа за Аксанай. Дзе яна, ці ведае, які яе чакае сёння баль?

— Да мяне перакладчыцу,— загадаў зычным голасам камендант дзяжурнаму жандару.

Аксана ўвайшла ў кабінет, ціхая, засяроджаная. Правяла вачыма па постаці Вільгельма, папрвіла рукой прычоску, звыклым крокам падышла да стала, села. Камендант, як заўсёды, не пытаючы дазволу, выцягнуў з пачка цыгарэту, закурыў. Хмарка сінявата́га дыму закруцілася ў яго перад тварам.

— Фройляйн Аксана,— нарэшце выцадзіў з натугай першыя словы.— Вы, вядома, мяне дакараеце, што я не вельмі ўважлівы.

— Што вы,— спахапілася дзяўчына.— Не выдумляйце, калі ласка. Вы ўважлівы і зычлівы.

— Я стараюся быць такім. Але бывае... Што ж, трэба разумець, праца, як тая дрыгва, засмоктвае. Не дае магчымасці як след падумаць аб людзях, якія цябе акружаюць. Але я з такіх, што папраўляюць свае памылкі. Сёння і заўтра вы, фройляйн, свабодныя. Варта вам адпачыць, загарэць на сонейку, абласкацца ветрыкам. Тады, з новымі сіламі, і праца пойдзе лепш.

Аксана насцярожылася. З якой такой прычыны камендант праяўляе да яе пільную ўвагу? За яго дабрачыннасцю, няцяжка было здагадацца, тоіцца нешта каверзнае.

— Тады я пайду,— падхапілася з крэсла Аксана.

— Пачакайце,— прымусіў зноў яе сесці камендант.— Яшчэ некалькі слоў і...

— То гаварыце. Я слухаю.

— Раніцай у мяне была сустрэча з Фрыдрыхам Носке. Вы ведаеце, ён высока ацаніў вас і вашы паводзіны. Ён лічыць, што нават у фатэрлянд не было ў яго такіх дасціпных кампаньёнак. Вы дагаварыліся з ім да таго, што ён ледзь не здаў сваю дывізію пад ваша, фройляйн, камандаванне.

— Вы насмешнік, гер камендант,— абарвала яго Аксана.— Ці ж можна так?

— Я падкрэсліваю вашу жаночую здольнасць, а вам як бы гэта не даспадобы.

— Так, размова з палкоўнікам была. Мы з ім гаварылі не пра яго дывізію, а пра Гадуна.

— І гэта вядома мне,— хіснуў галавой Вільгельм.

— Гер камендант, я прашу зразумець мяне...

— Разумею, усё разумею. Скажу большае: ужо дамоўлена — Гадун атрымае свабоду.

— Пакуль вы дамаўляліся, гер камендант, Гадуна ледзь не адправілі на той свет. Адпусціце яго зараз жа.

— Фройляйн Аксана, вы занадта верыце ў людзей. Не варта гэта рабіць,— падкрэсліў ён і дадаў:— Вы маладая, добра не ведаеце, як і чым жыве наш грэшны свет. Не раю так лёгка падстаўляць галаву пад удар.— Запыніўся, зацягнуўся дымком цыгарэты. А праз хвіліну працягваў:— Я даведаўся, што ў нашага паважанага Фрыдрыха Носке сёння і заўтра вольныя дні. Ён баіцца, што будзе сумаваць. Каб гэта не здарылася, я прапанаваў яму наведаць востраў на Буян-возеры, азнаёміцца з яго прыгожымі куточкамі. Прапанова прынята. Патрэбен яму гід. І я думаю, лепшага гіда, чым вы, нам не знайсці. Ну як? — ускінуў кустастыя бровы камендант.— Дарэчы, там, на месцы, будзе і вячэра. Вы дапаможаце салдату-кухару гатаваць яе. Так што вас чакае, фройляйн, прыемны, добры адпачынак. Аўфвідэрзээн,— бадзёра ўсклікнуў камендант і ласкава крануў дзяўчыну за плячо.

— Чакайце! — напорыста зірнула Аксана каменданту ў твар.— А Гадун? Ён павінен...

— Заўтра, дарагая фройляйн. Слова нямецкага афіцэра.

— Прашу, каб гэта было дакладна.

Яна яшчэ не ведала, як паставіцца да прапановы Вільгельма. Варта яе было, вядома, адхіліць. Але з гэтай прапановай, калі разважыць, звязаны лёс Фёдара Гадуна. Ён адтуль, з блакаднага раёна. Ён прынёс непасрэдна ёй важны партызанскі загад. Яна яго выканала. Паплыў Алёшка па возеры, паплыў да народных мсціўцаў. Фёдара Гадуна трэба вызваліць, чаго б гэта ні каштавала.

— Гер камендант,— прамовіла Аксана, ажывіўшыся.— Калі вы ўскладаеце на мяне такую місію...

— Вось і малайчына,— шчыра зарадаваўся Вільгельм, бліснуўшы белазубай усмешкай.— Я заўсёды быў самай высокай думкі аб вас. Аўфвідэрзэен!

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТЫ

Калі Рыгор Клімчук выбіўся з балота, ён паклаў на высокі бярозавы пень сваю ношу, каб лягчэй было пасля закінуць на плечы, і пачаў аддыхвацца. Пот заліваў твар, лёгкім не хапала паветра. І дужа хацелася есці. Вопратка закарэла і нядобра казытала цела.

Складаным і пакутлівым на гэты раз аказаўся яго шлях вяртання ў партызанскую зону. Раней, калі адлучаўся, каб сустрэцца з афіцэрамі СД, усё выходзіла ў яго проста. Ніхто ні разу не затрымаў, не здаралася прыгод.

Дзе яго напарнік? Трэба ж неяк разам дабірацца да сваіх, данесці гэты пракляты мех. Калі разважыць, усе непрыемнасці пачаліся праз яго. Каб, крый божа, яшчэ чаго не здарылася. І так выйшла затрымка на добрых паўдня. А калі яшчэ затармозіцца шлях? Развіццё падзей можа пайсці не ў патрэбным кірунку, і ён свайго задання, глядзі, не выканае. Тады Носке яго растопча.

Ні на лужку, ні на ўзлессі не бачна Мішы Русака. Будзе бегаць, як апалелы, шукаць. І дзе ён таго каня знойдзе? Дзівак...

І тут Клімчук-Крывароты зразумеў, што ў няшчасці, якое абрынулася на галаву Русака, вінаваты ён. Тапіўся, крычаў — Міша і прыбег. Забыўся нават на каня. І вось атрымалася...

Калі дыханне стала спакойным і вецер асушыў яго твар ад поту, зноў узваліў на сябе мех і марудліва паклыпаў к лесу. На цвёрдай зямлі лягчэй стала нагам, не хістала ў бакі. Дзе ж сапраўды Мішы-ад'ютанта конь, дзе сам небарака-хлопец? Калі ён патрапіў на сляды, кінецца ў пагоню. А ў час пагоні можа ўсё, што хочаш, здарыцца. Можа ўзнікнуць бойка, і справа дойдзе да страляніны. І тады малаверагодна, каб хутка вярнуўся партызан. Але пра яго, Рыгора, і пра мех ён, вядома, не забудзе. Калі не вернецца сам, падашле абавязкова кагось другога, каб боепрыпасы былі як найхутчэй дастаўлены ў штаб партызанскага злучэння.

Вось і беразняк, густы і светлы. Шумяць, шумяць верхавіны. Клімчук-Крывароты пільна аглядае гай, яго прагалінкі, куточкі. Не бачна ад'ютанта.

Раптам на сцяжынцы, што вілася між крапівы і ажыннiку, ён заўважыў кроў. Ланцужок яе бег наўскасяк к лесу. Крывароты прыпыніўся. І тут жа ўбачыў Русака. Сядзеў той на гнілой бярозавай калодзе і плакаў.

— Мішка,— крыкнуў Клімчук,— я цябе шукаў. Чаго ты?

Вызваліўшыся ад сваёй паклажы, падышоў блізка да хлопца.

— Праклятыя, што нарабілі! Духі яму спусцілі! — Клімчук выйшаў на прагаліну, прыкрытую высакаватымі елкамі. Там, на мурожнай траве, стаяла і яшчэ дымілася лужына свежай крыві. Захопнікі пасеклі каня, падабралі ўсё, нават вантробы. Каля лужыны валяліся патрушчаныя косці.

Трагедыя, што тут адбылася, мела сваё горкае вытлумачэнне. Каго судзіць, абвінавачваць? Блакада давяла людзей да голаду і вялікіх пакут. Чалавек з галадухі робіцца адчайны, не ўмее сябе кантраляваць. Клімчук бачыў, гэта было тры дні назад, як для выратавання людзей у атрадах рэквізаваліся горшыя коні. У партызанскай зоне ўжо не засталося ніводнай каровы, казы, авечкі. Нават зніклі сабакі. Вось і Мішкавага каня спасціг такі ж лёс.

Клімчук вярнуўся да свайго спадарожніка.

— Спачуваю, браце,— ціха сказаў ён.— Маглі ж яны ведаць, што конь камандзірскі. Ды і з табой не палічыліся. Толькі б натаптаць свой жывот. Па-мойму, такіх трэба да сцяны.

Русак нічога не адказваў. Плечы яго трэсліся ад ліхаманкі. Крывароты падсеў на калодзе побач, стаў бубніць нешта жорсткае, несамавітае.

— Ану, замаўчы!

Міша-ад'ютант устаў, ацёр з вачэй слёзы. Маўклівы і журботны, ён выйшаў на пакручастую сцяжыну, што бегла ў алешніку. Клімчук узваліў на плечы мех, крочыў за ім следам.

Ішлі гэтак адзін за адным у суровым маўчанні з паўгадзіны. Раптам аднекуль збоку пацягнула дымам.

— Давай завернем,— прапанаваў Клімчук.— Можа, гэта тыя зладзюгі. Балююць...

Мішка нічога не адказаў, але змяніў кірунак хады, праз хмызы і чэзлы зараснік крапівы яны пашыбавалі да старога лесу, прыкрытага невысокім яловым падростам.

Недзе звінела і бзынкала піла, пачуўся адчайны дзіцячы плач.

З-за сіне-зялёнага чуба ельніку паказаўся слуп дыму.

— Нягоднікі,— абурана выгукнуў Міша.

На роўнай паляне, акружанай старымі дрэвамі, было людна, як на нейкім кірмашы. Пад дрэвамі стаялі буды, старыя нехлямяжыя вазы, валяліся бочкі, хамуты, нейкія скрыні. Тут жа, між гэтага сялянскага рыштунку, сядзелі і блукалі жанчыны. Каля доўгай, з брызенту, буды крычалі і валтузіліся ў сваёй забаве хлапчукі. Касцёр гарэў на ўскраіне паляны, каля дубоў. Ён быў акружаны шырокім гаманкім колам людзей. Касмылі дыму над вогнішчам ірваліся ўвысь.

Міша, раз'ятраны і гнеўны, падскочыў да незнаёмых людзей. Ускінуў моцна шчэплены кулак.

— Вы абалдзелі, ці што? Хто распаліў вогнішча? Гэта ж дэмаскіроўка! Фашысты кінуць снарад, і вам капцы. Зараз жа патушыце!

— А ты хто такі? — падышоў да Мішы стары, увесь у чорным, чалавек, спытаўся спакойна, разважна.

Міша глянуў у той бок, адкуль выйшаў чалавек, і ўбачыў на шырокай дошцы, што ляжала на пні, кавалкі пасечанага мяса. Яно было свежае, пахла крывёй і вантробамі. «Вось яны, тыя, хто прыкончыў Байкала...» Позірк пабег далей. Наўкруг кастра стаялі пры агні каструлькі, чыгуны, чайнікі. А на дзвюх рагулях вісеў кацёл, пад ім звівалася полымя.

— Дык гэта вы!..— выхапіўся наверх Мішкаў гнеў. Рука міжволі каўзанула да аўтамата.

— Хто ты такі, хлопча? — зноў з вялікім спакоем спытаў стары.— Не крычы, госцем нашым будзь. Пакормім, ведаем, ты галодны. Сёння ў нас багаты дзень...

— Госцем! — зноў ярасць вырвалася з грудзей вар'яцкім крыкам. А ў думках ляцела: «Яны, яны загубілі каня. І во, балююць... І здзекуюцца — госцем!.. Пастраляць вас усіх!..»

Але думкі гэтыя і вялікую роспач, што не мясцілася ў сэрцы, захліснуў голас маладзіцы, што важдалася з дзіцем:

— Людцы добрыя, ды што з ім? Бачыце, сінее, заходзіцца. Ой, сыночак, не памірай. Ой, верабейка мой родны...

— Ад галадухі гэта, Ганулячы. Не бачыш, заводзіць жывоцік...

Міша зноў скіраваў позірк на пень і дошку, дзе ляжала мяса. Чуў, як усярэдзіне, у грудзях, нешта як бы абарвалася.

— З табой нешта здарылася, хлопча,— углядаўся ў Мішкаў твар стары чалавек.— Супакойся, пагавары з намі. І не хвалюйся. Падумаеш, дым. Мы смерці не баімся. Ты галодны?

— Ат! — роспачна-злосна махнуў рукой Міша і, крута павярнуўшыся, стаў выбірацца праз людское кола назад, на вольную паляну. Не азіраючыся, пашыбаваў да Клімчука.

Хацеў усхапіць мех сабе на плечы, але Клімчук адвёў яго руку:

— Я знайшоў насілкі. Цяпер нам будзе і зручна і добра. Дык што там? — і кіўнуў галавой у бок палаючага вогнішча і людзей.

— Трагедыя! Вось што! Галодныя як ваўкі. Не людзі, а здані. Апратка вісіць, як на калках!

— Гэта яны?..

— Хто іх ведае. Можа, яны, а можа, хто іншы. Тут жа народу — процьма...

Русак і Клімчук узвалілі мех на насілкі, клопатна паплявалі на рукі, ухапіліся за рукаяткі і рушылі ў дарогу.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ

Ад стромага берага, на якім стаяла старая пахілая вярба, адплывалі на дзвюх ёмістых лодках. Пасажыраў, калі палічыць, не так ужо і многа. На першай лодцы, у носе якой прымайстраваны чырвоны вымпел са свастыкай, размясціліся Фрыдрых Носке, Вільгельм, Аксана і лейтэнант штаба, плячысты дзяцюк з доўгай шыяй і дробным круглаватым тварам. На вёслах сядзеў пульхны мацак-салдат. Другая лодка была дапаможнай, у ёй ехалі кухар і тры салдаты з камендацкага батальёна дывізіі.

Фрыдрых Носке, раздзімаючы ноздры, глыбока ўдыхаў паветра, круціў галавой, разглядаючы наваколле. Ён радаваўся прагулцы. Яму былі даспадобы і старая вярба, што адсоўвалася, як жывая, ад лодкі, і наструнены вецярок, што ляцеў аднекуль з поўдня, нёс цеплыню і пяшчоту, і стрыманы плюхат азёрных хваль, і скрыгат вёслаў ва ўключынах.

Вільгельм разумее настрой Носке, стрымана ўсміхаецца:

— Тут будуць жыць нашы суайчыннікі, гер палкоўнік,— і абводзіць рукой возера.— Тут будуць пабудаваны пасёлкі. Каменныя, дабротныя, на наш нямецкі лад.

— О-о, канешне,— падтрымлівае думку каменданта Носке.— Мы ўсё тут перайначым, абновім, узнімем на вышыню цывілізацыі. Дадзім новыя назвы. Вось гэтае возера, як яно называецца? Фройляйн Аксана, падкажыце,— звярнуўся ён да дзяўчыны і старанна абмацаў вусікі, нібы правяраў, ці знаходзяцца яны на месцы.

— Буян-возера.

— Бачыце, нікудышная назва. Не гучыць.

— Фрыдрых-возера. Так мы яго назавём, гер палкоўнік,— выгукнуў Цымлер,— у гонар вашай перамогі над ляснымі бандамі рускіх. Каб заўсёды помнілі нашы суайчыннікі, што тут пралілася нямецкая кроў.

— Вільгельм,— нездаволена паморшчыўся Носке.— Ты, калі ласка, аб крыві нашай не гавары. Я пастараюся перамагчы партызан без ахвяр з нашага боку. Будзе ліцца кроў рускіх. За гэта давай з табой і маліцца.

— Вядома, вядома, кроў рускіх...— у збянтэжанасці згадзіўся Вільгельм і стаў пільна аглядаць азёрную прастору.

Аксана слухала размову двух чужынцаў і ледзь стрым-

лівалася, каб не запярэчыць, не запратэставаць: «Ваша возера... Ваша назва... А скулы ў бок не хочаце!»

Думкі віравалі, ляцелі разгоніста, шырока, як вада за кармой. Былі яны, аднак, не вельмі вясёлыя. Аксана ўвесь час адчувала неспакой і трывожнасць за Алёшу Гадуна, думала, гадала, дзе ён цяпер, што з ім. На вялікую рызыку пасланы хлопец. Ці данясе ён пасланне партызанам? На якіх ён цяпер дарогах, куды імчаць яго ногі?

Шлях цераз возера, к партызанам, вядома, кароткі і найбольш зручны. Хлопец паплыў, відаць, калі моцна звечарэла. Змрок яго маскіраваў, ахоўваў. Раніца наступнага дня, помніць Аксана, была, нібы па заказу,— з туманам, густым, пад самае неба. Праўда, праз колькі часу ўсхадзіўся вецер, і неба раптоўна адкрылася. Хацела яна тады прыбегчы к возеру. Але гэты Вільгельм...

Магчыма, што возера хлопцу ўдалося пераплысці без прыгод і цяжкасцей. Але колькі іх магло сустрэцца пры высадцы на бераг. Сэрца Аксаны тугімі штуршкамі калаціла ў грудзі. «Хай бы ўсё добра было. Хай бы шчасліва пасламіся перад хлопцам спежкі-дарожкі. Дзядзька Андрэй,— звярнулася тут жа ў думках дзяўчына.— Ваш загад выкананы. Вы не памыліліся, калі звярнуліся... Я чакала гэтага часу. Я вас не ведаю. Мы з вамі, відаць, ніколі не бачыліся, не сустракаліся. Ці не Рубіс, сакратар райкома, падаў думку? Дзе ён цяпер? Калі з вамі, дзядзька Андрэй, я бясконца рада. Іван Іванавіч, мы сустрэнемся. Мы абавязаны сустрэцца...» І перад вачыма дзяўчыны ўзнік малюнак таго дня, калі яна развітвалася з Рубісам, калі дамаўляліся аб падпольнай рабоце. Рубісаў пароль...

Крыкі чаек перапынілі бурны паток Аксаніных думак. Імкліва-шустрыя птушкі, як белыя маланкі, насіліся над разлегласцямі возера.

У лодцы маўчалі. Лупаты салдат натужна заграбаў вёсламі, і лодка досыць лёгка ляцела наўскасок набягаючым хвалям.

Носке пазіраў з-пад высокай, абкладзенай залатымі пазументамі фуражкі на паўночны бераг. Там, над балотам Камар-мох, калыхаліся дымныя слупы. Там, пад небам, спляліся ланцугі хмар і нагадвалі сабой блакаднае кальцо.

Палкоўніку даспадобы была такая сімволіка. Хутка ўсё будзе скончана. Хутка ён дасць у Берлін тэлеграму. Вядома, на імя самога фюрэра. Як яе пачаць, гэтую важ-

нейшую аператыўную дэпешу, якімі словамі? «Дарагі фюрэр!..» Не, гэта будзе занадта эмацыянальна. Трэба суровым дзелавым стылем, без таннай афектацыі. Ну, напрыклад: «Мой фюрэр!» Добра, прымальна! — узрадаваўся трапнаму павароту думкі Носке і скупа ўсміхнуўся.

— Гер палкоўнік,— раптам адгукнуўся Вільгельм, аддана, з захапленнем пазіраючы ў твар Носке.— З намі цудоўны гід фройляйн Аксана. Нешта яна задумалася, маўчыць. Дадзім ёй слова. Хай яна нам раскажа,— камендант запнуўся, зажмякаў тоўстымі губамі, як бы падбіраў патрэбнае слова.— Ну хаця б...

— Я вам раскажу пра наша возера,— узяла ў свае рукі ініцыятыву дзяўчына.— Вы маеце намер, як я чула, яго перайменаваць? «Фрыдрых-возера», вядома, гучыць. Але не трэба, мне здаецца, забываць на гісторыю. Яе рукой во на гэтых хвалях пісалася легенда.

— Легенды я люблю слухаць,— паважна зазначыў Носке, любуючыся дзяўчыніным разрумяненым тварам.— Але толькі цікавыя. Папярэджваю.

— Я думаю, спаць вам не захочацца.

Аксана не марудзіла. Устрасянуўшы капой густых валасоў, з якімі зухавата забаўляўся вецер, пачала расказ. Вочы яе былі скіраваны паверх паноў ваенных некуды ў выцвілы ад сонца блакіт.

— З сівой даўніны прыйшло гэта паданне. Тады пры возеры, як і цяпер, стаялі Міткавічы. Праўда, паселішча было невялікім, складалася з некалькіх вуліц. Там, на Тугары, у канцы мястэчка, адкуль бяжыць дарога на Тураў, зараз стаіць гмах школы-дзесяцігодкі. Стаіць якраз на тым месцы, дзе ў прыгожым, з раскошнай, у антычным стылі каланадай маёнтку жыў памешчык Стэфанеўскі. Жыў, як кажуць, на шырокую нагу: валодаў усімі людзьмі з навакольных вёсак і амаль усімі тутэйшымі палямі-разлогамі. А нораў быў у пана, не прывядзі божа, звярыны. Чалавека забіць, закатаваць яму было як плюнуць...

І вось у аднаго беднага чалавека, якому нешта доўгі час бог не даваў дзяцей, нарадзіўся хлопчык. Нарадзіўся проста ў полі, пад капой жыта. Як узрадаваўся чалавек, што нарэшце і яму, бедалазе, пашанцавала.

Жонка закруціла немаўлятка ў світку, якую прыхапіла з сабой на палетак, папрасіла мужа завезці яе дадому. Чалавеку не хацелася гэта рабіць, быццам адчуваў, што можа здарыцца бяда. Але такая радасць! То ён і паслу-

хаўся жонкі. Пасадзіў яе на воз і вязе. Сонца ў небе паліць, аж звініць паветра. Духмень — хочацца зняць сарочку. Чалавек заглянуў хлопчыку ў тварык, бачыць, вочкі, як зорачкі, свецяцца, тварык чысты і румяны, як ранішняе сонейка.

Яшчэ больш зарадаваўся чалавек. Песню зацягнуў, пяе ціхенька і хораша. Не пачуў ён, як яго дагнала панская тройка. «Ах, пся крэў! Песні пяеш, з поля ўцёк — радасна! Я табе пакажу радасць, быдла гэткае!» І, нічога не распытаўшы, не ўведаўшы, як пачаў біць мужыка і яго жонку бізуном па галаве, па спіне, па вачах, што тыя ў крыві пачалі захлынацца. Ледзьве дабраліся да вёскі, вылезлі з воза-калымагі, беражна ўзялі ў рукі сына і панеслі ў хату. І толькі пераступілі парог, бразнуліся на дол і спусцілі духі, памерлі.

Ды сынок застаўся жывы-здаровы. Уратавалі яго бацькі ад бізуна пана. Заплакаў хлопчык, адчуўшы, што застаўся адзін. Людзі хацелі забраць, прытуліць сіраціну. Але і тут умяшаўся пан. Выдаў строгі загад: не чапаць. Думаў пан, што хлопчык зачахне, загіне. А ён жыве сабе ды жыве. Да яго забягалі кабеты, а то і дзеці, прыносілі ці малачка, ці хлебца. Есць сіроцінка на ўвесь раток, усміхаецца. І так пачаў расці, як той грыбок у лесе, не па днях, а па хвілінах.

Калі яму споўніўся гадок, браў хлопчык вядро, ішоў да калодзежа, прыносіў вады. А ў тры гады Ян — такое імя яму далі — пачаў дужацца з хлопцамі-юнакамі. І не было такога выпадку, каб ён быў унізе. Дзівіліся людзі: от жа сіла ў сіроцінкі, прэ цераз верх. І празвалі Буянам.

Але хлопец не злосны быў па натуры. Наадварот, добры-добры, ласкавы-ласкавы. А ўсмешка амаль ніколі не сыходзіла з яго губ. У шэсць гадоў ён ужо быў ладны дзяціна: вузлаваты, як корч, а ростам перасягнуў самага высокага мужчыну ў вёсцы. Пачалі заглядацца на яго дзяўчаты. І ён вачыма водзіць, выглядае сабе каханую. І прыглянулася яму Настачка. Прыгажуня была пісаная: і стан роўненькі, як у таполькі, і вочкі — спелыя сліўкі, і тварык, як наліўны сонцам яблычак. Прачуў пан, што Ян хіліцца да яе, казаком ходзіць. Не па нутру стала іх любоў-каханне. Якраз у пана памерла жонка. Загадаў ён прывесці Насту ў маёнтак. «Так і так, кажа, выходзь за мяне замуж — азалачу. Пасаджу ў палаты, будзе табе не жыццё, а царствіе нябеснае».

«Не хачу,— адказала дзяўчына,— царства нябеснага. Мне любы Ян, і я не прамяняю яго ні на якое золата».

Адпусціў пан дзяўчыну, а сам задумаўся, як звесці са свету Яна. Разумеў: не проста гэта будзе: хлопец хітры, зваротлівы. І дужы як леў. Не мінула і тыдня, як да пана прыйшоў сам Ян.

«Можа, ты і супраць, пан-валадар,— сказаў смела Ян,— ды я жанюся на Настулі».— «Ты жэнішся на гаротнай, беднай? Не мог нагледзець багацейшай?» — «Не мог,— сказаў цвёрда Ян.— З Настуляй мы ўсё парашылі».— «Ну, глядзі, каб потым не каяўся,— папярэдзіў пан. І тут жа дадаў: — Але слова апошняе за мной і я табе яго скажу».— «Што за слова, пан-валадар?» — «У мяне тры ўмовы. Выканаеш іх, асіліш — жаніся на здароўе, не пярэчу. Дык слухай, першая ўмова такая: на сваім коніку ты павінен пераскочыць мой палац. Падрыхтуйся. Даю тэрмін — тры дні».

Як пачуў гэта Ян, моцна засумаваў. Пераскочыць палац на яго худым і нягеглым коніку, што стаяў у канюшні і ніколі не нюхаў аўса? Задачка з задачак.

Вярнуўся хлопец дамоў, вывеў коніка на двор, сеў на яго, а той ледзь стаіць на нагах. «Ах, конік, любы, падводзіш ты мяне»,— гаротна ўздыхнуў Ян.

Балюча стала ў хлопца на сэрцы і цёмна ў душы, як у асеннюю ноч. І раптам конік варухнуўся пад Янам, заржаў. А потым зусім па-чалавечы кажа: «Адпусці мяне ў лес, Яначка». І больш ні слова. Хлопец спачатку не паверыў, думаў, усё гэта прымроілася. Але злез з каня — усё роўна, якая з яго карысць. Рашыў так: хай ідзе, куды хоча — у лес, у балота, на край самога свету.

Конік махнуў галавой у знак падзякі і пабег проста ў лес. А Ян вярнуўся ў хату, сеў пры акне, ад роспачы цёмны, як хмара. Сумуе, праклінае пана і сваю сіроцкую долю.

Дзень сядзіць, два, думае, аж галава трашчыць, як зрабіць, каб пан не ўзяў над ім верх. Лягчэй яму было раскідаць палац рукамі, чым яго пераскочыць. На трэці дзень ён выйшаў на двор, стаў аглядаць неба і здзівіўся, якое яно чыстае ды высокае. А праз акно яно яму бачылася ў хмарах, па ім бліскалі, насіліся маланкі.

І зараз у чыстым небе раптоўная жыганула маланка. Не паспеў хлопец здзівіцца такому цуду, як затузалася

зямля, зазвінела струной. Бачыць: стаіць перад ім ягоны конік. З зорачкай на лбе, з белымі панчошкамі на нагах. Але які лоўкі, які чысценькі, з пышнай залатой грывай. Усміхнуўся радасна Ян, павесялеў.

А каля панскага маёнтка тым часам сабралася людзей-людзей, як мурашак. Усім хацелася пабачыць спаборніцтва сілы і хітрасці, уведаць, як вырашыцца доля прыгажуні Настачкі.

Ян Буян сеў на каня, прыскакаў да панскага маёнтка, спыніўся і, зняўшы з галавы шапку, пакланіўся людзям. Конь аж танцуе пад хлопцам, стрыжэ вушамі, прымерваецца вокам да палаца. «Людцы добрыя, то глядзіце, сведкамі будзьце. Мне пан, чулі вы, задачку задаў. Цяжкая яна, але я паспрабую яе асіліць».

Разагнаў хлопец свайго коніка, даў шпорамі пад бакі. Той як узаўецца стралой, як паляціць над зямлёй, аж загуло паветра. Але каля самай сцяны палаца, стоп! — запыніўся. Няўдача! Малаваты разгон, ці што?

Вярнуў Ян коніка на ранейшае месца, пагладзіў рукой яго па шыі, зазірнуў яму ў вочы. Ну яшчэ раз! Грукнуў-стукнуў капытамі конь, аж палац захістаўся. І зноў — асечка. Не набраў патрэбнай вышыні конь, не пераляцеў палаца, абмінуў яго. Пан стаіць на ганку, усміхаецца. Задаволены. Бачыць, не па Янавых жылах ягоная фокус-задача.

Ян развярнуў свайго каня, правёў рукою па яго баках, нагнуўся, пацалаваў залатую грыву. І слова шапнуў загаднае: «Не падвядзі мяне, чуеш?» Грукнуў-стукнуў капытамі конь, аж іскры пасыпаліся. Бачаць людзі — вунь дзе ён ужо, у паветры! Як птушка імкне. Усё вышэй і вышэй. Грыва дыбком у каня стала, праменямі сонца аплецена. Раз — і конь ужо над дахам палаца, нават нагамі не зачапіўся. У наступны момант ён быў на зямлі.

— О-о-о! — з палёгкай уздыхнулі людзі. А пан ледзь не разрываецца ад злосці. Але не паказвае сваіх пачуццяў, думае: наперадзе яшчэ дзве задачкі. Не можа таго быць, каб Яна абмінула бяда. Пападаецца-такі ў нерат: ні ўзад ні ўперад.

— Слухайце, людзі,— сказаў пан, і вочы яго заблішчэлі ярка і прагна, як у каршуна-драпежніка.— Другая задачка даецца яму. Вырашыць яе — маладзец, не вырашыць — няхай забудзецца навек на Настулю.

Слухае Ян словы пана, напружыўся, як цеціва лука,

просіць долю, каб і на гэты раз была добрай, зычлівай да яго.

«А другая задачка такая,— кажа пан.— Зямля божая на ўсё багата. Знайдзі мне крыніцу не простую, з ледзяной чыстай вадзіцай, а такую, з якой б'е, шугае агонь у неба. Чулі, людзі, што я сказаў?» — «Чулі»,— адказаў адным голасам натоўп.

Ян даў каню шпоры і памчаўся па шырокім шляху ад ненавіснага панскага маёнтка. Пад'ехаў да роднай хаты, злез з каня, а ў хату не пайшоў. Вялікі смутак агарнуў яго. Нідзе ніколі не чуў, каб крыніца была з агню. Сеў ён на вялізны прыдарожны камень, думае невясёлую думу. Але што доўга думаць! Настачка яго чакае, у народзе гамана пайшла: кепскія ў Яна справы. Другой, мабыць, задачкі то ён і не развяжа. Хто не хацеў бы памагчы беднаму хлопцу. Пачула пра Янаву бяду адна жанчына-чараўніца. Прыйшла да яго і кажа: дай, хлопча, пагадаю, можа, дапамагу, здыму з твайго сэрца сум-камень. Павярнуўся Ян да жанчыны. Бачыць, вочы ў яе чорныя, як вір. Устрапянуўся, як абуджаная птушка, працягнуў чараўніцы руку. Яна доўга ўзіралася ў мазольную бугрыстую далонь, вывучала трэшчынкі-маршчынкі, потым далікатна паклала на далонь люстэрка. «Туман бачу, туман. Во ён расплываецца, як дым. Лес, вялізны стары лес... І рэчка паміж дрэвамі. І скала вялізная, як сцяна. І хатка на курыных ножках. А за хаткай — даліна. А ў даліне сядзіць мядзведзь на камені, падгарнуў пчалінаю калоду пад жывот, мёд выдзірае. Ах, усё не тое...— кажа чараўніца.— Разгарніся, зямля, разыдзіся ў бакі, пакажы мне той агонь-дзіва, які сам гарыць, б'е ў неба полымем».

— Няма, сынок, агню, няма полымя,— нарэшце ўздыхнула журботна жанчына з вачыма чорнымі і глыбокімі, як вір. І толькі яна гэта сказала, як заскача люстэрка на далоні хлопца, замігціць бліскаўкамі-агнямі. «Ага, нешта ёсць,— узрадавалася чараўніца.— Зноў туман, зноў нейкая рэчка, лес. І во крыніца: б'е серабрыстымі струменямі, шугае слупом вадзяным угору».

«Трэба, каб агнём біла»,— самотна ўздыхае хлопец.

«Чакай, сынку, не спяшайся, мілы,— лагодна гаворыць чараўніца.— Мы праверым, можа, гэта не вада. Можа, гэта толькі здаецца. Ападзі, пелена, адкрый мне тайну-загадку... Ага, я так і ведала: во правал у зямлі, во сцежка

ў пекла. І агонь... Бунтуе агонь-крыніца. Ты не бачыш, сынку?»

«Не, не бачу»,— кажа Ян, з любасцю пазіраючы ў вочы чараўніцы. «І не ўбачыш. Табе гэта не дазволена. Агонь-крыніцу ты знойдзеш. Ісці трэба да яе трое сутак, па тры вярсты ў дзень, па трох дарогах. Першая вядзе на поўдзень да ракі, другая — на ўсход, да Чорнага балота, а трэцяя — на захад, да ўладанняў трохгаловага змея. Страшны і злы змей вартуе той агонь-крыніцу. Усюды табе, сынок, будзе спагадаць доля. А вось са змеем давядзецца дужацца-біцца. Калі асіліш яго, перад табой з'явіцца мосцік. Бяжы да яго, перайдзі раку і там — дзіва-агонь, дзіва-крыніца. Вось і ўсё, сынок! Не журыся, не хвалюйся, не спяшайся». Як толькі сказала яна гэта, узвіхрыўся каля каменя пыл, закруціўся слупом, трапіла ў яго жанчына і — шусь! — прапала.

Падхапіўся Ян на ногі, агледзеўся. Нідзе — нікога. У вёсцы ціха, бы на могілках. А конь стаіць каля хлопца, нецярпліва перабірае нагамі, бразгае сярэбранай вуздэчкай. «Ну, конік, нам пара,— сказаў Ян.— Паехалі да кузні, адкую я там шаблю вострую, замашыстую, каб яна ўзяла, як маланка». Не паспеў Ян да кузні пад'ехаць, як выходзіць з яе дужы дзед, у руках шаблю трымае.

«Бяры,— кажа,— тры дні каваў, у трох водах гартаваў, не зломіцца, не сагнецца. А заказ я атрымаў, не дзівіся, не пытайся, ад жанчыны-падарожніцы.— Ну, з богам».

Узяў Ян у рукі шаблю, а яна ўся гарачая, дыхае жарам, глянуў на лязо, а яно, як люстэрка: усё бачна ў ім — і дарога, і неба, і дзе якая птушка ляціць.

Падзякаваў хлопец кавалю, паехаў. Едзе так, як і наказала жанчына-чараўніца. На трэція суткі быў ён ужо ва ўладаннях трохгаловага змея. Убачыў яго на скале, што стаяла-высілася над ракой. Завязаўся вузлом, ляжыць сыты і вочы заплюшчыў: спіць. «Ну, конік, не падвядзі мяне»,— шапнуў Ян свайму скакуну і падняў яго на дыбкі. Конь напяўся, як спружына, хвост паставіў трубою, ды як скокне!

Не паспеў змей ачомацца, як адна галава зляцела на дол. Прачнуўся ад болю змей ды як зараве, заматляе хвастом. Захадзіў хадуном лес ад стогну-крыку, пачаў валіцца, як ад буры. А Ян ведаў, што так будзе. Глядзіць на шаблю вострую, чакае, калі яна стане гарачай і бязлітас-

най для бойкі. Заскакалі агеньчыкі блакітныя па яе лязу,— паспела шабля, пара! Разагнаў хлопец коніка і на скалу, на змея! А змей хітры-хітры. Устаў, падхапіўся на хвост, галаву задзёр у неба, каб Ян не дастаў яе. Але конь ведаў, што трэба вышыня Яну, каб яму лягчэй было бой весці з лютай пачварынай. Ляціць як птушка. Ужо вышэй лесу. Во ззаду рака. Во блізка скала.

Ян як размахнецца, як секане — другая галава змея і пакацілася ў раку. А апошнюю галаву ўжо было няцяжка дастаць. За трэцім разам-скачком змей рухнуў на скалу мёртвы, бездапаможны, у крыві.

Усё адбылося, як гаварыла-гадала жанчына-чараўніца. Ад скалы да скалы перакаціўся мосцік. Хлопец пайшоў па ім, не выпускаючы з рук шаблі. Следам за Янам ішоў яго верны друг — конік. Адразу за мосцікам, за скалой усхапілася, узвілося ўгору полымя. Яно скакала і гуло над адтулінай, што вяла некуды ў глыбіню зямлі. Абышоў Ян з усіх бакоў крыніцу-агонь, потым падаўся ў лес, злавіў зайца, абсмаліў, пасадзіў на ражон, засмажыў. Абед быў у хлопца царскі. Абед у гонар перамогі над трохгаловым змеем, у гонар знаходкі дзіва-агню.

У гэты ж дзень хлопец вярнуўся дамоў. Прыйшоў да панскага маёнтка. А каля яго, бачыць, сядзіць Настуля, гаруе-плача. «Ты чаго?» — пытаецца хлопец і горача абдымае за плечы. «Як чаго? Думала, прапаў, ні следу, ні чуткі аб сабе не пакінуўшы. Цяпер нікуды цябе не пушчу, нікуды,— ускінулася яму на грудзі і пачала лашчыць яго ды цалаваць. «Ах, ластаўка мая нябесная,— сказаў хлопец.— Добра, каб так было, як ты кажаш. Але гэты злыдзень-пан. Што ён яшчэ прыдумае-загадае. Ты пачакай, я пайду, скажу яму, дзе крыніца-агонь. Хай едзе са сваёй хеўрай, правярае. Дарогі туды толькі тры дні і тры ночы.

Паехаў пан, знайшоў агонь-крыніцу. Праверыў, ці не д'яблавы гэта штучкі. Прыпаліў ад яго факел, едзе назад, раззлаваны, разгневаны. Не выходзіць нешта, каб на яго шанцавала руку. Усё Яну, каб яго пярун забіў. Бачыць пан, давядзецца яму, як кажуць, застацца з носам. І толькі так падумаў, тузануўся, як уджалены гадзюкай, шпурнуў факел у цемру, у лясныя нетры, прышпорыў каня і хутчэй да маёнтка.

Сабраў людзей на плошчу перад маёнткам і пытаецца: «Тут Ян Буян?»

«Тут!» — адгукнуўся хлопец. «То цяпер, кажа пан,

зусім табе, хлопец, недалёка да Настулі. Рукой падаць. Два разы табе выходзіла ўдача-падмога. А зараз паспадзявайся сам на сябе. Едзем усе зараз на востраў, на наша возера. Там табе падмога — рукі ды ногі. Каня не будзе, шаблі таксама. А задачка будзе прасцей простай. Але скажу яе там, на востраве.

Пагрузіліся ўсе на чаўны, на плыты, а пан сеў на багатую лодку, узняў парус і паплыў першы. Людзі — за ім. І Настуля з народам плыве, на асобным чоўне. Пан загадаў, каб дзяўчына апранулася так, каб за вясельны стол магла сесці, мілага дружка абняць. Плыве Настуля на чоўне, вяслом ваду падграбае. Глядзіць, а з вясла не вада скатваецца, а кроў. Заплакала дзяўчына, загаласіла: «Яначка ж ты мой, ясны свет, уцякай ад пана, будзе табе кепска». Але куды ты ўцячэш? Ды перад людзьмі, перад народам? Ніхто не пахваліць за гэта. Скажуць: «Палахлівец!» Чаму быць — таго не мінаваць. «Нічога, Настуленька, не плач, не хвалюйся. Я цябе люблю. А любоў усё на свеце пераможа».

Высадзіліся людзі на востраў. А там усё ўжо гатова. На востраве, куды ні глянь, бочкі панастаўлены з півам і віном. Сталы засцелены прыгожа. А на сталах — ежы markedly розна й, вочы разбягаюцца. «Тут будзе пір, тут будзе і мір! — кажа злыдзень-пан і ў вус свой рыжы ўсміхаецца.— Палюбілася,— далей гаворыць ён,— нашаму Яну задачкі мае разгадваць. То няхай яму будзе і трэцяя, апошняя задачка. Во на беразе, кажа, дуб стаіць. Звычайны дуб, моцны, векавы. Бачыце, людзі?»

«Бачым!» — адгукнуўся натоўп, і магутнае рэха палящела па лесе. Калі яно апала, аціхла, злыдзень-пан павярнуўся да Янкі і кажа: «Я ведаю, ты закаханы ў Настулю. Будзе яна твая, будзе. Але ты спярша гэты дубок вырві з карэннем і кінь у возера. То як, бярэшся за задачку? Ці адмаўляешся ад Настулі. Адмаўляешся раз і назаўсёды?» «Бяруся!» — адказаў горда і мужна хлопец і проста пакрочыў да велікана дуба. Стаў да яго плячыма. І каб ямчэй было ўзяцца за працу, гайдукі прыкруцілі хлопца да дуба ланцугом, туга, як толькі можна. Глядзіць Ян на шырокае возера, на мілую сваю Настулю. Бачаць людзі, ён для пачатку, як бы прымерваючыся, варухнуў дужымі двухсажнёвымі плячыма. І тады ж, о матка боская, увесь востраў рэзка хіснуўся ў адзін бок, потым — у другі. Людзі не ўтрымаліся на нагах, пападалі. Пакаціліся боч-

кі, сталі плюхацца ў возера. Сталы перакуліліся, паламаліся. Грукат, стукат наўкол, нібы землетрасенне пачалося.

У наступны момант набраў духу хлопец на ўсе грудзі ды як тузане асілка-дуба! Жалуды пасыпаліся на дол, як град. Зарыпелі ў зямлі вузлаватыя карані дрэва. Стогнам застагнаў увесь лес. Падбегла Настуля, пачала прасіць-плакаць: «Яначка, мілы Яначка! Звядзеш ты сябе са свету. Хіба не бачыш, што дуб закалдаваны?»

«Не звяду-у-у»,— адказаў хлопец і яшчэ мацней напяў, натужыў шырокія плечы. Яшчэ мацней зарыпеў дуб, закалаціўся, бы ў ліхаманцы. Вось-вось, здавалася, рухне ён на зямлю. Але, бачаць людзі, стаіць дуб, не хоча паддацца асілку-хлопцу. А Ян яшчэ раз натужыўся, ды так, што жылы на шыі і руках выпнуліся, як вяроўкі, во-во, глядзі, не вытрымаюць, лопнуць. Трашчыць дуб ад камля да верхавіны, не хоча саступіць сіле чалавека. А Ян тужыцца ўсё мацней і мацней. І ўбачылі людзі дзіва,— спярша нават не паверылі вачам. А дзіва сталася незвычайнае: чым больш натужваўся хлопец, тым мацней ён прыліпаў да дуба, як бы ўціскаўся яму ў сярэдзіну, у яго кару, у ствол. І ўжо, чулася, рыпелі не галіны і карэнні дрэва, а жылы і косці Янкі.

Як убачылі людзі такую праяву, закрычалі, загукалі ў тысячу галасоў: «Яначка! Ян! То куды ж ты ад нас, ад сваёй Настулі?» А постаць Яна ўжо ўся ўвайшла ў дрэвіну. З вачэй хлопца пырснулі слёзы. І ў той жа міг згінула на ім апратка, засвяцілася цела яркім чырвоным агнём... Некалькі хвілін тузаўся дуб, дрыготка, нервова, нібы паміраў. Кінуліся ўсе да магутнага дрэва, закрычалі ў адчаі і скрусе: «Яначка, Ян!..»

Але ўжо нічога не было. Чырвань у сярэдзіне дрэва згасла, замянілася чорнай суцэльнай плямай — абпалінай. І ўся гэта пляма нагадвала абрысы постаці чалавека. Постаці магутнага Яна, які быў магутны ў каханні і ў барацьбе.

Аксана замаўчала, сцяўшы прыгожыя пухлыя губы. Расказала легенду-казку і сама ўсхвалявалася. Яна шкадавала хлопца-прыгонніка, як свайго даўняга знаёмага. Якая адданасць пачуццю кахання, якая вернасць свайму сумленню!..

Паны маўчалі. Маўчалі зацята і горда. Мужнасць Яна, праяўленая ім так самаахвярна і горача, відавочна ім не

падабалася. У легендзе няцяжка было адчуць і пэўную сімволіку, якая скіроўвалася на сучасны дзень.

— Вось вам і Буян-возера,— уздыхнула, як бы заключаючы свой расказ, Аксана.— Яно было сведкам суровай трагедыі... І гэта трагедыя, на жаль, працягваецца,— дадала дзяўчына.

— Фройляйн Аксана,— зірнуў нядобра на перакладчыцу камендант.— Навошта так трагічна? Пра возера будзе складзена новая легенда. І, я мяркую,— гэта пацвердзіць гер палкоўнік,— яна не будзе такой сумнай і жаласлівай, як расказалі вы. Буян-возера — назва нядобрая,— адмяняецца! Фрыдрых-возера! У гэтай назве гром нашай непераможнай зброі.

Лодка мякка ўразалася ў хвалі, зыбалася, ляцела наперад. Востраў быў непадалёку. Выразна відneўся Чорны дуб. Ён стаяў як бы наросхрыст ветру, напаказ людскім вачам.

Аксана нахінулася над бортам лодкі, апусціла руку ў ваду. Вадзяныя струмені прыемна казыталі пальцы, далонь, астуджвалі іх. Фрыдрых Носке, каб запоўніць непрыемную паўзу, узяў з-пад ног зачэхленую паляўнічую стрэльбу, пакруціў яе ў руках.

— Гер палкоўнік будзе паляваць,— сказала Аксана, каб крыху разрадзіць напружаную абстаноўку.

— Буду ваяваць за сваю Настулю,— з лагоднасцю ўсміхнуўся палкоўнік і напорыста зірнуў Аксане ў вочы.

Ён паклаў ружжо на дно лодкі, павярнуўся к востраву. Хвалі тут паменшалі, і лодку не вельмі хістала. Хтосьці быў на беразе вострава, сустракаў гасцей. Аксана прыгледзелася: то былі салдаты. Яны стаялі насупраць дуба без пілотак, з закасанымі рукавамі.

«І тут ужо гаспадараць акупанты,— з болем падумала Аксана.— Хаця б яны не спілавалі гэты дуб!»

Вецер налятаў з поўдня, сухі і цёплы. Возера свяцілася як люстра, дыхала сінімі грудзьмі, спявала бунтоўную песню.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ

Адчаліўшы ад берага, Вадзім Мікалаевіч яшчэ не зразумеў, якіх сіл і намаганняў яму будзе каштаваць дарога па возеры. Адразу выявілася вялікая нязручнасць пла-

вання. Блізка каля краю плыта стаяць было нельга, ён ад цяжару апускаўся ў ваду і гразіў перакуліцца. Даводзілася рэзка схіляцца ўбок, ураўнаважваць яго.

Вадзім Мікалаевіч працаваў вяслом энергічна, напорна, увесь час прыспяшаючы сябе. А думкай быў там, у мястэчку, перабіраў у памяці людзей, якіх ведаў, якія засталіся жыць побач з ворагамі. Нехта ж ёсць такі, што блізка бывае каля гітлераўцаў, а магчыма, і каля буйных ваенных чыноў, калі вывуджана такая тайна. Вядома, Клімчук з'яўляецца да сваіх гаспадароў-акупантаў не адкрыта, нейк маскіруецца, магчыма, ужывае грым... Вадзім Мікалаевіч нямала чытаў пра такі метад пераўвасаблення.

Рыгор Клімчук... Ён чуў такое прозвішча. Ведаў, што нейкі Клімчук працаваў у паравым млыне. Праўда, у млыне яму, Вадзіму, ні разу не давялося быць. Ён у думках маляваў вобраз гэтага вылюдка-здрадніка. Перад вачыма ўзнік з маленькімі пранырлівымі вочкамі чалавечак. Фантазія тут жа дамалявала партрэт: дадала да яго спіны горб. Настаўніку мроілася і іншая карціна: як гарбун стаіць перад Фрыдрыхам Носке, палкоўнікам. Стаіць, ліслiва ўсміхаецца, кланяецца, нават падае палкоўніку ў ногі, цалуе яго наглянцаваныя боты.

«Цьфу!» — плюнуў ад агіды Вадзім Мікалаевіч, і думка адразу змяніла кірунак. Нечакана ўзнік вобраз Аксаны. Уяўленне намалявала яе такой, якой яна была ў жыцці і якую ён палюбіў — статную, лёгкую, як лань, з даверлівымі вачыма. «Вось хто можа ведаць некаторыя тайны гітлераўцаў. Яна ж амаль кожны дзень сустракаецца і з Вільгельмам Цымлерам і з Фрыдрыхам Носке. Яна, відаць, бачыла Клімчука, і неаднойчы. Але, на жаль, не падала вестку аб здрадніку... Гэта зрабіў нехта іншы!»

Возера ўначы здаецца бязмежным, паблісквае то водбліскам далёкіх ракет, то сполахамі патухаючай вячэрняй зары. Вясло выцінае з вадзяных струменяў тонкі звон. Начная цішыня напружаная і падманлівая, нават тут, сярод возера, усё можа раптам перамяніцца, пайсці іншым кірункам. Думкі мітусяцца, скачуць. Сэрца ў трывожным непакоі. Вадзім кідае позірк на пакінуты востраў. У цемені начы ён ужо нават не ўгадваецца. Там Ціток, Алачка і каза... Як там дзеці ўладкаваліся нанач? Ці не страшна ім?

А грабці вяслом становіцца ўсё цяжэй. Толькі што ён схіліўся над плытом больш як трэба, і ледзь не ссунуўся

з яго. Ногі трымцяць, падкошваюцца. А яшчэ трэба плыць і плыць. Не адну гадзіну. Вадзім робіць невялікія перапынкі, потым зноў бярэцца за вясло. Плюскоча вада, скачуць, зыбаюцца адлюстраваныя на возеры зоркі.

Цяжкі шлях, далёкі шлях. Трэба хутчэй, хутчэй!..

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ СЁМЫ

Ноч без Вадзіма Мікалаевіча прайшла спакойна. Алачка нават ні разу не прачнулася, ціха сапла пад хлапечым цёплым бокам. Цітох заснуў не адразу. Баяўся хлопец, што плыток заўважаць фашысты і тады Вадзіму Мікалаевічу ніколі не ўратавацца. Усё паўторыцца так, як з невядомым смельчаком, што кіраваўся да партызан.

Цітох ляжаў, прыслухоўваўся да зыкаў ночы. Быў наструнены, насцярожаны, гатовы адразу, калі што якое, падхапіцца на ногі.

Мінаў час, плыла паволі над зямлёй ноч, а стрэлаў не чулася. Значыць, плыток пакуль не заўважаны. Значыць, важная дэпеша пераадольвае трывожныя кіламетры адлегласці.

Мог, вядома, Вадзім Мікалаевіч паслаць з дэпешай і яго, Цітка. Ён пры любых выпадках даставіў бы яе на месца, у рукі самога дзядзькі Андрэя. Нават калі б яго збілі з плыта, нічога. Ырнуў бы і, як шчупак, сігануў убок. Хай страляюць ворагі. У вадзе, у хвалях, можна схавацца ад куль.

Але не выйшла, як хацелася хлопцу.

Стрымана шуміць за будай лес. Сяды-тады недзе парыпваюць галіны. Дае аб сабе знаць каза, шоргаючы дзягай. Цітох не намераны бегаць па лесе, шукаць казу, каб надаіць малака.

На востраве яны ўтраіх. Цітох, можна сказаць, гаспадар усяго вострава, ну і камандзір над Алачкай і над казой. «Камандзір,— шэпча хлопец і гулліва ўсміхаецца.— Пацеха, дый годзе! Вось каб яму далі пад камандзірства партызан, прытым чалавек дваццаць — трыццаць, была б іншая справа. Пастроіў бы партызан у шарэнгу: «Смірна!» Потым зычна, на ўсе грудзі: «За мной шагам марш!» І пакрочыў бы з вінтоўкай, выкінутай уперад: трымайся, люты вораг, бачыш, якая ідзе сіла, аж зямля гудзе».

У такіх мроях-развагах бегла ноч. Не заўважыў хлопец, як заснуў. Прачнуўся ад штуршка Алачкі. Яна ўжо была на нагах. Стаіць каля яго, у доўгай сукенцы, блізкая і родная.

— Дода! — прапела тоненькім птушыным галаскам. А потым, убачыўшы, што ён абудзіўся, варухнуўся, запатрабавала: — Дай, дай!

— Так адразу! Ты пачакай, Алачка, пачакай!

Хлопцу не хацелася ўставаць, ён нават траха злаваўся, што перарваны ягоны сон. З добрую хвіліну Ціток змагаўся з вяласцю, якая нешта марудна пакідала яго істоту. Потым прымусіў сябе ўстрапянуцца, сеў.

Адразу прыйшло да свядомасці: ты ж камандзір!.. Адначасова падумалася пра Вадзіма Мікалаевіча. Ноч прайшла. Дзе ён цяпер? Ці ўдалося яму дабрацца да берага? Можа, хвалі шкуматаюць яго плыток, і ён, небарака, апынуўся на шырокім водным прасцягу пад пільным позіркам ворагаў.

Зараз жа — к берагу! Паглядзець, ацаніць, што за абстаноўка.

Вылезшы з буды, убачыў сонца — яно ваўсю разгулялася ў небе, зіхацела, біла ў вочы наструненымі промнямі. Ціток падхапіў на рукі дзіця.

— Алачка, мілая! Пабяжым!

Хлопец шыбаваў дзе крокам, дзе трушком к Чорнаму дубу напрамкі праз кустоўе і высокія перапляценні травы. Лес быў набрынялы церпкімі асеннімі пахамі. Трава шчала пад нагамі ламачча. Гулка і ўпарта недзе біў у дрэвіну дзяцел. Тут, на востраве, усё было ранейшае, як бы даўно абжытае.

Вось і дуб, мажны расахач. Вось і сцежка, што віецца к пясчанаму жоўтаму берагу. Ціток ссадзіў з рук Алачку, павёў за сабой. Возера аж пенілася ад крутабокіх хваляў. Першым неспакойным позіркам, як толькі з-за кустоў адкрылася прастора, Ціток каўзануў па далёкім паўночным беразе. Стаяў, углядаўся доўга, зацята. Спачатку падалося, як бы на вадзе ўдалечыні матлянулася нейкая чорная кропка. Але яна тут жа прапала. Гэта ўсцешыла хлопца. Плыток нават пры такіх хвалях быў бы, вядома, прыкметны здалёку. Значыць...

Не паспеў парадавацца хлопец за свайго старэйшага таварыша, як галава міжвольна павярнулася ў бок Міткавіч. І тут спалох працяў яго з галавы да пят, быццам

удар электрычнага току. ЦітоК прысеў, вылупіў вочы, не разумеючы, што здарылася. Па возеры плыла лодка, у якой было некалькі пасажыраў. Яна шыбавала акурат да вострава. Не з поўначы шыбавала, а з усходу. «Нейкія людзі? Ці не салдаты-фашысты? Няхай бы рыбаловы!» — як бы просячы некага, падумаў хлопец. І тут жа задам-задам, валочачы за сабой Алачку, адступіўся за кусты хвойніку. Лодка рухалася хвацка, пераадольваючы гарбы хваль.

Хлопец прыкінуў, колькі часу спатрэбіцца, каб лодка прыстала да берага. Выходзіла, менш паўгадзіны. За гэты кароткі момант трэба шмат што зрабіць. Галоўнае, напаіць малачком дзяўчынку. Каб яна не плакала. Потым прыхавацца ў бяспечнай мясцінцы і адтуль паназіраць, што за госці набліжаюцца сюды.

Цітоk ухапіў Алачку пад пахі і хуценька пабег. Каза сустрэла хлопца вясёлымі вачыма, яна трымала ў роце галінку ягадніку і размерана хрумстала яе. «Як мала часу. Мала!» — трывога не на жарты ахапіла хлопца. Давялося неадкладна пераглядзець свой ранейшы план. У буданчыку, хоць ён і замаскіраваны, заставацца нельга. Можа быць праверка вострава. Тады... Хіба вярнуцца на плывун, убіцца ў чарот, там, дзе ён непралазны, прытаіцца, перачакаць бяду! І казу, вядома, туды вясці трэба. Там ён яе падоіць і пакорміць Алачку.

Каб не губляць часу, Цітоk улез у буду, падабраў Алаччыну дзяружку, схапіў бляшаначку, якая служыла за конаўку, выбраўся назад, акінуў вачыма наваколле. Ніякіх больш-менш значных прыкмет, якія б выдавалі нядаўняе знаходжанне тут чалавека, не заставалася. Цяжка было развітацца з будай, якую так старанна і зухавата будаваў Цітоk з Вадзімам Мікалаевічам. Але што зробіш?

Перасяленне было няспешным. Як бы разумеючы, што яе вядуць у кепскае, непрыдатнае месца, каза натурылася, упіралася.

— Маўчы, Цёця! — умольным голасам папрасіў Цітоk.— Не выдай нас фашыстам. Якая ты нехарошая! Во, бачыш, Алачка як прыціхла. Яна разумее, яна бачыла фашыстаў, ненавідзіць іх. Яны страшныя-страшныя...

Але што з таго, што так гаварыў Цітоk. Каза не хацела пакідаць абжытага месца, дзе шмат сакавітай з дзятлавінай траўкі, дзе растуць саладкаватыя дубчыкі вербалозу. Вось і тузаліся Цітоk і каза. А час бег, пагроза набліжа-

лася. Нарэшце не вытрымаў Ціток, зазлаваў і дзягай хлабыснуў казу па спіне.

Каза спярша спынілася, глянула Цітку ў вочы, нібы выказваючы крыўду. Але тут жа матлянула куртатым хвосцікам, задзёрла галаву ўгору і пайшла. Вядома, Ціток саступаў ёй лепшую дарогу — то сцежачку, то прагалінку. Востраў прайшлі хутка. З лесу ўбіліся ў альховыя густыя кусты, за імі быў ужо бераг.

Хоць вецер змяніўся, дзьмуў з поўдня, але плывун знаходзіўся на ранейшым месцы. Струнка стаялі тонюсенькія драцінкі чароту, бразгацелі, пазвоньвалі шурпатымі доўгімі лісткамі. Нечым родным і знаёмым дыхнула ў твар ад чароту. Дзіва што. Чаротавы гай, можна сказаць, выратоўнік і Цітка і Вадзіма Мікалаевіча. І зараз, у цяжкую часіну, Ціток палічыў найлепшым варыянтам вярнуцца сюды. Па-першае, плывун адгароджаны ад вострава невялікай палоскай вады, па-другое, заграснікі чароту тут такія густыя, што ў іх і чорт нагу зломіць. Значыць, калі на востраў патрапяць фашысты, наўрад ці палезуць яны сюды. «Чакай! — спахапіўся хлопец.— Фашысты... Можа, яны спецыяльна плывуць, каб захапіць яго і Алачку. Ім усё вядома... Не, не! — адразу рашуча адхіліў сваю думку Ціток.— Я не маю права так пагана думаць, кідаць на блізкага чалавека злосны цень».

Хлопец агледзеў спуск да берага, выбраў травяністую сцяжыну да водмелі. Як кажуць: абачлівасць перш за ўсё.

Пераправа на плывун заняла некалькі хвілін. Ціток ішоў напрасткі, на сцяну чароту, нёс на руках дзяўчынку і цягнуў за сабой казу. Вось і купы густога вербалозу. Тут зацішна і ўтульна. Тут Ціток рашыў запыніцца.

Хлопец ссадзіў з рук Алачку. Калі шкрабнула бляшаначка — яна вывалілася з дзяружкі,— дзяўчынка настойліва запатрабавала: «Дай, дай!» Так, сняданак, нават пры такіх складаных абставінах, нельга адмяняць.

Ціток прывязаў казу да вярбы, стаў наўколенцы і пачаў яе даіць. Алачка стаяла побач, шмакала засмяглымі вуснамі. За хвіліну бляшаначка стала поўнай. З якой асалодай піла Алачка пахучы цёплы сырадой. Перадыхнула дзяўчынка, глянула і як бы здзівілася: дзе знікла малачко? «Дай, дай!» — зноў папрасіла яна.

— Пакуль хопіць, малютка. Пасля дам. Многа-многа,— паабяцаў хлопец і, каб заспакоіць дзяўчынку, пацалаваў яе ў шчочку, потым сунуў у яе рукі ссохлую рака-

вінку, што валялася пад карчом.— Гуляй, я хутка вярнуся. І не плач. Бач, козачка не плача...

Хлопец спяшаўся. Ён павінен абавязкова прысутнічаць пры высадцы незнаёмых людзей на востраў. Уведаць, што ім тут трэба. І хто яны — рыбаловы ці фашысты?

Хлопец адчуваў, што запазняецца. Пабег. Вядома, праз кусты, непадалёк ад берагавой лініі вострава. Паўзверх асінак і алешынак бачыцца неаглядная шыраня возера. Лодкі пакуль не відно. А вось і яна, чорная, з узнятым кверху носам. На лодцы чатыры чалавекі і...— Ціток не мог паверыць вачам — дзве сабакі! Вунь тырчаць іх галовы, варушацца. І не рыбаловы гэта — немцы! Ціток запыніўся, яму пераняло дыханне. «Усё! — нядобра ёкнула сэрца.— Папаўся. Нікуды не ўцячэш. Сабакі разарвуць на шматкі і яго, і Алачку». Слёзы закруціліся на вачах, хлопца адолела слабасць, і ён захістаўся, ледзь не ўпаў.

Праз туманную павалоку слёз бачыў, як лодка хвацка прыстала к берагу, як з яе пачалі выходзіць. Чатыры фашысты, чатыры акупанты. Яны былі пры аўтаматах, у палявой вайсковай форме. У аднаго з фашыстаў, што быў у плашчы і фуражцы, вісеў на грудзях бінокль. Ён спакваля падняў яго, прыставіў да вачэй і стаў углядацца ў Міткавічы.

Два салдаты ўзбеглі на бугор, паглыбіліся ў прылесак і хутка вярнуліся. Стаялі ўсёй групай на беразе, каля лодкі, махалі рукамі, на ўвесь голас рагаталі.

«Чаго прыехалі? Чаго? — трывожная думка апякла сэрца.— І сабакі... Навошта яны тут? Можа, вярнуцца на плывун і хуценька навязаць з чароту снапкоў, зрабіць сякі-такі плыт і пасцрабавацы ратавацца?».

Хлопец ужо быў гатоў адгукнуцца на гэтую думку, але нешта яго стрымала. «Фашысты спакойныя. Нічым як бы не ўстрывожаны». Гэта Ціткова назіранне было сапраўдным адкрыццём. Ого, каб у іх было заданне злавіць і яго і Алачку, то хіба яны былі б такія бясклопатныя, хіба разгульвалі б па беразе?

Для чаго ж тады сабакі? І нешта яны ляжаць у лодцы, толькі галовамі матляюць, пакручваюць. Дзіўна! Страх крыху рассеяўся, апаў, і Ціток больш уважна стаў прыглядацца да дэсанта. Салдаты стаялі кучкай, той, што быў з біноклем, аказаўся афіцэрам. Ён рэзка ўзмахнуў рукой, нешта шпарка загаварыў. Два салдаты падышлі да

лодкі, ухапілі на рукі сабак, панеслі да берага. Ціток глядзеў на ўсе вочы. Пераносяць? Што яны, бязногія, гэтыя сабакі?

Тым часам салдаты ўзышлі на прылесны ўзгорак, паклалі сабак на зямлю. Тыя як затузаюцца, заб'юцца ў адчаі... Аго, звязаны ногі!

Усё стала ясна і зразумела праз нейкую хвіліну. На пагорку раптам вызваленыя ад путаў падхапіліся дзве цыбатыя, з доўгімі шыямі казулі ды як рынуцца ў гушчарнік — толькі іх бачылі.

Ціток-небарака аж уздыхнуў ад палёгкі. Цяпер ён здагадаўся пра мэту фашысцкага дэсанта. Немцы выпусцілі на волю лясных казуль. Тут намечана паляванне. «Што ж, няхай,— пагадзіўся хлопец.— Галоўнае, каб вы, паганцы, не ўведалі, што мы тут з Алачкай».

Ціток ацёр з твару пот. Разумеў: патлівасць ад нервовай узбуджанасці, ад напружання. Гэта ж так перапалохалі... Ціток апусціўся ў дол, лёг на зямлю і праз акенца, утворанае кустамі алешніку, працягваў назіранне.

Фашысты, ускінуўшы на плечы мяшкі з нечым цяжкім, скіраваліся да Чорнага дуба, а потым прапалі ў лесе. Праз паўгадзіны яны вярнуліся. Зноў нешта ўзялі з лодкі і панеслі ў глыб вострава. Праз нейкі момант адтуль пачуліся ўдары сякеры. Хлопцу, вядома, закарцела пабачыць, што там робяць фашысты. Ён кінуў назіраць за лодкай і афіцэрам, што быў з біноклем, і ціхенька пакінуў узбярэжжа.

Праз некалькі хвілін ён быў непадалёку ад тых трох фашыстаў, якія гаспадарылі на востраве.

Калі сонца паказала ў небе час поўдня, фашысты зноў сабраліся на бераг.

Хлопец стаяў, не варухнуўшыся, у прыбярэжных кустах, не спускаючы позірку з іх.

Прыкладна праз паўгадзіны на возеры з'явіліся яшчэ дзве лодкі. Яны ішлі сюды ж, да вострава. «Новы дэсант! Вось гэта дзянёчак!» Страху ў душы не было. Была толькі трывога і чорная несуцешлівасць. Не мінула і гадзіны часу, як лодкі прысталі к берагу ў затоцы каля Чорнага дуба. І тут Ціток убачыў таго чалавека, дзеля якога была арганізавана ўся працэдура.

Тыя ж тры салдаты і афіцэр, што шпацыраваў з біноклем па востраве і старанна аглядаў мясцовасць, селі ў старую з уключынамі лодку і адчалілі ад берага.

* * *

— Ну вось вам і востраў,— сказаў Вільгельм, выскокваючы з лодкі першым. Боты ступілі на вільготны жаўтлява-буры пясок, з мноствам ракавін і каменьчыкаў, прыгожа адшліфаваных хвалямі. Фрыдрых рашыў выкарыстаць момант, каб спадабацца Аксане, рассеяць нязвыклую напружанасць, што ўсталяваліся ў іх кампаніі пасля Аксанінай легенды пра востраў. Як толькі дзяўчына ўстала з лавачкі, ён падхапіў яе на рукі і проста па вадзе панёс на бераг.

— Гер палкоўнік! Я сама!

— А навошта галантныя кавалеры,— паважна, з гонарам адказаў Носке і паставіў дзяўчыну на сухі дол.— Вайна, фройляйн, не шкодзіць добрым манерам.

Падплыла і другая лодка.

Каля лодак пачалі завіхацца салдаты, выгружаць на бераг дарожны прыпас. Ён быў досыць значны — складаўся са скрынак, пакетаў, дбала ўвязаных мяхоў. Два шустрыя хударлявыя салдаты пачапілі на шыю аўтаматы і пачалі клыпаць па беразе. Адзін з немцаў, з чырвоным тварам і нязграбнай постаццю, зброі не меў. У скрынцы, якую ён нёс на бераг, бразгацеў набор сталовых нажоў.

Вільгельм адразу павёў палкоўніка і Аксану да славутай рэліквіі вострава. За драбнатой кустоў і асобных дрэў, што ўтварылі ўзлессе, стаяў Чорны дуб.

— Ну вось і цар-велікан,— Вільгельм паказаў рукой на дрэва.— Мне здаецца, ён стварае эфект.

— Так, так,— працягнуў шапялява Фрыдрых і крута задзёр галаву ўверх.— Без верхавіны, а жыве. Мецінаабпаліна...— і падышоў да дрэва бліжэй.— Няўжо гэта постаць?

— Хіба не бачыце, гер палкоўнік,— у гутарку ўключылася Аксана.— Во галава, тулава, ногі.

— Нешта ёсць,— хмыкнуў Носке.— Але ж і прыдумаюць людзі... А наогул цікавая мясціна.

— Чуеце, жалуды падаюць? — сказала Аксана і прыслухалася. Жалуды зрываліся, стукалі па галінах, лісцях, як бы выбіваючы мовай тэлеграфа нейкае паведамленне. Уверсе зашумеў вецер, і на дол, тарабанячы, сыпануў сапраўдны жалудовы град.

— Бачыце, як цікава. У нашай фатэрлянд, на жаль, такой музыкі не пачуеш.— Вільгельм быў задаволены, што на Фрыдрыха робіць пэўнае ўражанне арганізаваная ім прагулка.— Пойдзем далей.

За Чорным дубам сцяной стаяла чарналессе. Тут уперамежку раслі сосны, бярозы і вязы, клёны і елкі. Раслі не густа, але месца ўсё роўна не хапала. Уверсе кроны ўтваралі амаль суцэльныя шаты. Паміж дрэў каля Чорнага дуба пачыналася прасека-дарога, густа засыпаная лістотай, іглiцай. Яна выглядала своеасаблівым тунелем. Вільгельм, Фрыдрых і Аксана рушылі па гэтым тунелі. Неўзабаве яны выйшлі на паляну, шырокую, амаль круглую, з некалькімі пнямі пасярэдзіне. Паляна, відаць, была прыцягальнай мясцінай для наведвальнікаў гэтага вострава. Тут раскладваліся вогнішчы, рабіліся начлегі.

— Бачыце, усё падрыхтавана,— Вільгельм прыпыніўся і, як гаспадар, шырокім жэстам запрашаў уперад гасцей. Дзяўчына, убачыўшы дзве палаткі, што стаялі па супрацьлеглых баках паляны, жахнулася. Выходзіць, тут задуманы начлег. Вось куды заманілі яе фашысты! Нядобра бліснулі яе вочы, сэрца працяў пякучы халадок. Хацела ўзлавацца. Але не дала волі пачуццям, прытушыла іх. «Трэба трымацца. Гэта ж не людзі... Паспрабуй толькі ўцвяліць...»

— Ваша палатка, гер палкоўнік, вось гэта,— шчыраваў Вільгельм.— Хочаце заглянуць?

— Хай яе вартасць ацэніць у першую чаргу фройляйн Аксана. О-о! А гэта што? — павярнуўся Носке раптам управа, да гаю з маладых бярозак.

Паміж дзвюма соснамі, кроны якіх былі высока ў небе, віднеліся арэлі.

— Пасля палявання і смачнага абеду, гер палкоўнік, не блага... Быць бліжэй да бога. Кхе-кхе!..

— Раскошна,— толькі і змог вымавіць Фрыдрых Носке, разглядаючы арэлі.

Аксане было брыдка назіраць, як Вільгельм шчыруе перад палкоўнікам. Яна глядзела ў неба і прасіла, каб зараз жа яго заслалі хмары, каб наляцела бура, змяла з гэтай паляны і ненавісныя палаткі, і арэлі, і праклятых ворагаў.

Але неба, як назло, ззяла пяшчотай блакіту і белымі воблачкамі.

Трывожны настрой не пакідаў дзяўчыну. Пастка!

Няўжо няма магчымасці з яе выбрацца? Эх, каб ведалі партызаны, што палкоўнік выехаў на востраў.

Партызаны!.. Яна, Аксана, таксама, калі разважыць, далучылася да іх. Далучылася шчыра, аддана і паслала ім важную дэпешу... Паслала, не вагаючыся, узяўшы на сябе вялікую рызыку і адказнасць.

Алёшка там, у партызан... А чаму не? Ён хлопец спрытны, кемлівы. Колькі разоў Аксана заўважала, як Алёшка ў школе ці проста на пагулянцы з сябрамі праяўляў цвёрдасць натуры. Ён не баяўся ўступаць у спрэчку, вядома, за праўду, нават з больш старэйшымі хлопцамі. Не раз праз гэта яму добра пападала, але сваіх прынцыпаў і характару свайго ён не мяняў.

Партызаны вырвуцца з бяды, выйдуць на волю, на прастор, можа, сёння, а можа, заўтра. З імі разам вырвецца і Вадзім Мікалаевіч, горды, але родны чалавек. Ён лічыць сябе пакрыўджаным. Эх, каб уведаў, што адбылося апошнім часам. Яны сустрэнуцца, яна аб усім-усім раскажа. Не можа таго быць, каб Вадзім яе не зразумеў. А было б проста дзіўосна, каб ён здагадаўся, што яна знаходзіцца зараз тут, на востраве. Але як ён можа здагадацца, хто яму аб гэтым падкажа?

Што ні кажы, а трапіла яна ў становішча незайздроснае. Тут спадзявацца трэба толькі на сябе. Трэба пайсці на рызыку. Паспрабаваць, скажам, авалодаць пісталетам палкоўніка, забіць яго і ўцячы.

Як уцячы, куды? Тут, вядома, на востраве, не схаваешся: салдаты знойдуць. Калі ж не салдаты, дык прывядуць сабак, і лічы, песенька твая спета. Але ж каля берага стаіць лодка. Чакай, тут ёсць нейкі сэнс... Калі і сапраўды рызыкнуць? Захопнікі хочуць зрабіць з яе ляльку. Падрыхтавалі спектакль. Але наперадзе — фінал. Ён будзе залежаць, хай ведаюць паны-афіцэры, толькі ад яе, толькі ад яе!

На змену разгубленасці і засмучэнню паступова да Аксаны вярталася надзея. Няхай! Яна павінна ўвайсці яшчэ ў больш давер да паноў-афіцэраў, іграць зададзеную ёй ролю, быць мілай, разважлівай, сардэчнай і добрай. Але толькі да зручнага моманту...

Між тым агляд паляны працягваўся. Другая палатка была такая ж па велічыні, як і першая. Яна прызначалася для прыслугі палкоўніка — афіцэра і салдат. Пасярод паляны ляжалі нарыхтаваныя дровы для кастра, убіты ў

зямлю расахатыя калы, на якія было прызначана вешаць над полымем чаны і каструлі. Непадалёк ад будучага кастра стаяў столік, збіты на хуткую руку з чыстых абгабляваных дошак. Замест табурэтаў падрыхтаваны дубовыя кругляшы. Адзін з іх прыкметна вылучаўся — быў шырокі, як сапраўдны царскі трон, ён, вядома, прызначаўся для палкоўніка. Было бачна, што Вільгельм стварыў тут такую шыкоўную абстаноўку не на адзін раз, не на адно наведванне.

— Брава, Вільгельм! — шчыра пахваліў каменданта Носке.— Я больш чым задаволены. А як вы, фройляйн? — звярнуўся ён да Аксаны і неўпрыкмет крануўся яе пляча.

— А мне што? Галоўнае, каб вы, гер палкоўнік... Каб вы належным чынам ацанілі нашу да вас павагу.

— Бачу, бачу, павага ёсць. Усё зроблена як трэба, усё прадугледжана. Востраў спакойны, прыгожы. Дуб надта цікавы, і лес, і паляны...

— Галоўнае — няма партызан,— дадала Аксана і неўпрыкмет усміхнулася.

— Там, дзе ступіла нага Фрыдрыха Носке, іх і духу не павінна быць! — сказаў горда, з вялікай пераканальнасцю палкоўнік.

— А раптам яны сюды патрапяць, прабяруцца?

— Як патрапяць? Хіба толькі на крылах? Але для гэтага ім перш за ўсё трэба выцягнуць ногі з балота, прарваць блакаду, напоўніць нечым жывот. Так, так, ім трэба наесціся. Бо для палёту, фройляйн, неабходна сіла...

— Я цалкам задаволена тлумачэннем пана палкоўніка,— прамовіла Аксана.— І буду адчуваць сябе тут спакойна.

— Няўжо вы ў нечым сумняваліся? — пацікавіўся Носке і стрымана дадаў: — Вы павінны былі пераканацца, фройляйн, што ваш патрон Фрыдрых слоў на вецер не кідае. Я дзейнічаю, як Юлій Цэзар.

— Прыйшоў, убачыў, перамог! — падхапіла перакладчыца.

— Толькі так! — горда адрэзаў палкоўнік.— Інакш я не быў бы на самым лепшым рахунку ў нашага фюрэра. Інакш...

— Хайль Гітлер! — гаркнуў Вільгельм для большай пераканальнасці сказанага Фрыдрыхам Носке.

— Хайль! — ускінуў угору руку палкоўнік.

— А цяпер, гер палкоўнік,— Вільгельм паважна схі-

ліўся перад Носке і Аксанай,— дазвольце пажадаць вам прыемнага адпачынку. Місію сваю лічу закончанай.

— Так, вам трэба на свой пост, на службу.

На паляну ўсёй групай прыйшлі афіцэр і салдаты. Яны трымаліся стрымана, імкнуліся не шумець. Тупалі каля будучага вогнішча, раскладалі скрынкі, распакоўвалі пакеты, нечага раз за разам заглядвалі ў палатку.

Пасля развітання з Вільгельмам, які сеў у лодку з ад'ютантам і адчаліў ад берага, Фрыдрых Носке пачаў падрыхтоўку да палявання. Вядома, варта было б пакінуць каменданта тут у якасці назіральніка. Хай пабачыў бы ён, на што варты яго, Фрыдрыха, паляўнічы талент. Але нельга было забываць, што на тэрыторыі гарнізона існуе напружаная ваенная абстаноўка. Трэба, каб там было нядрэмнае вока, каб не адбылося чаго нядобрага і прыкрага. Вільгельм, як пераканаўся палкоўнік, неблагі службіст. Яму можна даверыць, з яго можна потым і спытаць. Крыху пазней яны абавязкова ўжо разам правядуць паляванне, паспаборнічаюць на трапны выстрал.

Неўзабаве ад'ютант-афіцэр узяў з гурбы прывезеных рэчаў пакунак у картоннай скрынцы і паважна падышоў да Фрыдрыха Носке.

— Гер палкоўнік,— сказаў ён павольна, нараспеў,— паляўнічы касцюм.

— Данке! — Носке са скрынкай накіраваўся ў палатку.

Ад'ютант-афіцэр застаўся з Аксанай, загаварыў з ёю. Адзначыў, між іншым, што пагода найлепшым чынам спрыяе сённяшняй прагулцы, выказаў сваё захапленне маляўнічасцю тутэйшых мясцін. Потым яны наблізіліся к лесу, сталі каля цыбатай рабіны, што расла пры паляне, любаваліся яе асеннім убраннем. Афіцэр нават не ведаў, што гэта за дрэва, як называецца. Аксана растлумачыла, прапанавала пакаштаваць з яго ягаду... Не спадабалася ягада афіцэру. Зморшчыўся, стаў пляваць.

У гэты момант з палаткі выйшаў палкоўнік. Яго цяжка было пазнаць. Шэры, спартыўнай формы касцюм шчыльна аблягаў яго каржакаватую постаць. Замест пояса на фрэнчы — патранташ. На нагах не боты, а чаравікі на тоўстай гумовай падэшве. На галаве фасону альпійскіх горцаў жоўтая кепка з доўгім казырком. Закончаны малюнак заядлага паляўнічага дапаўняла ружжо, па-заліхвацку начэпленае на плячо. Палкоўнік запыніўся, акінуў наваколле ястрабіным позіркам.

— Я гатовы! — выгукнуў ён, падкрэсліваючы ўрачыстасць моманту.

— Ні пуха вам, ні пяра! — пажадала Аксана.

— К чорту! — палкоўнік задаволена рагатнуў, прыгадаўшы рускі звычай.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ВОСЬМЫ

Сітуацыя на востраве ўскладнілася. Ціток пасля доўгага назірання за нечаканым фашысцкім дэсантам, за работамі, якія пачаліся на цэнтральнай паляне, зразумеў, што немцы ўладкоўваюцца тут, па крайняй меры, на некалькі дзён. Хмурнасць апала на яго твар. Было аб чым падумаць. Небяспека чорнай хмарай навісла над ім і над Алачкай. Ён, вядома, зробіць усё, каб не выдаць ворагам сваёй прысутнасці на востраве.

Але ж калі немцы затрымаюцца, можа здарыцца непапраўная бяда. Вадзім Мікалаевіч ужо недзе ў размяшчэнні галоўных партызанскіх сіл. Відаць, неўзабаве на востраў будуць пасланы людзі, магчыма, разам з настаўнікам. Яны агораюць недзе лодку, будуць плысці сюды. І толькі паспрабуюць прыстаць да вострава, каб высадзіцца, як тут жа, з засады, вылецяць фашысты. Партызаны будуць перабіты ці ўзяты ў палон. І ён, Ціток, не зможа ім дапамагчы. Усё, вядома, атрымаецца інакш, калі партызанскія пасланцы будуць кемлівымі і пастараюцца высадку на востраў зрабіць ноччу.

Што ж прыдумаць, зрабіць, каб папярэдзіць трагедыю? Выкрасці ў ворагаў зброю. Скажам, аўтамат? Тады, вядома, усё крыху будзе выглядаць інакш. Ён, Ціток, не разгубіцца. Знойдзе пры беразе надзейнае ўкрыццё, засядзе за карчом ці вываратнем — і тады няхай хлопцы-партызаны прычальваюць да вострава ў любы час. Пры выпадку, калі фашысты заўважаць іх лодку і паспрабуюць яе захапіць, Ціток адкрые нечаканы агонь. Некалькі фрыцаў ён, вядома, мёртвымі пакладзе, астатнія адступяць. У такім разе будзе магчымасць выратаваць і Алачку, і нават казу.

Думка, як здабыць зброю, не пакідала хлопца. У поўдзень ён вярнуўся на плывун. Каза стаяла на прывязі, злосна тузалася, імкнучыся вызваліцца на волю. Нават голас падавала жаласлівы, плаксівы: мэ-э-э.

Алачка спала. На тварыку яе былі сляды размазаных слёз. Значыць, ёй адной было кепска, плакала. І во, бач, выбілася з сіл...

На дзіцячы тварык падаў цень густой алешыны. Хлопец прыкрыў яе голыя ножкі дзяружкай. Потым прысеў на імшыстую купіну, і яго ахапіла яшчэ большая трывога, чым там, на беразе, у час назірання за высадкай фашыстаў. Яму трэба дзейнічаць, не марудзіць, шукаць шляхі да выратавання. У такім выпадку большасць часу хлопцу неабходна траціць на назіранне за ворагамі. На каго ж тады пакідаць Алачку і казу? Каза ўжо, бач, пратэстуе і скардзіцца, што не можа стаяць на прывязі. Яна хоча хадзіць, блукаць, выбіраць палянкі, каб знайсці сакавітую траўку. Каб вымя налівалася малаком, якое яна з задавальненнем дорыць і Алачцы і яму, Цітку.

Ціток падышоў да казы, сеў каля яе, ахапіў за шыю і стаў лашчыць, супакойваць: «От, дурненькая, пацярпі крышку, пацярпі. Хочаш адвязацца? Не адвяжу! А вось траўкі табе нарву. І галінак асінавых прынясу. Не будзеш галодная, не бойся»,— шаптаў ён.

Неўзабаве прачнулася Алачка. Убачыла Цітка, як засмяецца, завішчыць! І — да яго! Уселася на рукі, абхапіла за шыю.

— Дода! Дода! — запела яна тоненькім, як малінаўка, галаском.

Аж паяснеў дзень ад яе радаснага шчабятання. Хлопец не ўтрымаўся і пацалаваў яе налітыя румянцам шчокі.

Алачка не сыходзіла з рук, відаць, баялася, каб зноў куды не знік Ціток. Гладзіла ручкай яго па галаве, перабірала валаскі.

— Добра, добра! Бачыш, я з табой,— заспакойваў хлопец дзяўчынку. Яна была яму мілай і роднай, як сястрычка. Гэтая роднасць узмацнялася небяспекай, што раптоўна звалілася на іх як снег на галаву. Пытанне аб жыцці і смерці. І на гэта не трэба было закрываць вачэй.

— Алачка, на нашым востраве фашысты,— сказаў Ціток разважліва і строга, як дарослай,— ты слухайся мяне. Будзеш слухацца?

— Дода! Дода! — прапела дзяўчынка і прытулілася да яго.

Каза тым часам скоса пазірала на дзяцей, перабірала цыбатымі ножкамі, тузалася на прывязі. Бакі яе жывата прыкметна апалі. Шкода было жывёліну. Хлопец ссадзіў

Алачку з рук, падаіў казу. Поўную бляшаначку падаў Алачцы — гэта яе абед. Сам таксама пачаставаўся малаком. Для вячэры хлопец рашыў прынесці рыбы, той, якую лавілі з Вадзімам Мікалаевічам, нанізалі на пруткі і падвесілі ў карчах сушыцца. Перш за ўсё трэба ісці хлопцу ў разведку. Там заадно на востраве ён нарве бярэма травы для казы і прыхопіць рыбу. Такім чынам, зноў вымушаны Ціток кідаць Алачку адну каля казы. Аднак выйсця няма.

Ціток збегаў на востраў, назбіраў пад дрэвамі яловых шышак, знайшоў некалькі апалых кляновых лісткоў, з дзесятак жалудоў — усё гэта прынёс і высыпаў Алачцы ў прыполік.

— Бач, колькі цацак! — задобрываў ён яе.— Яны ўсе твае.

Як толькі дзяўчынка захапілася гульнёй, хлопец бокам-бокам ад яе і ціхенька знік у чароце.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДЗЕВЯТЫ

Дзень па-летняму быў цёплы, лагодны. Толькі сям-там у небе кучараваліся воблакі і сонца плыло ў вышыні ва ўсёй сваёй зіхатлівасці, яркасці. У лесе, дзе слаба адчуваліся павевы ветру, было нават парна. Міша Русак і Рыгор Клімчук з насілкамі, на якіх ляжаў брызентавы пукаты мех, усё далей і далей прабіваліся ў глыб партызанскай зоны. Ім надакучыў шлях: колькі перамялі асакі, крапівы, папаратніку, колькі разоў брылі па каламутнай гразі балот. Абодва адчувалі, што выбіваюцца з сіл. Рукаяткі насілак выкоўзваліся з далоняў, яны ўсё часцей і часцей спатыкаліся, падалі. Міша ўжо каяўся, што яны пайшлі да галоўнага партызанскага вострава напрост, дарога ў абход была куды лепшая.

Але цяпер гэту памылку цяжка было паправіць. Ішлі па малавядомых месцах, па сапраўднай глухамані. Партызан нідзе не сустрэлі, толькі некалькі невялікіх груп бежанцаў. Мішка хацеў мабілізаваць на дапамогу аднаго маладжавага на выгляд дзядзьку, які сядзеў ва пеньчуку і плёў лапці, але калі той устаў, аказалася, што ў яго няма левай нагі. Хлопец збянтэжыўся, у скрусе махнуў рукой, сказаў:

— Сядзі, дзядзька, сядзі. Тут нам была патрэбна рабсіла. Думалі, выручыш. А ты... Дзе гэта цябе так?

— 22 чэрвеня, на граніцы. Асколкам фашысцкай бомбы. Забралі, праклятыя, нагу, а цяпер, глядзі, і душу вымуць. Вы ж чулі, кажуць, браткі, як быццам фашыст вось-вось пойдзе ў генеральнае наступленне. Пераколюць усіх нас, перашаткуюць,— і ён паказаў на дзяцей і жанчын, што спалоханым табарам сядзелі ў зараслях маладых елачак.

Мішка Русак паклаў на дзядзькава плячо руку, з дакорам сказаў:

— Вось ад вас я такога не чакаў. Фашысты, запомні, дзядзька, сюды не пройдуць. І кажы гэтак усім. А то калі яшчэ раз пачую...

— Ды што вы, хлопчыкі,— стаў апраўдвацца мужчына і ад няёмкасці ўвесь пачырванеў.

— То-та ж! — пагразіў Мішка пальцам мужчыне і адышоўся ўбок.

Падменшчыка ў дарогу знайсці не ўдалося. Клімчук-Крывароты яшчэ меў сілы і не вельмі перажываў з такой няўдачы. Але вось ад'ютант ужо выдыхаўся, ён нават пачаў накульгваць. Перад вачыма ў яго скакалі каляровыя шарыкі. Праз Мішку часта даводзілася спыняцца, адпачываць. Брыдучы па густым асінніку, меркавалі, што за ім неўзабаве адкрыецца баравіна — удалечыні яны бачылі верхавіны высокага лесу,— але калі шэрая гусцеча скончылася, мужчыны, збянтэжаныя, спыніліся. Перад імі ляжала шырынёй з паўкіламетра доўгае, напоўненае вадой балота. Нават з першага позірку было відаць, што яго не прайсці.

У разведку пайшоў Крывароты. Ад берага балота было цубкае, вада дасягала каленяў, але хутка пачаліся глыбейшыя месцы з дрыгвяністым дном. Крывароты ўскочыў у адно з такіх месцаў, і яго заліло вадой і тванню па самыя пахі. Ён крутнуўся, войкнуў і стаў выбірацца назад, к берагу.

— Гэты нумар у нас не ўдасца...— і плюнуў са злосным адчаем.

— Бачу,— раздражнена пагадзіўся Мішка.— Фу-ты ну-ты... Давядзецца павярнуць аглоблі назад.

— Ну і праваднік з цябе,— папракнуў Крывароты.— Замучыў сябе і мяне. І калі мы дабяромся? Гэтым балотам

няма ліку. Адно пяройдзеш, выхапішся на бераг, а тут адразу — другое.

— А ты не лічы, хутчэй будзе,— агрызнуўся Русак.

Аддыхаўшыся, яны зноў ухапіліся за насілкі і паклыпалі ўздоўж балота. Перад імі ўзнікалі то ўпадзінкі з густой застаялай граззю, то пачарнелыя калоды, то густы лазняк уперамежку з крапівой.

Калі сонца звярнула з поўдня, і Мішка і Рыгор ужо ледзь валаклі ногі. Канчалася балота, яны бачылі, як злева яно замыкалася цёмным лесам. Настрой адразу ў падарожнікаў палепшыўся, яны прагавіта пазіралі на недалёкі гушчар: там іх чакаў адпачынак, там, меркавалася, будуць партызанскія пасты.

Клімчук-Крывароты ішоў ззаду, праз кожную хвіліну змахваў з твару далоняй пот. Гарэлі ад перанатугі грудзі і спіна, у галаве шумела ад прыхлынуўшай крыві. Ніколі ён не ўяўляў, што давядзецца так пнуцца, надрываць жылы. Але, бач, склалася сітуацыя. Іначай нельга. Можна было, вядома, кінуць мех і Мішку і прабірацца ўлегцы да штаба, каб там неяк прыладкавацца. Але разумеў, што, не маючы канкрэтнай справы, цяжка будзе не толькі ўбачыць дзядзьку Андрэя, але і трапіць у размяшчэнне камендацкай роты, якая ахоўвала штаб партызанскага злучэння. Вось таму быў пакорлівы і змірлівы Крывароты. Праўда, каб быць натуральным у сваіх паводзінах, ён іншы раз бурчэў, лаяўся, прапаноўваў усё к чорту кінуць. Мішка прыбаўляў крок, як мог супакойваў Рыгора:

— Фу-ты ну-ты!!. Не журыся, чалавеча! Хутка будзем на месцы. Сам разумееш, што за гэты мяшок атрымаем,— і тут жа хораша фантазіраваў: — Па бохану хлеба, па кавалку сала і кварце чаю. Во ўжо нап'юся чаю! У грудзях усё перасохла, а язык стаў шурпаты, як тарка.

— Мне б не чаю, а хаця б простай вады. Скажы, ідзём па вадзе, а напіцца не можам.

— Там, у лесе, трэба пашукаць крыніцу. А можа, і на партызанскі калодзеж натрапім. Нап'ёмся, памыемся.

Крывароты кожны раз, калі сядалі адпачываць, незнарок пераводзіў гаворку ў рэчышча, блізкае да сваіх патрэб. Ён пацікавіўся ў Мішкі, ці адлучаецца дзядзька Андрэй са штаба, і што ён звычайна робіць днём, і калі кладзецца спаць.

Мішка Русак ахвотна адказваў на гэтыя пытанні. По-

тым яны яму апрыкралі, надакучылі, і, каб адчапіцца ад дужа настырнага партызана, ён буркнуў:

— Вялікім чалавекам усе цікавяцца: што ды як. А я ўжо да ўсяго прывык. Вось ты заначуеш у нас і пабачыш і яго, і начальніка штаба, і штабных камандзіраў. Простыя і добрыя людзі.

— А хоць разумныя?

— А ты сумняваешся? — павярнуўся да Крываротага Міша і агледзеў яго з несхаванай строгасцю.

— Сумнявацца, вядома, не сумняваюся. Але ім фашысты добрую падкінулі задачку.

— З гэтай блакадай?

— Але... Іменна з ёй...

— Я думаю, вытрымаем. Вось і мы крыху паможам. Калі тут адны патроны,— ён кіўнуў на мех,— дык іх хопіць, каб добра стукнуць па фашыстах. І зробім прарыў, і выбавімся ад фашысцкіх шчупальцаў на волю, на прастор. Эх, а потым... Раздабуду я, Рыгорка, сабе новага каня. Ды як пойдзем гойсаць па фашысцкіх тылах, аж гай зашуміць...

— Вось жа, каб так было...— прытворана ўздыхнуў Крывароты.— А мне здаецца, усё тут лясне, у гэтым балоце.

— Ты што, сумняваешся? — злосна спытаў Русак.— Балда ты пасля гэтага!

— Бачыш, як немцы напіраюць. Гавораць, Фрыдрых Носке, іх палкоўнік, стратэг.

— А пад Сталінградам быў?

— Не ведаю...

— Ну то маўчы,— нядобра зыркнуў на Рыгора Мішка.— Мне здаецца, гэты стратэг не адзін раз назад бег. І тут пабяжыць. Во, тое-сёе нам Масква падкінула. Нешта і мы сваім розумам прыдумаем... Фу-ты ну-ты. І будзем жыць! А фашыстам — магіла!

— Лёгка ў цябе выходзіць. Не забывайся: быў на кані, а сёння без каня. А што будзе заўтра?

— Ну, хопіць,— непрыхільна махнуў рукой Русак.— Не сып соль на рану. Падымайся, патопаем!

Доўгі клін балота заканчваўся. Выйшлі на сухі груд, на якім раслі старыя каржакаватыя дрэвы. Тут іначай запахла паветра — грыбной сырасцю і сухой ігліцай. Лес вахлакавата варушыўся пад бунтоўным ветрам, гуў цёмным, загадкава-таямнічым нутром. На першым лабатым

узгорку мужчыны, як падкошаныя, пападалі. Нават мех зваліўся з насілак. Пачалі — адзін і другі — кволымі далонямі выціраць з разгарачаных твараў пот. Міша Русак аж застагнаў.

— Ну і ўпрог жа ты мяне ў работку. Гэта за тое, што выцягнуў цябе з багны...— Ён, вядома, жартаваў, гаварыў з вясёлай падначкай, бо адчуваў, што хутка іх пакутны шлях канчаецца.

Крывароты ляжаў тварам уверх, супакойваў дыханне. Ён паспеў сцягнуць з ног боты, абмацваў на правай назе костачку, якую нацёр да крыві. Слухаючы Мішку, разумеў яго настрой. І злаваўся. Вось вызваліцца хлопец ад марокі і адчуе сябе, што называецца, вольным казаком. А яму, Рыгору, да радасці далёка. Наадварот, пры набліжэнні да штаба ўзрастала ў яго хваляванне і непакой. У галаве тлуміліся думкі — што будзе наперадзе? А раптам!.. Ох, гэтае раптам... Як яго абысці, як падначаліць сваёй справе? Фрыдрых Носке... Прыдумаў жа заданне... Каб яму мазгі высахлі!

Шумяць, гойдаюцца перад вачыма ў небе верхавіны векавых сосен. У гэтым шуме Клімчук чуе трывогу і напружаную неўтрапеннасць. Няма ў яго настрою, няма. Надзеў на сябе хамут — гэты мех — і цягне. А што ён пардасць? Ці хоць паспрыяе, каб лепш уцерціся ў давер партызан. А можа, наадварот, пашкодзіць сам сабе? Невыносна хацелася піць. Губы былі сухія, шурпатыя, ён іх аблізваў, жмакаў губамі. Ад смагі ўвесь час пяршыла ў горле.

— Схаджу пашукаю вады,— сказаў ён да асавелага ад зморанасці і дзённай спякоты Русака, які ляжаў у цяні старога граба. Той абыякава хіснуў галавою.

Крывароты нацягнуў боты, абабіў і атрусіў са штаноў і кепкі прысохлую гразь. Азірнуўся. Куды ісці? Мясціна была незнаёмая. Удалечыні, за соснамі, як бы высвятлівалася палянка. Узяў напрамак туды. Пад ботамі затрашчала сухая ігліца, з-за вываратня выскачыла вавёрка і рыжай маланкай стрэліла па прамому ствалу сасны аж у яе крону. Усеўшыся на галіну, яна гулліва засакатала. Пераклікаліся дразды.

Каля рабінкі, што пунсавела ад ягад, прыпыніўся, зняў кепку і накідаў у яе цяжкаватых гронак. Разважаў так: калі не знойдзе вады, будзе чым асвяжыць рот.

Некалькі разоў Клімчук-Крывароты чуў, як быццам

трашчала галлё. Спыняўся, прыслухоўваўся. Але ў наваколлі ўбачыць чалавека або звера не ўдалося.

Палянка, на якую ён выйшаў, была круглая, невялікая, з аднаго боку адгароджаная старым змешаным лесам, з другога — панурым алешнікам. Прысутнасць алешніку ўзрадавала. Разумеў, што тут шмат вільгаці і можна натрапіць на катлавіну з чыстай вадой. На прагаліне, паміж купчастага, пад сіняватым полымем кветак верасу, убачыў кансервавую бляшанку.

Ён хацеў яе падфутболіць, адбіць з дарогі, але нечакана позірк яго ўпёрся ў высокі пень на краі паляны. На пні шарэла кепка, а каля камля віднеліся галава і плечы чалавека.

Клімчук-Крывароты насцярожыўся, спыніўся. Зладзейкавата акінуў вачыма лес і паляну. Нікога. Хто ж гэта — партызан ці звычайны селянін? Крывароты стаў асцярожна, як рысь, красціся да чалавека. Ад напружанасці і хвалявання, якое яго ахапіла, зашумела ў вушах і ў галаве. Чаго сядзіць чалавек? Можа, забіты, мёртвы? Але кепка — на пні... Значыць, ён тут спыніўся. Адпачывае?

Недзе ўдалечыні моцна вухнула, аж здрыганулася зямля. Але чалавек нават не паварушыўся. Убачыўшы гэта, Крывароты бязбоязна рушыў да незнаёмага. Зайшоў збоку, убачыў юнака гадоў пад дваццаць пяць, русагаловага, з прыгожым тварам. Ён сядзеў, прыпнуўшыся да пня, у расхлістанай сацінавай кашулі і ціхенька пасвістваў носам. Каля юнака, пад яго правай рукой, ляжала вінтоўка. Тут жа ўзбоч было і вясло. Дазорца? І заснуў? «Бач, як нясуць партызаны службу?»,— яхідна ўсміхнуўся Клімчук. За некалькі крокаў ад пня чарнела яміна, на травяністым яе ўзбярэжжы ляжала кансервавая бляшанка, такая ж, якую ён стрэў на паляне.

«Калодзеж!» — ледзь не крыкнуў з радасці Крывароты і памкнуўся быў да яго. Але вясло, якое ляжала каля партызана, прымусіла затрымацца. «Навошта яно партызану? Вясло? Адкуль?» — адразу апанавалі думкі, распалялі дапытлівасць. Ён нахіліўся, падняў яго. Вясло было кляновае, важкае, зробленае для лодкі пад уключыны. Лапатка пасярэдзіне паколатая. У вочы кінуўся надпіс К. Т. С., што быў зроблены на дзяржальне. Бач ты, знаёмае! Вясло Кулакова Тараса Сямёнавіча, яго суседа па вуліцы. Ён, Клімчук, браў неаднойчы лодку, калі ездзіў на рыбалку. І вёс-

лы добра запомніліся. Як жа адно з іх апынулася тут, у лесе?

Хто гэты малады чалавек? Твар незнаёмы, абветраны, абраслы рудым шчаціннем. Сярод местачкоўцаў такога хлопца сустракаць не даводзілася. Хлопец гэты быў, разважаў Крывароты, у мястэчку, дабіраўся сюды па возеры. Хто пасылаў туды партызана? На спецыяльнае заданне, не іначай. Можа, ён сачыў за камендатурай? Калі быў там, у мястэчку, мог і гэта рабіць. Тады хлопец, вядома, прыкмеціў і яго, Клімчука.

От табе як атрымліваецца. Ён ідзе ў партызанскі штаб, а там яго будуць чакаць. Скажуць: «Дзянёчак добры!» І рукі — назад, прыкладам — у спіну. «Ану, расказвай, што загадалі Цымлер і Носке!»

Няўжо гэта партызанскі разведчык? Але, разглядаючы постаць і твар незнаёмца, Клімчук не знаходзіў у ім адзнак, якія б пацвердзілі ўзвіхураную думку.

«Разведчык з вінтоўкай? Малаверагодна. Ён павінен быць з лёгкай зброяй — пісталетам. І апрануты інačай. Вопратка ў партызана брудная, заношаная. І надта пакамечаная».

Чаго ж быў там, на другім беразе возера, гэты чалавек? Ён, відаць, прыгнаў сюды лодку. Ці не маецца на ўвазе некага пераправіць на волю, выхапіць з кальца блакады? Дзядзьку Андрэя і яго паплечнікаў-штабістаў? Зразумелі, што трапілі ў пастку,— ні туды ні сюды,— дык хочуць хоць самі ўратавацца?

Гэтая здагадка падалася Клімчуку-Крываротаму найбольш верагоднай. Надумаліся, хлопчыкі, уцякаць? От дык прыцісну вас Фрыдрых Носке! Але дудкі! Шлях будзе перагароджаны. Добра, што ты, хлопча, знайшоў і гэты калодзеж, і гэты ўчарнелы асінавы пянчук. Тут тваё, лічы, апошняе прыстанішча.

Рыгор Клімчук зладзейкаватым позіркам акінуў ваколле, нейкую хвіліну слухаў цішыню, паклаў на зямлю вясло, якое так узбунтавала ягоныя думкі, наблізіўся да партызана. Чалавек па-ранейшаму быў ва ўладзе сну. Гэта добра бачылася па яго нерухомым твары, па роўным глыбокім дыханні.

Крываротаму закарцела ў першую чаргу авалодаць зброяй партызана. Ён працягнуў руку, хапіўся за ствол вінтоўкі. У той жа момант хлопец лыпнуў вачыма. Гэта быў Вадзім.

— Што такое? — трывожна спытаў ён, убачыўшы незнаёмца. Крываротаму выхапіць вінтоўку не ўдалося.

— Я, я, братка,— залапатаў у збянтэжанасці Клімчук, адскокваючы ўбок.— Думаў, выбачай, мёртвы... А ж ты — жывы...

— Мёртвы...— устаў на ногі Вадзім, злосна нахмурыўся.— Я табе дам — «мёртвы»,— ён з недаверам акінуў постаць Крываротага.— Хто ты такі?

— Табе вочы павылазілі, ці што? Партызан...

— Кажаш, партызан? А дзе вінтоўка?

— Доўга расказваць. Дай я хоць пап'ю. І вады зачарпну таварышу.

— У цябе і таварыш ёсць? І, відаць, таксама без вінтоўкі?

— У яго — аўтамат! Не раўня табе...

Вадзім убачыў адкладзенае ўбок вясло. І ім цікавіўся гэты незнаёмец? Вадзіма гэта насцярожыла. Што за чалавек? Навошта яму спатрэбілася ягоная вінтоўка? Тут нешта не так. Да таго ж, пляце, быццам у яго ёсць напарнік з аўтаматам. Калі той такі зладзейкаваты, то трэба хутчэй ад гэтых партызан адкарасквацца. А то незнарок ублытаешся ў гісторыю, што і рады не будзеш.

— Ну ты пі, а я пайду,— сказаў абыякава Вадзім.

— Не, ты пачакай. Пачакай хвіліну,— Клімчук-Крывароты не хацеў, каб незнаёмец адыходзіў, і заступіў дарогу Вадзіму.— Ты нам вельмі патрэбны. Мы, можна сказаць, цябе шукалі.

— Шукалі? А тым часам — не брэшаш? У мяне няма часу з табой балбатаць.

— Няма, дык знойдзеш! — строга выгукнуў Клімчук-Крывароты.— Перадаю табе загад Мішы Русака...

— Мішы Русака? — устрапянуўся Вадзім.— Ты што, жартуеш?

— Зноў мне не верыш? Ты як той перапалоханы заяц... Што з табою?.. Ці з нейкай бяды, ці з нейкай вады? Не разбяру. Мішка Русак — мой напарнік-таварыш. Зараз пойдзем да яго.

Вадзім Мікалаевіч з недаўменнасцю глядзеў незнаёмцу ў твар. Было нейкае дваістае адчуванне: верылася і не верылася.

— Дзе ён, Русак? Паранены? — перапытаў для большай дакладнасці Вадзім.

— Не, цэлы. Жывы і здаровы.

— Чаму не з табою разам?

— Нельга яму. Ён пільнуе парашутыста, які саскочыў з самалёта.

— Што, яму няма іншай работы? Ён жа — ад'ютант дзядзькі Андрэя.

— Калі камандзір загадае, усё будзеш рабіць, хто б ты ні быў. Зразумеў? Вось і яму загадалі.

— Ну і нагарадзіў ты мне: і Мішка Русак і парашутыст. А хто ж ты будзеш?

— Я? — тыцнуў сабе ў грудзі пальцам Клімчук.— Я ж табе гаварыў — партызан. Табе дастаткова?

— Вось я і хачу сказаць — недастаткова!

— Дай напіцца, перадыхнуць. А то ты сваімі допытамі зусім даканаў,— з вясёлым папрокам сказаў Клімчук, стаў наўколенцы каля калодзежа, зачарпнуў вады бляшанкай і пачаў з прагнасцю піць. Бачна было, як на тоўстай загарэлай шыі мерна варушыўся кадык. Аж тры бляшанкі асушыў незнаёмец-партызан. Потым зачарпнуў чацвёртую і апаласнуў твар.

— Ух! — усклікнуў ён, устаючы з долу.— Як гара з плеч. Што значыць — вадзіца. У нас яе заўсёды шмат, мы і не заўважаем, як яна важна для чалавека. А калі апынешся ў становішчы, што няма дзе яе ўзяць, аж вочы на лоб лезуць ад роспачы і адчаю. Кажуць, што людзі без вады гінуць на трэція суткі. О, ледзь не забыў,— Крыва-роты крутануўся, падхапіў з-пад ног бляшанку.— Трэба ж Мішу порцыю прынесці.

— Ты, значыць, ад'ютант у ад'ютанта? — дапытліва аглядаў партызана Вадзім.

Яму не падабаліся яго паводзіны, яго гаворка. Ён баяўся звязвацца з гэтым чалавекам. Да таго ж, і часу ў Вадзіма не было. Неабходна ісці, дабірацца да штаба партызанскага злучэння. Там чакаюць яго незвычайнай звесткі. Ён нясе эстафету. Яна не павінна вырвацца з рук, абарвацца.

Во сустрэўся з першым чалавекам, і ўжо давялося згубіць, лічы, паўгадзіны часу. А калі ён пойдзе глядзець узятага ў палон парашутыста... Не, трэба, відаць, кіравацца сваёй дарогай.

— Ты Мішку перадай прывітанне...— засяроджана прамовіў Вадзім, закінуў за плячо вінтоўку, у левую руку ўзяў весло і скіраваўся ў бок бярэзніку, які агароджваў палянку з поўначы.

— Ты што гэта, уцякаеш? — строга гукнуў Клімчук-Крывароты.— Ану, стой. Я табе сур'ёзна кажу: Мішка Русак загадаў пры сустрэчы з любым партызанам забраць з сабою. Ты нейкі неслух, а не партызан,— папракнуў ён Вадзіма.

— Гавары, ды не загаворвайся,— Вадзім прыпыніўся, востра глянуў на незнаёмца.— Дзе Мішка, далёка? Ці не хочаце мне сплавіць парашутыста? Скажу наперад — нічога не будзе. Спаймалі, дык і вядзіце. У мяне свайго клопату хапае. Вот так, па горла,— і хлопец паказаў рукою.

Крывароты з конаўкай, поўнай вады, ішоў наперадзе. За ім няспешна лыгаў доўгімі нагамі Вадзім. Некалькі дзесяткаў хвілін сну вярнулі яму бадзёрасць, але сілы, адчуваў, у целе малавата. Страўнік быў зусім пусты, боўталася ў ім толькі вада з ляснога калодзежа.

— Слухай, як цябе?

— Рыгор,— адгукнуўся Крывароты, паварочваючы к пагорку, дзе быў іхні прывал.

— Рыгор, нічога ў вас няма...— і не даказаў.

— Чаго няма, дык няма,— са скрухай прамовіў Крывароты і з нейкім вясёлым жалем дадаў: — У Мішкі конь быў, дык з'елі...

— Удвух? І вы не лопнулі?

— Мы толькі з Мішкам аблізаліся. З'елі коніка,— цудоўны быў, цёмна-бурай масці, з белай зоркай на лбе,— бежанцы. І зараз ніяк не супакоіцца Мішка, бядуе.

— Ведаю яго каня, ведаю,— ужо сяк-так вязалася размова.— Дык, кажаш, Мішка па лесе, па балоце смаліць пехам?

— Як бачыш, даводзіцца.

Баравы лес у наваколлі быў чысты і светлы. Сонца прабівалася між верхавіння дрэў, сцякала ў дол вадаспадам промняў. Пасля дзікіх зарасляў крапівы, раскарак-карчоў, пасля дрыгваністай багны, якая аднолькава ўелася ў пячонкі і Вадзіму і Рыгору, яны ішлі тут, як па гарадскім праспекце. Чыстае, ядранае паветра ўлівалася ў грудзі, бадзёрыла цела.

— Што там у Міткавічах чуваць? — як бы міжвольна кінуў Клімчук-Крывароты. Яму карцела даведацца, чаму гэты партызан ідзе праз лес з вяслом, не расстаецца з ім.

— Ты думаеш, я быў у Міткавічах?

— А весла?

— Ну і што ж, калі весла...

— Навошта з сабой цягаеш?

— Так захацелася, вось і цягну. Праўда, у цябе не папытаў дазволу,— падпусціў шпільку Вадзім.

— А па мне ты хоць лодку цягні,— з непрыхільнай абыякавасцю махнуў рукой Клімчук-Крывароты.— Ты дзе яе пакінуў?

— Каго?

— Ды лодку...

— Дзе пакінуў, там яна і стаіць...

— Ну і дзіўны ты... З усяго строіш тайну...

— А ты хочаш, каб я табе спаўна выклаўся. Я цябе не ведаю, ты мяне...

— Цяпер будзем ведаць добра адзін аднаго. Ты ж, відаць, у штаб, як і мы?

— А там бачна будзе. Нешта далёка твой Мішка.— Вадзім у роздуме прыпыніўся. Яго непакоіла, што многа губляе часу.

— Тут ужо недалечка, паўкіламетра,— падахвочваў Клімчук.

Вадзім насцярожліва глянуў партызану-незнаёмцу ў вочы. Ці той ён на самай справе чалавек, якім назваўся? Хлопец нават пачаў па баках азірацца, каб выпадкам не трапіць у лавушку. Але ўсё было спакойна. Навокал высознае стволле сосен, роўны, высланы рудой ігліцай дол. У небе лена плывуць хмаркі, у блякла-пяшчотнай сіняве купаецца сонца.

«Калі тут Мішка Русак,— разважыў Вадзім,— трэба, вядома, яго пабачыць». Параіцца, што рабіць. Неабходна неадкладна зняць з вострава дзяцей, трэба ўведаць, дзе цяпер знаходзіцца партызанскі штаб.

Ён нацэліўся ісці на Пугачоўскую горку — туды раней сыходзіліся ўсе шляхі-дарогі і адтуль падаваліся партызанам загады і каманды. Без удакладнення свайго маршруту ён, Вадзім, можа патраціць нямала часу. Ды і ахвотней, калі падумаць, разам ісці. Праўда, пры іх, як кажа гэты Рыгор, нейкі парашутыст. З ім можа быць валынка. Не захоча ісці, занатурыцца, сядзе, тады што хочаш з ім рабі... Цікава, аднак, глянуць і на парашутыста. Можна будзе з ім паразмаўляць па-нямецку. Магчыма, ён паведаміць важныя звесткі...

Выходзіла, што варта ісці за партызанам-незнаёмцам.

— Нашы справы зусім кепскія,— падчакаўшы, пакуль падыдзе Вадзім, сказаў Клімчук-Крывароты.

— Захапілі парашутыста, і кажаш — кепскія,— па-свойму зразумеў словы спадарожніка Вадзім.

— Я кажу наогул: нашы, партызанскія справы...

— А чаму?

— Па тваім вяслу бачу. Некага хочаш з гэтага мяшка вывезці. Ці не дзядзьку Андрэя?

— Каго загадаюць, таго і вывезу.

— То ты вазьмі нас з Мішкам...

— А хто прарываць блакаду будзе?

— Вось ты і трапіў пальцам у неба. Нам з табою давядзецца... Мы ж — радавыя...— знарок з іранічнай насмешкай сказаў Крывароты, а сам падумаў: «Ну і незнаёмец, насцярожаны, натапыраны, замкнуўся, як улітка. Паспрабуй уведаць, чаго ён праз увесь лес дыбае з вяслом». Ах, гэтае вясло!.. Непакоіць яно Крываротага, вельмі непакоіць.

«Ну добра, калі не хочаш са мной быць шчырым, адкрытым, дык, можа, з Мішкам разгаворышся? Трэба навастрыць вушы. Тут нешта ёсць, ёсць!» — пераконваў сябе Клімчук-Крывароты.

— Слухай, ты тутэйшы ці акружэнец? — зноў распачаў гаворку пасля мінутнага маўчання Крывароты.

— Спытаеш Мішку, ён усё добра ведае.

— А я хачу з тваіх слоў пачуць. Ну, браце, і гаварыць з табой, усё адно што воз на сабе цягнуць,— упікнуў Вадзіма Крывароты.— Ты гэтакім нарадзіўся? Ці прыдурваешся?

— Чакай, а хто ты такі? Ніяк не разбяруся?

— А-а, выбачай. Не прадставіўся. Я, разумееш, з атрада Змітрака Дукоры,— перадыхнуў і дадаў: — Я, разумееш, Рыгор Клімчук. Радавы партызанскі баец.— Крывароты прыпыніўся, весела стукнуў абцасамі і нават прыклаў руку да скроні, аддаючы чэсць.

Вадзім ледзь не ўпаў. Рыгор Клімчук? Няўжо?! Ну і сустрэча. Вось дык партызан! Гэта ж... Куды ён яго вядзе? Каму ён, Вадзім, даверыўся? Глядзі, аднекуль выскачаць яго хаўруснікі, накінуць на галаву мяшок...

— Рыгор Клімчук? — перапытаў Вадзім, глушачы збянтэжанасць. І каб яшчэ нешта сказаць, дадаў выпадковае: — Цікавае імя...

— Так ужо і цікавае?

— Простае, беларускае,— мармытаў Вадзім, як школьнік, падняты настаўнікам знянацку.

«Бач, і шукаць бандыта не трэба. Апынуўся, можна сказаць, пад рукамі... Што рабіць? Куды ён яго вядзе? Ці сапраўды да Мішы Русака? А можа, дым пускае ў вочы, каб без прынукі правесці да сваіх хаўруснікаў».

Вадзім неўпрыкмет азірнуўся. Нічога, аднак, падазронага не заўважылася. А думкі беглі, нізаліся ў нястройны ланцуг. «Можа, арыштаваць паганца? Ён як бы без зброі... Няўжо без зброі? — тут жа засумняваўся Вадзім і стаў пільна разглядаць постаць Клімчука. Кішэні не адтапыраныя, фуфайка расхіснутая, пад ёй звычайная цёмная сарочка.— Не, трэба пабачыць Мішу Русака. Пагарачуся, нараблю бяды...»

— Ну во і наша стаянка,— абвясціў вясёлым голасам Рыгор Клімчук і паказаў рукой на пагорак, зарослы рыжым папаратнікам.— А мой напарнік, разумееш, спіць... Што ні кажы, выматаў нас парашутыст...

Вадзім падышоў да чалавека, які ляжаў, выцягнуўшыся ў цяні пад елачкай. Пад яго рукой ляжаў аўтамат. Сапраўды, гэта быў ад'ютант дзядзькі Андрэя. На галаве старэнькая, з чырвоным бантам, кубанка, боты хромавыя, моцна заляпаныя граззю, галіфэ з казацкай малінавай паласой. Твар у хлопца змардаваны, пад носам бялёсыя вусікі. Клімчук не зманіў — ён, Мішка Русак!

Вадзім схіліўся, каб пабудзіць ад'ютанта.

— Пачакай, не будзі,— шапнуў Клімчук, асцярожна ставячы на зямлю конаўку з вадой.— Мы пасядзім, а ён няхай паспіць.

— Да яго госці, а ён будзе спаць? — трывожная насцярожанасць адразу ў Вадзіма прапала. Ён адчуў, што абстаноўка складалася ў яго карысць і трэба ёю карыстацца.

— Мішка, станцыя! Прыехалі...

Ад'ютант квола варухнуў павекамі, але не абудзіўся.

— Глядзі, не прызнае,— і Вадзім бесцырымонна затармасіў хлопца за рукаў.

— Што здарылася? — падхапіўся Мішка і ўзяўся за аўтамат.

— Нічога асаблівага. Гэта я, Вадзім...

— Чакай, чакай,— расціраючы кулаком вочы, замармытаў Русак.— Ты што, з таго свету?.. Мы ж тваю душу адпелі...

— Ранавата, яшчэ паваюю...

— Ды як жа? Фу-ты ну-ты... Адкуль? — ён спыніў позірк на Клімчуку.— Вады не знайшоў?

— Во, у конаўцы,— ён падаў бляшанку з-пад кансерваў.— Пі, колькі ўлезе, знайшоў цэлы калодзеж.

Мішка Русак прагна прыпаў да бляшанкі, піў так, што ніводнай кроплі не праліў. Смачна крактануў, абцёр далоняй вусы і тут жа зноў уставіўся ў Вадзімаў твар.

— Дык расказвай!

— А дзе парашутыст? — у сваю чаргу спытаў Вадзім і перавёў позірк на Рыгора Клімчука.

— Ды во,— Крывароты пхнуў нагою мех і растлумачыў, як ён ім трапіў у рукі.— Табе сказаў, што спаймалі парашутыста, каб зацікавіць. Бачу, нейкі незгаворлівы...

У тлумнай гамонцы прайшло некалькі хвілін.

Мішка Русак усё намагаўся ўведаць, дзе ён, Вадзім, быў апошнія некалькі сутак. Але Вадзім неўпрыкмет, насцярожана падміргнуў ад'ютанту, і той перастаў дапытвацца. Аднак на твары яго застаўся адбітак недаўмення. Маўляў, што здарылася? Чаму не можаш адкрыцца?

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАТЫ

Цітку стала зразумела, што фашысты асталёўваюцца на паляне, што будуць начаваць. І настрой у іх святочны, прыўзняты. Ворагі адчуваюць сябе спакойна, як дома. Што ж, няхай. І ў Цітка ёсць справа.

Ён падумаў пра казу, якая ўвесь дзень заставалася непакормленай. Без корму, вядома, яна ўвечары не дасць малака. От будзе дакукі ад Алачкі. Хлопец ужо ведаў, якія яна канцэрты давала, калі адчувала голад.

Такім чынам, трэба было неадкладна нарыхтаваць травы. З гэтым ясным і добрым намерам Цiток пакінуў свой назіральны пункт — густыя зараснікі маліннiку, што высакаватай зялёнай градой агіналі тыльны бок бярозавага гаю.

Ішоў нагінкам, ад ствала да ствала дрэва, баючыся наступіць на ссохлую галінку. Азіраўся. Не заўважыў, як раптам пацягнула яго к Чорнаму дубу.

Перад вачыма вызарылася постаць дрэва-велікана. «Чаго гэта я сюды?» — «Як чаго? — нібыта каму чужому, адказаў ён сабе.— А лодкі...» І праўда, лодкі засталіся пры беразе. Нават, здаецца, без аховы.

«Ці нельга? — і думкі адна за адной закружыліся ў галаве.— Можна ж уцячы. Узяць Алачку — ды ў лодку! Не паспеюць ачомацца немцы, як мы вунь дзе апынемся. Тады хай крычаць, хоць разарвуцца. От і ўсяго таго страху. І зброю здабываць не трэба!»

Нечакана ззаду пачуліся крокі, галасы. Ціток імкліва скокнуў убок, упаў у густы разлапісты папаратнік і папоўз пад бліжэйшы выварацень. Прыладкаваўся каля яго, стаў цікаваць.

Праз момант між дрэў замільгалі тры постаці. Упарадзе ішоў даўганогі, як бусел, афіцэр, за ім два салдаты.

Яны былі спакойныя, ступалі цвёрда, рашуча. На лодку селі толькі двое — афіцэр і салдат. Другі салдат застаўся на востраве. Ён дапамог зняцца лодцы з прычала, развітальна памахаў падарожнікам.

«Ну, от на востраве ўжо не восем фашыстаў, а шэсць.— Хлопец уздыхнуў з палёгкай.— У выпадку чаго два чалавекі, што адсеяліся, ого колькі значаць!»

Салдат, які не паехаў, зняў аўтамат з шыі, узяў пад паху. «Паставы,— зразумеў Ціток.— Вось табе і лодка... Паспрабуй захапі».

* * *

Ну і нарабілі яму клопату фашысты! Толькі што Ціток быў разведчыкам, а цяпер ён пераключыўся на чыста гаспадарскую справу — ішоў к заходняму берагу вострава, дзе на расахатай вярбе, пры затоцы, сушылася пад сонцам і ветрам рыба. Яе трэба зняць, калі ўцалела, калі не параскрадалі якія птушкі. Да малачка, якое яны маюць і для яго і для Алачкі,— ніштаваты будзе падмацунак.

Вядома, на востраве з'явіліся больш значныя прысмакі. Ціток бачыў, як фрыцы выгружалі з лодак скрынкі. Тут задуманы нейкі баль. Значыць, усяго, чаго хочаш, сюды прывезена. «Яны будуць жэрці на ўсю губу, а мы з Алачкай...» Вядома, хацелася ўхапіць хоць адну скрынку. Але была вялікая рызыка: падстаўляй галаву пад кулю!

Прысмакаў Цітку не трэба. Раздабыць бы хоць кавалачак хлеба. Падумаў так хлопец і выразна пачуў, як моцна ў наваколлі запахла хлебам, свежым, толькі вынутым з гарачай печы.

У гэты момант перад вачыма ўзнікла ўся сям'я — бацька, сястрычка Аленка і ён, Ціток, сядзяць за сталом.

Маці — побач. У руках яе доўгі нож. Яна прытуліла круглы бохан да грудзей, адразае важкія духмяныя лусты і падае іх кожнаму па чарзе.

Цімок хапае лусту, радуецца, што яна вялікая і смачная... Ад уяўлення гэтага ў хлопца закружылася галава, і ён раптам упаў, як падкошаны, у траву, на шурпаты дол.

Перад вачыма плылі, выныралі з цемрадзі невялікія, як клубкі, пякучыя сонцы, мітусіліся, круціліся, таялі. А потым замест сонцаў з'яўляліся нейкія чорныя, з доўгім крыллем птушкі, нарэшце зноў заіскрылася наваколле, на гэты раз перад хлопцам плылі не сонцы, а буйныя-буйныя, як яблыкі, зоркі.

* * *

Цімок пачуў, як нехта свіснуў. Не хацелася ўставаць, у целе была важкая стома, прыкрая кволасць. У роце адчувалася горыч палыну. Чаму палыну? Ён загадаў сабе варухнуцца, устаць. Не адразу гэта ўдалося. Здавалася, нехта ўсеўся на плечы, дужы, цяжкі, ціснe да зямлі. Аднак новае намаганне дапамагло.

Цімок расплюшчыў вочы і вельмі здзівіўся, што ляжыць ніцма на зямлі, а ў рот набілася травы і пяску. Паступова, як кадры кінафільма, праплылі ўяўленні. Хлеб! Ён думаў пра хлеб, прыгадаў перадвaенны добры час, і вось што здарылася.

Аказваецца, дайшоў... Зноў пачуўся свіст, больш рэзкі і выразны. Хлопец сеў, насцярожыўся. Чалавек свішча ці птушка? Азірнуўся. За спінай была паляна, прадаўгаватая, як футбольнае поле. У левым баку яе, прысланіўшыся да шатрыстай хваінкі, стаяў чалавек, нізкарослы, у жоўтай кепцы, са стрэльбай у руках. Фашыст-паляўнічы! Ці не згледзеў ён яго, Цімка? Калі згледзеў — канцы! Хлопец спуджана тузануўся і нырнуў галавой у густую траву. У той жа момант зіркнуў вострым позіркам у левы бок паляны. Фашыст стаяў, як бы гатовы бегчы.

У гэты момант справа ад Цімка рэзка зашамацелі кусты ельніку і асінніку. Цімок думаў, што праз зараснік прадзіраецца чалавек, і прыгнуўся да зямлі яшчэ ніжэй. Прытаіў дыханне. Ад напружанасці і хвалявання застукала ў скронях. «Яшчэ чаго не хапала — на галаву наступяць!» — і ўвесь сціснуўся ў камяк.

Шум у кустах, аднак, праз момант аддаліўся, нешта

затупацела па паляне. Ціток, пагарджаючы небяспекай, прыўзняўся і глянуў у прагаліну між кустоў.

І ледзь не крыкнуў ад адчаю і роспачы. Паляну перабягала, дзе толькі ўзяўся ў яе спрыт,— каза. Так, так, іменна Цёця.

Усё далейшае, неверагоднае і страшнае адбылося ў адзін момант. Грымнуў ярасны стрэл, і Цёця, кульгануўшыся цераз галаву, упала. Затузалася, ліхаманкава забіла нагамі...

«А-а-а!» — боль пакуты ўдарыў у хлопцава сэрца. Добра, што крык атрымаўся прыдушаны, ледзь чутны.

Цёця? Адкуль яна ўзялася? Няўжо сарвалася з прывязі?

Ціток разумеў, што дапусціў памылку, прымусіўшы жывёліну стаяць на сонцы, галадаць. Вялікі жаль ахапіў хлопца. Слаўная козачка! Яна выручала і Алачку і яго, Цітка.

Між тым на паляну выбеглі два дзябёлыя, амаль аднолькавага росту салдаты. Яны кінуліся да забітай жывёліны, схіліліся над ёй, нешта радасна крычалі.

Трымаючы ў правай руцэ стрэльбу, да сярэдзіны паляны паважна шыбаваў паляўнічы.

Ціток ненавісна глядзеў на фашысцкага злыдня: зычыў у думках, каб пад яго нагамі раптам правалілася зямля, каб з неба палыхнула полымя і спаліла гада. «Я табе не дарую, пракляты! Клянуся, не дарую! Хіба табе бельмы засланіла? Не бачыў, што гэта звычайная каза? Э-эх!..»

Адзін з салдат ухапіў казу за заднія ногі, прыўзняў, і яе барадатая галава захісталася ўнізе, над долам. Салдаты аб нечым узбуджана залапаталі. Потым засмяяліся. Падышоў Фрыдрых Носке. Па смеху салдат ён зразумеў, што нешта здарылася несуразнае.

— Гер палкоўнік,— сказаў белабрысы салдат з лупатымі вачыма.— Забілі напавал. Але, глядзіце, якое вымя ў жывёліны. Гэта не казуля...

— Хатняя каза,— растлумачыў другі салдат у расхрыстаным зялёным фрэнчы.

— Каза? Адкуль яна ўзялася? — сурова варухнуў цёмнымі бровамі палкоўнік.— Хто дасць тлумачэнне?

— Мы нічога не ведаем, гер палкоўнік. Аперацыяй па высадцы казуль кіраваў обер-лейтэнант Генрых Крыс. Ён звярнуўся ў гарнізон...— далажыў белабрысы салдат і сумеўся.

— «Нічога не ведаем»...— перакрывіў салдата палкоўнік і тут жа гнеўна дадаў: — А хто ж павінен ведаць, чорт пабяры! Хто? Ну і падлажылі свінню. Меркавалі, я ні ў чым не разбіраюся, ці не так? Не, Вільгельм,— гнеў палкоўніка скіраваўся ўжо ў канкрэтным напрамку.— Так табе гэта не мінецца. Строіць жартачкі не дазволю.

Салдаты стаялі ні жывыя ні мёртвыя. Паапускалі галовы, баяліся паварухнуцца. Выгаварыўшыся, палкоўнік брыдліва пнуў нагой казу, павярнуўся і пайшоў, на хаду закідваючы на плячо ружжо.

— Гер палкоўнік,— адважыўся і гукнуў наўздагонку салдат у расхлістаным фрэнчы.

Але Носке пашыбаваў праз паляну, нібы нічога не пачуў.

Салдаты стаялі каля казы, разгубленыя і знявераныя. Недаўменна пазіралі адзін на аднаго.

— Кінем,— сказаў белабрысы салдат.

— Повар Іоган, як вядома, чакае паляўнічага трафея,— ускінуў позірк на свайго сябра другі салдат.

— Які ж гэта трафей? З вымем, са злямчанай шэрсцю... Цьфу!

— Хай сабе. Панясём, а ў лагеры разбяромся,— рашуча настойваў салдат у расхлістаным фрэнчы.

Немцы ўрэшце падхапілі казу за ногі і, азірнуўшыся, быццам бралі крадзенае, пашыбавалі да сваёй стаянкі.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Салдаты аддаляліся ў зацятай маўклівасці. Паміж іх постацямі матлялася забітая каза. «Ліхадзеі, бандыты! Навошта забілі?..» — і гнеў і жаласлівасць — усё перамяшалася ў душы Цітка.

Хлопец выношваў намер уступіць у барацьбу з ворагамі, абараніць ад бяды і Алачку і казу. Атрымліваецца ж — горш і не прыдумаеш.

Што будзе далей? Можа, і яго, Цітка, заб'юць, схопяць і вось так павалакуць, каб паказаць гэтаму фанабэрыстаму фашысту-паляўнічаму. «Гэтага не будзе! Не будзе!» — Ціток выпаўз з кустоў, са сваёй хованкі, на край паляны. Ягоны твар быў пакутлівы і злосны. Адчуванне бяссільнасці — ці не найгоршае з чалавечых адчуванняў? Ціток

стаяў і не ведаў, куды памкнуцца, што рабіць. Урэшце, чаму ён апынуўся каля гэтай паляны?

Ага, тут прыдатны лужок з белымі зоркамі расцвіўшай дзятлавіны. Значыць, тут ён намерваўся нарыхтаваць травы для казы. Цяпер нарыхтоўка гэта нікому не патрэбна. Козачка-бедалажка...

Прыгадаўся той дзень, калі ён і Вадзім Мікалаевіч ішлі па звярыных слядах. Хваляваліся. Ім уяўлялася, што гэта сляды дзіка. А тут, на няшчасце, некуды адбеглася Алачка... Ну і перапалохаліся! Бегалі, кідаліся ў розныя бакі, гукалі дзяўчынку. Няўжо дзік сустрэў яе? Тады... Потым ён, Ціток, на пагорцы-паляне заўважыў козачку. Каля яе, угрэўшыся, калачыкам спала Алачка.

Колькі прынесла радасці і шчасця козачка для жыхароў вострава. Хвіліны дойкі былі самыя ўрачыстыя. Алачка, як правіла, стаяла ўзбоч Вадзіма Мікалаевіча, трымалася за яго плячо і, пазіраючы, як тугія струмені малака падалі, цурчэлі ў бляшанку, у нецярплівасці прасіла: «Дай! Дай! Дай!»

Чым цяпер карміць дзяўчынку? Яна адна недзе там, на плывуне. Хаця б і з ёю чаго не здарылася. Пашыецца, дурненькая, у чарот, дабрыдзе да берага і — ...Ціток аж вочы заплюшчыў ад жахлівага ўяўлення.

Трывога за лёс Алачкі моцна апаліла хлопцава сэрца, і ён паспяшаўся да стаянкі. Нават забыўся на рыбу, якую павінен быў зняць з карча.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ДРУГІ

Ну і ну! Вось дык абстановачка! Ёсць над чым паламаць галаву. Тры чалавекі ў групе, а шчыра гаварыць і дзейнічаць не могуць. Кожны гэта адчувае: прытаіліся, насцярожыліся, чакаюць, як выкарыстаць нетрывалую супольнасць сабе на карысць. Клімчук-Крывароты, вядома, не ведаў, што адкрыта яго тайна. Ён, канешне, заўважыў насцярожанасць Вадзіма да сябе, але тлумачыў яе ўласцівасцю ягонага характару. Паспрыяла, відаць, гэтаму і ягоная, Рыгорава, неабачлівасць там, каля партызанскага калодзежа.

І штурхнуў жа чорт яго пад рабро, надаўміў выхапіць у Вадзіма вінтоўку. Як след растлумачыць Вадзіму свае паводзіны ён тады не здолеў — і во цяпер няма яму да-

веру. «Але чорт яго бяры,— разважаў сам з сабой Клімчук-Крывароты.— Няхай натурыцца. Мне вы, хлопчыкі, патрэбны, як у мосце дзірка. Галоўнае, каб разам дабрацца да штаба».

Мішку Русака, камсамольца, разумеў, губляць ні ў якім разе нельга. Ён яго своеасаблівы праваднік. Калі ў апошнія дні змянілі сваё знаходжанне і штаб і дзядзька Андрэй, Міша пры сустрэчах з партызанамі мае поўнае права, не выклікаючы падазрэння, пытацца, як знайсці дарогу да свайго камандзіра.

Да таго ж, ён мае намер расказаць дзядзьку Андрэю аб ім, Клімчуку. Што ён рызыкаваў жыццём, цягнуў на сабе цяжкі мех, валіўся ў багну і, выратаваны, давёў справу да канца. «Міша паабяцаў, што і да ўзнагароды прадставяць. Во будзе смешна!»

А з Вадзімам іншая справа. Яго трэба ў расход... Гэта зрабіць не ўдалося там, каля партызанскага калодзежа. Клімчуку Вадзім не падабаецца. І вось чаму. У ім ён бачыць пасыльнага, які, прыхаваўшы нейкую тайну, спешна дабіраецца да галоўнага партызанскага камандзіра. Бач, не кідае свайго вясла, з якім спаў каля калодзежа. Во і зараз сядзіць, размаўляе з Мішкам Русаком, а пры баку, справа, ляжаць і вінтоўка і вясло. Няхай бы Русак зацікавіўся, навошта і куды ён цягне яго. Дык не, быццам і не заўважае.

Можа, самому пачаць гаворку пра гэта, як бы жартам. Магчыма, Вадзім перад сябрам акажацца больш шчырым. І толькі ён памкнуўся раскрыць рот, як загаварыў Мішка Русак:

— Рыгор, нешта ты адкалоўся. Сядай бліжэй.

Клімчук борзда перасеў да ад'ютанта. Мішка асядлаў сасновы пянчук, кубанка ляжала на каленях, і ён дзюралевым грабеньчыкам прычэсваў валасы.

— Дай і мне, разумееш, прычасацца,— папрасіў Крывароты і растлумачыў: — Згубіў недзе сваю, таксама была з дзюралю. А перад вайной купіў чырвоненькую, касцяную, у футлярчыку. Калі ў партызаны прыйшоў, падарыў свайму камандзіру Змітраку Дукоры. Яна і цяпер у яго. Фарсіць!

Вадзім зірнуў на Клімчука, ціпіком усміхнуўся. Цікава назіраць за чалавекам, які па натуры воўк і накінуў на сябе авечую шкуру. Бач, якім спагадлівым дабраком выстаўляецца.

Было, вядома, непрыемна адчуваць, што сядзіш побач з агідным стварэннем, душа якога цалкам прададзена ворагам. Хацелася ўстаць, схапіць вінтоўку і прашыць яго штыхом. Бач, прыліп, прыстроіўся да Русака, імкнецца прабрацца бліжэй да штаба. Значыць, у яго нейкае важнае і адказнае даручэнне. Ён, пакуль не адчуе пагрозы, нікуды не ўцячэ. Значыць, вельмі важна яго не спалохаць.

У такім выпадку ён, Вадзім, не мае права нават Мішку Русаку гаварыць, кім на самой справе з'яўляецца Рыгор Клімчук. Аднак неяк неабходна папярэдзіць яго, каб пільнаваў зброю, каб быў гатовы ёю дзейнічаць. Той, каля калодзежа, намер Клімчука выхапіць у яго вінтоўку сведчыў, што здраднік гатовы на ўсё, што ён паспрабуе пайсці на адчайныя правакацыі.

— Сябры! — ціха і проста пачаў Міша Русак.— Як бачыце, лёс злучыў нас у адну групу. Мы знаходзімся на тэрыторыі партызанскай зоны. Вядома, да цэнтра вострава яшчэ далекавата. На маю думку, ён за пятнаццаць кіламетраў ад нас. Мясцовасць я, напрыклад, слаба ведаю. Трэба будзе ісці па азімуту. А гэта намнога ўскладніць нашу дарогу. Давядзецца зноў лезці праз карчы, праз балоты, мясіць нагамі дрыгву. Могуць узнікаць непажаданыя сітуацыі. Я не магу цвёрда вас запэўніць, што мы не сустрэнем ворагаў. Фашысты, як вы ведаеце, прыкладаюць усе сілы, каб задушыць нас блакадай. Яны здольны і на хітрыкі, каварныя прыёмы. Могуць паслаць у наша расплажэнне дыверсантаў, шпіёнаў, пераапранутых паліцаяў. Такім чынам, вуха трэба трымаць востра. Трэба, каб у нас была дысцыпліна, высокая пільнасць, асцярожнасць. Трэба, каб у нас быў свой камандзір, якога б мы слухаліся і якога цанілі.

— Мішка, ты і бярыся камандаваць,— гукнуў Рыгор Клімчук, пазіраючы ў хлопцаў прытомлены твар.

— А мне здаецца, што за камандзіра можна паставіць Вадзіма Мурашку. Ты хто па прафесіі? Здаецца, настаўнік. Ну, во, маеш за плячыма — інстытут. Дык як?

— Міша, не набівай сабе, разумееш, цану,— прамовіў Клімчук.— Ты дагэтуль камандаваў, па крайняй меры, мной, і ў цябе добра выходзіла. Дык і заставайся камандзірам. А Вадзім пачакае. Можа, яму дзядзька Андрэй дасць узвод ці атрад. Накамандуецца!..

Мурашка ўздыхнуў, зірнуў некуды ў гушчар:

— На мяне, хлопцы, камандзірства не ўзвальвайце. Мне добра і радавым. Бачыце, у мяне ні выпраўкі няма, ні выгляду. Мішка, ты ўвесь у лампасах і голас у цябе зычны — усе даныя на камандзіра. І Рыгора можна было б,— знарок сказаў Вадзім, каб не вельмі настырацца з гэтым тыпам.— Калі ты, Мішка, так ужо не хочаш, няхай будзе Рыгор.

Клімчук ветліва кіўнуў галавой.

— А што, і вазьмуся...

— Я адхіляю такую прапанову,— запярэчыў Русак.— Рыгор у нас мае пасаду — адказны за боепрыпасы. Да таго ж, нельга не ўлічыць яго шырокую спіну. У выпадку чаго ён павінен самастойна транспарціраваць наш груз. Так што, Рыгор, выбачай. Значыць...— Мішка запнуўся, недагаварыў.

— Камандзірам нашым прызначаецца Міхась Русак,— абвясціў Вадзім Мурашка.

— Добрыя ў мяне салдаты. Толькі вось вопратка — абы-што... Фу-ты ну-ты! Прыйдзем у штаб, папрашу дзядзьку Андрэя, каб вас толкам прыадзелі. А цяпер, перад тым як ісці, давайце сядзем, падумаем. У нас дзве дарогі: кружыць па астравах і па закутках балотных — доўгая і блытаная, і другая — па азімуту. Якую выберам? Падумайце, каб потым не было нараканняў. Я — за карацейшую...

— Найразумнае рашэнне,— падтрымаў камандзіра Вадзім.

— І я на гэта згодзен. Час у нас дарагі, самі разумееце. Толькі, мне здаецца, на нашым шляху тваністае балота ёсць. Каб мы не заселі...

— Мы з табой вунь якое прайшлі, і нічога. А тое балотца вузкае. Пяройдзем.

— У мяне ўзнікла адна думка, камандзір,— узняў позірк на Русака Вадзім.

— Слухаю, гавары.

— Справа вось у чым. У выпадку сустрэчы з праціўнікам мы павінны прыняць бой. Я прапаную, каб ты аддаў мне свой аўтамат, я буду прыкрываць ваш адыход.

— Аддаць аўтамат? Чакай, чакай, а ты мне вінтоўку?

— А як жа,— пацвердзіў настаўнік.— Там, у баі, будзе позна мяняцца зброяй. А табе як камандзіру нельга заставацца на прыкрыцці...

— Праўду кажаш,— марудна, як бы яшчэ вагаю-

чыся, Русак зняў з пляча аўтамат.— А ўмееш ім карыстацца?

— А то не! Не адзін раз страляў, умею разбіраць, складаць.

— То бяры,— і хлопцы абмяняліся зброяй.

Вадзім неўпрыкмет, адным вокам, зірнуў на Клімчука. Такі паварот справы быў, вядома, Клімчуку не па душы. Ён спадзяваўся, што ў крытычны момант ён завалодае Мішкавым аўтаматам і адразу стане дыктаваць ім свае ўмовы. Цяпер такая магчымасць амаль выключалася, знікла. У Вадзіма не вырвеш зброі.

Ён нахмурыўся, паддаўся трывозе. Як і меркаваў, гэты хлопец з вяслом нібы нешта ведаў пра яго, нібы чытаў ягоныя думкі. Жаданне забіць, знішчыць яго ўзмацнілася. «Толькі трэба гэта зрабіць лоўка. Каб і камар носа не падтачыў...»

Тут жа дамовіліся, як несці мяшок з боепрыпасамі.

— Пытанняў няма? — зухавата спытаў Мішка Русак, аглядаючы падначаленых.

— Няма.

— Тады пайшлі!

Вадзім паклаў вясло на насілкі каля меха, позіркам паказаў Рыгору, каб станавіўся ўперад.

— Я хацеў бы ззаду. Мне так зручней,— папрасіўся Клімчук.

— Ты не забывай, Рыгор, ваеннай тактыкі. Я павінен ахоўваць тыл нашай групы. Ну, бярыся!

Хлопцы ўхапіліся за насілкі. Вадзім крочыў не згінаючыся. Насілкі гоцаліся, пружынілі на напятых мускулах, нават як бы прыспешвалі хаду.

Добра ішоў і Клімчук. Яго тоўстая кароткая шыя была наліта чырванню. Фуфайку ён скінуў, каб не было душна, паклаў на насілкі. Вадзім уважліва яе разглядаў, шукаў вачыма тайныя прарэзы. У здрадніка павінна быць што-небудзь прыхавана. Што зброі ў яго няма, цяпер Вадзім у гэтым канчаткова пераканаўся. А нож, хоць маленькі, ён павінен мець. Можа, нават і фінку. Дзе ж тады яна? За халяваю бота?Як ні прыглядаўся да ботаў Вадзім, нішто не пацвярджала яго здагадкі. Тады недзе засунута ў фуфайку. Яе трэба пры зручным выпадку ўважліва абмацаць.

Вадзім з расказаў і Рыгора і Мішкі ўжо ведаў, як трапіўся ў багне Клімчук. Там, гавораць, засмактала багна

яго вінтоўку. Добра, што так здарылася. Калі б у Клімчука заставалася зброя, сітуацыя ў іх групе выглядала б больш складанай, чым цяпер.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

Алачка сядзела ў чаротавым закутку, што аблюбаваў для яе Цiток. Глядзела, дзівілася на цёмную хмару, якая, як ноч, выпаўзала з поўначы.

Дзяўчынка не пачула, як наблізіўся Цiток.

— Ластавачка! Ты адна-адзінокая! — Цiток у шчырым парыванні падхапіў Алачку на рукі, прытуліў да грудзей.— От малайчына. Нікуды не пайшла. А я...

Тым часам на далёкай хмары сяды-тады жыгалі вогненныя сполахі. Няўжо на ноч збіраецца навальніца? Як жа начаваць? Дзе схаваць Алачку? І без гэтага абставіны скласліся, хоць ты крычма крычы. А тут на табе — яшчэ адна непрыемнасць.

«Эх!» — толькі і выгукнуў хлопец. Як яму хацелася, каб раптам вунь там, наперадзе, зашамацеў высокі шэравата-жоўты чарот і над ім праплыла пад знаёмай старэнькай кепкай галава Вадзіма Мікалаевіча.

Зноў яны былі б разам. Зноў селі б купкай, як бывала, на траўцы, гаманілі б, раіліся.

Вадзім Мікалаевіч, вядома, прывязе з сабой ежу — хлеб, печаную бульбу. А можа, нарве дзе на градзе морквы ці выцягне тоўстую бручку — таксама добра. От было б свята! Тут жа яны сумесна распрацавалі б план, як асіліць банду акупантаў, што нахабна заняла востраў. Тут — партызанская тэрыторыя. Ану, прэч адсюль!

Развагі гэтыя прымусілі выйсці хлопца на край плывуна, агледзець возера. Ён пазіраў у бок поўначы, пазіраў з вялікай надзеяй у вачах.

Міналі ўжо суткі з часу адплыцця Вадзіма Мікалаевіча. Калі з ім нічога не здарылася, павінна з'явіцца лодка, павінен нехта прыплысці.

Але люстра возера было роўным на ўсім працягу аж да самага небасхілу. Толькі ўдалечыні паміж небам і возерам ліхаманкава мітусіліся крыклівыя чайкі ды зыбалася нагрэтае паветра. Цiток разумеў, што спадзеўка на паяўленне лодкі ў дадзены момант наіўная. Дзень стаіць як звон.

Вось ноччу можна пастаяць пры беразе, пачакаць. Як толькі заплюскоча вада, зарыпяць уключыны — то гэта будуць яны, партызаны!

Магчыма, сённяшняя ноч можа быць паваротнай і рашаючай.

Дзядзька Андрэй ужо, відаць, атрымаў дэпешу. Ён аддасць загад на выхад з блакады. Гэта толькі так гаворыцца — кальцо блакады. А ў нейкім месцы яно, вядома, нетрывалае. Вось туды і трэба ўдарыць! Ударыць замашыста, хвацка, па-партызанску. Каб вораг і ачомацца не паспеў.

Хлопец глядзеў на поўнач, на лес, на хмару, і зыркія сполахі маланак над лесам Цітку здаваліся водблескам будучай бітвы.

Перамога?! Калі яна будзе? Пакуль што тут, на востраве, усё выглядае досыць пагана. Можа стацца, што раптам каза, якую забіў фашыст-паляўнічы, прымусіць іх задумацца, як і чаму яна з'явілася тут, на востраве, і фашысты вырашаць наладзіць старанную прачоску лесу.

Тады прападуць і ён і Алачка. Не спатрэбяцца ім ні лодка, ні адменныя партызанскія пачастункі.

Ад супярэчлівых думак аж разбалелася галава. Хлопец адвёў позірк ад лесу, ад возера, падкінуў на руках дзяўчынку, каб ёй было больш зручна сядзець, і адышоўся ад берага.

Сонца апускалася ніжэй і ніжэй, было ўжо за дрэвамі вострава. Плывун знаходзіўся пад полагам шэрага ценю. Дзень адгараў. Дзень, які нечакана прынёс і трывогі, і пакуты, і няшчасці. «Што ж, цяпер спадзяванне на ноч,— вымавіў ціха Ціток і цвёрда сказаў: — Мы ім пакажам! Разумееш, Алачка,— пакажам!»

— Дода! — па-свойму хораша, зычліва адгукнулася дзяўчынка.

— Адна ўмова, Алачка,— пазіраў у блакітныя вочкі хлопец.— Ты мне павінна памагаць. Добра? Пакуль прыйдуць к нам партызаны, пакуль тое ды гэта. Няма ў нас рук, ног, смякалкі? Я ж, разумей, Алачка, таксама партызан. Я,— ты і не ведаеш,— падносіў патроны нашым на Бакланскай дарозе. Я быў пад кулямі і мінамі. Ты знаеш, што такое кулі? Не? Яны, Алачка, як шэршні, злыя і страшныя. Цяпер трэба, Алачка, падумаць, чым цябе накарміць. Козачкі няма. Няма і малачка. Ведаеш, чым мы яго заменім — рыбкай! Ты пасядзі тут, пад алешынай. Я хуценька...— Хлопец зняў з рук дзяўчыну. Сабраў рас-

сыпаныя цацкі, падгарнуў да яе ног. Алачка зацікавілася жалудкамі.

Цірок у адлучцы быў нядоўга. Рыбка аказалася на месцы і няблага прывялілася. Алачка спачатку моршчылася, грэбавала такім несамавітым пачастункам, выплёўвала кавалачкі рыбы. Цітох паказваў, што рыбка смачная, жаваў яе і соладка прыцмокваў языком. Толькі такім чынам удалося пакласці дзяўчынцы ў рот жарсткаватыя кавалачкі дробных плотачак і пячкурыкаў. Вядома, вячэра нікудышняя.

— Дай! Дай! — раптам, быццам нешта ўспомніўшы, падхапілася з купінкі Алачка і скіравалася да алешынкі. Там, каля выпнутага чорнага карнявішча, ляжала бляшаначка. Яна ўзяла бляшаначку абедзвюма рукамі, падыбала назад да Цітка.

Спынілася насупраць яго, глянула ў вочы патрабавальна.

— Дай! Дай! — сказала яна.

Як растлумачыць дзіцяці, што малака няма і не будзе? Што каза, якая яшчэ нядаўна давала ім малако, цяпер ляжыць недзе каля зыркага агню, з яе фашысцкі повар робіць шашлык ці катлеты.

— Ластавачка мая! — зашаптаў Цітох, і шчымліва-жаласныя слёзы навярнуліся на вочы.— Ты пачакай. Мы адужаем фашыстаў. І малачко будзе. Будзе!.. А цяпер, Алачка, гэтай бляшаначкай пап'ём вадзіцы. Вада таксама смачная. Чай!

— Цай! — падхапіла новае слова дзяўчынка і запатрабавала: — Дай! Дай! Цай!

— Во, гэта іншая справа,— крыху павесялеў хлопец.— Калі трэба цай, мы яго знойдзем.

Цітох з бляшанкай у руках скіраваўся на край плывуна, зачэрпнуў вады. «Пустая вада. Які ж гэта чай? Аднак прыдумаць нешта трэба. Нельга падманваць дзяўчынку. У ваду хіба дадаць нейкага соку... Якога соку, з чаго?»

Ён пабег у лес і праз паўгадзіны прынёс паўжмені рабіны. У хуткім часе і Алачка і Цітох ласаваліся напіткам, які быў для іх і чаем, і кавай, і малачком.

* * *

Вечар прыйшоў нечакана. Пасля заходу сонца хораша свяцілася неба, на ім гулялі, мяняючыся, розныя фарбы. Пярэдні край чорнай хмары, што насоўвалася з поўначы, быў так размаляваны — не адарваць вачэй. Было бачна, што хмара складаецца не з аднаго пласта, а з некалькіх. І цікава, кончык кожнага пласта свяціўся па-свойму: самы ніжні быў ярка-чырвоны, другі зіхацеў аранжавай афарбоўкай, трэці і чацвёрты былі пад колер лімона. Узмацняўся вецер, і хмара варушылася, паўзла чорным пантонам на абсягі чыстага неба.

Цітох глядзеў на хмару і не ведаў, радавацца ёй ці не. Тое, што ён задумаў на ноч, патрабавала цемрадзі і такога парывістага ветру, каб гулі, калыхаліся дрэвы, каб грымела возера. Адным словам, каб лёгка, непрыкметна можна было падкрасціся да фашыста-вартавога.

Для Алачкі, для яе сну трэба, наадварот, спакойная ціхая ноч. І каб, галоўнае, не было дажджу.

А тут выходзіла, што набліжалася навальніца. З такой важкай хмары, вядома, хлыне лівень. Куды схаваць дзіця ад яго? Тут, на плывуне, не было ад яго надзейнай схованкі. Вакол тырчаць пруткі чароту ды адзінокія заскарузлыя кусцікі вербалозу і алешынак.

Праз некалькі хвілін неба пагасла. Хмара стала суцэльна чорнай, навальнічныя сполахі чаргаваліся з зігзагамі вострых маланак. Маланкі так крута ўразаліся ў хмару, што асвечвалі нават яе нутро.

Пагрозна і важка каціўся гром.

Алачка з непрытоенай бояззю глядзела на хмару. А калі грымеў гром, яна заплюшчвала вочкі і ціснулася да Цітка.

— Дода! Дода! — паказвала дзяўчынка на хмару.

— Не бойся,— супакойваў яе хлопец.— Будзе дождж. А дожджык не кусаецца.

Вецер узмацняўся. Хвалі гулі і пеніліся, і так хвасталі па плывуне, што адчувалася, як ён тузаўся, калыхаўся. Суха і рэзка шастаў чарот. Цітох разумеў, што давядзецца дзяўчынку вясці на востраў у буду. Буда добра замаскіравана. Ноччу фашысты будуць адпачываць. Значыць, небяспекі асаблівай не прадбачылася.

Цітох выйшаў з чароту, каб яшчэ раз глянуць на возера: «А раптам...»

Як толькі ён прыпыніўся, ударыла хваля і абдала пырскамі. Змрок цалкам запаланіў далячынь, няблага бачылася толькі блізкая разлегласць вады. Ні агеньчыка наўкол. Ніводнай прыкметнай кропкі, за якую б магло зачапіцца вока. На ўсім ляжала адзнака загадкавасці, тужлівасці. Пасланцы ад партызан чамусьці не з'яўляліся.

«Тады што ж, як кажуць, было не было!» — уздыхнуў хлопец, настройваючыся пад грукат навальніцы на ваяўнічы лад.

Праз хвілін пятнаццаць Цiток з Алачкай стаялі каля буды. Заціснутая паміж разлапістых ялінак, яна ледзь угадвалася. Дзяўчынка, убачыўшы знаёмае жытло, шчасліва засмяялася і хуценька спаўзла з Цiтковых рук на зямлю. Яна першай палезла пад страху, паклікала:

— Дода! Дода!

— Ціха, Алачка, маўчы! — Хлопец сагнуўся і ўціснуўся ў буду.

На доле хлопец паслаў дзяружку, расправіў яе, пасадзіў каля сябе Алачку. Дзяўчынка сядзець адна не хацела, перабралася да Цітка на калені, прытулілася да яго.

У будзе было цёмна і суха. Праз верхнюю частку лаза бачылася неба. На ім рэзка вызначаліся контуры вершалінаў. Дрэвы гойдаліся, вецер перабіраў іх кожны лісточак, і наваколле было запалонена густым шумам-звонам.

Што робяць зараз фашысты? Яны размясціліся як трэба. У іх палаткі, каля іх палае касцёр. Якраз гэтым часам яны, відаць, вячэраюць, жаруць. Сэрца ў Цiтковых грудзях стукае, заходзіцца ад нецярплівасці.

Рука міжвольна пацягнулася ў кут буды, што пры ўваходзе. Лязо рыдлёўкі на месцы. Хлопец падняў яго, паважкаў і яшчэ раз пераканаўся — замашыстае.

Ціхенька варушачыся, Цiток калыхаў Алачку. Дзяўчынка нешта мармытала, як бы спявала песеньку. Аб хлапечы падбародак коўзалася яе галоўка з мяккімі блытанымі валаскамі.

Лес шумеў, рыпеў стволлем, галінамі, панура стагнаў. Край неба, што бачыўся з буды, стаў чорным, непраглядным — хмара рухалася, займала ўсё новыя і новыя абшары. Громляскатаў недзе далёка. Алачка як бы прывыкла да яго — болей ужо не ўздрыгвала.

Хлопец пацалаваў яе ў галоўку, паправіў на ёй сукенку і асцярожна паклаў на дзяружку. Цяпер — за справу! Ну, ночка, не падвядзі!

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТЫ

Калі Цiток выйшаў з буды, з хвiлiну пастаяў, прыслухоўваючыся.

Морак быў не вельмi густы, зблiзу досыць акрэслена бачылiся ствалы дрэў, купы лазняку.

Цiток пачуў, як асцярожна, быццам баючыся парушыць начную цiшу, зацiлiнькала нейкая птушка. Хутка голас яе прапаў. Па-ранейшаму ад ветру шапацела наваколле. Цiток рушыў у глыб вострава, кiруючыся паўз зараслi кустоў. Як нi асцерагаўся хлопец, але наступаў на сушняк. Некаторыя галiнкi, ламаючыся, давалi гук сапраўднага стрэлу. Страх бiў тады проста ў сэрца.

Счакаўшы нейкi момант, Цiток пракладаў шлях далей. За бугром, на якiм была знойдзена каза, пачынаўся малады рэдкi хвойнiк. Балюча ўпiвалася ў босыя ногi iглiца. Даводзiлася спыняцца, атрасацца.

Наперадзе праз частакол хвойных ствалоў замiльгалi сполахi агню. Паляна, дзе размясцiлiся немцы, была блiзка.

Што адчуваў хлопец у гэты час? Ён знарок думаў аб мацi, аб сястры. Аб iхняй смерцi. I вядома чаму: каб не спалохацца, не адступiцца назад. Каб тое, што ён будзе рабiць, рабiлася як бы i з iх дапамогай.

Хлопцава сэрца калацiлася, але не ад трывогi — ад хвалявання. Напружанасць мускулаў была на мяжы магчымага. Наогул у гэты час ён быў гатовы i да рашучага скачка, i да iмклiва-маланкавага бегу.

Каля кастра мiтусiлiся постацi. Да слыху даляцелi гукi музыкi. Ого, немчура разгулялася! Яны, вiдаць, тут i вiном забаўлялiся.

Яшчэ адзiн рывок уперад. Хлопец тулiцца да камля высокага клёна, якi стаiць на мяжы паляны i лесу. Цяпер перад Цiтком усё як на далонi. Касцёр вялiзны, яркi i траскучы. Дроў фашысты не шкадуюць. Малiнава-чырвоныя языкi трапечуць пад адкрытым небам, высвечваюць на паляне дзве палаткi i прадаўгаваты стол. На стале ўзвышаецца радыёпрыёмнiк. Гэта ад яго ляцiць, грымiць такая бадзёрая iмпэтная музыка. На паляне некалькi чалавек — афiцэр i тры салдаты. Афiцэр тонкi, цыбаты, ён махае ў такт рукой, дырыжыруе. Салдаты сядзяць спiнамi да стала, рагочуць. Вiдаць, нехта з iх расказвае штосьцi смешнае.

І вось паляна напаўняецца новымі людзьмі — з палаткі, падобнай на вялізную курапатку, што прысела на гняздзе, выходзяць фашыст і жанчына. Ціток пазнае яго — гэта паляўнічы, што забіў казу. Ён у вайсковай форме. На фрэнчы — нейкія ўзнагароды. Фуражка высокая і яшчэ больш узбуйняе яго масіўную галаву. Жанчына стройная, у цёмным плацці з кароткімі рукавамі. Валасы зграбна аблямоўваюць яе твар.

Не дайшоўшы да кастра, афіцэр-паляўнічы спыніўся. Вось ён схіляецца ў паклоне да жанчыны, і яны пачынаюць танцаваць. Ідуць па кругу вакол кастра, няспешліва, самавіта. Цыбаты афіцэр перастае дырыжыраваць, пачынае сачыць за танцам. Калі абрываецца музыка, ён у запале крычыць «брава» і пляскае ў далоні. За ім услед пачынаюць пляскаць і салдаты.

Афіцэр-паляўнічы з жанчынай падыходзіць да кастра. Стаіць [redacted] хвіліну, потым клопатна схіляецца, бярэ паленні-недагаркі і шпурляе іх у пашчу агню. Касцёр шугае полымем, выкідвае ўгору тысячы іскрынак. Яны трашчаць, віхурацца, нікнуць.

Афіцэр-паляўнічы нешта гаворыць жанчыне, абдымае яе, смяецца. «Ах ты, пачварына,— абураецца хлопец.— Во, няма гранаты. Шпурнуў бы пад ногі...»

Гучыць новы танец, і афіцэр-паляўнічы зноў у крузе з жанчынай. Жанчына нясе галаву стрымана, горда. «Калі гэта наша, яе мала павесіць...».

Тым часам на паляне з'явіўся яшчэ адзін чалавек. Гэта салдат-вартавы. У руках ён трымае напагатове тупарылы аўтамат. Вартавы сунецца, як цень, марудна і ціха, уводдалі, берагам паляны. Касцёр асвятляе ягоны твар. Выгляд у салдата дзябёлы, моцны. Пад шырокім пакатым ілбом бліщчаць вочы. Ён як бы не зважае на вечарынку, ідзе сабе ды ідзе. Час ад часу пад яго нагамі хрупаюць галінкі і хвойныя шышкі. «Ого, з гэтым ці саўладаю,— прымерваецца Ціток.— Выкармлены, як кабан...» Вартавы неўзабаве параўняецца з клёнам, за якім, стаіўшыся, стаіць хопец. На ўсякі выпадак Ціток адыходзіць назад, мяняе месца. Цяпер хлопец займае назіральны пост у кустах ялінак. Яны з ім роўныя, і хлопец праз гонкія вершалінкі няблага бачыць паляну.

Танец працягваецца. На гэты раз музыка быстрая, і афіцэр-паляўнічы з напарніцай зухавата перабіраюць нагамі, выбіваючы такты.

Вартавы побач. Салдат, нібы адчуўшы трывогу, паварочваецца к лесу, нават запыняецца. Хлопец хавае галаву за ялінкі. Але яго вочы насцярожана трымаюць на прыцэле вартавога.

Салдат сунецца далей. Цяпер відаць яго плечы і ўся пастава, перацiснутая ў поясе рэменем. «Заб'ю гада, заб'ю!» — шэпча, нібы трызніць, хлопец і мацней сціскае цясак рыдлёўкі.

Цяпер ён жадае, каб іменна гэты салдат быў на пасту, каб іменна з ім памерацца спрытам і сілаю.

Закончыўшы круг па паляне, вартавы скіроўваецца на прасеку, што вядзе да Чорнага дуба, да ўсходняга берага возера. «Маршрут,— прыкідвае ў думках хлопец,— невялікі, але пры такой маруднай хадзе на яго траціцца не менш як дзесяць хвілін. Значыць, ёсць час, каб пагаспадарыць і каля палатак. Хай толькі ворагі ўлягуцца. Хай толькі насунецца поўнач і ў наваколлі запануе цішыня. Тады... Эх, як марудна ідзе час!»

А музыка грыміць, шалёна віхурыцца над палянай, і перад хлапечымі вачыма пачынаюць танцаваць не толькі афіцэр-паляўнічы са сваёй напарніцай, але і дрэвы, і кусты, і нават зыркі касцёр.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ПЯТЫ

Занятыя важным клопатам, хлопцы, прызвычаеныя да ваеннай абстаноўкі, не вельмі звярталі ўвагу на гул канапады. Між тым фашысты не паслаблялі націск на партызан. Выбухі калацілі зямлю ў розных баках і напрамках партызанскай зоны.

Стукае і стукае недзе на поўдні, потым раптам серыя дрыготкіх выбухаў пачынаецца на ўсходзе. А праз дзесятак хвілін чуеш, як гул пачынае наплываць з захаду. Не шкадавалі фашысты ні мін, ні снарадаў.

Гэта асабліва заўважалася ў лесе. Некаторыя ўчасткі лясной прасторы былі так знявечаны і пашкуматаны, нібы па іх прайшлася шалёная бура. На доле валялася абламанае і пасечанае голле, многія дрэвы стаялі без вяршынь, ствалы бяроз і сосен былі аблузаны асколкамі і свяціліся ранамі. Здаралася, што снарад трапляў пад карнявішча,

і тады нават магутнае дрэва ўзлятала ўгару, ламалася і крышыла сваім вузлаватым суччам суседзяў. А колькі было ямін ад выбухаў!

Зараз якраз хлопцы натрапілі на абстрэляную паласу лесу. Шлях усё часцей перагароджвалі то разлапістыя, што валяліся на доле, галіны, то паваленыя дрэвы, то свежыя варонкі, што моцна пахлі порахам. Каля высокага клёна, кара якога з аднаго боку камля была аблузана, высіўся прадаўгаваты холмік.

— Курганок-магіла,— сказаў журботным прыцішаным голасам Міша Русак і прыпыніўся. Хлопцы апусцілі на дол насілкі, пачалі аглядацца па баках. Што тут адбылося? Як загінулі людзі? Хто яны былі — партызаны ці бежанцы? На магіле не было ні слупка, ні надпісаў. Міша зняў з галавы кубанку. Вадзім гаротна ўздыхнуў. Паблізу жаўцелі дзве варонкі. Былі яны глыбокія, закіданыя пасечанымі галінамі і сасновым карэннем.

— Тут упалі бомбы,— адзначыў Вадзім і растлумачыў: — Бач, наўкол усе дрэвы з цэлымі вяршынямі.

І Рыгор Клімчук, і Міша Русак ускінулі ўверх галовы, пачалі разглядаць лес. Ён тут быў змешаны: побач са старымі высокімі соснамі стаялі такія ж гонкія і магутныя асіны, каля іх суседзіліся бярозы, клёны. Сям-там пракідваліся і дубы. А ў закутачку, узбоч невялікай паляны, зарослай густым сіўцом, тулілася каля шырокіх плячэй дужака-граба рабіна.

— Ой, што я бачу,— усклікнуў Русак і паказаў рукою ў бок галінастай бярозы.— Вінтоўка! Вісіць вінтоўка...

— Вінтоўка? Дзе? — загарэўся Рыгор Клімчук, увесь настрыўся і стаў шныпарыць позіркам у тым баку, куды паказаў рукою Мішка-камандзір.

— Ды вунь, на бярозе. Бачыце?

Вадзім Мурашка ўбачыў знаходку. Сапраўды, высока ўгары, на абсечанай галіне, зачэпленая за рэмень, вісела вінтоўка, руляй у неба. Дзіўна было бачыць зброю на дрэве. Гайдалася дрэва, у такт яму ціха хісталася і вінтоўка. А вышэй, над верхавіннем лесу, беглі і беглі лёгкія белагрудыя воблачкі. Жудасць праціхала сэрца. Вось што нарабіла тут смерць! Пабіла людзей, а вінтоўку пачапіла пад небам, як жахлівы сімвал вайны.

— Як яе, разумееш, дастаць? — загарэўся Клімчук, вывучаючы ствол бярозы.

— Братка, яе ўжо дасталі б,— сказаў Мішка Русак,

папраўляючы рэмень на гімнасцёрцы.— А калі ты надта прыткі, паспрабуй.

— Далекавата ад ствала. А голле ў бярозы крохкае,— разважаў услых Вадзім Мурашка.— Не дастанем. Нельга, Рыгор, рызыкаваць,— закончыў ён катэгарычна.

Вядома, прыклаўшы клопаты і асцярожлівасць, можна было паспрабаваць зняць вінтоўку. Але Вадзім не хацеў, каб Клімчук атрымаў у рукі зброю.

Рыгору ж вельмі закарцела прыдбаць лясны трафей.

— Хлопчыкі, то як жа дастаць? Бачу, яна цэлая, з прыкладам — усё як мае быць. А-а? — умольна пазіраў ён то на Русака, то на Мурашку.— Парайце, дапамажыце.

— Лезь ды здымі. Што тут яшчэ раіць,— спакойна сказаў Міша.

— Таварыш камандзір, то вы лягчэйшы. Вас галіна можа вытрымаць...

— Ага, можа. Ты заўсёды такі?

— Які?

— На чужым гарбу хочаш у рай трапіць.

— Ну, не жартуй, Мішка, паспрабуй. А то мне будзе сорамна перад Змітраком Дукорай. Пачне прыставаць, дзе згубіў вінтоўку, як? Ён можа не паверыць, што я тапіўся...

— Не палезу,— адмоўна хіснуў галавой Русак.— Трэба шукаць жардзіну і... А так, рукамі — мы толькі згубім час. Давайце на гэтым спрэчкі закончым.

Русак апусціў позірк на свежую магілу.

— Тут пахаваны нашы хлопцы-партызаны. Спакойнага, вечнага вам сну, дарагія сябры! — ён схіліўся, падняў з-пад ног грудку зямлі, раструшчыў і сыпнуў на магілу.

Са шкадаваннем адарваў позірк ад бярозы Рыгор Клімчук. Раздражнена насунуў на галаву кепку, узяўся за насілкі. Ад незадаволенасці, што яму не хочуць дапамагчы, выручыць, зласліва засоп.

— Ах, Мішка, Мішка! Добра, запомню. Прыйдзе каза да воза...

— Ты хочаш, каб я ўсякі раз рызыкаваў дзеля цябе? Фу-ты ну-ты. Ужо было, выцягнуў з балота, з таго свету, можна сказаць. Я ішоў, не забывай, на рызыку. А цяпер — iзноў? Ведаеш, аб сабе, аб вінтоўцы паклапаціся сам.

— Ды я паклапаціўся б. Але, бачыш,— і ён паказаў на сваю фігуру.— У мяне вага...

— А я хіба птушка, што мог падляцець да той вінтоўкі...

— Ты ж павінен быць сам зацікаўлены, каб я меў зброю. А то раптам сустрэнемся з фашыстамі. Вы будзеце адбівацца. А мне што рабіць?

— Быць запасным. У рэзерве. Калі, крый божа, нешта з намі здарыцца,— з адным, ці з другім, падменіш. Зразумела табе, баец Рыгор Клімчук.

— Зразумела,— мусіў пагадзіцца ён.

Падарожнікі прабіраліся наперад па лесе, які захоўваў сляды бязлітаснага руйнавання вайны. Доўгі час маўчалі. Першым ішоў Міша Русак, ён старанна аглядаў мясцовасць, выбіраў найбольш зручныя праходы праз завалы, праз глухія дзікія зараснікі. Такая мясцовасць яшчэ нішто сабе. Тут можна спатыкнуцца, упасці, і гэта нічога. А вось калі пачнецца балота, там напатузаешся, добра напарвеш пуп.

Вадзім Мурашка зведаў балотную твань амаль гэтак жа, як і Рыгор і Міша. І калі ветрам данесла пахі затхлай вады, ад непрыемнага ўзрушэння хлопец аж сцепануў плячыма. Няўжо балота? Адна справа ісці па ім улегцы, другая — з цяжкім мяшком. Будзе патрачана столькі часу. А які ён дарагі ў Вадзіма!

Трэба спешна, без затрымкі несці эстафету, трэба выручаць дзяцей з бяды.

Міжвольна думкі яго скіраваліся да вострава Чорны дуб. Сонца збегла з поўдня. Што робяць гэтым часам Ціток і Алачка? Асабліва яго непакоіла дзяўчынка. Ці накормлена? Ці не плача?

Добра, што ў іх ёсць буда, там можна схавацца і ад ветру і ад дажджу. Вадзім праз прагалы паміж вяршынямі паглядзеў у неба. Па ім беглі лёгкія воблакі. З такіх на дождж не збярэцца. Хіба недзе на небасхіле ляжыць чорная хмара. На жаль, з-за дрэў не праглядалася далячынь. «Дода! Дода! — прыгадаўся мяккі, ласкавы галасок.— Як жа ты там, сірацінка? Вось жа выпала табе нярадасная доля. Даруй, на востраў пакуль няма каго паслаць».

Можа, параіцца з Мішам Русаком і ад'ютант сам паедзе да дзяцей? Тады яны застануцца ўдвух — Клімчук і ён. Сітуацыя яшчэ больш ускладніцца. Хоць здраднік без зброі, але гэты тып можа такое прыдумаць, што толькі ахнеш.

Фактычна яны з Мішам канваіруюць здрадніка. Трэба рабіць усё неабходнае, каб ён адчуваў сябе раўнапраўным у групе. Трэба яго даставіць у штаб жывым і здаровым.

Каб з яго маглі выпытаць тайну, сакрэты, якія ён ведае.

Стары лес радзеў, меншаў. Паміж стволля выбліснула сінява неба. Там, наперадзе, паляна. На палянцы лягчэй існі і весялей. Падарожнікі збочылі і падаліся да яе, каб зрабіць невялікі прывал.

Адразу спыніліся, збянтэжаныя. У другім канцы яе яны ўбачылі паперыну, якая была прылеплена да ствала тоўстай крывой вярбы.

— Хлопцы! Бачыце? — прыцішана-ўстрывожаным голасам прамовіў Русак і паказаў рукою ўперад.

— Мішэнь...— выказаў здагадку Вадзім.— Тут вучыліся страляць. Ідзі разведай, што ды як, а мы пастаім,— звярнуўся ён да Мішы.

Ад'ютант, каб не выпінацца на чужыя вочы, падаўся краем паляны праз кусты. Праз хвілін дзесяць ён вярнуўся.

— Нідзе нікога,— сказаў ён і зморшчыўся, як ад зубнога болю.

— Чаго ты?

— Падыдзем, пабачыце. Карысна пабачыць,— удакладніў ён.

Паляна была некалі полем, зарасла дробным асіннікам. Вось і крывая вярба. Тут, пад яе шатамі, аказваецца, адбылася трагедыя. Працаваў партызанскі суд. З правага боку ад вярбы стаяла складзеная з жэрдак лаўка. На зямлі валяліся акуркі, абрыўкі вяроўчыны. На паперыне са шпалеры былі накрэслены чорнай фарбай словы: «Панікёр і правакатар Пракоп Жукавец, жыхар пасёлка Міткавічы, падбухторваў партызан здацца ў палон. Ад імя беларускага народа ён тут быў расстраляны. Смерць нямецкім паслугачам!»

— Пракоп! — усклікнуў Рыгор Клімчук.

— Ты яго ведаў? — павярнуўся да Клімчука Мішка Русак.

— Але, ведаў. З мястэчка — як не ведаць. Быў у сельпо прадаўцом, хамуты, вяроўкі прадаваў, газу...

— Хацеў і людзей прадаваць. От шкура! — пахмура, абурана кінуў Вадзім.— Я яго, сабаку, таксама ведаў. Аднойчы абдурыў мяне аж на дзесяць рублёў. Касцюм купляў, дык ён самавольна цану накінуў...

— Во, во, разумееш, за ім гэты грэх вадзіўся,— хуценька падхапіў Рыгор Клімчук.— Даўбешка, скруціў сабе

галаву. А дзяцей пакінуў, разумееш, цэлую кучу. Васьмёра ў яго было.

Вадзім востра сачыў за паводзінамі Клімчука. Абураецца, асуджае. Словы гаворыць правільныя. А сам хто? Лепшы ад Пракопа? Няўжо, нягоднік, не дрыжыш, не адчуваеш, што і цябе гэтакі ж чакае лёс?

— Шкада чалавека. Можа, ужо і занадта...— зноў абазваўся Клімчук.

— Ты хочаш, каб за распаўсюджванне панікі па галоўцы гладзілі? — бліснуў нядобра вачыма ў яго бок Міша Русак.— Паніка — страшнае дзела... Сам бачыў, калі праходзіў са сваім узводам праз Слонім.

— Ты ў кадравых войсках быў? — пацікавіўся Вадзім.

— Ну, але, у кавалерыі служыў. Бачыш, галіфэ...

— Няма чаго, хлопцы, стаяць,— нагадаў Вадзім.— Сёння ці ўчора былі тут партызаны. Недзе блізка іх стаянка. Надакучыў гэты мяшок. Добра было б здаць.

— Данясём неяк самі,— сказаў Клімчук-Крывароты.— Столькі пакутавалі. Пакладзём пад ногі дзядзьку Андрэю. Хай парадуецца. Падарунак Масквы, Сталіна. Ды во Міша казаў — партызанскі атаман можа на грудзі і медаль прыляпіць.

Ну, ну! Ты, сабака, адкрываеш нават свой намер: хочаш бачыць дзядзьку Андрэя. Цікава, навошта? З якой мэтай? Пра медаль балбочаш, а думка ў цябе... Штосьці хочаш разнюхаць, разведаць? Няўжо ў яго заданне — забіць камандзіра?

Гэтая думка выстраліла, як маланка, і моцна занепакоіла Вадзіма. Калі неяк удасца Клімчуку вышмыгнуць у іх з-пад носа, наробіць ён бяды! Дык што, арыштаваць, звязаць рукі? Усё гэта трэба абмеркаваць з Русаком. А калі і як? Хаця б не спалохаць...

Зноў Вадзім з Клімчуком узяўся за насілкі. Калі здраднік ашчаперваў рукаяткі, хлопец заўважыў, што рукі яго трымцелі. Смерць Пракопа ўсё-такі ўразіла. А прыкідваецца раўнадушным...

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ШОСТЫ

Хмара адбліскала маланкамі, і неба недзе ў поўнач зрабілася чыстым-чыстым. На ім было кучамі насыпана зорак. Ноч зрабілася празрыстай. Цішэў вецер. Цяпер ён ледзь раскалыхваў вершаліны дрэў.

Паляна яшчэ жыла, звінела галасамі. Са століка каля кастра лілася музыка. Час ад часу яе замяняў чалавечы голас — ні то спевака, ні то дыктара.

Чаканне надакучыла хлопцу. Моцна аб сабе давала адчуваць стома. На нагах было цяжка стаяць, і хлопец прыладжваўся то сядзець, то ляжаць. Хіліла на сон. Каб яго адганяць ад сябе, хлопец рабіў невялічкія прагулкі ў лес. У часе хады думаў, непакоіўся пра Алачку. Было нават намерыўся праведаць, як ёй спіцца, але гэта была б доўгая адлучка, і яна магла б парушыць усе ягоныя планы.

Хлопцавы развагі, вядома, былі і аб партызанах, аб Вадзіме Мікалаевічу. Яму нават мроіліся крокі, якія як бы далятаді з глыбіні вострава. Хлопец кожны раз пільна ўслухоўваўся ў цішыню лесу, на ўсе вочы разглядаў мясцовасць.

Вядома, было б проста здорава, каб раптам з-за ствол-ля дрэў вынырнуў Вадзім Мікалаевіч са сваімі сябрамі-партызанамі. Яны тут нарабілі б такога тарараму!.. Не стаялі б вось так, як ён стаіць. Адразу рынуліся б у бой.

Чакай! Можа, Вадзім Мікалаевіч і сапраўды ўжо тут? Можа, ён падабраўся з хлопцамі да паляны, усё бачыць, усё чуе і чакае толькі зручнага выпадку? Вунь варухнуліся кусты на другім канцы паляны каля палаткі афіцэра-паляўнічага, і як бы нехта выглядае з іх. І галава... Ой, няўжо?

Але новы сполах кастра шырыць абсяг святла, і кусты, аказваецца, не варушацца, стаяць напружана і ціха.

Няма Вадзіма Мікалаевіча. Ціток ужо хвалюецца, каб часам не здарылася з ім бяда.

Да якога ж часу тут будзе гэты балаган? — злуецца Ціток і з нянавісцю пазірае на жанчыну. Як ён заўважыў, ва ўсім вінавата яна. Жанчына не хоча перапыняць танцаў, вечарынкі. Афіцэр-паляўнічы некалькі разоў браў яе пад руку, скіроўваўся да палаткі, але яна раптам крута паварочвалася, вырывалася з рук немца, вярталася да кастра.

А было і такое, што жанчына як бы ўцякала к Чорнаму дубу, да лодкі. Але афіцэр даганяў яе, браў на рукі і нёс назад.

Яна рагатала, станавілася на ногі, і яны ўжо праз нейкую хвіліну мірыліся, зноў танцавалі.

Некалькі разоў, бачыў Ціток, афіцэр і жанчына падыходзілі да стала. Фашыст частаваў яе віном.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ СЁМЫ

Каля кастра сядзеў ужо толькі адзін салдат. Гэта быў таўстун, што нёс службу вартавога. На яго месца заступіў другі фашыст, крыху вышэйшы за гэтага, даўгалыгі, з худым тварам.

Калі даўгалыгі ішоў па маршруце, іншы раз нахіляўся, падымаў ці то шышку, ці то каменьчык, старанна іх разглядаў. А было нават запыняўся.

На высокай хвоі з галіны на галіну імкліва пераляцела вавёрка. Вартавы пачуў шамаценне, ухапіўся за аўтамат, потым ускінуў уверх галаву і зразумеў, хто парушыў спакой. Стаяў, назіраў за звярком. Потым шпурнуў у бок яго шышку.

Таўстун салдат, якога Ціток нішкам празваў кабаном, падкінуў дроў у касцёр, азірнуўся па баках і палыгаў да палаткі. Адкінуўшы полаг увахода, ён знік. З сабой у палатку панёс ён і аўтамат. На гэту акалічнасць Ціток звярнуў асаблівую ўвагу. «Аўтаматы яны недзе паставяць, не будуць жа спаць разам з імі». Думкі пачалі шырыцца, множыцца. Горача стала ад хвалявання, ад прыкрай нявызначанасці. «Ці варта пачынаць? — нібы нехта шаптаў яму збоку.— Можа, пачакаеш? Можа, Вадзім Мікалаевіч...» — «Ніякіх «можа»! — аж узлаваўся Ціток.— Толькі ракі паўзуць назад».

Хлопец маруднымі крокамі пачаў пасоўвацца к Чорнаму дубу, да прасекі. Там, уводдалі ад паляны... Там недалёка лодка і буда побач.

У хлапечых руках цясак рыдлёўкі як бы пацяжэў. Па чым біць ворага? Па галаве! А калі выйдзе няўдача? Уцякаць! За адно заскочыць дрэва, потым за другое — і пайшоў, як заяц, калясіць па лесе. Няхай фашыст страляе! Пападзе — пальцам у неба!

А потым? Што будзе потым? Дзе схавацца? Востраў невялічкі. Схавацца, аднак, можна! На плывуне. Улезці ў ваду, схапіцца за край плывуна, накідаць на галаву травы, чароту — маскіроўка як мае быць. Хіба для пошукаў сабак прывязуць. А пакуль тыя сабакі, глядзі, і партызаны з'явяцца...

Алачка?! Вось з ёю будзе бяды. Яе схопяць... Не, трэба рабіць так, каб не было прамашкі. Калі біць, дык біць!

Нарэшце Ціток апынуўся непадалёку ад Чорнага дуба. Затаіўся за старой елкай.

У наваколлі ціха-ціха. Толькі цвіркоча недзе ў траве конік ды шамаціць лісце шатрыстай бярозы, што стаіць побач на ўзгорку. З-за дрэваў развінуўся шырокі прасвет на возера. Яно варушыцца пад рэдзенькім туманам, не спіць.

Па прасецы паволі брыдзе вартавы, сунецца ў цемрадзі, як нейкі прывід. Ён усё бліжэй і бліжэй. Чуваць, як кладзецца яго крок на зямлю — важка і трывала. Хрупасціць ігліца.

Раптам вартавы кашлянуў, відаць, для таго, каб падбадзёрыць сябе. У сутарэнні гушчару абудзілася рэха. Вось ён ужо побач, ненавісны, чорны. Ціток ямчэй ціснецца да дрэва, затойвае дыханне. Толькі б не заўважыў, пракляты, не пачуў небяспекі. Постаць вартавога ўжо за елкай. Яшчэ хвіліна — і ўдалы момант пройдзе.

Ціткова рука робіць замах. У гэты момант хрупае пад нагамі галінка. Хлопец паспявае заўважыць, што фашыст спуджана паварочваецца, уздрыгвае. Але ўжо нішто не можа ўратаваць яго. Рыдлёўка з усяго маху б'е яго па галаве. Салдат сударажна ікае, прысядае, падае. Апантаны азартам барацьбы, хлопец робіць яшчэ адзін удар. Вартавы падае, б'е аб дол рукамі.

Ціток замірае на месцы, азіраецца. Потым адкідвае ўбок цясак і дрыжачымі рукамі здымае з салдата аўтамат.

Праз калідор прасекі бачна, як трапечацца святло кастра на паляне, як плыве рэдзенькі дым у неба. Няўжо ніхто не ўбачыў і не пачуў? Няўжо — удача? Ціток вешае аўтамат на шыю, хапаецца за прыклад і, падставіўшы левую руку пад цаўё, прымерваецца, як з аўтамата пры выпадку трэба страляць. Гэтая трэніроўка доўжыцца не больш хвіліны. Пасля ён хапаецца за ногі вартавога, цягне яго ў лес, у кусты. Выходзіць на прасеку, на міг застывае на месцы, вырашае, што рабіць.

На ўсходзе з-за небасхілу шырокай паводкай выліваецца рэдзенькая чырвань. Наступае світанне. Не трэба губляць ні хвіліны. Цяпер хутчэй у буду, схапіць сонную Алачку і ўцякаць з вострава на лодцы.

А калі зрабіць усё інačай? Абстаноўка склалася, лічы, вельмі ўдалай. Ці не пабіць з аўтамата фашыстаў? Яны спяць.

Замест таго каб бегчы да буды па дзяўчынку, Ціток павярнуў на паляну. Не бег, ішоў шпаркім, напорыстым

крокам. Боязі не адчуваў, яе як бы не было. Было толькі ўтрапенне, якое ахапіла ўсю яго істоту.

Перад палянай хлопец запыніўся, праверыў, ці не існуе небяспекі. Глыбока хадзілі Цітковы грудзі, як ад бегу. Кроў стукацела ў скроні.

Каля кастра — нікога. Ён гарыць ціха, языкі полымя кволыя, як бы іх агортвае дрымота.

Хлопец з асцярогай азірнуўся. Яму падумалася, што можа раптам падняцца даўгалыгі вартавы. Але і на прасецы панавала самотная перадранішняя маўклівасць. Пераканаўшыся ў бяспецы, Цiток рушыў далей, але ўжо больш асцярожным, больш мяккім крокам. Падкрадаўся паміж дрэў, берагам паляны. Рукі моцна сціскалі аўтамат, указальны палец ляжаў на спускавой скабе. Калі што якое, ён быў гатовы ўрэзаць чаргу проста ва ўпор па ворагу.

Думка, якой ён быў цяпер падуладны, вяла яго да салдацкай палаткі. Там ён пачне. Там!..

Сяды-тады пад нагамі хрупасцелі галінкі і хвойныя шышкі. Хлопца, вядома, гэта бянтэжыла. Калі ён і баяўся цяпер, дык аднаго: толькі б не прачнуліся салдаты. У іх — аўтаматы...

Святло кастра меркне. Наваколле напаўняецца іншым святлом, якое льецца з неба. Бярэцца на ранак. Крок за крокам... І вось палатка побач. Ударыць чаргой адсюль, з лесу, каб яны ніколі больш не прачнуліся? У палатцы разам з афіцэрам, лічы, чацвёра фашыстаў. А калі будуць забіты не ўсе? Вунь з той, жоўтай палаткі таксама выскачыць вораг, афіцэр-паляўнічы. Сілы будуць не ў яго карысць.

Чакай! Ёсць і другі план. Ці не зазірнуць у палатку, паглядзець, як далёка захаваны аўтаматы? Ці нельга ціха і мірна абяззброіць ворагаў? Ачомаюцца яны, кінуцца шукаць зброю. А Цiток з Алачкай ужо будуць далёка. Шукай, свішчы... У хлопца з кожнай хвілінай прыбаўлялася смеласці, ваяўнічасці.

Уваход у салдацкую палатку не прыкрыты полагам — гэта таксама яму на руку. Хлопец робіць некалькі крокаў... Тут жа пачуў, як у палатцы нехта хроп, моцна, задзірыста, з прысвістам. Спяць ворагі, спяць! Ну і не прачынайцеся, чуеце? Яшчэ колькі крокаў. Убаку — рукой падаць — зеўрае ўваход. Хлопец прагна ўпіваецца ў яго вачыма. З неба ў палатку пранікае зыбкае святло. Цiток

асцярожліва нахіляецца, зазірае ўсярэдзіну. Вочы адразу фіксуюць абстаноўку. Фашысты спяць упокат на матрацах, пакладзеных на дол. Два чалавекі разутыя, у панчохах. Два ў ботах, пры форме. Убаку пры ўваходзе ўзвышаецца драўляная стойка. На ёй — зброя. Цітох працягвае руку. Намацвае аўтамат. Асцярожна выцягвае з палаткі, кладзе каля ног, потым — яшчэ робіць адзін заход. Нехта з фашыстаў варушыцца, перастае храпці.

Цітка, як электрычным токам, працінае страх. Але ён прымушае сябе застацца на месцы. Без панікі, толькі без панікі! Рука сутаржліва хапаецца за другі аўтамат. Павольны, асцярожны рух. Аўтамат як бы сам плыве ў паветры, выкоўзваецца з палаткі. Цітох аж п'янее ад удачы.

Не зважаючы на гэта, не пагарджае бяспекай. Прыладкоўвае зброю, каб зручна яе несці. Асцярожна агінае палатку, хаваецца ў лесе.

Толькі тут, у лясным гушчары, да хлопца прыходзіць разуменне небяспекі, якая была перад ім. Хапатлівым позіркам хлопец акідвае паляну. Фашысты нічога не пачулі. Спяць. Пачаць бой? Засыпаць іх кулямі? Вядома, думка спакуслівая, намер, што і казаць, пахвальны. Але ён не павінен забываць: на яго сумленні жыццё дзяўчынкі.

Лепей ціхенька знікнуць. І пакуль ворагі не ачомаліся, не кінуліся ў трывогу, пастарацца забраць [redacted] буды Алачку. А з ёю — у лодку. І — да сваіх!

Са зброяй у Цітка выгляд грозны, непадступны. Два аўтаматы, вядома, лішнія, іх трэба прыхаваць. Дзе? Відаць, недзе каля лодкі.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ВОСЬМЫ

Аксана выкаўзнула з палкоўніцкай палаткі, як птушка з клеткі. Азірнулася трывожна і пужліва. Праз хвіліну, сцішаная, падышла да кастра, кінула ў яго некалькі паленцаў, прымайстравалася на бярозавы чурбачок.

Ззаду, у палатцы Носке, чулася раздражненае буркатанне. Нарэшце з яе паказаўся сам гаспадар. Ён быў без фрэнча, у ботах і штанах, грудзі яго абцінала белая шаўковая майка. Палкоўнік згледзеў Аксану ля кастра і супакоіўся. Ён меркаваў, што яна збегла к возеру альбо ў лес. Палкоўнік меў ужо план, як яе пакараць за гэта.

А ж во сядзіць каля кастра... Значыць, надзеі не ўсе згублены, ёсць яшчэ сэнс весці дыпламатычныя перагаворы...

Перамогі над жанчынамі, атрыманыя ім дагэтуль, надавалі яму нахабства.

Гарачая ўзбуджанасць тузала ўсю яго істоту. Адчуванне было, як у пабітага сабакі. Пры такіх акалічнасцях найлепш мудра было махнуць на ўсё рукой, вярнуцца ў палатку, легчы спаць, каб на ранку падняцца з чыстай і яснай галавой.

Але як ён будзе выглядаць перад Вільгельмам? «Ах, гэты Вільгельм! — з прыкрасцю падумаў палкоўнік.— Нагаварыў, наабяцаў. Вось табе і востраў, вось табе і пагулянка на лоне прыроды. Замест казулі «шчыры сябра» падсунуў нейкую сухарэбрую казу. І з дзяўчыны-перакладчыцы ніякага толку».

Не, палкоўнік Носке не з такіх, што адступаюць. Цяпер ён не будзе цырымоніцца, дэманстраваць перад беларутэнкай манеры рыцарскіх паводзін. Яна, лічы, у яго руках. Нікуды не дзенецца!

З такімі нахабнымі і памаўзлівымі думкамі Фрыдрых Носке рушыў да кастра.

Пачуўшы крокі, Аксана спуджана падхапілася на ногі. Адразу па вачах палкоўніка прачытала яго намер. Аднак не ўцякала. Стаяла на месцы, насцярожаная. Разумела, што касцёр і салдацкая палатка ў нейкай ступені будуць стрымліваць паводзіны пана палкоўніка.

Палкоўнік зларадна ўсміхаўся, сунуўся ўперад, адчайны, незмірымы. І калі ён ужо быў за некалькі крокаў, калі Аксана выразна ўбачыла вочы, халодныя і помслівыя, яна хуценька нагнулася, схапіла ў рукі галавешку і загарадзілася ёю, як шпагай.

— Палкоўнік,— прамовіла дзяўчына з выклікам.— Богам прашу, адыдзіце. Я за сябе не ручаюся...

— Вы не жартуеце? Няўжо не раумееце: жыццё ваша ў маіх руках. Ану ў палатку!

— Пане палкоўнік, вы карыстаецеся правам заваёўніка-акупанта. Але не ўсюды ўдаецца вам яго скарыстоўваць. Пераканайцеся яшчэ раз у гэтым сёння.

— Вы — дзёрзкая і няўдзячная. Вы пераходзіце ўсе граніцы... Няўжо не бачыце, мне ўсё гэта надакучыла, мне ўсё гэта не падабаецца. Фройляйн Аксана!..

— У палатку я не пайду. Мне і тут, каля кастра, добра. Ноч прайшла, пане палкоўнік.

Тым часам з салдацкае палаткі выскачыў рыжы вахлакаваты немец. Выгляд у яго быў разгублены, збянтэжаны. Ён закруціўся каля ўвахода, як сабака, які адчуў смяротную небяспеку.

Следам за ім з палаткі выхапіўся афіцэр. Ён паспешліва зашпільваў фрэнч, паўтараў адно і тое ж:

— Мой бог, кінь жартаваць. Мой бог, што ты нарабіў?

Рыжы вахлакаваты салдат абабег наўкруга палатку, стаў перад афіцэрам, сказаў цвёрда, расчаравана:

— Прапала зброя!

— Прапала? Ганс — расстраляю! Галаву сарву! Ты ўсё праспаў!

Убачыўшы трывожную мітусню каля салдацкай палаткі, палкоўнік насцярожыўся. Аксана таксама павярнулася на галасы. Цяпер ёй не патрэбна была галавешка, і яна шпурнула яе ў касцёр.

Яшчэ два салдаты вылезлі з палаткі.

— Wo? Wo? * —крычалі яны, роспачна разводзячы рукамі.

— Што такое? — гукнуў палкоўнік.— Што вы там згубілі?

Да Фрыдрыха Носке падскочыў обер-лейтэнант. Твар яго быў белы як палатно, губы трэсліся.

— Гер палкоўнік,— замармытаў ён не сваім голасам.— Мы нічога не разумеем. Зніклі аўтаматы. Яны стаялі ў палатцы. Можа, вы, гер палкоўнік?..

— Што? — атарапеў Фрыдрых Носке.— Што ты гаворыш, обер-лейтэнант?! Зніклі аўтаматы! Як зніклі? Куды?

— Не ведаю, гер палкоўнік. Былі, і — няма.

Фрыдрых Носке рэзка крутануўся, акідваючы ліхаманкавым позіркам паляну.

— Дзе вартавы? Чаму няма вартавога?

— Ён павінен быць тут...

— Павінен! Але ж яго няма...

— Я праверу, гер палкоўнік. Зараз жа праверу,— адказаў обер-лейтэнант, паддаючыся яшчэ большай трывозе і смутку.

Салдат, які быў пасланы, каб агледзець прасеку і бераг возера, вярнуўся ні з чым.

---

* — Дзе? Дзе?

— Трывога! — крыкнуў у адчаі палкоўнік, выхопліваючы з кабуры пісталет. І тут жа з нянавісцю глянуў на афіцэра.— Ты, обер-лейтэнант, свіння. Ты ўсё праспаў. Расстраляю!..

Афіцэр стаяў перад ім ні жывы ні мёртвы.

— На востраве — партызаны! — працягваў крычаць палкоўнік.— Чуеш, партызаны!..

Толькі цяпер немцы ўсвядомілі ўвесь жах свайго становішча. Сумятлівасць, якую яны паднялі на першым часе трывогі, замянілася на поўную разгубленасць.

Калі знік вартавы, ён, няма сумнення, забіты. Значыць, за імі, за палянай сочаць. Значыць, недзе з-за дрэў на іх нацэлены карабіны і аўтаматы...

Ад такой думкі сутаргава сціснулася сэрца палкоўніка.

— Обер-лейтэнант,— азіраючыся, загадаў палкоўнік,— заняць абарону. Біцца да канца. За фюрэра, за нашу фатэрлянд!

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ДЗЕВЯТЫ

Цімок, прыхаваўшы ў густым арэхавым кусце, што стаяў на ўзмежку лесу, два фашысцкія аўтаматы, збегаў да лодкі і забраў вёслы. Гэта на той выпадак, калі раптам ачомаюцца немцы. Кінуцца да возера, а адплысці не змогуць.

Вёслы хлопец таксама старанна схаваў. Зрабіўшы ўсё гэта, Цімок аж уздыхнуў. Пастаяў пры кусце, агледзеўся.

Востраў не прачынаўся, спаў, прыкрыты наструнёнай цішынёй. Цімок чакаў, што з хвіліны на хвіліну яна павінна лопнуць, гэтая цішыня, узарвацца.

Хлопцу хацелася ўсё зрабіць спрытна, умела, як кажуць, пакінуць ворагаў з носам. Імкнуўся выкарыстаць для сябе кожную хвіліну. Ад куста, куды кінуў вёслы, адразу подбегам скіраваўся да Чорнага дуба. За плячыма дрэва-велікана адразу пачынаўся гушчар. Ён быў яшчэ досыць цёмны ад ранішняга паўзмроку. Хлопец спяшаецца, не чуе, як цілінькаюць птушкі ў кронах дрэў, як яны зрэдку пералятаюць з месца на месца. Вецце кустоў шоргае па яго вачах, чапляецца за вопратку. Ён угадвае шлях да буды, да той паласы ялінак, што цягнецца па нізінцы сярод лесу.

Во крывая бяроза, далей тоўсты векавы клён з магутным шатром галін, а яшчэ далей стаяць маладыя стрункія сосны.

Мінуўшы сосны, хлопец прыпыніўся. Яму пачулася, як бы нехта гукнуў. Нават як бы назвалі яго імя: Ціток! Хлопец застыг у надзеі, што збудзецца тое, аб чым ён увесь час думае. Стаяў, слухаў лес, углядаўся ў ягонае дрымотнае сутарэнне. Але голас не паўтараўся. Мімаволі ўзнік вобраз Вадзіма Мікалаевіча. Вось каго не хапае зараз на востраве. А голас як бы пачуўся ягоны.

Непаразумеласць нарэшце знікла, і хлопец нырнуў у зараснік ялінак.

Вось і буда з вастраверхай страхой. Хлопец з разгону ўшыўся ў яе сярэдзіну. «Алачка! Дзе ты? — ледзь не крыкнуў хлопец у адчаі.— Няма? Што такое?» Ціток не паверыў вачам, упаў на каленкі, папоўз у глыб буды, адшмаргнуў убок рыжую дзяружку, якою, помніць, прыкрыў заснуўшую дзяўчынку перад тым, як пайсці цікаваць за ворагамі. Няма!.. Потым кінуў разгублены позірк па баках.

Дзяўчынка знікла, як бы правалілася праз зямлю. Выходзіла, ці яна прачнулася і, адчуўшы адзіноту і страх, пайшла шукаць яго, Цітка... Ці...

Гэта было менш пэўна і верагодна, але думка падказала: мог заявіцца Вадзім Мікалаевіч і забраць дзяўчынку. Калі ісці за думкай далей, адбылося ўсё проста. Настаўнік вярнуўся на востраў ноччу, прыйшоў да буды, шукаў яго, Цітка. А не знайшоўшы, узяў Алачку і падаўся к возеру.

Але хіба Вадзім Мікалаевіч пакіне яго на востраве аднаго? Хутчэй за ўсё Алачку разбудзіў голад, і яна некуды падыбала. Калі так, дзяўчынка павінна плакаць. Аднак нешта не чуваць яе.

Дзе Алачка, што з ёю? Трэба ратавацца, адчальваць ад вострава. А тут... Эх!..

Хлопец ледзь не заплакаў. Ён выпаўз з буды, устаў і з хвіліну прыслухоўваўся да наваколля. Лес стаяў прытоены, маўклівы. Яснела, шырылася ў яго прагалах неба. Світанне...

Трэба шукаць дзяўчынку і трэба ўцякаць з вострава. Дзве задачы, не задачы — а сапраўдныя галаваломкі. Ціток на ўсякі выпадак хуценька абабег вакол буды. Магло быць, што Алачка недзе тут, недалёка ў елачках.

Але пошукі вынікаў не далі. Хлопец адважыўся і нават некалькі раз прытоена гукнуў: «Алачка!»

Лес маўчаў, цёмны, пахмуры, няветлівы. Дзіцятка, дзе ты? Глядзі, як можа жартаваць і здзекавацца лёс з чалавека. Там, на паляне, атрымалася так, што лепш і не трэба. А тут усё наадварот...

Раптам да слыху Цітка даляцелі галасы. Ён устрапянуўся, наструніўся. Ворагі!.. Яны прачнуліся. Іх ахапіў смяротны перапалох.

«Ага, заварыў, хлопча, кашу,— як бы нехта шаптаў Цітку на вуха.— Цяпер сам яе і расхлёбвай».

## РАЗДЗЕЛ САРАКАВЫ

Узбраенне фашыстаў было лёгка падлічыць. Яны мелі два пісталеты і паляўнічую стрэльбу. Якая ні зброя, але давала ім магчымасць арганізаваць сякую-такую абарону.

Фрыдрых Носке знаходзіўся ў цэнтры паляны, стаяў, прыхінуўшыся плячом да каржакаватай тоўстаў сасны. Пісталет трымаў напагатове. Рыжы вахлакаваты салдат, атрымаўшы палкоўніцкае ружжо, залёг за бярозавым пнём і сачыў за прасекай і сектарам лесу, што быў на ўсходнім беразе вострава.

Афіцэр знаходзіўся ля кастра, прытаіўся пад сталом, між калодак, што нядаўна ім служылі за табурэты. Ён зыркаў вачыма то ў адзін, то ў другі бок і дзівіўся цішыні, якая панавала над палянай.

Было штосьці страшнае і недарэчнае ў гэтай цішыні. Чакаліся стрэлы, а іх не было. Чакаліся крыкі, а іх хоць бы адзін! Што ж гэта такое?

Аксана, даведаўшыся аб прапажы аўтаматаў і знікненні вартавога, узрадавалася. Як ажылі, засвяціліся яе вочы! Як затрапятала сэрца! «Ага, ліхаімцы, і тут вас знайшлі! Ну, трымайся, гер палкоўнік. Партызаны прыняслі табе плату за кроў і слёзы нявінных людзей, за блакаду».

Дзяўчына стаяла пасярод паляны, непадалёку ад палкоўніка. Прагна, на ўсе вочы глядзела ў гушчар. У лесе было ціха-ціха. Яе позірк не мог прыкмеціць ніводнага падазронага руху.

Аксана, цяпер ужо спакойная, незалежная, устрасянула горда галавой, як бы падаючы знакі. «Хлопцы, не марудзьце. Пачынайце!» За сябе яна не баялася, бо ведала,

што, калі прапалі аўтаматы, смельчакі, якія захапілі іх, добра бачылі нядаўнюю сцэну каля кастра. І, вядома, дастойным чынам ацэняць яе паводзіны.

Міналі хвіліны. Дзяўчына стаяла, чакала. Душу запаўняла радасць. Раптам яе паклікаў палкоўнік. Аксана не зварухнулася з месца. Тады ён схапіў дзяўчыну за руку, падцягнуў да сасны, уладна сказаў:

— Фройляйн Аксана, будзьце са мной. Як вы лічыце, хто тут на востраве?

— Не ведаю, пан палкоўнік,— пацiснула плячыма Аксана.— Усё так нечакана. Так загадкава!

Фрыдрыха Носке біла нервовая ліхаманка. Аксана бачыла, як сутаргава тузалася яго левае чорнае брыво.

— Бандытэн, эргебт ойх! * — крыкнуў істэрычна палкоўнік. Было смешна глядзець на яго, разгубленага, змізарнелага.

У адказ не пачулася ніводнага гуку. Праз момант Носке схіліўся да Аксаны і па-нямецку папрасіў, каб яна перадала партызанам, што ім на роздум даецца роўна тры хвіліны, пасля чаго будзе адкрыты ўраганны агонь.

— Хлопцы-партызаны,— гукнула на поўныя грудзі Аксана і ступіла два крокі ўперад.— Вы бачыце гэтага ваяку. Вам ён дае тры хвіліны. Ану пакажыце, чаго вы варты!

Палкоўнік стрымана хіснуў галавой, маўляў: дзякую! Аднак і на гэты раз з лесу ніхто не адгукнуўся. Стваралася ўражанне: як бы нікога там не было. «Вось табе і партызаны,— настрой Аксаны сапсаваўся, на твары адбілася непаразумеласць.— Забілі вартавога, прыхапілі аўтаматы і ўцяклі? Палкоўніка трэба ўзяць. Гада гэтага...»

Раптам з-за дрэў на паляну,— Аксана аж збянтэжылася,— ціхенька валюхаючыся, выйшла маленькая дзяўчынка. Усяго можна было чакаць, толькі не гэтага. Аксана нават заміргала павекамі, каб пераканацца, што не спіць. Дзяўчынка? Адкуль? І адна-адненькая. Яе паслаў сюды нехта, ці што? Аксана гублялася ў здагадках.

Між тым дзіця шыбавала проста да яе, з кожнай секундай прыспешваючы крок. Потым тоненькім галаском, у якім было бязмежнае захапленне і радасць, закрычала:

— Ма-ма!..— Тут жа яна спатыкнулася, звалілася на зямлю і стала хапатліва падымацца на кволыя ножкі.

---

* — Бандыты, здавайцеся!

— Ма-ма!..— на гэты раз у крыку дзяўчынкі была крыўда і роспач.

Аксана рванулася наперад, да дзіцяці. Але палкоўнік схапіў яе за руку, затрымаў.

— Фройляйн Аксана, ні з месца! Гэта — правакацыя. Няўжо не бачыце? Ні з месца! — гнеўна закрычаў ён.

Дзяўчынка, як толькі стала на ногі, памкнулася ўперад. Яна не адводзіла прагнага позірку ад Аксаны. Яна нешта лапатала сабе пад нос.

— Божухна! Дзіця! Адкуль яно? — Рудкоўская нічога не магла зразумець.

— Не набліжацца. Буду стрэляйт! — Палкоўнік накіраваў на дзяўчынку пісталет.

Не інакш, ён меркаваў, што яна нясе бомбу, каб яго ўзарваць.

Дзіця не зважала на пагрозлівы выкрык Носке.

— Ма-ма-а! — прагукала яна, перабіраючы ножкамі па роўным доле паляны. Бурная радасць і ўрачыстасць былі ў гэтым воклічы.

Аксана не вытрымала, з усёй сілы тузанулася, выхапіла руку з рукі палкоўніка і ў адзін міг была каля дзяўчынкі.

— Дзіцятка, мілае, родненькае! — Аксана падхапіла яго на рукі, прытуліла да грудзей, стала ўглядацца ў тварык. Выгляд дзяўчынкі быў несамавіты: босая, у заношанай сукенцы. На сукенцы сляды бруду, цёмныя плямы, увесь падол у калючках. Адно тварык быў свежы, налітый румянцам. На ім свяціліся вочкі, круглыя, блакітныя-блакітныя, як пралескі.

— Дзіцятка, мілае, залатое,— адгукнуўшыся на радасць дзяўчынкі і зразумеўшы, што на яе руках сірацінка, паспешліва замармытала Аксана.

Дзяўчынка моцна абхапіла Аксану за шыю, стала цалаваць, лашчыцца.

— Ах ты мая крошачка! Адкуль ты? Ну, скажы, адкуль?

— Ма-м-а-а! — запела ў шчаслівым захапленні дзіця.

— Фройляйн Аксана,— строга кінуў палкоўнік.— Што за штучкі? Дзіця, не бачыце, партызанскае. Ану пастаўце яго на зямлю!

— І не думаю,— адказала дзяўчына.— Няўжо не разумееце — гэта сірата. Сіротка... Яно зачахла, згаладнела. Яго трэба накарміць.

Дзяўчынка як бы ў доказ гэтых слоў неадкладна запатрабавала:

— Дай! Дай! — і выцягнула ўперад смуглявую ручку, пачала сутаргава сціскаць і расціскаць далоньку.

— Бачыце, галоднае,— Аксана павярнулася, каб пайсці да стала, дзе ляжалі хлеб і яблыкі.

Але палкоўнік у злым шаленстве выхапіў з рук Аксаны дзяўчынку.

— Вы не выконваеце мае загады. Я вас расстраляю.— Ён адкінуў дзіця ўбок, і яно ўпала ў пажухлую траву, заплакала. Тым часам палкоўнік, павярнуўшыся назад, крыкнуў: — Яфрэйтар Макс, прывязаць дзіця к дрэву. Гэта партызанскі заложнік.

На сярэдзіну паляны выбег таўстун немец, у яго руках аднекуль з'явілася дзяга. З яе дапамогай ён туга прыкруціў дзяўчынку да сасны. Дзяўчынка заходзілася ад плачу, тузалася, крычала:

— Мама-а!

Па яе пунсовых шчоках цяклі, каціліся слёзы.

— Дзіцятка! — заплакала і Аксана. Яна парывалася да дзяўчынкі, хацела яе абараніць. Але Аксану моцна трымаў за плечы белабрысы салдат.

— Фройляйн Аксана, супакойцеся,— лагодна гаварыў ён.— Нельга быць такой. Чужое, брыдкае дзіця, а вы...

— Ты сам брыдкі, Курт. Ты не чалавек, а жывёліна. Пусці!.. Бог вам гэтага не даруе. Пабачыш, не даруе,— Аксана захлыналася ад бяссільнай злосці. Вочы яе былі поўныя болю. Яна з трывожнай самотнасцю глядзела на сірацінку, ірвалася да яе, крычала. Але ўсё было дарэмна. Немцы рабілі сваё.

— Дзе партызаны? Чаму маўчаць? Няўжо не бачаць здзекаў?

Ззаду, у некалькіх кроках, патрэскваў іскрамі касцёр. Вецер круціў то ў адзін бок, то ў другі тонкі слупок дыму. Над палянай светлым шырокім шатром вісела неба, поўнае ранішняга хараства. Бадзёра, задзірыста пераклікаліся ў дрэвах птушкі.

А лес маўчаў. Нідзе ніводнага шолаху і гуку.

Фашысты, узбуджаныя з'яўленнем дзяўчынкі, супакойваліся. Спачатку яны меркавалі, што дзяўчынка паслана як нейкая хітрая прыманка.

Але мінула хвілін дзесяць, партызаны аб сабе не падавалі ніякіх знакаў. І гэта падбадзёрыла ворагаў.

Палкоўнік паклікаў да сябе обер-лейтэнанта і з ім некалькі хвілін гаварыў, раіўся. Пасля ён падышоў да Аксаны, рэзка адпіхнуў яе ад салдата і сказаў:

— Фройляйн Аксана, разумею, вы — жанчына, вам балюча. Але з дзяўчынкай нічога не здарыцца. Яе паслаў да нас сам бог. Я вас прашу, фройляйн, зрабіць нам паслугу.

— Паслугу? Якую? — непрыхільна зірнула яна палкоўніку ў твар.

— Дадзім вам маленькае заданне,— і, не марудзячы, працягваў: — Ідзіце па прасецы,— ён паказаў рукой,— да возера. Паглядзіце, праверце, ці на месцы наша лодка. Калі на месцы, пачнём неадкладную эвакуацыю. Выратуем заадно ад няшчасця і гэта дзіця. Хутчэй! — прыспешыў дзяўчыну палкоўнік і лёгенька падштурхнуў яе ў плечы.

Аксана не скранулася з месца, заўпарцілася.

— Тэрмін пяць хвілін,— яшчэ раз аб сваім загадзе нагадаў палкоўнік.

— Мама! Мама! — закрычала дзяўчынка, тузаючыся ля сасны.

Яе крык, рэзкі, адчайны, біў у Аксаніна сэрца, запаўняў шчымлівай жаласцю ўсю яе істоту.

— Без дзіцяці я не пайду,— раптам цвёрда сказала Аксана і растлумачыла: — З дзіцём мяне ніхто не кране. Разумееце, гер палкоўнік?

Фрыдрых Носке скрывіўся, як ад зубнога болю. Глянуў у твар Аксаны напружаным жорсткім позіркам. Яна вытрымала гэты позірк, нават не міргнуўшы.

— Бярыце,— буркнуў ён змірліва.— Толькі...

— Я зраблю ўсё хуценька,— залапатала Аксана, вызваляючы дзяўчынку з незвычайнага палону.

## РАЗДЗЕЛ СОРАК ПЕРШЫ

Увесь гэты дзень тры ўзводы Змітрака Дукоры вялі бой з батальёнам фашыстаў. Ворагі разведалі, што паміж двума ўзвышшамі на поўначы ад Буян-возера балота не надта дрыгвяністае, ёсць там паласа шырокага цубкага грунту, па якім могуць прайсці танкі.

З самага ранку на гэтым участку пачалася ўзмоцненая проба сіл. Фашысты спачатку пусцілі ўперад пяхоту. Мер-

кавалася, што салдаты павінны змяць разрозненыя партызанскія пасты, узяць пад свой кантроль балота і заняцца вызначэннем трываласці ў разводдзі грунту. Пасля ў атаку пойдуць танкі.

Фашысцкія машыны ўжо займалі зыходныя пазіцыі перад самым балотам, стаялі ў ямінах, за карчамі, дбала замаскіраваныя. Але прыглядзеўшыся, з партызанскага боку можна было бачыць цёмна-зялёныя вежы з пагрозліва нацэленымі гарматамі.

Перад наступам пяхоты танкі зрабілі па балоце некалькі залпаў. Водгулле выбухаў скаланула прастору. Партызанскія дазорцы і ахоўныя сілы, якія займалі пазіцыі хто дзе — на дрыгвяністых астраўках, у гаях і лазняках — і прыкрывалі гэты ўчастак партызанскай зоны ад ворагаў, не панеслі ніякіх страт.

Сувязны ад ахоўнай групы данёс Змітраку Дукоры аб складанай абстаноўцы, папрасіў падмацавання. Праз гадзіну да Зялёнай Лужы, як называлася гэта мясцовасць, прыбылі тры ўзводы разам з Дукорам.

Фашысты за гэты час паспелі заняць некаторыя астраўкі на балоце, умацавалі іх, каб адсюль прадоўжыць наступленне. Партызаны бачылі, як некалькі гітлераўцаў, узброіўшыся доўгімі кійкамі, тупалі па балоце, вызначалі шлях для праходу танкаў.

Прыбыццё падмацаванняў акрыліла партызан. Змітрок Дукора з камандзірамі ўзводаў зрабіў рэкагнасціроўку мясцовасці, размеркаваў, хто ў якім сектары будзе дзейнічаць, якія на час абароны задачы.

Дукора быў каржакаваты, з задуменным смуглым тварам. Пад высокім ілбом кусціліся чорныя бровы.

Бачачы адчайныя намаганні фашыстаў зрабіць прарыў праз даручаны яму ўчастак, камандзір атрада прыкметна хваляваўся.

— Наступіў адказны момант, сябры! — звяртаючыся да ўзводных, сказаў Дукора з суровай цвёрдасцю.— Усе спадзяванні на вас. Ворагі мяркуюць тут ужыць танкавы таран. Мы павінны даказаць: нічога ў іх з гэтага не атрымаецца. Наша задача: не прапусціць праз балота пяхоту...

— І танкі не прапусцім, таварыш камандзір,— падхапіў Лявон Таўкачоў, што камандаваў першым узводам.

— Як вы гэта думаеце зрабіць?

— Прашу майму ўзводу выдзяліць супрацьтанкавае ружжо, па-другое — мы іх патопім у багне...

— Супрацьтанкавае ружжо ёсць, для яго боезапас — толькі тры патроны.

— Кожная куля будзе паслана ў цэль.

— Што ж, таварыш Таўкачоў, я выканаю вашу просьбу. У вас, камандзір другога ўзвода,— ён перавёў позірк на Івана Батурына,— таксама задача не з лёгкіх. Вам неабходна ўсім сваім узводам пранікнуць на правы фланг праціўніка. У вашым распараджэнні тры ручных кулямёты, станкач «максім» і дванаццаць аўтаматаў. Ведаю, ведаю, з боепрыпасамі туга. Таму папярэджваю: страляць толькі па добра бачных цэлях і толькі без промаху. Кожная куля павінна несці ворагу смерць. Скажам фашыстам: пайшлі вы, паганцы, па воўну, вернецеся стрыжаныя!

Трэці ўзвод таксама атрымаў баявую задачу. Дукора вызначыў камандны пункт, месца збору ў выпадку вымушанага адыходу.

Усе камандзіры былі настроены аднолькава: стаяць насмерць! З гэтым настроем і разышліся.

Змітрок Дукора пры развітанні спытаў у Лявона Таўкачова, ці не вярнуўся Рыгор Клімчук. Доўгая адсутнасць партызана яго непакоіла. Як ён даведаўся, Клімчук пакінуў свой узвод без дазволу. Гэта было падобна на дэзерцірства. Сёння міналі трэція суткі яго адсутнасці. І трэба было пасылаць рапарт камандзіру партызанскага злучэння. Змітрок неаднойчы перад строем узвода папярэджваў, што за дэзерцірства, пераход на бок ворага і здачу ў палон будзе ўжыта суровая мера — расстрэл. Няўжо такі знайшоўся чалавек, што ні з чым не палічыўся. Ва ўзводзе Клімчук паводзіў сябе прыкладна, стараўся выконваць даручэнні, загады. А на стрэльбішчы, калі стралялі па мішэнях, паказаў сябе зусім малайцом, як правіла, цаляў у самае яблычка.

— Што зрабілася з чалавекам, што ён надумаў? Блакада, голад прымусілі? Але ж ён, як кажуць, не маленькі. Павінен ведаць: клятва ёсць клятва, трэба быць верным ёй да канца. Сёння Клімчук са сваім трапным вокам ого як спатрэбіўся б.

Змітрок абцягнуў на сябе гімнасцёрку, згарнуў карту, па якой даваў загад на абарону ўзводным, і паклаў яе ў планшэтку. Стоячы за ствалом дуба, назіраў за прагалам балота.

Фашысты аж па пахі ў вадзе брылі ўперад, да парты-

занскіх пазіцый. Вядома, ім было цяжка манеўраваць, скарыстоўваць укрыцці.

Хлопцы-партызаны не марудзілі, білі ва ўпор. Вунь удалечыні, справа, адзін з фашыстаў, натужна перастаўляючы ногі, каб не засмактала багна, хістануўся ўбок, сутаргава ўскінуў уверх рукі і знік, праваліўся.

Фашысты агрызаліся, стралялі ў адказ. Але прыцэльнасць у іх была слабая.

Вялікую пагрозу партызанам стваралі танкі. Яны пакуль стаялі на месцы, але агонь гармат быў страшны. Снарады рваліся і ў балоце, на асобных астраўках, дзе яшчэ трымаліся народныя мсціўцы, і ў лесе, на пагорках, дзе зараней былі падрыхтаваны партызанскія акопы. Хоць маскіроўка акопаў была проста-такі выдатная, фашысты нейкім чынам амаль дакладна вызначылі іх знаходжанне.

Адзін са снарадаў разарваўся непадалёк ад таго пагорка, за якім ляжалі камандзіры. Зміцрака абдало пылам, з дрэў на яго густа пасыпалася сучча. Ён прысеў, прыціснуўся да камля алешыны. «Падобна на тое, што немцы ведаюць усе нашы планы»,— мільганула думка ў камандзіра. Было дзіўным і нечаканым не толькі тое, што вораг трапна знайшоў участак, прыдатны на пераправу танкаў у партызанскую зону, ён, аказваецца, не блага ведае, дзе знаходзяцца акопы. Хто ім дапамог?

Зміцрок агледзеўся і з асцярогай пачаў адыходзіць да каманднага пункта. Там, на ўскраіне лесу, пад шатамі старых елак, зроблены бліндаж у два накаты бярвенняў. Туды ён прасіў камандзіраў паслаць сувязных. Набліжаючыся да лесу, Дукора ўбачыў, як юркі хлопец у пілотцы, з карабінам на плячы, бег, сагнуўшыся, да бліндажа. І раптам...

Дукора ў трывозе запыніўся, застыг. Якраз каля бліндажа ўзвіхрыўся слуп чорнай зямлі, бліснуў ярасны агонь, з гулам узарвалася паветра.

«Б'юць, д'яблы, дакладна, па цэлях. Камандны пункт трэба мяняць».

Калі замоўкла рэха, якое праляскатала ў прылессі, пачуўся адчайны, пакутлівы крык. Ну вось і першыя ахвяры! Дукора, прытрымліваючы рукою аўтамат, подбегам кінуўся да бліндажа. У свядомасці бліснула думка-папрок: «Што ты робіш? Услед за першым снарадам упадзе і другі. Тады і цябе накрые». Але крык чалавека клікаў да сябе, і Дукора бег, не зважаючы ні на што.

Праз хвіліну камандзір атрада быў каля параненага. На зямлі паміж фіялетава-жоўтых кусцікаў верасу ляжаў Віктар Шаруба, зусім яшчэ юнак, сувязны трэцяга ўзвода. Ён стагнаў. Асколкам яму разарвала жывот, ягоныя рукі былі ў крыві.

— Таварыш камандзір! Забілі... Фашысты забілі... Скажыце маці... бацьку... Хай не плачуць, хай не чакаюць.

— Скажу, Віктар. Скажу, мой хлопчык! Але ты не адчайвайся. Мы цябе паспрабуем выратаваць.

— Ой, баліць... Ой, пячэ агнём.. Сонца!.. Таварыш камандзір, чарнее сонца. Чаму яно не гарыць... Чуеце? Ой, мамо, мамачко! Ратуй... Паміраю.— Хлопец застагнаў прыцішана, як бы з бояззю. З яго рота выступіла крывавая пена.

— Таварыш камандзір,— пачуў Дукора побач.— Ці ж так можна? Вы рызыкуеце... Вас могуць забіць. Хутчэй у бліндаж!

— Толькі не ў бліндаж,— запярэчыў Дукора сувязному і нагінкам падаўся к лесу.— Нехта выдаў нашу абарону. Трэба ўсё мяняць: і камандны пункт, і агнявыя пазіцыі.

— Можа, гэта выпадкова. Бачыце, больш сюды не...— і не паспеў ён дагаварыць, як ззаду, зноў жа непадалёку ад бліндажа, шугануў ярасны выбух. Паветраная хваля штурхнула камандзіра і сувязнога, збіла іх з ног.

— Так і ёсць. Мы прададзены... Ты ад першага ўзвода?

— Так точна, таварыш камандзір.

— Перадай узводнаму, акопвацца каля самага балота. Ранейшых пазіцый не займаць.

— Зразумеў. Дазвольце выконваць? Дзе вы будзеце?

— Вунь пад тымі дубамі...

Сувязны з усіх ног кінуўся праз кусты да ланцуга пагоркаў, якія цягнуліся ўперадзе ўсцяж балота.

А бой тым часам разгараўся. Услед за танкамі стральбу па пазіцыях партызан адкрылі мінамёты. Але міны не ўсе даляталі да цэлі. Некаторыя ўдараліся ў верхавіны дрэў, узрываліся. Ворагі спадзяваліся на псіхалагічнае ўздзеянне. Думалі, што шалёнае выццё асколкаў, траскатня падаючых дрэў і голля прымусіць партызан кінуцца ў паніку.

Але народныя мсціўцы былі ўжо неаднойчы пад такім абстрэлам, вялі сябе спакойна, пільна назіралі за ворагамі, якія ў атаку ўводзілі ўсё больш салдат.

Лявон Таўкачоў, калі разгарнуў свой узвод у ланцуг, загадаў першым чынам байцам, што былі ўзброены вінтоўкамі, біць па фашыстах, якія шукалі пераправу для танкаў. Частка шляху, па якім павінны пайсці машыны, была ўжо абазначана тычкамі з нейкімі шарамі наверсе. Спачатку Лявон не зразумеў, што гэта такое. Але калі глянуў у бінокль, усё стала зразумела: тычкі абмотаны анучамі, з іх сцякала чорная вадкасць. Фашысты падстрахоўвалі сябе. Калі танкам не ўдасца пераправіцца цераз балота на працягу дня, яны гэта зробяць ноччу пад факеламі.

Таўкачоў ляжаў у варонцы, якую з паўгадзіны таму выбіла снарадам. Яна яшчэ была цёплая, ад яе востра тхнула ўзрыўчаткай. Крыху было нязручна тут. Ногі тырчаліся ўгару. Але адсюль Лявон добра бачыў сваіх байцоў і не шукаў іншай для сябе мясціны.

— Кандрат, чуеш мяне? Цэль каля сухой асіны, са зламаным верхам, справа два пальцы. Агонь! — уваходзячы ў запал барацьбы, камандаваў узводны.

— Сяргей Залыга, цэль каля альховага карча, улева далонь. Плі!

Адзін за адным куляліся ў твань фашысты. Многія салдаты, бачачы, што партызанскіх куль пагусцела, пачалі аж у ваду хаваць галовы. З берага фашысты адапхнулі пантонную лодку, нагружаную мяхамі.

Салдаты, што былі на лодцы, аберуч хапаліся за мяхі і скідвалі іх за борт. Няблага падрыхтаваліся ворагі да прарыву цераз балотнае возера. Бачыш, нават пяском насцілалі для танкаў шлях.

Таўкачоў перавёў позірк на пазіцыі партызан.

— Гэй, Сымон-музыка. Даражэнькі,— звярнуўся ён да байца, любімца ўзвода.— Смальні па пантону. Бачыш, на ім салдаты і мяшкі.

— Ёсць, таварыш камандзір, смальнуць па пантону.

— Андрэй Зарэчны! Дапамажы Сымону, каб не заржавела твая вінтовачка.

І ў адказ зухаваты водгук:

— Ёсць! Цэль узята на мушку.

— Хлопцы-малойцы, агонь! Агонь! Ведайце, мы павінны перамагчы!

## РАЗДЗЕЛ СОРАК ДРУГІ

Хапаючы ўсхваляванымі вуснамі халаднаватае раніш-няе паветра, Аксана, трымаючы дзяўчынку на руках, па-глыбілася ў прасеку і пачала ліхаманкава кідаць вачыма па баках.

Стан ворагаў быў ззаду. Ад гэтага пачулася лёгкасць, быццам з плеч скінула цяжкую гару. Ну і выпрабаванне выпала!

Але і палкоўнік са сваёй світай трапіў у сітуацыю, якую не назавеш зайздроснай. Так яму і трэба, пачва-рыне! Востраў Чорны дуб аказаўся не надта міласцівы да фашыстаў. Бач, колькі прынёс ім нечаканасцей і загадак. Аксана таксама нямала здзіўлялася падзеям, што ўзнікалі тут неяк таямніча.

Яна, вядома, не сумнявалася, што на востраве ёсць пар-тызаны. Дзе ж яны?

Раптам Аксана пачула як бы нейкае шалясценне. Гэ-та прымусіла яе запыніцца. Яна напружылася ў чуйнай трывозе. У той жа момант з-за тоўстай елкі выскачыў танклявы хлопец-падлетак з аўтаматам у руках. Ён бег ёй наперарэз. Апынуўшыся на прасецы, хлопец стаў як укопаны.

— Куды? — і скіраваў на дзяўчыну аўтамат.

— Да вас, да партызан,— бязбоязна пазіраючы не-знаёмцу ў твар, адказала Аксана, тулячы да грудзей дзяўчынку.

— Алачка! Мілая! Як ты трапіла да іх?

— Дода! — весела ўсміхнулася дзяўчынка.— Дода!..

— Пастаўце яе на зямлю,— загадаў Ціток.

— Я яе вызваліла ад фашыстаў. Яна будзе са мной. Дзе вашы партызаны? Хай забяруць палкоўніка-фашы-ста і яго хеўру. Дагуляліся...

Аксана разглядала хлопца на ўсе вочы: цыбаты, у шэ-рай кепачцы, з-пад якой выбіваецца бялявы чуб, у клят-частай канаплянай сарочцы, зашмальцаваных штанах з чорнага корту, з босымі нагамі, парэпанымі, бруднымі.

— Дзе партызаны? — перапытаў хлопец і з несхава-ным жалем сказаў: — Там, у балоце Камар-мох.

— А тут хто? Хто забіў вартавога? Хто...

— Я...— самавіта працягнуў Ціток.— Хіба не ба-чыш: я!

— Ты? — здзівілася Аксана. І тут жа спытала: — Апрача цябе, тут нікога?

— Гэта не твайго носа справа,— рэзка адказаў хлопец.— Бач, якая хітрая — выпытвае!

— Калі ты адзін, нам трэба ўцякаць. Хутчэй да лодкі.

— Была з імі. А цяпер уцякаць?

— Нічога ты не разумееш, хлопча. Я — падпольшчыца, я...

— Ого, ты ўжо і падпольшчыца. А што ты зрабіла?

— Я паслала партызанам, дзядзьку Андрэю, дэпешу...

— Ну паслала, то і добра. Умееш загаворваць зубы, бачу, умееш... Ссаджвай Алачку!

— Ты не верыш мне, хлопец, не верыш? Партызаны пасля маёй дэпешы выйдуць з блакады...

Пачуўшы гэта, Ціток аж устрапянуўся. Чакай, яна пра дэпешу трызвоніць. Можа, аб той запісцы, што вёз невядомы смяльчак праз возера? Ён рашыў на ўсякі выпадак удакладніць яе прызнанне і спытаў:

— А што ў той дэпешы? Ану, скажы!

— «Рыгор Клімчук — здраднік. Ён ведае план блакады»,— выгукнула Аксана адным дыханнем.

Ціток упіўся ў твар дзяўчыны здзіўлена-радасным позіркам. Цяжка было паверыць у пачутае. Але словы былі тыя, іменна тыя, якія ён чытаў разам з Вадзімам Мікалаевічам.

— Правільна! — выдыхнуў Ціток.— Значыць, ты... ты аб'ягорвала гэтых паноў?

— Ты гаворыш — «правільна», як бы ведаеш змест дэпешы?

— Канешне, ведаю!

— І Алёшку Гадуна ведаеш? Ён хіба тут быў?

— Алёшку я не ведаю. Хто ён такі?

— Ён вёз дэпешу...

— А-а-а,— працягнуў хлопец засмучана і адвёў убок позірк.

— Што «а-а-а»? — перапытала Аксана, здагадваючыся, адбылося жахлівае і непапраўнае.

— Алёшку забілі... Яго лодку фашысты закідалі мінамі...

— Мінамі?..— жахнулася Аксана, і цень самоты лёг на яе твар. Яна неяк разгублена заміргала вачыма і роспачна загаварыла: — Алёшачка, родненькі! Забілі... Як жа так? Усё праз мяне. Усё праз мяне...

Вось дык сустрэча! Дзяўчына, аказваецца, не здрадніца, як яму думалася. Яна супраць ворагаў, яна — свая. Гэта адкрыццё проста-такі акрыліла хлопца. Але Цітоқ не паспеў выказаць сваю радасць, як заўважыў, што ўводдалі мільганула за дрэвамі постаць. Аксана ўбачыла хлопцаву ўстурбаванасць, насцярожылася.

— Чаго ты?

— Нас акружаюць, дзяўчына.

— Мяне завуць Аксанай. А цябе?

— Цітоқ!

Абстаноўка ўскладнялася. Ворагі ачомаліся ад шоку, які паралізаваў іх волю на першым часе трывогі. Фашысты як бы здагадаліся, што небяспека, якая навісла над імі, не такая ўжо і вялікая, што ім патрэбна дзейнічаць, захапіць ініцыятыву, калі не хочуць пакласці тут задарма свае галовы.

Постаць мільгатнулася зноў, на гэты раз ужо бліжэй да прасекі.

— Аксана, беражы Алачку. Адступаем к возеру.

Афіцэр-ад'ютант, пасланы ў лес палкоўнікам, зразумеў, што яго заўважылі, зрабіў выстрал з пісталета. Куля ярасна віскнула каля самага Цітка. Нягледзячы на тое што Аксана трымала на руках дзяўчынку, яна, як вавёрка, скокнула ўбок, схавалася за тоўстай старой бярозай. Цітоқ прысеў, націснуў на кручок.

«Тр-р-р!» — разлеглася крутое і гулкае водгулле па лесе.

Гарачая хваля трывожнай узбуджанасці запаланіла хлопцава цела. Ён пазіраў уперад, у тое месца, куды пасылаліся кулі. Ці забіты вораг, хлопец не ведаў.

— Цітоқ, злева фашыст,— ліхаманкава зашаптала Аксана.— Глядзі вунь там, за чорным вываратнем,— удакладніла яна і паказала рукой.

Хлопец зрабіў некалькі быстрых крокаў-скачкоў убок, прыладкаваўся да ствала маладога вяза, што рос у акружэнні ляшчынніку, замёр у чаканні. Праз момант новая аўтаматная чарга пляснула ў гушчар свінцом. Там, за вываратнем, завіскатаў чалавек.

— Цітоқ! Ты пацэліў. Малайчына!

— Аксана, к возеру! Ратуй дзіця,— хрыпата крыкнуў хлопец, насцярожана азіраючыся і прыслухоўваючыся.

Аксана азірнулася і, перабягаючы ад дрэва да дрэва, узяла кірунак да возера.

## РАЗДЗЕЛ СОРАК ТРЭЦІ

Ціток застаўся адзін. Моцна сціскаючы аўтамат, ён асцярожна стаў аглядаць наваколле. Найбольш пільна вывучаў мясціну справа ад прасекі. Там павінен знаходзіцца афіцэр. Гэта ён страляў з пісталета.

Прытаіўся, гад, цікуе. Ану, паспрабуй вытыркнуцца, паказацца! Вунь адзін фашыст ужо даходзіць за карчом. І па табе плача куля, пракляты бандыт. Маўчыш? Ну то і добра.

Ціток, не адрываючы позірку ад гушчару маладога ельніку, што прылягаў да паляны, пачаў паступова адыходзіць.

Калі пераканаўся, што аддаліўся ад ворагаў на бяспечную дыстанцыю, крута павярнуўся і пабег. Услед яму раздаліся адзін за адным ажно два стрэлы. Страляў афіцэр. І больш, вядома, каб падняць дух сваёй фашысцкай зграі, чым для трапнага пападання.

Ціток імчаў не прыпыняючыся, аж вецер свістаў за вушамі. Трэба было выгадаць час. Ох, як ён цяпер быў неабходны.

«Лодку захапіць... Лодку... Пасадзіць у яе Алачку, Аксану і адчаліць».

Чуў пад нагамі выпнутыя вузлаватыя карані дрэў і баяўся, каб на іх не спатыкнуцца. Па баках мільгацелі шурпатыя ствалы сосnaў, прысадзістыя елкі, адзінокія кусты.

Раптам уперадзе высвяціўся шырокі прагал, з-пад нізу якога вытыркнулася нияркае, крыху прыдымленае туманам сонца.

Вось і раніца. Свяціла было ружовае, як даспелы гарбуз.

Яшчэ нейкая хвіліна бегу, і Ціток выхапіўся на ўзгорыстую гарбіну ўзбярэжжа, зарослага сіўцом і дробнымі ракітавымі кусточкамі.

— Ціток, я тут! — крыкнула Аксана, выбягаючы з-за галінастай алешыны.— Дзяўчынку пасадзіла ў лодку. Дай аўтамат. Будзем адбівацца.

Хлопец адразу збочыў управа, з разгону нырнуў пад лапы маладой елачкі і выграб адтуль два аўтаматы. Аксана схапіла адзін з іх і, каб праверыць, ці спраўны ён, павярнулася ў бок прасекі, націснула на спускавы кручок. Аўтамат застракатаў.

— Б'е. Добра б'е...— зарадавалася дзяўчына.

— Хутчэй да Алачкі. Здымі з прычала лодку. А я... пільнаваць буду.

Можна было гэтага і не гаварыць. Аксана ўсё разумела. Пачапіўшы, як запраўскі салдат, аўтамат на шыю, яна бягом кінулася да берага. Алачка плакала, абедзвюма рукамі трымалася за борт лодкі.

— Не плач, птушачка, не плач.

Па карме білі невялікія хвалі, і лодка ціха пагойдвалася.

— Ціток! Вёслаў няма...— крыкнула ў здзіўленні-адчаі Аксана.

— Як няма? Будуць! — Хлопец апантана кінуўся ўніз за пагорак. У мітусні, у гарачцы ўтрапення забыўся ён, што вёслы таксама прыхаваў. Праз хвіліну ён іх прынёс. Аксана падбегла да хлопца, забрала вёслы. Ціток, бачачы, што згублены некалькі хвілін, што ворагі за гэты час маглі апынуцца дзесьці каля берага, даў некалькі зацяжных чэргаў па ўзлессі.

Тым часам ззаду зашкрабала лодка. Пачулася, як натужна яна ссоўвалася з пясчанага адкосу.

— Ціток! Гатова! — гукнула Аксана.

Яшчэ раз сыпануў кулямі ў гушчар хлопец, так сыпануў, што некалькі галін на бліжэйшых дрэвах былі адсечаны і ўпалі ўніз, тут жа крута павярнуўся і затупацеў босымі нагамі па ўзбярэжжы. Удагонку яму ляснуў пісталетны выстрал.

Ворагі ішлі следам. Але ішлі баязліва, прытоена, не адчуваючы на сваім баку перавагі.

Ціток на мелкаводдзі дагнаў лодку, схапіўся за яе нос рукамі, спрытна перакінуўся цераз борт.

Аксана бачыла, як па ўзлессі прабегла некалькі мітуслівых постацяў. Сярод іх пазнала палкоўніка.

Яна кінула вёслы, зласлівая, схапілася за аўтамат. Ціток, заўважыўшы намер дзяўчыны, крыкнуў:

— Гані лодку! Чуеш, гані. І Алачку палажы на дно лодкі.

У той жа міг з узлесся раз за разам бабахнула некалькі стрэлаў. Пачулася, як адна куля ўпілася ў лодку. О, праклятыя, хаця б не пацэлілі ў Алачку! Ціток прыкмеціў, што адна постаць як бы прыліпла да Чорнага дуба. Ці не ён, афіцэр-паляўнічы, самы галоўны вораг на гэтым востраве? Застракатаў, затузаўся ў Цітковых руках

аўтамат. Звонкае, галасістае рэха заляскатала аб сцяну ўзлесся.

Тым часам Аксана старалася, і лодка набірала ход. Рыпелі ўключыны, звінелі пырскі, плюскатала возера. Бераг аддаляўся. Раптам зноў ад лесу гупнуў выстрал. Ды так моцна і гулка, аж скаланулася паветра. Не было сумнення, білі з паляўнічага ружжа. Не паспеў хлопец аб усім гэтым падумаць, як пачуў — ззаду войкнула, жахнулася дзяўчына.

Ціток рыўком павярнуўся.

— Куля! Раніла...— Аксана трымалася за левае плячо.— Добра, што мяне, а не Алачку,— твар яе быў збялелы, разгублены. Па рукаве сукенкі збягала кроў.

— Бандыты!..— скрыгатнуў зубамі хлопец.— Ану, атрымлівайце!

Праляскатаў аўтамат, нацэлены на ўзлессе, віхурна паляцеў удалеч рой разгарачаных куль. Хлопец адпусціў спуск курка, шкадуючы, што не можа даць новую свінцовую чаргу. Паранена дзяўчына... Трэба паглядзець рану, памагчы. Ціток на каленях падсунуўся да Аксаны.

— Сядай у дно,— загадаў ён.— А ты, Алачка, не плач. Ляжы ціха-ціха.

Хлопец прыўзняў дзяўчыніну руку, разарваў рукаў сукенкі. Аказалася, што куля чыркнула па верху пляча. Было ўражанне, што касці яна не кранула.

— Рана невялічкая.

— Баліць...

— А ты цярпі,— заспакоены, што бяды вялікай не адбылося, стрымана сказаў хлопец.

— Глядзі, хаця б яшчэ раз не стрэлілі.

— Няхай страляюць. Цяпер — дудкі! Не дастануць. Метраў дзвесце пяцьдзесят ад берага.

Лодка плыла па інерцыі, апрача таго, яе падганяў заходні вецер. Хлопец тым часам увіхаўся каля раны. З рукава сукенкі зрабіў стужку і туга перавязаў плячо. Кроў спынілася. Гэта было вельмі важна. Закончыўшы свой клопат, Ціток стрымана сказаў:

— Сядзі, не варушыся!

— Куды мы паедзем? — пацікавілася Рудкоўская і пачала пільна аглядаць прастору возера.

Сонца выблыталася з туману і стала іншым, вогненна-іскрыстым. Азёрная далячынь, што ляжала пад ім, бы-

ла густа абсыпана і пранізана праменнымі бліскаўкамі. Крычалі, насіліся нізка над вадой чайкі.

Была звычайная раніца, самотна-ўрачыстая, з асенняй тужлівай задуменнасцю. Дзяўчына кінула позірк у бок мястэчка. З трубы лесапільнага завода, што стаяла ў небе тырчком, як цвік, курыўся шэра-буры дым. Наваколле возера было спакойным, не пагражала небяспекай. Аксану гэта ў нейкай ступені заспакоіла, бо ведала, што раніцай на востраў мелася прыйсці лодка з салдатамі.

Праз хвіліну Аксана перавяла позірк на поўнач, у бок балота Камар-мох. Наўсцяж вецер гнаў гарбы доўгіх сініх хваль. Там, у тым баку, таксама па небе распаўзаўся дым. Але ён быў, ведала Аксана, ад пажару. З берага вострава грымнуў новы выстрал.

— Позна! Не дастанеце! — сказаў са зласлівым выклікам Цітох. Ён усеўся на сярэднюю лаўку і ўзяўся за вёслы.

Зноў стралялі з паляўнічага ружжа. На гэты раз не пачулася, каб побач праляцела куля.

І Аксана, і Цітох не адводзілі вачэй з вострава. Там ворагі адчувалі сябе, як у пастцы. Але хадзілі, бегалі па беразе не хаваючыся, на поўны рост. Аб нечым крычалі. Вада дапамагала перадаваць іх галасы.

— Крычыць палкоўнік,— растлумачыла Аксана.— Пагражае пастраляць салдат і афіцэра за тое, што праспалі небяспеку, што так яго падвялі.

— «Свінні! Аслы! Кракадзілы рыжыя!» — перакладала воклічы палкоўніка дзяўчына.

— «Кракадзілы рыжыя!» — дакладна пацэлена, як у яблычка! — задаволена заўсміхаўся хлопец.— Чуеш, Алачка, у чыіх руках ты была. А цяпер — дудкі! Нічым не дастанеце...

Дзяўчынка сядзела на дне лодкі, выцірала кулачком вочкі. Раз за разам пераводзіла позірк то з Аксаны на Цітка, то з Цітка на Аксану.

— Бачыш, Алачка, едзем.

Шамацела возера, рыпелі ўключыны, і маленькі бурун пеніўся за кармой. Цітох не пакідаў сачыць за востравам. Галасы адтуль ужо ледзьве даляталі да лодкі. Дзяўчына ў думках дзякавала Цітку. Хлопец аказаўся разважлівы і больш абачлівы, чым яна думала. Робіць ён усё спрытна, з толкам. Вырастала павага да хлопца, і цяпер дзяўчына глядзела на яго амаль замілавана. Усе фашысцкія

9 Зак. 2514

аўтаматы аказаліся ў яго руках. І яе, бач, узброіў. Вось з гэтага важкага аўтамата, што ляжыць на дне лодкі каля яе ног, яна страляла. Хай не пацэліла ў фашыстаў, але добра нагнала ім страху, дапамагла Цітку. У вялікую бяду яна трапіла. Ды вось, здаецца, хоць з цяжкасцю, але выбіраецца...

Ціток напорыста ўзмахнуў вёсламі, ускінуў галаву і амаль весела сказаў:

— Хопіць! Небяспекі няма. Як сябе адчуваеш? Моцна баліць рана?

— Моцна, Ціток. Але не турбуйся, я ўсё сцярплю. Такі час... Такая барацьба...

— Ну трымайся! — паважна сказаў Ціток і з ціхай задуменнасцю агледзеў возера. Памаўчаўшы, раптам запытаў: — Аксана, хто той фашыст-паляўнічы?

— Палкоўнік Фрыдрых Носке.

— Гэта ён акружыў сваім войскам нашых партызан?

— Ён, Ціток. Ён, пракляты!

— Ого, які павук трапіў у нашы рукі! Аксана, ты разумееш? Не, ты нічога не разумееш! — махнуў рукой хлопец, убачыўшы, што Аксана павярнулася ўбок і яго не слухае.

— Разумею, Ціток! Разумею! — вінавата сказала дзяўчына і зноў скіравала на хлопца свае неспакойна пакутныя вочы.

— Нам трэба зрабіць усё, каб палкоўнік не ўцёк з вострава.

— Уцякаць ён не будзе. Бо няма на чым. Яго выручаць салдаты,— разважна прамовіла Аксана.— Яны раніцай павінны прыехаць па палкоўніка. Хутчэй нам, Ціток, трэба ўцякаць. А то ўблытаемся ў новую бяду.

— Ты дакладна ведаеш: раніцай?

— Дакладна. Аб гэтым гаварыў камендант Вільгельм Цымлер. Я добра чула яго размову з палкоўнікам.

— Што ж рабіць? — занерваваўся хлопец. Ён вельмі шкадаваў, што так удала праведзеная на востраве начная аперацыя можа згубіць сваё значэнне. У яго ёсць, вядома, спадзяванне на дапамогу з боку партызан. Але калі яны з'явяцца тут? Ці ведаюць яны наогул пра падзеі на востраве Чорны дуб? Калі Вадзім Мікалаевіч не дасягнуў берага на сваім судне-плыце, усё пойдзе не так, як трэба. Сапраўды, трэба ўцякаць адсюль, пакуль не позна.

«Эх, Вадзім Мікалаевіч!» — самотна ўздыхнуў хлопец.

Аксана, як ад болю, устрапянулася. Яна рэзка падалася ўперад і сказала:

— Ціток, ты нешта сказаў?

— Нічога я не гаварыў.

— Ты назваў нейкае імя.

— Я думаў пра свайго друга. Вадзім Мікалаевіч нам павінен памагчы,— і не паспеў ён закончыць сваю думку, як раптам падхапіўся на ногі і стаў углядацца ў бок, дзе знаходзіліся Міткавічы.— Аксана, лодка! Няўжо фашысты?

Аксана не адразу зразумела хлопцаву трывогу. Яна была пад уражаннем пачутага імя. Ціток ведае Вадзіма Мікалаевіча? Няўжо гэта той, яе першы каханы, цельпукаваты і крыўдлівы Вадзім Мурашка?

— Ціток...

— Аксана, глянь — лодка! — суровасць і заклапочанасць леглі на хлопцаў твар.— Што будзем рабіць?

— Лодка? — перапытала яна, і толькі цяпер дайшлі да свядомасці трывожныя выгукі хлопца. Дзяўчына ліхаманкавым позіркам каўзанула па даляглядзе возера. Убачыўшы наперадзе на значнай адлегласці чорную кропку, яна падхапілася, устала. Нейкі момант неадрыўна сачыла за возерам. Тут жа Аксана адчула, як страх запаланіў яе істоту. Не было сумнення — рухалася лодка з двума ці трыма чалавекамі. І гэта, відаць, былі фашысты. Салдаты строга выконвалі загад каменданта гарнізона.

— Яны! — выгукнула Аксана, з пачуццём трывогі і разгубленасці зірнула хлопцу-партызану ў твар.— Нам трэба ўцякаць, Ціток! Ратаваць Алачку.

У небе сонца было зусім падобнае на сланечнік, свяціла ціха і мякка. Беглі рэдзенькія, нібы кужэльная пража, хмаркі. У іх бегу заўважаўся як бы нейкі неспакой, трывожнасць. Ціток насцярожыўся, постаць яго застыгла, акамянела. Ён верыў у верагоднасць Аксанінай думкі. Але што рабіць? Уцякаць? Пасля ўсяго таго, што адбылося? Ціток ніколі сабе такога не даруе. Ён тады пазбавіць сябе права вярнуцца да партызан. Апрача таго, ці можна дапусціць, каб тыран-фашыст, палкоўнік Фрыдрых Носке, застаўся жывы, быў зняты яго салдатамі з вострава? Але Алачка!.. Увязацца ў бой? . Вялікая рызыка... Уцякаць? Можна. Але ці ад'едзеш далёка? Яны, фашысты, пад'едуць да берага. Уведаюць пра ўсё і тут жа памчацца следам...

— Сядай, хутчэй сядай, Аксана! — крыкнуў хлопец і,

9*

павярнуўшыся, схапіў яе за здаровае плячо. Прыціснутая яго жылаватай рукой, дзяўчына апусцілася на лаўку. Збянтэжана заміргала павекамі.

— Што такое? Чаму?

— Мы будзем біцца з імі,— рашуча выгукнуў хлопец і кіўнуў галавой у бок лодкі.— Ты разумееш, Аксана, будзем біцца!

— Яны нас тут патопяць. І Алачку... Што ты задумаў, Цiток? Гэта ж табе не ноч. Усё адбудзецца сярод белага дня. А яны ўзброены... да зубоў.

— А мы хіба горш? — сказаў Цiток і стрымана ўсміхнуўся.— У нас будзе, не забывай, перавага. Мы нападзём першымі.

— Ты ўжо маеш нейкі план?

— Вядома.

І хлопец расказаў. Аксана неадрыўна сачыла за хлопцам, за яго развагамі. Пярэчыць яму, вядома, не магла. Не хацелася ёй выглядаць перад гэтым юным партызанам палахліўкай, істэрычкай.

— Разумееш сваю задачу? — спытаў Цiток цвёрда, зусім як камандзір.

— Разумею, Цiток.

Лодку, пакінутую без кіравання, узялі ў палон хвалі і павалі адносілі ў бок Міткавіч. Цiток сеў за вёслы і надаў лодцы рух у такім напрамку, каб яна выйшла на лінію сустрэчы з фашыстамі. Неўзабаве хлопец пасадзіў на сваё месца Аксану. А сам, узяўшы аўтамат, лёг, прыладкаваўся ў носе лодкі. Паклаў побач з сабой і Алачку.

— Ляжы, дзетачка, ляжы. Бачыш, якая добрая лодачка. Яна гушкае цябе, мяне і цёцю. А ты ўстань,— звярнуўся Цiток да Аксаны.— Хай бачаць, што ў лодцы ты адна!

Рашучасць і ўпэўненасць, з якімі Цiток рыхтаваўся да бою, прынеслі пэўную ўраўнаважанасць і ў душу Аксаны. Аднак трывожылася: няхай бы абышлося без гэтага бою. Што ён прынясе, чым закончыцца? Многае будзе залежаць і ад яе, Аксаны. Дзяўчына намаганнем волі сцялася, і боль раны паменшаў.

Ваколле, як кінуць вокам, шырока расхінулася ва ўсе бакі. Але цішыні не было. Там, на поўначы, светлы прыгожы ранак тузалі глухія выбухі гармат. Заўтра балота Камар-мох павінна ператварыцца ў пекла. Як вядома Аксане, назаўтра назначана генеральнае наступленне на лясную

крэпасць партызан. Наступленнем павінен кіраваць Фрыдрых Носке. Там яго чакаюць баявыя лаўры. Заўтра...

Дзяўчына правай, здаровай рукой абхапіла вясло, зрабіла некалькі лёгкіх узмахаў. Скасіўшы вочы, неадрыўна сачыла за лодкай фашыстаў. Так, у ёй плылі салдаты. Трое. Іх фігуры ўжо вылучаліся на фоне возера. Лодка ішла напорыста, упоперак хваль.

Аксана перакінула позірк на востраў. Там, на беразе, відаць, заўважылі з'яўленне фашысцкай лодкі, бо адразу апантана забегалі салдаты, пачуліся крыкі. Але іх цяжка было разабраць. Ворагі хацелі папярэдзіць сваіх аб небяспецы.

За лодкай фашыстаў пільна сачыў і Ціток. Ён ляжаў, распластаны на днішчы, з рукамі, выцягнутымі ўперад, у якіх быў заціснуты аўтамат. Руля аўтамата скіравана на няпрошаных гасцей. Лодку калышуць хвалі, і хлопец прыкідвае загадзя, як лепей трымаць зброю, каб біць без промаху.

— Павярні правей,— усхвалявана шэпча хлопец, і Аксана вяслом папраўляе лодку. Фашысты зусім блізка. Аксана падхапілася на ногі, устала, каб салдаты зразумелі, што яна — дзяўчына, што яна адна сярод возера. Аксана нават крыкнула: «Гэй! Гэй!», каб салдаты падплылі бліжэй і Цітку было лепш цэліць у іх. Фашысцкая лодка загаманіла, зашумела.

— Фройляйн! Фройляйн! Мы цябе выратуем! — Салдаты залівіста рагаталі. Аксана, вядома, не сцярпела, адгукнулася:

— Я вас чакаю! Гут морген! — і тут жа села на лаўку і пачала вяслом выварочваць нос лодкі на лінію агню. Яна бачыла, як Ціток засяроджана глядзіць уперад, як моцна ў яго руках сціснуты аўтамат.

— Фройляйн! Фройляйн! Партызан — капут! Хайль Гітлер! — беснаваліся ў лодцы гітлераўцы ад нечаканай сустрэчы з дзяўчынай.

— Руская русалка. Фройляйн! Выбірай сабе жаніха. Хто лепш!

Гэтую тыраду фашысцкага вылюдка завяршыў стукат аўтамата. Адзін з фашыстаў, што ўстаў, каб лепш разгледзець Аксану, кульнуўся цераз борт у возера. Два іншыя салдаты пачалі мітусіцца, каб схапіць для абароны зброю. Але было позна. Адлегласць паміж лодкамі была невялікая, і дзве доўгія аўтаматныя чэргі завяршылі справу.

Фашысцкая лодка без кіравання закруцілася на месцы.

Цітох стаяў у лодцы ва ўвесь рост, суровы, напружаны. Перад сабой трымаў аўтамат, руля якога ўсё яшчэ была скіравана на фашысцкую лодку.

— Дода!.. Дода! — спалоханая стралянінай, крычала Алачка.

— Не бойся, дзетачка, не бойся! Гэта я страляў па фашыстах, здаецца, пабіў усіх.

За бортам лодкі, гучней як трэба, заплюскаталі хвалі. І раптам пачулася: «Гітлер — капут! Рус, не страляй!»

— Глядзі, той, што ўпаў у возера,— жывы? — Аксана апантана глянула на Цітка.— Страляй! Бі яго!..

Хлопец і сам разумеў сітуацыю. Ён націснуў на кручок, ярасна затарахцела аўтаматная чарга. Кулі білі па борце лодкі, якраз у тое месца, адкуль пачуўся голас.

— Ну як, хопіць? — запытаўся хлопец. Панурае маўчанне было яму адказам. Цітох з палёгкай уздыхнуў і, павярнуўшыся да Аксаны і Алачкі, спытаў:

— Страшна было?

— Страшна.— Яна прыгарнула здаровай рукой Алачку да сябе.— Але мы, Цітох, здаецца, перамаглі. Гэта — гадоўнае. Паглядзі на бераг вострава. Фашысты стаяць, нібы аслупянелі. Яны ўсё бачылі, яны ўсё зразумелі. Ішла дапамога, ды не дайшла. От ужо там кляне палкоўнік мяне. Ды і цябе ўспамінае. Малайчына ты! Я і не падазравала, што буду мець справу з такім смельчаком. Ноччу на востраве ўтварыў тарарам, не дай бог. І вось тут...

— Хай пачухаюцца фашысты,— стрымана ўсміхнуўся Цітох.— Хай уведаюць па чым фунт ліха.

Ён не спускаў з вачэй фашысцкую лодку, каб не адбылося якой нечаканасці. Дзве скурчаныя салдацкія фігуры ў той лодцы не варушыліся.

— Што з лодкай? — спытала Аксана.— Пакінем ці патопім?

— Трэба да яе падплысці,— разважна прамовіў Цітох.

— Трэба забраць іх аўтаматы.

— Усё забяром: і аўтаматы, і лодку, і трупы...

— Хочаш паказаць партызанам?

— Абавязкова,— паважна адказаў Цітох.— Хай пабачаць нашу работу.— І, памаўчаўшы, дадаў: — Павяслуй, калі ласка. Алачка, сядзь вось тут, ля мяне.

Хлопец стаяў з аўтаматам у руках, лодка паволі разварочвалася і кіравалася да фашысцкай пасудзіны.

— Стоп! — загадаў хлопец.

Дзве лодкі зблізіліся. Цiток спрытна скокнуў у фашысцкую лодку, нагнуўся і страсянуў за плячо спачатку аднаго салдата, потым другога. Яны былі нежывыя. Цiток зірнуў за борт. Там нікога не было, спакойна гайдалася цяжкая асенняя вада.

Хлопец падабраў фашысцкія аўтаматы.

— Лодку возьмем на буксір,— па-гаспадарску распараджаўся хлопец.— Ёсць яе чым і прычапіць.

Некалькі хвілін клопату і турбот — і дзве лодкі злучыліся моцным ланцугом. Цiток тут жа перайшоў у сваю лодку, паклаў на дзнішча трафейныя аўтаматы і, сеўшы на лаўку, узяўся за вёслы.

— Зараз куды? — ускінула Аксана на хлопца зыркія чыстыя вочы. Цяпер і яна спакойна села на лаўку.

— Адыдзем з гэтага месца. Можа, з Міткавіч бачылі, што тут рабілася. Тады — бяда. За намі накіруюць такую пагоню, што божа мой. Трэба, пакуль не позна...

— Трэба...— пацвердзіла Аксана.— Налягай на вёслы. А мы з Алачкай будзем сачыць за возерам.

— У нас пяць аўтаматаў,— радаваўся хлопец, хвацка заграбаючы вёсламі ваду.— Ты толькі падумай: пяць!

— Гэта не ўсё, Цiток,— адгукнулася Аксана.— Ты падумай, дзе сядзіць Фрыдрых Носке, той гераічны палкоўнік, які заўтра павінен павесці сваіх салдат на штурм партызанскага злучэння!

— Цяпер ён сам трапіў у блакаду. Праўду людзі кажуць: не капай другому яму...

— Сам валішся,— падхапіла Аксана і дадала: — Вось бы адбіць Гітлеру тэлеграму. Хай бы прыехаў выручаць свайго Носке.

— Такое і Гітлеру будзе. Вось пабачыш,— паважна, з гонарам зазначыў хлопец. Твар яго быў расчырванелы, потны, з выразам паважнасці і сілы.

Лодкі ішлі курсам на паўночны мыс вострава. Там стаяў прыткнуты да яго плывун, абагнуўшы які, можна было бачыць, што робіцца на заходнім баку возера,— Цiток чакаў партызанскіх пасланцоў. Яны маглі з'явіцца гэтай ноччу. Але, на жаль, не з'явіліся. Значыць, могуць падплысці і зараз. Хлопец кідаў позіркі на паўночны захад, абшарваў вачыма водную прастору. На вадзе панавала шэрая пустэльнасць. Але хлопец не губляў надзеі. Павінны з'явіцца! Павінны! Трэба ж гэтаму гаду Нос-

ке накінуць аброць. Каб не ўцёк, каб прадстаў перад нашым судом. Эх, каб не спазніліся партызаны. А то... Пойдзе ўсё прахам, што здабыта і заваявана за мінулую ноч і гэтую раніцу.

Цела трымцела ад нецярплівасці, калацілася, гулка стукаючы ў грудзях, сэрца. Ціток глянуў на Аксану. Яна, сцішаная, разам з Алачкай сядзела на пярэдняй лаўцы спінай да яго, сачыла за востравам і наваколлем вады. Вецер варушыў яе мяккія кучаравыя валасы, што вадаспадам сцякалі да вузкіх плячэй, абцягнутых чорнай сукенкай. Ёй, відаць, было холадна. У яе апрача ўсяго балела рана. Але яна маўчала, ні на што не скардзілася. Яна аб нечым думала. Але аб чым?

Хлопец клопатна ўзмахваў вёсламі, і лодка ляцела лёгка, апантана, напорыста рэзала гарбы хваль. Той бераг, на якім знаходзіўся палкоўнік з салдатамі, ужо не праглядаўся. Але вачам адкрылася новая прастора, якая ахапіла заходні бок вострава.

Як толькі лодка зайшла за сцяну чаротавага плывуна, Аксана ўстрапянулася, выцягваючы ўперад шыю. Тут жа падхапілася і радасна гукнула:

— Ціток, бачу...

— Што бачыш?

— Лодку бачу, Ціток.

— Няўжо?! — апантана ўсклікнуў хлопец, кінуў працаваць вёсламі, павярнуўся тварам на захад. Лодка мякка шалясцела па вадзе. А хлопец застыг у нерухомасці, разглядаў далячынь. Так, да вострава Чорны дуб шыбавала пасудзіна, у ёй угадвалася аж тры чалавекі. Там таксама заўважылі, што на вадзе яны не адны. Вось адзін пасажыр устаў, прыставіў казырком да вачэй далонь. Стаяў, не мяняючы паставы, можа, з хвіліну. Потым у лодцы ўсталі ўсе трое. Ціток Каляда аднаго з іх пазнаў.

— Нашы! Аксана, нашы! Плыве Вадзім Мікалаевіч! — бура радасці лінулася з хлапечых грудзей.— Ура-а-а! Нашы! Аксана, Алачка, нашы! Будзем штурмаваць востраў!

1971—1977 гг.



# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!

## МАРАК З КАХОЎКІ

Да першага верасня заставалася зусім мала. Дзеці Белай Кручы з нецярплівасцю чакалі заняткаў. Амаль усе ўжо былі дома. Толькі чамусьці не прыязджаў Косця Дубовік. Тры тыдні назад ён папрасіўся ў брыгаду плытагонаў, якая вяла караван плытоў на Украіну. Яго, вядома, прынялі, бо ў гэтай брыгадзе быў Косцеў бацька.

Плыт ішоў да Новай Кахоўкі. Многія зайздросцілі Косцю. Гэта ж пашанцавала хлопцу — пабачыць не толькі Прыпяць на вялікім яе працягу, але і Дняпро! А каля Дняпра — вялізныя ўкраінскія гарады, сёлы з белымі хаткамі. Праплывуць плытагоны міма Днепрагэса, там плаціна-плаціна! А потым убачаць Кахоўку, вялікую будоўлю...

Рана прыйшлі сёння хлопчыкі да Васілька Падгорнага, Косцевага сябра. Пачакалі, пакуль ён паснедае. Потым загаманілі. Затрымка Косці ў дарозе вельмі хвалявала ўсіх.

— Можа, якое няшчасце здарылася? — сказаў Юрка Хлябок, правёўшы рукой па стрыжанай лабатай галаве.

— Ён жа не адзін, а з бацькам,— зазначыў Васілёк.

— Ну і што ж, калі з бацькам. Часам рака ўзбунтуецца — адно страхоцце.

— Бачыў, бачыў і я такое,— падхапіў Міша Сокалаў,— зіркаючы чорнымі вачыма.— Калі плыт разарвецца, бярвёны тады ляцяць, круцяцца, становяцца старчком...

— Іх плыт надзейны,— упэўнена зазначыў Васілёк.— Дый у яго такі адрас, што любая бура, любы шторм саступяць з дарогі.

— Слухайце, а можа, яны не дайшлі яшчэ да Кахоўкі?

— Магчыма. Кахоўка не так ужо і блізка, на самым поўдні Украіны. Ды вось яна,— Васілёк падышоў да кар-

ты, што вісела на сцяне над канапай, і тыцнуў пальцам у кропку каля сіняй пакручастай стужкі.

— Зусім непадалёчку ад Чорнага мора,— сказаў Міша Сокалаў, углядаючыся ў карту.

— Цікава, колькі ж туды кіламетраў?

— Зараз падлічым,— Васілёк вылез з-за стала, падышоў да трох'яруснай этажэркі і адшукаў паміж кніг лінейку.

— Падлічым спярша,— пачаў ён так, нібы ў класе адказваў урок па геаграфіі,— якую мае даўжыню Прыпяць ад нашай вёскі да Дняпра.— Васілёк прыклаў лінейку да карты.

— Дванаццаць сантыметраў,— выгукнуў Юрка Хлябок, зірнуўшы на лінейку.

— Дванаццаць з паловаю,— паправіў яго Васілёк.

— Калі так, дык усе чатырнаццаць бяры. Ты ж выгібы, петлі розныя ўлічы. Якраз столькі атрымаецца,— разважліва сказаў Юрка.

— Добра, запішам так, як гаворыш: чатырнаццаць сантыметраў.

Была вымерана таксама даўжыня Дняпра ад вусця Прыпяці да Кахоўкі. Юрка хуценька склаў лічбы.

— Які маштаб карты? — запытаўся ён.

— Лічы: у кожным сантыметры дваццаць пяць кіламетраў...

Хлопчыкі нахіліліся над сталом, уважліва сачылі, як Юрка робіць падлік.

— Ты ж не памыліся! — папярэджвалі яго.

— Ну вось вам і даўжыня шляху — дзевяцьсот кіламетраў,— зазначыў хлопчык праз хвіліну.

— Шлях вялікі...

— За колькі ж сутак яго можна прайсці?

— Гледзячы з якой хуткасцю плыць,— прамовіў задумліва Васілёк.— Я мяркую, плыт праходзіць у суткі кіламетраў па семдзесят — дзевяноста.

— А не больш? — усміхнуўся Міша.

— Не, гэта я добра ведаю.

— Калі так, на дзесятыя суткі яны былі ў Кахоўцы,— першы падлічыў Міша.— А прайшло часу ні многа ні мала — тры тыдні.

— Затрымліваюцца недзе. Цяпер ужо ясна,— бліснуў чорнымі вачыма Васілёк, пазіраючы некуды ў акно.

Дзень быў сонечны, прыгожы. Сонца разагнала над

зямлёй рэшткі туману і зараз павольна плыло між высокіх купчастых аблачынак.

За хатай, на пераплеценай карэннямі дарозе, грукацелі вазы.

Чулася гамонка калгаснікаў. Даносілася натужнае гудзенне малатарні: за вёскай высіліся магутныя сціргы яшчэ не абмалочанай збажыны і вастраверхія стагі саломы.

Лета было на зыходзе.

— Няхай бы Косця хоць пісьмо напісаў,— сказаў Міша.— Каб мы не хваляваліся. Які ж ён нездагадлівы!..

— Там яму не да нас,— заключыў Юрка, павярнуўшыся да сябра.— Ты ведаеш, колькі ў плытагонаў клопату? Нічога, мабыць, не ведаеш, калі так гаворыш!

— Калі б захацеў, прыслаў бы,— стаяў на сваім Міша.

— Косця хутка прыедзе. Не веру, каб ён мог спазніцца ў школу,— упэўнена сказаў Васілёк.

— Што ж сёння будзем рабіць, хлопцы? — раптам запытаўся Юрка, паглядзеўшы ў акно.

— Гайда рыбу лавіць! — унёс прапанову Міша.— На вудачку павінна брацца.

— Я не супроць,— згадзіўся Васілёк.— А ты як, Юрка?

— З вамі. Дома ж рабіць няма чаго.

— Тады пайшлі! — скамандаваў Васілёк, і хлопцы шумна выбеглі на двор.

Васілёк дастаў з-пад страхі хлява арэхавае абструганае вудзільна, закінуў яго на плячо. Хлопчыкі па дарозе да ракі таксама захапілі з сабой вуды, забегшы кожны дадому.

— А дажджавікоў накапаем на месцы. Я ведаю дзе,— сказаў Васілёк, заўважыўшы ў руках Мішы пустую баначку.

— Я заўсёды іх на двары пад калодамі шукаю. Там яны тонкія, чырвоныя — якраз на акунёў,— прамовіў Міша.

— А каля ракі тлустыя... Калі ўжо такога закінеш, дык і шчупак можа нават пакваліцца... Во, брат! — дадзіў Васілёк.

Вёска Белая Круча, у якой жылі хлопцы, вялікая, двароў на сто пяцьдзесят. У час вайны немцы амаль палову не спалілі. Але цяпер людзі адбудаваліся. На большасці сядзіб сады, і зараз усё патанала ў зеляніне; са шляху

цяжкавата заўважыць хаты, бялеюць толькі між дрэў іх каміны.

У цэнтры вёскі ўзвышаліся дзве радыёмачты. Паміж імі чырванеў чарапічны дах клуба. Воддаль, з-за ўзгорка, відаць быў жоўты комін цагельнага завода.

Школа стаяла ў самым канцы галоўнай вуліцы на пясчанай выспе. Гэта быў сапраўдны палац з мноствам шырокіх вокнаў, якія глядзелі на поўдзень. Тут заўсёды было шумна, ажыўлена.

Хараша выглядала школа летнімі вечарамі. У шыбах палала зара, і яе водбліскі зачароўвалі кожнага.

Выйшаўшы за вёску, хлопчыкі збочылі налева, на вузкі прасёлак. Там, удалечыні, каля лесу, раскінулася шырокая прырэчная лагчына.

Зусім блізка ад вёскі стаяў рэдкі бярозавы гаёк. Беластволыя дрэўцы раслі высокія. Для іх там было шмат прастору і сонца.

— Вось тут нашы дажджавікі,— сказаў Васілёк, калі падышлі да гаю, і зняў з пляча вуду. Ён апусціўся наўколенцы і стаў аддзіраць травяністы дзёран.

У гэты час воддаль на рацэ пачуўся густы працяжны гудок. Яго тут жа падхапіў гай, паўтарыў на розныя лады: гу-у!

— Параход прыйшоў,— радасна зазначыў Юрка, хуценька павярнуўшыся да рачной прасторы.

І праўда, па роўнай гладзі вады павольна плыў белы параход. Ён быў доўгі, з двума радамі круглых акенцаў.

Прыстань Белая Круча знаходзілася непадалёку, у адным кіламетры ад бярозавага гаю.

— Можа, плытагоны прыехалі? — праводзячы позіркам параход, запытаўся Юрка.— Трэ было б іх сустрэць...

— «Янка Купала»,— прачытаў назву парахода Міша,— з Мазыра прыйшоў.

— Пабяжым на прыстань! — паклікаў сяброў Юрка.

— Чаго дарэмна бегаць? Ты хіба не бачыш, людзей на палубе няма,— прамовіў Васілёк.— Калі б яны прыехалі, было б адразу відаць.

— Ты маеш рацыю,— сказаў Юрка і адвярнуўся ад ракі.

Хлопцы разышліся па гаю, адшуквалі невялікія купіны, разрыхлялі кіямі тлустую чорную зямлю.

— Хопіць на сёння,— зазірнуўшы ў баначку Мішы, неўзабаве зазначыў Васілёк.

Да ракі пашыбавалі напрасткі. І толькі выйшлі з гаю, як тут жа заўважылі на дарозе хлопца ў форме марака. Ён ішоў шырокім крокам, лёгка, у такт хадзе пагойдваючы невялікім чамаданам. Вецер закідваў на плечы чорныя стужкі яго бесказыркі.

— Нахімавец! — з зайздрасцю пазіраючы на марака і на яго бездакорную выпраўку, прамовіў Васілёк.

Юрка адмоўна пакруціў галавой.

— Памыляешся,— запярэчыў ён, павярнуўшыся да сябра,— у нахімаўцаў іншая форма.

— Але ж і не матрос. Для сапраўднага марака, мне здаецца, яму росту не хапае,— разважна заключыў Васілёк.

Марак, пачуўшы гамонку, павярнуўся да хлопчыкаў, прыпыніўся. З хвіліну ўглядаўся, потым хуценька паставіў на ўзбочыну дарогі чамадан, шырока раскінуў рукі і з радасным воклічам кінуўся насустрач. Хлопчыкі разгублена паглядзелі адзін на аднаго.

Але вось бярозавы гай ускалыхнулі радасныя галасы:

— Дык гэта ж Косця Дубовік!

— Косця!..

— Прыехаў, не спазніўся...

Косця падбег да сяброў, пачаў моцна цісноць ім рукі.

— Здарова, рыбаловы, здарова! Ну, вось бачыце, мы зноў разам. Вярнуўся...

— Ох, які ж ты! Цябе, брат, цяжка пазнаць,— пільна аглядаючы Косцю, гаварыў Васілёк Падгорны.— І адкуль у цябе такі касцюм?

— А што, цудоўны, праўда? — Косця задорна прыўзняў галаву і растлумачыў: — У Кахоўцы мне яго пашылі. Гэта бацькаў падарунак за дапамогу.

— А што ты рабіў на плыце? — пацікавіўся Міша.

Косця спрытным рухам абцягнуў форменку і адказаў:

— Многа чаго: з бацькам стаяў каля правіла, пісаў заклікі, якімі мы ўпрыгожылі плыт, лавіў рыбу, дзяжурыў па начах, на прыстанях купляў плытагонам запалкі, табаку. Ды хіба ўсё пералічыш! Спраў там усім хапіла.

Косця Дубовік быў цыбаты, стройны, з круглым тварам, пад чорнымі бровамі прыветліва свяціліся вочы. Матроскі касцюм сядзеў на ім зграбна — паясніцу перахопліваў шырокі рэмень з меднай бляхай, на якой быў выціснуты вялізны якар, штаны — з дзвюма роўнымі, добра адпрасаванымі стрэлкамі, наглянцаваныя чаравікі.

Васілёк стаяў узбоч Косці — рыжавалосы, каржакаваты, моцны, як малады дубок. Характар ён меў круты, гарачы, але з Косцем дружыў здаўна.

Нечаканая сустрэча сяброў асабліва радасная. Пытанні, смех, жарты міжвольна сыплюцца ў сяброўскай гутарцы.

Косця стаяў спіной да Прыпяці. Вецер штораз уздымаў у яго за плячыма шырокі сіні каўнер, шалясцеў ім, як маленькай рачной хваляй.

— А дзе ж твой бацька? — запытаўся Міша ў Косці.

— І праўда! Хіба ты адзін прыехаў? — здзівіўся і Васілёк.

— Бацька на прыстані. Каля скрынак з маёмасцю. Мяне ж паслаў у вёску па фурманку. Астатнія плытагоны прыедуць з наступным параходам... Пайшлі!

Хлопцы рушылі з месца. У цэнтры ішоў Косця. Весела парыпвалі яго новыя чаравікі.

— У цябе і чаравікі нейкія незвычайныя,— сказаў, усміхаючыся, Юрка.

— Чаму?

— З музыкай...

— Ну-ну, не жартуй,— задаволена засмяяўся Косця.

— А як ездзілася? Будоўлю ў Каxоўцы бачыў? Раскажы, калі ласка,— папрасіў Міша, заглядваючы ў вочы таварышу.

— Адразу пра ўсё не раскажаш. Ды і змарыўся сёння... Адпачну крыху — збяромся...

Роўная, выезджаная дарога пакручастай стужкай бегла да вёскі. Узбоч яе па мяккай аксамітнай траве сунуліся прадаўгаватыя цені, дакладна паўтараючы кожны рух хлопцаў.

Сонца прыпякала, настойліва ўзбіралася ў вышыню. Ляніва хісталі верхавінамі прыдарожныя дубы. Але дыхалася тут вольна, бадзёра.

— Ну вось і прыйшлі! — сказаў Косця, з радасцю аглядаючы шырокую вуліцу роднай вёскі.

Насустрач ужо беглі з розных бакоў хлопчыкі і дзяўчынкі. Яны з цікавасцю разглядалі Косцю, любаваліся яго бесказыркай і шырокім сінім каўняром кашулі, які прыгожа ападаў на цакатыя плечы. Адна з дзяўчынак, зграбная, белавалосая,— была гэта Ніна Сцепаненка,— са здзіўленнем спыталася ў Косці:

— Хіба ты на параходзе служыш? І ў плаванне, відаць, возьмуць?

Юрка бліснуў маленькімі вачыма і адказаў за Косцю, выклікаўшы агульны смех:

— Плаваць ён, вядома, будзе. Але пакуль у класе каля дошкі.

Непадалёку пачуўся шум. Косця глянуў у той бок і ўбачыў, як адзін за адным пераскаквалі цераз плот бліжэйшага саду трое хлопчыкаў. У кожнага ў руках было па антонаўцы. У хударлявым скуластым хлопчыку, які пераскочыў першы, Косця пазнаў Віктара Калючку — галоўнага ў вёсцы задзіру. Віктар гучна рагатаў. Потым раптам змоўк, насцеражыўся.

Па супрацьлеглым баку вуліцы ішла невысокая дзяўчынка ў белым плацці — Косця яе бачыў упершыню. Віктар насунуў на вочы паношаную шэрую шапку, і калі дзяўчынка крыху адышлася, пачаў перакрыўляць яе хаду. Сябры аж прыселі ад смеху.

— Што яны робяць? — акінуў хлопчыкаў запытальным позіркам Косця.

Васілёк пацікнуў плячыма. Міша рашыў усё растлумачыць.

— Віктар новую настаўніцу вітае...— сказаў ён.

— Новую настаўніцу? І гэтак? — няўцямна павёў вачыма Косця па тварах сяброў.

— Ага. Табе дзіўна?

— Вядома, дзіўна. Чакайце, яна ў якіх класах будзе выкладаць?

— У пятых — сёмых.

— Значыць, і ў нас. Па якіх жа прадметах?

— Па рускай мове,— з запалам адсек Міша.— Прозвішча яе Нядзелька. Ходзяць чуткі,— працягваў далей хлопчык,— быццам будзе яна класны кіраўнік у нашым шостым. Віктар вышэйшы за яе на цэлую галаву. Ну і прыдурваецца. «Не,— кажа,— гэта не настаўніца. Дзяўчынка! Ей самой у шостым класе сядзець. Ці з малымі займацца». Вось і крыўляецца, як убачыць яе...

Косця локцем непрыкметна штурхнуў Васілька, маўляў, падрыхтуйся, калі што якое. І тут жа напорыста рушыў уперад. Хлопцы падаліся за ім услед.

Віктар Калючка заўважыў купку хлапцоў і хацеў быў шмыгнуць у ледзь прачыненыя веснічкі двара Сокалавых, але Косця спыніў яго:

— Пачакай!

— А што такое? — запытаўся Віктар, прыжмурваючы вочы.— А-а, гэта ты, Косця! Ого які!

— Ты чаго крыўляўся? — Косця падышоў да Віктара блізка-блізка.

— Артыстам хачу стаць,— злосна адказаў той.

— Дзівак! Чаго ж на вуліцы крыўляцца, ты ў хаце перад люстрам стань,— заўважыў Косця, і хлопцы дружна зарагаталі.

Віктар нахмурыўся, сціснуў кулакі. Потым з выклікам кінуў:

— Ты сам стой перад люстрам, вунь які чысцюля! А калі свярбяць рукі, выходзь, падужаемся! Мы не з палахлівых! Дармо што ты ў марацкай форме.

У гэты момант над галавой у Віктара праляцеў агрызак яблыка, які нехта пацэліў проста ў Косцеву бесказырку. Косця крутнуўся, хацеў быў падхапіць бесказырку, але яна толькі вільнула стужкамі і ўпала бачком на зямлю.

Пакуль Косця падымаў бесказырку, Віктар са сваімі басаногімі паплечнікамі шмыгнуў кудысьці ў двор. Разгубленасць і неўразуменне адбіліся на тварах хлопчыкаў — яны пазіралі на Косцю, чакаючы, што той будзе рабіць.

Косця ж абтрос бесказырку, надзеў яе на галаву і, як быццам нічога не адбылося, сказаў:

— Ну, хлопцы, я пайду дамаўляцца наконт фурманкі. А пад вечар збяромся.

## НА ПЕРШЫМ УРОКУ

З самай раніцы з розных канцоў вёскі да школы спяшалася дзятва. Ішлі хлопчыкі і дзяўчынкі ў яркіх чырвоных гальштуках; весела размаўляючы, крочылі рослыя юнакі-старшакласнікі ў акуратна адпрасаваных касцюмах, з камсамольскімі значкамі на грудзях.

Першае верасня. Які гэта хвалюючы і радасны дзень! Сёння рабяты сядуць за парты, раскрыюць новыя падручнікі, перад імі паўстане свет цудоўнага, нязведанага. Усё ім дала Радзіма — шчаслівае дзяцінства і шчаслівую будучыню!

А вось і званок. Звініць ён залівіста і доўга, і здаецца, што захліпаецца ад радасці. У калідорах — шум, тупат, гамана. Шырока расчыняюцца дзверы класаў, і ў іх гуртам уваходзяць урачыстыя і крыху ўсхваляваныя школьнікі.

Званок, гоман і тупат ног даносяцца і да слыху маладой настаўніцы Марыі Мікалаеўны Нядзелькі. Сядзіць яна ў настаўніцкай за сталом і адчувае ў душы нязвыклую боязь. «Няўжо гэта праўда, што я ўжо настаўніца? — думае яна.— А можа, па-ранейшаму — студэнтка, і ў калідоры гучаць галасы не школьнікаў, а маіх сяброў і сябровак?»

Марыя Мікалаеўна падымае галаву і бачыць перад сабою загадчыка навучальнай часткі Міхаіла Сцяпанавіча Новікава. Ён стаіць тут жа, ля стала, мажны, з зыркімі чорнымі вачыма.

— Задумаліся? — пытаецца ён стрымана, шчыра.

— Крышачку,— Марыя Мікалаеўна падхапілася з месца і прыкметна пачырванела.

— Не хвалюйцеся. Усё будзе добра. Бярыце журнал — час.

У доўгім калідоры пуста. Дзверы некаторых класаў прачынены — з іх выглядаюць вясёлыя твары. Гэта традыцыйныя школьныя дазорныя. Яны сочаць, калі выйдзе з настаўніцкай іх настаўнік, каб аб гэтым папярэдзіць сяброў і арганізавана сустрэць яго прыход.

Шосты клас — у самым канцы калідора. Марыя Мікалаеўна, ідучы побач з Новікавым, адшукала вачыма дзверы свайго класа,— яны былі зачынены, і гэта крыху ўстрывожыла яе. Вучні ведаюць: зараз яе ўрок. І няўжо іх не разбірае цікаўнасць, не хвалююцца яны перад першай сустрэчай з ёй?

— Калі ласка,— прамовіў Новікаў, адчыняючы дзверы шостага класа і прапускаючы ўперад Марыю Мікалаеўну.

— Добры дзень, рабяты! — пераадольваючы хваляванне, прывіталася настаўніца.

— Добры дзень!..— сказаў і загадчык навучальнай часткі.

— Добры дзень! — наперабой адказалі тры дзесяткі хлопчыкаў і дзяўчынак.

— Сядайце,— густым басам прамовіў Новікаў і, падышоўшы да стала, працягнуў: — Рабяты, Марыя Мікалаеўна Нядзелька будзе весці ў вас рускую мову і літа-

ратуру. Яна прызначана таксама і вашым класным кіраўніком. Як вы ўсе падраслі! — ён абвёў позіркам клас.— Як загарэлі — не пазнаць! А хто гэта там на задняй парце? Ага, Віктар Калючка! Не хавайся, не хавайся, Віктар,— жартаўліва пагразіў пальцам Новікаў,— усё роўна Марыя Мікалаеўна і там цябе знойдзе... Калі ласка, Марыя Мікалаеўна, пачынайце,— ветлівым рухам рукі ён запрасіў настаўніцу да стала, а сам выйшаў з класа.

З хвіліну ў класе панавала ажыўленне. Потым усталявалася цішыня.

Тры дзесяткі пар вачэй пільна назіралі за кожным рухам настаўніцы.

Застаўшыся адна, Марыя Мікалаеўна адчула разгубленасць, скаванасць. Ідучы на першы ўрок, яна добра падрыхтавалася: запомніла прозвішчы сваіх вучняў ды і ў твар многіх ведала.

А тут — глядзіць на хлопчыкаў і дзяўчынак і нікога з іх нібы не пазнае. Перад вачыма стракацяць загарэлыя дзіцячыя твары, стрыжаныя альбо гладка прычасаныя галоўкі. Дзе ж Васілёк Падгорны, Юрка Хлябок, Віктар Калючка, Ніна Сцепаненка?

Марыя Мікалаеўна, каб трохі супакоіцца, раскрыла журнал, на хвіліну ўтаропілася ў яго. Потым зноў зірнула на клас. Вучні сядзелі маўклівыя, насцярожаныя. Позірк на нейкі момант затрымаўся на чарнявым хлопчыку, што выглядаў з-за пляча дзяўчынкі, якая сядзела наперадзе. Вочы ў хлопчыка прыветліва іскрыліся. «Хто гэта такі? Ага, Косця Дубовік...» — яна чула пра яго ад дзяцей.

Зрабілася лягчэй. Тая скаванасць, што апанавала ў першыя хвіліны, знікла.

— Давайце пазнаёмімся,— прамовіла нарэшце няспешна.— Вы ўжо ведаеце, што мяне завуць Марыя Мікалаеўна. А зараз я буду выклікаць вас.

— Акулаў Алесь.

— Я.

— Артамонаў Грыша.

— Я.

— Дубовік Косця.

— Я.

Праз некалькі хвілін пераклічка была закончана.

— Сёння ў нас,— пачала Марыя Мікалаеўна,— урок літаратурнага чытання. Будзем з вамі паступова знаёміцца з рускай літаратурай. Пачнём з былін.

З задняй парты ў гэты час пачуўся голас хлопчыка:

— Марыя Мікалаеўна, на стале запіска. Там нашы пытанні...

Настаўніца адразу пастражэла, падняла вочы.

— Сярожа Каваль! — сказала ціха, але цвёрда. Хлопчык падхапіўся з месца, з бояззю паглядзеў на настаўніцу. Быў ён белабрысы, падстрыжаны, шчокі меў, як пампушкі. Рабілася ўражанне, што ён увесь час нечым незадаволены, надзьмуты.

— Ты чытаў «Правілы для вучняў»?

— Як жа, чытаў...

— Чаму не выконваеш?

— Ды я... я...

— Ты павінен ведаць, што для таго каб задаць пытанне, трэба ўзняць руку. Так, здаецца?

— Так,— Сярожа прысаромлена адвёў вочы ўбок.

— Сядай і памятай пра гэта,— сказала Марыя Мікалаеўна.

«Што за запіска? — падумала яна.— Падлажылі, а я і не заўважыла... Пабачым, што тут за падводны камень...»

З-пад журнала на стале выглядаў белы ражок паперкі. Марыя Мікалаеўна выцягнула запіску, прабегла яе вачыма.

«Адкажыце на нашы пытанні! — было напісана на паперцы.— Хто такі Ачумелаў, у якой кнізе і на якой старонцы аб ім напісана? Гэта раз. Калі нарадзіўся пісьменнік Абломаў? Гэта два. Ці праўда, што Янка Маўр не беларус, а маўр з Заходняй Афрыкі? Гэта тры. А чацвёртае пытанне — як Зямля наша ўзнікла і ці не злосная вы?!

*Віктар Калючка, Сярожа*[2]».

Марыя Мікалаеўна пасміхнулася сама сабе, паклала запіску на журнал і загаварыла:

— Запіска, рабяты, цікавая. Адкажу вам на ўсе пытанні, але толькі на перапынку.

— Зараз адкажыце! — пачулася некалькі галасоў.

— Паўтараю: адкажу на перапынку. А цяпер пачнём урок.

Спачатку Марыя Мікалаеўна вы́клікала некалькі вучняў і распытала, што яны праходзілі ў пятым класе. Быліну пра Ілью Мурамца вучні добра ведалі.

— А хто мне ўспомніць быліну пра Салаўя-разбойніка?

Над партамі ўзнялося больш за два дзесяткі рук, і гэта ўзрадавала настаўніцу. Што ні кажы, значна лягчэй з такімі вучнямі праходзіць новае, больш упэўненасці ў поспеху.

Праз вокны ў клас лілося святло асенняга сонца. Купчастыя бярозкі, што стаялі ля школы, пафарбавалі сваё лісце ў жоўты колер. Настаўніца на момант залюбавалася бярозкамі. І тут пачуўся вокліч:

— Марыя Мікалаеўна!..

Настаўніца хуценька павярнулася і адразу ўсё зразумела: хтосьці ад акна запусціў над класам папяровы планёр. Планёр зрабіў у паветры круг, рэзка пайшоў уніз і ўпаў на Галінку.

У дзяўчынкі на шчацэ і на далоні віднеліся круглыя чарнільныя плямы.

— Хто гэта зрабіў? — строга, патрабавальна запыталася Марыя Мікалаеўна.

— Я ведаю, гэта Віктар,— павярнуўшыся да ўсяго класа, сказала Галінка.

— Адкуль ты ведаеш? — успыхнуў Віктар Калючка.— Хіба ў цябе і на патыліцы вочы?

— Ты зрабіў! — стаяла на сваім дзяўчынка.

— Віктар Калючка! — Марыя Мікалаеўна падышла да хлопчыка так блізка, што бачыла на яго твары кожную вяснушку.

Віктар неахвотна ўстаў, бліснуў вачыма:

— Я невінаваты. Вы яе не слухайце, Марыя Мікалаеўна. Галінка выдумляе. Паглядзіце, чарніла ў мяне чорнае. А носік планёра пафарбаваны ў фіялетавы колер. Сляпому відаць: не я пусціў планёр.

— Рабяты, хто ж пусціў планёр? — звярнулася настаўніца да класа.

Усе маўчалі. Косця Дубовік папраівіў на грудзях гальштук і паглядзеў на Віктара. Той сядзеў, упёршыся грудзьмі ў адкрытае вечка парты, і быццам не чуў пытання. Косця рашуча ўскінуў руку.

— Прашу,— кіўнула галавой настаўніца.

— Віктар не хоча прызнавацца,— прамовіў ціха і абурана Косця,— тады гэта зраблю за яго я. Усе бачылі — планёр кінуў Віктар.

— Ен!

— Віктар,— падтрымалі ў класе Косцю.

— Значыць, ты? — спыталася ў Віктара Марыя Мікалаеўна, зноў падышоўшы да яго парты.

— Я...

— Чаму ж адразу не прызнаўся?

— Ды хацеў даведацца, колькі ў мяне тут сяброў.

— І многа налічыў?

— Сяброў няма.

— Віктар, ты не думаеш, аб чым гаворыш. Усе вучні класа — твае сябры. Яны жадаюць табе дабра. А ты што робіш? Непрыгожа, вельмі непрыгожа...

Марыя Мікалаеўна пачакала, пакуль аціх шум, і пачала тлумачыць новы матэрыял.

Мякка гучыць голас настаўніцы, поўны шчырасці і дабраты:

— Паслухайце, рабяты, быліну пра Вальгу́ і Мікулу. Даўно, у далёкія часы склаў яе наш народ.— Яна абводзіць вачыма клас і працягвае: — Давайце перанясёмся з вамі думкамі гадоў на трыста — чатырыста назад. Вось мы бачым пахілую, з саламянай страхою сялянскую хаціну. Стаіць яна на водшыбе ад сяла, пазірае ў заснежаны прастор двума акенцамі. Акенцы такія маленькія, што ноччу праз іх можна на небе ўбачыць хіба толькі па адной зорцы. Вечар. Завея. Яна кідае ў шыбіны снежную халодную жарству, завывае ў коміне. Ні прайсці, ні праехаць па вуліцы. Высокія гурбы снегу з усіх бакоў, ніводнага падарожнага.

А ў хаце весела патрэсквае на камінку агонь, мітусяцца на сценах яго яркія блікі. На шырокай лаве сядзіць дзед. Барадаты, маршчыністы. Непадалёку ад яго размясціліся маладзейшыя мужчыны і жанкі. Сядзяць яны хто ў кажушку, хто ў палатнянай шэрай світцы, туга перахопленых тонкімі вяровачкамі, і слухаюць апавяданне сівога дзядулі. Усе ў сяле любяць і паважаюць дзеда за тое, што ён многа ведае.

У руках у дзеда гуслі. Вось ён дакрануўся да струн, зазвінелі яны, заспявалі. У дзедавай памяці адзін за адным ажываюць вобразы людзей-асілкаў. Аб кім з іх сёння праспяваць, чые ўславіць подзвігі? Так праходзіць хвіліна, другая, і вось нарэшце стары нягучна пачынае:

Кто бы нам сказал про старое,
Про старое, про бывалое,
Про Вольгу́, про Микулу Селяниновича?

Цішыня пануе ў хаце, і старыя і маладыя задумліва глядзяць на дзеда, які ў сваёй памяці захоўвае скарбы народных паданняў і сказаў. Расказ аб асілках яшчэ не пачаўся. Гэта толькі запеў. Пры дапамозе яго дзед хоча зацікавіць сваіх слухачоў, абвясціць, аб кім пойдзе песня.

...Нетаропка звіняць струны гусляў. І вось у цеснай сялянскай хаціне пачуўся мудры расказ:

Жил Святослав девяносто лет.
Жил Святослав да преставился.
Осталось от него чадо милое,
Молодой Вольга́ Святославович.
Стал Вольга растеть — матереть.
Похотелося Вольге да много мудростей...

Косця Дубовік слухае настаўніцу, і перад вачыма, як жывы, узнікае князь на кані, у кальчугах і вастраверхіх шлемах яго дружыннікі. Многа іх — дваццаць дзевяць, адзін у адзін, малайцоў-удальцоў. Яны выязджаюць у «чыста поле», сустракаюць аратага. Упарта працуе Мікула ў полі, здабывае сабе хлеб. «Што ж будзе далей? — думае Косця.— Аб чым князь будзе гаварыць з Мікулам?»

З далейшага расказа высвятляецца, што як ні моцны сваёй сілай князь і яго дружына, але Мікула мацнейшы. Саху, якою араў Мікула поле, тры разы намагалася падняць дружына, ды так і не падняла. Мікула ж яе паднімае адной рукою.

І радасна робіцца на душы ў Косці. Сапраўды, няма нічога мацнейшага ў свеце за працоўны люд.

Як добра, як разумна аб гэтым гаворыцца!

Праз некалькі хвілін Марыя Мікалаеўна закончыла чытанне. «Ці зразумелі быліну дзеці?» — трывожна запытвае яна сама ў сябе і зазірае ў вочы Косцю Дубовіку, Галінцы, Юрку, Васільку. Вочы ў іх гараць роўна, роздум свеціцца ў глыбіні іх. «Зразумелі!» — радуецца ў душы Марыя Мікалаеўна і просіць вучняў задаваць пытанні.

Час мінуў непрыкметна. Урок захапіў і настаўніцу і вучняў.

## У ЧАС ПЕРАПЫНКУ

Калі зазвінеў званок, некаторыя хлопчыкі ўскочылі з месцаў і хацелі выбегчы з класа.

— Вы куды? — запыталася настаўніца.

— Званок быў...

— Чула, чула. Але пакуль я ў класе, выбягаць у калідор нельга. Запомніце гэта. Юрка і Міша, сядайце на месца. А цяпер я адкажу на пытанні, якія вы задалі мне ў запісцы.

Клас насцеражыўся, прыціх. З калідора нехта адчыніў дзверы, але, убачыўшы, што заняткі працягваюцца, хуценька зноў зачыніў іх.

— Перш-наперш хачу даведацца: хто такі Сярожа ў квадраце? — пачала настаўніца.

— Гэта наш Сярожа Каваль,— сказаў Віктар Калючка і тузануў за плячо таварыша.— Пакажыся настаўніцы.

Сярожа Каваль устаў.

— Чаму ж цябе так называюць?

— Яго па бацьку — Сяргеевіч. Сяргей Сяргеевіч і ёсць Сярожа ў квадраце,— адказаў за таварыша Віктар.

— І зусім не таму,— запярэчыў нехта з пярэдняй парты.— Сярожу не падабаецца імя, і ён паставіў яму двойку...

У класе засмяяліся, хоць гэты жарт, відаць, чулі не ўпершыню. Усміхнулася і Марыя Мікалаеўна, але нічога не сказала. Яна ведала: хлопчык цяпер зразумее недарэчнасць мянушкі і не будзе раўнадушна адносіцца да яе.

Пачакаўшы, пакуль супакоіцца клас, Марыя Мікалаеўна сказала:

— Дык вось, дзеці, адкажу на пытанні. Але перш заўважу, што пытанні звычайна задаюць тады, калі чаго-небудзь не ведаюць. А я не думаю, каб вы, называючы прозвішча «Ачумелаў», ды не ведалі, з якога яно твора.

— Ведаем! — выгукнула Галінка.— А Віктар і Сярожа знарок прыкідваюцца нязнайкамі.

— Тое ж самае пра Абломава. Хто называе яго пісьменнікам, той выдае сваю непісьменнасць.— Марыя Мікалаеўна скіравала позірк на Віктара і Сярожу.

Дзеці пільна назіралі за двума неразлучнымі сябрамі. Віктар і Сярожа то чырванелі, то бляднелі пад насмешлівымі позіркамі.

Косця Дубовік радаваўся. «Так вам і трэба,— думаў ён,— хацелі збянтэжыць настаўніцу, пасмяяцца з яе. А выходзіць, смяюцца з вас».

Сярожа не вытрымаў дакору настаўніцы, прыўзняўся з месца і сарамліва прагаварыў напаўголасу:

— Пра Ачумелава і Абломава прыдумаў пытанні Віктар. Я ж толькі пра Янку Маўра...

— А на гэта я адкажу. Сядай, калі ласка.

Віктар злосна зашыпеў і штурхануў Сярожу ў бок. Хлопчык адвярнуўся ад яго і адсунуўся на самы край парты.

— Янка Маўр,— пачала настаўніца,— па нацыянальнасці беларус. Ён ніколі не быў у Заходняй Афрыцы. Сапраўднае яго прозвішча — Фёдараў. Маўр — гэта літаратурны псеўданім, выдуманае прозвішча.

— А вы яго самога бачылі? — запытаў нехта.

— А як жа. Ён да нас у інстытут прыходзіў. Перад студэнтамі выступаў.

— Які ж ён з сябе? — дапытваўся Юрка Хлябок.

— Пажылы, сівы чалавек,— адказала Марыя Мікалаеўна.— Быў ён спачатку настаўнік, выкладаў геаграфію, а потым пачаў пісаць кнігі, стаў пісьменнік.

— Пра палескіх рабінзонаў ён напісаў? — запыталася Галінка.

— Ён!

— А яшчэ ён напісаў «Сын вады» і «У краіне райскай птушкі». Цікавыя кнігі! — важна зазначыў Юрка Хлябок.

— Далей тут пытаюць пра ўтварэнне зямлі,— працягвала Марыя Мікалаеўна.— Я параю вам звярнуцца з гэтым да настаўніка геаграфіі. Ён раскажа падрабязней, чым я. Ну, а што датычыцца апошняга пытання — злосная я ці не, дык аб гэтым вам меркаваць лепш,— жартаўліва заключыла яна.

У класе зрабілася ажыўлена, весела. Васілёк падміргнуў Косцю: маўляў, бачыш, якая настаўніца! Дармо, што знешне падобная на дзяўчынку.

Марыя Мікалаеўна зірнула на ручны гадзіннік: адказы на пытанні занялі пяць хвілін. Яна закрыла журнал і выйшла з класа.

А вучні і ў калідоры ўсё яшчэ гаварылі, разважалі аб новай настаўніцы.

— Яна, відаць, шмат ведае,— сказала Галінка, спыняючыся каля акна.

— Інстытут закончыла. Гэта нешта ды значыць,— паважна зазначыў Васілёк.

— А злосці ў яе поўныя косці! — выгукнуў Віктар Калючка напоперак усім.

— Ты гэтага не кажы,— заступілася за настаўніцу

Ніна Сцепаненка.— Наадварот, яна зычлівая, добрая. Бачыш, за планёр табе даравала, хоць варта было з класа выгнаць.

— Ты, калі ласка,— Віктар падступіў да дзяўчынкі,— асцярожней размаўляй. А не дык вазьму і кірпаты нос твой зусім загну ўгору. Тады паскачаш...

— Не палохай...

Косця Дубовік адціснуў локцем Віктара да сцяны, падышоў да сяброў.

— Добрая настаўніца,— сказаў ён.— Правільна, што яе прызначылі класным кіраўніком. Можа, яна зробіць так, што вось гэтая рэч,— і ён паказаў на галаву Віктара,— замест таго каб быць простай вешалкай для шапкі, стане разумнай пасудзінай. Пачне як след варыць...

Віктар быў кінуўся на Косцю з кулакамі, але, убачыўшы, што таго загарадзілі суцэльнай сцяной хлопчыкі і дзяўчынкі, сказаў некалькі калючых слоў і адышоўся.

А дзятва ўсё яшчэ гаманіла, абмяркоўвала першы ўрок.

## УСПАМІН АБ ВАЙНЕ

У Косці прыбавілася клопату. Раней звычайна ў такі час — пасля заняткаў у школе,— падсілкаваўшыся бабуліным абедам, сядаў за ўрокі. Цяпер жа трэба думаць не толькі пра ўрокі, але і аб піянерскім атрадзе. Старшыня атрада... Яму, Косцю Дубовіку, даверылі першую такую важную пасаду. Трэба старацца, нешта рабіць, каб апраўдаць давер таварышаў. Перш неабходна, вядома, скласці план работы атрада.

Косця ўзяў з этажэркі новы чысты сшытак, раскрыў яго і засяродзіўся. З чаго пачаць? Думкі пабеглі, закружыліся роем.

У хаце — нікога. Бацька яшчэ на рабоце. Бабуля недзе на двары тупае. Клопату ў яе шмат. Старэнькая, але цягавітая. Ніколі не прыляжа ўдзень адпачыць, як гэта робяць іншыя, а ўсё на нагах. Усё знаходзіць сабе работу. Была б маці... Лягчэй жылося б, лепей. «Эх, мама, мама!» — гаротна ўздыхнуў хлопчык, і слёзы навярнуліся яму на вочы.

У памяці ўсплыў матчын добры твар, яе цёплая ўсмеш-

ка. Як песціла яна яго, Косцю, як шкадавала! Усё-ўсё помніць хлопчык, нібы было гэта толькі ўчора.

Вайна!.. Праклятыя фашысты... Колькі яны пралілі крыві, колькі прынеслі людзям гора, няшчасця.

...За Прыпяццю, у цёмным глухім лесе, стварылі сваю базу партызаны. Кіраваў імі дзядзька Піліп, сам з Петрыкава, былы дырэктар мясцовай сярэдняй школы. Косця бачыў яго — шыракаплечы, прысадзісты, у калматай заечай шапцы, ад чаго яго галава здавалася надта вялізнай.

Гэта было зімой, ноччу. Прахапіўся Косця ад ціхага стогну. Расплюшчыў вочы — спаў ён на печы — і ўбачыў каля стала бацьку і незнаёмага чалавека. Стагнаў незнаёмы, пакутліва адвярнуўшы ўбок галаву. Бацька трымаў яго за голую па локаць руку.

На стале бліскаў кволы агеньчык свечкі. Але і такога святла хапала, каб убачыць, што рука акрываўленая, раненая. Праз хвіліну з-за печы выйшла маці, яна паставіла на стол вядро з вадой і конаўку. Потым пачалі хуценька ўдваіх абмываць руку чалавеку. Косця пачуў, як бацька шаптаў: «Таварыш камандзір! Таварыш камандзір, пацярпіце. Рана невялікая, перавяжам — і ўсё абыдзецца. Добра, што куля трапіла не ў косць. А то было б клопату... І нам і вам...»

«Ага, камандзір»,— і Косця на ўсе вочы пачаў разглядаць чалавека. На лаве, каля стала, ляжаў яго аўтамат. Праз плячо на чорным кажушку вісела скураная сумка. Твар у чалавека быў са строгімі рысамі, запаміналіся вочы, лупаватыя, вялізныя.

«Дык гэта дзядзька Піліп!» — глядзеў і не верыў у начную праяву хлопец. Многа чутак хадзіла пра камандзіра. Расказвалі, што ён дужа адважны. Не раз са сваім атрадам налятаў на немцаў, на буйныя іх часці, і не было выпадку, каб іх не разбіваў.

А некалькі месяцаў назад, увосень, на Прыпяці яго партызаны ўзарвалі вялізную баржу, на якой фашысты везлі ў Мазыр снарады.

Вось жа грымнула тады! Ускалыхнулася не толькі паветра, але і зямля. На беразе, паўз які ішла баржа, стаялі таўшчэзныя дубы. Цяпер іх няма. Тым магутным выбухам іх, як маланкай, скасіла пад корань.

Косця бегаў з сябрамі на тое месца. От жа радаваліся дзеці. І ўсё паўтаралі: «Гэта партызаны дзядзькі Піліпа...»

І вось ён тут, у іх хаце. Што здарылася, як магло параніць камандзіра? І ніхто яго не засланіў? «Эх! — шкадаваў хлопец,— каб быў з ім я, ніколі не дапусціў бы да гэтага. Засланіў бы сваім целам. Няхай бы мяне параніла, няхай бы нават забіла. Але камандзір быў бы здаровы. А цяпер... Як яму ваяваць?»

Пакуль гэтак разважаў Косця, бацька і маці перабінтавалі камандзіраву руку, і яна стала тоўстая і белая, потым асцярожна запіхнулі яе ў рукаў кажушка і падвязалі дзягай за шыю.

Бацька і дзядзька Піліп спяшаліся. Трэба было, пакуль цёмна, прыйсці к Прыпяці — яна яшчэ не замерзла,— перабрацца на яе другі бок. З імі пайшла і маці. Яна часта адлучалася з дому: таксама была партызанка. На іхняй лодцы перавозіла партызан у лясы за Прыпяць.

Роўна праз два дні пасля той ночы зноў выпала маці перавозіць праз раку партызан. Вярнулася яна дамоў досвіткам. Як ні старалася цішком увайсці ў хату, бразнулі дзверы, і Косця прачнуўся. Ужо выпаў першы снег, і наваколле за акном свяцілася мяккім белым святлом. Косцю было ўсё цікава — і прыход маці, і таямнічасць абстаноўкі, і пачатак зімы. Не паспелі яны заснуць, як у дзверы загрукалі, злосна, патрабавальна. Маці спуджана падхапілася з ложка, падбегла да акна.

— Немцы! — прашаптала ў адчаі.

Косця заварушыўся на печы, падняў галаву, каб маці ўбачыла, што ён не спіць.

— Хлопчык, дзіцятка! — мармытала яна здаўленым дрыготкім голасам, накідваючы на плечы вялізную хустку.— Што будзем рабіць? Гэта ж, сынку, па мяне...

Яна хапала раскрытым ротам паветра, круцілася па хаце, як бы нешта згубіла.

А ў дзверы грукалі ўсё мацней. Яны трашчалі, калаціліся, усё-такі паддаліся, і ў хату адзін за адным пачалі ўскакваць фашысты. Былі яны амаль усе з аўтаматамі. Ліхтарыкамі асвяцілі куткі. Убачылі маці, і двое, нешта злосна лапочучы, падбеглі да яе, скруцілі назад рукі. З галавы спаўзла хустка, і растрапаныя валасы закрылі матчын твар.

— Мама! — кінуўся Косця з печы, каб бараніць яе. Ён быў у палатнянай кашулі і ў такіх жа штоніках. Хлопчык абхапіў маці за калені, горка, надрыўна заплакаў.

Адзін з фашыстаў, таўстаморды, у касцы, выхапіў з-за пляча вінтоўку. Пры ёй быў доўгі пляскаты штык. Косця ўбачыў, як штык каўзануў каля самай шчакі і пра-ткнуў каўнер кашулі. Хлопчык хацеў быў уцякаць. Але ў тую ж хвіліну адчуў, што адрываецца ад падлогі. Гэта фашыст падымаў яго штыком угару. Косця ў жудасці за-крычаў, затузаўся.

Фашысты накіравалі некалькі ліхтарыкаў на яго і, усцешаныя відовішчам, гучна рагаталі.

— Партызан! Партызан! — ашалела раўлі яны на ўсю хату.

Маці загаласіла, пачала вылузвацца з рук у салдат. Каўнер тым часам не вытрымаў, надарваўся, і Косця грымнуўся на падлогу. У галаве зазвінела, бліснулі іск-ры, быццам нехта перад вачыма ўдарыў крэсівам па ка-мені.

— Партызан! Партызан! — ужо не раўлі, а рагаталі фашысты.

Косця, адчуўшы пад сабой падлогу, падхапіўся і, як уюн, шмыгнуў пад ложак. Спачатку прытаіўся ў куточ-ку, меркаваў: там яго не дастануць ворагі. Але яны не думалі пакідаць у спакоі дзіця. Хтосьці з фашыстаў на-гнуўся і стаў свяціць ліхтарыкам. Немец крычаў, патра-баваў, лаяўся.

— Хлёпчык! Дзе ты, маленькі банда? Хендэ хох!

Асветлены промнем ліхтарыка, Косця сцяўся ў куточ-ку, замёр. І калі салдат той жа вінтоўкай са штыком па-чаў выцягваць яго з-пад ложка, хлопчык, ратуючыся, папоўз да печы: насупраць ложка чарнела адтуліна пад-печча. Вялікі страх смерці штурхнуў Косцю туды. Ён пачуў, як адразу прыглухлі галасы салдат. У нос ударыў востры пах курынага памёту, сухой зямлі.

Па-ранейшаму галасіла маці, праклінаючы ашалелых ворагаў.

— Дзе хлёпчык? Дзе маленькі банда? — заўважыўшы знікненне Косці, перапытвалі адзін у аднаго фашысты. Потым яны свяцілі ў падпечча, паролі туды штыком, на-ват стрэлілі.

Косця схітрыў, забіўся не ў дальні кут, а сядзеў, ста-іўшыся, як мыш, каля самага лаза за бакавой сценкай.

Ці то надакучыла немцам важдацца з дзіцем, ці не-куды яны спяшаліся, але праз некалькі хвілін тупат ног у хаце і дзікія крыкі сціхлі.

Не чутно было і маці. Што гэта значыла? Яе забралі, павялі? Ці, можа, запаролі штыком? Страшна і крыўдна стала хлопчыку. З падпечча, аднак, вылазіць ён пабаяўся. З вачэй сыпаліся гарачыя буйныя слёзы...

Маці больш не вярнулася дамоў. Хлопчык жыў з бабуляй. Людзі расказвалі, што доўгі час маці сядзела ў турме, з яе моцна здзекаваліся фашысты, патрабавалі, каб паказала, дзе ў лесе партызаны дзядзькі Пiлiпа. Яна маўчала...

Адразу ж пасля вайны ў Петрыкаўскі ваенкамат запрасілі Косцевага бацьку. Вярнуўся ён дамоў пад самы вечар, стомлены і засяроджаны. Перад тым як сесці абедаць, ён паклікаў да сябе бабулю і Косцю. Палез у кішэню і адтуль дастаў прыгожую маленькую скрыначку. Марудна і асцярожна раскрыў яе і паклаў на́ стол.

— Вось гэта нашай маці,— сказаў бацька з сумнай урачыстасцю.— Яе ўзнагарода.

— У скрыначцы, асветлены сонцам, сляпуча зіхацеў медаль «За адвагу».

## БАЦЬКА ДАЕ ПАРАДЫ

Успамін аб вайне замаркоціў душу. Косця выйшаў з-за стала, прайшоўся па хаце. Мінаюць гады, ён ужо ў шостым класе. Расце, вучыцца. «Эх, каб устала і пабачыла маці! — пажадаў хлопец.— Прайшлі б мы з ёю па вуліцы. Выбягалі б людзі, і ўсе, вядома, віталі б яе з кветкамі. Яна ўсміхалася б, радавалася. А вяскоўцам сваім сказала б:

— Вось бачыце, і прыйшло яно, шчасце».

Зноў Косця сеў за стол.

Раскрыты сшытак нагадаў, што трэба ўсё ж скласці план піянерскай работы атрада. Думкі пра вайну адступілі, зніклі. Цяпер хлопца непакоіў абавязак, ускладзены на яго сябрамі.

Косця некалькі разоў макаў пяро ў чарніла, але так і не мог нічога запісаць у сшытак. «Якія ж зборы намеціць? І не проста зборы, а каб было цікава?» — пытаўся Косця ў самога сябе.

Акно было расчынена насцеж. У хату, варушачы ссунутую ўбок фіранку, урываўся вецер. Ён некалькі разоў намагаўся пагартаць старонкі Косцевага сшытка, разварушыць акуратна прыгладжаныя яго валасы. Косця сядзеў у задуменні, і раптам позірк спыніўся на календары.

— Ёсць! — усклікнуў хлопчык і спрытна выскачыў з-за стала.— Усе лепшыя парады мне дасць каляндар! І як да гэтага я раней не дадумаўся! План ужо быў бы гатовы.

Косця пачаў старанна гартаць лісткі календара, шукаць цікавыя даты і падзеі. Праз паўгадзіны план быў складзены.

Хлопчык сабраў са стала сшыткі, кніжкі і рашыў пайсці да Васілька Падгорнага. Але ў гэты час за акном мільганула клятчастая шапка. «Бацька вярнуўся з работы,— узрадаваўся Косця,— трэба пачакаць. Можа, запытае, якія дамашнія заданні выканаў... Ён жа строгі кантралёр».

Разам з бацькам у хату ўбег Васілёк, увішны, зухаваты.

Ён прывітаўся з бабуляй, якая поркалася ля печы, і адразу запытаў Косцю:

— Ты гатовы?

— Заўжды гатовы! — адгукнуўся Косця.

— І план склаў?

— А як жа! Разумееш, выдатны атрымаўся план. Хочаш паглядзець?

— Выдатны? Уга, які ты спрытны,— крытычна пагладаючы на сябра, сказаў Васілёк і тут жа дадаў: — А вось сабе не варта ставіць адзнаку.

— Чаму?

— Таго пярун спаліць, хто сам сябе хваліць.

— Я так сказаў, бо адчуваю, што план атрымаўся.

Косця з хвіліну перабіраў кнігі, якія высокім стосам ляжалі на канапе за сталом, знайшоў сярод іх сшытак і перадаў Васільку.

— Вось ён, чытай!

Васілёк заклапочана нахіліўся над раскрытымі старонкамі, уважліва чытаў і абдумваў кожны пункт плана.

— Ну як? — запытаўся Косця праз некалькі хвілін.
— Доўга складаў?

— Не вельмі,— шчыра прызнаўся Косця.— Сказаць па праўдзе, каляндар мне здорава дапамог. Усе галоўныя даты ўлічаны.

10 Зак. 2514

Васілёк павярнуўся да акна, задумаўся. Раптоўна да стала к хлопцам падышоў бацька.

— Пакажы, пакажы, які ты план па календары склаў? — усміхаючыся ў рудаватыя вусы, папрасіў ён сына.

— Калі ласка, татка,— узрадаваўся Косця.

Ён выхапіў з рук у Васілька сшытак, перадаў яго бацьку. Той прысеў на канапу ля акна, адгарнуў першую старонку і, падпёршы падбародак рукою, пачаў чытаць.

Васілёк крануў Косцю за плячо, зашаптаў яму на вуха:

— Вось пабачыш, да чаго-небудзь падкапаецца. Дарэмна яму аддаў.

— Нічога,— працягнуў Косця,— за план я ўпэўнены, як за самога сябе.

Косцеў бацька працаваў у Петрыкаўскай сплаўканторы, быў там сакратар партыйнай арганізацыі. І сын, і сынаў сябар, Васілёк, глыбока паважалі яго, прыслухоўваліся да ўсяго, што ён ні скажа. Вось ён адклаў сшытак убок і, забарабаніўшы пальцамі па стале, задумліва прагаварыў:

— Та-а-к...

— Добры план, тата?

— Трэба зрабіць, каб быў добры. А пакуль ён мне не падабаецца...

— А чаму? — з крыўдай у голасе запытаўся сын.

— Ды вельмі проста: занадта надуманы.

— У ім жа ўсё ёсць. Вось першы збор — падрыхтоўка да гадавіны Кастрычніка... Потым аб дысцыпліне... Асобна аб піянерскай чэсці. А далей...

От тут бацька перапыніў сына:

— У вас не зборы будуць, а сумныя мітынгі, Косця. Вось я супраць чаго.

— Якія мітынгі? — не зразумеў сын.

— Нешта і мне не зусім даспадобы гэты план,— вымушаны быў прызнацца Васілёк.— А ведаеш чаму, Косця?..— разважаў ён далей.— План кропелька ў кропельку нагадвае мой мінулагодні. Спярша мне падумалася, што ты ўзяў ды яго перапісаў. Аж, выяўляецца, ты складаў па календары...

— Па-твойму, план дрэнны таму, што падобны на мінулагодні?

— Таму, што жыцця ў ім няма,— адрэзаў Васілёк і зірнуў на Косцевага бацьку.— Памятаеш, калі былі пе-

равыбары ў нашым атрадзе, мяне за такія планы моцна крытыкавалі. І кандыдатуру маю правалілі на выбарах. Ты ж паўтараеш мае памылкі.

— Вось як? Дык скажы тады, якія б цяпер намеціў зборы? — загарачыўся Косця.

— Спакайней, сынку,— усміхаючыся, сказаў бацька.— Раю прыслухоўвацца да сяброў і старэйшых. Падумай над іхнімі заўвагамі. Ты пытаешся, як скласці лепшы план?..— Ён на момант змоўк, потым працягваў: — Давай вось уявім, што я старшыня савета атрада.

Косця міжвольна ўсміхнуўся.

— Ну, уявім...

— Добра. У сваім плане я намячаю: правесці збор, прысвечаны гадавіне Кастрычніка. Пра Кастрычніцкую рэвалюцыю раскажа Васілёк Падгорны. Урывак з паэмы Петруся Броўкі «Добры друг» вывучыць на памяць і прачытае Ніна. Згодзен?

— Няхай будзе так.

— Збор правядзём каля кастра ў Калінавым гаі. За касцёр адказваюць Юрка Хлябок, Галінка, Міша.

— Чакай, татка, чакай. Дай я ўсё гэта запішу! — твар у Косці пасвятлеў, ажывіўся.

— Я табе цяпер не татка, а старшыня савета атрада,— пажартаваў бацька.— Слухай далей. Наступны збор планую правесці ў млыне. Аб рабоце лакамабіля і яго будове раскажа машыніст Калеснікаў. Экскурсія ў машынна-трактарную станцыю — такі трэці пункт майго плана. Ну, канечне, не забываю паставіць у план абмеркаванне на зборах паводзін асобных хлопчыкаў і дзяўчынак як у школе, так і дома. Зразумела?

Косця хуценька запісваў на лістку паперы бацькавы прапановы.

Чарнявы чуб упаў на лоб хлопчыка.

— Ой, як лоўка. Як складна,— хваліў бацьку Косця.

— А ты гарачыўся, у спрэчку кінуўся, думаў: план твой выдатны... Памятай прымаўку: сем разоў адмерай, адзін раз адрэж!

— І прымаўку ж добрую ты нагадаў, тата!

Косця сеў за стол, занава стаў перапісваць план работы атрада. Праз адчыненае акно з вуліцы даляцеў звонкі тэнарок:

— Васілёк! Васілёк! Ты хутка там?

— Чуеш, Косця,— звярнуўся Васілёк да сябра,—

клічуць мяне. Ты, відаць, не маеш часу пагуляць у валейбол?

— Не маю. Але на вуліцу цябе правяду. Пайшлі.

Косця зняў з цвіка бесказырку, на хаду надзеў яе.

Да вечара было яшчэ гадзіны дзве. На паўднёвым баку неба грувасціліся стагі хмар. Іх вяршыні варушыліся, набухалі цёмнай сінявою. Час ад часу там бязгучна бліскалі маланкі.

— Ты не глядзі на неба. Дажджу не будзе,— упэўнена сказаў Васілёк.

Хмара, што сунулася з поўдня, несла з сабой цёплы вецер. Шумелі ліпы.

— А пакуль ён і не трэба,— разважліва прагаварыў Косця.— Слухай, Васілёк, ты думаеш што-небудзь рабіць з Віктарам? Надакучыла ўжо чуць адно і тое ж: Калючка ды Калючка! А Віктар, не забывай, у тваім звяне.

Васілёк нахмурыўся. Потым, страсянуўшы густой, рыжай чупрынай, сказаў:

— Адно гора з ім. Ты ж ведаеш: з Віктарам размаўляць па-людску нельга. Адшчапенец нейкі. Ды я ўсё ж правучу яго, пабачыш...

— Як жа?

— Пакуль сакрэт. Але пасля гэтага закажа дзесятаму. Даю слова.

— Паглядзім.

Гаворку парушыў Міша Сокалаў, які нечакана падбег да хлопцаў.

Ён быў крыху ніжэйшы за Косцю і Васілька. Тварам нагадваў цыгана.

— Чаго вы стаіце? Пайшлі гуляць! — Міша лоўка падкінуў мяч, ударыў па ім і трапна скіраваў на галаву Васілька. Васілёк паправіў ссунутую ўдарам набок шапку і тут жа пагнаўся за мячом. Следам за ім пабег і Міша.

— Міша, пачакай! — крыкнуў Косця.

Хлопчык прыпыніўся, крута павярнуў назад.

— У чым справа?

— Ты ў якім звяне, Міша?

— У звяне Нінкі.

— Значыць, піянер?

— Што за пытанне? Як быццам не ведаеш!..

— Уяві сабе — не ведаю! І мне здаецца, ты зусім не піянер.

— Чаму?

— Таму што не аддаеш салюта...

Міша заміргаў чорнымі, як ноч, вейкамі, вінавата пачаў пераступаць з нагі на нагу.

— Ды мы ж у школе бачыліся...— паспрабаваў ён апраўдацца.

Косця падышоў да Мішы, паклаў на яго плячо руку, зазірнуў у вочы.

— А ты забыўся, што на зборы атрада мы дамовіліся, каб піянеры аддавалі салют, дзе б ні сустрэліся?.. Зразумела?

— Яно зразумела, але...

— Ну, ладна ўжо,— перабіў яго, засмяяўшыся, Косця.— Маю заўвагу, спадзяюся, улічыш... Дык куды вы цяпер, хлопцы? У валейбол гуляць?

— Але,— Міша махнуў рукой і пабег за мячом.

— Можа, і мне да вас далучыцца? — нерашуча прагаварыў Косця да Васілька.

— Давай, давай, Косця! — Васілёк ухапіў сябра за руку.

— А як жа з планам? — загаварыў Косця.— Трэба было б давесці яго да канца...

— Паспеем... Збяромся ўвечары і давядзём разам...

— Не, я падыду крыху пазней,— сказаў Косця.— Абавязкова падыду.

— Добра, чакаем.

Праз хвіліну Васілёк і Міша зніклі за рогам вуліцы. Неўзабаве да слыху Косці данёсся судзейскі свісток. На пляцоўцы пачыналася гульня. Думка далучыцца да валейбалістаў была вельмі спакуслівая, і Косця, пастаяўшы нейкі момант, кінуўся следам за хлопчыкамі.

## ПЕРАД УРОКАМІ

Раніца. Неба чыстае-чыстае, як вымытая шыбіна. Над вёскай, над хатамі стаяць шэрыя дымныя слупы. Па ўсім відаць: надвор'е сёння будзе выдатнае, устойлівае.

Косця ў адных трусіках выбег да турніка, схапіўся за перакладзіну, падцягнуўся і стаў адно за адным выконваць практыкаванні. Працаваў ён на турніку ўмела. Ка-

лі бывалі ў гэты час сябры, яны заўсёды сачылі за ім з вялікай увагай.

Косця мякка саскочыў з турніка і, шырока разводзячы ў бакі рукі, зрабіў некалькі глыбокіх уздыхаў.

Пасля зарадкі дыхалася лёгка, у целе адчувалася сіла.

Насупраць, на пакатым даху хаты, ляжалі радамі крутабокія вялізныя гарбузы. Адны былі жоўтыя, як выцвілае ў тумане сонца, другія — паласатыя, нібы складзеныя з асобных кавалкаў, трэція — шэрыя, з зямлістым адценнем. Ранняя восень стаяла на двары.

Памыўшыся і паснедаўшы, Косця з партфельчыкам у руках выбег на вуліцу. Каля платоў і частаколаў на травах ляжала раса, халодная, бліскучая. На гародах над чупрыністымі рыжымі сланечнікамі віліся пчолы. Спрачаліся аб нечым у галлі дрэў птушкі.

Добрым ладам плылі ў галаве ў Косці думкі. Ён спадзяваўся, што работа ў піянерскім атрадзе пойдзе цяпер лепш, цікавей. Многае ўжо зроблена — складзены правільны план. А магло ж усё быць інакш, каб не паказаў ён свой план бацьку. Якія той даў цікавыя заўвагі і парады! Косця зразумеў, што да ўсякай справы трэба ставіцца разважліва, сур'ёзна.

Зайшоўшы ў клас, ён быў здзіўлены цішынёй. Амаль усе вучні сядзелі за партамі. Твары ў іх былі строгія, засяроджаныя.

— Чаго вы такія кіслыя? — запытаўся весела Косця.— Да ўрокаў не падрыхтаваліся?

— Косця! — З месца ўзняўся Васілёк, які бы толькі і чакаў сябра.— Мы рашылі Віктара Калючку выключыць са звяна.

— Чаму?

— Ён ганьбіць нас. Мае двойку па батаніцы. Дрэнна паводзіць сябе на ўроках, крыўдзіць таварышаў, ходзіць без гальштука...

— Праўду кажа Васілёк! — выгукнула некалькі вучняў.

— Цяпер увесь яго грэх сабралі ў адзін мех. Нянькчыцца з ім не будзем. Надакучыла! — адрэзаў Васілёк.

— А ты рабіў што-небудзь, каб папярэдзіць яго дрэнныя ўчынкі? — запытаўся, крыху падумаўшы, Дубовік.

Васілёк адкінуў вечка парты, пагайдаў яго з хвілінку, потым прамовіў:

— Канечне, рабіў. Гаварыў з ім, пераконваў. Але ўсё гэта, як гарох аб сцяну. Віктар можа надаваць сотню абяцанняў, а потым забывае пра іх. Ён кляўся не крыўдзіць нікога. А вось нават твая бесказырка з-за яго ў пяску пакупалася. З кулакамі на дзяўчынак кідаецца...

— Значыць, ты адмаўляешся ад Віктара?

— Адмаўляюся!

— У якое ж звяно яго перавесці? — запытаўся Косця.

— Не хочам яго! Не прымаем! — пачуліся пратэстуючыя воклічы.

Віктар такога павароту справы не чакаў. Ён вінавата ўцягнуў галаву ў плечы, нізка схіліўся над партай. Сарамліва чырванеў яго скуласты твар, на лоб непрыгожа ўпалі непрычасаныя валасы.

— Віктар,— звярнуўся Косця да таварыша,— можа, ты падкажаш, у якое звяно цябе перавесці?

Хлопец устаў і, пазіраючы ў чорнае, палакіраванае вечка парты, адказаў:

— Нікуды са звяна Васілька не пайду.

— Яны ж цябе выключаюць!

— Выганяем, а не выключаем,— удакладніў Юрка.

— Я прашу... Прашу мяне пакінуць у звяне,— дрыготкім голасам прагаварыў Віктар і сеў на лаўку, не вытрымаўшы позіркаў таварышаў.

— Гэта іншая справа, Віктар,— зазначыў Косця.— Калі просіш пакінуць цябе ў звяне, тут трэба, рабяты, падумаць.

— Ды што там думаць?! — гарачыўся, як заўсёды, Васілёк.— Мы цвёрда рашылі...

— Падумаць можна,— паўтарыў Косця.— Але пры ўмове, калі Віктар дасць абяцанне не дурэць, не сваволіць. І добра вучыцца.

— Тады бяры сабе яго абяцанкі. Мы ўжо, Косця, сытыя па горла імі,— рашуча запярэчыў Васілёк Падгорны.

І ўсё ж Віктар быў пакінуты ў звяне ў Васілька.

— Калі Віктар не пераменіцца, не абдумаецца,— урэшце сказаў Косця,— тады пытанне будзе пастаўлена рубам, і прыйдзецца выключыць яго не толькі са звяна, а і з піянерскай арганізацыі.

З гэтым усе пагадзіліся.

У клас паспешліва ўбеглі некалькі вучняў. Былі яны спацелыя, разгарачаныя. Відаць, вельмі спяшаліся, баю-

чыся спазніцца. Тут жа, на парозе, дагнаў іх званок. Дзяжурны па класе старанна выціраў дошку, рыхтаваўся да сустрэчы настаўніка.

## ДЗВЕ ДЗЯЎЧЫНКІ

На гэты раз старастай шостага класа быў абраны не хлопчык, а Ніна Сцепаненка. Што яна дзяўчынка дзелавітая і старанная, Ніна паказала адразу.

На першым жа класным сходзе яна папрасіла ўсіх вучняў, каб былі акуратныя і дружныя. І, вядома, каб даглядалі класны пакой, каб было ў ім заўсёды чыста і ўтульна.

— Гэта наша галоўная задача,— даводзіла Ніна.— Тады і вучоба пойдзе лепш, і дружба наша мацнее.

Прапанову старасты горача падтрымалі. І цяпер кожны дзень у класе з'яўлялася што-небудзь новенькае, прыдуманае і зробленае самімі вучнямі. На падаконніках неўзабаве стаялі кветкі ў вазонах. На вокнах віселі пашытыя дзяўчынкамі марлевыя фіранкі. Праз тонкае мроіва фіранак неяк па-асабліваму выглядалі бярозкі за акном, школьны сад, сіняя сцяна далёкага лесу.

Хтосьці прапанаваў заслаць аркушам паперы стол настаўніка, паставіць на ім графін з вадой і шклянку. Усё гэта было зроблена. Класны пакой як бы пашырэў і пасвятлеў. Было радасна зайсці сюды.

— Клапатлівая наша Ніна,— хвалілі дзяўчынку сябры і сяброўкі.

Ніна Сцепаненка была светленькая ў твары, белабрысая. Носік акуратненькі, праўда, крыху кірпаты, але гэта ніколькі не псавала яе. Гаварыла хуценька, нібы спяшалася першая выказаць думкі. Вучылася Ніна на чацвёркі і пяцёркі. Сяброў у яе было многа, але часцей яе можна было бачыць з Галінкай.

Галінка не адставала ад Ніны — кемлівая, з вострым дасціпным розумам, настойлівая ў вучобе. Рэдка калі можна было бачыць дзяўчынку без кнігі. Нават прыйшоўшы са школы і рана падрыхтаваўшы ўрокі, маючы, здавалася б, поўнае права пагуляць з сяброўкамі ў мяч або ў класікі, яна часцей за ўсё заставалася дома і чытала, чытала. Жуль Верн, Гайдар, Талстой, Купала, Маўр...

Дзяўчынкі з першага дня вучобы селі за адну парту, гулялі разам, разам рыхтаваліся да ўрокаў. Многія зайздросцілі ім. На класных сходах ці на зборах піянерскага атрада іх ставілі ў прыклад іншым. Гэта зразумела. Не было выпадку, каб яны прыходзілі ў школу на заняткі як след не падрыхтаваныя.

Сяброўкі рыхтавалі ўрокі звычайна ў Сцепаненкавых. Але сёння Ніне трэба было ісці да Галінкі. Тры дні назад прыехаў Нінін брат, і не адзін, а з сям'ёй. У хаце адразу стала цеснавата.

...Заканчваецца апошні ўрок. Ля дошкі стаіць Галінка — высокая, чырванашчокая, з доўгімі чорнымі коскамі, у якія ўплецены блакітныя стужкі. Яна ў сіняй у белы гарошак сукенцы, якая так дбала адпрасавана, што вылучаецца на ёй кожная складачка.

Галінка ўся акуратная, сабраная; нават крэйду яна трымае двума пальчыкамі, тры астатнія адтапыраны ўбок.

Дзяўчынка напісала сказ, адшукала ў ім дзеепрыметнік, падкрэсліла яго рыскай і расказала, у якіх выпадках ён ужываецца.

— Выдатна,— адзначыла Марыя Мікалаеўна, з радасцю пазіраючы на ажыўлены твар дзяўчынкі.— Сядай. Адказ ясны і поўны. Вось так і трэба рыхтавацца да ўрокаў,— дадала яна, азіраючы клас.

— Гэта ж Галінка, не абы-хто! — ціха адгукнуўся Васілёк Падгорны. І зараз жа пачуўся тонкі звон медзі. Званок!..

Вучні заварушыліся за партамі, сталі хуценька складваць падручнікі ў ранцы і сумкі, выходзіць з класа.

— Дык ты не вельмі баўся. Паабедаеш — і прыходзь,— папярэдзіла Галінка Ніну, калі яны выйшлі на ганак школы.

...Ніна прыйшла да Галінкі без спазнення. Дзяўчынкі некалькі хвілін пагаварылі аб розных школьных справах, а потым раскрылі падручнікі і пачалі рыхтавацца да ўрокаў. Чыталі быліны, пераказвалі іх змест, абмяркоўвалі незразумелае.

Мінула гадзіны дзве. Вечарэла. Сіняватыя цені прабіраліся ў хату, займалі закуткі, уладкоўваліся там. Вецер мякка цёрся аб сцяну. З клёна, што рос пад акном, сыпалася лісце. Рабілася крыху сумна: што ні кажы, ужо ады-

шло лета, забрала з сабой кветкі, збажыну, птушак. І на змену яму прыйшла дажджлівая восень...

Ніна ўжо сабралася ісці дадому, як раптам адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшла рослая жанчына ў накінутым на плечы вязаным шаліку.

— Аўдоцця,— звярнулася яна да Галінай маці,— у калгас прыехаў сакратар райкома. Вечарам будзе рабіць даклад. Раскажа, што робіцца ў свеце. Пойдзем? Цікава паслухаць.

— У мяне работы-работы...— заклапочана прамовіла гаспадыня.— Наўрад ці ўдасца. Вось бачыш, бялізну мыю. Ды і Славіка няма з кім пакінуць.

— У цябе ж такая памочніца ёсць!

— А-ат. Яна ўсё ў кніжкі глядзіць, розуму набіраецца. А можа, пабудзеш, Галінка, пакуль я схаджу? — падышла маці да дачкі.— Паглядзі Славіка, памый тым часам сваю сукенку...

— Ды мы, цётка, усю бялізну можам памыць,— з ахвотай сказала Ніна і запытальна зірнула на сяброўку.— Урокі ж мы вывучылі.

— Ты што? — нездаволена буркнула Галя і схапіла Ніну за руку.— Не, не, я павінна сёння кнігу дачытаць. Ты ж ведаеш, на занятках літаратурнага гуртка мне даручана расказаць пра «Таямнічы востраў» Жуля Верна.

— Паспееш. Заняткі гуртка дні праз тры,— пераконвала сяброўку Ніна.— А маці трэба выручыць. Даклад жа будзе...

— Ну, калі табе нельга, нічога не зробіш,— уздыхнула маці, зноў падвязваючы стары фартух, які яна ўжо збіралася скінуць. Тут жа выйшла ў другую палавіну хаты і забразгала вёдрамі.

Ніна была здзіўлена. Шырока раскрытымі вачыма пазірала на Галю.

— Чаго ты так на мяне глядзіш? — спытала Галінка.

— Ты зусім не шкадуеш маці...

— Выдумляй,— адкінуўшы рукой за плячо коску, адказала дзяўчынка.— Хто ж не шкадуе маці?

— Калі ты ёй ні ў чым не дапамагаеш, значыць, не шкадуеш,— цвёрда паўтарыла Ніна.

— А ці ёсць мне час дапамагаць? — пачала апраўдвацца Галінка.— Цэлы дзень у школе, а прыйду — да ўрокаў трэба рыхтавацца.

— А я знаходжу час. Памагаю маці мыць пасуду, бялізну, падмятаю падлогу...

— То — ты, а то — я! І ты мне, калі ласка, не ўказвай... Сама ведаю, што і як рабіць,— як адсекла Галінка.

Яна падышла да этажэркі, стала спіной да Ніны і доўга шукала кнігу «Таямнічы востраў», хоць яна была ў яе перад вачыма.

«Ах, вось як,— горка падумала Ніна,— адварочваешся ад мяне? Што ж, перашкаджаць не буду. Чытай на здароўе».

Суха развітаўшыся з Галінкай, яна выйшла з хаты.

## РАСКАЗ АБ КАХОЎЦЫ

Сёння ў час вялікага перапынку Косця Дубовік разглядаў на сценах у калідоры партрэты вядомых пісьменнікаў, потым прыпыніўся каля насценнай газеты. Яго ўбачыла старшая піянерважатая Святлана Архіпаўна. Спынілася побач, сказала:

— Да цябе дэлегацыя прыйдзе пасля ўрокаў.

— Якая дэлегацыя? — здзівіўся Косця.

— Ад чацвёртакласнікаў. Хочуць, каб ты аб Каходцы расказаў.

— Сваім сябрам я ўжо расказваў. Нават падчытаў тое-сёе пра вялікія будоўлі. А вось як малым расказваць? Баюся, не будуць слухаць.

— Будуць,— запэўніла піянерважатая.

Пяты ўрок быў апошні. Косця сабраў у жоўты партфельчык кніжкі і, як толькі празвінеў званок, выйшаў у калідор. Там было тлумна і цесна. З класаў выбягалі хлопчыкі і дзяўчынкі, штурхаліся, гаманілі, смяяліся.

І тут Косцю акружыла група піянераў.

— Ты куды, Косця? — заступаючы дарогу, запытаўся нізкарослы хлопчык.

— Дахаты,— з хітраватай усмешкай адказаў Косця.

— А мы да цябе, бачыш, цэлай дэлегацыяй. А каб не збег ад нас, давай сюды свой партфель...

— Партфель я не аддам,— гэтак жа жартаўліва адказаў Косця.— Бачыце, які ён тоўсты. Гэта ад пяцёрак. Баюся, каб не пазычылі іх.

— А ты не бойся. Пяцёрак у нас і сваіх хапае,— з гонарам зазначыў той жа хлопчык.

— Ладна ўжо,— здаўся Косця.— Ведаю, чаму вы мяне затрымліваеце... Хадзем.

— Глядзі ж, раскажы пра ўсё-ўсё,— папрасіў нехта з чацвёртакласнікаў, калі ўвайшлі ў клас.— Мы вось і карту павесілі. Каб наглядна было, зразумела.

— Добра, хлопцы. Як змагу, так і раскажу.

Усе вучні чацвёртага класа былі ў зборы. Косця падышоў да карты, з хвіліну разглядаў яе, потым павярнуўся да дзяцей.

— Пачынай, Косця,— папрасіў нехта з пярэдняга рада.

— Я гатовы,— самавіта адказаў Косця.— А вось вы яшчэ не зусім гатовы.

— А што такое? Указкі хіба не бачыш? Вось яна...

— Не ва ўказцы справа.— Косця паглядзеў на двух хлопчыкаў, што сядзелі ў самым канцы класа. Для таго каб лепш бачыць карту і расказчыка, яны ўзабраліся на спінку парты і, прыхінуўшыся да сцяны, аб нечым перашэптваліся. Дзеці заўважылі, куды глядзеў Косця, і тут жа пачалі махаць рукамі на хлопчыкаў, якія парушалі парадак. Тыя селі за парту.— Ну вось, цяпер можна і пачынаць,— задаволена ўсміхнуўся Косця.— Аб тым, як мы вялі па рацэ плыты, расказваць не буду — бацькі не раз вам самі расказвалі. Пачну адразу з Кахоўкі. Падышлі мы з плытамі да Кахоўкі пасля паўдня. Не да самага горада, праўда,— наш караван быў спынены кіламетраў за дваццаць ад Кахоўкі. Паабапал ракі — шырокі роўны стэп, наперадзе сіняя гладзь вады. Горад мы ўбачылі крыху пазней. Рачны катэр прывёз нашу брыгаду на прыстань. Сышлі, агледзеліся. Наўкол грукацелі пад'ёмныя краны, гулі аўтамашыны, цягачы, а каля прычалаў стаялі дзесяткі баржаў і параходаў. Паміж імі снавалі катэры і маторныя лодкі.

— А вялізны горад Кахоўка? З цаглянымі дамамі? — спыталася дзяўчынка з прыжмуранымі дапытлівымі вочкамі.

— Горад якраз невялікі, але славуты.— Косця ўказкай паказаў кропку на карце,— вось ён, на левым беразе Дняпра. Вы, напэўна, ведаеце песню пра Кахоўку — «Каховка, Каховка, родная винтовка...» Яе часта спяваюць. Кахоўка праславілася яшчэ ў грамадзянскую вайну. Тут была разбіта армія белагвардзейскага генерала Врангеля. Пра гэта памятае ўся краіна. А цяпер вось зноў пра Ка-

хоўку загаварылі. Зямля ў стэпах урадлівая, багатая. Усё там расце: і пшаніца, і сланечнік, і кукуруза, і вінаград, і бавоўна. Але вось бяда — кожны трэці год бывае засушлівы. Усё гарыць ад сонца, зямля высыхае, трэскаецца, у паветра ўзнімаюцца хмары чорнага пылу, дзьме сухі гарачы вецер...

— Ай-яй-яй! — з роспаччу ўсклікнуў хтосьці.— Як жа там жывуць?

— Дык вось кажуць людзі,— працягваў Косця,— нібыта прыехаў аднойчы ў Кахоўку з Масквы вялікі вучоны. Выйшаў у стэп, пахадзіў па ім, потым пастаяў над Дняпром. З тоўстага партфеля дастаў карту, разглядаў яе, нешта адзначаў алоўкам. Людзі назіралі за ім здаля, дзівіліся і ніяк не маглі ўразумець, што зацікавіла сталічнага чалавека ў іх пыльным гарачым стэпе. Амаль месяц прабыў вучоны ў Кахоўцы, уставаў разам з сонцам, ішоў у стэп, вяртаўся ў гасцініцу позна ўвечары. Партфель, заўважылі, патаўсцеў яшчэ больш.

А потым той вучоны паехаў. Калі праз паўгода выйшла пастанова нашага ўрада, каб пад Кахоўкай, на Дняпры, збудаваць плаціну, даць ваду з Дняпра засушлівым землям і электрыку гарадам і сёлам, людзі здагадаліся, якой справай займаўся той пажылы ўвішны вучоны. Цяпер пад Кахоўкай будуюць плаціну.

— Дняпро ж выйдзе з берагоў і ўсё затопіць,— ускліюнулі ў адзін голас двое хлопчыкаў.

— Вядома, затопіць,— пацвердзіў Косця.— Гэта якраз і трэба. Каля горада ўтворыцца мора, па ім караблі пойдуць. З мора ж пацякуць у сухія стэпы рэчкі, выкапаныя машынамі. І пачне расці ўсё там, што толькі не пасееш. А каб спыніць рух пяскоў і сухавеяў, насадзяць у стэпах лясы. Каля Дняпра і цяпер ужо многа пасаджана таполяў, дубоў, кустоўя. Аднак пасадзіць іх трэба яшчэ тысячы і тысячы гектараў,— Косця адсунуў крэсла ад стала, прысеў і зірнуў у акно.

Сонца стаяла над лесам. На ружовым небасхіле была раскідана ўзорыстая нанізь белых воблакаў, краі якіх нібы гарэлі.

— Можа, нецікава расказваю? — запытаўся Косця ў дзяцей.

У клас тым часам увайшла старшая піянерважатая Святлана Архіпаўна. Вучні ўсталі і прывіталіся.

— Сядайце! Сядайце! — замахала яна рукой.— А ты, Косця, працягвай.

— Расказвай далей... Цікава...— загаманілі ў класе, і Косця падышоў да карты.

— А раку, дзеці, загародзяць плацінай не каля самай Кахоўкі, а ніжэй, на поўдзень ад яе, паблізу ад сяла Ключавое, кіламетраў за пятнаццаць — дваццаць ад горада. Мы ездзілі ў гэтае сяло. Што там зараз робіцца, не расказаць. Каля сяла будуецца горад — Новая Кахоўка. Над Дняпром ужо стаіць многа дамоў — і вялізных цагляных, і звычайных, з сасны. Я бачыў, як за дзень быў складзены цэлы дом. Да новага горада ад Кахоўкі пракладваюцца чыгуначны шлях і шаша. А што робіцца ў мясцінах, дзе пабудуецца плаціна, каб вы толькі бачылі! Ці сустракалі вы хоць раз аўтамабіль вышынёй з сялянскую хату, а можа, і больш?

— Выдумляеш...— засумняваўся той-сёй з слухачоў.

— Чыстая праўда: аўтамабіль вялізны-вялізны, я і ў сне такога не бачыў. Вы толькі ўявіце: кожнае яго кола вышэй за мяне. А каб забрацца ў кабіну, трэба лезці па жалезнай лесвіцы. І вязе аўтамабіль аж дваццаць пяць тон — бадай, больш, чым могуць павезці пятнаццаць такіх палутарак, як у нашым калгасе...

— Ох ты, браток!..— з захапленнем прамовіў вастраносы хлопчык на пярэдняй парце, павярнуўшыся да сваіх сяброў.

— Возіць ён зямлю. Накідваюць яе экскаватары. Каб вы бачылі: такі экскаватар тры каўшы сыпне — і поўная машына! Грузавік завурчыць — і пайшоў. Высыпле пясок без усякай дапамогі. Кузаў уздымаецца, нахіляецца кнізу, і пясок спакваля спаўзае на зямлю. Ніхто і пляча пад кузаў не падстаўляе, усё робіць матор...

— І ты блізка бачыў гэты аўтамабіль?

— Не толькі бачыў, але і ў кабіне сядзеў.

— Маніш!

— А вось і не. Раскажу па парадку. Мы зайшлі на ўчастак, дзе працавалі гэтыя асілкі-аўтамабілі. У час абеду плытагоны разгаварыліся з шафёрамі, закурылі з імі. Бацька мой запытаўся, дзе такія магутныя машыны зрабілі. «У Мінску»,— адказваюць. «Няўжо? — здзівіўся бацька.— Аўтамабільны ж завод у Мінску толькі пасля вайны пабудаваны. Хіба ён ужо такіх волатаў выпускае?» — «Вось бачыце, выпускае,— пацвердзілі шафё-

ры,— спецыяльна для вялікіх будоўляў». Пачуўшы размову, да нас падышоў інжынер. Даведаўся ён, што тут гаплытагоны з Беларусі, узрадаваўся. «А я з Мінска,— гаворыць,— у камандзіроўку прыехаў, хачу паглядзець, як нашы машыны працуюць тут». Інжынер доўга гутарыў з намі, расказваў, як ствараўся новы аўтамабіль... А адзін шафёр дазволіў мне забрацца па лесвіцы ў кабіну... Вось як было...

Ну, здаецца, і ўсё,— праз некалькі хвілін сказаў Косця,— пабылі мы ў Кахоўцы з тыдзень і паехалі дахаты.

У класе прыглушана шапталіся. Чуваць было, як на задніх партах вучні складвалі кнігі, грукалі вечкамі парт, пстрыкалі замочкамі партфеляў.

— Можа, у каго пытанні ёсць да Косці? — паднялася з-за стала піянерважатая, і Косця нават застаўся незадаволены гэтым, бо пытанняў выявілася шмат, і самых разнастайных. Ён вымушаны быў прыгадваць не толькі бачанае самім, але і тое, што вычытаў у газетах і кніжках.

— Што такое земснарад? — перапытваў Косця і адказваў: — Гэта плывучая машына, падобная на вялізны параход з бясконцымі трубамі на вадзе. Калі, скажам, пусціць яе ў нас па Прыпяці, яна будзе плысці і адначасова вымаць з дна зямлю. Зямлю яна засмоктвае разам з вадой у шырокую трубу. Пасля выкідае на бераг. Калі плыве земснарад па рацэ, на берагах яе растуць жоўтыя горы — гэта з труб выкідваецца рачны пясок...

— Відаць, і рыба трапляецца! — нясмела выгукнуў нехта з хлапцоў.

— Табе ўсё рыба сніцца, Грыша! — пакпілі з яго сябры.

— Вядома, трапляецца. Пад'едзь толькі на такой машыне да карча і тады падстаўляй шапку пад трубу: акуні, плоткі, яршы і нават салёныя селядцы затрапечуцца ў ёй...

Стала яшчэ весялей у класе. Грыша зачырванеўся і хацеў нешта адказаць, але Косця падняў руку, зноў папрасіў увагі.

— Працуе на гэтай машыне ўсяго пятнаццаць чалавек, а выконвае яна працу за трыццаць пяць тысяч землякопаў і пятнаццаць тысяч коней.

— Цуд, дый годзе! — здзіўляліся піянеры.

— Можа, ты і шагаючы экскаватар бачыў? — пыталі далей Косцю.

— Бачыў, праўда, зводдаль, пабываць паблізу не давялося. Але што ён сабой уяўляе — раскажу. Корпус гэтай машыны — цэлая будыніна паверхі ў тры. Ад корпуса цягнецца ўгору рабрыстая страла з жалеза. Даўжыню яна мае... ну, скажам, калі звязаць пяць такіх хваін, як вунь тая, што расце за школаю,— Косця кіўнуў галавой на акно,— дык можа сяк-так і набярэцца патрэбная даўжыня. Да канца стралы прымацаваны рухомымі сталёвымі тросамі коўш, які можа змясціць пятнаццаць тон зямлі. Апусціцца ён на тросах уніз, глядзіш — паўнюткі пяску. Тут машыніст — раз! Націснуў на рычаг — і коўш пайшоў угару. Страла паварочваецца і адносіць яго ў патрэбнае месца. Калі б адзін такі коўш пяску высыпаць, скажам, над трактарам, дык з-пад зямлі нават і часткі яго не было б відаць. Вось што гэта за машына,— Косця задаволена агледзеў прыціхлы клас.— А працаваць гэты экскаватар можа ў любую пару года — летам і зімой. За восем гадзін ён выкопвае шырокі і глыбокі канал, даўжынёй у сорак метраў. Падлічыце, які канал ён можа выкапаць за месяц...

— Адзін кіламетр і дзвесце метраў! — бойка адказаў нейкі хлопчык.

— За год каля пятнаццаці кіламетраў...

Косця яшчэ доўга адказваў на пытанні. Скончыў ён, калі ў класе прыкметна пашарэла. Сонца схавалася за лесам. Маўклівыя сінія цені павольна ападалі за акном. Святлана Архіпаўна паднялася з крэсла, абвясціла:

— Гутарка наша, дзеці, скончана. Скажыце, спадабаўся вам Косцеў расказ?

— Цікава! Вельмі цікава...— рознагалоса загудзеў клас.

— Косця расказваў тое, што бачыў,— сказала Святлана Архіпаўна.— Неўзабаве мы правядзём спецыяльны піянерскі збор, прысвечаны вялікім будоўлям. А за сённяшні расказ Косця заслугоўвае нашай шчырай падзякі.

У класе раптоўна ўспыхнулі звонкія воплескі. Косця акінуў вачыма сваіх слухачоў і адчуў, як чырвань прыліла да шчок, каўнер кашулі стаў нейкі цесны, вузкі, захацелася яго расшпіліць. Ён не чакаў, што яго так шчыра могуць прыняць піянеры-чацвёртакласнікі.

Дахаты Косцю праводзіла цэлая чарада дзяцей. Па дарозе ён яшчэ тое-сёе расказваў ім са свайго падарожжа.

I толькі амаль каля самага дома Косця застаўся адзін. Узбоч вуліцы ціха і стрымана шапацелі высокія разгалістыя бярозы. Нячутна ападала на дол пажаўцелае лісце. Над галавой вісела загусцелая сінь неба, на якім нясмела загараліся жарынкі зорак.

Каля свайго двара Косця прыпыніўся і міжвольна пацёр вочы, бо нечакана адчуў пад павекамі невялікі боль.

Учора, вяртаючыся з сябрамі з лесу, ён трапіў у пясчаны віхор — адзін з тых, якія часта бываюць у гэтых мясцінах. Пясок запарушыў вочы. Дзяўчынкі дапамаглі яму чыстай насовачкай дастаць з-пад павек пясчынкі.

Але вось зноў забалела. Косця пацягнуў уніз адно павека, другое. Пачакаў крыху. Як быццам пасля гэтага стала лягчэй. Узмахнуўшы партфельчыкам, ён шпарка нырнуў у вароты свайго двара.

Недзе каля хлява бабка бразгала пустым вядром, чуўся густы, мяккі голас бацькі.

«Зноў рэжа вочы.— Косця прыпыніўся ля парога, пастаяў крыху.— «Дармо, пройдзе»,— падумаў ён і пайшоў у хату.

## ЧЫЖ ЛЁТАЕ Ў КЛАСЕ

Раніца была прыгожая, ясная, хоць у паветры і адчувалася прахалода. Над ракой кучаравіліся белыя дымкі туманаў. Недзе за далёкім гаем, каля прыстані, весела гукаў параход.

Марыя Мікалаеўна пастаяла з хвіліну на ганку сваёй хаты, потым павольна сышла па прыступках уніз і пакрочыла да школы. Яна з задавальненнем ішла на працу, таму што палюбіла яе. Пасля першых дробных непрыемнасцей усё цяпер як быццам было добра. Але настаўніца разумела, што яна яшчэ вельмі мала зрабіла як класны кіраўнік.

Набліжаліся Кастрычніцкія святы. Трэба было добра абдумаць, як іх сустрэць, як правесці. Вядома, варта падрыхтаваць невялікую пастаноўку, выступленні вучняў з чытаннем вершаў. Можа, хто праспявае, станцуе. Аб усім гэтым неабходна клапаціцца ўжо зараз. Высветліць, у каго з вучняў ёсць тыя ці іншыя схільнасці да самадзейнасці. І пачынаць рыхтавацца.

11 Зак. 2514

А з Віктарам Калючкай усё яшчэ шмат клопатаў. «Няўрымслівы хлопец. І адкуль у яго гэтая цяга да сваволыстваў?»

Па дарозе сустрэліся гружаныя бульбай фурманкі. За вёскай, недзе зусім недалёка, вуркатаў трактар. Гул яго то раптоўна ўзмацняўся і гучаў аж да звону ў вушах, то прыціхаў...

Вось і школа. На двары весела бегаюць хлопчыкі і дзяўчынкі. Мільгаюць рознакаляровыя хусцінкі, яркія агеньчыкі гальштукаў. Шум, крыкі.

— Добры дзень, Марыя Мікалаеўна! Добры дзень! — ветліва сустракаюць настаўніцу дзеці і на хвіліну застываюць на месцы, праводзячы яе позіркамі.

Зазвінеў званок... Школьны двор адразу апусцеў. Адзін толькі хлопчык бяжыць па дарозе, трымаючы пад пахай кніжкі. Ён пачуў званок, баіцца спазніцца, таму не пайшоў праз вароты, а пералез цераз частакол.

Гэта — Віктар Калючка. Ён прыйшоў бы ў клас задоўга да званка, але па дарозе нечакана затрымаўся. Пераскакваючы цераз глыбокі роў, ён заўважыў, як з-пад самых ног выпырхнула птушка. Яна ўзляцела невысока і тут жа села ў прыдарожнай траве. Віктар зацікавіўся, чаму так дзіўна сябе паводзіць птушка, як быццам адводзіць ад свайго гнязда. «Хіба зараз могуць быць гнёзды? — падумаў ён.— Ужо восень. Многія птушкі адляцелі ў вырай... Цікава, а гэта якая? А-а, чыж!»

Віктар пабег за чыжом і праз некалькі хвілін злавіў яго. Чыж выглядаў здаровым, дужым, але не мог высока лятаць, бо крыльцы былі перавязаны. Відаць, нехта нядаўна злавіў яго, трымаў у хаце, але чыж нейкім чынам вырваўся.

Хлопчык развязаў птушцы крылы, хацеў быў падкінуць яе ў паветра — няхай ляціць, але перадумаў. Якніяк, цікава птушку паказаць сябрам і настаўніку заалогіі. А можа, яна спатрэбіцца натуралістам! Калі папросяць, трэба будзе аддаць.

Віктар палашчыў чыжа па спінцы, разгладзіў памятыя пёркі, паднёс да твару і прагаварыў:

— Не хвалюйся. Я выпушчу цябе. Толькі вось хлопцам пакажу...

Калі ж ён пачуў званок, хуценька запіхнуў чыжа ў кішэню, пералез цераз частакол і пабег у клас. Следам за ім у клас увайшла Марыя Мікалаеўна.

Настаўніца рабіла пераклічку, а Віктар тым часам раскрыў сшытак па рускай мове і толькі цяпер убачыў, што не выканаў хатняга задання. У сшытку быў напісаны ўсяго адзін сказ з практыкавання. А трэба было іх напісаць больш дзесяці. Палаяў сам сябе Віктар. «А можа, усё абыдзецца? — падумаў ён.— Навальніцу пранясе стараною? Калі ж настаўніца і праверыць, скажу, заданне цяжкае, незразумелае. Як-небудзь ды выкручуся!»

Марыя Мікалаеўна прайшла па класе, загадала ўсім раскрыць сшыткі. Сонечныя зайчыкі скакалі па сцяне, па лакіраваных партах. Вось яны скокнулі і на парту Віктара, на адно імгненне спыніліся на белых, разлінаваных старонках сшытка, як быццам хацелі праверыць, ці выканаў ён хатняе заданне.

Хлопчык прыкрыў сшытак падручнікам. Тут жа прайшла настаўніца, паглядзела на Віктара, але нічога не сказала. Аднак ён паспеў заўважыць на твары ў Марыі Мікалаеўны нездавальненне. Не было сумнення: настаўніца здагадалася, што хвалюе Віктара.

Яна падышла да стала, паглядзела ў журнал.

— Косця Дубовік, да дошкі.

Віктар крыху супакоіўся. Ён сачыў і слухаў, як Косця скланяў дзеепрыметнік, хуценька запісваў словы на дошцы, як грунтоўна адказваў на ўсе пытанні настаўніцы.

— Выдатна! — радасна прамовіла Марыя Мікалаеўна і на хвіліну затрымала позірк на твары хлопчыка.

— Што з табою? Вочы чырвоныя... Не спаў ноччу, ці што?

— Не, спаў, Марыя Мікалаеўна.

— Чытаў, мабыць, многа?

— Ды не, пазаўчора запарушыў вочы. І нешта пад павекамі засталося, трывожыла ўсю ноч,— паскардзіўся Косця.

— Да доктара хадзіў?

— Не. Думаў, усё пройдзе...

— Абавязкова схадзі да доктара, і неадкладна,— тонам загаду сказала настаўніца.

Потым Марыя Мікалаеўна выклікала Сярожу Каваля. Адказваў ён слаба. Шчокі-пампушкі загарэліся.

— Што ж гэта значыць, Сярожа? — здзівілася настаўніца.— У сшытку ўсе прыклады напісаны правільна, а ля дошкі ты блытаеш.

— Збіваюць мяне,— адказаў хлопчык і, павярнуўшы-

ся да першай парты, дадаў: — Сыкаюць, як гусі. Вы мне, калі ласка, не падказвайце. Сам ведаю.

Хлопчыку быў дадзены новы прыклад. Выраз «протоптанная тропинка» ён праскланяў у назоўным і родным склонах. Калі дайшоў да вінавальнага склону, доўга круціў у руках кавалак крэйды, глядзеў то на стол, то ў акно і нарэшце напісаў: «протоптану тропинку».

— Правільна, дзеці? — звярнулася настаўніца да класа.

— Няправільна! — выгукнуў нехта, і тут жа над партамі ўзняліся дзесяткі рук.

Сярожа хуценька сцёр з дошкі напісаны выраз. Моцна зачырванеўся і стаў разгублена пазіраць сабе пад ногі.

— А ў тваім сшытку, Сярожа, выраз «протоптанная тропинка» ў вінавальным склоне напісаны правільна. Можа, ты не сам выконваў хатняе заданне?

— Сам,— прамовіў хлопчык, не пазіраючы на настаўніцу.— Хіба не бачыце, маім почыркам напісана...

— Хто топіцца, той за брытву хопіцца,— устаўшы з-за парты, сказаў Васілёк Падгорны.— Чаго маніш настаўніцы, Сярожа? Я ж бачыў, як ты са сшытка ў Мішы Сокалава ўсё перапісваў. Міша, скажы, што няпраўда?

У класе зрабілася ціха-ціха. Марыя Мікалаеўна падышла да парты, дзе сядзеў Міша Сокалаў.

— Гэта так?

— Так, Марыя Мікалаеўна.

— Сядай, Сярожа. Вучыцца ты можаш, але лянота шкодзіць. Стаўлю за спісванне двойку. І сёння ж пакажы свой дзённік бацькам. Зразумела?

Хлопчык, нічога не адказаўшы, сеў на месца.

— А зараз да дошкі пойдзе...— настаўніца нахілілася над журналам, паставіла ў графе насупраць прозвішча Сярожы адзнаку і толькі тады дадала: — Віктар Калючка.

Віктар прыўзняўся з месца, хацеў быў ісці, але тут жа прысеў на лаўку. У рупэ ён трымаў чыжа — не ісці ж з ім адказваць! Што зрабіць з птушкай? Ён ціхенька сунуў чыжа ў парту, загарадзіў кніжкамі і толькі тады выйшаў да дошкі.

— А дзе твой сшытак? — запыталася настаўніца.

— Тут, на парце. Задання не выканаў,— шчыра адказаў Віктар і варухнуў худаватымі плячыма.

— Чаму?

— Вельмі цяжкае. Як ні ламаў галаву, нічога не атрымалася.

— Давай тады, Віктар, разам разбяромся. Напішы сказ: «Хорошо вымытый пол блестит чистотой».— Ёсць?

— Ёсць!

— Падкрэслі, калі ласка, дзеепрыметнік, разбяры, у якім ён часе пастаўлены, у якім ліку і склоне.

Хлопчык рыскай падкрэсліў слова «вымытый». У гэтую ж хвіліну ён пачуў шум, смех, тупат ног, воклічы здзіўлення.

Спярша падумаў: няправільна знайшоў дзеепрыметнік і сябры смяюцца з яго. Таму ён паспешліва сцёр анучкай тлустую белую рыску пад словам «вымытый», зірнуў на клас.

І адразу зразумеў прычыну шуму. Над галовамі ў дзяцей, трапечучы шэрымі крыламі, кружыўся чыж. Ён кідаўся на сцяну, падаў уніз, зноў уздымаўся пад столь і, перапалоханы, насіўся з кута ў кут, ад сцяны да сцяны. Хтосьці з хлопчыкаў кінуў у птушку шапкай, і шум пасля гэтага ўзняўся яшчэ большы.

— Лаві яго, хлопцы! — забыўшыся на нядаўні свой правал ля дошкі, крыкнуў Сярожа Каваль.

— Лаві чыжа!.. З выраю вярнуўся...

— Мову захацеў вывучаць!

— Як ён сюды заляцеў? Праз фортку?

— Гэта ён да нашага Сярожы ў госці!..

— Не праз фортку ён трапіў, не! — запярэчыў Васілёк.— Я бачыў, з-пад Сярожавай парты вылецеў.

— Дзеці, супакойцеся! — спрабавала перакрычаць шум Марыя Мікалаеўна. Але дзе там! Супакоіць клас было нялёгка.

Чыж тым часам паляцеў да акна, стукнуўся аб чыстую шыбіну і зноў узняўся пад столь. Сярожа падхапіўся на парту, памкнуўся яго злавіць. Зрабіўшы над класам два кругі, чыж паспрабаваў сесці на тонкі цвік на сцяне, але пасадку зрабіў няўдала, сарваўся і пранёсся нізка над сталом у настаўніцы. У той жа момант на стале перакулілася высокая чарніліца, і прадаўгаватая пляма ад фіялетавага чарніла шырока расплылася ўпоперак класнага журнала.

— Адчыніце акно!

— Акно адчыніце! — пачуліся воклічы.

Твар у настаўніцы зрабіўся гнеўны — нервова ўздрыгнулі губы, бліснулі ў вачах халодныя льдзінкі.

Васілёк і Сярожа ўжо ўвіхаліся каля акна. Ніжні кручок адшчапілі лёгка, а верхні ніяк не маглі дастаць — акно было завысокае.

Віктар заўважыў, што тут без яго не абыдуцца — ён быў вышэйшы і за Васілька, і за Сярожу.

Падбегшы да таварышаў, ён адразу ўзлез на падаконнік, адштурхнуў Сярожу і шпарка адшчапіў верхні кручок.

Сярожа піхнуў рукою акно — яно лёгка адчынілася, на партах сталі самі перагортвацца старонкі сшыткаў і кніг...

Праз хвіліну чыж зноў апынуўся на адным з вокнаў, пабарабаніў крыху па шкле дзюбай і крыламі і нарэшце кінуўся да другога акна.

Цяпер перад ім не было ніякай перашкоды. Радасна цiўкнуўшы, ён імкліва набраў вышыню і знік за бярозкамі.

Віктар зачыніў акно. Шум і смех у класе паступова аціхалі.

— Скажыце, хто прынёс чыжа ў клас? — запытала Марыя Мікалаеўна.

Яна пачакала з хвіліну. Вучні недаўменна пераглядаліся і паціскалі плячыма. Многія хлопчыкі вінавата апусцілі ўніз галовы, разумеючы, што ў класе здарылася непрыемнасць.

— Хто прынёс? Яшчэ раз пытаюся!..

Маўчанне працягвалася. Марыя Мікалаеўна зірнула на журнал, прамакнула чарнільную пляму.

— Староста класа Ніна Сцепаненка, хто сарваў пятнаццаць хвілін урока? Хто надумаўся так злосна жартаваць?

Ніна ўстала, разгублена развяла рукамі:

— Не ведаю, Марыя Мікалаеўна.

— Сядай.

— А можа, чыж праз фортку заляцеў? — набраўшыся храбрасці, выказаў меркаванне Юрка Хлябок.

— Праз фортку? — з абурэннем перапытала настаўніца.

Пытанне Юркі зусім вывела яе з раўнавагі. Марыя Мікалаеўна падумала, што некаторыя вучні спрабуюць адвесці віну ад парушальніка дысцыпліны.

«Для чаго тут выдумляць пра фортку? Відаць, усе згаварыліся...»

Настаўніца рашуча закрыла журнал і загадала Віктару, які ўсё яшчэ стаяў каля дошкі і перамінаўся з нагі на нагу, сесці на месца.

І тут празвінеў званок. Настаўніца выйшла з класа.

— Вось дык здарэнне...— пахмурна сказаў Косця, выходзячы з-за парты. Да яго падышлі Васілёк, Ніна, Галінка. Усе былі ўсхваляваныя, засяроджаныя.

— Сарваўся ўрок... Такая непрыемнасць! — з роспаччу прамовіла Ніна.— Хто ж прынёс чыжа? — Яна ўглядалася ў твары сяброў, але ніхто нічога не мог адказаць. Некалькі хвілін панавала непрыемнае маўчанне.

— Па-мойму, першае падазрэнне падае на нашага птушкалова,— парушыла цішыню Галінка,— гэта Сярожы Каваля работа.

— І мне так здаецца,— крыху пачакаўшы, зазначыў Васілёк.

— А ты пад нос сабе не шапчы. Што думаеш, гавары так, каб усе чулі,— патрабавальна зірнуў Юрка Хлябок у вочы Васільку.— У цябе смеласці не хапае, ці што?

— Я смела і кажу: мабыць, чыжа прынёс Сярожа,— абвясціў на поўны голас Васілёк.

Дзеці павярнуліся ў бок Сярожы, але той не апусціў вачэй, не схіліў галавы, а глядзеў на Васілька і другіх вучняў смела і адкрыта. Усім вядома: ён заўзяты птушкалоў — і хто паверыць, што чыжа прынёс не ён?

— Ты? Прызнавайся! — выцягнуўшы руку і як бы прыціскаючы ёю да сцяны хлопчыка, прагаварыў Косця.

Твар у Сярожы пабялеў, востры падбародак прыўзняўся, у вачах на момант прамільгнулі злосць, абурэнне, боль. Вось-вось, здавалася, ён заплача.

Але Сярожа не заплакаў. Ён падцягнуў тужэй жоўтую вузенькую папружку на кашулі, рашуча выйшаў на сярэдзіну класа і ломкім голасам сказаў:

— Чэснае піянерскае... не я!

Косця павярнуў Сярожу за плячо да сябе і, зазірнуўшы ў яго чыстыя вочы, ціха працягнуў:

— Мы верым табе, Сярожа. Прабач...

А сапраўдны віноўнік здарэння корпаўся ў сваёй парце, перабіраў там кнігі, і выгляд у яго быў такі, нібы ўсё гэта яго не датычылася.

## ВІНОЎНІК ПРЫЗНАЕЦЦА

Марыю Мікалаеўну каля настаўніцкай сустрэў загадчык навучальнай часткі Міхаіл Сцяпанавіч.

— Што з вамі? Твару на вас няма... Што-небудзь здарылася? — трывожна спытаўся ён.

Настаўніца не магла сказаць ні слова, баючыся, што не вытрымае і заплача.

— Разумею вас, разумею...— Міхаіл Сцяпанавіч узяў яе пад руку.— Хадземце, пагаворым. Можа, і хваляваціна нявартa.

Яны зайшлі ў настаўніцкую.

— Міхаіл Сцяпанавіч,— сеўшы на канапу, сказала Марыя Мікалаеўна,— не магу я быць класным кіраўніком. Не магу і не ўмею... Прашу вызваліць...

— А што здарылася?

— Бачыце, да чаго мае вучні дадумаліся! У класе чыжа пусцілі. Сарвалі пятнаццаць хвілін урока. І журнал увесь у чарніле.

Новікаў уважліва выслухаў настаўніцу. Потым адкінуўся на спінку канапы, наморшчыў лоб і забарабаніў пальцамі па стале.

— Усё?

— Усё.

— Здарэнне, вядома, не вельмі прыемнае. Аднак гарачыцца не трэба...

— Нервы ж і ў мяне ёсць, Міхаіл Сцяпанавіч...

— Нервы? Іх трэба загартоўваць, інакш яны не раз падвядуць...

Міхаіл Сцяпанавіч папрасіў дазволу закурыць і, атрымаўшы яго, выняў пачак папярос, закурыў і загаварыў далей:

— Мне вельмі спадабаўся пачатак вашай работы. Вы з першага дня ўмела, з добрым педагагічным тактам падышлі да дзяцей, на высокім узроўні праводзіце ўрокі. У вас я адразу заўважыў вытрымку, разважлівасць, любоў да сваёй прафесіі. Выдатныя гэта якасці! Іх трэба развіваць, Марыя Мікалаеўна. А сёння вы крыху пагарачыліся. Вы гаворыце: нехта пусціў чыжа ў класе, злосна пажартаваў. Але трэба было не крычаць, не дапытвацца доўга ва ўсіх, хто вінаваты, а дзейнічаць больш цярпліва і разважліва. Адразу высветліць, хто вінаваты, не так проста. Прытым не самой трэба высвятляць, а з дапамо-

гай калектыву. Так-так, калектыву,— паўтарыў пасля невялікай паўзы Новікаў.— Вы, Марыя Мікалаеўна, сёння не ўлічылі гэтага. Зойдзем зараз у клас, паспрабуем разабрацца ва ўсім разам.

Марыя Мікалаеўна паступова супакойвалася. Яна камячыла ў руках ражок насоўкі, пазірала раз-пораз на крутабокі глобус, які стаяў на версе кніжнай шафы, і думала: «Праўду гаворыць Міхаіл Сцяпанавіч. І чаму я сама не здолела разабрацца ва ўсім?»

— Хадземце,— Новікаў устаў.

Хоць быў перапынак, але ў калідоры не відаць шасцікласнікаў.

«Значыць, сядзяць, абмяркоўваюць здарэнне...» — мільганула ў Марыі Мікалаеўны думка ў галаве.

Міхаіл Сцяпанавіч ішоў наперадзе.

Раптам ён прыпыніўся каля расчыненых дзвярэй класа і, адступіўшы на крок, павярнуўся да Марыі Мікалаеўны.

— Што такое? — падышоўшы бліжэй, прашаптала яна.

— Вы зірніце, што робіцца ў класе, і паслухайце.

Марыя Мікалаеўна зазірнула ў класны пакой, але, як і загадчык навучальнай часткі, не ўвайшла туды адразу.

— Ну, добра,— пачула яна голас Косці Дубовіка.— Сярожа невінаваты. Ён клянецца ў гэтым. І я веру. Дык хто ж, таварышы піянеры, птушку прынёс? Віноўнік тут, сярод нас. Няўжо ён не мае ні сумлення, ні павагі да сваіх сяброў? Агульнымі сіламі мы ўсё роўна высветлім, хто нарабіў бяды.

— З яго гальштук трэба зняць? — з абурэннем выкрыкнуў Юрка Хлябок і, штурхануўшы ў бок Віктара Калючку, дадаў: — Праўду я кажу, Віктар? Га?

— Праўду...— з цяжкасцю выдыхнуў Віктар.— Нечакана ён нахіліў галаву і пачаў развязваць свой гальштук. Усе застылі на месцах. Пачуліся галасы:

— Віктар?! Няўжо ты?

— Не можа быць! Ён жа быў ля дошкі!..

— Для чаго ты чыжа прынёс?

— Малайчына, што прызнаўся!

А Віктар тым часам падышоў да стала і паклаў гальштук.

— Я вінаваты,— сказаў ён панура і хацеў быў вярнуцца на сваё месца, але Косця затрымаў яго.

— За прызнанне — малайчына,— зычліва прамовіў сябар,— а гальштук раю паберагчы... Вазьмі назад. Калі трэба будзе, здымем самі. Разумееш, Віктар?

— Як жа ўсё здарылася? Я не ўцямлю...— здзіўлена развёў рукамі Юрка і зірнуў на Віктара.— Ты быў ля дошкі. Усе гэта бачылі. Нешта тут не так...

— Усё так. Я растлумачу.— І Віктар расказаў, як ён злавіў чыжа па дарозе, як пакінуў яго ў парце, калі настаўніца выклікала да дошкі.— Вось і ўсё,— заключыў ён, цяжка ўздыхнуўшы.— Я вінаваты...

Хлопчык узяў са стала свой гальштук і хуценька пайшоў да парты.

У клас увайшлі загадчык навучальнай часткі і Марыя Мікалаеўна.

Вучні дружна ўзняліся з месц, прывіталіся з Міхаілам Сцяпанавічам.

Новікаў дазволіў вучням сесці, павярнуўся да Марыі Мікалаеўны і, радасна ўсміхнуўшыся, ціха запытаў:

— А што — верыце ў сілу калектыву?

— Як не верыць,— усміхнулася і настаўніца, адчуўшы вялікую палёгку.

## НА ЗБОРЫ АТРАДА

Хоць Галінка і Ніна Сцепаненка па-ранейшаму сядзелі за адной партай, але ўжо менш размаўлялі між сабой, не збіраліся разам, каб рыхтаваць урокі. І ўсе раптам заўважылі, што на парце ў дзяўчынак з'явіліся дзве чарніліцы, у той час як раней яны карысталіся адной...

У многіх узнікла думка: «Ніна і Галінка пасварыліся!»

Якая ж была прычына іх сваркі — ніхто не ведаў. Святлана Архіпаўна, вельмі назіральны чалавек, неяк спыталася ў Ніны:

— Што гэта ў вас з Галінкай? Нешта вы ў розныя бакі пазіраеце.

Ніна шчыра расказала старшай піянерважатай аб прычынах разладу.

Назаўтра ў час вялікага перапынку Святлана Архіпаўна паклікала Косцю Дубовіка і сказала:

— У мяне да цябе справа. Выйдзем на двор, пагаворым.

Разам з імі выйшла і Ніна.

Ноччу ішоў дождж, але зараз неба было бязвоблачнае. Блакіт густы і высокі. Ярка свеціць сонца. Над прышкольным садам, над апусцелым полем плывуць белыя нітачкі павуціння.

— Адлятае ў вырай лета...— з нейкім смуткам зазначыў Косця.

Пад подыхам ветра на яго плячах ускалыхнуўся сіні каўнер форменкі.

— Ведаеце, якая ў мяне ўзнікла думка? — ухапіўшы нітачку павуціння, пачала Святлана Архіпаўна.— Нам усім трэба ўзяцца як след за паспяховасць вашага класа. Скажы мне: цябе не турбуе, што сёння Міша Сокалаў па батаніцы атрымаў тройку, а Сярожа і Аркадзь прыйшлі на заняткі зусім непадрыхтаваныя?

— Як не турбуе?! — горача ўсклікнуў Косця.— Пра гэта і пытацца няма чаго! Я планую збор атрада спецыяльна па гэтым пытанні.

— Правільна, збор атрада неабходна правесці.— Святлана Архіпаўна паглядзела некуды ўдалечыню, а потым працягвала: — А што, калі ты зробіш так: паставіш на зборы атрада справаздачу некалькіх лепшых і некалькіх адстаючых піянераў. Яны павінны расказаць, як рыхтуюцца да ўрокаў, як размяркоўваюць свой дзень. Вось тут і высветліцца, чаму той ці другі піянер адстаюць у вучобе.

— Добра, зраблю,— ажыўлена прагаварыў Косця.— У нас такога яшчэ не было. Гэта павінна быць цікава...

— Яшчэ б,— згадзілася піянерважатая.— Спярша пастаў справаздачу Галі...

Ніна зірнула ў твар Святланы Архіпаўны. У вачах піянерважатай блiснула хітрынка.

— Так, з яе трэба і пачаць,— згадзіўся Косця.— Што ні кажы, пяты клас закончыла з пахвальнай граматай і зараз ужо мае чатыры пяцёркі. Яна ў нас лепшая з лепшых!

— Вось няхай на зборы і раскажа, як трэба вучыцца!

...Праз два дні адбыўся збор піянерскага атрада шасцікласнікаў. Прыйшлі Марыя Мікалаеўна і Святлана Архіпаўна. Яны селі за апошняй партай і ўважліва сачылі за піянерамі. Ва ўсіх хлопчыкаў і дзяўчынак на грудзях гальштукі.

Па класе плыве лёгкі шум. Чуецца парыпванне вечак парт, перашэптванне.

Але калі Косця падышоў да стала і ўзняў руку, зрабілася ціха.

Косця адкрыў збор. Ён папрасіў Сярожу Каваля, Віктара Калючку і некалькіх іншых хлопчыкаў, каб яны расказалі, як рыхтуюцца да заняткаў. Потым слова даў Галінцы.

Яна прывычным рухам рукі адкінула за плячо коску, ганарліва ўзняла галаву.

Дзяўчынка, было відаць, хвалявалася, твар яе запалымнеў. Яна ўздыхнула на поўныя грудзі і пачала:

— Тут усе хочуць ведаць, як я размяркоўваю свой дзень, як рыхтуюся да заняткаў. Нічога тут няма складанага. Працую строга па плану. Складаю яго звычайна на паўмесяца, улічваю фіззарадку, умыванне, снеданне, гадзіны заняткаў, час падрыхтоўкі да ўрокаў і наогул усё-ўсё.

Гаварыла яна скорагаворкай, быццам некуды спяшалася. Косця сачыў за дзяўчынкай, крыху зайздросціў ёй. «Якая разумная, дзелавітая».

Але Ніна слухала сяброўку насцярожана.

— У каго будуць пытанні? — звярнуўся Косця да класа, калі Галя скончыла сваё кароткае выступленне.

— Галя, якія ты маеш грамадскія нагрузкі? — спытаў у дзяўчынкі Васілёк.

— Я член рэдкалегіі класнай насценгазеты, на піянерскім кастры рабіла даклад «Як піянеры і школьнікі правялі лета»,— з несхаваным гонарам адказала Галінка.

— У каго яшчэ ёсць пытанні?

Ніна ўзняла руку.

— Пытанне мае Ніна Сцепаненка,— абвясціў Косця, насцярожваючыся, бо заўважыў, што твар у дзяўчынкі клапатлівы, нейкі невясёлы.

— Галінка, якія ў цябе абавязкі дома? — спытала Ніна.

— Не разумею пытання,— збянтэжана прамовіла Галя.— Скажы больш ясна.

— Можна і больш ясна. Ці дапамагаеш ты сваёй маме?

— Ці дапамагаю? Не...— глуха адказала дзяўчынка, потым падумала і дадала: — Не разумею, чаго ты хочаш? Думаеш, што можна і працаваць і вучыцца?

— Можна! — рашуча выгукнула Ніна.

Піянеры адразу захваляваліся, зашумелі.

— Сябры! — звярнуўся Васілёк Падгорны да ўсіх.— Па-мойму, Ніна задала пабочнае пытанне. І яго нявартa абмяркоўваць. Мне, напрыклад, ясна: калі б Галінка займалася хатнімі справамі, дык не была б выдатніца.

Косця нездаволена зірнуў на сябра.

— Сядай, Васіль. Не тое ты гаворыш. Памаўчы лепш.

— Як жа маўчаць, калі нападаеце на Галінку? Яна гэтага не заслужыла! — стаяў на сваім Васілёк.

Ён вельмі паважаў Галінку. Бачачы яе заўсёды чыстую, акуратную, ён лічыў яе лепшай з лепшых у класе. Прыгожыя і радасныя былі для яго тыя хвіліны, калі ён гутарыў з ёй або ішоў разам са школы.

— Ты памыляешся, Васіль,— сказаў Косця, папраўляючы гальштук.— Дапамагаць маці трэба. І я проста здзіўлены, што Галінка цураецца хатняй работы. У маці яе многа клопату. І не дапамагаць ёй проста сорамна. Галінка, відаць, не паважае маці!

— Няпраўда! — уступіліся за Галінку сяброўкі.— Яна вельмі любіць і паважае яе.

Сход атрада набыў вастрыню, запал. Доўга ішлі спрэчкі. Кожны прасіў слова, хацеў выказаць свае думкі. Але некаторыя чамусьці лічылі, што ўзнятае Нінай пытанне — пабочнае, што аб ім не варта гаварыць. Слухаючы такія выказванні піянераў, Ніна рашыла выступіць і расказаць пра ўсё, аб чым яна думала ў апошнія дні.

— Я ўспамінаю адзін выпадак,— пачала яна.— Аднойчы я папрасіла, каб мама адпрасавала мне сукенку. «Ты не маленькая,— адказала яна.— Усё маці ды маці. А пара ўжо і самой за сабой паглядзець». Я пакрыўдзілася і сказала, што пайду ў школу ў пamятай сукенцы. «Што ж, ідзі»,— кажа маці. Прыйшлося ўсё зрабіць самой. І рукі не адняліся, і сукенку не спаліла. З таго часу такімі дробязямі я і не турбую маці. Наадварот, стараюся дапамагчы ёй...

Ніна крыху памаўчала, уважліва паглядзела на Галінку і казала далей:

— Што да Галінкі, дык я здаўна сябравала з ёю, паважала яе. Яна вучыцца лепш за ўсіх. Гэта бясспрэчна. Усе ставяць яе ў прыклад іншым. Таксама правільна. Але нядаўна мы з ёю пасварыліся...— і Ніна прыгадала той вечар, калі Галя адмовілася выканаць просьбу маці.

— І гэта так зрабіла выдатніца? — нібы між іншым спытала Святлана Архіпаўна.

— Але, выдатніца! — пацвердзіла рашуча Ніна.

Галінка, апусціўшы галаву, вадзіла пальцам па вечку парты. Сорамна было ёй, у душы варушылася крыўда.

— Вядома,— працягвала Ніна, перавёўшы дыханне,— ніхто Галінку не просіць цэлымі днямі займацца хатняй работай. Але памагчы маці, скажам, памыць пасуду, пагладзіць сваё плацце, падмесці падлогу — просты абавязак,— і Ніна села за парту.

Маўчанне панавала ў класе. Піянеры не маглі адразу як след узважыць слоў Ніны і абдумвалі іх.

Праз акно відаць было, як прабіралася між хмар сонца. То яркімі і доўгімі, то бледнымі і імгненнымі ўсплёскамі лілося ў клас золата яго праменняў. Калі ж раптам вялікае воблака засланяла сонца, у пакоі надоўга бляклі фарбы на сценах і рэчах.

Марыя Мікалаеўна радавалася за вучняў. Клас жыў здаровым жыццём. Паступова складваўся вучнёўскі калектыў. З дня ў дзень паляпшалася дысцыпліна.

Абдумваючы выступленне Ніны, настаўніца раптам пачула, як нехта прашаптаў:

— Зайздросцяць Галіным пяцёркам, вось і навалілія...

Яна разгарнула блакноцік, запісала некалькі думак і, нахіліўшыся да пляча піянерважатай, спыталася ў яе:

— Вы чулі, Святлана Архіпаўна, аб чым шэпчуцца некаторыя хлопчыкі?

— Чула.

— Трэба растлумачыць ім памылку,— сказала Марыя Мікалаеўна і ўзнялася з месца.

— Дзеці, я не думала выступаць, але ў вас такі цікавы збор, што хочацца і мне выказацца. Усім бачна — гэты збор даў піянерам многае. Тут мы слухалі некаторых нашых вучняў. Але я скажу некалькі слоў пра выступленне Галінкі. Яна добра расказала аб тым, як размяркоўвае свой дзень. Астатнім піянерам ёсць чаму павучыцца ў яе. Аднак на зборы выявілася і другое, аб чым варта пагаварыць. Безумоўна, усім нам цікава ведаць не толькі, як вучыцца Галінка, але і як паводзіць сябе дома. І тут, прызнацца, Галінцы няма чым пахваліцца. І не маюць рацыі тыя, хто мяркуе, што Ніна нападала на Галінку з зайздрасці. Ніякай зайздрасці тут, вядома, няма. Наадварот, і Ніна і ўсе астатнія хацелі дапамагчы сяброўцы, каб яна

стала яшчэ лепшая. Каб пяцёркі мела не толькі ў вучобе, але і па паводзінах як у школе, так і дома.

— Галінка павінна зразумець гэта,— пад усеагульную ўхвалу выгукнуў Косця.

У пачатку збору Галінка, калі зайшла аб ёй размова, пакрыўдзілася, адвярнулася ад класа. Цяпер жа яна сядзела за партай проста, адкрыта пазірала ў твары сваіх сяброў і сябровак.

І настаўніца шчыра радавалася. «Так,— думала яна,— больш дзяўчынка не саромеецца, не хавае вачэй ад іншых. Значыць, зразумела...»

Але калі скончыўся атрадны сход, Галінка хуценька сабрала свае кніжкі і першая выбегла з класа. Яна не пачакала Ніны, хоць ісці ім было ў адну дарогу.

Пакрыўдзілася? А можа, проста ёй хацелася пабыць адной, аб усім як след падумаць?

Гэтага ніхто не ведаў.

## ШУМІЦЬ ДУБРОВА

Хто не любіць ірваць і збіраць жалуды! Радасць і хваляванне ахопліваюць сэрца, калі ты ўзбіраешся на самую верхавіну дуба, зручна становішся нагамі на тоўсты сук і з вышыні азіраеш наваколле! Вунь рака, сіняя, шырокая, пакручастая, пабегла к самаму небасхілу, злілася з ім і там згубілася. Паабапал ракі раскінуліся шырокія калгасныя палі.

Над галавой блізка-блізка плывуць белыя невялікія воблачкі. Здаецца, калі б узняцца крыху вышэй, можна схапіць рукой вунь тую, прадаўгаватую хмарку і, спусціўшыся на зямлю, падарыць сябрам. Глядзіце, любуйцеся!..

Васілёк так доўга глядзеў у вышыню, што яго шэрая, выцвілая шапка ледзь не ўпала на зямлю. Але хлопчык у час падхапіў яе і глыбей нацягнуў на галаву.

Шуміць дуброва... Васілёк бачыць верхавіны дубоў, бяроз, клёнаў. Яны, зусім недалёка адна ад адной, гайдаюцца пад ветрам туды-сюды, быццам закалыхваюць сябе.

— Васілёк, трасяні! Ты заснуў там? — пытаюцца знізу хлопчыкі і дзяўчынкі.

Васілёк праз шчылінкі густа пераплеценых галін бачыць Юрку, Галінку, Сярожу, Святлану Архіпаўну і з вышыні ўсміхаецца ім.

— Зараз! — адказвае ён.— А якія ж вы ўсе маленькія, як жалудкі!

— Не мані, Васілёк,— крычыць у адказ Галінка.— Ты проста ўжо задавацца стаў. Думаеш, калі залез высока, дык і месяц можаш дастаць? Не хваліся, а то мы палкамі з дуба цябе саб'ём.

— Паспрабуй! Не дакінеш! — з выклікам адказвае Васілёк.

Ён рэзка тупае нагой па доўгай хісткай галіне. Спачатку чуецца шамаценне, потым — нібы сыплецца на зямлю град.

Васілёк бачыць, як унізе хлопчыкі і дзяўчынкі з крыкам кідаюцца ўрассыпную з-пад дуба. Ёсць ад чаго ўцякаць.

Жалудоў сыпанула, жалудоў!

— Бач, колькі! — ускліквае Галінка, пазіраючы ўгару на магутнае дрэва.

— Цэлую дуброву з іх можна вырасціць,— дадае Юрка, нахіляецца і бярэ ў прыгаршчы жалуды. Глядзіць з хвіліну на іх, а потым гаворыць: — Як залатыя бочачкі...

— Якія табе бочачкі,— папраўляе Галінка,— як майскія жукі. Так і здаецца: разгорнуць крылы, паляцяць...

— Назад, да Васілька,— смяецца Юрка.

— Не, у мой кошык,— жартаўліва адказвае Галінка.

Юрка бярэ кошык, становіцца на калені і пачынае выбіраць з травы жалуды. Астатнія піянеры таксама бяруцца за работу. Колькасць жалудоў на шматлікім голлі дуба меншае. Васілёк ужо абтрос верхнія галіны і шукае новых, з ураджаем. А іх шмат. Вунь у тым баку, у другім. Хлопчык выбірае адну з галін — такую, што звісае над галавой у школьнікаў. Непрыкметна ўзбіраецца на яе і рэзка тузае нагамі. Зноў на зямлю сыплецца важкі залацісты град. Унізе — вясёлы смех, жарты.

У дуброве сёння шмат школьнікаў. Збіраць жалуды выйшлі не толькі шасцікласнікі, але і вучні малодшых класаў.

Тлумна ў наваколлі, весела. Чуецца гамонка, хто-ніхто ціха спявае.

— Чаму ж Косці Дубовіка няма? — пераставіўшы на новае месца кошык, пытае Юрка ў Галінкі.

— Не толькі Косці няма, але і Ніны,— адказвае яна і, памаўчаўшы, дадае: — Не разумею я: Ніна на мяне нападала, папракала, што я мамцы не дапамагаю. А сама нават жалуды збіраць не прыйшла.

Пачуўшы размову, да дзяцей падышла Святлана Архіпаўна.

— Ты не ведаеш, чаму ў дуброву не прыйшла Ніна? — спытала яна ў Галінкі.

— Не ведаю...

— Чаму ж не забегла па яе?

— А мы не згаварваліся разам ісці, таму і не забегла.

— Стараста класа — і не прыйшла,— задумліва сказаў Юрка.— Добры прыклад, няма чаго казаць!.. Ды і Косця харошы. Быў жа сам у Кахоўцы, бачыў голыя стэпы і колькі разоў нам гаварыў: «Туды нашыя дубкі завезці трэба. Яны ўраз угамоняць і пясчаныя вятры, і засуху...» А на збор жалудоў не прыйшоў.

Галінка павярнулася да дарогі, пільна пачала ўглядацца ўдалячынь.

— Не відаць,— панура працягнула яна,— ужо амаль паўгадзіны прайшло. Спазняюцца!

— Праз Косцю і Ніну мы можам адстаць ад пяцікласнікаў,— выказаў трывогу Юрка.— Яны больш збяруць жалудоў, чым наш клас. Гэта пэўна.

— Не бядуй, Юрка,— прамовіла Святлана Архіпаўна, папраўляючы хусцінку на галаве.— Яшчэ рана падлічваць. Ды і Косця з Нінай падыдуць. Не можа быць, каб яны падвялі клас.

А час ішоў. Пад дубамі былі чыста сабраны ўсе жалуды. Васілёк паспрабаваў скалануць яшчэ некалькі ґалін, але з іх больш нічога не ўпала.

— Пайшлі пад другі дуб,—прапанавала піянерважатая.

— Вунь пад той, што з вулеем! — крыкнуў Юрка.— Там галлё ажно згінаецца ад жалудоў. Ніхто яго пакуль не чапаў. Пчол баяцца.

Дуб сапраўды меў багата жалудоў. Але на яго не так лёгка было ўзабрацца. Галлё пачыналася высока, метры за тры ад зямлі. Ствол быў тоўсты-тоўсты. Нават калі Васілёк і Юрка, узяўшыся за рукі, хацелі яго абхапіць, ім гэтага зрабіць не ўдалося. Кара на дубе чорная і цвёр-

дая, як камень. І не верылася, што гэта кара. Здавалася, нехта абляпіў ствол шурпатымі чыгуннымі пліткамі.

Юрка паспрабаваў лезці на дуб, але падняўся па ствале ўсяго метра на паўтара. Вышэй узлезці, як ні карабкаўся, не мог. Тады Васілёк знайшоў доўгую палку і пачаў дапамагаць ёю сябру. Юрка нарэшце ўзабраўся на першую тоўстую галіну, зручна прымасціўся на ёй, адпачыў. Васілёк тым часам ужо кідаў угару адну палку за адной, цаляючы ў найбольш цяжкія галіны. Калі ён пападаў — на зямлю абрушваўся гулкі вадаспад жалудоў. Ад яго аж дрыжала зямля. Хутка і Юрка запрацаваў на дубе. Ён з запалам трусіў пружыністую верхавіну.

Кошыкі дзяцей былі ўжо амаль поўныя. Іх нават цяжка стала пераносіць з месца на месца.

К вечару збор жалудоў скончылі. Піянеры шостага класа збіраліся ля дарогі. Тут ужо стаяла фурманка з вялізным лазовым кашом. Яе нагружалі вучні пятага класа. Яны сабралі нямала: пудоў з дваццаць. Лазовы кош хутка напаўняўся.

Васілёк падышоў да дзядзькі Мікіты, які ўжо быў тузануў каня за лейцы, хацеў ехаць.

— Дзядзька! А чаму для нашага класа фурманку не прыслалі! Мы сабралі не менш за пяцікласнікаў. А ўжо вечарэе...

— Збіраліся прыслаць — гэта я ведаю,— панура адказаў дзядзька Мікіта.— Але ў хаце ў Дубовікаў здарылася бяда, і вашу фурманку паслалі ў Петрыкаў...

— Што за бяда, дзядзька? — з трывогай запытаў Васілёк.

— Сына Дубовік у бальніцу павёз, вось што,— неахвотна прагаварыў дзядзька Мікіта і пагнаў каня, ідучы ўзбоч калёсаў, якія ціха шоргалі па пяску.

— Як жа нам з жалудамі быць? Нанач пакінуць? — крыкнуў яму ўслед Васілёк.

— Прыеду, забяру,— не азіраючыся, кінуў дзядзька Мікіта.

«Вось табе і маеш! Косцю павезлі ў бальніцу. Відаць, нешта сур'ёзнае, бо так, з-за дробязі, у Петрыкаў не вязуць...»

Панура, устрывожаны, вяртаўся Васілёк да сяброў-шасцікласнікаў. Яны ж, нічога не ведаючы, шумелі, гаманілі ля жалудовай горкі.

## «Я НЕ ПЛАЧУ...»

А з Косцем здарылася сапраўдная бяда. Ён, як і абяцаў настаўніцы, схадзіў у мясцовы медпункт. Фельчар доўга важдаўся з ім, пакуль выняў з-пад павек некалькі дробных пясчынак. Перастала рэзаць у вачах, і хлопчык узрадаваўся.

— Віхор ламае бор, а мне хацеў вочы пяском засыпаць. Не ўдалося! — гаварыў ён на другі дзень сябрам.

Але радавацца было рана. Яшчэ праз дзень, прачнуўшыся, Косця доўга праціраў вочы, бесперапынна міргаў, імкнучыся разагнаць ліпкі туман, што надакучліва напаўзаў на вочы.

— Схадзі яшчэ раз у медпункт,— сказаў яму бацька.— Можа, не ўсе пясчынкі дасталі.

Фельчар зноў уважліва агледзеў хлопчыка, нездаволена пакруціў галавою:

— Пясчынак, малады чалавек, больш няма. Але...

— Што? — насцярожана спытаўся Косця, павярнуўшыся на зэдліку.

— Хвароба пачынаецца. Трэба было менш бегаць, за віхорам не ганяцца...

— А я не ганяўся. Ён нечакана шугануў пяском і — проста ў вочы. Калі не верыце, спытайце ў Васілька.

— Веру, веру. Хваробу будзем лячыць. Вось табе кроплі і піпетка. Два разы ў дзень — раніцай і вечарам — прамывай кроплямі вочы. Зразумела?

— Зразумела! — узрадавана адказаў Косця і, падзякаваўшы фельчару, выйшаў з амбулаторыі.

У першыя дні лякарства быццам дапамагала. Але неўзабаве пад павекамі зноў пачало рэзаць. Косця стараўся не звяртаць увагі. Думаў: усё мінецца, пройдзе.

Вось і сёння, хуценька паснедаўшы, ён бестурботна пабег у школу. На ўроках пісаў і чытаў. Выбягаў на перапынках у калідор.

Пасля ўрокаў быў класны сход, нядоўгі, але цікавы. Выступаў на ім і Косця. Школьнікі рашылі абвясціць тыдзень па збору жалудоў. А каб хлопчыкі і дзяўчынкі больш старанна ўзяліся за справу, па прапанове Святланы Архіпаўны былі заключаны дагаворы аб спаборніцтвах паміж пятым і шостым класамі.

— Сход лічу закрытым,— абвясціла піянерважатая.— Месца збору — дуброва, прыходзьце без спазнення.

Вучні шумна, гаманліва рушылі з вялізнага, прасторнага класа.

Косця выйшаў з пакоя пасля таго, як у ім нікога не засталося. Ён сёння быў дзяжурны, і трэба было, перш чым пайсці дахаты, паглядзець, ці ўсё ў парадку ў класе.

І вось ён выйшаў на школьны ганак. Сонца, якое звярнула ўжо з поўдня, разанула па вачах хлопчыка сотнямі яркіх, асляпляльна-белых праменяў. Боль раптоўна ўзмацніўся, стаў востры, пакутны. Косця заміргаў вейкамі, з вачэй пацяклі слёзы... У паветры заскакалі нейкія каляровыя шары, праз хвіліну яны зліліся ў адно цэлае, адгарадзілі тонкай плёнкай ад Косці і школьны сад, што стаяў непадалёку, за агарожай, і фізкультурны гарадок, і бліжнія хаты вёскі, і белыя хмаркі ў высокім небе...

— Што такое? — перапалохана прашаптаў Косця і выцягнуў перад сабою рукі, нібы імкнуўся адпіхнуць чорную сцяну, што раптоўна вырасла перад ім. Але сцяны ніякай не было. Хлопчык хіснуўся ўбок, згубіў раўнавагу і тут жа прысеў на прыступку ганка.

У гэтую хвіліну рыпнулі дзверы і Косця адчуў на сваім плячы нечую руку.

— Што з табой? Чаго ты плачаш, Косця? — запыталася дзяўчынка. Ён адразу пазнаў яе па голасе — гэта была Ніна.

— Я не плачу,— спакваля адказаў Косця.

— А чаму слёзы на вачах?

— Вочы баляць... Ведаеш, які боль з'явіўся?! Сонца ўдарыла праменямі, асляпіла.

— І нічога не бачыш?

— Глядзець не магу. Надта балюча. Мне лепш з заплюшчанымі вачыма...

— Пайшлі дахаты! — сказала Ніна, узяўшы Косцю пад руку.— Вось мая насоўка, яна чыстая, вытры слёзы.

Хлопчык асцярожна правёў насоўкай па вачах, потым паволі прыўзняўся з месца і сказаў:

— Пайшлі.

Яны асцярожна сышлі з ганка, накіраваліся да дарогі.

У той жа дзень Косцю адвезлі ў Петрыкаў — у раённую бальніцу.

## НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

Марыя Мікалаеўна не раз думала: як падысці да Віктара Калючкі, заахвоціць яго да вучобы, адвучыць ад свавольстваў.

«Чаму ён непаслухмяны, жорсткі, натапыраны?» — не раз запытвала яна сама ў сябе і не магла знайсці адказу.

Перш рашыла пагутарыць з Васільком. Меркавала, што важаты звяна ведае, чаму такі Віктар.

— Не здзіўляйцеся, Марыя Мікалаеўна, у яго гэткая натура,— проста адказаў Васілёк.— Калі захоча вучыцца, нават чацвёркі ў дзённіку з'яўляюцца, а калі раптам што не па ім, кніжкі, сшыткі — усё адкідае прэч, нікога не хоча слухаць, робіць усё па-свойму.

— Ну, а ўсё ж чаму ён так паводзіць сябе?

— Некаторыя кажуць, што і бацька яго быў гарачы на руку, лёгка ўспрымаў крыўды,— самым сур'ёзным тонам сказаў хлопчык.

— А дзе зараз яго бацька?

— Загінуў на вайне.

І тут Марыя Мікалаеўна адчула сябе вінаватай. «Вось яно як, а я і не ведала! Хлопчык выхоўваецца без бацькі... Што ж, трэба выпраўляць памылку».

Марыя Мікалаеўна рашыла неадкладна зайсці да Віктаравай маці.

Назаўтра пасля ўрокаў яна не затрымлівалася доўга ў школе. Выйшла на вуліцу, трымаючы кірунак у самы канец вёскі. Тут стаяла невялікая хата з кветнікам пад вокнамі. Была яна яшчэ бадай новая і адрознівалася ад іншых тым, што на комін яе быў надзеты чыгун з выбітым дном. Настаўніца ў першы дзень прыезду ў вёску чула, як нехта жартаваў з гэтага: «Бачыце, якая тут жыве гаспадыня! Варыць не толькі ў печы, але і на даху».

Каля варот расла высокая, крыху пахіленая набок ліпа. Вецер ціха пакалыхваў яе, яна нудна парыпвала пераплеценымі ўверсе галінамі.

Марыя Мікалаеўна нерашуча прыпынілася, адкінула клямку весніц. Тыя моцна зарыпелі, і так непрыемна, аж дрыжыкі схапілі.

Не прайшла настаўніца і пяці крокаў, як раптам пачула злосны сабачы брэх.

Віктар калоў пад паветкай тоўстыя сасновыя круглякі.

Ён ставіў іх старчма, уздымаў над галавой сякеру і з размаху апускаў яе на жоўты, распісаны тонкімі кольцамі, як патэфонная пласцінка, круг. Каб лепш калоліся круглякі, хлопчык дапамагаў голасам:

— Гах! Гах! — чулася раз-пораз пад паветкай.

Тонкія кольцы на кругляку лопаліся, і ў бакі адвальваліся паленцы. За паўгадзіны работы Віктар крыху змарыўся. Ён паклаў убок сякеру, прысеў адпачыць.

Непадалёку вішчаў на прывязі сабака, прасіўся на волю. Хлопчык пашкадаваў яго: што ні кажы, цэлы дзень бразгае ланцугом па дроце. Можна пусціць пагуляць.

Вызваліўшыся ад ланцуга, калматы вялізны сабака станавіўся лапамі на грудзі хлопчыку, задаволена вішчаў.

— Ідзі гуляй! — загадаў яму гаспадар.

Сабака закінуў хвост на спіну і, дробна ступаючы, пабег да плота.

Віктар зноў узяў у рукі сякеру. І толькі ён раскалоў адзін кругляк, як пачуў злосны сабачы брэх. Выпрастаўся і застыў ад жаху. У двор уваходзіла настаўніца. «Што рабіць? — мільганула думка.— Бараніць? Позна! Трэба ўцякаць! — рашыў ён.— А то калі заўважыць, падумае: знарок спусціў сабаку з ланцуга».

Ён адкінуў убок сякеру, кулём пераскочыў цераз плот і знік у вішняку, што рос на загуменні.

Сабака тым часам кінуўся на Марыю Мікалаеўну. Настаўніца разгубілася, але толькі на нейкі момант, потым схапіла камяк зямлі, шпурнула ў сабаку. Той забрахаў яшчэ больш ярасна, крыху адступіў і рынуўся зноў. Марыя Мікалаеўна не паспела на гэты раз схапіць у руку зямлі і замахнулася на сабаку сваёй сумкай. Сабака спружыніста скокнуў наперад з шырока вышчаранай пашчай...

Але раптам у паветры праляцеў тоўсты дручок. Пачуўся трапны ўдар— сабака заенчыў, падкурчыў хвост і кінуўся наўцёкі. Марыя Мікалаеўна павярнулася і ўбачыла Васілька.

— І хто гэта спусціў сабаку з ланцуга? — абурана праказаў хлопчык, падыходзячы да настаўніцы.— Гэты цюцька можа хоць каго напалохаць. Колькі разоў папярэджвалі Віктара, каб не спускаў сабакі. Дык не...

— Дзякую, Васілёк. Выратаваў маю сумку,—і з натугай усміхнулася.

Яна праз сенцы зайшла ў хату. Прамінула кухню і апынулася ў святліцы. Тут каля сцяны стаялі два ложкі, у правым куце — стол. Два хлопчыкі гулялі на падлозе: аднаму было гадоў шэсць, другому — восем. Яны нешта майстравалі з сасновых дошчачак. Убачыўшы ў дзвярах настаўніцу, большы хлопчык хуценька падняўся і, страсаючы са штаноў стружкі, тонкім голасам прамовіў:

— А мамы дома няма...

— Дзе ж яна?

— Да Міронавых пайшла. Паклікаць яе?

— Нічога, я пачакаю. А вы майструйце, майструйце, не зважайце на мяне,— лагодна прагаварыла настаўніца.

Яна падышла да сцяны, пачала разглядаць фотакарткі ў вялізнай рамцы пад шклом.

Неўзабаве рыпнулі дзверы. У пакой увайшла невысокая круглатварая жанчына ў цёмнай шарсцяной хустцы.

— Дзень добры! — прывіталася яна гучным голасам.— Вы, мабыць, даўно ў нас? Бачыце, была ў суседкі, загаварылася. Сядайце... і прабачце, калі ласка, за беспарадак.

— Нічога, нічога,— прамовіла Марыя Мікалаеўна, прыглядаючыся да жанчыны.

Вочы ў той былі чорныя, жвавыя, як і ў Віктара. Кароткія загарэлыя рукі — спрацаваныя, з набухлымі сінімі венамі, і настаўніца міжвольна падумала: «Любая справа, відаць, гарыць у такіх руках».

— Як мой Віктар вучыцца? Ці не сваволіць часам? Калі што не так — гаварыце. Даўно не частавала яго папругай.

— Хіба і папругу ў ход пускаеце?

— Усякае здараецца, галубка. Яны ж, ведама, дзеці. Іншы раз, не падумаўшы, ліха ведае што наробяць. Закіпіць усё ў душы, не ўтрымаешся, вось і папругу тады шукаеш. Нічога, дапамагае.

— Гэта вы дарэмна,— заўважыла настаўніца.— Дзяцей трэба выхоўваць добрым словам, парадай...

— А хіба ж на ўсіх на іх набярэшся добрых слоў? У мяне трое хлапцоў. Бачыце, вось меншыя двое тут, а большы недзе па вуліцы гайсае. Цяжка іх выхоўваць, ой цяжка! Пакуль падрастуць і паразумнеюць — шмат сілы патраціш, шмат нерваў. Ды і вам, напэўна, нялёгка,— яна шчыра зірнула ў вочы настаўніцы,— у вас жа некалькі дзесяткаў іх у школе. Паспрабуй кожнага навучы...

— Нялёгка, вядома, Наталля Іванаўна. Аднак прафесія настаўніка абавязвае. Мы гэтак жа адказваем за дзяцей, як і іх бацькі. Стараемся выхоўваць.— Марыя Мікалаеўна з хвіліну памаўчала, потым спыталася: — А як вы жывяце?

— Ды вось бачыце, жыву. Турбот хапае. Гэта ж не жартачкі — тры раты ў хаце ды мой чацвёрты, паспрабуй усіх накарміць... Каб муж быў, было б лягчэй. Але прапаў на вайне без вестак. Не ведаю, дзе і магілка яго. Трох сірот пакінуў на свеце...— голас у яе абарваўся, і яна раптам прыўзняла ражок фартуха і прыклала яго да вачэй. Плечы жанчыны ўздрыгнулі.

Настаўніца стала супакойваць яе. Але тая расплакалася яшчэ горш. Нарэшце яна прыўзняла галаву, выцерла слёзы.

— І ведаеце, што яшчэ балюча? Гэта ж знайшоўся нейкі прайдзісвет акаянны, ні душы ў яго, ні сумлення...

— А што такое? — насцеражылася настаўніца.

— ...Напісаў у раён, што муж мой жывы, высылае штомесяц мне грошы, а не прыязджае дахаты таму, што адчувае нейкую віну перад людзьмі. І вось ужо другі месяц не выдаюць пенсіі на дзяцей. Праўда, па пошце я грошы часам атрымлівала, не таюся. А высылаў мне іх мужаў брат — ён недзе ў Алма-Аце дырэктарам завода працуе...

— Вось яно як? — здзівілася Марыя Мікалаеўна.— І вы маўчалі?

— Скардзілася старшыні сельсавета. Ён параіў схадзіць у раён...

— Што ж — схадзілі?

— Была, вядома, і ў райваенкамаце, і ў райсабесе. Абяцалі праверыць. І, бачыце, правяраюць другі месяц...

— Не гаруйце, Наталля Іванаўна,— мякка сказала настаўніца, раскрыла сумку, выняла блакнот і нешта ў ім запісала.— Я паспрабую дапамагчы. Заўтра ж пазваню ў Петрыкаў у райваенкамат, раскажу аб усім. Пенсію вы будзеце атрымліваць...

— Дзякуй табе, галубка. Ты больш ведаеш, гэта праўда. Што ж, рабі так, як трэба...

Настаўніцу Наталля Іванаўна праводзіла да самай вуліцы. Развітваючыся, сказала:

— Дык не маўчыце, калі Віктар што-небудзь там зробіць. Гаварыце мне. Не ведаю, як у школе, а дома ён

мой першы памочнік — і дроў насячэ, і вады прынясе, і меншых дагледзіць.

Яны развіталіся, як даўнія сяброўкі. Гадзіна часу, праведзеная ў шчырай размове, зблізіла іх, бы парадніла.

А Віктар рашыў ісці дахаты толькі тады, калі ўжо добра змерклася.

Яшчэ на вуліцы заўважыў: у хаце цёмна. «Значыць, маці лягла спаць»,— з радасцю падумаў ён і лёгка пакрочыў па двары. Зайшоў, ціха распрануўся і на пальчыках наблізіўся да стала.

Ён знарок затрымаўся гэтым вечарам у сяброў, бо бачыў, як адагнаў ад настаўніцы сабаку Васілёк, як Марыя Мікалаеўна зайшла ў хату. «Ну, вядома,— разважаў Віктар,— на мяне нагаварыла нямала — і пра тое, як у першы дзень папяровы планёр пусціў і шчаку запляміў Галінцы, і пра чыжа, і пра спазненні на ўрокі з-за валейбола. А калі так, маці, пэўна, ой як раззлавалася!.. Ведаю яе. Лепш у такія хвіліны не трапляць на вочы. Рука ў яе гарачая...»

Не запальваючы святла, ён пачаў абмацваць стол, каб знайсці што-небудзь павячэраць. Пад рукамі забразгалі лыжкі. У гэты ж час з другой палавіны хаты пачуўся голас маці:

— Гэта ты, Віцька? Вячэра ў печы. І чаго ты не запальваеш святла?

Віктар адразу ўзрадаваўся.

«Ого,— падумаў ён,— калі так ласкава гаворыць маці, значыць, баяцца няма чаго. Напэўна, навальніца прайшла стараною...»

— Святло запаліць? — перапытаў ён.— Добра, мама, запалю.

Ён выгаладаўся за вечар і цяпер лоўка падчэпліваў на відэлец з чыгунка разварaныя бульбіны, клаў іх на патэльню, макаў у сала, а потым з апетытам еў. Неўзабаве маці сказала:

— А тут у нас твая настаўніца была.

Віктар насцеражыўся, і на момант відэлец застыў у яго руцэ. З бульбіны закапаў на чыстую настольніцу тлушч.

— Ну і што? — стрымліваючы дыханне, запытаўся хлопчык.

— Якая яна ў вас добрая ды ветлівая! Гутарыла доўга са мной. Малайчына, што ў нашу хата заглянула. Неяк на сэрцы лягчэй стала ад гаворкі з ёй...

— А пра мяне нічога не казала? — рашыўся запытацца Віктар пра самае важнае, што яго больш за ўсё турбавала.

— А што яна будзе гаварыць, сынку? Хіба ёсць пра што?

— Ды не...

Віктар са спакойным сэрцам лёг спаць. І толькі ў ложку з жалем падумаў:

«І які я дурны ўсё ж. Сабака кінуўся на настаўніцу — трэба ж было бараніць! А так нядобрае можа пра мяне падумаць... Эх!..»

Хутка павекі яго зрабіліся цяжкія, і ён заснуў.

## ВАЛЕЙБАЛІСТЫ

Калі Марыя Мікалаеўна зайшла ў настаўніцкую, яна пачула:

— Зноў гэты Калючка. І што рабіць з хлопцам? Бачыце, сышоў з майго ўрока.

— А па-мойму, мы занадта ўжо з ім цацкаемся, толькі нервы псуём,— незадаволена адказаў жаночы голас.

Размаўлялі за шафай. Марыя Мікалаеўна адразу пазнала: на Віктара скардзіўся настаўнік геаграфіі Ніне Аўсееўне Ладуцьцы — выкладчыцы арыфметыкі.

Марыі Мікалаеўне стала непамысна. Калючка — яе вучань, і яна адказвае за яго паводзіны. А такія скаргі паўтараюцца з дня ў дзень. Яна падышла да доўгага стала, за якім сядзела некалькі настаўнікаў. Выкладчык геаграфіі павярнуўся да яе і паўтарыў сваю скаргу.

— Ведаю, Рыгор Пятровіч,— спакойна адказала Марыя Мікалаеўна.— А па якой прычыне ён сышоў з урока?

— Надумаў у валейбол гуляць! Паглядзіце, калі ласка, праз акно, як ён лётае па пляцоўцы. Спрытны! Сілы хоць адбаўляй. А вучыцца...

З акна добра было відаць, што рабілася на фізкультурнай пляцоўцы — там ішла ўпартая валейбольная гульня. Чуліся адрывістыя свісткі суддзі, удары па мячы. Нехта весела ўскрыкваў, жартаваў:

— Эй, шасцікласнікі! Трымайцеся, сухая будзе!..

Віктар толькі-толькі набраў каманду. Перад гэтым ён узначальваў хлапчукоў, што вучыліся ў другую змену. Гульня ў шасцікласнікаў, у якіх урокі толькі скончыліся, відаць, не ладзілася.

— Віктар, што ж гэта ты? Не паддавайся!

Хлопчык замяніў некалькі ігракоў, але справа не палепшылася. Марыя Мікалаеўна чула, як капітан каманды абурана крычаў на сваіх таварышаў, якія то не маглі даць добрай пасоўкі, то «мазалі» — і мяч ляцеў за лінію пляцоўкі. Настаўніца пільна назірала за Віктарам і думала. Раптам твар у яе пасвятлеў. Яна паклала класны журнал у шафу, рушыла да дзвярэй.

— Куды вы? — запытаўся выкладчык геаграфіі.— Дахаты? Пачакайце, пойдзем разам...

— Дахаты мне яшчэ рана,— адказала Марыя Мікалаеўна і хітравата зірнула ў вочы Рыгору Пятровічу.— Пайду хіба пагуляю ў валейбол. Мне здаецца, Віктар Калючка добры спартсмен...

Рыгор Пятровіч здзіўлена паціснуў плячыма: «Што гэта? Жарт? А можа, робіць нейкі тонкі ход?»

Ён падышоў да акна, акінуў позіркам фізкультурны гарадок, дзе стаялі бум, два «казлы», лесвіца з жардзінай і кольцамі, а ў цэнтры — валейбольная пляцоўка.

Вось да ігракоў набліжаецца Марыя Мікалаеўна. Крочыць яна хутка, упэўнена.

Супраць каманды Віктара гулялі сямікласнікі. Яны перамагалі, лік быў 11 : 2.

— Як ідзе, сябры, гульня? — запыталася настаўніца ў хлопцаў, ветліва ўсміхаючыся.

— Выдатна, Марыя Мікалаеўна! — задорна абвясціў стройны рудавалосы юнак, сямікласнік. І, убачыўшы, як у камандзе Віктара ўсе ігракі ўскінулі ўгору рукі, рашыўшы абавязкова на гэты раз узяць чарговы мяч, кпліва дадаў: — Глядзіце, усе рукі паднялі. Здаюцца... Выручайце сваіх.

— Што ж, паспрабуем выручыць,— зусім сур'ёзна сказала Марыя Мікалаеўна і звярнулася да Віктара: — Ты тут капітан. Дазволь, я стану ў цэнтры, каля сеткі?

Віктар змераў недаверлівым позіркам постаць настаўніцы і панура прамаўчаў. Нехта з каманды шасцікласнікаў адказаў за яго:

— У нас жа ўсе ігракі ёсць — шэсць чалавек...

А сямікласнікі выкарысталі момант, каб пажартаваць:

— Вы можаце і дзесяць паставіць. Дазваляем. Супраць нас ніхто не ўстаіць.

Марыя Мікалаеўна завагалася і хацела ўжо адысці да лавачкі, што стаяла непадалёку, каб дачакацца канца гульні. Але тут да яе падышоў Юрка Хлябок.

— Марыя Мікалаеўна, пагуляйце, калі ласка, за мяне. Я змарыўся.

— Вось і добра, Юрка. Даўно я ў руках мяч трымала! А ты, Віктар, запомні: галоўнае ў гульні — гэта пасоўкі.

Хлопчыкі перадалі настаўніцы мяч, яна спрытна падхапіла яго і перакінула Віктару.

— А зараз падай мне... Вось так!

Мяч узляцеў над самай галавой у Марыі Мікалаеўны, яна падскочыла — і мяч урэзаўся ў зямлю на пляцоўцы ў сямікласнікаў.

Віктар расцвіў. Твар у яго засвяціўся. «Бач, спрытная якая,— падумаў ён.— Дармо, што маленькая».

Сямікласнікі ўбачылі лоўка зрэзаны мяч, не на жарт усхваляваліся. Іх капітан, плячысты, у чырвонай майцы хлопец, падміргнуў сваім сябрам, як бы гаворачы: «Нічога, нас не запалохаеш, мы можам рэзаць мячы не горш».

Ён запытаў у Віктара:

— Можа, спачатку пачнём? У цябе ж новыя ігракі.

— Не варта,— адказала за Віктара настаўніца.— Скончым пачатую партыю. Вам жа да перамогі чатырох ачкоў не хапае. І пяці хвілін не пройдзе, як вы іх заваюеце. Дык пачалі?

— Пачалі!

Суддзя даў свісток, і сямікласнікі паслалі мяч сваім праціўнікам. Вось яго падхапіў Васілёк, перадаў Віктару, а той — настаўніцы. Марыя Мікалаеўна нанесла трапны ўдар. Мяч заскакаў на пляцоўцы ў сямікласнікаў. Юнак у чырвонай майцы панура пачухаў патыліцу.

Лік стаў 3 : 11, а праз хвілін дваццаць і зусім зраўняўся 12 : 12. Барацьба ішла ўпартая. Хлапчукі з каманды Віктара радаваліся.

— Хто ж будзе здавацца? — крычалі балельшчыкі, якіх сабралася нямала.

— Вядома, хто — сямікласнікі!

— Палохалі палонам, а самі здаюцца!

Гульня скончылася перамогай шасцікласнікаў. Калі апошні мяч заскакаў на пляцоўцы ў праціўнікаў, Віктар, вясёлы і ўрачысты, падбег да сеткі, прыўзняў яе над галавой і праказаў:

— Калі ласка, праходзьце! Бачыце: хто хваліцца, той з ног валіцца.

Паўз Віктара і яго сяброў з мячом у руках прайшоў капітан сямікласнікаў і кінуў у адказ:

— У цябе, брат, бачу, галава закружылася...

— Слабая, вось і кружыцца,— падхапіў хтосьці з сямікласнікаў.— Думаць жа яна як след не ўмее.

Віктар пагасіў усмешку і, падцягнуўшы штаны, рашуча падышоў да капітана сямікласнікаў.

— Хто гэта сказаў? Няхай паўторыць,— скрозь зубы працадзіў ён.

— Да цябе нешта ўсё цяжка даходзіць,— загарадзіўшы свайго капітана, сказаў хударлявы юнак.— Пачакай да раніцы, можа, як-небудзь уцяміш...

— Хлопцы! — захваляваліся ўсе на пляцоўцы.— Што вы не падзялілі? Можна ж яшчэ раз згуляць, тады ясна будзе, хто мацнейшы!

Марыя Мікалаеўна крыкнула:

— Па месцах, хлопчыкі! Па месцах!

Раззлаваны Віктар адышоў ад купкі сямікласнікаў, ізноў заняў сваё месца на пляцоўцы.

— Пачакайце, мы вам яшчэ пакажам!

Віктар гуляў з азартам, горача. Аднак ініцыятыву спярша захапілі сямікласнікі. У цэнтры ля сеткі стаяў Міша Сокалаў — ён дрэнна пасаваў Віктару. Віктар прыкметна пачаў нервавацца. Але калі праз некалькі падач ля сеткі апынулася Марыя Мікалаеўна, ход гульні пачаў імкліва мяняцца.

Балельшчыкаў між тым прыбавілася. Сярод іх ішлі ажыўленыя размовы і спрэчкі аб тым, правільна ці няправільна ўзяты мяч, як пасылаюцца «рэзаныя» мячы, як лепш за ўсё іх можна «патушыць».

Шасцікласнікі перамаглі і ў гэты раз. Балельшчыкі горача заапладзіравалі. А нехта, нездаволены гульнёй, рэзкім, пратэстуючым свістам хацеў заглушыць вясёлы гоман.

Віктар радасна ўсміхаўся. Кропелькі поту блішчалі

на яго прадаўгаватым скуластым твары, расшпіленая кашуля адкрывала загарэлыя грудзі.

Марыя Мікалаеўна працягнула хлопцу руку:

— Віншую, капітан, з перамогай!

На душы ў Віктара было светла і лёгка. Ён зірнуў у вочы настаўніцы, ціха сказаў:

— А я і не чакаў, што вы так умееце...

— Вось бачыш, крыху ўмею,— сціпла зазначыла Марыя Мікалаеўна, тады перавяла позірк на пляцоўку і працягвала: — Цяпер твая каманда, Віктар, непераможная. Але трэба яшчэ трэніравацца.

— Правільна, трэба...

— Значыць, рашылі: будзем гуляць і трэніравацца! — весела сказала настаўніца.

— Рашылі!

— А што вырашым наконт пропускаў урокаў? — Марыя Мікалаеўна ледзь прыкметна прыжмурыла вочы і пільна зірнула ў твар хлопчыку.

Віктар збянтэжана апусціў галаву. Пасма агніста-рыжых валасоў упала на шырокі спацелы лоб і нібы да чырвані напаліла яго.

— Вінаваты, Марыя Мікалаеўна,— шчыра прагаварыў хлопец.— Я папрашу прабачэння ў Рыгора Пятровіча. І ў вас прашу...

— Слова цвёрдае?

— А як жа, Марыя Мікалаеўна!

— Глядзі ж, таварыш капітан!

## ПІСЬМО ФІЛАТАВУ

Ужо трэці дзень, як Косці Дубовіка не было ў класе. Настаўнікам, што рабілі праверку вучняў, адказвалі адно:

— Хворы...

За партай каля акна адзінока сядзеў Васілёк. Не было ўзбоч яго вясёлага, жыццярадаснага Косці, якога так моцна ўсе паважалі ў класе. Ды і ці хутка вернецца ён? Хвароба ў хлопчыка сур'ёзная. Многія са старэйшых казалі, што Косця можа застацца сляпы. Не жарты: на рагавіцы вачэй з'явіліся язвачкі. А гэта вельмі небяспечна.

Косцевы аднакласнікі надта хваляваліся за лёс свайго

таварыша. Было да слёз шкада яго, было крыўдна, што так атрымалася...

Неяк у час вялікага перапынку да Васілька падышлі некалькі піянераў.

Завязалася размова.

— Можа аслепнуць...— з жалем зазначыў Віктар Калючка, выслухаўшы вестку аб здароўі Косці.

Васілёк глядзеў у акно. Панура шумелі бярозкі. Над школьным садам, як сіняк, вісела хмара. Высокія грушы, яблыні і шырокая, прыціснутая нізкім небам даль былі густа заштрыхаваны косай сеткай дажджу. Потым нечакана выглянула сонца, і над садам крута выгнулася дуга вясёлкі. Яна нагадвала каромысел, і здавалася — гэта восень, падагнаўшы да Прыпяці хмары, чэрпае для іх ваду.

— Усё ж я веру, зрок яму павінны выратаваць,—ціха сказаў Васілёк, не адрываючы позірку ад вясёлкі.— Дактары ў нас выдатныя ёсць, ад любой хваробы могуць вылечыць.

Тут у размову ўступіла Галінка:

— Я таксама ўпэўнена, што Косцю вылечаць. У Адэсе жыве доктар, Філатаў яго прозвішча. Пра яго ведае ўвесь свет. Няма такой хваробы вачэй, якую б ён не адвёў ад чалавека.

Галінка стаяла непадалёку ад Васілька, тонкая, смуглатварая. Усе ведалі аб запаветнай мары дзяўчынкі стаць урачом, ведалі, што яна і цяпер цікавіцца медыцынай, і таму ўважліва слухалі яе.

— Дык ён у Адэсе жыве? — перапытаў Юрка Хлябок.

— Ага.

— Далекавата... Калі б ён жыў бліжэй, можна было б Косцю да яго адвезці...

У калідоры залівіста зазвінеў званок. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі пачалі рассаджвацца за парты, а Юрка, Васілёк, Ніна, Галінка і яшчэ тры хлопчыкі ўсё яшчэ сталі купкай ля акна.

— А што, сябры,— раптам загаварыла Ніна,— калі мы напішам пісьмо Філатаву? Папросім, каб узяўся лячыць Косцю. Можа, нават прыедзе...

— Прыехаць ён не прыедзе,— паважна сказаў Васілёк,— а Косцю ў Адэсе на лячэнне прыме...

— Правільна! — узрадавана падхапілі астатнія думку Васілька.— Значыць, трэба напісаць пісьмо...

— Абавязкова... І сёння ж, перад зборам атрада. Згодны?

— Згодны.

...Пісьмо пісалі адразу пасля ўрокаў. Васілёк, які замяшчаў Косцю ў атрадзе, заняў месца за сталом, вырваў з новага сшытка два лісткі, палажыў іх перад сабой і ўзяў ручку. Дзеці блізка падступіліся да стала, абкружылі Васілька.

— Ну, як жа пачнём? — запытаўся Васілёк, прыўзняўшы галаву.— Галоўнае — правільна пачаць, а потым пойдзе бы па масле.

— А што тут доўга думаць,— прамовіла Ніна, закідваючы за плечы коскі.— Пішы: «Дарагі...» — і яна запнулася.

— Таварыш Філатаў,— выгукнуў Віктар Калючка.

— Не, не так,— запярэчыў Васілёк.— Імя і па бацьку трэба даведацца... Галінка, як імя Філатава?

Дзяўчынка задумалася.

— Ніяк не ўспомню... Але не турбуйцеся, зараз даведаемся,— і выбегла з класа. Неўзабаве вярнулася і, задыханая, сказала: — Уладзімірам Пятровічам завуць.— Я ў бібліятэцы ў энцыклапедыю глянула, там шмат пра яго напісана.

— Пішы, Васілёк...

Праз паўгадзіны пісьмо было гатова.

«Дарагі Уладзімір Пятровіч! — звярталіся піянеры да славутага вучонага.— Увесь наш шосты клас сярэдняй школы сяла Белая Круча вельмі хвалюецца за лёс Косці Дубовіка, лепшага нашага выдатніка і добрага таварыша. Летам Косця разам з брыгадай плытагонаў адвёў да Каxоўкі вялізны караван плытоў для будоўлі гідраэлектрастанцыі. Вярнуўся ў вёску і аднойчы нечакана трапіў у пясчаны віхор. Пяском запарушыла яму вочы. Усе пясчынкі дасталі, але боль у вачах не знікаў, і хутка яны пачалі слязіцца. Дактары гавораць, што ў яго на рагавіцы з'явіліся язвачкі. Мы ведаем: яму пагражае суцэльная слепата...

Дарагі Уладзімір Пятровіч! Вы — адзін з лепшых нашых савецкіх дактароў і вучоных. Мы хочам звярнуцца да вас за дапамогай. Прыміце ў сваю бальніцу Косцю Дубовіка. Не дайце яму аслепнуць. Косця вучыўся ў школе на «выдатна», марыў стаць капітанам карабля, адправіцца ў далёкую экспедыцыю. Калі ж ён аслепне, перад ім

закрыюцца ўсе дарогі, па якіх ён хацеў ісці ў жыцці...»

У канцы пісьма стаялі дваццаць дзевяць подпісаў.

— А можа, сабраць подпісы і ў другіх класах? — выказаў думку Васілёк.

— Не трэба,— сказала Галінка, праглядаючы пісьмо.— Уладзімір Пятровіч і так зразумее ўсё...

— А хто-небудзь быў у Косці? — нечакана запытаў Віктар Калючка.— Як ён сябе адчувае?

— Я збіраўся схадзіць, ды дажджы два дні ішлі,— сумеўшыся, адказаў Васілёк.

— Я ўношу прапанову,— умяшаўся Юрка,—трэба накіраваць дэлегацыю ад нашага атрада да Косці.

— Правільна,— падтрымала Юрку Галінка.

— Схадзіць і расказаць, што робіцца ў класе і ў школе наогул, хто з нас якія адзнакі за гэтыя дні атрымаў, што новае прайшлі па прадметах. Ды і пра пісьмо Філатаву трэба паведаміць, абнадзеіць хлопца...

— Тады так і рашым: да Косці ісці Васільку і Ніне,— важна прамовіў Юрка Хлябок.

— Не пярэчым...

— Ну, а цяпер, сябры,— узняўшыся з-за стала, прагаварыў Васілёк,— давайце пагаворым аб вучобе.

— А што там гаварыць,— кінуў з задняй парты Міша Сокалаў,— паспяховасць у нас добрая...

— Не зусім так,— перапыніў яго Васілёк.— Падумайце, чатыры двойкі ў нашым класе. Хіба гэта не прычына для трывогі? Прычына! Ды, акрамя таго, я лічу, што двоек было б у нас яшчэ больш, каб не адна справа...

— Якая ж гэта справа?

— Што за намёк такі?

Васілёк заклаў за спіну рукі, павярнуўся да класа і рашуча адсек:

— Спісваннем многія займаюцца. Вось што!

Нейкі момант усе маўчалі.

— Так, так,— працягваў між тым Васілёк.— Вось і сёння Аркадзь Сазонаў, Федзя Коранъ, Саўка Пінчук, Сяржа Каваль задачы па алгебры дома не рашылі, а прыйшлі ў клас і спісалі ў сваіх сяброў. Куды гэта варта?

— А ты, скажы, святы? Не перапісваеш? — выгукнуў Сярожа.

Васілёк крыху пачырванеў, але таіцца не стаў.

— Правільна, і я аднойчы перапісаў хатняе заданне,— прызнаўся шчыра ён.— Не выйшла дома задачка,

12 Зак. 2514

прыйшоў у школу і папрасіў, каб Галінка мне дапамагла. А яна паклала на маю парту сшытак і сказала: «Вось глядзі, як я зрабіла». Ну, вядома, я і перапісаў... Быў такі грэх... Але ўсяму гэтаму трэба пакласці канец... Мы ж самі сабе шкодзім і настаўнікаў ашукваем...

— Строга ты, брат, ставіш пытанне, ой строга,— прыўзняўшыся з-за парты, сказаў Юрка.— Нешта мне не верыцца, каб мы маглі навесці такі парадак, аб якім ты зараз гаворыш...

— Сядай! — прыкрыкнуў на яго Васілёк.— Нічога ты тады не разумееш. Спісвання не будзе, калі мы ўсе, гуртам, пачнём змагацца супраць яго. Ну, вядома, ты хочаш быць добранькім! Адмовіць не можаш? А падумай: хіба ты сябар тым, каму даеш спісваць? Наадварот — вораг! Са спісваннем трэба канчаць! — у голасе ў Васілька прагучалі рашучасць і цвёрдасць.— Я мяркую, што мы будзем выносіць пакаранне і тым, хто спісвае, і тым, хто дае спісваць.

— Правільна! Вось гэта правільна! — падхапіла прапанову Васілька большасць вучняў.

Збор атрада працягваўся. Ён быў у гэты дзень асабліва ажыўлены.

## ПЯЦЁРКА

У Віктара была двойка па рускім літаратурным чытанні. Атрымаў ён яе больш тыдня назад і атрымаў заслужана. Калі Марыя Мікалаеўна выклікала яго і папрасіла расказаць змест быліны «Садко — богатый гость», хлопчык доўга пераступаў з нагі на нагу, раз-пораз адчыняў і зачыняў вечка парты і некалькі разоў пачынаў:

— У быліне «Садко — богатый гость» расказваецца...

Але што расказваецца, так і не мог растлумачыць. Яму пачалі былі падказваць з задніх парт, але і гэта не дапамагло. Марыя Мікалаеўна нездаволена пакруціла галавою.

— Сядай,— ціха сказала яна,— стаўлю двойку.

Віктар паслухмяна сеў за парту. Але ўвесь урок паводзіў сябе выключна дрэнна: то тузаў за доўгую коску Галінку, то пускаў папяровых птушак, то цаляў гумкай у патыліцы вучняў. Папярэджванні Марыі Мікалаеўны мала дапамагалі. Віктар рабіў выгляд, што раўнадушна

адносіцца да атрыманай двойкі. Але настаўніца добра разумела: двойка непакоіць яго і ён злуецца. Марыі Мікалаеўне шчыра хацелася дапамагчы Віктару.

І вось у той дзень, калі Марыя Мікалаеўна гуляла ў валейбол, яна заўважыла першыя змены ў характары хлопца.

Пакінуўшы пляцоўку, яна зайшла ў настаўніцкую, забрала свой партфель і выйшла ў калідор. Тут на момант прыпынілася. Успомніла, што неабходна ўзяць у бібліятэцы «Мать» М. Горкага. Школьная бібліятэка знаходзілася непадалёку ад настаўніцкай. Калі Марыя Мікалаеўна зайшла туды, яна ўбачыла ля дашчанага бар'ерчыка Віктара. Ён стаяў і гартаў нейкую кнігу.

— Чым цікавішся? — падышла настаўніца да хлопчыка і зірнула на вокладку кнігі.— Ага, Ламаносаў! Правільна, Віктар, вельмі правільна!

Хлопчык схаваў кніжку ў палатняную сумку і хуценька выйшаў з бібліятэкі. А настаўніца задаволена падумала: «Напэўна, адзнаку хоча выправіць. Цяпер яго якраз і трэба падтрымаць...»

...У класе ідзе ўрок літаратурнага чытання. Некаторыя вучні сядзяць прыціхлыя, як бы прыкаваныя да парт. А Віктар Калючка сёння асабліва рухавы і вясёлы. Ён неспакойна круціцца на месцы, з нецярпеннем чакае, калі скончыцца пераклічка. Нарэшце настаўніца паклала пяро на стол, сказала:

— Паўторым, дзеці, біяграфію вядомага рускага пісьменніка і вучонага Ламаносава. У якім годзе і дзе нарадзіўся Міхаіл Васільевіч Ламаносаў?

Над радамі парт дружна ўзняліся рукі. «Каго ж выклікаць: Галінку ці Сярожу Каваля?» Раптам яна сустрэлася позіркам з Віктарам Калючкай. Той пазіраў у вочы настаўніцы проста, адкрыта і як бы прасіў: «Марыя Мікалаеўна, спытайце мяне. Я хачу адзнаку выправіць. Спытайце, калі ласка!»

Аднак настаўніца глянула ў журнал, выклікала Сярожу Каваля.

Радасныя агеньчыкі ў вачах у Віктара на хвіліну патухлі. «З такім нецярпеннем чакаў. А тут Сярожа павінен адказваць на пытанне. Скажы, вязе гэтаму Сярожу ў квадраце. Вунь і адказвае добра!»

Сяргей сеў на месца. Усім зразумела, што настаўніца паставіла яму чацвёрку ці пяцёрку. Віктару зайздросна.

А тут, як знарок, наступнага Марыя Мікалаеўна выклікала Аркадзя Сазонава.

Віктар зусім засумаваў. «Цяпер,— расчаравана падумаў ён,— не давядзецца выправіць двойку». У хлопца знікла зацікаўленасць да ўрока. Дастаўшы з парты кнігу «Как закалялась сталь» М. Астроўскага, пачаў чытаць заключны раздзел.

Марыя Мікалаеўна прайшла па шырокім праходзе між парт, на момант спынілася паблізу Віктара. Віктараў сусед штурхнуў яго ў бок, але хлопчык не звярнуў на гэта ўвагі. Ён не адразу пачуў нават, як настаўніца назвала яго прозвішча.

— Віктар Калючка! — паўтарыла Марыя Мікалаеўна.

Хлопчык з адчуваннем вінаватасці падхапіўся з месца, збянтэжана заміргаў вейкамі, ціха прамовіў:

— Я больш не буду, Марыя Мікалаеўна. Схаваю кнігу.

— Паспрабуй кораценька расказаць аб жыцці і творчасці Ламаносава.

Вось як! Марыя Мікалаеўна хоча выпрабаваць, ці ведае ён урок. Хлопчык на нейкую хвіліну задумаўся, потым ускінуў позірк на круглы кулачок электралямпачкі, падвешанай пад столлю над класам, і няспешна пачаў:

— Міхаіл Васільевіч Ламаносаў нарадзіўся ў пасёлку на беразе ракі Паўночная Дзвіна. Бацька яго быў рыбак, часта хадзіў на сваім невялікім судне ў Белае мора і нават у Ледавіты акіян. Лавіў рыбу, біў цюленяў і маржоў. Міхаіл быў хлопчык смелы, рашучы. Вось які выпадак я ведаю з яго жыцця...

Вучні застылі, насцеражыліся, уражаныя бойкім і складным расказам Віктара. Што адбылося з хлопцам? Як бы яго падмянілі! Ніколі ж не адказваў ён урокаў так упэўнена і хораша. Бачыш, нейкі выпадак з жыцця Ламаносава ведае! Ну, чаго ён варты, гэты выпадак — паслухаем!

— А выпадак быў такі,— гэтак жа ўпэўнена працягваў Віктар.— У хаце ў Ламаносавых часта збіраліся рыбакі. Яны падоўгу гутарылі, расказвалі адзін аднаму аб плаванні па моры і акіяне, аб штормах і снежных бурах, аб цікавых выпадках.

Аднойчы бацька, пазіраючы на Міхаіла, сказаў рыбакам: «Добра зараз нашым дзецям. Растуць без клопатаў, гора не ведаюць. А я, калі быў такі прыкладна, як

мой Міша, з бацькам на паляванне хадзіў і мядзведзя нават аднаго разу забіў. Пачуў гэта Міхаіл, апрануўся і выйшаў з хаты. Цэлыя суткі не было хлопчыка. Бацькі думалі: паплыў ён па рацэ і дзе-небудзь утапіўся. Маці плача, галосіць, бегае па сяле, пытае ў кожнага, ці не бачыў яе сына. Усе гаварылі: «Не бачылі».

Увечары на другі дзень бацька сустрэў свайго Мішу на вуліцы. Хлопчык цягнуў па снезе маладога забітага мядзведзя і плакаў. Ён выбіўся з сіл, хацеў моцна есці. Гэта было першае жыццёвае выпрабаванне. Было тады Міхаілу Васільевічу дванаццаць гадоў. Вядома, не пахваліў бацька сына за такі подзвіг, а строга пакараў. Ды потым ён браў Мішу заўсёды з сабою: ці хадзіў на паляванне, ці адпраўляўся ў мора. Прывучаў яго да цяжкасцяў, да суровай прыроды Поўначы.

Віктар Калючка расказаў далей, як Ламаносаў навучыўся чытаць кнігі, як ён пакінуў свой дом, дабраўся да Масквы і стаў вучыцца. Расказ натхніў і самога расказчыка. Ён расхваляваўся, памякчэлі рысы яго твару.

— Малайчына, Віктар! — сказала Марыя Мікалаеўна, калі хлопчык закончыў расказваць урок.

Сярод вучняў узнікла ціхая гаворка.

— Адкуль ведае гэта Віктар?

— У падручніку ж нічога такога няма.

— Ёсць! — адказаў не без гонару Віктар, сеўшы на месца. Ён хуценька дастаў з парты тоўстую кнігу, прыўзняў у руках: — Вось тут усё-ўсё пра Ламаносава напісана. Два дні чытаў...

Кніжку папрасіў патрымаць Юрка Хлябок, і хутка яна пайшла па руках. Вучні з цікавасцю гарталі яе старонкі і штораз паглядвалі на Віктара. Што тут таіць — хлопчыку зайздросцілі!

Доўгачаканую пяцёрку па літаратурным чытанні Віктар заслужыў.

## У ПЕТРЫКАЎ ДА КОСЦІ

У нядзелю ранічкай Васілёк і Ніна выйшлі з вёскі. За плячыма Васілёк нёс чорны дэрмацінавы ранец, даверху запоўнены рознымі дарункамі для Косці Дубовіка. Ніна ў руках трымала лазовы кошык, накрыты чыс-

тай белай анучкай. Вецер іншы раз адгортваў беражок анучкі, і тады відне́ліся румяныя круглатварыя яблыкі.

Дарога да раённага цэнтра Петрыкава ішла праз невялікія гаі, пералескі, палі.

Васілёк крочыў па адной сцяжынцы, што была пракладзена коламі аўтамашыны, Ніна — па другой. Размаўлялі.

Халаднаваты вецер дзьмуў насустрач спадарожнікам. Шырокая нябесная цаліна заплывала на захадзе слаістымі шэрымі хмарамі. Але дажджу не было.

Шумелі каля дарогі дрэвы. Іх шум быў не такі ласкавы і мяккі, як улетку, а нейкі цягучы, аднастайны, глухі. У верхавінах і ў густым голлі не гаманілі птушкі. Далёка паляцелі яны — у вырай. Наўкол ляжала апалае лісце.

Калі была пройдзена добрая палавіна дарогі, Ніна прапанавала адпачыць. Яны сышлі на абочыну. Васілёк зняў з-за спіны ранец, прысеў на гладкі бярозавы пянёк.

— Бачыш,— як на зэдліку. Вельмі зручна сядзець,— задаволена прагаварыў ён.

Непадалёку быў другі пянёк. Ніна нарвала травы, абцёрла яго ад вільгаці, прысела.

— Хоць вецер халаднаваты, але крыху горача,— заначыла яна, развязваючы хустку.

— Вядома, дарога... Чалавек у час хады не замерзне нават у люты мароз.

Пагаварылі крыху яшчэ. Хвілін праз дзесяць выйшлі зноў на дарогу.

— Iсці нямнога засталося,— узіраючыся ўдалячынь і шукаючы вачыма наперадзе будынкі раённага гарадка, сказала Ніна.

— Чакай, чакай, а хто гэта даганяе нас?

Ніна павярнулася, прыгледзелася.

— Ды гэта ж Галінка!..— узрадавана ўсклікнула яна.

— Галінка?

Сапраўды, гэта была яна. Дзяўчынка падышла, прывіталася. Яна была ў карычневым асеннім паліто, у байкавай хустцы. У правай руцэ трымала клуначак, з якога выглядаў чырванаваты беражок гладыша.

— Ці не ў Петрыкаў? — запытаў Васілёк.

— Ага!

— На рынак?

— Ну і не здагадлівыя! Мая дарога такая, як і ў вас. Да Косці іду,— весела ўсміхнуўшыся, сказала Галінка.

— Чаму ж раней нам нічога не сказала?

— Ды я толькі сёння, ведаеце, рашыла. Расказала за снеданнем маці, што вы пойдзеце да Косці, а яна мне і кажа: «Збегай і ты ў Петрыкаў, аднясі яму мядку: хлопчык ён харошы, мы нават далёкімі сваякамі яму давода дзімся». Я доўга і не думала, зайшла па цябе, Васілёк, але дома не застала...

Утраіх сталаісці весялей. Адразу між хлопчыкам і дзяўчынкамі завязалася гаворка. Нават крыху паспрачаліся. Васілёк сказаў, што зараз ужо ёсць такія заводы, якія працуюць амаль без людзей. Ніна гэтаму не паверыла, доўга не пагаджалася, казала:

— Як жа так, без людзей? Без людзей нічога не можа рабіцца!

Потым Васілёк расказаў дзяўчынкам, што існуюць станкі-аўтаматы, якія самі па чарцяжах робяць складаныя дэталі для машын. Ніна здзівілася. Але ведаючы, што хлопец цікавіцца тэхнікай, чытае спецыяльныя кнігі, вымушана была з ім згадзіцца.

— Ну, будучы інжынер, веру. Ты што — сур'ёзна думаеш, каб паступіць у машынабудаўнічы тэхнікум?

— Сур'ёзна. Бацька мне таксама раіць. А потым і інстытут скончу.

— А я дык яшчэ не заглядвала наперад, кім быць. Можа, настаўніцай, можа, аграномам... Часу ў нас пакуль шмат. Надумаюся...

— Вядома, гэта твая справа,— разважліва сказала Галінка.— Ды ўсё ж варта ўжо цяпер пасылаць думку, куды шлях твой ляжыць.

— Мацней за ўсё ў мяне жаданне стаць настаўніцай, але такой, як наша Марыя Мікалаеўна,— прызналася нарэшце Ніна.— Вельмі люблю слухаць яе ўрокі.

— А што, калі на першым уроку кучу пытанняў табе зададуць? Прытым такіх, ведаеш, закавырыстых, асаблівых!

— Ну і што ж! Не разгублюся. Вытрымку трэба мець, гэта я знаю.

— Слухай, Галя,— Ніна раптам падышла бліжэй да сяброўкі,— ты чаму гэта да мяне не заходзіш?

— А ты чаму? — у сваю чаргу спыталася тая.

— Я думала, ты на мяне пакрыўдзілася. За той збор атрада...

— Крыўдна крыху было, не таю. А потым крыўда мі-

нулася, і я зразумела: ты мне хацела толькі дабра. Я і маме пра ўсё расказала...

За гутаркай дзеці і не заўважылі, як непрыкметна падышлі да Петрыкава.

Між густа пастаўленых драўляных дамкоў чырванелі чарапічныя дахі сярэдняй школы, Дома культуры і жыллёвых двух- і трохпавярховых дамоў. Недзе на ўскраіне гарадка маленькім вулканчыкам дыхаў лесапільны завод.

З бліжняга лесу вынырнуў грузавік. Быў ён з прычэпам, высока наладаваны сасновымі калодамі. Марудна выбіўся на бальшак, узяў разгон і памчаўся ў гарадок.

Праз хвілін пятнаццаць піянеры спыніліся каля прадаўгаватага зялёнага будынка на цэнтральнай вуліцы. Паблізу стаяла высокая воданапорная вежа.

— Вось і бальніца,— сказаў Васілёк, кіўнуўшы галавою на зялёны будынак.

Дзяўчынкі і хлопчык зайшлі ў невялікі вестыбюль. Тут сядзелі наведвальнікі. Дзеці паклалі свае рэчы на зэдлік, агледзеліся.

У кутку Васілёк заўважыў вешалку, на якой была вопратка. Паласатая шапка з памятым брылем на версе вешалкі здалася знаёмай. Кінулася ў вочы чарнільная пляма ў выглядзе клічнага знаку на шапцы.

— Віктар тут! — урачыста ўсклікнуў Васілёк.

— Дзе ты бачыш Віктара, дзе?

— Паглядзіце на вешалку,— паказаў хлопчык рукою.— Не яго шапка?

— Яго!

— Глядзі, апярэдзіў нас. Ну і характарац,— не то з крыўдай, не то з захапленнем зазначыў Васілёк.

Падлога ў вестыбюлі была пафарбаваная. Яе толькі што працерлі, і яна, вільготная, блішчала як люстра. Са шкляных дзвярэй цякло святло асенняга дня.

Непадалёку стаяў круглы столік, засланы белай тканінай. За ім, уся ў белым, сядзела маладая дзяўчына і гартала нейкі часопіс. Даведаўшыся, што піянеры з Белай Кручы і хочуць бачыць Косцю Дубовіка, дзяўчына накіравалася ў палату.

Хутка з крайніх бакавых дзвярэй выйшаў Косця. Быў ён не адзін, а з Віктарам.

— Новыя госці! — радасна ўсклікнуў хлопец.— Я так і знаў, што прыйдзеце.

— Ну, як з вачыма? — нецярпліва запытаўся Васілёк, прывітаўшыся.

— Няважна,— самотна адказаў Косця і нізка апусціў галаву.— Туман перада мной стаў з'яўляцца, туман... Ды што ж вы стаіце? Сядайце!

— Мы пасланцы ад нашага піянерскага атрада,— з урачыстасцю сказала Ніна.— Усе хлопчыкі і дзяўчынкі табе прывітанне перадаюць. Жадаюць... ну, вядома, чаго жадаюць — каб ты хутчэй паправіўся.

— Дзякую...— Косця сеў на крэсла, павярнуўся да сяброў і, часта-часта міргаючы пачырванелымі павекамі, запытаў: — А як там у нас, у школе? Што прайшлі па рускай мове, па батаніцы? Ці многа сабралі жалудоў?

Госці наперабой пачалі расказваць школьныя навіны.

— Вывучаем цяпер творы Пушкіна, Косцік,— ласкава паведаміла Галінка.— Ой, якія вершы!.. Марыя Мікалаеўна дала заданне вывучыць урывак з паэмы «Полтава». Я вывучыла за паўгадзіны. Хочаш паслухаць крыху? — І, не чакаючы Косцевага адказу, пачала:

Горит восток зарёю новой.
Уж на равнине, по холмам
Грохочут пушки. Дым багровый
Кругами всходит к небесам
Навстречу утренним лучам.

Полки ряды свои сомкнули,
В кустах рассыпались стрелки,
Катятся ядра, свищут пули,
Нависли хладные штыки.

Дэкламавала Галінка разважліва, з натхнёнасцю. І хоць гаварыла напаўголасу, наведвальнікі, што сядзелі ў вестыбюлі, міжвольна звярнулі ўвагу на дзяўчынку, пачалі прыслухоўвацца.

— Хораша, Галінка! Выдатна! — раз-пораз усклікваў Косця.— А я вось не магу чытаць. Дактары забаранілі.

— Не хвалюйся, нічога дрэннага не здарыцца з табою,— уступіла ў размову Ніна.— Ёсць, Косця, адзін чалавек на свеце. Вялікі вучоны, гавораць. Калі ён возьмецца за цябе — хваробу як рукой здыме.

— Ты пра Філатава?

— Ага. Як ты здагадаўся?

— Ого, пра Філатава ў нас тут шмат гаворкі...

— А мы да яго пісьмо напісалі...

— Пісьмо? Навошта? — здзівіўся Косця.

— Усім піянерскім атрадам папрасілі яго, каб табе дапамог...

— Дарэмна патурбавалі... Доктар гэты стары. Яму зараз восемдзесят гадоў. Сам ён ужо аперацый не робіць. Робяць яго вучні. Метад Філатава прымяняецца ўжо і ў нас на Беларусі. Доктар палатны сказаў, што, калі з вачыма лепш не стане, дзён праз тры адвязуць мяне ў Мінск, там зробяць аперацыю.

— Ды што ты? — спалохалася Ніна.

— Не хвалюйся, Ніначка,— даверліва ўсміхнуўся Косця.— Аперацыя гэта не такая ўжо і складаная, аднак зрок вернуць абавязкова.— Косця павесялеў за час гутаркі і нават пачаў жартаваць: — Ведайце: зараз не толькі вылечваюць хворыя вочы, але калі захоча хто мець лішняе вока, дык зробяць... Медыцына ўсё можа...

Доўга гутарылі сябры. Перад развітаннем Косця атрымаў падарункі.

— Гэта ад мяне, Юркі, Мішы і Ніны,— выкладваючы на стол сакаўныя антонаўкі, прамовіў Васілёк.— А вось яшчэ два пачкі пячэння і пакуначак з цукеркамі. Пасылае іх табе наша Марыя Мікалаеўна.

Косця расцвіў ад радасці.

— Прыслалі табе свой гасцінец і нашы калгасныя пчолы,— прамовіла Галінка, паволі развязваючы клуначак. Узяла ў рукі гладыш і жартаўліва праказала: — Мёд мае многа даброт. Збіралі яго з кветак пчолы, каб ты быў шчаслівы і вясёлы. Бяры, Косця!

— Будзеш піць яго, есці, пражывеш гадоў дзвесце,— у тон ёй дадаў Віктар.

— Дзякую, Васілёк... Дзякую, Галінка...— узрушана гаварыў Косця.— Вось гэта разумею — сяброўства. Так чалавека і з магілы можна выцягнуць... Дзякуй і яшчэ раз дзякуй...

Косця аднёс падарункі ў палату і, вярнуўшыся, запытаў у Васілька:

— Слухай, хто зараз кіруе тваім звяном?

— Пакуль ніхто...— адказаў сябар, сумеўшыся.— Я ж твае абавязкі... Ну, разумееш... За ўвесь атрад адказваю.

— А ты каму-небудзь даручы звяно часова.

— Напрыклад?

— Віктару,— проста адказаў Косця.— Хлопец ён надзейны. Выдатнікам хутка будзе.

Віктар шырока раскрытымі вачыма глядзеў у твар сябра. Нават збянтэжыўся ад такой ухвалы.

— Ды што ты! Не спраўлюся я, Косцік. Дарэмна...

— А ты паспрабуй,— запэўняў хлопца сябар.— Здольнасці ў цябе — ого! Усё зможаш, калі захочаш... Так, так, я не жартую...

Сябры бачылі, як святлеў Віктараў твар, як дабратой і лагоднасцю заблішчалі яго вочы. Да хлопчыка прыйшла сапраўдная радасць.

Праз некалькі хвілін піянеры развіталіся з Косцем.

## ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

Ужо даўно празвінеў званок, абвясціўшы канец апошняга ўрока.

Марыя Мікалаеўна выйшла з настаўніцкай амаль апошняя. Гулка стукалі па апусцелым калідоры абцасы яе хромавых боцікаў. У апошнія дні яна была асабліва задаволена сваімі вучнямі. Яны паказалі сябе на дзіва дружнымі, нямала дапамаглі ёй у наладжванні вучобы і дысцыпліны. У Марыі Мікалаеўны быў цяпер добры вучнёўскі актыў.

За вокнамі насупраць школы стаяў голы, абветраны сад. На ім стыла нізкае шэрае неба. Хмары зліліся ў адну суцэльную калматую коўдру, яна нудна і бесперапынна сунулася некуды за небасхіл.

Выйшаўшы на ганак, Марыя Мікалаеўна зашпіліла на ўсе гузікі паліто і хуценька пакрочыла да дарогі. Неўзабаве пачула, быццам яе нехта даганяе. Крокі былі дробныя, хуткія, нейкія рыпучыя. «У новым абутку,— падумала.— Будзе абганяць — пабачу, хто гэта». Аднак чалавек, што ішоў ззаду, раптоўна замарудзіў крок, пачаў пакашліваць. Марыя Мікалаеўна пазнала па голасу: гэта Віктар.

— Ты толькі са школы? — павярнулася да хлопца.

— Але.

— Ого, у цябе чаравікі, бач, новыя! Віншую з абуткам, Віця! — прыветліва сказала настаўніца.— Дзе такія ладныя прадаюцца?

Віктар лагодна ўсміхнуўся, не ўтрымаўся, каб не пахваліцца:

— Учора маці купіла ў Петрыкаве. І ўсе падручнікі, якіх не хапала, прынесла. І каляровыя алоўкі «Тры віцязі» цяпер у мяне ёсць! Паглядзіце — во! — ён выняў з кніжнай сумкі прыгожы карабок з алоўкамі.

— Добрыя алоўкі.

— Гэта маці падарунак мне зрабіла,— гаварыў далей Віктар,— каб вучыўся добра... А потым,— перабіў ён самога сябе,— маці прасіла, каб вы зайшлі сёння да яе. Не бойцеся, Марыя Мікалаеўна, сабака зараз на прывязі, я больш яго з ланцуга не спускаю.

— Добра, прыйду, Віця,— адразу прыняла запрашэнне настаўніца.

Хлопчык прайшоў яшчэ трохі з Марыяй Мікалаеўнай, хацеў ужо быў павярнуць у завулак, дахаты, але перадумаў.

— Марыя Мікалаеўна,— нерашуча прамовіў Віктар,— кажуць, надта цікавая кніга «Повесть про Зою і Шуру».

— Цікавая, Віктар. Вельмі цікавая. І напісала яе сама маці Зоі Касмадзям'янскай. Хочаш пачытаць?

— Хачу.

— Ну, тады зойдзем да мяне на кватэру.

Пакойчык, у якім жыла настаўніца, быў невялікі. Каля акна стаяў столік, на краі яго ўзвышаліся тры стосы кніг. Пасярэдзіне — чорная пластмасавая чарніліца. Тут ляжалі некалькі алоўкаў і ручак. Вузкая тканая дарожка цягнулася ад дзвярэй да стала. На акне вісела белая ўзорыстая фіранка.

— Сядай, Віктар,— запрасіла настаўніца і падсунула крэсла.

Але хлопчык не сеў. Паклаўшы на крэсла сумку з падручнікамі, падышоў да сцяны і пачаў разглядаць карціну «Аленушка».

— Чаго гэта дзяўчынка такая засмучаная?

— Бачыш, адзінокая... Забытая ўсімі. Ні бацькоў, ні сяброў у яе.

— Што бацькоў няма, можна паверыць. Вайна такая прайшла. Але як гэта ў яе няма сяброў?..

— Віця,— сказала настаўніца,— падышоўшы да яго і паклаўшы руку на плячо,— Аленушка ў наш час мела б сяброў. І бацькі ў яе знайшліся б, хоць не родныя, а глядзелі б за ёю не горш за родных. Але жыла гэтая Аленка даўно-даўно, яшчэ пры панах. І вось адзін мастак,

Васняцоў яго прозвішча, намаляваў яе. Тады такіх Аленак, адзінокіх, забытых, было вельмі многа.

— А што, каб сцерці з яе вачэй слёзы, падмаляваць, каб яна ўсміхалася...

— Падмаляваць нельга, Віктар. Карціны застаюцца карцінамі на вякі. Мы па іх вывучаем мінулае, яшчэ лепш уяўляем сённяшняе...

Вярнуўшыся да стала, Марыя Мікалаеўна пачала перакладаць кнігі. Але «Повесть про Зою і Шуру» чамусьці не знаходзіла.

— Дзе яна падзелася? Здаецца, нікому не давала.

— А вунь яшчэ кнігі на зэдліку, можа, там,— паказаў рукою Віктар у куток пакоя.

— Магчыма.

Хлопчык акінуў позіркам жытло настаўніцы і дзелавіта заўважыў:

— Вам трэба, Марыя Мікалаеўна, паліцу займець, каб усе кнігі ў адным месцы ляжалі. Тады будзе зручней...

— Я прасіла аднаго цесляра, суседа нашага, абяцаў зрабіць. Толькі цяпер ён вельмі заняты на будоўлі ў калгасе.

— Дык, можа, я зраблю? Змайструю паліцу што трэба. Можна, Марыя Мікалаеўна? У мяне сякера добрая ёсць. Вострая, як лязо. Гэблікі розныя... Пабачыце, паліцу зраблю — на выстаўку.

Настаўніца заглянула ў твар хлопчыку і ўбачыла на ім шчырасць і адданасць.

— Я ведаю, Віктар, майстраваць ты ўмееш. Пра гэта мне нават маці твая расказвала. Што ж, рабі палічку. Не пярэчу...

...Назаўтра Віктар пахваліўся пра размову з настаўніцай Мішу Сокалаву.

— Давай разам будзем рабіць паліцу,— сказаў той.

— Згодзен! Удвух весялей.

Пад вечар хлопчыкі сабралі інструмент, знайшлі некалькі сасновых дошак і накіраваліся да настаўніцы.

Марыя Мікалаеўна ветліва прыняла хлопцаў. Крыху пагутарыла з імі. Потым Віктар выняў з кішэні жоўты складаны метр, разгарнуў яго, абмераў сцяну.

...Хлопчыкі асталяваліся для работы на двары. І хутка закіпела праца. Разрэзаныя на часткі дошкі Віктар абгаблёўваў.

Працаваў увішна, аж у пот кінула. З адтуліны гэблі-

ка вылятalі чырвянаватыя, тонкія, як паперка, кольцы стружак. Яны мякка падалі на дол і каціліся, падхопленыя ветрам, па шырокім двары.

Міша непадалёку, усеўшыся на драўляную плашку, долатам рабіў у дошцы адтуліну. Пахла свежай сакавітай смольнасцю.

Марыя Мікалаеўна глядзела праз акно на хлопчыкаў і радавалася: «Бач, цудоўныя гэтыя хлопцы — і Віктар і Міша. Кемлівыя, працавітыя. Відаць, няма дрэнных вучняў. Кожнага можна на правільны шлях вывесці. Узяць хаця б Віктара. Мяняецца хлопец. Вучыцца стаў лепш, сваволіць менш...»

Праз тры дні паліца для кніг была гатова.

— Проста цуд, а не паліца! — у захапленні ўсклікнула Марыя Мікалаеўна, калі хлопцы забілі апошні цвік у сцяну.— Вы заслугоўваеце прэміі, сябры. Вазьмі, Віктар, кнігу М. Ганчарова «Обломов». І глядзі, ніколі не блытай Абломава з пісьменнікам. А табе, Міша, дару таксама цікавую кнігу — «С тобой товарищи» М. Прыляжаевай.

Хлопчыкі аж сумеліся ад такой неспадзяванкі. Вось гэта аддзячыла настаўніца — ад усёй душы. Яны доўга гарталі кнігі, задаволеныя падарункамі.

— «Повесть про Зою і Шуру» даю вам пачытаць. Потым мне вернеце.

## «КІНАМЕХАНІКІ»

Між тым не ўсё яшчэ ішло ў шостым класе так роўна і гладка, каб класная настаўніца і піянеры думалі, што клас становіцца адным з лепшых у школе. То адзін, то другі выпадак яшчэ парушаў зладжаны ход вучобы.

Вось і сёння... Сярожа сядзеў ля самага акна, і яму добра было відаць усё, што рабілася на вуліцы. Блізенька на пагорку квола хісталіся аголеныя маладыя бярозкі. Вось на сонца набегла калматая хмурынка, і шэры рухомы цень пабег праз увесь двор у сад і на агароды. У класе мігам пабляклі сцены, прапалі залацістыя зайчыкі, што бегалі па вечках парт.

Па вуліцы ідуць калгаснікі, праязджаюць гружаныя дровамі фурманкі. Усё будзённае, звыклае.

Тым часам выкладчык батанікі Мікалай Харытонавіч расказваў пра бульбу, як яе трэба вырошчваць. Паказваў вялізны чырвоны клубень, вучыў, як рабіць яравізацыю і чаранкаванне. Вучні ўважліва слухалі. Новы матэрыял, ■ ўспрымаецца лёгка.

— Зразумела? — раз-пораз запытваў выкладчык.

— Чаму ж не,— адказвалі наперабой дзеці.— Помніце, Мікалай Харытонавіч, мінулай вясной мы калгаснікам дапамагалі чаранкаваць бульбу! Падзяку нам за гэта брыгадзір абвясціў. На практыцы перакаваліся...

— Тады пойдзем далей,— задаволена ўсміхнуўся настаўнік.— Разгледзім, сябры мае, як праходзіць клубняванне бульбы...

Ён расказваў так цікава, што нават і Сярожа адвярнуўся ад акна, слухаў.

Але нечакана за сценамі школы пачуўся нарастаючы гул. Сярожа не вытрымаў, хуценька павярнуўся да акна. Па вуліцы, раскідваючы на бакі асеннюю гразь, марудліва прайшоў грузавік. У кузаве Сярожа заўважыў жалезныя скрынкі і чалавека ў шэрым ватніку.

Нібы на іголках закруціўся за партай хлопчык. Аркадзь, яго сусед, нават абурыўся:

— Квадрат, не перашкаджай слухаць!

— Чаго прычапіўся,— агрызнуўся Сярожа,— я ж вушэй табе не затыкаю. Слухай, калі ласка.— Ён прыўзняўся над партай, крануў рукою Юрку Хлябка, што сядзеў наперадзе, і зрабіў яму нейкі знак. Той здагадліва ўсміхнуўся і падміргнуў.

Сярожа згубіў усякі інтарэс да настаўніка, штораз паглядаў у акно, нецярпліва чакаў, калі ж зазвініць званок.

Нарэшце такі — перапынак. Усе зашумелі, загаманілі, пачалі групамі і па адным выходзіць на калідор. Нехта ў паветра запусціў вялізны папяровы планёр. Ён лоўка праплыў над класам, урэзаўся ў акно і, куляючыся, нібы робячы мёртвыя петлі, паляцеў уніз, на падлогу... Сярожа падхапіў планёр і зноў запусціў яго ўгару. Затым падышоў да Юркі Хлябка.

— Бачыў? Прыехаў дзядзька Леанід! Пойдзем папросім, каб ён расказаў, як дзейнічае кінаапарат, стужкі дапаможам пераматаць. Памятаеш, у мінулы раз ён пахваліў нас за гэта!

Выслухаўшы таварыша, Юрка задумаўся. Адкрыты

твар з вострым носікам быў засяроджаны. Хлопчык, відаць, вагаўся: прыняць прапанову Сяроўкы ці не...

— Хочаш пайсці з заняткаў? — насцярожана спытаў ён у Сярожы.— Яшчэ ж адзін урок. Заўважыць Рыгор Пятровіч, што нас няма, нагарыць за гэта.

— Які ж ты баязлівец, Юрка! Я і не ведаў. З заняткаў баішся пайсці. З урока геаграфіі! Ці ж я не ведаю, дзе Балгарыю на карце паказаць? Ды і ты ў геаграфіі добра разбіраешся. Пайшлі!

Юрка нерашуча затупаў на месцы. Але, калі ўбачыў, што Сярожа выбег на вуліцу, зухавата падскакваючы на хаду, не мог стрымаць спакусы. Непрыкметна для ўсіх пакінуў клас і ён.

Хутка хлапчукі ішлі разам, трымаючы кірунак да калгаснага клуба. Вунь ён, прысадзісты, шматаконны, на пясчаным пагорку. І, як заўсёды, размова па дарозе ў хлопцаў была адна. Сябры меркавалі, раіліся, складалі планы на будучае. Сярожа і Юрка гарэлі жаданнем стаць кінамеханікамі. Лічылі, што гэта надзвычай цікавая прафесія. Падумаць толькі — кожны дзень ездзі па вёсках, паказвай калгаснікам фільмы. Гледачы сядзяць, хвалююцца, уздыхаюць, смяюцца. І колькі падзякі ад іх! Пасля просяць прыязджаць з новымі фільмамі і як мага часцей.

Сярожа і Юрка кожны раз, калі з'яўляўся ў калгасе дзядзька Леанід, прыходзілі да яго, віталіся і прасілі, каб ён ім даручыў што-небудзь зрабіць.

І дзядзька Леанід падружыў з хлопчыкамі. Прасіў іх то палатно развесіць над сцэнай, то стужкі пераматаць, то афішы расклеіць. Апошнім разам паабяцаў, калі прыедзе, расказаць хлапчукам, як бяжыць стужка ў кінаапараце, як здымаюцца каляровыя фільмы.

Хлопчыкі беглі цяпер па вуліцы, абмінаючы лужыны, пераскакваючы асеннія ручаіны.

А вось і будынак клуба. Каля яго высакаватага ганка стаіць грузавік. Дзве каляіны са слядамі аўтамабільных шын скіраваны туды. У кузаве завіхаюцца два чалавекі. Вось яны адкінулі задні борт машыны, здымаюць скрынкі.

Калі скрынкі былі пастаўлены на зямлю, Сярожа і Юрка падбеглі да кінамеханіка.

— Дзень добры, дзядзька Леанід! — радасна прывіталіся яны.

— А-а! Мае кінамеханікі ўжо тут? Добры дзень, добры дзень! — Шыракаплечы, мажны з выгляду мужчына

ветліва ўсміхнуўся.— Што ж вы стаіце? Нясіце вось палатно ў клуб, афішу пачынайце пісаць. Кіно пачнецца а шостай гадзіне вечара. Кінакамедыя «Аршын Мал-Алан».

Сярожа і Юрка ўжо настроіліся хапацца за работу. Але кінамеханік нечакана дастаў з кішэні гадзіннік, паглядзеў на стрэлкі, потым у бок школы, пакруціў за гузічак і раптам спытаў:

— У колькі гадзін, сябры дарагія, у вас канчаюцца заняткі, га?

Хлопцы былі такім пытаннем захоплены знянацку. Яны зразумелі, што справа іх абарочваецца не ў той бок. Як жа выйсці з няёмкага становішча?

— Яны ў нас ужо скончыліся,— зманіў Сярожа і часта заміргаў вачыма, нібы ў іх трапілі парушынкі.

— У цябе з Юркам скончыліся, гэта так. Але ж я бачу, вучні яшчэ займаюцца. Ніхто, апрача вас, са школы не ідзе. Значыць, збеглі з урокаў? Так? — як ніколі раней, павысіў голас дзядзька Леанід.— У такім разе вы мне не памочнікі. Што ж гэта за будучыя кінамеханікі, якія не хочуць вучыцца? Не, сёння вы мне рабіць нічога не станеце. Сам спраўлюся,— ён махнуў рукой і пайшоў у клуб.

Юрка ўпікаючым позіркам глянуў на Сярожу. Той вінавата адвёў вочы ўбок.

— Бачыш, як ты падвёў сябе і мяне,— панура працягнуў Юрка.

— Бачу.

— Што ж будзем рабіць?

— Дахаты пойдзем.

— Дахаты? Не, трэба вярнуцца назад,— настойліва прамовіў Юрка.

— У школу не пайду, Рыгор Пятровіч усё роўна на ўрок не пусціць. Я ведаю яго...

— Эх, Сярожа, Сярожа!.. Бачу, хочаш сваю памылку ў квадрат узвесці,— самым сур'ёзным тонам папракнуў сябра Юрка.— У цябе ні кропелькі сілы волі няма...

— Сілы волі няма? — Сярожа ўспыхнуў.— Калі хочаш пабачыць яе, глядзі.

Ён выняў з сумкі ручку і вострае новае пяро адным рухам засадзіў у пазногаць вялікага пальца левай рукі.

— Што ты робіш? — твар у Юркі аж пацямнеў ад

абурэння.— Заражэнне крыві можа быць. Ты падумаў пра гэта?

— Не баюся я ніякага заражэння,— рашуча сказаў Сярожа.— Я табе сілу волі паказваю. Бачыш?

— Нічога я не бачу.

— А ты так не зробіш.

— І не хачу рабіць, бо гэта глупства, Сярожа, а не сіла волі.

Той выняў з-пад пазногця пяро, сунуў палец у рот.

— Дык ты пойдзеш у школу? Апошні раз пытаюся.

— Няхай будзе па-твойму. Пайшлі. Усё роўна пад дзвярыма прастаім...

Калі яны падышлі пад свой клас, урок ужо набліжаўся да палавіны.

— Стукай! — загадаў Юрка.

Сярожа нерашуча пастукаў у дзверы і тут жа адышоў убок, даючы дарогу Юрку. Юрка павольі пераступіў парог класа.

Настаўнік павярнуўся і здзіўлена ўскінуў бялёсыя густыя бровы.

— Дзе гэта вы былі?

— У мяне і ў Юркі жываты забалелі,— збянтэжана сказаў Сярожа.— Хацелі пайсці дахаты, але па дарозе боль знік.

— Адразу ў абодвух?

Па класе пракаціўся стрыманы смех.

— А ці не дзядзька Леанід пашаптаў на вашыя жываты, што хваробу як рукой зняло? — кпліва запытаў Васілёк.

Цяпер засмяяўся і настаўнік. Твар у Сярожы перасмыкнуўся ад крыўды і сораму. Няёмка адчуваў сябе і Юрка.

— А ты адкуль ведаеш? — буркнуў на Васілька Сярожа.

— Праз акно бачыў.

— А як было ўсё на самай справе? — запытаў настаўнік.

— У вёску прыехаў дзядзька Леанід,— пачаў Сярожа,— фільм новы прывёз. Мы хацелі яму дапамагчы: палатно развесіць, афішы напісаць. Сабраліся і сышлі з урокаў.

— І што ж?

— Дзядзька Леанід сказаў, каб мы вярнуліся ў школу.

— Вось як? — хітравата паглядзеў на Сярожу Рыгор Пятровіч.

— Так, так. Толькі жывот у мяне ўсё-такі балеў. Праўда, не вельмі моцна, крышачку...

— Ну і добра, што перастаў. Сядайце! — сказаў настаўнік, павярнуўшыся да хлопчыкаў.— Але ў другі раз — глядзіце, не дарую...

— Больш гэтага не будзе,— як бы просячы прабачэння, сказаў Юрка і сеў за сваю парту. Яму сорамна было глядзець у вочы сябрам.

Падумаць толькі — паслухаў Сярожу! Каму-каму, а Юрку такі ўчынак быў не да твару. Ён добра вучыўся, заўсёды быў дысцыплінаваны. «Дзякуй богу, што так абышлося, хоць і прыйдзецца яшчэ чырванець на савеце атрада».

Юрка дастаў з партфеля падручнік геаграфіі і пачаў слухаць настаўніка.

## СЯРОЖА І ВІКТАР

Вайна са спісваннем, абвешчаная на нядаўнім зборы піянерскага атрада, вялася ў шостым класе па-сур'ёзнаму.

Але неўзабаве ў журнале раптоўна з'явілася аж шэсць двоек — дзве па беларускай мове, чатыры па арыфметыцы. Гэта многіх устрывожыла.

— Што атрымліваецца, растлумач? — запытаў у Васілька Падгорнага Міша Сокалаў.— У класе шэсць двоечнікаў!..

— Можа быць і больш, але потым яны выведуцца... І хутка.

— Як так хутка?

— Выведуцца, кажу, пабачыш... Двойкі гэтыя, зразумей, асаблівыя. Яны з'явіліся таму, што хлопцы спісваць адзін у аднаго перасталі. Самі працуюць...

...Трывога за паспяховасць шасцікласнікаў закралася і ў сэрцы настаўнікаў.

— Нічога не разумею,— паціскаючы плячыма, сказала аднойчы Марыі Мікалаеўне настаўніца Ладуцька.— Клас ваш быў не з апошніх. Амаль усе хлопчыкі і дзяўчынкі паспявалі ў вучобе. А сёння я проста здзіўлена. Праверыла хатнія работы па арыфметыцы — два хлопчыкі зусім не зрабілі заданняў, а два зрабілі няправільна.

Чатыры двойкі прыйшлося паставіць. Вы пацікаўцеся, Марыя Мікалаеўна, што гэта робіцца з вучнямі! Глядзіце, каб яшчэ горш не было.

— Можа быць і горш,— спакойна і зусім сур'ёзна адказала настаўніца.

— Вось як? Значыць, клас коціцца ўніз. І гэта ніколькі не хвалюе вас?

— Чаму вы так думаеце? Хвалюе! Я ж класны кіраўнік, за клас адказваю... Але вы ўжо занадта — коціцца ўніз.

— У чым жа прычына?

— А прычына ў тым, Ніна Аўсееўна,— усміхаючыся аднымі вачыма, прамовіла Марыя Мікалаеўна,— што ў класе аб'яўлена вайна спісванню і падказам... Усе пачынаюць думаць самастойна.

— Вось у чым справа! Але, ведаеце, хутка канец чвэрці — і паказчыкі ў вас будуць дрэнныя...

— Затое сапраўдныя! А ў другіх чвэртках, даю слова, мой клас выйдзе ў перадавікі. І за вынікі экзаменаў[1] не трэба будзе хвалявацца.

— Калі так, вы малайчына, Марыя Мікалаеўна,— весела сказала настаўніца Ладуцька,— нічога не маю супраць.

Назаўтра чацвёрты ўрок у шостым класе быў Ніны Аўсееўны. Прыйшла яна, села за стол. Твар у яе нейкі задумлівы, клапатны. Зрабіўшы пераклічку, адразу звярнулася да вучняў:

— Хатняе заданне ўсе выканалі?

Маўчанне.

— Хто не выканаў або спісаў у іншых — ёсць такія?

Два хлопчыкі нясмела паднялі рукі.

— Я не выканаў,— вінавата прамовіў Аркадзь Сазонаў і пачаў тлумачыць: — Ніяк у мяне задачы не выходзяць. Дзве гадзіны біўся, ламаў над імі галаву. Нават бацьку прасіў, каб памог...

— І што ж?

— Бацька сказаў, каб рашыў сам.

— Добра, сядай. Задачы, Аркадзь, лёгкія. А не рашыў ты іх таму, што папярэдні матэрыял засвоіў слаба.

---

[1] Раней у кожным класе, пасля трэцяга, у канцы года вучні здавалі экзамены.

Даў тлумачэнне, чаму не выканаў хатняга задання, і Валодзька Коршак.

Ніна Аўсееўна ўважліва яго выслухала і выклікала да дошкі.

— Давай тады разам...

Доўга стаяў хлопчык ля дошкі і ўсё ж з дапамогаю настаўніцы рашыў адзін прыклад.

— Зразумела?

— Ага! Цяпер ведаю, чаму памыліўся: няправільна падзяліў дробы.

— Мабыць, спяшаўся, вось і дапусціў памылку. Каб рашыць правільна задачу, трэба быць уважлівым і ўдумлівым. Запомні гэта, Валодзя.

Праходзячы між партаў, настаўніца, як звычайна, праглядала разгорнутыя сшыткі. Яна затрымалася каля парты ў Сярожы Каваля даўжэй, чым ля іншых. Хацела пераканацца, як хлопчык рашыў прыклады з прапарцыянальнымі велічынамі.

У сшытку Сярожы было напісана ў адной з задач, што вуліцу брукавалі дваццаць два муляры і дзевяць дзесятых. «І Сярожа няправільна рашыў»,— падумала настаўніца.

За суседняй партай сядзеў Юрка Хлябок. Настаўніца кінула позірк і на яго сшытак. Здзівілася — у хлопчыка на трэцюю задачу быў такі ж адказ, як і ў Сярожы. «Цяпер зразумела, спісалі адзін у аднаго і не прызналіся...»

Ніна Аўсееўна папправіла туга закручаную на галаве касу, вярнулася да стала.

— Сярожа Каваль,— выклікала яна хлопчыка,— скажы, колькі ў цябе мулярaў павінна брукаваць вуліцу?

— Дваццаць два і дзевяць дзесятых...— бойка выпаліў хлопчык.

Тут жа грымнуў агульны смех класа.

Сярожа ў здзіўленні азірнуўся па баках. І не мог спачатку зразумець, чаму смяюцца вучні.

— Колькі, колькі? — нібы не дачуўшы, перапытала настаўніца.

— Дваццаць два і дзевяць дзесятых,— павольна і ўжо не вельмі ўпэўнена паўтарыў Сярожа.

Зноў засмяяліся вучні.

— А што тут смешнага! — накінуўся Сярожа на Ніну, якая пырхала ў яго за спіной.

— А вось і смешна,— адказала тая, узняўшыся з мес-

ца.— Скажы, як гэта можа быць дваццаць два муляры і дзевяць дзесятых? Каго з іх ты лічыш непаўнацэнным работнікам?

— Каго? — І хлопчык задумаўся.— Ну, таго, хто лянуецца, нормы не выконвае...

Смех у класе яшчэ больш узмацнеў.

— Юрка! — выклікала настаўніца Хлябка.— Які ў цябе адказ на гэту задачу?

— Масцілі вуліцу дваццаць тры муляры,— баявіта адказаў хлопчык.

— А колькі ў цябе было напісана ў сшытку? — дапытвалася настаўніца.

— Дваццаць два і дзевяць дзесятых. Але гэта памылка, Ніна Аўсееўна. Я няправільна саставіў прапорцыю, а зараз усё выправіў.

— Так. Значыць, у Юркі і ў Сярожы аднолькавае рашэнне. Мне думаецца,— спакойна даводзіла Ніна Аўсееўна,— супадзенне гэта не простае. Тут мы маем справу са спісваннем. Прызнайся, Юрка, даваў перапісваць Сярожу?

— Не, Ніна Аўсееўна,— збянтэжана адказаў хлопец.

— Хто важаты звяна, у якім лічыцца Сярожа?

— Я,— хуценька падняўся з месца Віктар.

— Віктар? Ага. Скажы, калі ласка, ты правяраў перад урокамі, як выканалі хатнія заданні твае піянеры?

— Правяраў,— адказаў Віктар, насцярожваючыся. А ў галаве закруціліся думкі: «Выдаваць Сярожу ці не?»

Віктар бачыў, як на яго цікаўнымі позіркамі ўставіліся Васілёк, Ніна, Галінка і ўсе піянеры, чакаючы справядлівага слова.

— Было ў Сярожы выканана заданне? — дапытвалася настаўніца.

— Здаецца, не было...— нерашуча пачаў Віктар, а потым удакладніў: — Так, так, не было. Ён нават прасіў у мяне сшытак. Але я...

— Адмовіў яму?

— Але...

— За гэта ты маладзец, Віктар.— Ніна Аўсееўна тут жа нахмурылася, працягвала: — Сярожу стаўлю двойку. І табе, Юрка Хлябок, таксама. Бач, Віктар не даў свой сшытак Сярожу, а ты хацеў паказаць сябе добранькім. Ой, Сярожа, на спісванні далёка не паедзеш.

— З маной свет абыдзеш, ды назад не вернешся,—

паспяшыў абвясціць сваю думку Васілёк. Дужа ён любіў прыказкі. Гэтую нядаўна запісаў, пачуўшы яе ад Косцекавай бабулі.

Юрка, бачылі сябры, не знаходзіў месца за партаю. Ён густа пачырванеў, у вачах нават заблішчалі слёзы...

— Ніна Аўсееўна! Гэта непаразуменне... Я не даваў спісваць...— дрыготкім голасам замармытаў хлопец.

Тлумачэнне было не вельмі ўпэўненае, і настаўніца не звярнула на яго вялікай увагі.

Магчыма, сітуацыя магла б праясніцца, але тут раптоўна зазвінеў званок.

У час перапынку Юрка не выходзіў з-за сваёй парты. Сядзеў маркотны, унураны ў нейкія думкі і развагі.

— Ага, нарабіў сабе шкоды,— папракнуў Міша Сокалаў, падышоўшы да сябра.

— І ты верыш? — з адчаем усклікнуў Юрка.— Усе як бы згаварыліся, каб зняважыць, пакрыўдзіць... Ды што гэта такое?

— Дык ты Сярожу спісваць не даваў? — спытаў Міша.

— Канечне, не даваў...

— Шчыра кажаш?

— Чэснае піянерскае!..— Юрка падхапіўся з месца і аддаў салют.

«Юрка тут, відаць, ні пры чым. Хутчэй за ўсё Сярожа на перапынку без дазволу ўзяў у Юркі сшытак і непрыкметна спісаў,— варухнулася здагадка ў галаве ў Мішы.— Калі так, гэта зусім брыдка...»

Сярожа быў у класе, стаяў каля дошкі з купкай хлопцаў. Там ішла нейкая вясёлая гутарка.

— Пачакай, Юрка, я ўсё высветлю,— сказаў Міша і пашыбаваў да хлопчыкаў. Схапіў за руку Сярожу, адвёў яго ўбок.

— Ты чаго такі?

— Які такі?

— Тузаеш... І глядзіш, як на ворага...

— Ты мне не вораг. Не выдумляй, калі ласка. Я хачу дакапацца да адной справы.

— Ну і капайся на здароўе,— з абыякавасцю ў голасе кінуў Сярожа.— Пры чым тут я?

— А вось пры тым,— з запалам сказаў Міша.— Як ты не хвалішся, а ў цябе, павер, ні крупінкі сілы волі няма.

— Як няма? — аж падскочыў Сярожа.— Ты хіба не бачыў, як я даказваў, як...

— А хто ўзяў без дазволу Юркаў сшытак і перапісаў з яго задачкі? Ты зганьбіў таварыша. І, бач, не прызнаўся... Вось і ўся твая сіла волі,— папракнуў сябра Міша.

Ён хацеў быў адысці ўбок, абураны і гнеўны. Але Сярожа раптам сказаў:

— Усё не так было, Міша. Не так! Я не таюся: перапісаў задачкі. Але сшытка ў Юркі не браў. Я цераз плячо падгледзеў...

Юрка пачуў гэта таксама. Ён выйшаў з-за парты на праход, і Міша ўбачыў, як у крыўдзе задрыжалі Юркавы губы.

— А мне праз гэта двойку ўляпілі...

Сярожа хацеў памірыцца з таварышам. Бліснуўшы блакітнымі зухаватымі вачыма, ён сказаў:

— Вінаваты, браток. Бяру тваю двойку, Юрка, сабе. Хай іх будзе ў мяне па арыфметыцы аж дзве. Я не баюся.

— Што ж ты будзеш з імі рабіць? — уступіў у размову Васілёк Падгорны.

— На рынак панясе прадаваць...— падкалоў нехта з хлапцоў.

— Не прадаваць буду, а выпраўляць,— з выклікам сказаў Сярожа і тут жа дадаў: — А кпіны раю прыхаваць іншым... У мяне ж — сіла волі!.. Сказаў як звязаў. Вы верыце ў маю сілу волі?

— Я, напрыклад, веру,— прамовіў Віктар Калючка.— І, праўда, ты бываеш цвёрдым...

— Дык вось не будзе ў мяне ніводнай двойкі. Усе чулі? — і адкрытым позіркам абвёў твары сваіх сяброў.

Хлопцы задаволена заўсміхаліся.

— Вядома, чулі,— сказала за ўсіх Ніна Сцепаненка і разважліва дадала: — Добра было б, каб ты такое рашэнне прыняў раней, хлопча. А так, бачыш, падвёў Юрку.

— Прабач, Юрок! — у хлопца іншага выйсця не было, як памірыцца.— Учынак мой кепскі, каюся. Я раскажу настаўніцы... Яна закрэсліць тваю двойку...

...Вось і новы перапынак перад апошнім урокам. Пакой шостага класа апусцеў. Частка дзяцей выбегла на вуліцу, і там, на школьным двары, яны мітусяцца, наладжваюць гульні, а хто-ніхто застаўся ў калідоры, ходзяць туды-сюды, бавяць у размовах час.

Віктар у кутку калідора ўбачыў Сярожу. Хлопцу рупіла пагаварыць з сябрам. Сярожавы двойкі яго непакоілі. Віктар падышоў да Сярожы.

— Што скажаш, таварыш звеннявы? — знарок падкалоў Сярожа сябра.— У грыбы, можа, пад вечар сходзім? Кажуць, за гэтую ноч нараслі...

— Добры настрой у цябе...

— А чаму павінен быць дрэнны?

— Ты ж двойку сёння прыдбаў! Як пакажаш дзённік бацьку? Сорамна ж будзе!

— А я не пакажу яму,— гарэзна адказаў Сярожа.— Скажу: настаўніца ўзяла для праверкі.

— Ты што, зноў маніць, выкручвацца? Не выйдзе, Сярожа! Мне загадана паведаміць тваім бацькам аб двойцы.

— Загадана? Нінай Сцепаненка? Гэта, разумею, грозна. Але ты нічога нікому не скажаш. Не будзеш тапіць. Мы ж — сябры,— і Сярожа, паблажліва ўсміхаючыся, пляснуў па плячы Віктара.

— Сябры то сябры,— працягнуў у адказ Віктар.— Але гэта не павінна нам шкодзіць. Разумееш?

— Не асабліва,— выказваў сваю натуру Сярожа.

— Хопіць нам з табой абібокамі быць. Праўда-праўда, ты яхідна не ўсміхайся. Уразумеў я, што добра, а што дрэнна. А ты яшчэ — не. Дзве двойкі схапіў. Няўжо панясеш дадому?

— Мне не прывыкаць!

— Ведаеш, што табе параю? — прыхільна пазіраючы ў вочы Сярожу, сказаў Віктар.— Застанься сёння пасля ўрокаў. Выправі адзнаку па арыфметыцы.

— Лёгка табе гаварыць: выправі! Я ж урока не ведаю.

— Хіба доўга вывучыць? Пару разочкаў прачытай, рашы задачку — і ўвесь твой клопат.

— Гэтыя прапарцыянальныя велічыні! Яны неяк не даходзяць, не ўкладваюцца ў галаву.

— Кругом у цябе, куды ні зірні, перашкоды. Калі цяжка табе, застануся і я, як кажуць, на помач.

— Ну хіба што!..

— Сярожа, Сярожа, весялей глядзі. Не апускай носа. Пабачыш, двойка твая вылеціць з дзённіка, як птушачка...

— Май на ўвазе: з тваёй дапамогай.

— І з тваёй сілай волі,— у тон сябру адказаў Віктар.— Шыбуй у клас, а я пайду з Нінай Аўсееўнай дамаўляцца...

Ніна Аўсееўна ахвотна згадзілася на прапанову Віктара. Нават узрадавалася. Яна бачыла ў гэтым учынку паварот на лепшае ў Сярожавай вучобе.

З добрую гадзіну Сярожа і Віктар сядзелі над падручнікам па арыфметыцы. Давялося вярнуцца да даўняга матэрыялу, грунтоўна яго капнýць, каб у Сярожавай галаве крыху праяснілася, што да чаго. Пасля хлопцы пачалі рашаць задачы. Спачатку Сярожа туга разумеў, як правільна скласці прапорцыі. І Віктар, прызнацца, у гэтай справе што называецца плаваў. Але сябры не адступаліся. Рашэнні пачыналі нанава, пільна сачылі, каб чаго не наблытаць, і ў рэшце рэшт выходзілі на правільную дарогу. Задачкі развязваліся.

— Глядзі ты, як цяжка,— дзівіўся Сярожа.— І ты не асабліва...

— Ну і я... Што ты думаеш, лёгка даганяць? І я, браце мой, адстаў... А сёння мы з табой, Сярожа, падвучыліся, падкаваліся. Пайду клікну настаўніцу. Ты тут ужо не пасуй...

— Хвалююся,— прызнаўся Сярожа.— Эх, гэтыя двойкі!

...Дахаты хлопцы ішлі разам. Аглядалі сядзібы, сады, маўчалі. Але на душы было лёгка і добра.

Сярожаў бацька ўвечары правяраў дзённік. Доўга яго разглядаў, перачытваў запісы ўрокаў. Потым гукнуў да сябе Сярожу.

— Што такое, сынок, не разбяруся? — сказаў ён заклапочана.— Па арыфметыцы ў цябе дзве адзнакі за сённяшні дзень — двойка і тройка. Якую ж трэба лічыць за правільную?

— Тройку, тата,— радасна выгукнуў хлопчык.— Ведаеш, як я яе здабываў?

— Крывёй і потам? — пажартаваў бацька.

— Амаль што,— сур'ёзна пацвердзіў Сярожа і заўсміхаўся.

## ЗНОЎ У ШКОЛЕ

Шасцікласнікі нядоўга чакалі пісьма ад акадэміка Філатава. Прыкладна дзён праз дзесяць паштальён зайшоў у шосты клас і запытаўся, дзе можна знайсці Васілька Падгорнага.

— Заказное пісьмо яму,— растлумачыў.

— Ад Філатава, мабыць?

— Паклічце Васілька! — крыкнула Галінка.— Міша, збегай у сёмы клас, ён там.

Хутка вучні ўсім класам чыталі пісьмо. Уладзімір Пятровіч Філатаў пісаў:

«Дарагія дзеці! Я атрымаў ваша пісьмо. Моцна спачуваю, што ў вас такое ў школе гора. Але вы асабліва не хвалюйцеся.

Косця Дубовік будзе бачыць. І аперацыі рабіць не трэба. Вылечым простымі кроплямі. Вы, пэўна, ведаеце расліну альяс. З яе робіцца настойка, якая выдатна дапамагае вачам пры ўсіх захворваннях. Сёння я высылаю бутэлечку такой настойкі ў вашу раённую бальніцу, спецыяльна для Косці Дубовіка.

Косця хутка вернецца назад у школу і, я думаю, абавязкова здзейсніць запаветную мару — стане капітанам карабля.

Жадаю вам, дзеці, добрых поспехаў у вучобе. Калі Косця паправіцца, напішыце мне».

Васілёк не паспеў яшчэ закончыць чытанне пісьма, як у класе пачуліся радасныя воклічы:

— Ура!

— Ура Філатаву!

— Ура Косцю!

— Няўжо так проста можна яго вылечыць?! — спытаў Віктар Калючка, у вачах у якога была шчырая радасць.

— Калі піша сам акадэмік Філатаў, значыць, можна,— сказаў, шчасліва ўсміхаючыся, Васілёк.

Хутка пра пісьмо Філатава ведала ўся школа. Васілёк з сябрамі хадзіў у кожны клас, чытаў і перачытваў дарагія словы вялікага вучонага.

Косця Дубовік выпісаўся з бальніцы праз паўмесяца.

Яшчэ была раніца, калі ён з бацькам падышоў да роднай вёскі. Каля Прыпяці над лугам віселі шырачэзныя палотны туману. Пад нагамі пахруствеў малады лядок. Паветра было чыстае, ядранае, напоенае здаровым водарам заінелых траў.

— Тата, забягу ў клас да хлопцаў. Аддзякаваць трэба

ім за клопат і дапамогу,— сказаў Косця, калі падышлі да школы.

— Збегай,— згадзіўся бацька.

Косця нацянькі, без сцежкі пашыбаваў да школьнай будыніны.

— Добры дзень, школа! — прашаптаў ён, пазіраючы на вялізныя светлыя вокны, на чырвоны сцяг, што трапятаў вогненным крылом над парадным уваходам.

Якраз быў перапынак. Хлопчыкі і дзяўчынкі, якія гулялі на двары, заўважылі Косцю і з радаснымі воклічамі пабеглі яму насустрач.

1951—1952 гг.

**Гамолка М.**

Г 18 Выбраныя творы. У 2-х т. Т. II.: Аповесці. [Для ст. школ. узросту/Маст. Ю. Пучынскі].— Мн.: Юнацтва, 1983.— 366 с., іл.

У пер.: 85 к.

Галоўныя героі прыгодніцкай аповесці «Лясная крэпасць» — настаўнік Вадзім Мікалаевіч Мурашка і чатырнаццацігадовы падлетак Ціток Каляда. У час Вялікай Айчыннай вайны яны змагаліся з фашыстамі на Палессі. Аднойчы на Буян-возеры яны трапілі на востраў, сталі рабінзонамі.

Аўтар паказаў выпрабаванне чалавечых характараў, праяўленне мужнасці, гераізму, самаадданасці ў імя перамогі над ворагам.

Праца, вучоба, сяброўства, шчырасць ва ўзаемаадносінах, адказнасць за свае ўчынкі, мужнасць у горы — вось пра што вядзе свой мастацкі расказ пісьменнік у аповесці «Добры дзень, школа!».

Г $\frac{4803010200-038}{M\ 307(05)-83}$ 63—83

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Николай Иванович Гамолка

Избранные произведения в 2-х т.

ТОМ 2

Повести

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дуброўская. Карэктар Л. С. Зіза.

ІБ № 214

Здадзена ў набор 09.04.82. Падп. да друку 07.01.83. АТ 08004. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,32. Ум. фарб.-адб. 19,32. Ул.-выд. арк. 21,22. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2514. Цана 85 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.